# Янка Брыль

ТОМ
ЧАЦВЁРТЫ

## СВЕТ ДАЛЁКІ І БЛІЗКІ

*Дарожныя нататкі*

## ПРА ЗАПАВЕТНАЕ

*Артыкулы, эсэ, партрэты*

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1981

# ПОЛЬСКІ ДЗЁННІК

## 1

Да сёлетняга мая Нарач — «беларускае мора» з яго саснова-ядлоўцавымі берагамі — была для мяне «белай плямай» на карце рэспублікі. Праўда, яшчэ з палавіны трыццатых гадоў, ад выбуху рыбацкага паўстання, уяўлялася нешта па вершах і вусных апавяданнях сяброў. Ды ўсё гэта, вядома, не тое ў параўнанні з усходам сонца, які ты сам вітаў з рыбацкай лодкі, намнога памаладзеўшы душой, у параўнанні з тым, што ты сам перадумаў, адчуў пры сустрэчы з людзьмі тых мясцін.

І яшчэ адно — над Нараччу, у ціхай хаце на ўзлессі, з бэзам і жытам за вокнамі, я рыхтаваў да друку, як складальнік, юбілейны том Міцкевіча па-беларуску. І неяк па-іншаму, неяк жывей і паўней пачаў разумець нашага вялікага земляка. Паэзія яго і раней не была для мяне невядомай. Аднак сёлета мы, кажучы мовай кіно, глядзім Міцкевіча «буйным планам», як глядзелі ўжо Гогаля і Гюго, Чэхава і Шылера, Авіцэну, Уітмена і іншых, кім ганарыцца, каго мільёнамі сэрцаў любіць прагрэсіўнае чалавецтва.

Як і кожны сапраўдны паэт, Міцкевіч неаддзельны ад свайго народа. Мы па-новаму бачым яго на фоне новай Польшчы, і радзіму яго глядзім цяпер «буйным планам» — з асаблівай увагай.

Зусім зразумела, што і мне, як і іншым сябрам, хто з вясны яшчэ пачуў пра тое, што ў Польшчы павінна адбыцца Дэкада беларускай культуры, вельмі хацелася трапіць у лік яе ўдзельнікаў.

І вось збылося,— мы едзем.

Польшчу ведаю горш, чым Міцкевіча, аднак яна не здаецца мне «белаю плямай» на карце Еўропы. Шас-

наццаць год таму назад і я, разам з многімі хлопцамі з «усходніх крэсаў», быў польскім салдатам.

Дагэтуль бачу блакітна-белыя сцены падлюблінскіх хат з адным акном на вуліцу, якое глядзіць з-пад шэрай чупрыны саламянага прычолка, з-за яркай чырвані мальваў у кожным гародчыку. Глядзіць ясна і ласкава: дзе прыгожыя дзеўкі — там светлыя вокны. А маці — заўсёды маці: пашкадуе хлопца, стомленага ў паходзе, ці кубкам малака, ці — ад беднасці — чыстай, сцюдзёнай вадою і цёплым словам. Бачу таксама залатую ад ранняга сонца ў пшанічным калоссі раўніну каля Ловіча, стракаты шлагбаум над брукам палявай дарогі і многа дзіцячых вачэй, што глядзелі на нашы чырвоныя салдацкія таварнякі з шырока рассунутымі дзвярыма. Глядзелі наіўна, махалі ручкамі і смяяліся — найбольш дзяўчаткі, пацешныя ў сваіх доўгіх і паласатых лавіцкіх спадніцах, з цэлай вясёлкай стужак над бусамі станікаў і за плячыма. Чаму ж — наіўна? Проста весела, ясна, не ведаючы яшчэ, не могучы ўявіць, што праз некалькі тыдняў і іх будуць расстрэльваць фашысцкія самалёты... Бачу яшчэ... Ды, зрэшты, шмат чаго бачыў я тады ўдзень і ноччу — і адкрытым, наіўным вокам вясковага хлопца, які, дарэчы, чытаў ужо Талстога і Гашака, і вокам салдата, ужо нядрэнна прызвычаеным да бінокля і ку лямётнай мушкі...

Шаснаццаць год...

Новую Польшчу хочацца ўбачыць, гэтую Польшчу мы зараз убачым!

...Чысты, зялёны, ужо крыху пазалочаны восенню, Брэст. Шафёр таксі ўключае радыёпрыёмнік.

— Варшава.

Першы подых краіны, сталіца якое бліжэй адгэтуль, чым Мінск. Не проста музыка,— нібы знарок:

Wilija, naszych strumieni rodzica...

У паэтычнай задуме міжвольна ўспамінаю сівую галаву і маладыя вочы Рыгора Шырмы. Чалавек, да вобліку якога неяк па-асабліваму падыходзіць гордае званне народнага артыста СССР, выступаў у нас днямі на нарадзе маладых пісьменнікаў, як заўсёды, усхвалявана гаворачы пра народнасць у літаратуры і мастацтве. Сярод прыкладаў — творчасць вялікага Адама,

якому так многа сілы і прыгажосці даў беларускі працоўны народ.

На ўскраіне — домік, дзе я выходжу з таксі, а недаслуханая песня пра Вілію едзе ў машыне далей. Пакойчык, застаўлены кнігамі, рабочы стол пад рукапісамі маладога вучонага, закаханага ў літаратуру. Уладзімір Калеснік. Тут у мой «польскі блакнот» паступаюць новыя запісы — кнігі, якія я павінен там яму дастаць. Новыя працы польскіх літаратуразнаўцаў, новая проза і вершы, ну, зразумела, класіка і, вядома ж, калі ўдасца, Міцкевіч у юбілейным выданні...

Апошняя гадзіна адлічыла нарэшце свае хвіліны, і вось мы сядзім у польскім вагоне.

Апошнія будынкі Брэста. Дапаўняючы наш урачысты настрой, неба пасля начнога дажджу праяснілася і зяляніна, яшчэ не па-восеньску свежая, пасвятлела.

Крэпасць. Тут пачалася вялікая бітва за сённяшні дзень. Гледзячы на засланыя чыстай травой крапасныя валы, успамінаю расказ пра дзяўчынку, якая ў чэрвеньскія дні сорак першага года пад кулямі і асколкамі, у пякельным грукаце бою насіла ў цяжкай салдацкай касцы ваду для раненых байцоў. Паўзла ад ракі і як жа баялася там, дзе некалькі дзён перад гэтым з'яўлялася часта, як светлы матылёк на сонечнай, расквечанай траве. Можа, гэта была якраз тая самая — дачка аднаго з герояў, партрэт якое, ужо студэнткі, мы бачылі сёння ў брэсцкім парку?.. А можа, і яна вось тут, пад гэтым помнікам славы на брацкай магіле?..

Ціхі Буг. Разбагацеў, відаць, на пагранічнай службе, ажно кішыць непалоханай рыбай. Вунь направа, воддаль ад моста, пад зялёным альховым кустом ляжаць дзве вуды, а юнак-лейтэнант капае чарвякоў... Ды мне цяпер ні крышку не зайздросна.

Пераязджаем Буг.

Першая польская вёска, з буслянкай на крайнім гумне.

Зноў Міцкевіч!..

Успамінаю яго, падумаўшы пра жыхара гэтай буслянкі, які харчуецца на абодвух баках гістарычнай ракі. На памяць узыходзяць словы, якія, услед за Пушкіным, з любасцю перакладаў Купала:

...Ды салавейкі пад Коўняй з дубровы
Са сваякамі гары запушчанскай
Свае літоўскія баюць размовы,
Дзеляцца спольна і дружбай і ласкай,
Як бы граніцы не знаючы новай.

Шкада, што ў першым радку прапала ў перакладзе слова *толькі*.

Tylko słowiki Kowieńskiej dąbrowy...

Ад гэтага *толькі* і пачалася мая думка.

Цяпер — не толькі салаўі...

Цягнік спыняецца. Малады капітан, польскі пагранічнік у шэрай форме, з зялёным аколышам шапкі, заходзіць у наша купэ, вітаецца па-руску. Даючы яму мой замежны пашпарт, ледзь устрымліваюся ад жадання спытацца: а як бярэцца рыба з гэтага берага? Па ўсмешцы ягонай бачу, што адказаў бы, ахвотна скінуў бы сваю службовую важнасць.

Тарэспаль, першая польская станцыя. Тут у купэ да нас прыходзяць першыя польскія кветкі. Яны ў руцэ сімпатычнай варшавянкі, якая проста, як нешта даўно чаканае, уваходзіць у наш малы сяброўскі калектыў. Уваходзіць са сваёй шчырай усмешкай, амаль зусім правільнай рускаю мовай і імем, якое любяць і ў нас,— Ірына.

Крыху пазней нас запрасілі ў вагон-рэстаран, на першы польскі хлеб-соль. Пачалася гутарка на самую блізкую тэму — пра нашы літаратуры. З прыемнасцю даведваемся, што маладая гаспадыня наша, Ірына Карасінская,— літаратуразнаўца. Неяк між іншым дакранаюся да любімых імён — Антона Чэхава і Баляслава Пруса. Ірына ўсцешана ўсміхаецца,— яна толькі што закончыла сваю працу на гэтую тэму...

А за акном — як быццам тая самая Беларусь, толькі дакалгасная: палосы, межы, саламяна-драўляныя вёскі. Восеньская радасць маленства — дым сцелецца над шэрым полем, а ў прыску, зразумела, пячэцца бульба. На агульналюдскі фасон падаткнуўшы доўгую спадніцу, цётка глядзіць з-пад рукі на ўсход, адкуль ідзе наш цягнік...

На кожным паўстанку, да самых Седлец, дзе зайшло сонца, дзеці — найпрыгажэйшае ў любым пейзажы — вітаюць нас са сваёй непаўторнай шчырасцю.

Хлопчыкі, многія ў школьных форменных шапках і з ранцамі за плячыма, усміхаюцца, нешта крычаць, не вымаючы рук з кішэняў кароткіх штонікаў. Дзяўчаткі робяць «па» — перабіраюць пальчыкамі ўзнятых рук і таксама, як хлопцы, усміхаюцца і крычаць.

Расчульвае думка, нават нібы бацькоўская. Бо гэта дзеці тых, з кім і я ваяваў за светлае маленства. Успамінаю нашых студэнтаў-біёлагаў, якіх так многа бачыў улетку на Нарачы. Мералі з лодак глыбіню, з навуковаю мэтай басанож ганяліся па паплавах за матылямі, важна сядзелі за сталамі лабараторый. На першы погляд зусім немагчыма было адрозніць сярод іх гасцей — польскіх дзяўчат і хлопцаў, студэнтаў Беларускага універсітэта. Хто ведае, можа, і сярод гэтых, што цяпер вітаюць нас, нямала будучых сяброў маіх дзяцей?..

На захадзе, відаць, якраз над горадам, які чакае нас, заходзіць сонца — хараша, на пагоду.

## 2

З вагона трапляем адразу ў кветкі, воклічы і абдымкі. Праўда, апошнія ахопліваюць толькі тых з нас, хто не ўпершыню тут, хто мае знаёмых, сяброў. Вітаемся, знаёмімся — яшчэ, яшчэ, яшчэ з адным... Дай бог запомніць хаця б кожнага пятага. Зусім маладзенькае дзяўчо падыходзіць урэшце, падае мне яшчэ адзін букецік, ціха, нясмела кажучы:

— Прошэ, товажышу, пшыёнць.

Добра, што тут букеты меншыя, чым у нас: некалькі кветак, грацыёзна перахопленых ружовай або блакітнай стужкай.

У светлым, утульным пакоі гасцініцы на стале — зноў кветкі. Хочацца нешта сказаць ім, нават адчуць іх ласкавы дотык на заплюшчаных вачах. Хочацца адразу авалодаць сабою, супакоіцца, найлепш падрыхтавацца сябе для ўражанняў. Ужо цяпер хачу ісці кудынебудзь, глядзець, здзіўляцца... З гэтай мэтай расхінаю шторы акна. Яно выходзіць, як на злосць, у двор гасцініцы...

Тэлефонны званок, пасля, у трубцы, жаночы польскі голас і рускія словы:

— Вас просят спуститься вниз.

Гасцініца «Брыстоль», дзе мы спыніліся, абслугоўвае замежных гасцей.

Іх тут многа. На сталах рэстарана — сцяжкі розных краін. У ціхім застольным гомане чуваць, калі праходзіш міма, у большасці незнаёмыя замежныя словы. За сталамі — вучоныя лысіны, недаступныя вусікі, нябачаныя прычоскі. Шчуплыя, сціплыя, сімпатычныя кітайцы. Даю дарогу дзвюм асляпляючым грацыям у экзатычнай драпіроўцы са светлага шоўку. Чарнавокія індыйскія прыгажуні, якім, нібы даўнім знаёмым (па фільмах), хочацца сказаць «добры вечар»...

Ды вось і наш беларускі сцяжок — побач з польскім.

Некалькі тостаў з сябрамі з Таварыства польска-савецкай дружбы, трохі вясёлай гутаркі, па-суседску і цераз стол, і гасцям прапануецца адпачынак.

Ды нам не спіцца. Счакаўшы трохі, самі, без гаспадароў, зноў спускаемся ў вестыбюль і выходзім у горад.

Добры вечар, ужо спакойная, стомленая працай дня, але яшчэ ўсё светлая Варшава! Яшчэ на граніцы мы паставілі свае гадзіннікі па твайму часу, і нам не думаецца, што ўжо — не вечар, не адзінаццаць па-нашаму, а адзінаццаць па-твойму — ноч. Ды цябе не здзіўляе, вядома, наш позні прыцішаны гоман і адзінокі тупат ног на тваіх тратуарах — ты ўжо тым часам прывыкла, як прыгажуня, да захопленных позіркаў.

Спыняемся каля помнікаў Каперніку і Міцкевічу, каля касцёла Святога крыжа, дзе спачывае сэрца Шапэна. З вуліцы Кракаўскае прадмесце выходзім да славутай калоны Зыгмунта, якую варшавяне называюць другім, пасля сірэны, гербам сталіцы. І яна адноўлена цяпер, як адноўлены разбураныя фашыстамі помнікі двум геніям — Каперніку і Міцкевічу, імёны якіх многа гавораць не толькі польскаму сэрцу.

Уваходзім у вузкія вулачкі Старога Мяста, равесніка Варшавы, якая сем стагоддзяў таму назад з глухое вёскі каля броду пачала рабіцца горадам на скрыжаванні еўрапейскіх шляхоў.

Камяні дыхаюць гісторыяй.

У тупіку чытаем надпіс на сцяне: тут у дні паўстання варшавян супроць фашысцкіх акупантаў рас-

страляна некалькі сот герояў. Трагічны гераізм! Ужо за Віслай стаяла Савецкая Армія, Прага — прадмесце Варшавы — была ўжо вольная, калі польскі рэакцыйны, так званы «лонданскі», урад, нашчадкі пілсудчыны, справацыравалі гэтае паўстанне. Яго блаславіў сам папа Пій XII, спалоханы пераможным маршам волі з усходу. Варшава дорага аплаціла чужыя грахі: гарачай крывёю лепшых сваіх сыноў і дачок, крывёю дзяцей і жанчын... Знявечаны ў верасні трыццаць дзевятага года горад быў канчаткова ператвораны ў руіны...

Над пад'ездам аднаго з дамоў — арыгінальная лепка, што выклікае міжвольную ўсмешку: галубы, якія тоўпяцца над жменяю зярнят. Яшчэ раз чуем адну з найнавейшых легенд Старога Мяста — пра бабульку, якая тым і жыла, што карміла тут на працягу гадоў шэракрылых любімцаў Варшавы. У першыя дні аднаўлення, калі цяжка было не толькі галубам, бабулька падпільнавала на руінах самога міністра і выказала яму прэтэнзіі сваіх падапечных. Кажуць, што галубіны бюджэт узрос пасля гэтага хутка і рэзка. Цяпер галубоў не відно,— спяць і яны, затуліўшыся недзе на гзымсах і ў тайніках падстрэшшаў, як спяць цяпер за вокнамі гэтых дамоў звонкагалосыя дзеці Старога Мяста.

Нашы крокі асцярожна гучаць па гладкім, узорыстым бруку рыначнай плошчы.

Позіркі снуюць па сценах, нібы па зжаўцелых старонках летапісу.

Старадаўнія ліхтары, па малюнках адноўленыя сённяшнімі ўмельцамі. Краты на вокнах магазінаў — ручное каванне, работа варшаўскіх рамеснікаў — нібы вывязаныя спрытнымі пальцамі рукадзельніцы. «Дом пад неграм», «Дом пад караблём», рэстаран «Пад кракадзілам»... Над пад'ездам кожнага дома — адпаведная лепка, што калісьці не толькі была ўпрыгожаннем, але і замяняла сабой нумарацыю. Трох-, чатырохпавярховыя домікі — па два, па тры акны — стаяць зусім упрытык, замыкаючы прамавугольнік плошчы ў чатыры суцэльныя сцяны. Над сценамі — дзівоснае нагрувашчванне дахаў, бясформенных, як горны хрыбет.

Усё гэта было нядаўна руінамі.

Рукамі хочацца пакратаць параненыя фашысцкімі кулямі рэшткі старой сцяны, сям-там пакінутыя на памяць. Удзень яшчэ прыйдзем сюды, каб лепш разгледзець размалёўку сцен, надпісы на памятных дошках і на старых, таксама аднoўленых, шыльдах, каб прайсціся ўгару па чысценькіх, вітых усходах пад'ездаў, каб выпіць «пад кракадзілам» сярэдневяковы кухаль сучаснага піва...

У цішыні пад высокімі зоркамі ўспамінаецца — на жаль, толькі з кінаэкрана — шостае жніўня гэтага года. Тады гэтая плошча была да апошняга дэцыметра запоўнена моладдзю — удзельнікамі Пятага фестывалю. На сотнях моў тут было сказана: «Хай не паўторыцца больш Хірасіма!» Тысячы рук, узнятых над галовамі пасланцоў усяго свету, не проста пляскалі ў далоні, а, здаецца, хацелі шумна ўзляцець, услед за галубамі, у блакітнае неба Варшавы.

Чуем другую легенду Старога Мяста — новую легенду нашых дзён. Былі варшавяне, якія страцілі веру, што горад іх можа ўзняцца з руінаў. Іх было значна менш, чым тых, хто верыў. Ды вось і душу слабога перавярнуў, узняў сапраўдны цуд аднаўлення. Людзі прыходзілі сюды і на каленях, са слязьмі цалавалі старадаўні брук, абапал якога ўзняліся гмахі ва ўсёй іх, нібы некранутай, яшчэ мілейшай колішняй красе. Аб гэтым цудзе гаворыць надпіс на сцяне: «Рынак Старога Мяста. Урад Народнай Польшчы вярнуў яго народу ў 1951—1953 гадах».

...Спакойнай ночы, Варшава!

Я зноў гляджу з акна і, хоць зрок мой заключаны ў сцены гасцінічнага двара, бачу красу тваю, ахутаную павалокай ціхай вераснёўскай ночы... Чую песні, якіх тут не змог заглушыць грукат падкутых фашысцкіх ботаў,— «непадлеглыя песні падбітага народа», як гаварыў у тыя дні адзін з тваіх рэвалюцыйных песняроў. Чую і новую, вольную песню тваю, што хутка вось, як толькі зардзіцца ўсход, зноў залунае над табою...

## 3

На прапелеры самалёта — вясёлка, як на кругу павуціння. Ад самага далягляду і амаль да шыбы акна — імгла, нібы падкаламучаная злёгку вада: глядзіш праз яе на зямлю, як з лодкі на глыбокае дно. Там вёскі-палоскі, раздроблены аднаасобніцкі пейзаж, пасля — вялікія карпусы і крытыя чырвонай чарапіцай домікі пасёлкаў Новай Гуты — сацыялізм у пейзажы...

Шкада было б расставацца з Кракавам, як след не пабачыўшы яго, але нас супакойвае думка, што вернемся яшчэ сюды, прыедзем усёй пісьменніцкай групай. Цяпер мы вяртаемся — Ірына, Аркадзь Куляшоў і я — у Варшаву з другой, «няпісанай» сталіцы Польшчы, старадаўняга Кракава, дзе мы прымалі ўдзел у адкрыцці Дзён беларускай культуры.

Учора да поўдня былі ў Варшаве. Наведалі наша пасольства, аглядалі горад, прысутнічалі на ўрачыстай перадачы падарунка польскага народа роднаму гораду Міцкевіча, Навагрудку. Падарунак багаты — цэлая экспазіцыя для нашага міцкевічаўскага музея — копіі лепшых партрэтаў паэта, экземпляры рэдкіх або каштоўных выданняў яго кніг, рукапісы, дакументы... Апоўдні мы падзяліліся на тры групы, каб «ахапіць сваёй прысутнасцю» адкрыццё беларускай Дэкады ў Варшаве, Кракаве і Сталінагрудзе [1] адразу.

Сёння нашу групу трохі прытрымала ў Кракаве імгла. У гэтай імгле гучаў для нас, абвяшчаючы шостую гадзіну раніцы, непаўторны ў сваёй прыгажосці традыцыйны гейнал — сігнал гарніста з вежы старадаўняга Марыяцкага касцёла. Пакуль мы з Аркадзем, узняўшы позіркі на касцельную вежу, стаялі на пустым яшчэ рынку, да нас, непакоячы крылламі лянівае імглістае церушэнне, зляталіся з дахаў шэрыя галубы. Пасля, па асвежаным імглой асфальце вуліц перабягалі машыне дарогу ваверкі. «Да рук ідуць,— паведаміў шафёр.— Яшчэ і кусаюцца, пся косць, калі нічога не дасі...»

У самалёце ціха. Курыць забаронена. На крэслах — рамяні, якімі ніхто не карыстаецца. Таксама, як і ўсе, сяджу на рамянях, маўчу, гляджу ў акно і думаю...

---

[1] У 1953—1956 гадах Сталінагрудам называліся Катовіцы.

Учора, прызямліўшыся на кракаўскім аэрадроме, амаль адразу — у тэатр, на вечар. Зала перапоўнена. Здзіўляе трохі, што многія сядзяць у плашчах; так і здаецца, што вось зайшлі, паглядзяць — нецікава, і пойдуць назад... Я памыліўся: нас сустракалі вельмі прыязна. Гэта прыкметна было ва ўсім — ва ўступным слове Палеўкі, у дакладзе Голуя, у вершах, песнях і музыцы канцэртнай часткі, у паводзінах публікі.

Новыя імёны — Адам Палеўка, Тадэвуш Голуй... Адгэтуль пачынаюцца думкі пра нашы літаратурныя сувязі.

Для справы ўзаемнага пазнавання вельмі многа робяць сяброўскія сустрэчы, асабістае знаёмства.

У сорак сёмым годзе, напрыклад, мне пашанцавала ўбачыць сонечны Таджыкістан. Калі мы збіраліся туды, тры маладыя пісьменнікі, кінулі жэрабя, гультаі, каму пісаць выступленне. «Не пашанцавала» мне: папацець давялося здорава,— настолькі дрэнна ведаў я тады таджыкскую літаратуру. А праз месяцы два імёны лепшых таджыкскіх пісьменнікаў не былі для мяне толькі імёнамі — я прачытаў іх кнігі. Таксама было з літаратурай латышскай, чытаць, значыцца ў такой меры ведаць і любіць якую пачаў я пасля таго, калі пабываў на радзіме маіх працавітых і шчырых сяброў. Таксама было з украінцамі... Праўда, тут было трохі інакш. З усіх братніх савецкіх літаратур, за выключэннем рускай, якая і для мяне стала роднай з маленства, літаратура Шаўчэнкі і Кацюбінскага была вядома найбольш. Многа тут робіць блізасць моў. Аднак яшчэ больш зрабіла знаёмства з самой Украінай і дружба з многімі ўкраінцамі.

Здарылася так, што польскую мову я вывучаў у школе. Пра людзей таго часу я яшчэ буду гаварыць, а польскім кнігам, якія далі мне тады непараўнана больш, хочацца падзякаваць у першую чаргу. Значна горш выглядае справа з сучаснай літаратурай. Тут ужо канчаецца маё асабістае і пачынаецца наша агульнае. Можна было і не абурацца тым, што адзін з нашых крытыкаў — на пятым дзесятку жыцця і на трэцім дзесятку гадоў навучання іншых — наіўна ўзрадаваўся, адкрыўшы для сябе Рэйманта. Выпадак, так сказаць, выключны. Нельга, аднак, не саромецца таго, што ўсе мы, беларускія пісьменнікі — і той, хто не ве-

дае польскай мовы, і той, хто ведае яе,— вельмі недастаткова ведаем новую літаратуру братняга народа. Яшчэ менш зроблена намі ў сэнсе азнаямлення нашага чытача са здабыткамі гэтай літаратуры.

Справа тут, вядома, заключаецца не толькі ў вялікіх імёнах.

Учора, слухаючы ўступнае слова Палеўкі, я палічыў яго адразу адным з «бацькоў горада» (дарэчы, і ў запрашальным білеце стаяла толькі: пасол А. Палеўка), які нядрэнна падрыхтаваўся да сустрэчы замежных гасцей. Зусім не падазраваў у ім цікавага публіцыста-сатырыка з пяром і сапраўды, як тут гаворыцца, «центым» — вострым.

Зброя сатыры, якой Палеўка з поспехам карыстаецца цяпер, добра служыла польскім таварышам і ў змрочную пару пілсудчыны. У Кракаве памятаюць бурныя дыскусіі ў залах старой ягелонскай alma mater на пачатку трыццатых гадоў. На адной з дыскусій, дзе з дакладам выступаў Леан Кручкоўскі, малойчыкі санацыйнай масці наладзілі дакладчыку абструкцыю. Палкі, кастэты і тухлыя яйкі былі іх інтэлектуальнай зброяй. Неўзабаве пасля гэтага выступаў у дыскусіі Палеўка. З'явіўся ён на трыбуне... у белым халаце і з вялікім кошыкам яек, які паставіў побач з сабой. Перачакаўшы небывалы выбух смеху, ён пачаў:

— У час выступлення майго калегі Кручкоўскага адбылося малое непаразуменне. Пэўная група слухачоў уявіла сабе, што толькі аўдыторыя валодае прывілеяй закідваць дакладчыка яйкамі, а дакладчык пазбаўлены такога высокакультурнага права. Правячыя кругі запэўняюць, што ў нас дэмакратыя, дзякуючы якой і прамоўца мае па меншай меры тыя самыя правы, што і яго гераічныя слухачы, паколькі, вядома, ён мае яйкі. Я маю такія няўлоўныя фактары ў гэтым вось кошыку. Умею добра цаляць, як дзіця Звежынца [1], і таму прапаную маім праціўнікам пакт неагрэсіі...

Зала, кажуць, грымела і плакала ад рогату. І, вядома ж, ніводзін з фашысцкіх «ударнікаў» не асмеліўся парушыць настрой аўдыторыі.

І сябры і ворагі Палеўкі кожную суботу чакаюць

---

[1] Адзін з рабочых кварталаў Кракава.

новага выступлення з гэтым подпісам. Зноў не пашанцуе камусьці — ці аднаму з тых надзьмутых дурняў, якім здаецца, што «дыктатура пралетарыяту складаецца з шэрагу дыктатараў на розных пасадах», ці аднаму з тых гора-дзеячаў, «якія, на жаль, не толькі ў паперках, а ўсё яшчэ выдатна плаваюць на іх...». Здорава дастаецца ціхім, замаскаваным шпіёнам з «магістралі В—В» (Ватыкан — Вашынгтон), набожным ворагам народнай улады, якіх падкормлівае безліч кракаўскіх касцёлаў. Не менш пападае мяшчанству, якое называецца тут мадэрнізаваным каўтуном.

Столькі я ўчора, перад сном, паспеў убачыць у кнізе Палеўкі «Kocham i nienawidzę».

Даволі цікавы даклад зрабіў Тадэвуш Голуй. Маладжавы, энергічны з выгляду таварыш, у мінулым вязень Асвенціма, ён канчае працу над чатырохтомным гістарычным раманам «Каралеўства без зямлі» — пра станаўленне рэвалюцыйнай свядомасці польскага народа напярэдадні і пасля правалу паўстання 1830—1831 гадоў. У гутарцы на сяброўскай сустрэчы пасля вечара таварыш Голуй гаварыў пра вобразы беларусаў, выведзеныя ў рамане...

Праз аднастайны гул самалёта чую ігру Галіны Чэрны-Стэфаньскай — Шапэн, Скрабін, народнае... Бачу прыгожае, лебядзінае хваляванне белых рук на чорным фоне раяля, бледны, натхнёны твар.

Зноў чую, як у аціхлай зале гучаць беларускія, рускія, польскія песні, вершы Купалы, Танка, Куляшова, Броўкі, вершы мясцовых паэтаў...

Падкрадаецца думка пра тое, што не толькі мы адны «лянівыя і нецікаўныя»: не толькі мы, але і нашы польскія сябры вельмі мала яшчэ зрабілі для справы ўзаемнага ведання — першай умовы дружбы.

Летась у Маскве, з трыбуны Другога з'езда пісьменнікаў, Яраслаў Івашкевіч папракаў савецкіх літаратараў у тым, што ўсе мы мала перакладаем палякаў, менш, чым палякі нас.

Ва ўсесаюзным маштабе робіцца ўсё ж такі многа. А наш беларускі ўдзел у гэтай справе сапраўды пакуль што мізэрны. Што мы выдалі за дзесяць пасляваенных гадоў? Зборнік польскай сучаснай паэзіі, апавяданні Сянкевіча, кніжку польскіх апавяданняў для дзяцей, друкуецца аднатомнік Міцкевіча... Далей мы звычайна

вымаўляем выратавальнае «і іншае»... А іншае пакуль што ў «перспектыўных планах»...

Праўда, можна сказаць і палякам: мала вы, таварышы, не толькі выдаеце нас (восем кніжак за дзесяць год), але і ведаеце вельмі мала. Не толькі літаратуру, але і народ. Успамінаючы пра шчырасць уступнага слова і даклада Палеўкі і Голуя, я думаю якраз пра тое, што і яны, нашы сябры, адчуваюць неабходнасць як мага хутчэй ліквідаваць ганебны грэх мінулага, калі беларуса лічылі толькі «тутэйшым», а мову яго — гаворкай «па-прастэму».

«Веданне беларускага народа,— гаварыў дакладчык,— у нас яшчэ, на сорам, вельмі кволае, а ўзаемнае пазнанне, без якога няма ніякай дружбы, толькі цяпер узыходзіць на шырокія шляхі».

Наш самалёт ідзе на пасадку.

Дома мы прызвычаены да вялікіх адлегласцей. Сустракацца з сябрамі мы лётаем за некалькі тысяч кіламетраў, суткамі жывём у вагоне. А тут ад сталіцы ў сталіцу сіганеш без разгону, як з Мінска ў Пінск — гадзіна лёту. І падумаць як след не паспееш...

...Пры выхадзе з аэрапорта Акэнце нас сустракае, як стары знаёмы, таварыш Аляксандар, шафёр, каржакаваты і ціхі бландзін, відаць, на пятым дзесятку. Учора, на развітанні, мы курылі савецкія папяросы, і цяпер Аляксандар, як толькі селі ў машыну, спяшаецца прапанаваць нам сігарэты «Грунвальд». Таварыш ціхі, але і вясёлы: то напявае, то свішча — ледзь чутна, але са смакам і амаль няспынна.

— Што ў Варшаве? — пытаюся, з усмешкай ловячы сябе на тым, што вось вяртаемся і мы нібы з дарогі дахаты.

Адказвае, што беларускі вечар, кажуць, быў учора «светны» — выдатна, значыцца, прайшоў. Але яму, Аляксандару, як чалавеку на службе, быць там не давялося.

— А так у Варшаве — што ж, таксама светне...

Варшава і сёння залітая сонцам, яна і сёння працуе ад ранняга рання. Запыленыя рабацягі-грузавікі са свежым выпёкам румянай цэглы. Увішныя, маўклівыя легкавушкі; маўклівыя, бо сігналіць у горадзе забаронена. Над рыштаваннямі — магутныя журавы кранаў. Маленькія, гледзячы знізу, людзі, рукамі якіх —

здаецца, зусім прыкметна — узносяцца ўгару светлыя гмахі. Светлыя — слова даволі пацёртае ад празмернага ўжытку, аднак — адпаведнае. І сцены светлыя, і вокны, і кучаравыя галоўкі дзетвары, якая ўжо на тратуарах і на траве, у засені яшчэ зялёных дрэў. Вопратка светлая таксама,— жанчыны ў сукенках і касцюмах летніх колераў, мужчыны ў лёгкіх плашчах з пагончыкамі, без шапак. Да ваенных і міліцыі вельмі нейк пасуе слова новы. Гледзячы на гэтую моладзь, успамінаю даваенную фанабэрыстасць афіцэраў, шэрую радавую братву, сіні мундзір санацыйнага дзяржыморды. Кантраст прыкметны. Уласцівая палякам вайсковая выпраўка — цяпер нейкая новая, дэмакратычная, без асаблівай розніцы ў салдат і афіцэраў. Светла-шэрыя мундзіры грамадзянскай міліцыі і ўвесь выгляд вартаўнікоў парадку, прыемна ветлівых і чоткіх, таксама добра гаворыць пра новае.

Вось і «Брыстоль», наш дом.

На сёння запланаваны дзве сустрэчы — з калектывам рэдакцыі «Новай культуры» і з літаратурнай грамадскасцю сталіцы.

За «лямпкай віна», як называюць тут сяброўскую чарку, у рэдакцыі штотыднёвай газеты польскіх літаратараў знаёмлюся між іншымі і з Тадэвушам Канвіцкім, раман якога «Улада» (першы том) чытаў я два гады таму назад. Тут і Лесла Бартэльскі, таксама малады празаік, пакуль што вядомы мне толькі як аўтар нядаўна надрукаваных нарысаў пра Мінск і Навагрудак, дзе ён улетку быў. Перад нашым прыездам выйшлі два «беларускія» нумары газеты, і ў работнікаў рэдакцыі прыкметна адчуваецца добры настрой гаспадароў, якім не сорамна перад гасцямі.

Прыемна адзначыць, дарэчы, што ўся польская прэса ў гэтыя дні аддае вялікую ўвагу жыццю нашай рэспублікі. Газеты і часопісы шчодра знаёмяць сваіх чытачоў з эканомікай і культурай БССР, друкуючы артыкулы, ілюстраваныя нарысы, урыўкі з раманаў, апавяданні і вершы. У паасобных газетах — цікавыя «беларускія дадаткі». Чарговы нумар часопіса «Пшыязнь» поўнасцю прысвечаны Беларусі.

Наша сустрэча з работнікамі «Новай культуры» мае практычны, дзелавы характар: мы абмяркоўваем

справу далейшага пашырэння і паглыблення творчых сувязей праз старонкі нашых літаратурных газет.

...Вечар беларускай літаратуры адбыўся ў перапоўненым клубе пісьменнікаў, у круглай, утульнай зале.

У прэзідыуме сяджу паблізу ад Леана Кручкоўскага. Пакуль гучыць уступнае слова, а потым вершы нашых паэтаў — у арыгінале і па-польску, нашы з Шамякіным апавяданні, якія чытаюць на польскай мове артысты, час ад часу, крадком і адкрыта з цікаўнасцю гляджу на аўтара «Кордыяна і Хама», успамінаю яго баявыя артыкулы ў даверасн ёўскіх прагрэсіўных газетах. У першым радзе — валявы твар Уладзіслава Бранеўскага. З прыгожым спакоем, пакурваючы сігарэту, стары ўважліва слухае. Для мяне ён — не проста выдатны паэт-рэвалюцыянер, друг савецкай літаратуры, а паэт любімы, бо вершамі яго захапляўся не раз і я. Тут жа сядзяць Івашкевіч, Яструн, жывыя аўтары і мне вядомых твораў, Дабравольскі, Цанткевіч — нашы нядаўнія госці... А ўсё ж мала знаёмых — і асабіста, і па творах.

Польскія пісьменнікі і чытачы найбольш пакуль што ведаюць Максіма Танка. Гэта і зразумела, калі ўлічыць апроч яго паэтычнай сілы палітычную і літаратурную дзейнасць у былой, даверасн ёўскай Польшчы, дружбу з многімі польскімі пісьменнікамі і камуністамі падполля, частыя паездкі ў Польшчу цяпер.

Прыкра, аднак жа, што побач з Танкам палякі амаль зусім не ведаюць такіх паэтаў, як Куляшоў і Панчанка. Нават Купалу і Коласа ведаюць мала, ужо не кажучы пра сярэдняе і маладое пакаленне, сілай і ростам якога ганарыцца наш чытач.

## 4

За рулём «Варшавы» спіной да мяне сядзіць чарнявы, вусаценькі прыгажун Януш. «Таважыш кероўца» маўчыць, час ад часу прыязна адказвае на пытанні, пільна глядзіць наперад. У люстэрку відаць толькі правае чорнае брыво і палавіна загарэлага лба.

Побач з люстэркам падвешаны вясёлы аранжавы коцік, які ўсё круціцца на сваёй стужцы. Забаўна пагойдваючыся, ён то глядзіць наперад, услед светлашэрай «Варшаве», за якой мы ідзём, то глядзіць на

Януша, то на прысады за другім акном, то прыглядаецца да мяне...

Едзем на поўнач. У першай машыне Броўка, Пестрак і Ірына. Са мной — новы польскі таварыш — паэт Літвінюк. Хутчэй залішне сур'ёзны, чым ветліва насцярожаны выраз твару, ціхі голас, шчырыя вочы. Таксама як і Януш, ён — прадстаўнік новага пакалення польскай моладзі, юнацтва якой пачалося ў цяжкія дні фашысцкай акупацыі.

Ежы Літвінюк — гісторык па адукацыі і, у асноўным, сатырык па жанру. Сядзім мы кожны плячыма ў свой куток, вачыма — адзін да аднаго, гаворым многа і ахвотна. Твар яго ўвесь час сур'ёзны, і мне здаецца, што сур'ёзнасць гэтая — адзнака сатырычнага прызвання: людзей смяшы, а сам не смейся. Ежы гаворыць, аднак, на гістарычную тэму, і гаворыць цікава. Расказвае мне гісторыю краю, да якога мы набліжаемся,— горкі летапіс няволі і змагання польскага, мазурскага насельніцтва былой Усходняй Прусіі. На працягу стагоддзяў змагаліся мазуры з нямецкімі захопнікамі за хлеб з роднага поля і за родную мову, пачаўшы гэтую барацьбу яшчэ з крыжакамі, а закончыўшы з гітлераўцамі, якіх яны, дапамагаючы Савецкай Арміі, гналі назад, на захад, як кажа сябар-гісторык, з вялікай ахвотай.

З цікавасцю слухаю расказ пра мазурскага «вешча» [1] — паэта-самародка Кайку, «светлавокага дзядзьку Міхала», як называлі яго мазуры. Вандроўны цесляр, які і вершы часта пісаў на дошках, здзіўляючы гэтым сваіх сяброў, на працягу цэлага паўстагоддзя быў сцягам барацьбы працоўных мазураў за незалежнасць, а сам памёр, не дажыўшы да дня вызвалення.

Абапал асфальту — вішні, ліпы, акацыі, вербы. Раўніна. Стагі на прыбраным полі. Ружаватыя, кволыя парасткі руні. На палявую дарогу, якая, таксама ў прысадах, пайшла направа, паласаты слуп паказвае дашчанай рукой з надпісам: «Сельскагаспадарчы кааператыў «На варце». Параконны фургон з усёй сялянскай сям'ёю: нядзеля, едуць у касцёл. Мураваныя, пад чырвонаю чарапіцай, домікі ў садах. Кідаецца ў вочы назва пасёлка, напісаная на другім дарожным

[1] Прарока.

слупе: проста «Вёска». Пешаходы-сяляне. Побач з мажною мамусяй ідзе дзяўчынка гадоў дзесяці, міла смешная ў сваёй доўгай, як у мамусі, спадніцы.

Янушаў коцік, убачыўшы гэта, паварочваецца да свайго гаспадара. Але той па-ранейшаму сур'ёзны: брыво і палавіна лба нібы намаляваны на шкле люстэрка. Аранжавы непаседа паварочваецца да нас і, здаецца, вось-вось замурлыча і паварушыць даволі-такі саліднымі вусамі...

Але і мы заняты сваімі справамі.

...Шмат сонца, зеляніны і асабліва шмат дзяцей — вось першае ўражанне з Быдгашча. Арыгінальных калясак, відаць, мясцовага вырабу, плеценых з «віклі-ны» — вярбы, тут вельмі многа. На тратуарах яны прабіваюць сабе дарогу з ударнай сілай, большай, чым у танкаў... Маладыя і маладзенькія быдгашчскія мамы — зусім прыкметна — ведаюць сваю вагу ў сям'і і грамадстве. Побач з бацькамі, якія коцяць плеценыя каляскі, мамы ідуць яшчэ больш урачыста, часта не могучы стрымаць на людзях сваю хатнюю ўсмешку. І ніводная з іх, вядома, не палічыць нетактоўным сустрэчнага мужчыну, які міжвольна загляне ў каляску. Заглянеш, а там — адна, а то і дзве пары ўзнятых ручак і сур'ёзная праца над пустышкай — з саліднасцю амаль акадэмічнай...

«Бацькі горада» паказваюць нам адну з новабудоўляў — гмах філармоніі, які будзе «большы, чым у Варшаве». Дзелавіта палазіўшы на ўнутраных рыштаваннях, ідзём адгэтуль у гістарычна-краязнаўчы музей.

Дзве элегантна высокія і худзенькія дзяўчыны, брунетка і бландзінка, ветліва водзяць нас па залах музея. Выдатныя палотны і яшчэ цікавейшыя літаграфіі пейзажыста Леана Вычулкоўскага, вучня Матэйкі. Гледзячы на аснежаныя белавежскія дубы, магутныя карпацкія яліны, пранізаны сонцам гушчар прыморскага лесу, са шчырым захапленнем называю іх аўтара польскім Шышкіным. Бландзіначка, якая бліжэй да мяне, усміхаецца: «Магчыма». І мне здаецца на момант, што я абразіў яе рэгіянальны патрыятызм: Вычулкоўскі — зямляк быдгашчан, і гэты музей носіць яго імя. Зрэшты, бландзіначка вельмі ахвотна паказвае нам не толькі работу Вычулкоўскага,— мы

аглядаем палотны і малюнкі менш вядомых землякоў. Пераходзім да выстаўкі мясцовых графікаў, прысвечанай Міцкевічу...

— Што, ужо?!.

— Так, на жаль, нас просяць ужо выходзіць.

Яна збянтэжыцца, як гаспадыня, якой перашкодзілі паказаць усё багацце, праявіць усю гасціннасць. А мы ўпершыню сутыкаемся з неабходнаю спешкай, якая нам надакучыць яшчэ неаднойчы. Ды што ты зробіш — план: недзе ўжо нас чакаюць.

Чакалі нас у клубе энергетыкаў.

Першы, ад імя гаспадароў, выступае старшыня мясцовага літаб'яднання. Тады на трыбуну выходзіць наш прадстаўнік.

Узброіўшыся акулярамі і блакнотам, Пілiп Пестрак першыя словы прывітання гаворыць на польскай мове. Тады пераходзіць на родную мову. Словы — не проста запісаныя на старонках блакнота,— яны, здаецца, вынашаныя за трыццаць год дружбы з польскім народам, дружбы рэвалюцыянера, змагара за сённяшні дзень уз'яднанай Савецкай Беларусі і Народнай Польшчы, творчай дружбы пісьменніка, аўтара многіх старонак, упрыгожаных вобразамі палякаў.

Вучнёўская моладзь, рабочыя, інтэлігенты — людзі, што ў даным выпадку называюцца аўдыторыяй,— слухаюць зацікаўлена, разумеюць па-беларуску ўсё. Пасля — пытанні: Чаму не прыехаў да нас тэатр імя Купалы? Ці перакладаюць у вас Міцкевіча? Як нам адкрыць у Быдгашчы сваю літаратурную газету? Як адбудоўваецца Мінск? Ці ёсць у вас школы, якія рыхтуюць работнікаў культурна-асветных устаноў?..

Канцэрт.

Пісалі многія, і я пісаў пра тыя пачуцці, з якімі наш беларускі глядач вітаў у Мінску ансамблі «Мазоўшэ» і «Слёнск». Аднак пісалі мы калі і не мала, дык слаба. Справа не ў гэтых таленавітых ансамблях, не ў прафесійнай ацэнцы іхняга майстэрства. Галоўнае — у тым спалучэнні новага, што выйшла на шырокі, сонечны прастор, з тым вечным, народным, што ніколі не згіне,— у цудоўным спалучэнні песеннага, музычнага багацця польскага народа з маладосцю, небывала іскрыстай, і сілай, разняволенай сацыялізмам.

І вось нам гэтую сілу зноў паказвае польская мо-

ладзь, праяўляючы буйную радасць у песнях і танцах свайго і нашага народа.

Выступаюць, чаргуючыся, самадзейныя калектывы вагонарамонтнікаў, студэнтаў ветэрынарнага і культурна-асветнага ліцэяў. Чаргуюцца беларускія, польскія, рускія нумары — «Купалінка» і «Прагном очкі», «Уральская рабінушка» і «Серадзкае вяселле», беларускі «Чарот» і мясцовы, куяўскі [1], танец «А ну, ірванём ад печы»...

Як чарацінка ад ветрыку, міла калышацца ў нашым танцы чарнабровая стройная Стася, з радаснай усмешкай, якую не заменіш ніякім майстэрствам. Яна ж, заплюшчыўшы вочы ад шчасця і карусельнага страху, узлятае пасля над галавой свайго кавалера, узнятая яго рукамі ў мяцелістым, нястрымным «Куявяку».

Светлавалосая, у белай блузцы вясковая дзяўчына з лясных тухольскіх аколіцаў (памятаю: залітых крывёй абаронцаў у верасні трыццаць дзевятага) хараша, беручы больш непасрэднасцю, чым умельствам, выконвае сардэчную «Калыханку» Блантара і Ісакоўскага.

Высокі, танклявы слесар, адкінуўшы рукой непаслухмяны чорны чуб, па-юнацку задорна і звонка чытае міцкевічаўскае «Да рускіх сяброў».

Студэнтачка, амаль падлетак, з захапленнем у вялікіх вачах, па-дзіцячы натхнёна чытае на польскай мове купалаўскае — з душы народнай — «Я не паэта»...

Калі ўжо так і трэба, што жыццё — гэта бясконцыя сустрэчы і развітанні, дык няхай жа будзе як найбольш такіх сустрэч, якія перамагаюць сум развітання, застаюцца ў памяці назаўсёды!

Такім было развітанне пасля першай сустрэчы з польскай моладдзю — дзецьмі сялян і рабочых — на сцэне.

### 5

Едзем на поўдзень Быдгашчскага ваяводства.

Побач з Янушам сядзіць таварыш без шапкі, у светлым плашчы з пагончыкамі, вясёлы і гаваркі. Ня-

---

[1] Куявія — гістарычная вобласць Польшчы, цяпер ахоплівае поўдзень Быдгашчскага і сумежную частку Познаньскага ваяводстваў.

даўна дэмабілізаваны афіцэр дывізіі імя Касцюшкі, адзін з будаўнікоў новай гісторыі гэтых мясцін. Жыва і з радасцю маладога гаспадара расказвае пра барацьбу за новы, сацыялістычны хлеб на гэтых землях, багатых пшаніцай і цукровымі буракамі. Многа было маёнткаў, цяпер многа ПГР — дзяржаўных земляробчых гаспадарак.

Як заўсёды зранку, мне здаецца, што многае, а то і ўсё гэта мы пабачым. Да вечара яшчэ далёка.

Тым часам едзем у Біскупін, каб пачаць гісторыю польскага народа ад самага пачатку.

Аглядаем славутае Біскупінскае гарадзішча, дзе тры тысячагоддзі таму назад жылі лужыцкія плямёны, продкі славян.

Тарфянікі. Азёры. Чарот яшчэ зялёны, але вада ўжо дыхае холадам восені. Спыняемся каля нейкіх драўляных, крытых чаротам баракаў, не заўважаючы адразу, што «баракі» гэтыя з боку возера абнесены драўлянай крапасной сцяною. Сцяна — калісьці магутная, з байніцамі і хвалярэзамі з нахіленых паляў. Аб вострыя, калісьці грозныя, канцы іх мірна плёхаюць, узнятыя ветрыкам, хвалі. Усюды драўляны насціл — зверху сасна, пад нізам дуб. Здаравенная брама з бярвенняў.

У «бараках» — былыя кватэры нашых продкаў. Кожны такі доўгі, аднапавярховы дом трымаецца без вуглоў, на шулах. Усярэдзіне — падзелены на секцыі, аднолькавыя па велічыні. Адзін на ўсё жыллё вялізны ачаг, дзе калісьці над вечным агнём вісеў агульны кацёл. Кацёл таксама вялізны. Гаршкі і начоўкі, на якія, з-за іх саліднага ўзросту, глядзіш з міжвольнай пашанай. Спалі лужычане «ўпакатушку» на нарах, зробленых, як і ўсё тут, грунтоўна,— з такіх нараў смела і хутка можна рабіць масткі на канавах. Акон няма, усе дамы стаяць дзвярыма на поўдзень.

Лужычане жылі абшчынамі, займаліся земляробствам і жывёлагадоўляй, знаёмыя былі з апрацоўкай металаў і міжнародным гандлем. Па гэтых землях, «янтарным шляхам», дабіраліся да Балтыкі прычарнаморскія скіфы.

Цяпер на гарадзішчы гаспадарыць таварыш Груз, стары настаўнік-пенсіянер. Сухі, высокі, рухавы муж-

чына ў дыяганалевым касцюме і з гадзіннікавым ланцужком на камізэльцы.

Мы ў музеі пад чарацянай страхой. Земляная падлога загрэбена частымі граблямі. Усё тут на дзіва проста і чыста.

— Знойдзена каля двухсот гатункаў насення,— амаль захоплена тлумачыць нам каля стэндаў дырэктар Груз, ён жа экскурсавод.— Ячмень, проса, рэпа, мак, лён... Знойдзена шмат касцей: ясна, што нашы продкі елі многа мяса...

Паважаны таварыш яўна задаволены тым, што ўсе мы разумеем адзін аднаго без перакладчыка. Гэтая агульнаславянская радасць яго прарываецца каля стэнда з лужыцкім кухонным начыннем.

— А гэта вось,— ён паказаў,— у нас, на Любліншчыне, адкуль я родам, называецца «моктуўка». Ужываецца яна...

— Ну, ясна — калатоўка,— адказаў адзін з нас.

— Так, так, так — ка-ла-тоў-ка,— усцешана засмяяўся стары.

...Дваццаць гадоў таму назад адзін з такіх вось энтузіястаў, таксама вясковы настаўнік, добры знаёмы таварыша Груза, заўважыў, што з возера — чым далей, тым больш — паказваюцца наверх нейкія чорныя старчакі. Адчуўшы ў гэтым гісторыю, настаўнік напісаў у Познаньскі універсітэт, адкуль неўзабаве прыехаў прафесар Кастшэўскі. Так пачаліся раскопкі.

Думаю пра гэта ўжо ў машыне, якая зноў імчыцца па асфальце, густа абстаўленым старымі вязамі, чарэшнямі, за якімі відаць абапал дарогі вялікія плантацыі цукровых буракоў, пяшчотна зялёныя прасторы руні.

У час фашысцкай акупацыі прафесара Кастшэўскага народ хаваў у глыбокім падполлі. За галаву вучонага ворагамі была прызначана вялікая плата. Гэта ўваходзіла, як адна, старанна прадугледжаная дэталь, у генеральны план знішчэння польскага народа з усімі доказамі яго векавой славянскай гісторыі.

Успамінаю імя другога польскага вучонага, прафесара Ядкоўскага, пад кіраўніцтвам якога ў пачатку трыццатых гадоў пачаліся раскопкі Замкавай гары ў Гродні. Знайшоўшы доказы старажытнарускай гісторыі гэтага краю (рэшткі царквы і церама кіеўскай ар-

хітэктуры), Ядкоўскі не палічыў патрэбным гэта ўтойваць. Аб'ектыўнасць вучонага прыйшлася не да густу вышэйшым інстанцыям, якім патрэбны былі доказы зусім іншага характару. Спыніліся раскопкі, спынілася, кажуць, і кар'ера Ядкоўскага...

Пра гэта мы гаворым цяпер, у машыне, палякі і беларусы, з пашанай успамінаючы імёны двух вучоных.

А коцік над рулём машыны калышацца і круціцца ва ўсе бакі побач з люстэркам, у якім відаць усё тое ж брыво і частка загарэлага лба.

— Януш.

— Што, прашу вас?

— Любіце дзяцей?

— Чаму?

— А коцік навошта?

— А! — смяецца ён, а ўсё ж не кажа больш нічога.

Дзяцей любілі яшчэ і нашы прапродкі. Таварыш Груз, хоць сам ужо безнадзейны халасцяк, а ўсё ж ахвотна паказаў нам гліняную бразготку, якой — гадоў так тысячы са тры таму назад — забаўляўся лужыцкі смактунок...

...Таруньскую старонку сярэдневяковай гісторыі Прымор'я чыталі мы пад кіраўніцтвам вядомага архітэктара Нарэмбскага. «Ваш зямляк»,— адразу паведаміў нам прафесар, весела і... па-беларуску. Выхаванец Пецярбургскай акадэміі мастацтва, родам з-пад Маладзечна. Цікава расказваў ён гісторыю кожнай сцяны і кожнай клямкі. Паўзы — ад дома да дома — запаўняліся старым беларускім фальклорным гумарам, нібы прафесар — жывы сучаснік Дуніна-Марцінкевіча.

Наша вясёлае шэсце набліжаецца да аднаго з помнікаў сярэднявечча. Славутая таруньская «Крывая вежа» на беразе Віслы. Шэра-чырвонае цаглянае збудаванне пагрозліва хіліцца над намі... За стагоддзі яна аж лішне прывыкла палохаць прыезджых, чула — на розных мовах — і тлумачэнні экскурсаводаў. Пакуль ідзём ад яе да наступнага унікума, прафесар — з нястомнасцю выдатнага канферансье — расказвае наступную частушку:

> Я да волікаў — пастух,
> Я да конікаў — канюх,

Я да зайчыкаў — стралец,
Я да дзевак — маладзец.

Падыходзім да базылікі святога Яна. Тут у 1473 годзе божыя слугі на бяду сваю ахрысцілі чалавека, які «стрымаў сонца, скрануў зямлю»,— Мікалая Каперніка. Кнігі «вялікага таруньчыка», з часоў якога, кажучы словамі Энгельса, «даследаванне прыроды па сутнасці вызвалілася ад рэлігіі», на працягу трох стагоддзяў былі забаронены дэкрэтам інквізіцыі як ерэтычныя. Экскурсавод наш чамусьці не закранае такіх пытанняў. Калі мы выходзім з касцельнай змрочнаўрачыстай цішыні зноў на сонечны брук, пасыпаны кляновым лістам, чуем новы фальклорны нумар:

— А памятаеце песню пра камара? Канцовачка якая, га?!

Едзе стражнік і палкоўнік:
«А што ж гэта за пакойнік?
Ці не тое гэта цяла,
Што учора з дрэва ўпала?..»

Над дзвярыма цырульні — медны паднос, які паблісквaў тут яшчэ пры крыжаках. «Карчма пад якарам», якая бачыла тут, на людным рачным шляху, не адно пакаленне «брацішкаў», што ўмелі нядрэнна буяніць і тады, калі хадзілі на вёслах і ветразях. Вялізны ключ вісіць над дзвярыма «майстра слясарных работ». Абаронны мур і брама — «адзіная ў сваім родзе»...

Вялікая ляскотка на дзвярах. Адзін з нас не ўстрымаўся — паляскаў. Не ўлічыў, што за гэтым экспанатам на музейных дзвярах можа быць звычайнае жыллё. Дзверы адчыніліся, і, пакуль мы паспелі папрасіць прабачэння, сівы жыхар кватэры прызвычаена паведаміў:

— Адзіная ў Торуні.

Нават не паказаў на ляскотку,— пакланіўся, і дзверы зноў зачыніліся.

Наступная частушка ці анекдот.

Наступны помнік старадаўнасці...

Вечар, які называўся даволі гучна — вечарам нашай сустрэчы з грамадскасцю Торуня, быў, у параўнанні з учарашнім, вельмі бедны. У адной з залаў старажытнай ратушы людзей сабралася мала. Сустрэча была службова-зямляцкай. Прадстаўнікі Тавары-

ства польска-савецкай дружбы, некалькі студэнтаў-беларусаў з Беласточчыны і нашы былыя землякі — польскія інтэлігенты з Вільнюса, якія прыехалі сюды ў сорак пятым годзе... Гледзячы ў залу з вышыні трыбуны, я не бачыў, здавалася, ніводнага з тых, што ўдзень натоўпамі выходзілі з касцёлаў, з выглядам, недаступным для ўсякай бязбожнай прапаганды. Не відаць было, аднак, у зале ні рабочых, ні студэнтаў, ні школьнай моладзі — людзей, якія прадстаўляюць сапраўдны воблік сучаснага Торуня.

...Раннім ранкам наступнага дня мы доўга гулялі па зялёным ціхім горадзе. Яшчэ раз пастаялі перад помнікам Каперніку. Па доўгай ускраіннай вуліцы дайшлі да старых, яшчэ кайзераўскіх, казармаў, дзе калісьці Пестрак цягнуў салдацкую лямку ў польскім артылерыйскім палку.

## 6

Дарога Торунь — Гданьск.

Зноў старыя прысады, абапал якіх — старыя польскія землі з новым жыццём на іх.

Януш і Літвінюк вярнуліся ў Варшаву.

Сядзім усе ў адной машыне. Цеснавата, затое — весела. Дарожны рэпертуар складаецца з польскіх, беларускіх, рускіх, украінскіх песень. Ірына і Аляксандар не адстаюць ад нас у песнях рускіх, якія шырока ўваходзяць тут у жыццё. Мы не адстаём у песнях польскіх. Беларускія песні гучаць тут і для нас неяк па-асабліваму хораша. І гаспадары нашы спяваюць з намі ахвотна, хоць пакуль што амаль без слоў.

У дарозе будзе адзін звышпланавы прыпынак, па нашай просьбе — у старадаўнім Мальбаргу. Другі помнік мінулага — поле Грунвальдскай бітвы — застаўся, на жаль, даволі далёка справа.

Каля брамы мальбаргскага замка нас сустракаюць таварышы з Гданьска. Разам з імі ўваходзім у змрочную, ужо не грозную мінуўшчыну.

Замак Мальбарг — раней Марыенбург, а спачатку, на схіле трынаццатага стагоддзя, Санктамарынбурх — пабудаваны на польскай зямлі, захопленай крыжакамі. У 1309 годзе ён стаў сталіцай іх ордэна. Гэта

спрадвечны рассаднік захопніцкай заразы, любоўна адноўлены кайзерам Вільгельмам, увайшоў у сучаснасць як музей, у рыцарскіх залах якога часта гучыць вясёлая песня польскай моладзі з павятовага горада Мальбарга і навакольных вёсак.

Як звычайна, найбольшае ўражанне робяць першыя дэталі — чорныя прускія арлы над уваходам-тунелем і акутая жалезам, з драўляных крат, нібы вялізная барана, брама. Праз краты яе калісьці крыжацкая варта правярала права на ўваход. «Барана» гэтая ўзнята настолькі, што мы праходзім пад ёю і паварочваем да акенца музейнай касы.

Міжвольна ўспамінаю «Крыжакоў» Сянкевіча: знясла́ўлены, пакутніцкі ўваход пад такую браму грознага перад гэтым рыцара Юранда. Прыходзіць таксама думка пра нашага далёкага наднёманскага продка... Можа, гэта ад іскры ягонага крэсіва загараліся крыжацкія стагі ў суровыя «валенродаўскія ночы»? Можа, гэта з яго турынага рога гук свяшчэннай адпомсты прабіваўся праз жалезныя латы і белы, азначаны крыжам плашч, смяротным холадам жаху ўваходзіў у душу ватыканскага пасланца, фашыста чатырнаццатага стагоддзя?.. А можа, і ён, наш продак, праходзіў пад гэтай «бараной» з арканам на шыі, пакрыты рванай аўчынай, прыкарэлай да ран?.. Ішоў, каб да скону кружыцца ў драўляным прыводзе млына, прыкуты да тоўстага дышла, або каб разам з літоўскім і польскім братам нядолі ўздымаць з польскай цэглы калісьці непрыступныя сцены і вежы панурай крыжацкай готыкі...

Далёка ўсё гэта. Генеалогія нашага брата, што жыць пачаў пасля Кастрычніка ці Верасня, даходзіць толькі да дзеда, найбольш — да прадзеда, далей губляючыся ў неперамо жным моры, імя якому — гордае імя! — народ. Хопіць з нас і таго, што ў студзені 1945 праз гэтую браму ўваходзілі «марыенбургскія» гвардзейцы Ракасоўскага, нашы таварышы і аднагодкі. Яны завяршылі канчатковай перамогай векавое змаганне славян з крыжацка-пруска-фашысцкай навалай.

Ходзячы па брукаваных дзядзінцах, па доўгіх калідорах і пад гатыцкімі скляпеннямі вялікіх залаў, я не думаў, што буду ўспамінаць іх праз некалькі дзён у другім музеі — Асвенцімскім лагеры смерці...

Дубовая шыбеніца ў тупіку двара, у цагляных, высокіх сценах якога — нішы, а ў нішах — скульптуры вялікіх магістраў: Зальца, Кніпродэ і іншых продкаў фюрэра і ягоных памочнікаў. Камеры для вязняў высакародных і камеры для чэрні,— недасканалыя, недаразвітыя папярэднікі высокакультурных, татальных газавых камераў. Той самы крыжацкі млын, які сваім скрыпам і грукатам не заглушаў надрыўнае дыханне «няверных» і свіст бізуна ў руках набожных «братоў»... Якім жа смешна-адсталым і міла-шаноўным, заслужаным здаваўся гэты млын для тых, што працяг-валі векавое «Гот міт унс» [1]. Яны навучыліся не толькі непараўнана больш прадукцыйна смактаць кроў и «неарыйцаў», але і пасыпаць іх попелам палі, падмацоўваць крывёй маленькіх дзяцей растрачаныя ў баях сілы братоў-эсэсаўцаў, рабіць тканіны з сівых валасоў салдацкіх і партызанскіх матак Еўропы!..

Думка пра гэта выразна праглядвае ў кваліфікаванай скорагаворцы пажылога экскурсавода.

У руінах касцёла Святое Марыі на сцяне ўцалела старадаўняя фрэска, здаецца, таксама адноўленая кайзераўскімі мастакамі. Да трона святое дзевы на каленях падпаўзаюць псы-рыцары, забітыя ў Грунвальдскай бітве. Наперадзе — вялікі магістр Ульрых фон Юнгінген, зняты з сядла дзідамі наднёманскіх воінаў і патаптаны іх малымі, увішнымі коньмі. Мяркуючы па ласкаваму вобліку Марыі, Ульрых і іншыя браты будуць дапушчаны да вечнай раскошы ў раі.

Успамінаецца, што гэта самая Марыя, апякунка крыжацкага ордэна, была па сумяшчальніцтву «каралевай кароны польскай» і «вялікай літоўскай княгіняй». Ей спявалі славутую «Багародзіцу» польскія рыцары перад Грунвальдскай сечай.

Каму ж яна першаму назначыла прыёмны дзень, даючы накіраванне ў той самы рай?..

Справа мінулая. Значна бліжэй да нашага часу стаіць 2 мая 1945 года, векапомны дзень, у які над логавам нямецкага фашызму быў узняты чырвоны сцяг перамогі. Іменна ў гэты дзень — у іншым логаве — іспанскія браты зрынутага фюрэра ўзнялі голас пра тое, што верны сын каталіцкай царквы Адольф

---

[1] «З намі бог!» — спрадвечны лозунг нямецкіх захопнікаў.

Гітлер павінен быць абкружаны арэолам святога пакутніцтва, як новы выратавальнік хрысціянства. Змаўчаў толькі чамусьці яшчэ адзін брат гэтага падзвіжніка — Пій XII, які-небудзь дваццаты або трыццаты натхніцель «крыжовых паходаў» на Усход, якія, пераўвасобіўшыся са слоў у справу, часцей за ўсё праходзілі пад лозунгам «Дранг нах остэн» [1]. А шкада, што божы наместнік не падтрымаў чамусьці франкістаў,— Адольф нядрэнна выглядаў бы на каленях на прыёме ў Марыі!..

Пра гэта хочацца сказаць старому экскурсаводу.

Чалавек ён, здаецца, вясёлы. Паказваючы нам «каналізацыю чатырнаццатага стагоддзя» — высотную прыбіральню вялікага магістра, стары пашкадаваў, што са сцяны каля гэтай тэхнікі сарвана нядаўна фашысцкая мемарыяльная дошка. Надпіс на ёй быў даволі ўзварушлівы. Прылучаючыся да сілы і славы сваіх арыйскіх продкаў, гэтай прыбіральняй, услед за Вільгельмам, у адзін з цудоўных дзён марыенбургскай гісторыі «августейше» пакарыстаўся і Гітлер.

— Даволі сімвалічна,— сказаў у заключэнне экскурсавод.— На гэтым і закончана была Адольфава кар'ера.

Парушаючы «дыпламатычнае неўмяшанне», пачынаю здалёк:

— А што, гэта тая самая, адна для ўсіх, Марыя?

Прыкметна збянтэжана, але стрымана, ветлівы стары адказвае:

— Тая самая...

Ды мы ўжо выходзім, трапляем зусім нечакана з затхлага мораку мінулага ў сонца сённяшняга дня. Нас сустракаюць мальбаргскія школьнікі — з чырвонымі гальштукамі, з усясветнай дзіцячай шчырасцю ў вачах, з букетамі кветак.

— Дзень добры, дзеці! — гаворым, паціскаючы маленькія цёплыя рукі, што даюць нам свежыя астры...

Такія самыя, здаецца мне, якімі ў нас, на Навагрудчыне, віталі братоў з усходу ў незабыўным верасні трыццаць дзевятага.

---

[1] «Націск на Усход» — другі лозунг нямецкіх захопнікаў.

## 7

Пра той верасень я не магу тут не думаць. Не за гарамі мора, дзе Гданьск, Вестарплята, Гдыня...

Туды, на поўнач, імчацца машыны — наша і дзве мясцовыя.

Сяджу ў адной з іх, з новымі людзьмі. Пажылы шафёр, які з тактоўнай гаварлівасцю прымае ўдзел у нашай размове, і здаравенны, астрыжаны пад машынку мужчына ў светлым плашчы — даваенны грузчык гдыньскага порта, цяпер адзін з прадстаўнікоў народнай улады ў Гданьскім ваяводстве. У гаворцы таварыша Бігаса вельмі выразна чуваць кашубскі акцэнт.

Жыва прыпамінаю маіх сяброў-аднапалчан. Вясёлыя хлопцы кашубы — рыбакі, рамеснікі, сяляне, мова якіх, асабліва казарменны шэпт, калісьці нагадвала мне дзіцячы лепет. Разам з намі, маладымі сялянамі з Заходняй Беларусі, разам з сілезскімі шахцёрамі, лодзінскімі ткачамі і мазавецкімі земляробамі, кашубы былі асабовым складам гдыньскага батальёна марской пяхоты...

Мінуўшы горад Тчэў, выязджаем на шырокую, вымашчаную брусчаткай шашу. Гэта яна прынесла нам столькі трывогі ў сакавіку трыццаць дзевятага года. Гэта тая, праклятай памяці, экстэрытарыяльная аўтастрада Кёнігсберг — Берлін, якой дамагаўся фашызм, пасля захопу Чэхаславакіі і Клайпеды з ходу беручыся за Польшчу. Ультыматум Гітлера ўдарыў па нашых рэкруцкіх душах раней, чым мы атрымалі карабіны...

Таварыш Бігас, кашубскі пасол у Сейме Польскай Народнай Рэспублікі, расказвае мне пра сваю маленькую народнасць — нейкіх дзвесце тысяч чалавек, якім нарэшце стала добра жыць і расці побач з братнім польскім народам, пра маленькую, бедную мову кашубаў, якая праз дружбу з багатай польскаю мовай ідзе ў шырокі, вольны свет чалавечай культуры. Кашубы дамагліся гэтага ў супольнай з палякамі шматвекавой барацьбе супроць прускага нацыянальна-сацыяльнага прыгнёту. Асабліва цяжкай была гэтая барацьба на яе апошнім, антыфашысцкім этапе. З прыемна грубаватай шчырасцю простага чалавека мой субяседнік расказвае пра гады змагання ў даваенным камуністыч-

ным падполлі, пра пераможны марш савецка-польскіх армій, пра цяжкасці і радасць сённяшняй стваральнай працы...

Мы едзем якраз па Жулаўскай даліне, ураджайныя землі якой ляжаць ніжэй узроўню вады ў пратоках і рукавах вісленскай дэльты. Усе дамбы і насосныя станцыі пры адступленні гітлераўцы паўзрывалі, і Жулавы, як здавалася ворагу, затоплены былі назаўсёды. Але і на гэтым участку адбудовы гаспадары сваёй зямлі, палякі і кашубы, паказалі, на што здольны разняволены народ. Уся асушальная сістэма адноўлена за шэсць пасляваенных гадоў; на землях дзяржаўных гаспадарак і сельгаскааператываў, як гаворыць таварыш Бігас: «Вельмі хораша шуміць улетку пшаніца і вельмі смачна пахнуць каноплі».

А мне вельмі прыемна слухаць расказ чалавека працы, у польскай мове якога так многа чуваць кашубскага, чамусьці мілага для мяне, як непаўторнае хараство дзіцячай гаворкі.

Пачынаецца Гданьск.

І гэты горад нібыта знаёмы мне,— на агні яго я пазіраў з рэкруцкага вагона, а праз паўгода службы і вайны бачыў абрысы яго з высокага гдыньскага берага. Іранічная назва «вольнэ място Гданьск» на працягу версальскага дваццацігоддзя няўдала маскіравала адзін са штабаў фашысцкай агрэсіі, што выспявала і тут, у гэтым старым, спрадвечна польскім горадзе. Гледзячы на шматлікія краны новабудоўляў, на новыя і адноўленыя дамы, што мільгаюць абапал вуліцы, на дзелавую мітусню машын і людзей, у якой і нашы тры «Варшавы» маюць свой разумны маршрут, прыемна думаць, што ўжо без горкай іроніі Гданьск называецца горадам вольным.

За Гданьскам — Сапоты, другі, сярэдні горад «труймяста», своеасаблівага трайнога горада Гданьск — Сапоты — Гдыня, злучанага агульнай вялікай працай марскога будаўніцтва і агульнай тралейбуснай і трамвайнай сеткай.

Машыны нашы спыняюцца каля пад'езда «Грандгатэля», у мінулым «маленькага Монтэ-Карла». Сюды, на адзін з лепшых балтыйскіх курортаў, дзе адпачываюць цяпер польскія працоўныя, яшчэ дзесятак год таму назад збіраліся міжнародныя аматары рулеткі.

Калі мы паднімаліся на трэці паверх, адзін з гданьскіх таварышаў, паказваючы на медныя поручні над шырокім пралётам, сказаў з усмешкай:

— Колькі яснавяльможных дурняў ляцела цераз іх уніз галавою, прасадзіўшы грошыкі!..

...Адзін у раскошным нумары. З балкона гляджу на апусцелы пляж і халодныя хвалі, што ціха коцяцца на пясок з-пад імглы, у якой час ад часу мільгаюць белыя крылы чаек.

Прыкра, што далягляд у імгле, што не відаць на ім знаёмай паласы Гельскага паўвострава, а налева — яшчэ больш знаёмых зялёных гдыньскіх узгоркаў...

Яны зусім блізка. Адтуль мы простым вокам глядзелі з акопаў пад старымі букамі на гэты вось самы «Гранд-гатэль».

Хацелася б цяпер зірнуць туды, пад тыя дрэвы, ды ўжо не вачыма «марскога стралка»...

Справа тут, вядома, не ва мне асабіста, а ў тым, што і мяне ўзняла народная хваля непераможнага прыбою, што і мой асабісты ўдзел у вялікай перамозе, у дружбе савецкага і польскага народаў мае сваё мінулае, якога я не саромеюся, і сваё сучаснае, якім я маю шчасце ганарыцца. Няхай сабе зусім малы, самы сціплы ўдзел, затое — якое ж вялікае шчасце!

Пасля ўчарашняга таруньскага вечара ў гданьскім плане нашай працы не падабаецца нам нейкі «інтэлігенцкі ўхіл» — спачатку сустрэчы з мясцовымі літаратарамі, а тады ўжо з рабочымі суднаверфі... Тады ўжо будзе вечар, і мы на верфі нічога не ўбачым, гэта — раз, а па-другое — мы ўжо каторы дзень у Народнай Польшчы, а авангарда яе — рабочых яшчэ не бачылі. Просім таварышаў павезці нас спачатку да рабочых.

І вось мы на суднаверфі.

Нахіленая плоскасць — шасцікіламетравы шлях нараджэння судна,— уздоўж якой мы ідзём у таварыстве групы маладых кіраўнікоў будаўніцтва, здаецца мне шляхам трыумфальнага грукату і бляску, захапляючай музыкі працы. Гром металу і зіхатлівы бляск электразваркі, што ўспыхвае то ўнізе, то ўгары, на рыштаваннях. Галасы рабочых, што прабіваюцца праз гэты грукат вясёлай пераклічкай... Не, не хачу я тут быць газетчыкам! — не хачу запісваць ні працэнты выпрацоўкі, ні прозвішчы «пшадоўнікаў працы» — пера-

давікоў... Ды, зрэшты, і няма калі,— я заслуханы ў гэты шум, такі падкрэслена выразны, моцны над вадой, прагна гляджу на велічныя сілуэты суднаў, што хаваюцца вяршынямі ў надвячэрняй імгле. У галасах ледзь прыкметных і зусім нябачных людзей весела пазнаю то мазурскае «ядзем», то сілезскае «перуне», то сяброўскую бяскрыўдную лаянку кашуба з яго «дзіцячым акцэнтам» — бадзёрую пераклічку, здаецца, усіх дыялектаў Польшчы.

— Так, мы сабраліся тут з усёй краіны,— у адказ на маю заўвагу гаворыць малады інжынер.— Разам са сточняй [1] растуць і рабочыя, пераважна — вясковая моладзь.

У нас, кажу яму, таксама было — на нашым аўтамабільным і трактарным. Спачатку, калі ў Мінск, на будаўніцтва заводаў-гігантаў, сабралася многа моладзі, побач са сваімі настаўнікамі — рабочымі ўральскага ці харкаўскага заводаў — вучні, у большасці сваёй, падобныя былі спачатку на сялян. А цяпер — не адрозніш іх ад тых настаўнікаў.

— І ў нас,— гаворыць інжынер,— таксама ёсць настаўнікі. З Ленінграда, з Адэсы. Тыя там, за мяжой, моцна шумелі спачатку, што мы, палякі, здольныя толькі да танцаў, што мы нічога не зможам — нават адбудаваць, не тое каб зрабіць што новае... Глядзіце, во — беньямінак! [2] Гэта другі. А першы ўжо на хвалях.

Спыняемся каля вялізнай металічнай сцяны. Гэта — борт гандлёвага судна водазмяшчэннем у дзесяць тысяч тон. Аплецены рыштаваннем, ён здаецца невялікім у параўнанні з агромністымі кранамі, якія абслугоўваюць яго будаўніцтва. Кажучы мовай нашых гаспадароў, пястунчык атрымаў ужо ўласцівы яму выгляд: ідзе апошняя шліфоўка насавой секцыі.

Успамінаю, як урачыста сыходзіў з канвеера наш першы дваццаціпяцітонны самазвал з сярэбраным зубрам на капоце, і радасць польскіх будаўнікоў становіцца больш зразумелай.

...Сябры пісьменнікі чакалі нас у клубе прафсаюза работнікаў культуры.

Навічок за мяжой, я быў спачатку ўражаны, нават

---

[1] Суднаверф.
[2] Пястунчык, улюбенец, наймалодшы ў сям'і.

крышку збянтэжаны стылем гэтай сустрэчы. Мы ўвайшлі ў вялізную залу, густа застаўленую столікамі, за якімі «пры філіжанцы чорнай кавы» сядзела мноства людзей. Апроч літаратараў, як высветлілася трохі пазней, сюды прыйшлі мастакі і артысты. Ніякіх прэзідыумаў, трыбун. Нас разабралі па адным да розных столікаў, прымацавалі кожнага да філіжанкі, і пачалася звычайная сяброўская гутарка, знаёмства.

Пасля ўжо за адным столікам устала жанчына («Ад нашага літаб'яднання»,— шапнуў мне сусед), перад тварам яе ўзнялася рука з мікрафонам. Шум аціх. Першыя словы прывітання, афіцыйны пачатак сустрэчы.

Ва ўзнёслых і трохі агульных словах прамоўцы мы пачулі пра братоў «з-над Одры і Лабы», якія сталі гаспадарамі сваёй вызваленай пястаўскай зямлі, і пра братоў «з-над Волгі і з-за сівога Урала», якія прынеслі гэтае вызваленне...

Нашы прамоўцы, Броўка і Пестрак, гаварылі больш канкрэтна, пачынаючы ад дзекабрыстаў, Пушкіна і Міцкевіча, праз Каліноўскага і Урублеўскага, праз дружбу, загартаваную ў агні трох рэвалюцый, у нядаўнім змаганні з фашызмам.

Працягваем справу ўзаемнага пазнавання. Броўка і Пестрак выступаюць са сваімі вершамі. Слухаем вершы гданьскіх сяброў. Творы беларускіх паэтаў чытаюць у перакладах артысты. Са сцэны гучаць беларускія песні ў цудоўным выкананні хора Балтыйскай філармоніі. Расказваем, пытаемся. Паміж сталамі поўзаюць шнуры, і раз-поразу побач з тваёй галавой з'яўляецца блiскучая галоўка мікрафона: гутарка наша перадаецца па радыё. Незнаёмы літаратар просіць адрас, каб неўзабаве прыслаць на аўтарызацыю пераклад майго апавядання. Дагэтуль незнаёмы мастак гаворыць з ціхай шчырасцю пра беларускія бярозы на шляхах — светлыя ўспаміны яго далёкага маленства...

Па просьбе гданьшчан расказваю пра мой сціплы ўдзел у вераснёўскіх баях. Гавару пра сяброў — радавых, не адзін з якіх, можа, і тут, у Гданьску ці ў Гдыні, успомніў бы мяне, сустрэў бы з радасцю, так зразумелай салдатам.

І вось адзін падыходзіць. Называе сваё незнаёмае прозвішча, рэкамендуецца былым музыкантам флоцка-

га аркестра. Не можам прыпомніць адзін аднаго: калі нават і сустракаліся, дык хіба на якім парадзе. Смяёмся,— вы тады дзьмулі ў свой трамбон, магчыма, нават заплюшчыўшы вочы ад стараннасці, а я лупіў службовы крок і тупа глядзеў у патыліцу пярэдняга...

Падыходзіць другі. Рэкамендуецца саслужыўцам па кулямётнай роце. Пільна ўглядаюся ў твар і — праз пажылую паўнату яго, зверху аздобленую выспяваючай лысінай,— пазнаю маладзенькага ў той час плютановага [1] рэзерва, з яго акулярамі і голасам, амаль зусім пазбаўленым адзнак ваяўнічасці. Мабілізаваны напярэдадні вайны дробны гдыньскі чыноўнік, выпускнік гімназіі, ён некалькі разоў у парадку практыкі замяняў нашага ўзводнага. Цяпер таварыш працуе ў ваяводскім камітэце польска-савецкай дружбы.

У гутарцы пра былое прыгадвае мне прозвішчы камандзіра роты і шэфа — старшыны. За прозвішчамі стаяць нядрэнна вынашаныя вобразы санацыйных салдафонаў; берагу іх для будучых старонак у духу непараўнанага Швейка, які так часта ўспамінаўся ў панскіх казармах...

— І шэф, і ротны жывуць тут паблізу,— гаворыць аднапалчанін.— Абодвух у новае польскае войска не прынялі.

## 8

Гданьск, моцна разбураны ў час ваенных дзеянняў, устае з руін, толькі трохі, здаецца, павальней, чым Варшава.

Гасцінныя, як і ўсюды, гаспадары прапануюць нам «аднаго з найлепшых у горадзе» экскурсаводаў. Адзін з найлепшых хоча нам паказаць усё як найлепш. Зачапіўшыся за першы з краю дом на Доўгім рынку аднаўленага Старога Мяста, ён упадае ў прафесійнае захапленне і абрынае на нашы галовы цэлы вадаспад гісторыі. У шуме яе мільгаюць імёны каралёў і магнатаў, замежных і айчынных дойлідаў, умельцаў і мастакоў, сяброў і ворагаў — Гданьска ў прыватнасці і ўсёй краіны ў цэлым. Стракацяць лічбы і даты...

---

[1] Старшы унтэр-афіцэр.

А навокал збіраецца натоўп прахожых. Дзеці і дарослыя, інтэлігенты і рабочы люд, і тут прызвычаеныя да замежных турыстаў, спыняюцца, каб яшчэ раз, як самую свежую навіну, праслухаць са слоў экскурсавода аўтарытэтнае сведчанне якога-небудзь сярэдневяковага відавочніка, замежнага ці свайго.

Помнікаў мінулага шмат, і кожны з іх, бясспрэчна, мае сваю гісторыю, не менш цікавую, чым гісторыя першага з краю дома на Доўгім рынку.

А час ідзе...

Малады марак, капітан, ветліва вітаецца з намі і хоча ведаць дакладна, ці будзем мы ў тры гадзіны на Вестарплята, як абяцалі яму ў Таварыстве польска-савецкай дружбы.

Будзем, вядома.

Ну, а тым часам ужо адзінаццаць, а ў нас яшчэ не агледжаны Гданьск, Сапоты і Гдыня — усё «труй-мяста»...

Хочаш не хочаш, а мы павінны ўшчаміць прафесійную годнасць экскурсавода, здзівіць яго нашай несур'ёзнасцю. Мы просім паказаць толькі самае галоўнае і збольшага, магчыма найхутчэй...

Абыходзім навокал Доўгі рынак. На хвіліну спыняемся каля велічнай ратушы... Каля Двара Артуса... Каля славутага арсенала... Бяжым да Каралеўскіх варотаў. Заходзім нават у «сені» аднаго са старамяшчанскіх дамоў — кінуць вокам на вітыя, разныя ўсходы і ветразі карабля, намаляванага на сцяне...

Усё гэта — адноўлена, узнята з руінаў, таксама як у Старым Мясце Варшавы. Усё гэта — красамоўнае сведчанне працоўнага гераізму польскага народа, яго жывучага, творчага патрыятызму.

На жаль, гэта — не ўсё, што мы хацелі б, што трэба было б паглядзець. Аднак развітваемся з крыху збянтэжаным экскурсаводам і сядаем у машыны.

Аліва — заходняя ўскраіна Гданьска.

Раскошны манастырскі парк, хутчэй — батанічны сад. Кіпарысы. Кветкі. Лебедзі на сажалках. Канал, доўгі, срабрысты меч якога, распароўшы густую зеляніну саду, упіраецца ў мора. Старадаўні, велічна просты, строгі сабор Святое тройцы.

Пад высокім скляпеннем яго, у гулкай цішыні спатыкаем старога кляштарнага служку з ключамі. Гаспа-

дары — мой аднапалчанін і худзенькая, сімпатычная Рыта — ветлівым шэптам пытаюцца ў служкі, я́к бы паслухаць арганы. Чуем дастойны шэпт старога, у якім выразна гучаць «седэмдзесёнт пеньць злотых». Таважышка Рыта ідзе са служкам у нейкія таямнічыя дзверы і, вярнуўшыся адтуль, з усмешкай ківае нам галавой. Садзімся на касцельных лаўках і з турысцкай вольнасцю адварочваемся ад алтара — глядзім угару, на арганы.

Гэта прыгожае збудаванне, справа ўсяго жыцця таленавітага сярэдневяковага мастака, займае над уваходам не менш месца, чым алтар на супрацьлеглай сцяне. Разны́я скульптуры святых, анёлаў з трубамі, над імі — сонца з драўлянымі промнямі...

Пачынаецца музыка.

Урачыста гучыць «Ave Maria».

— Пушчана ў рух толькі першая, ніжэйшая секцыя арганаў,— шэпча аднапалчанін.— Гэтак іграць могуць многія.

Далей — не ведаю, што гэта... Нейкі вясновы, сонечны гімн жыццю, звонкае шматгалоссе птушынай і дзіцячай радасці. Яго магутным водгуллем паўтарае алтар.

— Уключана другая секцыя,— зноў чуецца шэпт.— Так іграюць нямногія...

Пасля ўключаецца ўся сіла арганаў. Разны́я анёлы ўздымаюць бліскучыя трубы, і, нібы з гэтых трубаў, гучыць... ужо не гучыць, а грыміць магутная Бахава фуга.

Стаіўшыся перад веліччу мастацтва, міжвольна думаю пра якую-небудзь вясковую бабку, што ніцма, раскрыжаваўшы рукі, ляжыць на гэтай святой падлозе, пад гэтым нябесным громам, ад якога дрыжала забітая горам душа... Страшная зброя — мастацтва ў руках рэакцыі!..

Яшчэ і сёння яна не вызвалена цалкам з гэтых рук. Пры выхадзе зноў гляджу на каляровы плакат — дзяўчынка са зложанымі да малітвы ручкамі стаіць на каленях і з прыгожай нявіннасцю ў вачах просіць словамі подпісу: «Матуля, навучы мяне маліцца на ружанцы!..»

— А ксёндз грошай не ўзяў,— ужо не шэпча, а

ўголас гаворыць таварыш Рыта.— Як толькі даведаўся, што савецкая дэлегацыя, адразу кажа: бясплатна...

— Ну, што ж — суіснаванне і спаборніцтва.

...Гданьск — Сапоты — Гдыня і сапраўды ўтвараюць адно цэлае: амаль не пазнаеш, дзе канчаецца адзін горад, дзе пачынаецца другі. Невялікія прамежкі паміж імі заняты радзей раскіданымі абапал шашы светлаваконнымі домікамі ў зеляніне, тут яшчэ не пакастрычніцку свежай.

Праязджаем Сапоты. Пачынаецца Гдыня.

Гэты стотысячны горад з першакласным портам, суднаверф'ю, заводамі харчовай прамысловасці, вышэйшымі марскімі школамі — прыгожы, чысты горад з прамымі вуліцамі, раскошнымі скверамі і маляўнічай набярэжнай — калісьці быў для мяне амаль поўнай геаграфічнай абстрактнасцю, пакуль у нашу старую хату не прыйшла «карта поволáня» — прызыўны лісток.

Арлова — зялёны прыгарад у даліне, якая ў верасні трыццаць дзевятага была нейтральнай паласой. Паміж густымі дрэвамі гэтага парку нашы стралковыя ўзводы неаднойчы стараліся, ноччу ці на досвітку, навязаць фашыстам штыкавы бой. У гэтыя дачы і санаторыі, тады пустыя, але з поўнымі віна і варэння падваламі, мы прабіраліся — ад маладое дурасці — праз драты нашай лініі, толькі з гранатамі. На той гары над морам, пакрытай букавым лесам з вавёркамі, былі нашы акопы. Там мы выседжвалі першыя налёты марской, лінкораўскай артылерыі. Адтуль мы бачылі, як за гданьскім залівам памірала Вестарплята...

Едзем прамымі вуліцамі, старыя і адноўленыя дамы абапал якіх ужо не здаюцца мне вельмі прыгожымі, як калісьці. Машыны пнуцца па вуліцы ўверх і спыняюцца на Каменнай гары.

Адгэтуль горад і порт відаць як на далоні. З трох бакоў Гдыня акружана амфітэатрам зялёных узгоркаў. На поўначы і на паўночным усходзе — мора заходзіць у імглу, праз якую цяпер не відаць ні Гельскай касы, ні Гданьска. У порце заўважаю знаёмы яшчэ са школьных год, з дзіцячага часопіса «Пломык», сілуэт старога парусніка «Дар Прымор'я», які днямі вярнуўся з сяброўскага рэйса ў Адэсу.

Пакуль мой аднапалчанін з крыху залішне ўзнёс-

лай жывасцю патрыёта расказвае пра аднаўленне Гдыні, пра вызваленчыя баі Савецкай Арміі і Войска Польскага, пра нашы, вераснёўскія, баі,— я ўспамінаю, як на гэтай Каменнай гары, у адну са жнівеньскіх начэй напярэдадні катастрофы, палала вялізнае вогнішча. Некалькі сот маракоў і пяхоты — мы спявалі суровую і мужную, нібы не жанчынай напісаную «Прысягу» Канапніцкай. Днём быў апошні парад, перад якім, узышоўшы на трыбуну, ксёндз тыцкаў кароткім пальцам то на захад, то на ўсход, паказваючы ворагаў, якіх мы павінны былі разбіць. А я стаяў за нашай «бедкай» — двухколкай са старым станкачом, і пад суровай каскай у галаве таўкліся словы з наіўнага верша майго заходнеўкраінскага сябра па службе:

О боже мій милий,<br>
Куди ж я попався!..

Я — па штодзённых акрэсленнях шэфа — быў тады «кацапам», «татарынам», «бальшавіком»... Такіх было большасць у батальёне: на ўсходняй граніцы нас было небяспечна пакідаць... «Ты мяне кокнеш, хаме,— жартаваў аднойчы, на «славеснасці», камандзір узвода,— а сам уцячэш да сваіх...»

...На схіле ўзгорка, паблізу ад нашых былых казармаў у Арлове, побач з дарогай, па якой я не раз праходзіў,— братнія могілкі польска-савецкіх салдат, вызваліцеляў Гдыні. Крыжы і зоркі маленькіх помнікаў, белыя і чырвоныя кветкі, адзін для ўсіх абеліск. Згодна ўрадавай пастановы, тут мае права быць пахаваным толькі абаронца ўзбярэжжа ў трыццаць дзевятым і вызваліцель яго ў сорак пятым.

Шкада, што на крыжах безыменных магіл няма таблічак з прозвішчамі сяброў! Магчыма, тут ляжаць яны — кашубскі рабацяга Конке; беларус Саковіч, малады бацька і гаспадар-бядняк; наш ротны запявала — дамброўскі шахцёр Шчыгел...

...Вестарплята — «польскі Брэст» — велічны помнік воінскай славы, помнік народнай неўміручасці.

Прыводжу ўрывак з успамінаў удзельніка вераснёўскай кампаніі, днямі надрукаваны ў мясцовай газеце:

«У 1924 годзе Ліга Нацый, пакорны слуга англаамерыканскіх імперыялістаў, забраўшы Гданьск у польскага народа, прызнала за ім права імпартаваць

цераз гэты горад зброю, амуніцыю і выбуховыя матэрыялы і, у сувязі з гэтым, мець адпаведнае месца для іх перахоўвання — ваенныя склады. Месцам гэтым быў паўвостраў на тэрыторыі Гданьска, Вестарплята, у раёне якога Польшча мела права трымаць невялікі гарнізон.

...Гарнізон гэты таксама як і іншыя адзінкі абароны ўзбярэжжа, не быў падрыхтаваны да ваенных дзеянняў. Згодна дырэктыў камандавання флоту, задачай гарнізона было ўтрымаць фарпост на працягу дванаццаці гадзін. За гэты час вышэйшае камандаванне павінна было «прыняць іншыя захады». Канцэпцыя гэтая вынікала з агульнапрынятага погляду, што гітлераўская Германія не адважыцца напасці на Польшчу.

Інакш глядзелі на справу самі маракі. Калі 25 жніўня на гданьскім рэйдзе стаў лінкор «Шлезвіг-Гольштайн», яны задумаліся моцна. Праўда, як паведамляла гітлераўская, а за ёй і рэакцыйная польская прэса, гэта меў быць «візіт ветлівасці», аднак гарматы лінкора былі скіраваны на Вестарплята, а рух на палубе, на баявым мосце і на вежах вельмі няшмат гаварыў пра ветлівыя намеры гасцей... Гарнізон пачаў рыхтавацца да абароны, не чакаючы вышэйшых загадаў...»

Да гэтага сведчання сучасніка патрэбна сёе-тое дадаць. У апошнім перадваенным месяцы праз нашу часць, гдыньскі другі батальён марской пяхоты, на Вестарплята ішло падмацаванне. Нямала хлопцаў з-пад Брэста і Маладзечна, салдат пяхотных палкоў, размешчаных на «крэсах», перабывала ў тыя дні ў нашых казармах. Землякі начавалі разам з намі, разам шапталіся, а потым кудысьці знікалі. Нельга было схаваць ад нас таго, што гдыньскія кацеры везлі іх начамі іменна туды. Непераможны салдацкі шэпт упэўнена гаварыў, што ракавое туды — гэта Вестарплята, што Вестарплята — пастка...

Гэта не толькі зямляцкі жаль, а жаданне закінуць слова за безыменных беларускіх герояў, якія разам з палякамі сталі тут насмерць і разам з імі заслугоўваюць на светлую памяць.

Досвіткам першага верасня 1939 года лінкор «Шлезвіг-Гольштайн» з адлегласці чатырохсот метраў адкрыў агонь па «польскаму Брэсту».

Сляды гэтага агню засталіся тут і дагэтуль. Сцвалы

і голле векавых дубоў, абгарэлых, а ўсё ж у зялёным лісці, высяцца ў неба, як помнікі нязломнасці, гераізму. Паржавелі і зараслі травою рэйкі, па якіх фашысты ганялі сюды, у размяшчэнне польскага гарнізона, ахопленыя агнём цыстэрны з бензінам. Руіны казармаў і вартоўняў, што цэлы тыдзень змагаліся з марской артылерыяй, самалётамі і атакамі гданьскіх эсэсаўцаў, захавалі на рэштках сцен перадсмяротныя надпісы герояў...

Успамінаюцца словы з аднаго высокага, можна сказаць, гістарычнага выступлення:

«Польшча не хоча паміраць...»

І мы, абаронцы польскага ўзбярэжжа, не ведалі тады, а многія з тых, хто застаўся жывы, не ведаюць і цяпер, што гаварыў у тыя вераснёўскія дні зямны намеснік бога, ласкавы апякун панска-каталіцкай дзяржавы — «санітарнага кардона» на мяжы з бязбожнай Краінай Саветаў.

У адзін з тых дзён, калі польскі народ сцякаў крывёю ў няроўным змаганні з фашысцкай навалай, да папы Пія XII прыйшлі прадстаўнікі польскай калоніі ў Рыме. «Прыстанішча верных» і «суцяшальнік засмучаных» звярнуўся да іх даслоўна так:

«Я не кажу вам, каб вы асушылі слёзы. Польшча не хоча паміраць. І таксама, як кветкі вашай зямлі, якія пад тоўстым снегавым покрывам чакаюць лагоднага веснавога ветрыку, так і вы павінны чакаць, давяраючыся малітвам, гадзіны нябеснай пацехі» [1].

Гаючыя словы гэтай незямной паэзіі сказаны былі ў маленькім коле верных, якія прыйшлі да святога айца з польскім кардыналам і польскім паслом у Ватыкане. Для ўсёй Польшчы не знайшлося нават і такіх слоў. Рымскі папа маўчаў, пакуль берлінскі фюрэр новага «крыжовага паходу» на Усход планава расстрэльваў польскіх дзяцей і старых, планава душыў у газавых камерах польскі народ... Не, папа не толькі маўчаў! — ён заклікаў сваіх авечак аддаваць кесарава кесару, а божае — богу.

Хто быў кесар — вязні канцлагераў, падпольшчыкі і партызаны ведалі.

А бог маўчаў яшчэ больш сціпла, чым папа.

---

[1] М. Шэйнман. Ватыкан у другой сусветнай вайне.

«Польшча не хоча паміраць...»

Усё засталося тут, як было. З бетонных грудаў узарванага дота глядзелі мы на ржавыя, зарослыя бур'янам калючкі драцяной загароды, на хвалі Балтыкі, што ласкава плешчуцца за дратамі, на гдыньскі бераг за вадзяною роўняддзю заліва — на тыя зялёныя ўзгоркі, адкуль я калісьці глядзеў сюды, ловячы чорны смяротны дым у круглыя рамкі біноклевых лінзаў...

Ускладаем вянок на братнюю магілу. На бетоне — вялікі крыж «Virtuti militari» [1]. Бела-чырвоныя і чырвоныя стужкі вянка ледзь-ледзь варушацца ад пяшчотных дотыкаў ветрыку.

Маладыя, стройныя хлопцы — матросы і афіцэры флоту застылі ў ганаровай варце. Стаім у глыбокім маўчанні...

Пасля, калі мы адыходзімся, наш урачысты строй ператвараецца ў вольную групу яшчэ не знаёмых людзей, якія дзеляцца агеньчыкамі папярос і першымі словамі знаёмства.

Адгэтуль едзем следам за вайсковай машынай маладзенькага, вясёлага капітана, які яшчэ ўранні, на Доўгім рынку, па-гаспадарску непакоіўся за дакладнасць нашай сустрэчы.

Яна адбылася ў клубе адной з часцей гданьскага гарнізона.

Зала запоўнена прадстаўнікамі розных часцей: маракі, пехацінцы, танкісты.

З асаблівай прыемнасцю выступаю ад імя нашай дэлегацыі. На мове роднай і на мове аўдыторыі расказваю трохі з жыцця нашай радзімы, з гісторыі вераснёўскіх баёў, якія для гэтых хлопцаў — святая традыцыя, адказваю на пытанні. Прыемна ўсё-такі быць імяніннікам...

...На гэтым наш працоўны дзень не закончыўся. Адбылася яшчэ адна сустрэча — у Эльблонгу, партовым і індустрыяльным горадзе Гданьскага ваяводства.

Сустрэча запланавана была на ранні вечар, аднак надвор'е ўнесла сваю папраўку ў план. Семдзесят кіламетраў ад Гданьска да Эльблонга мы ехалі ў імгле, асабліва густой на Жулаўскай нізіне.

Стомлены за дзень, наш Аляксандар ужо не напя-

---

[1] Ордэн «Воінскай мужнасці».

ваў за рулём, а раз-пораз паўтараў свой ласкавы праклён «раны боскія!» — у адрас «малака», якое фары машыны прабівалі на нейкіх пяць-шэсць метраў.

Едзем паволі. Спераду то знікаюць, то зноў паказваюцца чырвоныя вочкі падфарнікаў машыны нашых гаспадароў. Абапал шашы з падгушчанай змрокам імглы ледзь выступаюць камлі прысадаў і жалезныя краты мастоў. Асабліва доўгі мост на Віслe.

Раны боскія! — спазняемся здорава і не ўбачым ужо, відаць, ні самога Эльблонга, ні механічнага завода, рабочыя якога чакаюць нас і, напэўна, таксама патрошку лаюцца, стомленыя працай дня. Не дзіва будзе, калі многія не дачакаюцца...

Так і сталася. Сустрэча ў клубе завода імя генерала Сярчэўскага мела нейкі камерны характар. Ні горада, ні самога завода мы не бачылі — імгла і ноч, і часу — у абрэз, як ніколі...

Рабочыя, інжынерна-тэхнічны персанал і работнікі заводскай шматтыражкі «На варце міру», якія «усё ж такі дачакаліся», слухалі нас з цікавасцю і з сапраўды нястомнай гордасцю расказвалі пра свае дасягненні. Галоўнае дасягненне завода — першая ў Польшчы турбіна магутнасцю ў дваццаць пяць тысяч кілават, якая тут хутка будзе закончана.

Работнікі шматтыражкі вялі з намі і вузкапрафесійную размову, пыталіся, як палепшыць сваю маладую газету, дарэчы, і так цікавую — з жывымі выступленнямі чытачоў-рабочых, з вясёлым і вострым кутком сатыры...

Ах, гэты план! Ох, гэтая спешка!.. Мы вымушаны былі ўстрымацца ад начнога паходу па двух цэхах — ліцейным і механічным, адмовіцца ад працягу сяброўскай гутаркі за традыцыйнай «лямпкай віна»,— вельмі хутка, на самым пачатку так пажаданай сустрэчы, развітацца з яўна нездаволенымі нашай спешкай гаспадарамі...

Што ж, і нам было прыкра, і мы былі нездаволены. Аднак,— наперадзе больш сямідзесяці кіламетраў праклятага «малака», стомленыя вочы таварыша Аляксандара, а рана-раненька — далейшы шлях на захад.

Наша Ірына — чалавек вясёлы. Учора, напрыклад, мы з ёю многа смяяліся. Вячэраючы ў рэстаране «Гранд-гатэля», мы наглядалі, як пад гукі зусім ужо

экзатычнага джаза, зусім ужо непераймальна ў сваіх прэтэнзіях на вышэйшую культуру кружыліся пары мясцовых стыляг і фіфак. Звышграцыёзнае, проста змяінае вывільванне рознааб'ёмных жаночых... талій, пацешнае, нібы з тэлеграфісцкімі крукамі на ступаках, крыўлянне мужчынскіх ног... Я баяўся глядзець на Ірыну, яна — на мяне, але нарэшце выбухнулі смехам. Навокал столькі важнага шыку — свайго і замежнага,— а мы смяяліся да слёз, ніяк не могучы ўстрымацца...

Вясёлая яна, але і строгая: лёс плана ў надзейных і, здаецца, нястомных руках. А ўсё ж, як толькі машына выбралася з горада і зноў нырнула ў імглу,— гаспадыня заснула, па-дзіцячы стуліўшыся ў кутку.

Мы ахоўваем гэты заслужаны сон маўчаннем. Толькі фары нястомна распорваюць святлом густое «малако» ды паблісхваюць ім у падтрымку два папяросныя агеньчыкі — Аляксандараў і мой.

Раны боскія! — як жа нам хочацца спаць... Дзесятыя суткі недасыпання...

## 9

На развітанне «труймяста» дало нам цудоўную сонечную раніцу — з блакітным небам, з бляскам расы на лісці і траве.

Машына, у якой я сяджу, праводзіць нас да граніцы Гданьскага ваяводства. Чорны гарнітур і чорная шапка з цэшкай, у якіх красуецца за рулём новы таважыш кероўца,— гэта форма суднабудаўнікоў. Яны прыслалі нам «Варшаву».

У люстэрку відаць хітра прыплюшчанае вока бывалага марскога воўка, удзельніка вераснёўскіх баёў. Побач з люстэркам — не вясёлы аранжавы коцік, а чорная негрыцянская дзяўчынка, якой зусім да твару яркі мазурскі касцюм. Падвязаная блакітнай стужкай пад пахі, яна гайдаецца самавіта, прыстойна, гледзячы толькі на нас.

Побач са мной, на заднім сядзенні,— новы таварыш, без шапкі, у светлым плашчы. Інструктар цэнтральнага камітэта Таварыства польска-савецкай дружбы; прыехаў у Гданьск па справах з'езда таварыства, які пач-

нецца ў Варшаве заўтра. Сціплы, пажылы мужчына, у мінулым беспрацоўны рабочы, удзельнік камуністычнага падполля. «Захацелася з вамі праехацца трохі, пагаварыць».

Утрох гаворым пра надзённыя справы новага, для мяне ва ўсіх дробязях цікавага, змястоўнага жыцця.

А ў памяці маёй неадчэпна бяжыць перад машынаю мінулае...

Па гэтай самай шашы ў старых прысадах, каля гэтых цагляных прыгарадных асабнякоў з садамі і гародамі ішоў я калісьці ў калоне да смерці стомленых, выкачаных у акопнай зямлі ўцалелых салдат гдыньскага гарнізона. Тут я пачуў упершыню канвойнае, фашысцкае «рэхтс ран!» і «лёўс!» [1], чым кармілі мяне на працягу двух год у палоне.

Абапал шашы — хутары і вёскі з цаглянымі домікамі пад чырвонаю чарапіцай.

Ад гэтых домікаў калісьці да нашай калоны беглі па раллі і бульбянішчы басаногія кашубскія дзяўчаткі з кошыкамі яблыкаў. Цяпер яны ўжо і самі маці,— блаславенне на іхніх дзяцей!..

Вейгарова. Чысты зялёны павятовы гарадок.

Тут нас, палонных, салдаты вермахта перадалі плюгавым малойчыкам «гітлерюгенда». Тут мы адчулі сапраўдны смак праклятага слова «няволя». Успамінаю крык недарослых будаўнікоў «новай Еўропы», удары прыкладаў, сон — з далонню пад шчакой — на мокрым, халодным бруку астрожнага двара... Кашмар мінулага, такі далёкі на фоне светлага дня!..

Вёска Божае Поле.

Пазнаю гэты лес, успамінаю і назву былую — Бошполь. Тут стаяла гранічная арка, якую гістарычная справядлівасць аднесла нядаўна за Одру.

А лес абапал — цудоўны! Машыны спыняюцца, і мы выходзім, стаім на сонцы, дыхаем апошнімі чарамі восені, гаворым, што ў нас, на Беларусі, яна ўжо не зялёная, а залатая.

Вадзіцель у форме суднабудаўніка вяртаецца з лесу з цэлым букетам крамяных і з выгляду вільготных баравікоў. Па просьбе яго, наш Аляксандар, які ўжо

---

[1] «Направа», «хутчэй!».

адпачыў і зноў пасвіствае, адчыняе багажнік гданьскай «Варшавы» — баравікі ідуць туды.

Па конях!

— У вас, таварыш, дзяўчынка ці хлопчык? — чамусьці раптам пытаецца ў шафёра мой сусед, варшавянін.

— Дзве паненкі і кавалер,— не паварочваючы галавы, адказвае шафёр, і хітрае вока яго ў люстэрку весела плюшчыцца.— Кавалер яшчэ і ў школу нават не ходзіць.

— Вось дзе рад будзе, га? — усміхаецца варшавянін.— Баравікі — палкоўнікі!..

Памаўчаўшы хвіліну, ён выказвае сваю радасць па-свойму ціха, стрымана:

— У мяне ўжо дарослыя. Дачка канчае педагагічны ліцэй.

Яшчэ памаўчаўшы, ён звяртаецца да мяне:

— А ў вас, таварыш, дзеці ёсць?

Я — з асаблівым, «замежным» пачуццём бацькоўскага суму — думаю якраз пра сваіх.

— Дзве паненкі,— адказваю.— Адна нядаўна сама знайшла вялізны баравік.

Сусед ухваляе гэта кіўком галавы і ўсмешкай. Трохі даўжэй, чым звычайна, ён маўчыць, а пасля — зноў па нейкай сваёй, схаванай логіцы мыслення — пачынае маю любімую, сардэчную:

> Oj, za lasem wołki moje,
> Za lasem...

І мы з вадзіцелем далучаемся да яго.

Гэтую пастушыную песню, «Віслу», спяваюць і ў нас. Не раз чуў яе ў выкананні школьнікаў, на канцэртах мастацкай самадзейнасці. Скончым спяваць — раскажу пра гэта сябрам. Хутка вось мы разлучымся і — хто ведае! — можа, на доўгі час, а можа, і назаўсёды. Так жа бывае ў жыцці найчасцей.

Мы разлучыліся ў горадзе Слупску.

Каля ларка ў цяністым парку п'ём развітальны кухаль іскрыстага піва. Гданьшчане вяртаюцца, а мы, зноў у адной машыне, едзем далей па землях Кашалінскага ваяводства.

Сосны, бярозы, ельнік. Шырокія палі дзяржаўных гаспадарак. Буйная рунь. Свежая ралля гаворыць пра

добрае акуратнае ворыва. Грузавікі. Параконныя фурманкі. Свае, польскай вытворчасці, трактары «Урсус». А людзей малавата. Міжвольна ўспамінаецца нядаўна прачытанае: на вызваленых «пястаўскіх» землях менш трыццаці чалавек на квадратны кіламетр.

Слаўна, Сянуў, Кашалін. Малыя і большыя гарады са слядамі вайны, яшчэ не ўсюды зацёртымі. Зялёныя, чыстыя. Даволі многа людзей. Светлыя вокны школ. Дымныя коміны заводаў. Цагляныя морквы касцельных вежаў.

Непрыкметна падкраўся дождж. Гэта не ён сустрэў нас, а мы нырнулі з сонечных прастораў пад хмарнае неба, на мокры, бліскучы асфальт. Абапал яго — лясное, грыбное царства. Чым далей, дык больш дзяўчат і мужчын выходзіць на дарогу з поўнымі кошыкамі, нават з мяшкамі грыбоў і, уздымаючы рукі, нібы вітаючы нас, «галасуюць».

— Дзень добры і од разу до відзэня! — смяецца Ірына.

Нам і самім цеснавата.

Што кіламетр — усё бліжэй Шчэцін.

Бяру ў Аляксандра шафёрскую карту.

Хутка будзе Новагард, пасля якога шаша раздвойваецца: проста — на Шчэцін, а лявей, кіламетраў дзесяць на поўдзень,— мястэчка Машэва. Раней яно называлася Масаў.

Улетку саракавога года я працаваў там у аднаго з гросбаўэраў-кулакоў, касіў жыта ўдвух з худым вусатым парабкам. Ціхі, дабрадушны чалавек, ён часта, з аглядкай на гаспадароў, цішком выказваў мне «антыдзяржаўныя» думкі пра кулакоў і самога іх фюрэра. Адтуль я першы раз няўдала ўцякаў на радзіму. Вось тут — лёгка цяпер пальцам па карце вадзіць! — каля горада Валча, які насіў тады таксама чужацкую назву Дойч Кронэ, другі нямецкі батрак заўважыў мяне на днёўцы. Ён араў іржышча нейкага юнкера, а я ляжаў пад юнкерскімі снапамі. Заснуўшы, выпрастаўся і высунуў нагой на пожню разуты зношаны чаравік. Араты заўважыў яго, спыніў коні, падышоў, падняў чаравік, пазнаў па ім уцекача, кінуў на тое самае месца, а сам пайшоў да плуга, нешта мармычучы... Доўгай здалася мне яго баразна! За ўзгорачкамі відаць былі дрэвы і цагляны бровары комін ма-

ёнтка. У маёнтку, напэўна, працуюць палонныя — ёсць канвой і «партайлёйтэ» — узброеныя цывільныя гітлераўцы. Навокал чуваць былі галасы... Вылазіць са снапоў, уцякаць — не мела сэнсу: не варта дастаўляць пацеху фашыстам і іхнім сабакам. Заставалася адна няпэўная тонкая нітка сувязі са свабодай — вера ў простага чалавека... Ён вярнуўся. Праходзячы за плугам каля маіх снапоў, батрак, нібы на коней, крыкнуў: «Не вылазь толькі, дурань, сядзі там!..» Я не вылез, а ён не выдаў.

Эх, павярнуць бы цяпер на тое Машэва!..

Аднак я рызыкую нагнаць на маіх старэйшых сяброў нуду, а то і злосць сваёй інтымнай сентыментальнасцю...

Ды справа і тут не ў маім мінулым і не ў мястэчку Машэва!.. Я думаю цяпер пра тую краіну, да якой мы набліжаемся, пра той народ, які цяпер будуе новую Германію.

Цяпер я — госць у краіне, якая так пацярпела ад нямецкай агрэсіі: і на працягу стагоддзяў, і, асабліва, у апошняй вайне. На кожную тысячу палякаў прыпадае дзвесце дваццаць чалавек, забітых гітлераўскімі акупантамі. У цэлым — больш шасці мільёнаў,— мора крыві і слёз, небывалай сілы зарад святой нянавісці да фашызму. На нямецкай мове быў напісаны найвышэйшы загад пра поўнае знішчэнне польскага народа, на гэтай мове гаварылі каты Асвенціма, Майданака і іншых шматлікіх лагераў смерці... Пра гэта нельга не думаць і тут, на зноў польскім заходнім Прымор'і.

Ды я — не толькі госць: я, перш за ўсё, прадстаўнік вялікай сям'і савецкіх народаў, крывёю якіх аплочана перамога святла над цемрай. І ва мне, як у самай нязначнай кропельцы той сілы, якая разбіла фашызм і ваюе за мір і свабоду для чалавецтва, жыве свядомая нянавісць і любоў.

Я не хаваю маёй нянавісці. Аднак я таксама не магу не думаць пра тых немцаў, якія і ў дні вайны былі людзьмі. Я не прыдумаў, а ўспамінаю не толькі тых двух батракоў, але і многіх простых, сумленных людзей працы і светлай думкі, з якімі мне даводзілася сустракацца. І гэта не проста мае ўспаміны, не справа мінулага: у гэтым бачу я непарыўную сувязь з тым, што застаецца назаўсёды,— з Германіяй Маркса і Эн-

гельса, Гётэ і Гейнэ, Лібкнехта і Тэльмана, з тым нямецкім народам, які ўмацоўвае сёння жыццядайную дружбу са сваімі сябрамі,— з намі, савецкімі людзьмі, са сваімі суседзямі — палякамі.

Недзе дома, у Мінску, сёй-той з сяброў, якім на гэты раз не пашанцавала, зайздросціць мне — госцю польскага народа. А я зайздрошчу таму, хто сёння ходзіць госцем над Влтавай або над Хуанхэ, хвалюецца радасцю дружбы і новых адкрыццяў... Нядрэнна было б, між іншым, пабачыць і гаспадароў новай Германіі — рабочых і былых кулацка-юнкерскіх батракоў, маіх даўніх знаёмых. Я хацеў бы, каб гэты мой першы выезд за межы радзімы быў не толькі першым. Бо і мяне таксама хвалююць і вішні Японіі, і багдадскі блакіт...— усё, «пра што не паспеў напісаць».

Гэта — пакуль што мара.

А сапраўднасць — таксама прыгожая. Дарма, што ў вокны хвошча сустрэчны дождж, дарма, што неба па-восеньску асела над зялёна-шэрымі палямі!..

## 10

Шчэцін.

Вялікі партовы горад, спланаваны, як гаварылі нам пасля шчэцінскія сябры, «тым самым архітэктарам, што планаваў Парыж».

Мінаем «ва́лы Баляслава Храбрага» — старадаўні пястаўскі замак. Па новых мастах пераязджаем магутную Одру, канал... Як шмат вады! — тым больш што і з хмараў яна цэдзіцца безупынна. Як шмат зеляніны і готыкі! І больш, чым усюды, здаецца, слядоў вайны — руіны, пустыя вочніцы абгарэлых каробак, расчышчаныя пад будаўніцтва пляцоўкі, рыштаванні і свежая цэгла сцен...

Сустрэча, размяшчэнне, абед — і вось ужо надвячорак. Ранні, бо дождж усё не аціхае. Нам прапануецца наведаць ПГР, дзяржаўную гаспадарку. Паблізу ад горада. Нарэшце! Ды зноў, як з Эльблонгам, прыкрая няўвязка — прыедзем туды ўвечары... Тут ужо Ірына пратэстуе катэгарычна. Аднак таму, што там чакаюць нас, ідзём на кампраміс — паедзем і сёння, і заўтра ўранку.

У ПГР Скарбімежыцэ, былы маёнтак нейкага юнкера, размешчаны каля самай граніцы Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, мы прыехалі прыцемкам. Рабочыя чакалі нас у «святліцы». Мужчыны, дзеці з маткамі і бабулямі, дзецюкі і дзяўчаты. Малавата іх нешта, думаецца спачатку. Ды хутка даведваемся, што тут сабралася ўсё насельніцтва пасёлка. Практычна пераконваемся, што азначае менш трыццаці на кіламетр.

Мову нашу, як і ўсюды, дзе мы ўжо былі, разумеюць добра. Выступае Броўка. Пасля паэты чытаюць свае вершы, а я, на правах слухача, прыглядаюся да людзей.

Простыя твары, да якіх так пасуе польскае слова пачцівец — шчыры, сумленны чалавек. Маладосць, як усюды, прыгожая. Бабулькі, як і нашы, у хустках пад бараду. Усюды аднолькава мілыя дзеці.

У першым радзе яўна не сядзіцца маленькаму хлапчуку. Голая бручка галавы, абстрыжанай, відаць, бабулінай усемагутнай рукою, пад «авечы фасон»,— з прыкметнымі радамі. Лаўлю вачыма яго няўрымслівы позірк і па-змоўніцку падміргваю. Малы ахвотна ўстае, абыходзіць стол і ззаду працікаецца ў прэзідыум паміж Ірынай і мною.

— Я — Анджэек,— шэпча.— А ты? А цёця?

Пазнаёміўшыся, ён лезе да мяне на калені і нейкі час, падпёршы кулакамі румяныя шчокі, локцямі ўспёршыся на стол, пераможцам глядзіць на аўдыторыю. Ды вось ён павярнуўся і цёпла шэпча мне ў вуха:

— Сцізорык маеш?

— Не.

— А гэты дзядзя? А той?

Няма і ў тых. Таксама мне дзядзі! Анджэек вымае з кішэні яблыка і шэпча:

— Разламі на два.

Выконваю просьбу.

— А цяпер на́ табе і табе,— дае і цёці і дзядзю.

— Цяпер, Анджэек,— шэпча Ірына,— мы пачастуем цябе: палавінка і палавінка — вось і цэлае. Добра?

Малы толькі ківае галавой, бо ўжо кусае з хрустам і пачынае асцярожна жаваць. Другая палавінка яблыка, якое здорава зрабіла сваю справу, вяртаецца ў кішэню гаспадара. Раптам ён саскоквае на падлогу і, па праходзе, трошкі прыгнуўшыся, прабіраецца да дзвя-

рэй. На гэтым, думалася, і канец. Але Анджэек вяртаецца зноў. З усёй сваёй пацешнай асцярожнасцю дабіраецца да маіх каленяў і падае мне кніжку. Вершы Славацкага. Зноў каля вуха цёплы шэпт:

— Чытаць умееш? А я яшчэ не. Я толькі ў садзік хаджу...

Дзіцячы сад ПГР наведваем пасля сустрэчы.

У доме пад векавымі дрэвамі знайшоўся другі Анджэек, з чорнаю грыўкай. Відаць, выдатнік — пані Барбара Табольчык, старая выхавацельніца, з гордасцю добрай бабулі паказвае нам яго здольнасці. Анджэек расказаў верш, паказаў, каму належыць кожны бусел, кожная рыбка і ластаўка ў раздзявальні, праспяваў нават песню. Выслухаўшы пахвалу, выдатнік надзеў пры дапамозе шчаслівай пані Барбары паліто, развітаўся і пайшоў дахаты — з пачуццём уласнай годнасці, па меншай меры вартай народнага артыста.

Гасцінныя жанчыны напаілі нас выдатнаю кавай,— «хто хоча чорную, хто хоча з малачком»...

Уранні мы прыехалі сюды зноў.

Скарбімежыцэ — гаспадарка сярэдняя, не паказная. Трыста семдзесят гектараў зямлі, на якой вырастаюць нядрэнныя — да дваццаці цэнтнераў — ураджаі жыта, пшаніцы, ячменю. Добрая бульба. Уводзіцца кукуруза. Толькі адзінаццаць гектараў сенакосу. Семдзесят сем дойных кароў; рэкардыстка Бася дала сёлета 3750 літраў малака. Працуе на гаспадарцы чатырнаццаць сем'яў — перасяленцы з розных куткоў краіны. Тэхніка — пяць трактароў, шэсць грузавікоў, жняяркі, сеялкі, сарціроўкі... Дваццаць адзін рабочы конь. Асноўная сіла — электрыка. Сярэдні заробак рабочага 800—900 злотых у месяц. Цэнтнер жыта каштуе, на месцы, 80 злотых.

На ўвесь пасёлак звоніць кузня. Залаціцца пшаніца ў былым юнкерскім свірне. Пахне сырадоем у чыста выбеленых кароўніках. З цэнтральнай Польшчы прыехаў сюды дырэктар гаспадаркі, вопытны аграном, з Карпатаў — знатная даярка, маці майго ўчарашняга сябра Анджэйка, з-за Буга — лепшы брыгадзір паляводчай брыгады. Для новай, вольнай працы сабраліся сюды гэтыя маладыя сем'і, для шчасця расце іх багатая змена — толькі ў дзіцячым садзе больш трыццаці малых.

Мы гутарым з людзьмі, што сабраліся на двары, пе-

рад кузняй. Просім аднаго з іх — брыгадзіра Кучынскага — прыняць наш скромны падарунак: беларускую вышываную кашулю. Рабочы прымае яе з рук пісьменніка, паціскае нам рукі, не зусім гладкімі, але ўсхваляванымі словамі просіць перадаць прывітанне з-над польскай Одры калегам з наднёманскіх і наддняпроўскіх палёў.

...Машыны нашы зноў бягуць па бруку палявой дарогі.

— Шкада, таварыш, што няма часу паказаць вам нашы лепшыя ПГР,— гаворыць новы спадарожнік.— Якія людзі ў нас, якія справы робяцца! Мала нас, праўда, але нічога — з кожным годам прыязджае больш. Хоць бы і я... Называюся Цайтлер Станіслаў, з Познаньшчыны. Маці працавала ў нямецкага пана адзінаццаць год, бацька — у польскага — дванаццаць. Пажаніліся, купілі паўморга зямлі, паставілі хатку — каза пераскочыць... Шэсць сыноў. І выйшлі з парабчанскіх дзяцей — адзін інжынер, другі палітычны работнік, трэці вучыцца, чацвёрты ў арміі, пяты на гаспадарцы... Трынаццаць моргаў панскай зямлі атрымаў — можна і гаспадарыць! Ну, і я таксама — работнік Таварыства польска-савецкай дружбы. Калі ехаў сюды — маці плакала, а ўжо і сама да мяне едзе, назусім... Так, товажы́шу коха́ны. А цяпер мы заедзем у прыгарадны парк — там у нас Ізумруднае возера.

Старыя букі абапал шырокай шашы. Прасторы заліўных лугоў. Магутная Одра. Сонца.

Прыгарадны парк з векавымі дубамі. Ізумруднае возера з зялёнай вадою. Да нейкай халаднаватай жудасці глыбокае. Нагадвае нашу каўказскую Рыцу. Штучная пячора з каменных глыбаў. Рыцарскія — з тоўстых дошак — сталы і лавы. Ачаг. Тут адпачываў калісьці Герынг, натхняючыся валасатымі, чатырохногімі традыцыямі каменнага веку. Пад скаламі — дваццаць восем кіламетраў тунельных нораў, якія ўсё ж не ўратавалі тоўстага Германа... Цяпер у парку адпачываюць працоўныя.

Ускраінныя домікі ў садах. Многа дзяцей.

У мінулым — горад багатых суднаўладальнікаў, прамыслоўцаў, маклераў і ранцье, Шчэцін стаў цяпер горадам рабочых. Пяцьдзесят пяць працэнтаў насельніцтва двухсоттысячнага горада занята на вытворчасці.

— Мужчын у нас большасць,— гаворыць таварыш Цайтлер.— Яны аднаўлялі заводы і порт. Змагаліся з дыверсіяй. Бо, трэба вам сказаць, адразу, як толькі горад быў вызвалены, фашысты, якія не паспелі паўцякаць, падпальвалі дамы, узрывалі прамысловыя аб'екты, білі вокны, ламалі дзверы... Нас было мала, нам было цяжка тушыць пажары, лавіць дыверсантаў... Цяпер засталося ў нас некалькі тысяч немцаў, але гэта — нашы людзі, рабочыя, жывуць і працуюць сумленна. Колькі працы было! Заграніца шумела — палякі так і не выграбуцца з руінаў. І порт, і горад — суцэльныя могілкі. Толькі са дна ў порце мы паднялі больш двухсот суднаў, ужо не лічачы стальных канструкцый, кранаў... Цяпер лягчэй — і хлопцы едуць сюды і дзяўчаты. Насельніцтва расце. Вы ведаеце, таварыш, што ў нас, у Шчэціне, найбольшы прырост ва ўсёй Польшчы. І жывецца ім, паглядзіце, нядрэнна!..

У шчодрым восеньскім сонцы, на траве сквераў і паркаў, на тратуарах, у пяску — звонкагалосы свет дзетвары.

— Будаўнікі! Яны памогуць нам,— смяецца наш малады спадарожнік.

Па-сапраўднаму працуе шчэцінскі рабочы клас. Пра гэта сведчаць новыя дамы, рыштаванні, экскаватары, краны порта, якія, як сцягі перамогі, узняліся над вялікай вадой.

Едзем на сустрэчу са школьнікамі.

Іронія, з якой я — пры выхадзе з касцёла на Аліве — думаў пра суіснаванне і спаборніцтва з ксяндзамі, мае, на жаль, свае падставы. Каталіцкае духавенства аказвае вялікі ўплыў на справу выхавання моладзі. У большасці школ рэлігія выкладаецца як абавязковы прадмет. Спаборніцтва касцёла з дзяржавай апроч легальнай прапаганды ідэй Ватыкана — каталіцкі універсітэт у Любліне, свае выдавецтвы — праяўляецца і ў метадах падпольных. Яшчэ зусім нядаўна, як расказвалі шчэцінскія таварышы, дзеці «верных», натхнёныя святымі пастырамі, здзекаваліся — на вуліцы і ў школе — з дзяцей «бязбожнікаў».

Цяпер у Шчэціне восем адзінаццацігодак «марксісцкага тыпу», без выкладання рэлігіі.

У адну з такіх школ мы прыехалі апоўдні, на стыку дзвюх змен.

Пры першым знаёмстве з замежнай мовай у многіх, відаць, бывае так, што паасобныя словы запамінаюцца «на смак»: цяжка і зразумець, не толькі выказаць, чаму яны падабаюцца.

У вестыбюлі шчэцінскай школы № 1, калі насустрач нам па шырокіх сходах сыпанулі з букетамі першакласнікі, Броўка шапнуў мне з усмешкай:

— Глядзі — потэнга!

І слова гэтае — па-нашаму: магутнасць — набыло тут нейкі асаблівы сэнс. Дзеці — мільёны цудоўных дзяцей — гэта магутнасць і шчасце Народнай Польшчы.

Нельга было без замілавання прымаць ад іх кветкі, глядзець у іх ясныя вочы, а крыху пазней, стоячы за сталом прэзідыума, заваленым цюльпанамі, глядзець у перапоўненую залу, дзе ўсе яны — ад маленькіх у першым радзе да юнакоў і дзяўчат у апошнім — спявалі гімн дэмакратычнай моладзі.

Мы выступалі. Нас віталі і непаўторна мілым галасам першакласніцы, і неўзмацнелым басам школьнага паэта, вельмі прыкметна закаханага ў Маякоўскага. Нам спяваў школьны хор, іграў, узброены непамерна вялізнымі трубамі, школьны аркестр.

У маім дарожным блакноце, побач з каракулямі ўласных паспешлівых запісаў, стаіць імя і прозвішча дырэктара школы — Зофія Габрысяк,— упісанае яе выразным настаўніцкім почыркам.

Седзячы побач з гэтай пажылой, па-мацярынску прыгожай жанчынай, закаханай у сваю справу, я міжвольна вярнуўся думкай у мінулае.

Успомніўся артыкул з адной прагрэсіўнай польскай газеты, што выходзіла ў палавіне трыццатых гадоў. Уласна кажучы, не артыкул, а допіс польскай настаўніцы з «крэсаў».

Яна расказвала пра дзяцей беларускай беднаты, пра панскую «апеку» над імі, пра школу, у якой так цяжка было вучыцца на няроднай мове і цяжка працаваць сумленнаму чалавеку.

«Што можа зрабіць настаўнік, чым дапаможа ён у гэтай вялікай бядзе? — пыталася тая настаўніца.— Ён адчувае сябе чалавекам, які, выслухаўшы расказ пра цяжкую хваробу мужа і голад шасцярых дзяцей,

даў беднай маці пяцьдзесят грошай... Які гэта шчодры дар! Якая горкая іронія!..»

Такая настаўніца была калісьці ў мяне. Перадавая польская жанчына, што ў дні фашысцкай акупацыі загінула ў канцлагеры разам з сотнямі беларускіх матак. Яна была б цяпер такой жа сівой, трохі велічнай, больш — проста мілай, як вы, паважаная пані Габрысяк. Шчаслівай працы вам і светлай старасці!..

Перад ад'ездам са Шчэціна мы сустракаліся з мясцовымі пісьменнікамі. Як і ўсюды, мы гаварылі з імі пра пашырэнне і паглыбленне дружбы, абменьваліся кнігамі, выступалі са сваімі творамі.

Аднак далёкі «польскі дом над Одрай» запомніўся мне перш за ўсё галасамі яго дзяцей, іх радаснымі вачыма, іх рукамі, што доўга махалі нам на развітанне. Цяжка было вырвацца з іх шумлівай шпачынай чарады. Весела, наперабой школьнікі шыліся ў нашы машыны, бясконца прасілі напісаць «хоць славечка» ў іх сшыткі...

## 11

З халоднай імглы нараджаўся сонечны дзень.

Першае золата восені. Бярозы, рунь, ралля — усё нібы памытае імглой. Сляды гэтай імглы, пераможанай сонцам,— лужынкі на асфальце. Чыстыя белыя домікі пад чарапіцай. Хлапчук гоніць карову і пярэстае цяля; заспаны, сярдзіта махае-свішча лазінай. Меншых дзяцей не відаць — самы салодкі ранішні сон.

Маўклівы, акуратны Аляксандар нават не напявае ціхенька, па свайму звычаю, і не пасвістае — яшчэ цішэй.

Мы таксама маўчым.

Хутка будзе Асвенцім...

Над гэтым маўчаннем у душы маёй гучаць, як песня, заключныя радкі аднаго з лукішскіх вершаў Валянціна Таўлая, напісанага пасля астрожнага спаткання з бацькам:

> Прыйдзе час — абваліцца пад ломам
> гэты мур падточаны, стары
> і на першым сонечным праломе
> абмяняюцца слязой сябры:

пот абцёршы, выйдзем, хто не згінуў,
п'яныя ад полымя, ў крыві.
Толькі ты, мой родны, мой адзіны,
да хвіліны гэтай дажыві.

Час прыйшоў. Змагары за свабоду не толькі выйшлі з польска-фашысцкай турмы: разам з польскім народам яны пераможцамі выйшлі з вялікай вайны з фашызмам нямецкім. А «родны і адзіны» — таксама, кажуць, як і сын яго, удумлівы, сціплы і шчыры чалавек, стары чыгуначнік, загінуў там, куды мы едзем. І Валянціна няма: няшмат можа вынесці сэрца, якое змалку б'ецца неспакойна. Але песня, што выйшла з гэтага сэрца, жыве і хвалюе. Бо колькі ж іх не дажыло — адзіных, родных!..

У адным Асвенціме спалена некалькі мільёнаў чалавек. Памяць пра іх засталася не толькі ў вёсках і гарадах, адкуль яны выйшлі,— жудасным помнікам чалавечых пакут жыве ў памяці народаў Еўропы Асвенцім, сімвал жахлівай з'явы нашага часу — фашызму, кліча людзей добрай волі да пільнасці.

Ва ўспамінах польскай жанчыны, былой асвенцімскай нявольніцы, ёсць словы, поўныя страшнага зместу:

«Аднак гэта добра, што Асвенцім акружаны таямніцай, што нашы дзеці не ведаюць, як гінуць іхнія маці...»

Разлучаныя з бацькамі яшчэ на пероне апошняга паўстанка, перад самым крэматорыем, дзеці часта не ведалі, не бачылі, як задыхаліся ў газе іх маці, не чулі іх крыку праз жалезабетонныя дзверы газавых камер.

А маці часта не бачылі — апошняя ўцеха! — як малыя іх, разам са сваімі лялькамі,— каб усё было ціха, культурна,— ішлі ў тыя самыя дзверы або як іх палілі жыўцом, ашчаджаючы славуты Цыклон Б, прэпарат прускай кіслаты.

Словы адной з мільёнаў катаваных матак я прыпомніў каля ўвахода ў Асвенцімскі лагер-музей.

Сямідзесяты кіламетр нашай сонечнай дарогі закончыўся перад дратамі.

Тут узвышаўся шэры, суровы абеліск са словамі ўдзячнасці Савецкай Арміі — вызваліцельніцы, помнік братэрства і перамогі, якіх так многа бачылі мы за апошнія дні.

Каля гэтага помніка, на фоне дратоў і чорных чарапоў са скрыжаванымі касцямі ў зубах, стаяла дзяўчынка. З румянцам на поўных шчоках, з блакітнымі бантамі на светлай галоўцы. Побач з дзяўчынкай стаялі яе маладыя бацькі. Клапатлівая мама прымусіла ўзяць з сумкі булку; дзяўчынка слухмяна жавала, а на поўных, румяных шчочках нястрымна каціліся буйныя слёзы...

Сям'я толькі што выйшла з лагера-запаведніка. Не ведаю, не спытаўся, і не хацеў пытацца, чаго малая плакала. Адразу толькі кальнула ў сэрца здагадка, а потым, значна пазней, выходзячы з лагера, падумаў:

Ах, ці трэба было паказваць ёй свежыя, акропленыя расою кветкі каля той чорнай сцяны, дзе расстраляны тысячы дарослых, кветкі на тых механізмах — напэўна ж з тэхнічнай, навуковаю назвай,— якія гада́мі падавалі ў печ крэматорыя трупы дзяцей?..

Над жалезнасетчатай брамай — жалезныя літары надпісу «Arbeit macht frei» — праца дае вызваленне. Колькі ж людзей, што ў дні вайны праходзілі пад гэтымі літарамі, кожны на сваёй мове ўспаміналі Дантэ — надпіс на браме ягонага пекла: «Пакіньце ўсякую надзею!..» У многіх успамінах вязняў прыводзяцца гэтыя словы. А Дантава пекла здавалася ім тут амаль зусім нявіннай паэтычнай выдумкай у параўнанні з тым, што вынайшлі «новыя выратавальнікі хрысціянства».

Асвенцім — не проста лагер у вялізным спісе гітлераўскіх лагераў смерці — гэта цэнтральны камбінат знішчэння ўсяго, што не згаджалася з дэвізам: «Айн фольк, айн райх, айн фюрэр» — з дэвізам, што расшыфроўваўся, па сутнасці, так: адзін пануючы народ, адна фашысцкая дзяржава, адзін для ўсяго свету фюрэр.

Словы гэтыя мы ўбачылі ў славутым блоку № 11 — у блоку смерці.

Насупраць вялікай камеры «палітычных злачынцаў», асуджаных на расстрэл — была і тут камедыя суда! — знаходзіўся і цяпер застаўся пакой канваіраў і катаў. Акуратна засланыя ложкі, вінтоўкі ў стаяках, партрэт-ікона Гітлера, на тумбачках — духі і фота чубаценькіх фройляйн... І той «айн фольк» — галоўная запаведзь у маральным эсэсаўскім кодэксе.

Тут я і ўспомніў Мальбаргскі замак — першае гняздо яшчэ зачаткавага фашызму. Успомніў таксама цяжкі двухручны меч у Гродзенскім музеі, крыжацкі меч з кароткім, непасрэдным надпісам: «Пі кроў». І больш культурнае крэда іншых папярэднікаў Гітлера: «Кароль на чале Прусіі, Прусія на чале Германіі, Германія на чале свету...»

Павітыя крэпам сцягі дваццаці васьмі краін свету стаяць, жалобна схіленыя, у першай зале музея. Побач з імі — лічба 4 000 000, чатыры мільёны толькі падлічаных пасляваеннай экспертызай,— лічба, з якой не згаджаюцца многія аўтары асвенцімскіх успамінаў: закатавана, яны пішуць, было больш...

Ідзём уздоўж вялікага і доўгага, на дзесяткі цяжкіх крокаў, шкла вітрыны. За шклом — гара жаночых валасоў. Чорныя, рыжыя, сівыя... Як залатая сасновая стружка, сям-там паказваецца і іх завіток дзіцячага локана... Гэта — не ўся маёмасць нацыянал-сацыялізма, якую на працягу гадоў улічвалі акуратныя гаспадарнікі,— большасць, непараўнаная большасць «сыравіны» вывезена ў Рэйх. Там з валасоў спляталіся канаты для падводных лодак, ткаліся матэрыялы, а рэшта, пáчасі, ішла ў салдацкія і бюргерскія матрацы.

За іншым шклом — чамаданы, сумкі, рукзакі і палатняныя торбы... На розных мовах — імёны ўладальнікаў: паляк, італьянка, руская, француз... Сям-там нямецкае прозвішча. Сям-там па-нямецку напісана: «З адным дзіцем», «З дваіма малымі»...

Пад шклом наступнай вітрыны — белая, дома пашытая з байкі, распашонка. Кароткія рукавы распасцёртыя, нібы просяць ратунку ці хочуць абняць тваю шыю нябачнымі цёплымі ручкамі...

Вялікая гара чаравічкаў, тапачак, хадачкоў — дома яшчэ стаптаных або тут, у лагеры, пашытых.

Хатнія рэчы: драўляны грыбок для цыравання, шчотка для вопраткі і шчотка для валасоў, электрычны прас з акуратна заматаным на ручцы провадам, звычайная тарка для бульбы,— можа, з нармандскай, можа, і нашай палескай вёскі.

Адусюль, з усіх куткоў Еўропы людзей везлі сюды «на працу і на жыхарства». Не толькі самі каты хавалі ў таямніцы словы Аўсшвіц — Асвенцім, баракі, газа-

выя камеры і чатыры крэматорыі якога былі азначаны чырвоным крыжам на дахах. На пероне апошняй станцыі, ужо на парозе крэматорыя нявольнікі з «асобых камандаў», якія працавалі пры камбінаце знішчэння, не гаварылі асуджаным, што іх чакае. Так выглядала сяброўская літасць. У чыстым прасторным вестыбюлі газавых камераў, па загаду фашысцкай абслугі, людзі акуратна складалі вопратку, з ручнікамі і мылам ішлі «памыцца пасля далёкай дарогі». На столі камераў — душавыя ўстаноўкі, якім ніколі не прыйшлося дзейнічаць...

Усё тут было прадумана, наладжана з нямецкай педантычнасцю. Засталіся, пакінутыя ў спешцы, гросбухі з дакладным улікам «дзяржаўнай маёмасці». Засталіся часткова і спісы замучаных. Каля кожнага прозвішча, года нараджэння, адраса стаіць прычына смерці: на тысячы ладоў вар'іруюцца словы тыф, сардэчны ўдар, запаленне лёгкіх... Засталіся шматлікія аматарскія здымкі, зробленыя рукамі эсэсаўцаў. Перамога была задумана на вялікі, сусветны маштаб і навечна. Ідыёцкі, нялюдскі спакой, упэўненасць у сваёй праваце крычыць нават і са старонак перадсмяротнага дзённіка Рудольфа Геса, асвенцімскага каменданта, які перад судом і вісельняй пажадаў пакінуць чалавецтву і сваю «Mein Kampf».

Каля шыбеніцы пры выхадзе з лагера, на якой быў у 1947 годзе павешаны Гес, малады хлапчына-экскурсавод расказвае натоўпу наведвальнікаў пра апошні дзень каменданта:

— Напіўся чорнай кавы, папрасіў, каб яму паказалі лагер, і, абышоўшы з канвоем баракі, пад пятлёй ужо сказаў: «Каб я ведаў, што такі будзе канец, не столькі б вас перадушыў...»

З матэрыялаў абвінаваўчага акта:

Намеснік Геса, унтэрштурмфюрэр Грабнер, які ў канцы вайны, таксама, як і Гес, «нырнуў у армію» па загаду Гімлера, у апошнім слове сваім сказаў:

«У сувязі з маёй дзейнасцю і службай у Асвенцімскім канцлагеры не адчуваю ніякай віны. Не маю ў маім сумленні адчування, што рабіў там якую-небудзь беззаконнасць».

І «добры хрысціянін» Гес, і «добры салдат» Грабнер, і пародзістая дзеўка-эсэсаўка Мандэль, што не

ўступала ў лютасці мужчынам, і «доктар медыцыны і філасофіі» Крэмер, які практыкаваў вівісекцыю на людзях і лячыў іх ад каросты маззю з чалавечага тлушчу, вытапленага ў крэматорыях,— усе яны на судзе не прызнавалі за сабой віны.

Успамінаецца мінскі працэс над фашысцкімі ваеннымі злачынцамі. Воблік аднаго з васемнаццаці падсудных, крымінал-камісара гестапа Коха, які прайшоў са сваёй камандай ад захаду да ўсходу Беларусі і толькі ўласнаручна расстраляў каля пяцісот чалавек.

Сведчыць настаўніца з Палесся, маладая маці двух дзяцей, замучаных у лагеры Азарычы. Расказ жанчыны, як рэха, паўтарае злачынцам перакладчык.

Адзін з безлічы іншых малюнак нявінных пакут:

...Меншага, Толіка, несла бабуля. Сама ледзь ішла, але несла. Хлопчык быў завялікі, зацяжкі, ён аб'язджаў на руках раз-поразу. Ногі звісалі, б'ючы па каленях старой, а ўсё ж сухія, мазольныя рукі яе прыціскалі малога — на жудаснай мяжы адчаю. Большая, Людачка, тэпала побач з мамай, аберуч учапіўшыся за яе руку. Зусім як дарослая, глядзела на гэты страшны паход вачанятамі, якія так шмат ужо выплакалі горкіх слёз. А ўсё ж час ад часу прасіла:

«Мамачка, можа, вунь там, каля бярозы, пасядзім? Трошачкі... А потым — зноў...»

А потым так і асела на снег, і яшчэ раз заплакала. Абганяючы іх, абапал тупацелі знямоглыя ногі. Пырхаючы з-пад колаў брудным снегам, гула машына. Спынілася. Дужыя рукі схапілі дзяўчынку і кінулі ў кузаў. Мёрзлы падкуты бот акуратна падсунуў яе да борта...

На лаве падсудных — сівы забойца Людачкі, генерал Рыхерт, арганізатар Азарыцкага лагера смерці. Каменны выраз твару. Іржавы механізм арыйскай мазгаўні буксуе на адным месцы: «Я выконваў загады фюрэра». Як толькі кінаапаратары зноў накіроўваюць на падсудных святло юпітэраў — сухі, валасаты Герф, генерал паліцыі, нездаволена сцепае галавой і яшчэ ніжэй апускае калючыя вочы. Рыжы палкоўнік СС, кат Вілейшчыны, дрэмле, крыва разявіўшы рот. Гаўптман Айк, камендант аршанскага гета, спакойна аглядае пазногці — адзін за адным... А Кох — румяны, з выглядам дабрадушнага пастара — Кох усміхаецца...

Люду павезлі, а Толік застаўся на тое, каб потым, ужо за дратамі, памерці разам з бабуляй. Дзве пары рук — маленькія і старыя,— крывавячыся, граблі мёрзлую зямлю, каб дастаць хоць кроплю балотнай вады. Ды так і не выграблі ямкі: на вышцы быў нядрэнны кулямётчык...

— Аднойчы рана,— пануе над залай усхваляваны голас настаўніцы,— мы бачым: немцаў на вышках няма. Людзі кінуліся на калючыя драты, давай іх ірваць. А лагер быў навокал замініраваны. Узняўся такі страшэнны гром, такія выбухі, што людзі ўзляталі пад неба, як птушкі...

Кох рагоча.

На голас старшыні трыбунала ён паслухмяна ўстае, падыходзіць да бар'ера, аберуч апіраецца на яго і, з гатоўнасцю адказваць на пытанні, глядзіць на перакладчыка.

— Спытайцеся, чаго падсудны смяецца?

Кох з ідыёцкім спакоем папраўляе акуляры і адказвае:

— Іх габэ айгэнэ гэданкэн! [1]

«Уласныя думкі» выказвае, у сваім дзённіку, поўным «лірызму і роздуму», лагерфюрэр Гес. Іх меў і ажыццяўляў, у шырэйшых маштабах, галоўны фюрэр — Гітлер. Яны не сканалі разам з ім,— яны ажываюць у дзеяннях заходнегерманскіх рэваншыстаў...

Ірына расказвала нам, што нядаўна ёй давялося суправаджаць сюды аднаго прафесара з Германскай Федэратыўнай Рэспублікі. Убачыўшы жахі Асвенціма, вучоны... пакрыўдзіўся:

«Я прыехаў у Польшчу для навуковай працы, а вы мне падсоўваеце бальшавіцкую прапаганду!..»

Што ж,— таксама «ўласныя думкі», з якімі ён не адзінокі,— на захадзе многія або не вераць, або «не могуць уявіць сабе», што немцы маглі быць такімі звярамі. Франкісты дык тыя наогул распінаюцца ў сваёй прэсе наконт высокай гуманнасці і выхаваўчай ролі гітлераўскіх канцлагераў...

Пра Асвенцім ужо створана цэлая літаратура,— ад успамінаў беларускай дзяўчынкі Каці Жачкінай, якая на адзінаццатым годзе жыцця была адзначана асвен-

---

[1] Я маю ўласныя думкі.

цімскай татуіроўкай, да суровай, бязлітаснай праўды абвінаваўчага акта, складзенага чалавецтвам на руінах гітлерызму. Літаратура гэтая і яшчэ ўсё ствараецца, галасамі ўсё новых сведкаў напамінаючы нам пра небяспеку, заклікаючы нас да пільнасці.

Аднак жа, колькі б ні гаварылася, расказана будзе не ўсё... Нельга выказаць словамі ўсю бездань жаху, усю горыч чалавечых пакут, усё, што абрынаецца на душу ў Асвенціме.

—Як вы тут можаце трываць, таварыш? — пытаемся ў маладога экскурсавода.— Кожны дзень тое самае...

Ён паціскае плячыма, хвіліну маўчыць і адказвае коратка:

— Цяжка.

Так, цяжка нават мужчыну, салдату слухаць пра тое, што на рачулцы, якая працякае побач з былым крэматорыем, калісьці слой чалавечага тлушчу, змяшанага з попелам, быў такі густы, што камень, кінуты ў ваду, не тануў.

Цяжка ісці па доўгіх калідорах блокаў пад позіркамі закатаваных. Са здымкаў у іхніх асабістых справах пароблены цяпер вялікія партрэты, якія вісяць абапал калідора. Ты ідзеш паміж імі, як хадзілі калісьці скрозь строй, і міжвольна раз-пораз заплюшчваеш вочы — так сумна, так балюча глядзяць на цябе вочы старэнькіх маці!.. Усе яны старыя тут, бо ўсе зганьбаваны машынкай лагернага цырульніка, усе пакрыты маршчынамі бязмежнага гора... Бяда таму, хто ў дні вайны не быў салдатам, хто не зможа сумленна сустрэцца вачыма з іх позіркамі!..

А найцяжэй, найбольш балюча думаць тут пра дзяцей...

Сябры мае — дзеці нашай краіны, польскія дзеці, якіх так многа давялося мне ўбачыць, дзеці — радасць і прыгажосць усіх народаў свету! Пра вас я думаю, выехаўшы з пекла мінулага на сонечную дарогу.

Я ведаю савецкага прафесара-артапеда, які за свой век ашчаслівіў нямала людзей. У шасцідзесяты дзень яго нараджэння ў клініку прыйшло многа дзяўчат з букетамі. Прафесар выйшаў з аперацыйнага зала на калідор нездаволены тым, што вось зноў перашкаджаюць працаваць. Аднак, убачыўшы гасцей, зразумеўшы,

што тут да чаго, закрыў рукамі твар і зарыдаў... Ад шчасця, ад вялікага чалавечага шчасця,— гэта былі тыя, не ўсе, а частка тых, каго ён калісьці ўратаваў ад калецтва.

Успамінаю яснавокую дзяўчынку, якая, як ніхто на свеце, умела ўсмешкай сваёй здымаць смутак з душы свайго бацькі. Яе таксама выратаваў ад калецтва вясёлы дзядуля-прафесар. Бацька дзяўчынкі — таксама, як і сябры яго, былы салдат — хацеў, здаецца, цалаваць старыя рукі вучонага... Не здаецца, а так,— я разумею яго пачуцці, і не таму, што мяне ўжо даўно называюць паэтам, а проста таму, што тая дзяўчынка — мая дачка.

Пазаўчора ў Шчэціне, на нашай сустрэчы з літаратарамі выступала маладая польская артыстка. Светлакосая прыгажуня з ямачкай на падбародку, и блакітнымі вачыма. Хвалюючыся, як дзяўчынка, яна чытала сардэчны і мужны верш Твардоўскага «У абарону міру», а потым тлумачыла сваё хваляванне тым, што яна — ужо маці, якая не хоча вайны...

Як часта на вачах маіх сяброў, зусім не плаксівых людзей, заўважаў я здрадлівыя, няпрошаныя слёзы захаплення, калі яны, былыя салдаты, слухалі песні дзяцей!

Не, не таму толькі мы любім іх, што і самі ўжо сталі бацькамі. І не таму толькі мы любім спакойнае неба і стваральную працу, не таму мы гатовы памерці за мір і свабоду. Ніхто не можа так любіць дзяцей, ніхто не можа так шчыра глядзець у вочы сяброў, як тыя, чый свет пачуццяў і думак заключаны ў простыя, глыбокія словы — людзі добрай волі.

Воляй гэтых людзей пераможана цемра фашызму. У дружбе з імі расцвітае польская зямля.

Вось яны — жывыя кветкі гэтай прыгожай зямлі. Яны яшчэ спалі, пакуль мы ехалі ў лагер па вясёлых, чысценькіх вуліцах гарадка Асвенціма. Дзяўчынка і хлопчык — блізняты. У чырвоных куртачках і белых панчохах, абое светлавалосыя, кучаравыя. Ідуць яны, пабраўшыся за рукі маладое маці. Хлопчык справа, ад прысадаў. Махае ручкай, варушачы пальцамі.

На хаду заўважаю — з галіны старога клёна, некалькі крокаў перад хлопчыкам, асядае, пакалыхваецца, вялікі, як далонь асілка, пажаўцелы ліст. Калі

ўпадзе перад імі — хлопчык напэўна пусціць маміну руку і пабяжыць, падніме. А можа, ліст асядзе на светлыя стружкі яго валасоў — пяшчотным дотыкам нашай, бацькоўскай рукі?.. Шкада, што мінулі,— не ўбачым...

— Закурым, дарагі таварыш Аляксандар!

І хочацца дадаць, што хораша ўсё ж такі жыць на зямлі!..

## 12

Ці не зашмат я гавару пра касцёл і ксяндзоў? Нават і папу трывожу. Ці не залішне запала мне ў душу, яшчэ ў юнацтве, перасцярога Славацкага: «Польшча, твая пагібель у Рыме!..»

У гэтым, што пішу, зусім няма літаратурнай выдумкі. З касцёлам у Польшчы сустракаешся часцей, чым хочацца. Паспрабуй, напрыклад, не думаць пра яго ў Кракаве, дзе на чатырыста тысяч жыхароў — сорак кляштараў і дваццаць сем касцёлаў. На кожным кроку сустрэнеш ксяндза, двух-трох даўгаполых клерыкаў-семінарыстаў, адну ці некалькіх манахіняў у белых, накрухмаленых капелюшах — нешта накшталт святога верталёта. І ўсё гэта працуе, усё актыўна, «явно и тайно образующе», займаецца прапагандай.

Калі мы, пасля наведання Асвенціма, ужо ўсёй групай, на трох машынах выехалі з Кракава ў Закапанэ, на ўскраіне горада заўважылі адзін незвычайны аб'ект будаўніцтва — касцёл у рыштаваннях, незакончаны.

— Няўжо не хапае тых, што ёсць?

— Уявіце сабе,— пачуўся адказ,— што ўсё гэта яшчэ на дзяржаўнай датацыі.

Ірына ўсміхнулася.

— Што?

— Ды ўспомнілася, як ехалі вясной са Сталінграда. Таксама вось на машыне. Шафёр, зусім малады хлапчына, убачыў ксяндза і ціха вылаяўся, пакруціўшы галавой. «Я ненавіджу іх,— адказаў ён на маё здзіўленне.— Змалку пачаў ненавідзець». І расказаў мне пра сваю першую камунію [1]. Было гэта перад вай-

---

[1] Прычашчэнне.

ной. Разам з сябрамі, з усім класам вясковай школы, ён, малы Стась, пайшоў упершыню прычашчацца. Як да бога, пайшоў да пробашча, з усёй дзіцячай верай. А ксёндз праверыў нейкі свой спісак і кажа: «Стась, твая маці не заплаціла касцельны падатак. Ідзі дахаты!» Стась са слязьмі накінуўся на маці. Бедная ўдава — адкуль тут узяць? — бязбожна адказала малому лазінай. Ён затаіў на яе злосць і сам пачаў арганізоўваць падатак, цішком. Тры курыцы было дома — многа яек не нанясуць. І вось малы пачаў красці суседскія. Яго злавілі і ўпершыню назвалі злодзеем. «А праз каго?» — усміхнуўся шафёр.

Пачынаецца Падкарпацце.

Асфальт шашы спакваля ўздымаецца ўгару, пагоркі раз-поразу большыя. На пагорках — усе адценні зеляніны. Жоўтыя свечкі лубіну акроплены яшчэ не знятай сонцам расою. Стары клён па ствале аброс лістамі. Злева — амаль да самай дарогі прыцёрся берагам Бялы Дунаец. У машыне чуваць, як шуміць яго вада, нібы наспех разлітая на каменні. Каламутная, як быццам недзе там, вышэй, нехта наладзіў вялікае мыццё бялізны.

Нясмела накрапвае дожджык.

Гуральскія хаты. Вуглы — «замок» — памаляваныя пад шахматную дошку, нібы палоскі на таксі. На шчытах драўляныя промні сонца. Пазы пакрытыя фарбай. Прыгожа.

У чарговай вёсцы з дзвярэй такога лялечнага доміка, каля акна якога старая сівая каза грызе траву, дзяўчынка выйшла з тазам вады. Гаспадынька хацела выплеснуць яе на дарогу, але ў пару ўстрымалася. Звонка смяецца, гледзячы на нашы машыны,— каму ж з гэтых паноў ды паняў дасталося б?..

Вёска вяртаецца з касцёла: салідныя дзядзькі ў капелюшах, з парасонамі, жанчыны, дзяўчаты — па дзве пад адною вялікай хусткай. Пра нешта шэпчуцца. Ну, вядома, пра што...

А дождж цярушыць.

Палосы поля ідуць упоперак гары. Зноў жоўты лубін — на схіле яра. На лубіне — вялікая цёмная яліна. Абапал асфальту мільгаюць шэра-бела-чырвоныя слупочкі. Прыгожы драўляны касцёл пры дарозе,— малы, любоўна зроблены нейкім мясцовым цес-

ляй і разбяром. Чым далей, тым больш ядлоўцу, які і тут, як у нас над Нараччу, даволі ўдала «працуе пад кіпарыс». Смрэкі — елкі — высокія, тонкія, хоць ты бяры ды чысці такою лямпавае шкло. Каля хат соххнуць на старчаках фасоля або хмель, пакрытыя каўпаком з кулявое саломы. Чырвань і золата лясоў.

І ўсё вышэй, вышэй узбіраецца наша дарога. Направа адсланілася вялікая глыбокая даліна, на якую часта глядзім праз рэдкі, стрункі сасоннік. Недзе там, за далінаю — Татры, пакрытыя снегам вяршыні гор. Як прыкра, што дождж не сціхае, што імглістае неба асела так нізка!..

Думаю пра мінчанку Цвяткову, асвенцімскія ўспаміны якой чытаў нядаўна... Асвенцім стаіць на балоцістай даліне. Вельмі часта халодны туман пакрываў нявольніцкі лагер. Былі, аднак, дні, асабліва зімою, калі на поўдні ў сонцы сінелі-бялелі вяршынямі горы. З тугой глядзелі на іх змучаныя, асуджаныя на смерць паланянкі, пра іх гаварылі, адтуль чакалі свабоды. «Там, у гарах, партызаны. І, хто ведае, можа, адтуль прыйдзе да нас вызваленне...»

Гарадок Новы Тарг.

На рынку з акна машыны бачу першага газду. У польскіх горцаў, гураляў, так называецца гаспадар, селянін. Вусаты дзядзька схаваўся ад дажджу пад сцяну камяніцы. Хадакі, накрыж падвязаныя на лытках раменьчыкамі, белыя суконныя порткі, кароткая накідка і чорны, званком, капялюш. У руцэ славуты тапорык — цюпага. Прыйшоў стары газда, відаць, не на выступленне мастацкай самадзейнасці, а ходзіць так штодня.

Машыны нашы спыняюцца каля Дома піянераў. На калідоры чуваць — направа, за дзвярыма, шуміць вясёлая дзетвара. Ідзём налева. Уваходзім у невялічкі пакой-музей. Тут у жніўні 1914 года сядзеў, арыштаваны аўстрыйскімі жандарамі, Ленін. Некалькі хвілін урачыстай цішыні,— аглядаем скромныя экспанаты, з хваляваннем пішам некалькі слоў і ставім свае подпісы ў кнізе наведвальнікаў. Выходзім.

Хутка Паронін...

І вось — у даліне і на схілах гор маляўніча раскінулася вялікая вёска Бялы Дунаец. Чыгуначны вакзал, куды так часта прыходзіў Ільіч. Далей, над шум-

наю рэчкай, стаіць славуты Паронінскі дом-музей імя У. І. Леніна. Калісьці гэта была гаспода, карчма багатага газды, у якой летам 1913—1914 гадоў праходзілі падпольныя нарады кіраўнікоў РСДРП.

Перад домам, на п'едэстале — Ільіч. З плашчом на левай руцэ, глядзіць на поўнач, дзе шумяць новым жыццём палі Народнай Польшчы.

Зноў успамінаю тугу і надзею асвенцімскіх паланянак, якія з-за дратоў глядзелі на гэтыя горы...

Цяпер у гэтую вёску, дзе калісьці бурлівы, нястомны геній Леніна рыхтаваў прыход Кастрычніка, прыходзіць шмат людзей. У дзень нашага прыезду, 9 кастрычніка, да дзвюх гадзін дня музей наведала шэсцьсот чалавек, за месяц польска-савецкай дружбы — сорак адна тысяча.

Уваходзім у светлыя пакоі дома-музея.

Над дзярыма — аленевы рогі. Стол, лямпа, лавы — усё як было ў тыя дні. Сцены з бярвенняў магутнай горнай сасны. Нібыта непрыкметна для іншых, мераю аўтаручкай — бервяно на чатыры ручкі. У пазах, замест моху, пляцёнкі са стружак. Прыгожа.

Малады мужчына, экскурсавод, паказвае нам экспанаты. Фота, рукапісы за шклом. Пісьмо Надзежды Канстанцінаўны на польскай мове. Упершыню чую, што ўлетку 1914 года сярод палякаў, якія паручыліся за арыштаванага Леніна, былі пісьменнікі Жаромскі і Оркан, сын мясцовае беднаты.

Едзем назад у Бялы Дунаец, да дома, у якім двойчы адпачываў Ленін. Машыны застаюцца на шашы, а мы па гразкай дарозе ідзём да сасновага дома з мезанінам. Палавіну яго па-ранейшаму займае гаспадар, сын таго газды, у якога наймаў дачу Ленін. Даведваемся, што гаспадара няма дома. Шкада — ён памятае Ільіча.

У хаце чыстая скромнасць і ўрачыстая цішыня. Пакой старое маці Надзежды Канстанцінаўны. Спальня. Кабінет Леніна. Кнігі, якімі ён карыстаўся. Стол, на якім ён пісаў.

Успамінаю ленінскія «Пісьмы да родных», якія нядаўна чытаў,— пісьмо адгэтуль да сястры Маняшы. Пра цудоўную татранскую прыроду, пра беднасць гураляў, пра вёску — амаль рускую па тыпу, пра тое, што «Надзя тут, пры спакоі і горным паветры, паправіцца»...

На сцяне — партрэт Надзежды Канстанцінаўны. Малады, разумны і валявы твар вернай сяброўкі і памочніцы Ільіча.

Адгэтуль Ленін пісаў на Капры Горкаму, запрашаючы яго прыехаць і «добранька адпачыць». Колькі абаяльнай скромнасці, чалавечай прастаты! З гэтага рабочага пакоя — з пахам сасновай жывіцы і подыхамі сонечных Татраў у расчыненае акно,— адгэтуль выпраменьвалася сіла ленінскай думкі, з якой нарадзілася наша сапраўднасць.

Доўга стаім тут, уражаныя ўрачыстай цішынёй, пасля выходзім і толькі на двары накрываем галовы.

Узыходзяць на памяць словы чаканага верша:

> Гураля хата,
> якіх нямала
> у гэтым краі
> арлінай волі:
> такія ж сцены
> з хваін трывалых,
> такі ж арнамент
> на бэльках столі...

Можна было б сказаць славечка аўтару гэтых радкоў, але Танк адкажа толькі, нібы адгоніцца: «Угу...» — бо і ён, як усе мы, заняты сваімі думкамі...

Закапанэ было да самых дахаў накрыта імглою. Татры сустрэлі нас непрыветна. Як быццам у парадку кампенсацыі за гэта, гаспадары пачаставалі нас выдатным гуральскім абедам, пасля якога мы, набыўшы сякія-такія татранскія сувеніры, накіраваліся дахаты.

Недзе паблізу Новага Тарга — у імгле і паўцемры — абочынамі шашы газды ў капелюшах і накідках гналі з гор у даліну чароды авечак. Малапрыкметная светла-шэрая маса варушылася і бэкала на сотні галасоў, а зверху, над авечкамі, чулася ўладная і вясёлая пераклічка пастухоў.

Сёння добра спяваецца. І мы, пад ціхую песню, доўга імчымся па блiскучым ад фараў асфальце — з гор у даліны, у Кракаў, дзе ўжо чакае нас цягнік.

## 13

Палякі любяць сваю гісторыю.

Пачынаючы ад біскупінскага лужыцкага гарадзішча і да цудоўнага ў сваёй суровай велічы абеліска на

Акэнцю ў Варшаве — помніка польска-савецкай воінскай славы,— усё тут ахоўваецца з любоўю.

На Вавелі — «польскім Крамлі» — у задуме стаялі мы каля саркафагаў двух непараўнаных каралёў — «каралёў духа» — Міцкевіча і Славацкага. На кракаўскім рынку, амаль непрыкметная для прыезджага, сярод каменняў старога бруку выдзяляецца цэментная пліта і надпіс: на гэтым месцы Касцюшка прысягаў народу ў дні паўстання 1794 года. Магілы Вестарплята і Гдыні. Сэрца Шапэна. На сцяне старой друкарні ў Торуні — мемарыяльная дошка: тут, упершыню на польскай зямлі, у 1858 годзе быў надрукаваны «Пан Тадэвуш». Свежыя кветкі каля печаў Асвенціма. Дом-музей Яна Матэйкі. Сасновы дом у Пароніне...

Усюды новае, прагрэсіўнае пераклікаецца з тым, што ніколі не затрэцца ў памяці народа.

У Кракаве бачылі мы надпіс на скрыжаванні вуліц. Белая табліца: «Вуліца Святога духа». Святы дух перакрэслены накрыж чырвонаю фарбай. Побач другая табліца, з новай, паэтычнай назвай: «Вуліца Вясны народаў».

Гэта здалося мне сімвалічным.

Палякі любяць сваё мастацтва.

Яно, як і гісторыя, стваралася на працягу стагоддзяў. Каб паглядзець усё, што не паспелі або чаго не змаглі знішчыць гітлераўскія захопнікі, патрэбна не два тыдні. Зрэшты, і на працягу гэтых двух тыдняў мала было гадзін, якія мы маглі аддаць музеям. І ўсюды мы спяшаліся — ад прагнасці, ад недахопу часу.

Ёсць, аднак, творы мастацтва, каля якіх нельга не спыніцца, хоць на некалькі дарагіх хвілін забыўшыся пра ўсё іншае.

Так мы стаялі перад разьбой па дрэву выдатнага скульптара Віта Ствоша.

Больш чатырох стагоддзяў геніяльная творчасць яго была недаступнай для простага чалавека. Ствошаўскія скульптурныя групы ўпрыгожвалі алтар Марыяцкага касцёла,— перад імі маліліся, глядзелі на іх знізу ўверх, як на нешта нябеснае. Цяпер апосталы, чэрці, грэшнікі і сама дзева Марыя перанесены ў залы Вавельскага музея; яны перасталі быць хто святым, хто праклятым, а сталі проста творамі вялікага мастацтва.

Грамадзяне новай Польшчы глядзяць на іх «з вока на вока», толькі цераз музейны шнурок, аддаючы належную даніну захаплення, удзячнасці багатай душы, непаўторнаму таленту сына народа [1].

Не баюся, што назавуць дылетантам,— рукі дзевы Марыі, цудоўныя, здаецца, цёплыя рукі маладое жанчыны-маці напамінаюць мне заўсёды рафаэлеўскую Мадонну. Заўсёды — таму, што гляджу на іх часта, паказваючы сябрам багаты ствошаўскі альбом. У арыгінале дрэва дыхае яшчэ больш адчувальна.

Падзямелле салянай капальні Вялічка. На глыбіні ста васьмі метраў мы аглядалі славутую капліцу з крышталёвай солі. Стары шахцёр паказваў нам алтар, скульптуры ў нішах, люстры, выдатна зробленыя з солі яго калегамі па працы — братамі Макоўскімі, скульптарамі-самавучкамі. Калі мы падняліся з шахты, стары некуды знік, а пасля паказаўся з дзвярэй у параднай шахцёрскай шапцы з зялёным султанам, з вялікім букетам у руцэ.

— Ад польскіх гарнякоў,— з усмешкай сказаў ён, падаючы нам кветкі і кожнаму па сувеніру — па празрыстаму саляному арлу.

Ва ўсмешцы старога апроч сардэчнай шчырасці рабочага вельмі прыкметнай была гордасць гаспадарастваральніка, які дае жыццю прыгажосць.

Варшаўскі Нацыянальны музей.

Гістарычныя палотны Матэйкі, якія хочацца назваць магутнымі: «Грунвальд», «Рэйтан», «Канстытуцыя 3 Мая», «Пропаведзь Скаргі»...

Поўныя сонца і любасці да простага чалавека карціны Халмоньскага: «Буслы прыляцелі», «Бабіна лета»...

Гярымскі, Гротгер... Апошні чамусьці напамінае мне заўсёды Гаршына: не столькі, відаць, за яго антываенныя матывы, колькі таму, што захапляцца імі я калісьці пачаў адначасна...

Нельга было не ўсміхацца, гледзячы на чародкі наймалодшых экскурсантаў — школьнікаў. Па камандзе настаўніка яны садзіліся на дыванах ці проста на

---

[1] Разьба Віта Ствоша зноў перанесена ў Марыяцкі касцёл. Увосені 1957 года я любаваўся ёю знізу ўгару. Таксама вельмі прыгожа.

паркеце і пільна ўглядаліся, з дзіцячай цікаўнасцю слухалі экскурсавода. Хоць ты бяры ды сам садзіся разам з імі,— каб лепей усё паглядзець.

Праўда, глядзець хацелася не ўсё, а спыняцца не ўсюды.

І мы, і школьнікі не спыняліся ў тых залах, дзе на сценах былі карціны, якія на мове нашай, дарослых людзей, называюцца абстрактнымі, а на мове дзяцей — проста незразумелай і нуднай мазнёй.

Праходзячы каля яе, я ўспомніў нядаўні расказ аднаго нашага спадарожніка.

Калі мы ехалі з Быдгашча ў Біскупін, малады вясёлы паляк расказваў, як праходзіў у іх «мічурынскі тыдзень», якім сёлета пачаўся месячнік польска-савецкай дружбы.

На ваяводскім з'ездзе польскіх мічурынцаў выступаў адзін селянін-мічурынец, які нядаўна стаў брыгадзірам сельскагаспадарчага кааператыва. На палях яго брыгады ў гэтым годзе выдатна ўрадзіла кукуруза.

— А як вы вясной ваявалі з варонамі? — пачулася пытанне з залы.— У нас яны, псяя іх маць, павыдзёўбвалі ўвесь пасеў.

— Мы спраўляліся вельмі проста,— адказаў брыгадзір.— Раскалацілі дзве бочкі мелу, узялі па вялікаму квачу, ну, і давай разводзіць абстрактывізм...

— Які такі абстрактывізм? Чаму ж нам яго не прыслалі?

— І самі можаце прыдумаць, не маленькія. Там трохвугольнік на пасеяным наляпаў, там квадрат, там кола, а там — д'ябал ведае што, так сабе выкрутас ці загагуліну...

— Ну і што?

— А што ж, варона падляціць і давай прыглядацца. Сама надзівіцца не можа, ляціць па другую, тая — па трэцюю. Чарадою зляцяцца, глядзяць зверху ды каркаюць ад захаплення. А кукуруза тым часам расце. Так і вырасла.

Той селянін напэўна быў у музеі, на сценах якога развешаны ўзоры абстрактнага мастацтва.

Палякі любяць...

Зрэшты, што гэта за пералік? Што я пішу — навуковае даследаванне ці проста дарожныя ўражанні літаратара?..

Гэта — не пералік, не строгая канстатацыя фактаў, а падступ да маёй галоўнай думкі. Не прэтэндуючы на адкрыцці, маю, здаецца, сціплае права і я паўтарыць вядомыя словы Маякоўскага. «Я жыў залішне мала, каб выпісаць правільна і падрабязна дэталі. Я жыў дастаткова мала, каб правільна даць агульнае». Я не толькі маю права,— я не мог не вынесці са свайго кароткага падарожжа па Польшчы адной, асноўнай, думкі, аднаго, галоўнага, ўражання. Свабодна і проста гэтыя думка і ўражанне ўкладаюцца ў чатыры словы:

Палякі любяць сваіх сяброў.

На працягу стагоддзяў Польшчу палохала здань «москаля-заборцы» — рускага захопніка, здань царскага жандара і чыноўніка. Паміж імі і рускім народам ніколі нельга было ставіць знак роўнасці,— пра гэта, на жаль, ведалі толькі нямногія палякі, сябры прагрэсіўнай Расіі. Працоўныя нашых краін былі пазбаўлены права на дружбу. Гэтай векавой несправядлівасці палажыла канец Кастрычніцкая рэвалюцыя. Аднак ворагі яе нямала зрабілі для таго, каб напалохаць польскі народ уяўнай зданню «бязбожнага бальшавізму». Гэтай несправядлівасці паложаны канец у наш час, пачынаючы з той векапомнай раніцы, калі пад вёскай Леніна пачаўся наш агульны бой за сённяшнюю свабоду і шчасце братняй дружбы.

Што да сясцёр Расіі — Украіны і Беларусі, дык тут выступае ў памяці двух нашых народаў не ўяўная, а лішне нават адчувальная здань пана-захопніка, якога мы ніколі не лічылі прадстаўніком польскага працоўнага народа. Сярэдневяковае крэда крывавага Ярэмы Вішнявецкага: «Забівайце іх так, каб адчувалі, што паміраюць» паслядоўна пераклікалася з навейшым, мадэрнізаваным крэда пілсудчыны: «Неабходна ўсё тамашняе насельніцтва з верху да нізу падвергнуць такому тэрору, каб у жылах яго застыла кроў». Словы *іх* і *тамашняе* датычыліся беларусаў і ўкраінцаў.

І гэта стала толькі старонкай нашай гісторыі, у якой жывуць і будуць жыць перад усім імёны польска-ўкраінска-беларускіх змагароў за свабоду, пачынаючы ад Косткі Наперскага, легендарнага сучасніка Хмяльніцкага і Гаркушы, да імён герояў абедзвюх нашых рэвалюцый, даверасьнёўскага камуністычнага падполля і герояў апошняй вайны.

Натхнёнае слова Бранеўскага:

Podaj mi dłoń, Białorusi, podaj mi dłoń, Ukraino,
Wy mi dacie na drogę wasz sierp i młot niepodległy...

цудоўна пераклікаецца са словам Якуба Коласа:

Мае браты, мае суседзі,
свабодны, новы польскі люд! —

са словам Рыльскага:

Забулась крывава неслава,
гіркім не вернутись літам,
і руку воскресла Варшава
радяньскім стискае містам,—

пераклікаецца са словамі і пачуццямі ўсіх савецкіх народаў — верных сяброў народа польскага.

## 14

За акном, праз якое гляджу на свет, нараджаецца новы ранак.

Мінск ужо свеціцца тысячамі агнёў, грыміць трамваямі, пяе гудкамі. Не, ніколі не ўдасца прачнуцца раней за народ — ён заўсёды на варце!

Іду ў свой рабочы пакой і, як часта бывае, міжвольна хачу сказаць свайму сталу з паперамі і кнігамі: «Дзень добры».

Што ж, учора была пастаўлена кропка ў маім дарожным польскім дзённіку. А сёння ўжо гэтая кропка здаецца мне не апошняй.

Я хачу, я павінен закончыць тым, чым пачаў маё слова — вялікім, родным імем — Міцкевіч.

У дні, пакуль я пісаў, пакуль я зноў, другі раз жыў радасцю польскіх сустрэч, сустрэчы гэтыя прадаўжаліся. Зноў нараджаліся думкі, пачуцці...

Позняй ноччу, па свежым снезе, які так чыста іскрыўся пад ціхім святлом ліхтароў, ішлі мы, група пісьменнікаў, на Мінскі вакзал — сустракаць Уладзіслава Бранеўскага. Пасля, да позняй раніцы, я перачытваў вершы яго — мужны голас рэвалюцыйнай героікі, водар і колеры польскай зямлі...

Апоўдні з Варшавы прыйшоў самалёт. Новых гасцей — пісьменнікаў Яніну Бранеўскую, Леапольда Левіна і прафесара-міцкевічазнаўцу Вацлава Кубацка-

га — мы сустракалі цэлай сям'ёй. Побач з намі, беларусамі, стаялі пасланцы Масквы і Ленінграда, Кіева і Вільнюса — пісьменнікі тых народаў, з песняй якіх сплятаецца песня Міцкевіча.

Гэтай песні — ягонай і нашай — мы аддавалі любоў і пашану на юбілейным вечары ў Мінску. У гэтым настроі паехалі мы на радзіму паэта.

Прыдарожныя вербы, бярозы, таполі. Пакрытыя снегам узгоркі той зямлі, якая дала яго свету, па якой ён ■ сыноўнім болем тужыў на чужыне, прыгажосць якое ён непаўторна апяваў, шчасную долю якое прадбачыў.

Свіцязь. Аслоненае дубамі і ліпамі, ласкава пакрытае снегам малое возера, якое праз адну душу ўлілося ў вялікую паэзію.

Пракладаем па снезе сцяжынку ад машын да новага лёду, над якім яшчэ шуміць сухі, парадзелы чарот.

Бранеўскі спыняецца, здымае капялюш і шэпча:

Ktokolwiek będziesz w nowogródzkiej stronie...

Стары і новы Наваградак, горад на маляўнічых узгорках,— з руінамі замка, каля якога нараджаліся сурова-звонкія радкі «Гражыны», з Курганам неўміручасці, са светлым домікам каля прасторнай плошчы, які любоўна адноўлены клопатамі землякоў і шчырых чытачоў вялікага Адама.

На ганку гэтага доміка-музея зноў з непакрытай галавой стаіць Бранеўскі. Побач з ім іншыя палякі. Сотні вачэй глядзяць на іх: гасцей прыйшлі сустракаць жыхары Наваградка і навакольных вёсак. Люты вецер непакоіць сівізну паэта, але ў вачах яго маладосць. Ён пачынае проста:

— Мае дарагія сябры!..

Пасля з натоўпу чуецца па-сялянску, па-народнаму прастадушнае пытанне:

— Казалі, унук яго прыехаў. Дзе ён? Каторы?

Абапал прамоўцы стаялі пісьменнікі пяці народаў. І сам ён, адказ, нарадзіўся, загучаў з вуснаў Бранеўскага:

— Усе мы — унукі Міцкевіча.

На марозе гучалі воплескі, свяціліся ўсмешкі.

Яны гучалі ды свяціліся і ўвечары, у перапоўненай

зале раённага Дома культуры. Мы бачылі слёзы на валявым мужчынскім твары нашага старэйшага госця, калі наваградская моладзь іграла гімны — польскі і наш. І мы разумелі паэта,— мы хваляваліся так у многіх гарадах яго радзімы, мы хвалюемся так заўсёды, калі па-салдацку стаім, ахопленыя песняй нашай дружбы, нашай сілы.

...З чаго ж пачаць мне свой новы дзень?

На стале сабраўся цэлы стус пісем, на якія даўно ўжо трэба было адказаць.

З далёкага Гданьска мой аднапалчанін прыслаў нумары газеты з успамінамі ўдзельніка верасвёўскіх баёў. Яны прыдаліся мне вельмі.

«Паважаны і дарагі калега! — піша польскі пісьменнік Ежы Енджэевіч.— Дзякую за памяць і спагаду. Я атрымаў шасцітомнік Кузьмы Чорнага і цяпер зачытваюся ім. Выдатны майстар слова! Буду перакладаць яго з сапраўднай асалодай».

Школьнікі мінскай сярэдняй школы № 13 запрашаюць на літаратурны вечар, куды «запрашаюцца таксама польскія юнакі і дзяўчаты, студэнты беларускага універсітэта». Відаць, там папросяць мяне расказаць пра паездку ў Польшчу. Такі вечар адбыўся днямі на трактарным заводзе.

Усё гэта — кліча, цягне ў жыццё.

Пакуль што вазьмуся за пісьмы.

Бяру пяро, і на новым, чыстым аркушы хочацца не аднаму камусьці, а ўсім, хто піша мне, каму і для каго я буду пісаць, адрасаваць падказаныя сэрцам словы:

Дарагія сябры!

А кропкі ставіць не хочацца — дружба не ведае межаў і кропак.

*1955*

# НА ТЫМ БАКУ ПЛАНЕТЫ

Спачатку былі два акіяны: блакітны над намі і сіні — глыбока ўнізе.

У гэтай велізарнай, блакітна-сіняй ракавіне сямтам адсвечвалі перламутрам воблакі, а над імі разразала прастору сярэбранае крыло самалёта, што злёгку пагойдвалася, нібы ад радасці за чалавека-творцу.

У падвешанай калысачцы зусім па-хатняму спаў маленькі амерыканец. Бацька ягоны — доўгі, стракаты ад жоўтых вяснушак, які ў Парыжы заходзіў у наш самалёт па-цыркавому пацешна абвешаны клункамі і малечай,— сядзіць побач з мамай, таксама светларыжанькай і шчуплай, як падлетак. На каленях у гэтай пары — вясёлае мноства дзяцей.

З-за белых, зачахлёных спінак сядзенняў віднеліся профілі і патыліцы таямнічых лэдзі і джэнтльменаў, звычайных, бязлітасна тоўстых або падкрэслена худых.

Стройненькая, чарнявая сцюардэса з мілым французскім какецтвам дэманстравала нам сваё веданне рускай мовы: «Чай? Кофэ? Шампан? Я люблю вас! Спасибо́!..»

Старая чэшская бабічка ў квяцістай вясковай хустцы спачатку снавала з заклапочаным выглядам па даўжэзным праходзе, а потым спыталася ў тых, што гаварылі па-руску: «А дэ сэ ту за́ходзі?..»

Вышыня — толькі сем з палавінаю кіламетраў. Але і так парою весела здавалася, што мы стаім на месцы, мы сабе тут жывём, а недзе ўнізе пад намі — круціцца Зямля.

У праймах паміж хмарамі, што ішлі нібы крыгі па шырачэзнай рацэ, паказаліся сурова і халодна белыя

горы Грэнландыі. Праз нейкі час на сінім дне нашай ракавіны пачалі з'яўляцца айсбергі — смарагдовыя лодкі з белымі ветразямі, што, нібы чайкі, прадвяшчалі блізкі прычал. І сапраўды — вось паказаўся шэры россып астравоў, пасля — шэра-зялёны мармур мацерыка ў бясконцых латках азёраў. Лабрадор. Спакваля, чым далей на поўдзень, часцей заўважаецца след чалавека — спачатку толькі стрэлы дарог, а потым і палі, і будыначкі паселішч.

Прыкметна ідзём на зніжэнне.

Насустрач нам з зямлі люстэркамі пабліскваюць дахі фермаў, пафарбаваныя алюмініевай пудрай. Вясёлы, ужо суцэльны вітраж рознакаляровых і розных па форме палеткаў, над якімі, цягнучы невады сваіх ценяў, паўзуць чароды белых воблакаў. Прывольна разлілася магутная рака. Паказаўся жывы, вялізны макет шчодра зялёнага, акуратна спланаванага горада.

Ніжэй, ніжэй, ніжэй...

І вось яна — зямля, на якую мы ступаем з завоблачнай вышыні.

Адно з самых першых уражанняў:

Яшчэ ж толькі тры дні таму назад быў не бязмежны акіян, не Парыж, не Масква, нават не Мінск, а ціхая лясная вёсачка над Віліяй... Там я пакінуў малога сына. І мне так прыемна бачыцца, што ён цяпер, іменна ў гэты момант, нясе перад сабой заціснуты ў падрапаных катом руках жоўты, крыху пічарбаты збаночак малака, толькі што ад каровы. Басаноож, асцярожна ідзе па сцежцы пад соснамі, якія густа стаяць і за дваром і на двары, ідзе праз брамку ў старым частаколе, па сцежачцы паміж кветкамі... Вялікі шлях, ад хлява да хаты, і ў ім, дальбог жа, не менш хвалявання ды важнасці, чым у маім — турысцкім, міжкантынентальным!..

І як жа добра мне глядзець на тую сцежку ажно вось так здалёк — з другога боку планеты!..

Ды гэта — асабістае.

Мы ўжо ідзём па канадскім асфальце — нешырокай і доўгай дарожкай — да гмаху аэрапорта.

Навокал шмат сакавіта-зялёнай травы.

...Бывалыя людзі, члены нашай групы, казалі, што Канада вельмі нагадвае Англію.

Гаварылася пра гэта і ў вялікім прамысловапартовым Манрэалі, з яго шматпавярховым, разрэкламленым цэнтрам, з яго катэджамі і зелянінай на заможных ускраінах, з яго ракою Святога Лаўрэнція, па якой глыбока ў кантынент заходзяць акіянскія караблі. Успаміналі нашы бывальцы пра «горды Альбіён» і ў ціхай, багатай паркамі і вадою Атаве — горадзе банкаў, касцёлаў і дзяржаўных устаноў. Успаміналі і ў невялікім, яшчэ больш зялёным і ціхім Стратфардзе...

Аднак той самы Манрэаль вельмі выразна напамінае і пра Францыю,— мовай мноства жыхароў, мовай газет, рэклам, радыё, тэлебачання, архітэктурай. Ёсць тут нават і свой Нотр-Дам, раскошная копія парыжскага арыгінала.

Наогул, і ў Манрэалі, і ў іншых мясцінах правінцыі Квебек ёсць многае, што чалавеку, які пабываў хоць у адным толькі Парыжы, настойліва напамінае Францыю.

У Таронта, калі мы аглядалі яго гандлёвы цэнтр з амаль «дарослымі» небаскробамі, гасцінныя гаспадары, жартуючы, але з прыкметнай гордасцю гаварылі:

«А гэта наш Уол-стрыт, а гэта — Брадвей, а гэта...»

Словам, калі ўлічыць яшчэ аўтамашыны, рэкламы амерыканскіх фірмаў, паласатыя сцягі на некаторых будынках і іншыя, хоць бы знешнія адзнакі,— і ў Таронта, і ў іншых мясцінах Канады многа чаго нагадвае ЗША...

Нейкія спецыфічна канадскія рысы жыцця, культуры, побыту заўважыць тут вельмі цяжка.

Магчыма, для гэтага патрэбна не дзесяць турысцкіх дзён, а значна даўжэйшы час больш спакойнага ды грунтоўнага назірання, не тэндэнцыйна абмежаваныя паслугі мясцовых гідаў, а веданне англійскай мовы. І першага, і асабліва другога мне, як і многім у нашай групе, вельмі не хапала...

Калі гаварыць пра пейзаж паўднёва-ўсходніх раёнаў Канады, дык у правінцыі Квебек ён нагадвае нашу Гомельшчыну — яе раўніннае прыволле, лагодны, паступовы пераход да чыста ўкраінскай прыгажосці.

З акна аўтобуса і на фермах, дзе мы бывалі, прыемна было любавацца пірамідальнымі таполямі, дуба-

мі, клёнамі, алешнікам і вербамі над вадою. Толькі трохі дзічэй, чым у нас, толькі сям-там на зеляніне выступае густая кароста вечнай ледніковай камяністасці. Замест залатой збажыны, зялёнастракатых прастораў бульбы, удалай ці няўдалай кукурузы — тут, у гэтых жывёлаводчых раёнах, відаць пераважна ячшэ няспелы (у канцы ліпеня) авёс ды бясконцая цімафееўка. На адкосах дарог густа цвіце блакітны падарожнік, жоўтае купалле, сям-там дзікія ружы. Многа вады — то азёры, то рэкі. І рэдкія фермы.

Далей на захад, у правінцыі Антарыё, асабліва на Ніягарскай паўвыспе, пейзаж амаль украінскі — сады і вінаграднікі.

Зблізку мы аглядалі іх на адной украінскай ферме каля Гамільтона, дзе залацісты рыслінг і буйныя чарэшні каля белай хаты добра напомнілі мне залатое, песеннае наддняпроўе.

А як сумавалі па ім нашы гасцінныя гаспадары, што ў далёкім юнацтве ўцяклі сюды, за акіян, ад суровай дарэвалюцыйнай галечы!..

Такіх тут многа, і не сказаць пра іх,— значыцца, не сказаць пра Канаду, хоць бы пра знешні яе каларыт, вельмі многа.

Апроч былых каланізатараў, якія за даўнасцю год называюцца законнымі ўладальнікамі гэтай багатай зямлі, апроч новых прэтэндэнтаў на гаспадаранне яе лёсам ёсць у Канадзе шмат імігрантаў, у тым ліку славян.

Тры асноўныя стыхіі — англійская, французская і амерыканская — не столькі суіснуюць тут на працягу стагоддзяў, колькі змагаюцца за непадзельнае панаванне. Нягледзячы на тое, што французская мова побач з англійскай з'яўляецца тут дзяржаўнай, французскі ўплыў на жыццё Канады непараўнальна слабейшы за ўплыў англійскі і амерыканскі, якія, калі браць справу ў моўным аспекце, утвараюць амаль адно цэлае.

Імігранты-славяне, каб захаваць свой нацыянальны воблік, увесь час жывуць у змаганні з англасаксім міжкантынентальным шавінізмам. Лепшая, прагрэсіўная частка іміграцыі прымае актыўны ўдзел у агульнапралетарскім змаганні за правы працоўнага чалавека, у агульнанароднай барацьбе за мір. Тут вельмі мно-

га былых прышэльцаў з усходняй Еўропы, многа і нагогул, і адносна да насельніцтва іх «новай бацькаўшчыны». Яны жывуць, працуюць там ужо блізу стагоддзе, даўно і трывала стаяць на перадавых пазіцыях, ведучы за сабою другіх, і таму, бясспрэчна, маюць права з законнай гордасцю называць і сябе будаўнікамі эканомікі Канады, гаварыць і пра свой станоўчы ўплыў на яе культуру.

Недаравальна было б не ўспомніць чалавечым словам пра народ, які ўжо не толькі даўно не лічыцца гаспадаром гэтай зямлі, але і згадваецца ў нейкім музейна-запаведніцкім плане...

Індзейцаў турыстам паказваюць тут з сур'ёзнасцю і пашанай куды меншай, чым мы, напрыклад, паказваем белавежскіх зубраў.

У першы наш заакіянскі дзень, адразу пасля Нотр-Дама і шлюзаў Св. Лаўрэнція, нас павезлі, як сказаў гід, у індзейскую вёску Канавагва.

У гэтым крыкліва-экзатычным паселішчы, дзе больш за ўсё было відаць ларкоў з тамагаўкамі, вігвамчыкамі і кары, маскамі, лукамі і іншай сувенірнай дробяззю, нас урачыста сустрэў дзівосна прыбраны ў пер'е правадыр адпаведнага племені, ён жа па сумяшчальніцтву і «файерпокер», ахоўнік вогнішча, нешта накшталт шамана.

Спачатку ён вельмі ахвотна, нібы забыўшыся пра ўсю дыпламатычную значымасць моманту, і сам, і ў абдымку з некаторымі турыстамі пазіраваў перад усімі фотаапаратамі, а потым — пачаў маліцца.

Падпаліў у нейкіх начоўках кару, патупаў вакол дыму, шастаючы бубнам, падобным на мандаліну, поўную гароху, пагудзеў нешта, а тады накрыў сваё вогнішча чорнай, па ідэі — бабровай шкурай. Ідучы насустрач пажаданню гіда, ён растлумачыў нам сэнс малітвы (за наша, вядома, здароўечка), уперамешку з англійскай мовай сказаў некалькі фраз па-іракезску, а потым... потым стаўся нечаканы цуд!..

Свядома ці несвядома грозна-ўрачысты правадыр і ўсемагутны шаман прараніў адно слова... па-польску: «дзенькуе!»

Наша вясёлае меркаванне, што гэты падазрона нясклёпісты, вахлакаваты Манцігома Ястрабіны Кіпець

хутчэй за ўсё — адэскі ці бабруйскі сваячок Астапа Бэндара, так сказаць, пацярпела папраўку.

Манцігома, калі я загаварыў з ім па-польску, развёў у зямляцкай усмешцы сваё чырвонае, выпасенае на турысцкай наіўнасці мурло і ахвотна прызнаўся, што ён — адзін з самых прамых ды законных нашчадкаў славутага кантара з Ломжы.

У гэтай пацешнай, непрыдуманай навеле пра яшчэ адну форму бізнесу ёсць свой падтэкст — і глыбокі, і сумны.

Я ўспамінаў ці, лепш сказаць, па-новаму перажываў яго ў Стратфардскім музеі, перад палотнамі Эміліі Кар, напісанымі на індзейскія матывы, з жыцця плямён, ізаляваных у рэзервацыях.

Асабліва запомніліся дзве сасны на вырубе — старыя, самотныя сосны. І надпіс, што прымушае задумацца: «Праклятыя людзьмі, аднак любімыя богам».

Аўтарскі жаль і горкі роздум над лёсам абарыгенаў відаць быў і ў стылізаваным пад народную разьбу вобразе маці-індыянкі, што ратуе ў сваіх — якіх жа бездапаможных — абдымках дзіця, сімвал народнага мастацтва, асуджанага на пагібель...

Хто яго ведае,— ці ратуючы гэтае мастацтва, ці проста, як той Манцігома, толькі што з большым культурным шыкам, робячы на ім фестывальны бізнес,— тут жа, пад дахам музея, працаваў нейкі другі мастак. Здаравенны джэнтльмен у беленькай нейлонавай кашулі і «пад бабачкай», ён з-за вуха, з поўнай абыякавасцю да прысутных, лупіў спецыфічнай сякерай па здаравеннай калодзе канадскага дуба, высякаючы «тотам» — бажышча.

Паблізу ад гэтага джэнтльмена працавала не менш шыкарная лэдзі — вырэзвала з дрэва маскі, без слоў і жэстаў, а толькі стусікамі візітных картачак ці то адказваючы на магчымыя пытанні зацікаўленых, ці то зусім па-дзелавому прапануючы ім свае паслугі.

Сімпатычная работніца музея з важнай аб'ектыўнасцю не зусім яшчэ дарослай міс паведаміла нам, што лэдзі-мастачка — індыянка па бабулі ці нават як быццам па маме...

Больш індзейцаў нам не давялося ўбачыць.

Зрэшты, поўдзень правінцый Квебек і Антарыё, у якіх мы былі,— гэта толькі маленькая частка Канады.

Тут, у найгусцей заселеных і найбольш культурных раёнах краіны, індзейцы, як нам вядома было, жывуць у асобых паселішчах, куды, як з галантным жалем паведаміў містэр гід, турыстаў звычайна не возяць...

Яшчэ ў маленстве, ад самога Марка Твэна мы чулі, што ў землякоў яго быў звычай называць свае новыя гарады іменамі гарадоў еўрапейскіх.

А ўсё ж, і ведаючы гэта, прыемна было з Таронта за нейкіх пару дзесяткаў мінут прыляцець у Лондан, а з Лондана, аўтобусам, таксама менш чым за гадзіну, прыехаць у Стратфард...

Гэта дваццацітысячны гарадок з тэкстыльнай, мэблевай і харчовай прамысловасцю, з невысокімі камяніцамі і ўтульнымі катэджамі ў шчодрай зеляніне, з ідылічнымі сажалкамі, каля берагоў якіх белыя і чарнапыя лебедзі злосна шчыкаюць турыстаў за надакучлівыя фотаапараты.

Атмасфера тут настолькі ўжо англійская, што і гасцініца, у якой мы размяшчаліся, называецца «Віндзор», і ў вестыбюлі яе, на самым алтарным месцы, дыміць цыгарай за шклом бравы сэр Уінстан Чэрчыль.

Але Стратфард, канадскі Стратфард, славен не гэтым.

Пачынаючы з пяцьдзесят трэцяга года тут кожнае лета, з канца чэрвеня да палавіны верасня, адбываюцца шэкспіраўскія фестывалі, слава якіх пераступіла ўжо цераз абодва акіяны.

Душой гэтай справы быў і застаецца прагрэсіўны канадзец англійскага паходжання, энтузіяст Шэкспіра і друг нашай краіны Том Патэрсан — журналіст і грамадскі дзеяч.

Іменна ён, з групай сваіх калег, работнікаў мастацтва, прымаў нас у гэтым арыгінальным тэатры з гасціннасцю сапраўды сяброўскай.

Першыя чатыры сезоны фестываль праходзіў у часовым памяшканні, пад брызентавым дахам, і тэатр у той час насіў імя «тэатра пад тэнтам». Але гэта былі не першыя і не найбольшыя цяжкасці.

У пачатку пяцьдзесят другога года група стратфардскіх шэкспіраўцаў сабрала сто дваццаць пяць долараў і, узброіўшыся ўсім гэтым тэатральным фондам,

Том Патэрсан паехаў у Нью-Йорк — на пошукі «зорак», якія згадзіліся б паслужыць высакароднай справе. Вярнуўся з пустымі рукамі. Тады сябры звярнуліся ў Лондан (у той, заакіянскі), да славутага тэатральнага дзеяча Тайрана Гатрые. «Неверагодная мара», як называлі многія ўсю гэтую задуму, пачала нечакана здзяйсняцца. Гатрые загарэўся ідэяй стварэння новага шэкспіраўскага тэатра, згадзіўся стаць яго галоўным рэжысёрам. Ад яго і Патэрсана спакваля пачалі загарацца іншыя — і ў Англіі, і тут, у Канадзе. Знайшліся празорлівыя ўкладчыкі і сапраўдныя работнікі мастацтва, і ўжо ўлетку наступнага года ў старым стратфардскім парку, растрывожыўшы лебядзіную ціш, заігралі традыцыйныя трубы, абвяшчаючы пачатак першага спектакля.

Новы гмах тэатра пабудаваны ў пяцьдзесят шостым годзе.

Здорава ён выглядае — заліты сонцам, лёгкі і светлы, на першы погляд вельмі падобны да вялікага цырка ці, яшчэ больш, да круглага павільёна на нейкай вясёлай, паўднёвай выстаўцы.

Настрой своеасаблівай радаснай устрывожанасці пачынаецца ўжо тады, калі на балконе, які апяразвае гмах паўкругам, з'яўляюцца фанфарысты, што старадаўнімі гукамі рэнесансавай музыкі замяняюць — і ў пачатку, і ў антрактах — сучасныя званкі.

Праз светлае прасторнае фае ты ўваходзіш у глядзельную залу. Вялікая, больш за дзве тысячы месц, яна ўзвышаецца амфітэатрам з трох бакоў. З чацвёртага боку ў гэты раскошны амфітэатр лёгкім узвышэннем з прыступкамі ўкліняецца адкрытая сцэнічная пляцоўка. Па шэкспіраўскай традыцыі — з елізавецінскімі балконамі і арыгінальна прымітыўнымі ўваходамі і выхадамі для артыстаў. Калі адны з іх выходзяць на пляцоўку ці на балкон праз дзверы, так сказаць, звычайныя, дык другія з'яўляюцца на сцэну з тунельных праходаў пад амфітэатрам і туды ж бягуць у роспачы або ў ваяўнічым запале. А трэція дык наогул вылазяць на белы свет з-пад зямлі.

Так, напрыклад, група афінскіх рамеснікаў з камедыі «Сон у летнюю ноч» — усе тыя пацешныя Пігвы, Мілягі, Дудкі і Рылы павылазілі адзін за адным, нібы з хатняга паграбка, прыпадняўшы века патайно-

га ўвахода на самым цэнтры пляцоўкі, параіліся наконт самадзейнага спектакля, размеркавалі ролі і зноў палезлі ў сваё падполле, па-гаспадарску зачыніўшы над сабою дзверы.

I самае цікавае — усе гэтыя далёкія сярэдневяковыя ўмоўнасці не здаюцца тут дзіўнымі,— так уражае, так зачароўвае непаўторны каларыт эпохі, то суровае, то паэтычна-вясёлае асяроддзе, куды вас адразу ўводзяць і выдатнае афармленне, і таленавітая ігра.

Дарэчы, спектаклі пачынаюцца заўсёды... стрэлам за сцэнай, ад якога ўсе — хоць бы і пяты ці дзесяты раз — нечакана ўздрыгваюць і весела разгамоньваюцца. На нейкі момант — таму, што тут жа трэба ўставаць і ва ўрачыстым маўчанні праслухаць велікабрытанскі гімн.

I яшчэ раз, дарэчы,— стратфардскі тэатр з'яўляецца, на думку знаўцаў, узорам вельмі ўдалага спалучэння шэкспіраўскіх традыцый з сучасным тэхнічным абсталяваннем. Аб гэтым сведчаць і дасканалая акустыка, і багата абсталяваныя майстэрні, і зручныя артыстычныя прыбіральні, і ўтульны кафетэрый.

Мы паглядзелі ўвесь рэпертуар сезона: «Сон у летнюю ноч», «Караля Джона» і «Рамэа і Джульету».

Не ведаючы мовы, вельмі цяжка захапляцца, асабліва тымі п'есамі, якія ты даўнавата чытаў або і не чытаў зусім. Прападае, не даходзіць да цябе ўся раскошная сіла шэкспіраўскага слова — і звонкае яго гучанне, і багаты гумар, і водар падтэксту. Сядзіш, злуешся то на сябе, за невуцтва, то на лёс, што не заўсёды табе спрыяў, то... на самога Шэкспіра, што мала і ў ягоных п'есах дзеяння: выйдуць людзі ці выбегуць, пастануць у позы і толькі бясконца гавораць штосьці — то па адным, то па двух, то гуртам...

Так было ў мяне з «Каралём Джонам», якога я перад тым і не чытаў, і не бачыў на сцэне.

Так было, пакуль не дайшло да першай сцэны чацвёртага акта, дзе суровы Х'юбарт, выконваючы каралеўскі загад, не змог асляпіць юнака Артура. Высокі драматызм і чалавечнасць тэксту ў спалучэнні з таленавітай акцёрскай падачай зрабілі сваё,— разам з усёй канадска-амерыканскай аўдыторыяй, разам з сябрамі і я ад душы біў брава і чарадзею аўтару, і сімпатычнаму падлетку Гэйварду Марзе — Артуру.

Трохі лягчэй было без мовы са шматфарбнай, дасціпнай камедыяй пра дзівосы адной летняй ночы.

А ў яшчэ лепш вядомай, шмат разоў бачанай, найжурботнейшай у свеце аповесці пра каханне пачалі нават заўважацца недахопы ігры. І амерыканка Герыс у ролі Джульеты, і італьянец Джэрусі — Рамэа гралі без асаблівага бляску. Ён быў проста цьмяны і вялаваты, а яна, замест пяшчотнай абаяльнасці, дэманстравала даволі развязную настойлівасць з нейкім надрыўным крыкам... Нельга сказаць, што мне было вельмі прыемна заўважаць плямы на фестывальных «зорах», але ж не варта замоўчваць і таго харошага пачуцця, з якім тады падумалася пра некаторых нашых айчынных Джульет і Рамэа.

Аднак не лішнім будзе яшчэ раз і з прыемнасцю сказаць, што наогул ігру акцёраў ва ўсіх трох спектаклях можна без перабольшання назваць і добрай і выдатнай.

Яшчэ больш прыемна было, калі ўсе гэтыя шэкспіраўскія дамы, рыцары і каралі, рамеснікі, эльфы і феі сышлі з падмосткаў і балконаў свайго сярэдневякоўя і сталі — на творчай сустрэчы з намі, а потым на хатніх прыёмах — проста цікавымі і мілымі людзьмі.

На сустрэчу з намі ў рэпетыцыйнай зале тэатра апроч драматычных акцёраў сабраліся музыканты фестывальнага аркестра і артысты аперэты.

Трэба сказаць, што стратфардскія фестывалі не абмяжоўваюцца толькі шэкспіраўскімі спектаклямі. Так, сёлета апроч пастаноўкі трох вышэйназваных п'ес у фестывальны комплекс уваходзілі спектаклі аперэты, фестываль кінафільмаў, сімфанічныя канцэрты з удзелам Леапольда Стакоўскага, семінар шэкспіразнаўцаў і міжнародная канферэнцыя кампазітараў.

Сустрэчай нашай кіраваў цяперашні мастацкі дырэктар фестывалю, адзін з самых таленавітых канадскіх рэжысёраў Майкл Ленгхам. З прыемнай прастатой і шчырасцю ён расказаў, як цёпла яго сустракалі нядаўна на нашай савецкай зямлі, пазнаёміў нас коратка з гісторыяй фестывалю і яго перспектыўнымі планамі.

Пасля на невялічкую эстраду ўзышоў любімец публікі, малады барадаты прыгажун, аўстраліец Гары Мосфільд, барытон. Адзін і з залам бліскуча і іскрыста ве-

села ён выканаў некалькі новазеландскіх і канадскіх народных песень.

Прыйшла чарга да гасцей. Калі раней, са словам у адказ дырэктару, цікава выступіў адзін з нашых вядомых вучоных, чалавек абаяльна культурны і сціплы, дык мастацкія магчымасці групы прадставіла эстрадная от сабе балерынка, больш пажылая, чым энергічная. Як на нашу савецкую шчодрасць, атрымалася да няёмкасці скупа...

Сімпатычны Майкл зноў узышоў на эстраду, і з той самай сваёй непасрэднасцю, нават з рукамі ў кішэнях штаноў, расказаў, што ён, салдат другой сусветнай вайны, пакутаваў разам з рускімі ў канцэнтрацыйным лагеры, што ён быў і застаецца пад абаяннем гэтых сапраўдных людзей — верных сваім высакародным ідэалам, мужных, простых і таленавітых. Пабываўшы ў Савецкім Саюзе, ён яшчэ раз пераканаўся ў гэтым. І ён, адкрыта кажучы, не можа сабе ўявіць, каб савецкія людзі ды не маглі заспяваць...

Абяззброеныя такім уступам, мы пачалі самадзейнічаць. Поспеху, праўда, было не вельмі каб шмат, але ж атмасфера стала яшчэ больш непасрэднай.

У доме Майкла Ленгхама нас прымала яго вясёлая гаспадынька, Гелен Бернс, артыстка, якую мы перад гэтым бачылі ў ролі энергічнай афінскай прыгажуні Герміі.

А ў віхрастым Хрыстоферы, які на па́ру са сваім сябруком дапамагаў маме разносіць у шумным натоўпе гасцей бакалы і сандвічы, госці-турысты весела пазналі яшчэ адну фестывальную «зорку» — хлопчыка на мыліцы каля анжэрскай сцяны ў адной з масавых сцэн «Караля Джона».

Палерма як горад я амаль не запомніў.

За гэтай назвай перад вачыма памяці стаіць пакрытая маладымі дрэвамі зялёная раўніна на паўночным беразе агромністага возера Антарыё і велічная, родная постаць Тараса Шаўчэнкі, які задуменна глядзіць на сонечнае серабро і золата лагодных хваль, за жывым бязмежжам якіх яму бачыцца бацька Дняпро і прасторы духмяных стэпаў...

Шаўчэнкаўскі запаведнік Палерма.

У ліпені пяцьдзесят першага года тут быў пастаўлены першы на амерыканскім кантыненце помнік Кабзару, падарунак прагрэсіўнай украінскай іміграцыі ад Украіны Савецкай.

Штогод у дзень адкрыцця помніка тут адбываюцца мнагалюдныя шаўчэнкаўскія мітынгі — патрыятычна ўрачыстыя і па-ўкраінску звонка вясёлыя.

У тую нядзелю, калі мы прыехалі ў запаведнік, тут адбыўся так званы акруговы пікнік таронцкіх украінцаў, а фактычна — мітынг дружбы, на які сабралася тысячы тры народу.

На зялёнай паляне і ў засені дрэў, каля ўласных машын, сямейнымі ды зямляцкімі групамі размясціліся яны навокал — рабочыя, фермеры, інтэлігенцыя з блізкіх і не вельмі блізкіх ваколіц. Бліжэй да радыёфікаванай эстрады, на якой ужо выступаў прамоўца, стракаты натоўп быў значна гусцейшы.

На гэтым пікніку, як мы пераканаліся даволі хутка, былі не толькі ўкраінцы, беларусы і рускія, але і іншыя прадстаўнікі прагрэсіўнай часткі славянскай іміграцыі — палякі, балгары, славакі, сербы, македонцы... Было тут таксама нямала і неславян.

Пад вечар, выступаючы на ўрачыстым сяброўскім абедзе, канадскі пісьменнік Дайсан Картар пранікнёна сказаў пра значэнне і гэтага запаведніка, як месца падобных сустрэч, і самога Кабзара, як цудоўнага сімвала рэвалюцыйнай дружбы для ўсіх людзей добрай волі.

— Дзве назвы — Стратфард і Палерма, два імёны — Шэкспір і Шаўчэнка — як гэта цудоўна гучыць, дарагія сябры, як добра верыць, што такія сустрэчы, як сёння,— толькі пачатак нашай дружбы!..

Так гаварыў ён, аўтар і ў нашай краіне вядомых раманаў «Будучыня за нас» і «Сыны без бацькоў», цяжка хворы калека, моцны, прыгожы духам чалавек. Так гаварыў, разумна і весела, уздымаючы ў натоўпе ўсплёскі маладога смеху, сусветна вядомы змагар за мір Джэймс Эндзікот. Так гаварылі іншыя іх суайчыннікі — паэт Макдональд, старшыня прафсаюза электрыкаў Джэксан, літаратуразнаўца і перакладчык Шаўчэнкі на англійскую мову Джон Вір (украінец Іван Вэвюрскі). Так гаварылі савецкія госці — маскоў-

скі хірург Бялова, армянскі эканаміст Шахбазян, беларускі паэт Панчанка.

Так гаварылі мы, кожны па-свойму, на розных мовах, усе — пра адно. Гэта неперамажнае адно гучала ў душы светлай і велічнай музыкай увесь той незабыўны дзень.

Пад помнік Тарасу паложана зямля з гары Чарнечай. А побач з музеем яго імя, адкрытым на год пазней, схіліліся тры славутыя вярбы, галінкамі прывезеныя сюды з-над дняпроўскай хвалі.

Колькі пяшчотнага паэтычнага пачуцця, нязмернай адданасці свайму роднаму бачыцца тут на кожным кроку!..

Моўчкі, усхвалявана ходзіш па залах невялікага музея. І ён арганізаваны тут, у канадскім Палерма, пры дапамозе Кіева. Па экспанатах успамінаю кіеўскі і канеўскі музеі.

А вось і сваё, мясцовае.

Пад шклом — драўляная ступа, гэблік, рыдлёўка, рэшата, піла, сякера... Прылады працы, з якімі сюды, яшчэ на схіле мінулага стагоддзя, дабіраліся з-за акіяна «людзі ў кажухах»... Так пагардліва называлі бязмоўных і безабаронных шукальнікаў хлеба махляры і крывасмокі, што прывозілі іх сюды на палубах і ў трумах грузавых параходаў, а потым былі панамі іх працы і жыцця на новай, таксама як і старая, не надта шчодрай на ласку зямлі...

На стэндзе — вялікі разгорнуты альбом з мноствам подпісаў. Гэта — памятная кніга мужных і светлагаловых сыноў імігранцкай кажушнай галечы, гэта подпісы тых украінскіх, беларускіх і рускіх хлапцоў, што выязджалі адгэтуль, з Канады, на дапамогу іспанскім рэспубліканцам. Больш за тысячу іх змагалася ў батальёне імя Мякензі-Папіна, правадыроў канадскага паўстання ў 1837 годзе, у амерыканскіх батальёнах імя Лінкольна і Вашынгтона, у Балканскім батальёне імя Дзімітрова, а найбольш — у XIII інтэрнацыянальнай брыгадзе імя Дамброўскага, дзе была Шаўчэнкаўская сотня.

З хваляваннем думаецца тут пра тых, што са славай хадзілі на крывавага Франка, адкуль многія не вярнуліся... І пра тых, што ў дні другой сусветнай адны добраахвотна змагаліся супраць Гітлера, а другія сама-

ахвярна, ад працы рук сваіх, дапамагалі роднаму савецкаму народу...

Усплываюць на памяць словы з адной канадскай газетнай нататкі:

«Даклад яго, расказ пра тое, што ён бачыў сваімі вачыма і чуў сваімі вушамі ў дарагіх нашаму сэрцу мясцінах, даў нам магчымасць услухацца ў біенне сэрца сваёй Маці і паглядзець у яе светлыя, бясстрашныя вочы».

У гэтай сувязі з прыемнасцю ўспамінаю моцных духам і па-братняму шчырых сяброў — беларусаў, украінцаў, рускіх...

У далёкім мінулым — сыны вясковай і гарадской беднаты, за дзесяткі гадоў самааддзанай барацьбы некаторыя з іх сталі тут сапраўднымі гвардзейцамі прагрэсіўнага руху.

З імі мы мелі прыемнасць знаёміцца ў Рускім Народным Доме і ў рэдакцыі «Вестника», у рэдакцыі «Українського життя» і ў шаўчэнкаўскім запаведніку, у кніжным магазіне «Тройка», у рускай пачатковай школе і ў гасцінных катэджах рабочых ускраін Таронта, дзе мы так многа, шчыра гаварылі, смяяліся, спявалі...

Што да гутаркі — так было ў доме Рыгора Акулевіча, добра загартаванага і разумнага беларуса, грамадскага дзеяча і журналіста, які ў дваццатых гадах, пакінуўшы бедную бацькаву хату на Слонімшчыне, пачаў сваю канадскую кар'еру з сякеры лесаруба.

А што да песень, дык яны гучалі ў другой сям'і. Хоць гаспадыню і называюць часамі Мэры, на стале непераможна дыхалі нетутэйшым цяплом багаты ўкраінскі боршч і грэцкая каша са скваркамі. А гаспадар — Пэтро Краўчук, вядомы публіцыст і сардэчны хлапчына — пачаставаў нас не толькі ўкраінскімі песнямі. Пастаўлены былі і нашы беларускія пласцінкі. Для пачатку, вядома,— бо што нам тэхніка, калі мы і самі, няхай сабе горш, але ж ад душы — і сваё, і суседскае...

Колькі сілы бывае ў насычанай глыбокай праўдай прастаце і колькі прыгажосці ў сарамлівай усмешцы, у няўмелай і грубаватай часамі ласцы чалавека з мазольнымі, непаслухмянымі пальцамі!..

Стары рабочы, што пры цары яшчэ прыехаў сюды

з Палесся, тамадзіў за адным калектыўным, у складчыну, даволі людным сталом. Сумленна стомлены з выгляду чалавек, ён не званіў па графіне, не надзяляў прысутных правам на тост, а толькі ціха запрашаў, з харошай бацькоўскай усмешкай:

— Ешце, хлопцы, і піце... Годзе, кажаце. Ну, на здароўе, калі так. Дык давайце хоць пасядзім тут разам ды паглядзім адзін на аднаго...

Калі мы неслі кветкі да помніка Шаўчэнку, на дарожцы парку нас затрымаў старэнькі дзядзька-садоўнік, хоць у канадскім касцюме, але з запарожскімі вусамі. Ён прывітаўся і пачаў уласнаручна прышпільваць да нашых грудзей па ружы. Хораша гэта: пяшчотная кветка,— чырвоная, белая, жоўтая,— агеньчык шчасця ў карэлых ад працы руках старога, роднага чалавека.

А як прыемна, што ружы з нашага поля не вянуць і на чужой, далёкай зямлі.

Работніца Наталка з дымнага антарыйскага Гамільтона, чарнявая маладзіца ў гуцульскім уборы, выйшла ў круг, прывычнай рукой паправіла мікрафон і, як зара, прыгожа і проста ўсміхнулася:

— Дарагія савецкія госці і ўся наша мясцовая, так сказаць, рэгулярная публіка! Пачынаем канцэрт...

Далейшыя яе словы патанулі ў дружным рогаце больш шасцісот чалавек, што яшчэ ўсё сядзелі за бяседнымі сталамі або ўжо стаялі густым натоўпам на вызваленай ад сталоў і крэслаў частцы вялікага павільёна.

Спадабалася ўсім і гэта нечаканае «рэгулярная публіка», а яшчэ на дадатак і тое, што з чародкі дзяцей раптам выскачыла маленькая, светлавалосая дзяўчынка і, падбегшы да мамы-канферансье, аберуч учапілася за яе ўзорыстую спадніцу.

Малую ўгаварылі, пагладзілі і адвялі. Мама Наталка пачала аб'яўляць праграму.

Яна не толькі канферансье. Бойкае слова і звонкі голас — душа вядомага на ўсю славянскую Канаду трыё «Верхавіна».

Абапал Наталкі стаяць дзве Марыі — старэйшая, салідная, і «маладэсэнька та гарнэсэнька» Марыйка з чорнымі, глыбокімі вачыма.

Як хораша, як па-новаму гучаць тут і дасціпныя каламыйкі, і «Падмаскоўныя вечары»!..

Яшчэ раз па-зямляцку стала шкада, што сёння няма разам з намі Алеся і Алёнкі Цехановічаў. З імі мы пазнаёміліся напярэдадні, у гасцях. Ён — адзін з лепшых канадскіх тэнараў, закаханы ў Казлоўскага; яна — таксама спявачка і маці маленькага Сашкі. Абаіх сюды прывезлі дзецьмі перад самым вызваленнем Пружаншчыны, вясной трыццаць дзевятага, і абаім так хочацца на радзіму...

Шкада таксама, што распушчаны на лета хор таронцкага Народнага Дома. Кіраўнік яго, сціплая, з добрай усмешкай дзяўчына, вельмі, кажа, ахвотна пачаставала б нас і «Рэчанькай», і партызанскімі сёстрамі — соснамі...

Што ж, пасля «Верхавіны», па прапанове Наталкі, мы ўсёй шматсоценнай самадзейнай стыхіяй спяваем «Рэве та стогне...».

Як стэп, раздольна і, як гімн, урачыста гучыць яна тут, дзе за вокнамі зорнае неба над хвалямі возера-мора, экзатычная назва якога хвалююча звінела нам — Ан-та-ры-ё! — яшчэ ў індзейскіх, куперaўскіх снах маленства...

...Добра быць пасланцом такой Радзімы, як наша, на сабе адчуваць, як яе любяць і паважаюць.

Добра вяртацца з дарогі. І не проста дахаты, а ў дом такі, як наш — савецкі.

Былі такія думкі, хвалявалі ў час вяртання. На досвітку, калі на змену бязмежнай і бяссоннай ночы, за акном самалёта спачатку з'явілася першая зорачка, потым — над чорным, хмарным дном — зара і, нарэшце,— вялікае, роднае сонца.

*1960*

# ДУША — НЕ ПАДАРОЖНІЦА

З маленства, з першых дзён свядомасці прыпамінаецца салодкае і светлае імкненне да незвычайнага. Знаёмае, абжытае — хоць і за першыя тры ці чатыры гады — вельмі прыемна было нечакана па-іншаму ўбачыць праз акенца на гарышчы або з воза сена,— якая, божа мой, вышыня!.. Свет адкрываўся куды больш прыгожа не толькі праз жоўтае ці зялёнае шкельца разбітай бутэлькі, але і ў той гімнастычнай паставе, калі ты раптам, па прыкладу трошкі старэйшага або хутчэй па нейкай інтуіцыі, нагінаўся і, ушчаміўшы галаву паміж каленямі, глядзеў назад. Усё па-новаму, і тое самае, а як незвычайна прыгожа!..

Відаць, ад малечай наіўнасці ідзе і тое, што згадваецца даўно і чамусьці даволі часта, асабліва ў далёкім, міжкантынентальным падарожжы:

А што, каб гэта можна было легчы спаць, скажам, сёння, дзевятнаццатага студзеня, марозным вечарам, а праз сем-восем гадзін прачнуцца... адразу дваццатага мая?.. І дух заняло б, і мову адняло б ад таго самага бэзу перад хатай ці шчэбету жаваранка над рунню, якія пасля нармальнага, прывычнага чаргавання дзён, тыдняў, месяцаў здаюцца хоць і прыгожымі даўно і любымі нібы па-новаму — усё ж звычайнымі.

Незвычайнае адбываецца пры хуткіх і далёкіх пералётах. Тады, калі замест каляровага шкельца, знойдзенага на сметніку ці ў раўку на вясковай вуліцы, у чароўную казку нас пераносіць магутны чатырохматорны самалёт, рэч тым часам таксама ўжо вельмі звычайная.

Слова пра новае падарожжа я пачынаю ў самотным пакоі на другім паверсе старога драўлянага дома, дзе

за акном — даўно знаёмы і неразблытаны вокам вяршняк, насычаны непакорна зялёнай гліцай, чысценькім снегам і сонцам.

Працавітая наша зіма,— якую грунтоўную чыстку, якую дэзінфекцыю зрабіла яна зноў, як здорава дыхаць, як хораша глядзець, ідучы пасля працы па аслоненай урачыстымі елкамі просецы! На анямелай ад шчасця белай нерушы сям-там празубліваюцца іскаркі, нібы падміргваюць, знікаюць, зноў глядзяць... Сонца схілілася. Снег пад ботамі рыпіць няхітрую, любую песню бадзёрасці, сілы...

Рыпенне гэтае небывала хвалюе мяне, напамінаючы зусім нядаўняе. Такую ж музыку, толькі цішэйшую. Парыпванне густа-салёнага, казытлівага і пякучага для босых ног пяску на белых пляжах побач з пальмамі — за восем тысяч кіламетраў на паўднёвы ўсход.

Ласкавае, бязмежна казачнае мора-акіян, прасцей — Аравійскае мора Індыйскага акіяна.

Няўжо гэта я сам нядаўна там купаўся? Гарэзліва і негарэзліва баяўся заплываць туды, дзе ўжо не лішне мелка для акулаў. Як школьнік, закаханы ў геаграфію, употай заміраў ад простых слоў індыйскага сябра пра тое, што напрасткі на захад — нейкіх тры тысячы міль да егіпецкіх пірамідаў. Падпарадкоўваючыся плану дня, неахвотна выходзіў з пеністай, гуллівай цеплыні і на хаду, пакуль дайсці да вопраткі, абсыхаў настолькі ўвачавідкі, што з вуха, з другога асцепваў пальцамі соль. Спыняўся ў засені трысняговай паветкі, прасіў у чорнага, амаль таксама голага бізнесмена абсекчы макаўку вось гэтага, найбольшага какосавага арэха, каб надоўга прыпасці губамі да дзірачкі ў ім, нібы да рыльца старога гляка са сцюдзёнай вадой,— як бывала калісьці, з-пад мэндля...

Няўжо гэта было цяпер, зімой, менш за месяц таму назад?

Было.

Ды не адразу так: з акуламі, з арэхамі, з соллю на вушах...

Спачатку была маскоўская завірушная ноч, пасадка ў самалёт, безліч агнёў пад намі, на развітанне, пасля надоўга зацямненне, нібы спецыяльная паўза — каму для дрымоты, каму для роздуму на высокім ці горкім узроўні.

Мой спадарожнік — не паэт, а вучоны. Аднак не я яго, а ён мяне вярнуў штуршком з невыразнай дрымоты ў свядомасць і, кіўнуўшы на наша акенца, ледзь не шэптам сказаў:

— Зорачка. Будзе світаць.

Дзе нам світала, яшчэ над радзімай ці ўжо на чужыне, цяжка было здагадацца. Нізка пад намі відаць былі хмары — халодна-шэрыя, бясконцыя, нібыта брук усясветна вялікай, проста касмічнай плошчы, пад якой, як здаецца адразу, другое бяздонне...

Пасля пачалося світанне. Запалала зара. Зару спакваля апаганілі нудныя хмары — яны пашматалі яе, чырвань сям-там прабівалася з шэрага холаду, як сцюдзёна-барвовыя лужыны. Перад намі, на ўсходзе, але ж і пад намі, на бруку.

Пачаўся дзень. Міхась Максімавіч, мой спадарожнік, пайшоў кудысьці наперад, пасля прыйшоў і паклікаў туды мяне. Каля задраеных дзвярэй, праз якія мы заходзілі ў самалёт, было акно і два сядзенні. Сіваваты лётчык з зоркай Героя сядзеў каля акна, курыў, прывычна-абыякава адпачываючы. У акне відаць былі горы. Тыя самыя, што і ў нашым, толькі што тут глядзець на іх не перашкаджала крыло. І яшчэ адно — тут мы пачулі, як яны называюцца.

Чорт вазьмі — Гін-ду-куш!.. Гімалаі, Памір, Гіндукуш — якія словы, колькі яны, быў час, каштавалі нам хвалявання, якая музыка, што за краса былі ў іх затоены!

А гэты — сівы, з цыгарэткаю,— як пра тралейбусны прыпынак: Гіндукуш. З нудою бога, што сам калісьці і назваў так увесь гэты цудоўны безлад скал і снегу, а можа, нават сам і стварыў... Пакурыў цяпер і пайшоў, адчыніўшы дзверы ў свой алтар, куды нам толькі ўдалося зазірнуць, пакуль яны не зачыніліся. Толькі і ўбачыш, што мноства хітрых механізмаў ды шырознае шкло, з аглядам проста арліным, а то дык і боскім, калі ён, кажуць, насіўся над безданню і ха́осам сваіх уладанняў... А мы з вучоным, радасна, як хлапчукі ў тралейбусе, завалодалі і сядзеннямі, і акном, і ўсім, што ў акне — пад намі.

Пад намі — горы!.. Прыходзіла думка пра йеці, снежнага чалавека. Гледзячы ўніз, на жудасна паэтычную пустэчу паднебных снегавых вяршыняў, не так

ужо камусьці і цяжка было выдумаць яго. Калматага, самотнага, які то з'явіцца на белым, халодным полі паэзіі, то зноў на нейкі час пакіне яго. Нават і тут яго не відаць... Шкада, што гімалайскія снягі — далей на паўночным усходзе... Зрэшты, давай, брат, трохі прасцей. Мне ўспамінаецца — і тут, як было на Каўказе — Ванюша з талстоўскіх «Казакаў»: яго захапленне снегавымі хрыбтамі на даляглядзе і боязь, што дома, у вёсцы, усё роўна ж ніхто не паверыць. Мне ні па ўзросту, ні па прафесіі не належыць захапляцца так «прымітыўна». Ды я захапляюся — ціха, употай — і паюначы, і па-вясковаму...

Міхась Максімавіч хвалюецца таксама молада, тым больш што ён і маладзейшы трохі за мяне. А можа, таксама і па-вясковаму. Яшчэ ж так, здаецца, нядаўна, у дні найстрашнейшай вайны, ён быў вясковым дзецюком — баявы партызанскі разведчык.

— Ты, брат, павінен усё гэта апісаць.

Ён гаворыць, а я з халадочкам шчаслівага патаемнага жаху гляджу на дзікую святыню гор, думаю пра яшчэ адну крэпасць, не ўзятую словам... Ну, колькі ж дапаможа тут маё маленькае «ўра»?..

...«Душа — не падарожніца»,— гаворыць Эмерсон. У тым сэнсе, што куды б мы ні ехалі, яна — заўсёды дома. Успамінаецца, як адзін вельмі сур'ёзны крытык пакепліваў з дарожных вершаў яшчэ больш сур'ёзнага паэта: «Ды што ён, сапраўды! Яшчэ не выйшаў у акіян, у моры нейкім таўчэцца, а ўжо заенчыў пра родныя сосны. Чаго ж было іх пакідаць?..» Баюся енчыць, не хачу. Яшчэ ўсё прагна і, дзякаваць богу, нястомна гляджу на новае ды новае. І ведаю, што ўсюды, дзе б я ні быў, душа мая была аднačасна і там, і дома, а шчасце, сапраўднае чалавечае шчасце, у адчуванні, што Зямля — адна для ўсіх, што нам, чалавецтву, трэба яе і добра пазнаць, і разумна абжыць. Даўней, калі яшчэ чалавек замацоўваў свае слова на камені, на пальмавых лістах ды на бяросце, такая думка хвалявала толькі мудрацоў ды паэтаў. Цяпер, у эпоху атама і касмічнай разведкі, яна непакоіць мільёны. Апроч *пазнаць* і *абжыць* узнікла яшчэ адна, найбольш сучасная, найбольш трывожная неабходнасць — *захаваць* ад знішчэння.

«Ты, брат, павінен усё гэта апісаць».

Для сына-пяцікласніка, у якім абуджаецца першая страсць пазнавання сусвету, я купіў вялізную, з чатырох папяровых палотнішчаў, карту ўсіх акіянаў і кантынентаў. Я разумею яго — добра лазіць па гэтай, расасланай на падлозе, карце, шукаць, глядзець і думаць, пра што ты ўжо чытаў, а пра што яшчэ будзеш чытаць. Яшчэ лепш, вядома, успамінаць, дзе ты ўжо быў. Малы мой ажно жахнуўся радасна і зайздросна, што мне ўжо трэба, стоячы над картай, над ім самім, амаль на ўвесь размах шырока распасцерці рукі, каб ахапіць прастору, на якой я рассеяў сваё хваляванне. Ад Ніягары да Сахаліна і, павярнуўшыся, значна вузей — ад Карэльскага перашыйка да Тэрмеза, што над самай афганскай граніцы. Ну, а цяпер як будзе — амаль да Цэйлона?.. Добра!..

Ёсць, вядома, і свае мінусы ў гэтым самалётным ды аўтамабільным гойсанні: многае бачыш то зверху, то мімаходам.

Ды ўсё ж мне зайздросна, па-маладому, амаль падзіцячы... толькі гарчэй, бо ўжо без надзеі зайздросна, што я не ўбачу нашу Зямлю, як планету, здалёк, з вышыні многіх сот кіламетраў.

І не шкада чамусьці, што не змагу як належыць апісаць хоць бы часткі таго, што ўжо ўбачыў. Гэтай віною я вінаваты перш за ўсё і найбольш перад маленькай часткай самага неспакойнага кантынента — перад маёй спрадвечнай шматпакутніцай і прыгажуняй Беларуссю. А што ўжо гаварыць пра ўсю Зямлю! Яе мне толькі б глядзець, ды пазнаваць, ды адчуваць, што шчасця гэтага — край непачаты; мне добра разам з тым, не перадаць, як хараша, што ў гэтым бязмежжы красы і таямніц ёсць месца, адкуль ты пачаўся, дзе ты прырос душой, дзе ты сумленна прапісаны як грамадзянін сусвету, адкуль табе добра, як з роднага дома, хадзіць у людзі і куды табе добра вяртацца — з чыстай душой, як след зрабіўшы сваю чалавечую справу.

Палёт з Масквы да Дэлі — шэсць гадзін. Адтуль мы яшчэ тры гадзіны, ужо не ў сваім самалёце, ляцелі на поўдзень, у Бангалур. Была сустрэча ў аэрапорце, шумныя вуліцы, сустрэча ў індыйскай сям'і, тэатр, вячэра — нялёгкі мітуслівы дзень, суцэльная экзотыка і

хваляванне. Начавацъ нас прывезлі ў тую самую сям'ю. Сухашчавы ды чарнанагі, маўклівы слуга распасцёр над нашымі ложкамі марлевыя полагі — ад маскітаў, яшчэ незнаёмай нам пошасці. Гэта была апошняя на першы дзень экзотыка, калі не лічыць залішне вузенькай ды тоненькай падушкі і аскетычна цвёрдага матраца.

Прачнуўся я на досвітку, пад лёгкі шум дажджу, які, здалося, толькі што ціхенька пачынаўся. Я не адразу ўсвядоміў, што ён перабірае пальцамі па лістоце не нашых дрэў. Тым больш што тут, амаль у цэнтры мільённага горада, праз дождждык пераклікаліся пеўні... Так шчасліва я прачынаўся калісьці ў мамы або, нядаўна, у сястры, ужо таксама старэнькай, у ціхай на золку вясковай наваградскай хаце. У давяршэнне такой свойскай ідыліі неўзабаве падаў яшчэ свой голас... верабей.

Праз адчыненае акно, да якога я падышоў, было зусім блізка відаць, як ён сядзіць на адным, вялізным для яго, лісце бананавага дрэва, а другі такі ліст прыкрывае яго ад дажджу. Сядзіць, пачухваецца, штосьці мармыча-чылікае.

Было калісьці, ужо дванаццаты год памятаю,— другі такі тып, на адным са мной цеплаходзе, сігануў з Ленінграда ў Стакгольм. Можа, і без ніякага злога намеру — проста сеў на начлег у зручным, знойдзеным над палубай зацішку, а прачнуўся, аказваецца, на турысцкім судне, у адкрытай Балтыцы. Цэлы дзень харчаваўся айчыннымі крошкамі з рук землякоў, многіх смяшыў, а аднаго ледзь не натхніў на дзіцячае апавяданне. Уранні, яшчэ раз пераначаваўшы па-марскому, убачыў дахі і дрэвы, паляцеў і ўжо не вярнуўся... Не думаю, што ён заснаваў там нейкую адменную дынастыю або што петаваў пры шведскай вераб'ісе на сабачым прымацкім хлебе. І гэты, каб я яго завёз у Мінск, моўных пакут не адчуў бы. Каб не цяпер, зімой, а ўлетку пераехаў, дык і да клімату проста прывык бы...

Ты тут стой, чалавеча, сентыментальна задумвайся пра вераб'іны інтэрнацыяналізм, а на акне чамусьці краты...

Толькі пазней мы даведаліся, што гэта таксама экзотыка: краты — ад малпаў, як полагі ад маскітаў. Хутка прывыклі мы і да таго, што на сценах культур-

ных пакояў поўзаюць і заміраюць на белі тынку падоўжнымі плямкамі яшчаркі. Над каляровымі абразамі святых танцораў, над партрэтамі правадыроў.

Ну, а з ілюзіі нашай вёскі, ад пеўняў да вераб'ёў, я тады перайшоў у новую сапраўднасць амаль адразу. Дожджык — скупы зімовы дождж — лена пастукваў па буйным лісці бананаў, какосавых пальмаў, па лістоце манга, па ветках багенвіліі, дробна-густых і з фіялетавым адценнем чырвані... Ды ўжо і дзень пачынаўся, гарадскі індыйскі дзень. Усё часцей пачалі паўтарацца гудкі аўтамашын, званкі веларыкшаў, драўляны грукат вялізных колаў тонгі, двухколкі, нязлоснае пакрыкванне на буйвала... Гукі — знаёмыя мне з учарашняга дня; дзіўна рагатыя, светла-шэрыя, нібыта ў форме, мудра спакойныя буйвалы — таксама.

На чацвёрты дзень, ужо ў падарожжы, я запісаў у блакноце: «Сланоў няма. Толькі ўсё буйвалы ды буйвалы...»

Амаль што крык ашуканай душы: куды падзелася экзотыка?!

Тры паляўнічыя, у розных гарадах, хваліліся нам шкурамі бенгальскіх тыграў, адзін нават усцешыў сувенірамі — кіпцямі ўладароў мясцовага лесу, с экзатычным, хмельным размахам названага джунглямі. У вандроўным цырку, пасля раскошнай праграмы, культурны ўласнік усёй гэтай... таксама экзотыкі павёў нас, савецкіх сяброў, паказаць усю закулісную гаспадарку. Пад вялізнай брызентавай павеццю стаялі сланы. Закончыўшы чарговы дзень з усёй гэтай, патрэбнай людзям мітуснёй, яны спакойна, з царственным адчуваннем уласнай годнасці, хрумсцелі частаколлем цукровага трыснягу, заслужана вячэраючы — і артысты, і цягачы. Крайні быў вельмі мілы. Наймяньшы, не злоўлены ды прыручаны, а ўжо, відаць, і народжаны каля людзей. Пакуль я з дрыготкай інтэлігенцкай «смеласцю» гладзіў яго зямліста-валасата-шорсткі хобат, ён штосьці радасна мне бульбатаў і, зусім як яго дарослы сусед, браў новую салодкую частаколіну пад свой перабольшаны нос, ламаў яе ў сваім млыне, як макароніну, і пачынаў малоць... Харошыя жывёліны! Ды што ж, з-за цыркавых сланоў не варта ехаць у Індыю — мы іх бачым і ў сябе. На дзікіх мы, вядома, не прэтэндавалі, як і на тыграў. Але і дзіўным здалося ў

канцы падарожжа, што за шаснаццаць індыйскіх дзён нам давялося сустрэцца — і на раўнінах дэканскага пласкагор'я, і на лясных дарогах гор Мулайнагіры — толькі з трыма сланамі. На двух, дэканскіх, ехалі сяляне. Вясёлы дзед адразу ссунуўся са свае верхатуры, памог нам, па чарзе, сфатаграфавацца на трохі велікаватым верхавіку, цану пасля загнуўшы таксама слановую. Трэці слон, штосьці праз тыдзень, сустрэўся нам на горнай дарозе. На ім, як пад небам, сядзелі царкоўныя служкі, і мы толькі зняліся каля слана, не рызыкнуўшы прасіць іх спусціцца на асфальт, ды, зрэшты, ужо і не маючы першага турысцкага запалу.

Затое ад буйвалаў там — ажно шэра ў вачах.

Буйвала можна па праву назваць найлепшым другам і верным памочнікам індыйскага рабацягі. Сярод некалькіх слоў мовы ка́нара, або ка́нада, якія я паспеў запомніць, ёсць і імя гэтай шаноўнай жывёліны — етту. Ці называюць яго канарыйцы другам і як па-іхняму гучыць гэтае слова — не ведаю. А што буйвалаў любяць — гэта відаць было ўсюды, на ўсіх палях, дарогах і вуліцах, дзе мы іх сустракалі.

Індыйцы наогул любяць усё жывое. І забіваць, і есці мяса лічыцца тут грахом спрадвеку. Яшчэ ў чацвёртым стагоддзі да нашай эры тут меліся лячэбніцы для жывёлы. Вегетарыянства, як адзін з вынікаў будызму, увайшло ў побыт народа яшчэ на стагоддзе раней. І цяпер гэта ўжо не рэлігія, відаць, і не проста традыцыя, а неад'емная асаблівасць жыцця.

Ведаюць гэта, здаецца, і самі жывыя істоты. Прынамсі сабакі. Ляжа такі паўднёваіндыйскі Мурза ці Курта на сярэдзіне вуліцы, і ногі выцягне, і хвост адкіне, дрэмле сабе ці думае пра штосьці на асфальце, а людзі яго абыходзяць, тонгі, мота- і велярыкшы, і аўтамашыны яго аб'язджаюць. Нас вазіў канарыец, хлапчына часамі то ўпарты, то злосны, аднак, калі наш заезджаны, грымучы «амбасадор» набліжаўся да яшчэ аднаго сабакі на асфальце, я, седзячы побач з шафёрам, дарма спадзяваўся заўважыць на яго чорным абліччы якую-небудзь злосць ці прыкрасць.

Вясёлыя ка́пі — светла-шэрыя малпы, то з чырвонымі, то з чорнымі мордамі і лапамі — таксама ведаюць, што іх ніхто не пакрыўдзіць, хоць за набегі на палі і сады, нават на чалавечае жыллё (таму і краты на

вокнах) любіць іх асабліва няма за што. Для нас, праезджых гасцей, малпы — таксама экзотыка. Здалёк заўважыўшы на асфальце ці на абочынах, у засені таўшчэзных баньянаў, цэлую чародку капі, мы часта прасілі спыніць машыну, каб зноў пагаварыць з гэтай вясёлай, бесклапотнай публікай, зноў зняць іх на паказ ды на ўспамін. Старэйшыя сядзяць сабе, гамоняць пра жыццё, малыя скачуць па асфальце — вечнае свята. Людзей амаль зусім не баяцца, на дрэвы разбягаюцца нібыта нават неахвотна. Дзіўна і сцішнавата — пры людзях яны як быццам таксама зусім неахвотна становяцца на ўсе чатыры лапы і бягуць на іх неяк няўдала, нібы не ўласціва сабе, без прывычкі. Аднаго чарнатварага боўдзілу, мусіць, правадыра мясцовай групы, мы частавалі з рук памідорамі. Іншыя даволі ахвотна ці проста абыякава пазіравалі перад нашымі фотаапаратамі. Аднойчы, пакуль шафёр наш бясконца доўга калупаўся ў маторы, мы, з нуды ды са злосці на вельмі недарэчную затрымку, пачалі забаўляцца з малпамі па-блазенску. Сталі зганяць іх з адзінокага дрэва, што расло трохі воддаль ад іншых баньянаў,— крыкам, каменьчыкамі, галінкамі сушняку, што валяліся пад нагамі. Большыя капі гоцалі з дрэва на дол, перабягалі асфальт і ўзляталі на іншыя дрэвы. Адзін падшыванец застаўся на нашым баньяне і жаласна, спалохана запішчаў. Тады старэйшыя, што былі яшчэ на зямлі, вызверыліся і сунуліся на нас... трэба прызнацца, даволі-такі страшнавата. Перспектыва нішто сабе, каб абсела цябе штук з пятох!.. Ды і каменнем яны як быццам кідаюць вельмі метка. Мы прысаромлена адышліся, малы шчасліва спусціўся наніз і перабег за ўсімі, упершыню, відаць, спалохаўшыся чалавека.

Дзеці, мясцовыя пастушкі, часамі нават з мясцовай жалейкай, сядзяць ці бегаюць у засені прысадаў — у мірным і абыякавым суседстве з малпамі. Глядзіш з акна машыны — ідзе сабе тонга, бабы на тонзе гамоняць, як і нашы, едучы з кірмашу, і на тых малпаў, што гоцаюць па асфальце, перад самым буйвалам, нават увагі ніхто не звяртае. Ідзе сабе па абочыне, сцежкаю дзядзька ці дзед. Чорны, худы, як і большасць яго землякоў, у нейкай хустцы ці ў няўдала завязаным цюрбане, у белай доўгай кашулі, з-пад якое да каленяў і ніжэй апускаецца дхоці, белая палатніна, што надзя-

ваецца, як спадніца. Рабацягі часцей за ўсё гэтую дхоці падкасваюць, завязваюць паміж ног вузлом, свецячы чорнымі, часцей за ўсё сухімі лыткамі. Ідзе такі дзядзька ці дзед памаленьку, а малпы скачуць пад дрэвамі — толькі не наступі; ён прысядзе, адпачывае — яны сабе скачуць, нічога ніякага. А то пасядуць, таксама сядзяць, маракуюць. І падумаеш, гледзячы на такую ідылію: а як жа ўсё-такі гэтае суіснаванне адлюстравана ў канарыйскім фальклоры, у казках ды ў песнях?..

У буйвалаў дзіўныя рогі. То, як вузкая ліра, тырчаць ўгару, то, як запарожскія вусы, закладаюцца ажно за вушы, то на спіну лажацца цяжарам, то цяжка звісаюць у бакі, то, ад буйства фантазіі, тырчыць такая ламачына аж да зямлі... Зірнеш ды падумаеш: гэта ж не сам ён прыдумаў, а «так яму бог даў». З такім выразам у вачах ён ідзе сабе, цягне тонгу або драўляны плуг, топча, малоцячы, разасланае проса, пераходзіць дарогу перад самай машынай, стаіць або ляжыць, адпачываючы, у вадзе — усюды, здаецца, аж нейк несамавіта спакойна і мудра. Бачылі мы пераход горнага вандроўнага племені ламбадзі — цыганоў; на спіне ў аднаго буйвала, побач з клункам, сядзела, ехала курыца. Бачылі, як на крыжы ў другога буйвала, які вялізным, слізкім каменем ляжаў у сажалцы, адпачывала белая чапля. Часта даводзілася бачыць, як буйвалаў купаюць. Дзеці, дзяўчаты, мужчыны. Не проста дзеля прахалоды, а старанна шаруючы ды змываючы хрыбет, бакі, выцягнутую наперад, як для палёту, галаву. У вельмі многіх буйвалаў рогі памаляваныя — чырвоныя, блакітныя, светла-зялёныя, з бліскучымі аздобамі або кутасікамі на канцах.

Буйвалаў тут не рэжуць. Як іх б'юць, паганяючы, бачыў. Не так сабе, а злосна б'юць. Як яны шпарка ідуць, нават бягуць у аглоблях, з лейчынай у ноздры, з пенай на пысе — бачыў яшчэ часцей. Многа кароў ляжыць або, на правах пешаходаў, сланяецца па вуліцах індыйскіх гарадоў — святых бяздомніц, худых і панылых. І мне было шкада іх, нават неяк няёмка, прыкра за штосьці ці за кагосьці. І ў душы, паколькі яна не падарожніца, ажывалі ўспаміны.

Дзіцячая трагедыя разлукі з цяляткам, з якім ты толькі што паспеў пасябраваць. Трагедыя, бо вось яго

бяруць пад пысачку, паднімаюць вушатую, велікавокую галаву і рэжуць па горле старою касой...

Маці мая была суровая, мужная па натуры. Але памятаю, як яна плакала па кабыле. Перад гэтым, праўда, сварылася за яе, смерцю яе папракала другога.

Гэты другі — даўно нyголены, у старым, зашмальцаваным кажушку, у нейкіх крывалапых ботах-грукачах, нават і ў хаце з пугаю ў руках. Ён сядзеў на нашай лаве і апраўдваўся. Яўрэй Пэталэ, «каналуп», «конская смерць» з недалёкага мястэчка.

«Будзе, будзе табе на тым свеце!..»

Яна гаварыла гэта, трохі патаргаваўшыся за кабылу. Прала кудзелю і гаварыла, нібыта нават жартуючы...

А ён апраўдваўся:

«Што будзе, што? Як я памру, дык усе яны прыйдуць да бога і скажуць, што Пэталэ мёрз, Пэталэ мок, быў галодны, а ўсё вадзіў нас, шкуру з нас дзёр... Пэталэ трэба жыць!.. Колькі ві хочаце, Брыліха, за гэтую здыхату?..»

Яны сышліся на цану, потым — а на дварэ быў мокры, пранозлівы лістапад — нашу Гнедую, упершыню без аброці, з вяроўкай на шыі, на ганьбу, на смерць Пэталэ павалок з двара. Яна ледзь-ледзь перастаўляла старыя, да рэшты сарваныя ногі, выцягвала шыю ўслед за ўедлівым повадам, але ішла, як заўсёды, пакорна.

А наша суровая, мужная мама стаяла на гразі і плакала...

Я не збіраўся кагосьці гэтым расчуліць. Хочацца проста сказаць, што людскія пачуцці ўсюды падобныя. Аднойчы наш шафёр на вуліцы, у збоі людзей, добра такі штурхануў «свяшчэнную» карову радыятарам у сцягно, і не індусы, гід і шафёр, а мы, славяне, абурана, міжвольна закрычалі: «Што ж ты робіш?!» Усюды свае няўвязкі, свае неабходнасці, а чалавек — усюды чалавек.

Вароны таксама ўсюды вароны. Калі мы неяк спыніліся ў джунглях, весела было паназіраць, як у густой лістоце заядла спрачалася плойма зялёных папугаяў. Вароны — не экзотыка, такія самыя, як і нашы, толькі трохі, здаецца, даўжэйшыя. Прыемна ўбачыцца, як са знаёмымі на чужыне.

Бусла таксама бачылі. Знізу, на фоне блакіту. Падумалася, што ён, вядома, наш, не нямецкі, не польскі, а іменна наш. Успомнілася нават, на мяжы міжвольнага жадання, як мы калісьці, малыя куляліся цераз галаву, дзе хто стаяў, вітаючы першага бусла над вёскай. З выраю. Можа, нават адгэтуль, дзе ён лунае над пальмамі, над сакавітай зелянінай рысавых палеткаў.

Згодна з даведачнай літаратурай, у снежні і ў Індыі зіма. Сухая, ясная зіма. У першую бангалурскую раніцу дожджык сустрэў нас як быццам на нейкае дзіва. Пасля, на зваротным шляху, у Дэлі за два дні прайшоў разоў са тры дождж, было хмарна і не горача, як у нас у канцы верасня. На поўдні ж зіма прыпякала нас не марозам, а сонцам, да градусаў дваццаці і вышэй. На пласкагор'і. Калі ж пераваліліцераз Мулайнагірскі хрыбет і пачалі спускацца да акіяна, стала спякотна і душна. А ў акіяне — нібы ў сырадоі. Едучы сярод палёў, не разбярэшся: чаму адны тое проса сеюць, другія жнуць, трэці арэ пры дарозе, там малоцяць, там той рыс жаўцее, там зелянеецца, там яго садзяць, хляпаюць па вадзе... Дый разбірацца не вельмі хацелася. Проста глядзіш, любуешся. Усім. Чырваназёмнаю сумотай раўнін, дзе зрэдку, на даляглядзе ці бліжэй, тырчаць самотныя сопкі — то як дзівосна вялізарныя, карэлыя смарчкі, то як шэрыя, бясформенныя піраміды з каменных сланоў. А што ўжо гаварыць пра пальмы, танклявыя эўкаліпты, бананавыя, кававыя дрэвы,— гаі ўперамежку з зялёнымі далінкамі і дрымучыя джунглі, у якіх мы спыняліся, і на асфальце адчуваючы прахалоду і парнасць патаемных гушчароў, шчымліва горды подых царства сланоў і тыграў. Джунглі!.. Рэкі поўдня немнагаводныя. Скачучы з валуна на валун, якія з аголеных пяскоў заходзяць на быстрыню, добра спыніцца і паглядзець, хоць не вельмі зблізку, як дзяўчаты палошчуць белыя і рознакаляровыя палотнішчы дхоці і сары, шырока ўсцілаюць імі берагі, нібы сігналячы жаніхам з другое планеты. На звычайным балотцы, дзе асядаюць белыя, шчуплыя качкі, над раскай цвітуць лотасы. Белыя нагадваюць нашы лілеі-«гускі», з той розніцай, што лотасы не ляжаць на вадзе, а тырчаць над вадою. Чырвоныя нічога не нагадваюць, апроч далёкай, амаль невядомай, пяшчотнай песні без слоў, песні чароўнага поўдня.

Калі мы па серпанціне, ныраючы то ў цень, то ў спёку, узабраліся на горны перавал, з якога на паўднёвы захад адкрылася бязмежная даліна, а ў смузе за далінай можна было распазнаць сінюю палоску акіяна,— наш гід спыніў машыну. Не вельмі гаваркі і, як спачатку здавалася, даволі сухаваты канарыец, ён моўчкі павёў нас па высечаных у цёмна-шэрай скале сходках угару, яшчэ вышэй над зялёным бязмежжам.

— Тут пастаім.

Сказаў гэта, як заўсёды, па-англійску, цераз перакладчыка. А тады хваляванне яго прарвалася трыма нечакана рускімі словамі:

— Мой родина! Хорошо?..

Памятаю аблокі над скаламі, над зелянінай,— раскошнае нагрувашчанне белых і лілаватых аблокаў... Там, на поўдні Індыі, мы іх бачылі рэдка. Нават, здаецца, толькі двойчы. Неяк ноччу, над садам, дзе мы вячэралі з індыйскімі сябрамі. Вельмі высока, светлавясёлыя ад месяца-невідзімкі, з буйнымі зоркамі ў сініх праталінах. Другі раз — там, над пераваламі, белыя, бязгучныя выбухі хараства. Высокі, радасны акорд бела-блакітнай, сонечнай музыкі.

Добра глядзець і слухаць знізу ўверх!..

А зверху ўніз?..

Вось я зноў гляджу на свет праз акно ў самалёце.

Наперадзе, за крылом, зноў аснежаны Гіндукуш.

Працягнуць бы зверху, з вышыні дзесяць тысяч метраў, руку — пагладзіць белую, пыльна-карычневую, нібы з руды, дзівосна пакарабачаную прыгажосць і спытацца... ну, закахана, ці хто яго ведае: на што ж гэта ўсё-такі падобна?..

Белыя складкі нагадваюць залітую сонцам, раз'езджаную зімовую дарогу. А потым — снегавы цалік, як суцэльная роўнядзь аблокаў, загладжанае снегам плато. Сям-там даліны пацягнуты беленькай, лёгкай, крыху лілаватай смугой. Хоць ты лізні яе ці з асцярожнай прагнасцю ўкусі, як дзеці «салодкую вату».

Абрысы паасобных гор зверху падобныя на сляды птушыных лапак на снезе. Многа, многа слядоў, многа пальцаў на лапках...

А снег — гэта найлепш. Тут яго, на вяршынях, здаецца, стала больш, пакуль мы выгараваліся ў тропіках. Снег і сонца!.. Па снезе мы нават, аказваецца, засума-

валі. Бо праз некалькі лётных гадзін, пасля жывое карты Афганістана, туркменскіх пяскоў, вясёлых і сумных хмараў над рускай прасторай, калі мы селі ў Шарамецьеве, яшчэ на трапе захацелася нагнуцца, хапнуць жменю халоднай чысціні і нават паспытаць яе на смак.

«Душа — не падарожніца?..»
Не, яна проста любіць вяртацца дахаты.
Каб потым зноў хацець удалячынь...

Яшчэ ў сёмым стагоддзі нашай эры славуты кітайскі паломнік І Цзынь лічыў, што для Індыі найбольш падыходзіць назва «Зямля высакародных».

Адкрываючы свету праўду пра сваю краіну, Нэру з прыгожай стрыманасцю мудраца цытуе гэта і многа падобных выказванняў замежных прыхільнікаў індыйскага народа, даўніх і сучасных. Цытуюць такое і іншыя аўтары, не індыйцы. З прачытанага за ўсе гады мог бы таксама працытаваць сёе-тое і я. Ды я хачу лепш засведчыць свае асабістыя ўражанні, папярэдзіўшы гэта толькі адной маленькай цытатай, адным сказам са старадаўняга індыйскага афарызму:

«Што за карысць з вачэй, у якіх няма дабраты?»

Словы гэтыя, прачытаныя пасля звароту з Індыі, уразілі мяне неяк вельмі ж канкрэтна, ажывіўшы ў памяці мноства вачэй, з якімі так нядаўна і так далёка ад дому сустракаліся мае вочы...

Удвух з доктарам тэхнічных навук Міхасём Севярнёвым мы былі ў Індыі па заданню беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з заграніцай. Мэта камандзіроўкі — узмацніць і паглыбіць сяброўства са штатам Майсур [1], які прапанаваў нашай рэспубліцы парадніцца і, на добры пачатак, прысылаў улетку ў Мінск дэлегацыю, таксама з двух чалавек.

Госці майсурскага аддзялення «Іскус'а», інда-савецкага культурнага таварыства, мы правялі двое сутак у сталіцы штата горадзе Бангалуры, а потым паехалі па маршруту, які нам прапанаваў генеральны сакратар таварыства, наш гід доктар Шастры. У якасці перакладчыка дэлегацыю суправаджаў малады дыпламат

---

[1] Цяпер Карнатака.

Віктар Рамашкін. Наш дружны і вясёлы экіпаж дапаўняў каржакаваты містэр Джордж, шафёр, амаль па-негрыцянску чорны і часцей за ўсё, для большай зручнасці, босы.

За два тыдні падарожжа мы праехалі больш за паўтары тысячы кіламетраў, пабывалі ў дванаццаці гарадах і вёсках, выступілі, лічачы вельмі асцярожна, перад дзесяццю тысячамі чалавек. На заводах і фабрыках, у сярэдніх і вышэйшых навучальных установах, на вясковых мітынгах і пісьменніцка-журналісцкіх прэс-канферэнцыях. Сустракаліся мы і з буйнымі грамадскімі дзеячамі, і з простымі рабацягамі, з мільянерамі і вучонымі, членамі партыі Нацыянальны Кангрэс і камуністамі, з харымджанамі з касты недатыкальных і з магараджай аднаго з нядаўніх княстваў...

Нямала запісана прозвішчаў, атрымана візітных картачак, кніг з аўтографамі, фота і сувеніраў. Некаторыя прозвішчы я назаву ніжэй, многія застануцца неназванымі, а яшчэ больш — невядомымі мне. Апошняе і натуральна і, разам з тым зусім неабавязкова для галоўнага.

Галоўнае ж у тым, што ў сотнях і тысячах вачэй мяне падкуплялі высакародная чалавечая дабрата, шчырасць пачуццяў, любоў да нашай савецкай краіны.

Мы з маім спадарожнікам і жылі там, і дахаты вярнуліся з пачуццямі, якія можна, бадай, назваць закаханасцю. У зямлю, што так даўно ўжо трапна названа «Зямлёю высакародных».

Мая закаханасць у Індыю мае сваю прадгісторыю, якой ужо блізу сорак гадоў.

З дзён школьнага маленства, нібыта праз салодкі сон, невыразна, але прыемна помніцца «Наль і Дамаянці», велічны эпас, спалучаны з «пленительной сладостью» верша Жукоўскага. У раннім юнацтве дзякуючы Рамэну Ралану я пазнаёміўся з «вялікім духам» — Махатмай Гандзі, абаяльным аскетам, мудрацом і народным героем. Пасля, ужо ў нядаўнія гады, ён расказаў мне многа пра сябе і свой народ у шчырай і глыбокай аўтабіяграфіі. У маладосці мяне зачароўвалі радкі Рабіндраната Тагора; нядаўна я зноў дакрануўся да іх, адчуўшы ў сцішнаватай цішыні сусвету нетаропкія, лёгкія крокі высокай паэзіі, індыйскай і агульнача-

лавечай. Толькі здалёк, у розных альбомных выданнях і ў кіно, я захапляўся казачным хараством індыйскай архітэктуры. У савецкіх і замежных музеях здзіўляўся геніяльнасці мастакоў і ўмельцаў. Душа народа — песня, індыйская песня дапамагала і мне: супакоіцца, засяродзіцца на галоўным, адчуць пяшчотнасць дружбы і кахання. І мяне хвалявала гарэнне Гандзі, высакароднасць Нэру, прыгожая смерць Лала Шастры, і мне імпануе вобраз мужнай і абаяльнай Індзіры, якой так нялёгка — цяпер я трохі ведаю — праводзіць у жыццё запаветы цэлай плеяды сваіх вялікіх папярэднікаў...

Гэта і мала, і многа. Многа — у тым сэнсе, што ведаў я ўсё-такі галоўнае. Вобраз краіны, вобраз народа толькі дапоўніўся ўбачаным і пачутым. Праўда, дапоўніўся вельмі і вельмі шчодра.

...Вечар у тропіках хутка змяняецца ноччу. Таму мне і зручней сказаць, што мітынг у вёсцы Бенхалі, каля горада Белгаўма, адбыўся ўначы.

Спачатку фары нашага «амбасадора», што віляў па лукатках палявой дарогі, то лавілі, то зноў гублялі туман чырвонага пылу — хвост пярэдняй машыны, з гаспадарамі. Пасля, каля першых будынкаў вёскі, нас запыніў вялізны натоўп. Мы выйшлі адразу ў вадаспадны шум — у воплескі, у музыку, у крык: «Хіндзі — русі — бхай, бхай!..» Нашы рукі, ужо тым часам і па прывычцы, склаліся перад тварамі ў прывітальным паклоне «пранам». (Прыгожы ён — ледзь не пяшчотны, як сімвал чыстаты пачуццяў.) На шыях мы зноў адчулі духмяную, цяжкую свежасць кветак. Гірлянда за гірляндай — да вушэй. Гарэлі паходні і ліхтары. Мноства вачэй. Здавалася — шчырых і добрых. Пяць дзяўчынак — малых, як бабы кажуць, і большанькіх — падышлі да нас са свяцільнікамі. Баначка з маслам і кноцік, што плавае і гарыць. Агеньчыкі свяцільнікаў мігцяць, хвалююцца, але не гаснуць. Мы прыгінаемся насустрач працягнутым рукам, і маленькія пальчыкі ставяць на нашых ілбах «цілак», чырвоны знак даверу і прыязнасці.

Пачынаецца шэсце.

Хлопцы-школьнікі — спераду недзе большыя, а перад намі чарнагаловыя падшыванцы ў чырвоных гальштуках — выконваюць народны танец «лезім». Напя-

рэдадні, у Белгаўме, знаёмячыся з фізкультурным коледжам, мы бачылі «лезім» у выкананні студэнтаў, як фізкультурнае практыкаванне, запазычанае ў народа. (Так гаварыў дырэктар коледжа.) Тут «лезім» быў дома, у народзе, і толькі танцам. Хоць у руках падлеткаў былі тыя самыя прылады — кійкі з бразготкамі на шнурку, які, у танцы, то нацягваецца, то адпускаецца, як цеціва. Толькі з бадзёрым металічным шумам. Прылада гэтая ці, можа, нават і ўдарны інструмент, называецца таксама «лезім».

Спераду чуюцца флейта і бубны. Калона хлопцаў і хлопчыкаў — у рытмічных выпадах наперад, назад, у бакі, зноў наперад — ідзе, танцуючы, стройна і весела шуміць бразготкамі, неяк нават пагрозліва, як у ваенным першабытным танцы. Асабліва, вядома ж, стараюцца найменшыя, што перад намі. Нас на іх націскае ззаду натоўп. Белая вопратка мужчын, цямнейшыя, каляровыя сары жанок і дзяўчат. Чорныя твары, вялікія чорныя вочы ўсёй вёскі. Паміж намі і «лезімам» мігцяць, не гаснуць свяцільнікі ў руках пяці чарнакосых дзяўчынак. А вуліцы — няма, мусіць, канца...

Як і гэтаму танцу. А я толькі думаў, што ў нашых вёсках мяцеляць або кружацца пад музыку бясконца, нібы ставячы нейкі сусветны рэкорд працягласці танцаў.

«Лезім» шумеў ды тузаўся, відаць, кіламетраў са два,— уздоўж шырокай вуліцы, а потым, калі мы апынуліся на плошчы, яшчэ і там, на адным месцы. Хлопцаў яшчэ ўсё як быццам ніяк не маглі супакоіць... Ды раптам флейта і бубны змоўклі, калона школьнікаў вельмі заслужана асела, дзе стаяла, на траву.

Пачаўся мітынг.

Калі натоўп праяўляе волю народа, на ўздыме ці ў бурным парыве выказвае яго высокія пачуцці — гэта хвалюе нас заўсёды, тым больш калі ўздым, парыў абрынаецца на душу нечакана.

На плошчы, калі мы ўжо сядзелі на пачэсных гасцявых месцах, я даведаўся, што стары ў цюрбане, з сівой барадой, флейта якога вяла сюды і танец і натоўп, даўно працуе тут настаўнікам. Чалавек паважаны, любімы. Ён дырыжыраваў і прывітальным крыкам «хіндзі — русі». Стары ўздымаў руку і танклявым, зношаным на рабоце, але яшчэ ўсё бадзёрым голасам выгук-

ваў два словы, імёны дзвюх краін, нібы пытаючы, што ім, гэтым краінам, рабіць? І ўвесь натоўп у адзіным парыве ўздымаў і натруджаныя жыццём, і маладыя, дужыя, і яшчэ кволыя рукі ды ручаняты, увесь натоўп адказваў адным выдыхам: «бхай! бхай!» — дружыцы!.. Не ведаю, што было больш вінавата — ці вадаспадная музыка гэтага ўздыму, ці змест яго... У такія моманты слёз не сорамна. Хоць ты, здаецца, і не адразу, не на ўсю глыбіню разумееш, што за падзея адбываецца, як яна выглядае на ростані стагоддзяў, не бачыш як след, што было да яе і што было б у нас без Кастрычніка, а ў іх без іхняй рэвалюцыі...

Нават і праз двайны пераклад — з канара на англійскую, а з англійскай на рускую — я адчуваў, што малады мясцовы камуніст, таварыш Менсі, які выступаў ад імя свае вёскі, хвалюецца тым самым хваляваннем, што і я.

— Многа белых людзей прыязджала сюды, каб паняволіць нас... Гэтыя ж белыя прыехалі да нас сябрамі...

На вачах у вялікага мноства людзей добра, радасна адчуваць, што ты выступаеш ад тых, каму верацъ, што за табою бачаць магутны, свабодалюбівы і міралюбівы народ.

Назаўтра мы сустракаліся з сялянамі іншай вёскі. Сустракаліся з новым багаццем, новай разнастайнасцю знешняга, ды з той жа самай шчырасцю. За флейтамі і бубнамі, за вялізнай трубой, дзьмуў у якую чамусьці маленькі хлапчук, за новым «лезімам», у гушчыні мужчынскага, у белай вопратцы, натоўпу мы зноў ішлі — усхваляваныя, абвешаныя свежымі гірляндамі. Ішлі па вузкай вуліцы, а ў цёмных праёмах дзвярэй і на балкончыках цагляных і глінабітных дамоў стаялі жанчыны ў некрыклівых сары, моўчкі, але прыязна глядзелі на нас, стрымана, сціпла ўсміхаліся.

Іменна тут, усярэдзіне гэтай вёскі, нас прывіталі, азначылі сваім «цілакам» харымджанкі. Першае азначэнне было зроблена пры ўваходзе ў вёску. А тут дзяўчаты ў цьмяных сары запынілі нас зусім нечакана. Побач з чырвоным «цілакам», трошкі ніжэй, паставілі чорны, свой. Ад беднаты, што спрадвеку не ўздымалася вышэй свайго батрацтва, закляймёнага пагардай і паняверкай — ад тых былых «недатыкальных», якія

найлепш, бадай, бо нутром, разумеюць, што мы — адтуль, дзе з-за бедных, абяздоленых рабілася найвялікшая рэвалюцыя.

Вочы цяпер, у ясны дзень, былі бліжэй, і ў гэтых вачах відаць была адкрытая душа, яшчэ ўсё нясмелая, ціхая радасць свабоды.

На фабрыках, дзе па-новаму, хоць і не на вельмі сучасных ткацкіх станках, і па-старому, ■ босымі чорнымі нагамі на панажах, ткуцца сціплыя і раскошныя сары; на заводах, дзе робяцца пнеўматычныя пад'ёмнікі і рамантуюцца трактары розных замежных марак, у тым ліку і нашы, беларускія; у аўдыторыях коледжаў і ў класах школ, дзе новая Індыя авалодвае святлом навукі; у залах клубаў і мэрыяў, дзе людзі сабраліся на свята дружбы,— усюды мы бачылі шчырасць, высакароднасць і прыгожую чалавечую дабрату.

І як жа прыкра было, што мой свет шчырасці, маю даўнюю прыхільнасць да Індыі, маё разуменне яе я не магу тут выказаць сам!.. Ёсць позіркі, усмешкі, прывітальны і развітальны «пранам», а то часамі і поціскі рук, па-нашаму, чуюцца гукі, сабраныя ў незразумелую музыку слоў, а мовы агульнай, а поўнага разумення — няма... Штосьці падобнае да апошняга вакзальнага развітання,— калі праважатых ужо выпрасілі з вагонаў на перон, а цягнік марудзіць, не кранаецца. Крычы, махай рукамі, усміхайся — з перона ў вагон і з вагона на перон — нічога не скажаш. Аднак жа там гэта толькі часовае. Улетку апускаецца акно, зімой можна выбегчы ў тамбур, адтуль штосьці крыкнуць. Можна, урэшце, стоячы перад шклом глухаты, развесці рукамі і засмяяцца: нічога, толькі што гаварылі, хутка сустрэнемся — пагаворым зноў... А тут жа, на чужыне, ты не на некалькі хвілін застаўся без мовы,— тут ты такі дзень за днём, ад чалавека да чалавека ідзеш, едзеш з натоўпу ў натоўп. І — немата!..

Укінуты ў іншае моўнае асяроддзе, бездапаможны нават і з перакладчыкам, добра бачыш і горка адчуваеш крыўду, якую нам прычыніла і свая лянота і нядаўняя... асцярожнасць да чужых моў... Яшчэ раз і, здаецца, мацней, чым ва ўсіх ранейшых замежных падарожжах я адчуваў у Індыі, што гэтую сцяну — сця-

ну недаравальна несучаснай нематы — не проста трэба, але неабходна абрынуць культурай.

Чакаць, пакуль у Беларусі будуць вывучацца канара, маратхі, хіндзі, урду і іншыя мовы поўдня і поўначы Індыі, а там — беларуская мова, гэта, вядома, можна... Пакуль што, аднак, ва ўсёй індыйскай краіне бытуе мова англійская. Мова не толькі нядаўніх прыгнятальнікаў, не толькі Шэкспіра і Шоў, але ж і мова зносін з народамі свету, дзелавых і сяброўскіх, адна з найбольш трывалых міжнародных моў. Ведаць яе сёння трэба, і вельмі добра, што замежныя мовы вывучаюцца ў нас апошнім часам значна лепш, чым у нядаўнім мінулым. Хоць засталіся яшчэ і лянота, і невуцкі цынізм, і рэшткі нейкай пашахонскай фанабэрыі: «Няхай лепш яны вывучаюць рускую мову!..»

А яе такі добрыя людзі і вывучаюць.

Здарылася так, што з Дэлі ў Бангалур мы прыляцелі амаль на два дні раней, чым трэба было па плану, раней, чым туды прыляцеў з Мадраса наш перакладчык. У самалёце яшчэ так сабе,— глядзі ў акно, гавары с суайчыннікам, любуйся сцюардэсамі, што ветлівенька, з усмешкамі снуюць па праходзе ў сваіх, няхай і форменных, а ўсё ж экзатычных сары. А вось калі мы спусціліся з трапа ў аэрапортаўскі натоўп і нам на некалькі вельмі доўгіх мінут здалося, што нас тут ніхто не чакае (бо пра няўвязку мы ведалі),— адчуванне было даволі прыкрае...

З прыгожай і ціхай на ляту «Каравелы» белых пасажыраў выйшла вельмі няшмат. І гэта нам дапамагло. У самай гушчы смуглага ды чорнага натоўпу нас запыніў высокі, танклявы, з чорнымі вусікамі малады індыец у еўрапейскім касцюме.

— Вы — белорусы? Здравствуйте, друзья! — зусім свабодна, нават падкрэслена добра сказаў ён па-руску.

Гэта быў Ананд Мохан. Адзін з сакратароў мясцовага аддзялення «Іскус'а», інжынер-авіябудаўнік і, на грамадскіх пачатках, выкладчык рускай мовы на вячэрніх дыпломных курсах. Работы ў хлопца хапае. Аднак галоўная яго служба мне бачыцца ў тым, што чалавек ён — шчыры і светлы. Чорныя вочы Мохана адразу здаліся мне завялікімі; але ж якраз яны і ўспамінаюцца мне найраней, як толькі прыгадаю індыйскі старадаўні афарызм пра дабрату ў вачах. Высакарод-

ная дабрата, пачуццё ўласнай годасці, спалучаныя са сціпласцю культурнага чалавека. І трошкі яшчэ вельмі мілай, амаль па-дзіцячаму чыстай наіўнасці.

Ананд Мохан быў не адзін,— сустракалі нас і віцэ-прэзідэнт таварыства пан Рэддзі, і генеральны сакратар асацыяцыі студэнтаў, што вывучаюць рускую мову, пан Малікарджуна Рао, і маладзенькая істота ў светлым сары — пані Раджа Лакшмі, жонка Мохана.

Трохі пазней я даведаўся, што яна настаўніца, паэтэса і сакратар жаночай секцыі «Іскус'а» ў Бангалуры, яшчэ пазней — што імя яе паходзіць ад Лакшмі, багіні шчасця і багацця, і лічыцца яно назоўным для жонкі прыгожай і вернай. Паэзія гэтага імя не здалася мне незвычайнай,— ёсць жа ў нас, скажам, Святлана, у сербаў Ясна, у літоўцаў Гражына, красуня, у таджыкаў ажно Гульчахра, тварык як ружа. Прыйшлося проста згадзіцца, што той, хто надаваў імя Моханавай сяброўцы, меў густ і здольнасць прадбачання. Да тых якасцей, якімі надзелены Аманд — да шчырасці, дабраты, высакароднай сціпласці і адчування годнасці чалавека — у Лакшмі хораша, натуральна далучаецца абаяльнасць прыгожай, чыстай жанчыны, тая паэтычная пяшчотнасць, якой так многа ў індыйскай музыцы, заўсёды ціхай і сардэчнай.

Пішу гэта і лаўлю сябе на думцы, што такая мая прыхільнасць да гэтай пары, Ананда і Лакшмі, тлумачыцца і тым, што абое яны адносна добра гавораць па-руску, што ў іх асобе мне вельмі добра было сустрэць на далёкім індыйскім поўдні людзей, з якімі можна нацешыцца шчырым словам...

Ну, а што, калі і так?..

Пад канец падарожжа, у горадзе Мангалуры, доктар Шастры зрабіў нам прыемную неспадзяванку. Маё выступленне на мітынгу перакладала яго маладая зямлячка — адразу з рускай мовы на канара. Выступаючы, я стараўся гаварыць як найпрасцей. Скажу і збоку, крадком назіраю, як яна, стоячы побач, перад другім мікрафонам, ловіць, запамінае і ўжо трансліруе ў думках мае словы. Перакладзе чарговую «порцыю» і ўсміхнецца: «Прашу вас далей». І на вачах у мноства людзей, і потым, калі мы, быццам схаваўшыся за спінамі першага рада прэзідыума, асцярожна шапталіся з ёю па-руску, я быў блізкі... ну, проста да закаханасці

ў гэтую ціхую, пяшчотную, але ж і энергічную Джаянці. Шчаслівая матуля пяцімесячнага сына, маладая настаўніца, якая, яшчэ дзявочаю справай, паехала ў Маскву, вучылася там «телый год» і вось працуе для вялікай справы. «Малё, малё работаю. Мальтик будет больсёй — буду больсе...»

Хвала гэтым людзям, канарыйскім дзяўчатам і хлопцам, за тое, што яны не з прымусу, не па службоваму абавязку, а па ўласнай ахвоце пайшлі на дзейснае, канкрэтнае збліжэнне з нашым светам. Добра было б нашай моладзі набрацца як найбольш такое ахвоты да пазнавання краін і народаў...

Ды і старэйшым яна не пашкодзіла б.

Два бангалурскія дні, адразу па прыездзе ў Індыю, мы, як госці, пражылі ў сям'і прэзідэнта гарадскога аддзялення «Іскус'а» доктара Даялы. Ён быў у Савецкім Саюзе, пра падарожжа тое гаворыць з захапленнем і, як нам пасля растлумачыў Мохан, вельмі рады цяпер, што ў доме яго нарэшце гасцююць савецкія людзі. На другім паверсе светлага асабняка ў зацішным трапічным садзе нам быў адведзены пакой. Есці нас запрашалі ўніз, а ранішнюю каву або чай з малаком — да снедання, адразу пасля сну — прыносілі наверх. Сам доктар, бацька вялікай сям'і, вазіў нас вечарам у драматычны тэатр, на спектакль «Рамаяны». Сын, малады юрыст, разам з двума другімі актывістамі «Іскус'а», паказваў нам горад. Доктар Даяла знаёміў нас з клінікай, у якой ён, вядомы хірург, працуе і ўласнікам якое з'яўляецца, на паях з дзевяццю іншымі ўрачамі. Там жа, у якасці аспіранткі, працуе адна з яго дачак, вясёлая кошачка Канты. Другая дачка, Шанты, таксама аспірантка, больш ціхая, нібы нясмелая. Па гэтай весялосці адной і ціхманасці другое, дзяўчат, дарэчы, можна толькі і адрозніць: яны блізняты. Гаспадыня дома, пані Даяла, жанчына таксама ціхая, самавітая і, мусіць, добрая — якасці многіх на свеце мам. Частуючы нас, яна сядзела, а то і стаяла каля стала, за якім мы, звычайна ўтрох з доктарам, вялі разведку тонкай індыйскай кухні. Маці або гаварыла пра штосьці, пыталася ці расказвала, раз-пораз звяртаючыся да мужа: ты бачыш, гаспадар, дык вось і памажы мне дагаварыцца з людзьмі...

Ох, гэтае дагаварыцца!.. Канты, калі ёй ужо зусім

было немагчыма пераносіць нашу і канарыйскую, і англійскую без'языкасць, брала два слоўнікі, англа-рускі і наадварот, адзін давала нам, другім узбройвалася сама. Водзячы пальчыкам па радках, знаходзіла штосьці патрэбнае, міла калечыла яго вымаўленнем, яшчэ мілей смяялася, свецячы беллю адборных зубоў. Так мы ўдакладнілі, што яны з Шанты блізняты, што Шанты — гэта, па-канарыйску, мір, а Канты, яна — святло. Даведаліся, што ў іх ёсць яшчэ дзве старэйшыя сястры, абедзве замужам у Бамбеі, і брат, інжынер, які працуе цяпер у Злучаных Штатах. Па слоўніку Канты прызналася, што ў красавіку яна выйдзе замуж. Нават такую тонкасць мы разабралі, на змену палазіўшы на драбінах радкоў, што малады прыедзе з Бамбея ў іх дом, па індыйскаму звычаю, будзе ўсыноўлены бацькамі маладое, і яны застануцца тут.

Сам доктар, разумны і бывалы чалавек, не мог заспакоіцца такім кругам пытанняў. Калі ў справах стала або паездкі на аўтамашыне (за рулём якое тады свяціла ўсмешкай, як каралеўна, прыгожая Канты, яшчэ раз у новым сары) ён спраўляўся сяк-так пры дапамозе слоўніка і сваіх маскоўска-ленінградскіх успамінаў, дык на сур'ёзныя тэмы гутарку пачаць, хоць бы з прыблізнай прыстойнасцю, не мог. Зноў лез у тугадумны, непаваротлівы слоўнік, нервова шукаў, не знаходзіў, шукаў і, нарэшце, даведзены да адчаю, зноў трагічна пытаўся: «Кде переvotшик?!»

Наш будучы перакладчык яшчэ не прыляцеў з Мадраса. А Мохан радаваў нас сваім прыходам, адзін або з Лакшмі, толькі ўвечары, пасля працы на заводзе.

І нам, прадстаўнікам беларускай навукі і культуры, было ўжо не так весела, як з Канты,— мы адчувалі сябе вельмі прыкра.

Мне ўспаміналася адна сустрэча літаратараў са спартсменамі, дзе трэнер, культурны хлапчына, сказаў, што быць у наш час пузатым — брыдка не менш, чым быць непісьменным. Хацелася, успомніўшы гэта, дадаць, што прадстаўляць сваю радзіму за мяжой, не ведаючы хоць адной еўрапейскай мовы, сорамна і пузатаму, і падцягнутаму, як спартсмен.

Гэтую прыкрасць я адчуваў і там, дзе мы гутарылі або выступалі пры дапамозе перакладчыка, асабліва — на сустрэчах з пісьменнікамі. Віктар Рамашкін пера-

кладаў нястомна, амаль заўсёды ахвотна,— справа не ў ім асабіста. Мне ўжо тым часам даводзілася карыстацца паслугамі знаўцаў не толькі англійскай мовы. Справа таксама не ў тых нязручнасцях, якія адчувае за мяжой наш дэлегат або турыст. Галоўнае — у той вялікай і неадкладна патрэбнай рабоце, якую ўсе мы, людзі добрай волі, павінны рабіць для справы міру і дружбы народаў, неабходнасць якіх *для жыцця,* для ўратавання яго становіцца ўсё больш ды больш відавочнай.

Такі папрок, калі ў гэтым ёсць суцяшэнне, можна адрасаваць і нашым індыйскім сябрам. Веданне англійскай мовы — не іх заслуга, а вынік двухвекавой каланіяльнай залежнасці, няволі. Іншыя мовы, якія прынята лічыць міжнароднымі, гучаць там, сярод інтэлігенцыі, вельмі рэдка.

Малодшы сын доктара Даялы, інжынер, працуе з тэхнікай, якую Індыя купляе ў ФРГ. Яму патрэбна нямецкая мова: чытаць спецыяльную літаратуру, кансультавацца з нямецкімі калегамі і, зразумелая мара, калі-небудзь паехаць у Германію. (Маці, праўда, прасіла нас, пры ўдзеле бацькі з яго слоўнікам, дапамагчы яе меншаму паехаць на аспірантуру лепш у СССР...) Гэты вясёлы, як і Канты, хлапчына прыходзіў увечары пагаварыць са мною па-нямецку. Шансы ў нас амаль роўныя: ён толькі што пачынае сваю самастойную вучобу, а я патроху ўжо трачу і тое, што набыў калісьці ў польскай школе ды ў нямецкім палоне, працуючы на «арбайтскамандах», у рабочым ці сялянскім асяроддзі. Аднак жа я лавіў сябе на тым, што мне прыемна, калі ён прыходзіць з работы і паднімаецца ў наш пакой. Нейкая блізкасць, нават на дружбу падобна,— ад радасці, што вось мы, глядзі, і прабілі хоць трохі сцяну, якая падзяляе нас, перашкаджае нам адчуць па-сапраўднаму, што мы людзі. Радасць — блізкая да таго адчування свабоды, з якім я, скажам, ныраю час ад часу ў польскае жыццё, да адчування, якога мне ў Індыі, без ведання хоць бы англійскай мовы, здорава не хапала.

Дык ці варта казаць, як нам патрэбен быў Мохан, які ён здаваўся сваім?..

Гаворыць ён па-руску лепш за Лакшмі. Калі на вечары, наладжаным асацыяцыяй студэнтаў, што выву-

чаюць рускую мову, ён чытаў з трыбуны Тургенева,— не толькі па тэхніцы, але і па хваляванні было відно, як ён добра ўвайшоў у смак, у музыку матэрыялу.

Лакшмі трохі залішне сціплая. «Я нет хорошо говорить по-русски»,— гэта гучыць вельмі міла, напамінаючы нясмеласць, пэўную нязграбнасць рухаў у танцах малых індыяначак. Лепш будзе, вядома, калі яна стане сапраўднай артысткай свае справы, аднак, ужо і цяпер, калі я слухаў яе кароткі даклад і асабліва песню на яе словы, было надзвычай прыемна.

Когда вижу тебя,
душа моя поет,
страна моя родная,
святая моя Индия,
Ты мать тех людей,
что пали за свободу,
Ты сердце тех людей,
что хотят миру мира.

Гэта напісана Лакшмі па-руску. З Анандам і яшчэ адным таварышам яны спявалі гэтую песню са сцэны.

Ананд таксама піша вершы. У нашай ціхай гутарцы, калі нам неяк выдарылася пасядзець сам-насам, ён мне... нельга сказаць: прызнаўся ў гэтым — ён проста расказаў, не пахваліўся, а паведаміў пра гэта, як пра справу, якая здаецца яму вельмі важнай і якую ён робіць, як можа, думаючы больш за ўсё пра абавязак.

— Я написал недавно такие стихи:

Сделано очень мало.
Нужно сделать еще очень много.
Мы будем идти вперед!

Шкада мне аматара «праўды», які паблажліва скрывіцца: «Гэта, па-вашаму, паэзія?.. Ёсць праўда большая, без двукосся. І ў гэтым наіўным вершы, і ў светлай веры, у мужнай настойлівасці нашага друга на далёкім поўдні, аднаго з прадстаўнікоў новага пакалення змагароў за Індыю.

Індыйцы вельмі гасцінны народ, часамі нават да наіўнасці. Мы былі ў многіх дамах, багатых і сярэдня-

га дастатку. На жаль, не давялося пабываць у доме батрака ці беднага рабочага. Аднак жа гасціннасць нідзе ў цэлым свеце не з'яўляецца нейкай адметнай рысай, асаблівасцю людзей забяспечаных, вынікам іх дастатку ці багацця,— якраз часцей бывае наадварот. Не думаю, што ў Індыі рабочыя, бедныя людзі менш высакародныя, чым у іншых краінах, і таму гавару пра гасціннасць індыйцаў наогул.

А ў чым жа наіўнасць? Ды ў тым, што чалавек не толькі пасадзіць цябе на найлепшае месца, не толькі запаліць букецік духмяных сандалавых палачак, не толькі пачастуе найлепшым з таго, чым яго хата багата,— яшчэ і жонку пакажа, і дзетак, і маму, і цешчу, а потым і спальню, і кухню, і туалет... І ўсё гэта настолькі ад чыстага сэрца, што і табе застаецца быць толькі сур'ёзным. Так бывала, вядома, не ў кожным доме. Там было трохі больш афіцыйнасці, там была гутарка на высокія тэмы, там паляўнічая мана над шкурай бенгальскага тыгра, які, як сведчыў нам у запале віцэ-мэр аднаго з гарадоў, такі быў цяжкі, падла, што чатырох ледзь паднялі адну яго лапу... А некаторыя, як я казаў, вялі і на агляд сваёй кватэры. Усе ж былі, кожны па-свойму, але шчыра гасціннымі.

І ніхто ніколі... «не паставіў чаркі».

Кава, чай з малаком, бананы, арэхі, сухарыкі. А дзе абед ці вячэра — многа дробненькіх, у маленькіх талерачках, вострых або салодкіх вегетарыянскіх страў, сок, таматны або апельсінавы, зноў жа чай з малаком або белая кава, міндалевае малако ці проста шклянка халоднай вады.

Цвярозасць, як і вегетарыянства, яшчэ ў далёкім мінулым стала ў Індыі жыццёвай нормай.

Мне гэта блізка. Я ўспамінаў там сваю цвярозую маладосць, той час, калі мы, заходнебеларуская моладзь, свядома не пілі і ганарыліся гэтай адзнакай культурнасці. Цяпер, пачаўшы з дзён вайны, я разумею збольшага паэзію сяброўскай чаркі, ахвотна падняў бы яе з індыйцамі — за іх і нашу будучыню. Аднак я рады і засведчыць, што нідзе, ва ўсіх гарадах і вёсках, дзе пабываў, у меншых і большых натоўпах, за меншым ці большым сталом — нідзе не бачыў ніводнага п'янага, ніводнай... дзе там бойкі — ніводнай грубасці, ніводнага хулігана. Два індыйскія хлопцы

выпілі аднойчы з намі па кроплі «Белавежскай»; другі раз некалькі чалавек падтрымалі нас трохі на вясёлым мужчынскім застоллі, калі нам была пастаўлена бутэлька індыйскага віскі, а мы адмовіліся піць толькі трыма славянскімі сіламі. Я чуў, што ў паўночнай Індыі з гэтым вальней, ёсць нават свая самагонка. Але ж і ў Дэлі, дзе мы, на зваротным шляху, пабывалі не толькі каля славутых помнікаў архітэктуры, а таўкліся і ў бедных кварталах старога горада, у людскім гушчары, проста вулічным і кірмашным,— п'яных таксама не было. П'янства зусім не характэрна для індыйскага жыцця. Яны вельмі добра ўмеюць быць вясёлымі і без дурману.

І лепш было б, вядома, не ім заразіцца ліпкай, атрутнай «паэзіяй» чаркі, а нам навучыцца спажываць яе разумней...

Пра гэта думалася з зайздрасцю і сорамам.

І яшчэ пра адно.

Гэта датычыцца моладзі, і таму я адразу агаваруся, што не хачу хоць трохі быць падобным да ханжы, які зусім не разумее хмельнай слодычы забароненага яблыка, а тым больш кахання чыстага, сапраўднага.

Я бачыў вельмі многа індыйскай моладзі, пераважна студэнтаў. У жаночым каледжы ў Бангалуры на зялёнай паляне, у засені дрэў, на сустрэчу з намі сабралася больш за тысячу дзяўчат. Стройных смуглянак, чарнакосых ды чарнавокіх, у вясёлых, спакуслівых сары. У іншых каледжах дзяўчаты сядзелі разам з хлопцамі, да мітынгу і пасля разам хадзілі, шумелі, смяяліся. Бачыў я вечарамі і парачкі, чуў на змярканні прыцішаны смяшок. У Індыі многа прыгожых дзяўчат і хлопцаў. У Індыі цудоўная паэзія кахання. Індыйская песня і музыка гавораць пра яго вельмі хвалююча...

І ў Індыі я не бачыў... ніводнага пацалунка.

Яго не дэманструюць, як у нас, у парках ды на вуліцах, ён — справа чыста інтымная, ад чаго таямніцы кахання і прычароўваюць і дораць больш.

Такой здаровай чыстаты, такой сапраўднай абаяльнасці, такога такту ў публічных паводзінах вельмі апошнім часам не хапае нашай моладзі. Зайздросна. Прыкра. Не за ўсю, вядома ж, моладзь прыкра, а толькі за тую, што на ляту, з варварскай прагнасцю хапае

ў іншых народаў горшае, пераймае і прапаведуе жалю варты цынізм у святых чалавечых адносінах.

...Калі цвярозасць і дабрата прыйшлі на гэту прыгожую зямлю, як пішуць некаторыя, разам з будызмам ды індуізмам, дык, можа, і не варта лішне крыўдзіцца на гэта? Тым больш што асаблівай рэлігійнасці, прынамсі, у знешнім яе праяўленні, у Індыі нам не даводзілася сустракаць.

У Дэлі мы бачылі «найбольшую ў мусульманскай Азіі» мячэць Кувват-уль-Іслам, раскошнае збудаванне трынаццатага стагоддзя. Туды, вядома ж, заходзяць разуўшыся. Мы не разуліся, бо быў дажджлівы і, пасля прыезду з поўдня, халодны дзень. Барадатыя ды чалматыя актывісты ісламу вярнулі нас з велічных сходкаў назад у натоўп, адкуль мы і паглядзелі на гэтае дзіва архітэктуры, яшчэ адно — пасля фантастычна прыгожага мінарэту Кутб-Мінар, узнятага ў індыйскае неба ў дванаццатым стагоддзі.

На поўдні, у старадаўнім Каркале, мы аглядалі індуісцкі храм Шры Гаматэсвара. На высокай каменнай гары, з далёкім аглядам на скалы і разнатонную зеляніну джунгляў і рысавых палеткаў, узвышаецца статуя з кварцытава-гранітнага маналіта, каля пятнаццаці метраў вышынёй. Калісьці, у сівой мінуўшчыне, бога на гэтую гару цягнула дзесяць тысяч чалавек, воз каціўся на дваццаці вялізных колах, а ззаду гэтую махіну прытрымлівалі і папіхалі біўнямі, як сведчыць даведнік, «усе каралеўскія сланы». І ўсё ж — маналіт прасоўваўся за дзень няпоўныя два метры. Наверсе дапрацоўка і шліфоўка статуі працягвалася цэлы год. Уздымалі яе на п'едэстал тысячай лябёдак, пад песні тысячнага хору...

Ух, ты!.. І тут, на гэтай чорнай гары, як і на белым Акропалі ў свой час, захапленне мастацтвам было ў душы маёй пранізана сціпнаватым, сваяцкім жаданнем — уявіць пот і кроў, на якіх яно, мастацтва тое, вырастала.

У адну невялічкую вёску ў зялёных гарах мы прыехалі сонечным раннем. І ахвотна разуліся, каб басанож — у снежні! — прайсціся па цёплых плітах двара перад вясковым храмам. Спачатку здалося: пуста тут, мусіць, ад таго, што «опіум» ужо аджыў, застаўся яшчэ адзін сякі-такі помнік мінуўшчыны. Ды

вось неўзабаве аднекуль прыйшоў худы, у падкасаным вышэй каленяў дхоці мужчынка з хвосцікам бабскай касы, вузлом завязанай на патыліцы. Сябры з тумкурскага аддзялення «Іскус'а», якія праводзілі нас, сказалі, што гэта — свяшчэннаслужыцель. Ці гэта быў «панда», індускі поп, ці «сан'ясі», манах-самотнік, мы, дэлегаты, не разабраліся. Мне нават, не вельмі ў пару́, успомнілася фраза з пісьма запарожцаў турэцкаму султану: «Нэ нашого бога дурэнь...» Ён адчыніў для нас свой храм, запаліў у алтары свяцільнікі, пазваніў у адзін, у другі падвешаны званок, вякнуў на бубне, таксама падвешаным да столі, даў нам лізнуць святое вады і, як водзіцца ў божай справе, працягнуў руку па рупіі. Дарэчы, сярод усёй гэтай нікчэмнай старажытнасці ў ценевым кутку красамоўна пабліскваў сучаснасцю самы звычайны невялікі сейф...

Пасля наведання гэтага храма, у дарозе мне неяк свежа думалася пра тое, што ўсе, на ўсіх шыротах рэлігійныя абрады аднолькава недарэчныя ў наш час і што вельмі патрэбна сілай мастацкага слова паказваць гэтую недарэчнасць як адваротны бок так неабходнага людзям разумнага інтэрнацыяналізму. Успаміналася, што ў нас, з нашай праваслаўнай недарэчнасцю, такое зроблена ўжо Львом Талстым, і вельмі нядрэнна, калі ўзяць для прыкладу хоць бы абедню з «Уваскрасення». Ды гэтага вельмі мала, калі пытанне ставіць па-сучаснаму, глабальна, ад вясковага храміка ў паўднёваіндыйскіх гарах да «апостальскай сталіцы свету» — Рыма.

А Рым, дакладней — Ватыкан, справу сваю робіць здорава.

На Малабарскім узбярэжжы, у гарадах Удзіпі, Мангалур і ў вёсках ды мястэчках паміж імі сустракаецца многа крыжоў, касцельных і на могілках. Сустрэлі мы і пахаванне чорнага нябожчыка з ксяндзом за труною. Мала таго — каляднае снеданне, за багатым сталом каля асветленай ёлкі, мы спажывалі ў каталіцкай сям'і...

Сям'ю гэтую ўзначальвае энергічная, прыгожая асенняй красою жанчына, маці вялікай сям'і, віцэ-мэр Мангалура і старшыня ўсеіндыйскай асацыяцыі жанчын-каталічак. Пра мужа пані Альбукак не скажаш,

што ён у хаце не гаспадар. Пакоі дома ўсцелены шкурамі тыграў і змей, забітых ім асабіста. Ягоны расказ пра ўласную курыную ферму падмацаваны быў цэлым кошычкам яек, прынесеных хутка і вельмі буйных сапраўды. А маленькія ўзоры чарапіцы ўласнага завода даюцца ў гэтым доме як сувеніры і, відаць, разам з тым як рэклама старое, ад прадзеда, фірмы... Ды ўсё ж — галоўнай у сям'і нам здавалася гаспадыня.

Яна засведчыла гэта даволі арыгінальна.

Адна са шматлікіх дачушак прынесла маме багатую шкатулку. На белы свет не ўпершыню была вынята сямейная гордасць — залаты ордэн, дадзены маме, і сярэбраны — тату. Ад папы рымскага. Тату, відаць, за кампанію. Бо маме дадзены яшчэ і рубінавы з золатам крыж на рубінава-залатым ланцужку, і шыкоўны дыплом, у тэксце якога два каляровыя авальныя фота: уверсе сам Іаан XXIII, а ўнізе экзатычная красуня — мама...

Узнагароды гэтыя, а да таго яшчэ і паездка ў Рым,— за заслугі ў распаўсюджванні каталіцызму на новай глебе, больш падатлівай за еўрапейскую.

Зрэшты, экспансія Ватыкана ў далёкія заморскія краіны здаецца справай менш рэлігійнай, а больш — палітычнай.

Што да нас, дэлегатаў, дык мы прынялі гасцінныя запрosіны гэтай сям'і, цікавай і паважанай у горадзе, кіруючыся адной палітыкай, адным жаданнем: няхай краіну нашу, нашых людзей — у нашым шчырым імкненні да міру і дружбы — правільна разумеюць людзі розных перакананняў, і палітычных, і рэлігійных.

Адшэльнікамі, сан'ясі, якія, «адмовіўшыся ад касты, ад групы, ад грамадска карыснай дзейнасці, могуць лазіць па краіне і рабіць што ім уздумаецца» [1],— бываюць, як нам расказалі, не толькі дарослыя. І дзяцей такім чынам набліжаюць да святасці.

У вясёлых чародках нармальных дзяцей мне разоў некалькі давялося ўбачыць такога «сан'ясі» — ад нараджэння нястрыжанага хлопчыка, падобнага на дзяўчынку з распушчанымі і збітымі ў смярдзючыя

[1] Дж. Нэру. Адкрыццё Індыі.

касмылі валасамі. Хацелася, набраўшыся цярплівасці, пастрыгчы яго ножніцамі ды налёўкай, памыць яму, разоў чатыры намыліўшы, галаву і ўсё нявіннае, чорнае і худзенькае цела, злёгку пстрыкнуць па свежа-шэрай, чысценькай «бручцы» і сказаць, пажадана па-канарыйску:

— Бяжы, галапупец, гуляй! І абрастай такімі ж кудзеркамі, як ва ўсіх!..

У тых праявах спрадвечнага рэлігійнага культу, якія мне давялося назіраць, спадабалася, не лічачы мастацкага боку справы,— архітэктуры, толькі адно: узвядзенне да рангу святых людзей звычайных, простых, амаль сучаснікаў, толькі заслужаных перад народам.

У невялікім горадзе Гадагу, слаўным бавоўнай і коледжамі, мы наведалі школу для сляпых дзяцей. Часу ў нас было мала, і энергічныя актывісты мясцовага інда-савецкага таварыства абмежавалі гэтую сустрэчу толькі канцэртам. Перад сталом, за якім нас меліся пасадзіць, вялізным кругам размясціліся няшчасныя хлапчукі-музыкі, з усёй экзотыкай струнных ды ўдарных інструментаў. Ды ўсё ж, як ні мала было ў нас часу на гэты канцэрт, як пасля аказалася — вельмі цікавы, ён пачаўся з малітвы...

На алтары былі запалены маленькія, ціхенькія свяцільнікі, што абкружылі гэтай узвышанай ласкавасцю бюст — не бога, а чалавека.

Два юнакі, відушчыя, адны з тых нямногіх, што вучацца ў гэтай школе разам са сляпымі, пасталі абапал алтарнай нішы і ціха, урачыста, нават захоплена заспявалі.

Гэта была, сказалі нам, не малітва. Гэта быў гімн, хвала чалавеку, народнаму падзвіжніку ўжо нашага стагоддзя, арганізатару і першаму настаўніку гэтай школы.

Пры чым тут, уласна кажучы, рэлігія?..

І слухаючы гімн, і потым, пад цудоўную музыку ўжо не першага пакалення не акінутых людзьмі гаротнікаў, я думаў не пра тое, што і ў Індыі, відаць, не ўсе такія арганізатары і настаўнікі акружаны належнай пашанай... Я думаў, як многа яшчэ павінны зрабіць у гэтым сэнсе мы, колькі яшчэ герояў ды падзвіжнікаў абыдзена ў нас пашанай і ўдзячнасцю...

...Да нуды зацяганая фраза з дорожных нататкаў: «краіна кантрастаў»... Аднак сутнасць акрэсленая застаецца: не заўважаць кантрастаў нельга. Маўчаць пра іх — няправільна.

Я ўжо намякаў на адну рысу індыйскага характару — адчуванне ўласнай годнасці, чалавечай і нацыянальнай. «Нашим бы немножко сих качеств! О, господи!» — хочацца ўсклікнуць па-горкаўску. Нам — беларусам, народу, сціпласць якога з якасці station ўчай зачаста і заглыбока, залішне крыўдна пераходзіць у недахоп... Любоў да свайго, высакародная гордасць — быць адначасна і грамадзянінам свету, і верным сынам радзімы — бачылася мне там вельмі часта, у разнастайных яе праяўленнях.

«Пры ўсёй маёй вялікай адданасці Індыі, я даўно лічыў, што нам патрэбна штосьці большае, чым любоў да свае бацькаўшчыны, для таго, каб зразумець і вырашыць нашы ўласныя праблемы і яшчэ больш — праблемы ўсяго свету ў цэлым».

Індыйскі здаровы патрыятызм,— гандзісты не саромеліся называць яго нацыяналізмам,— спалучаны з арганічнай патрэбай інтэрнацыяналізму. Гэтая рыса, вядома ж, не прыдумана Джавахарлалам Нэру, аўтарам вышэй прыведзенага выказвання: ён толькі заўважыў такую рысу ў характары свайго народа, агульначалавечы гуманізм якога ідзе сваімі вытокамі з сівой далечыні мінулага.

Малітвенная сур'ёзнасць, з якой навучэнцы школы сляпых спявалі хвалу самаахвярнаму народнаму асветніку; гордасць, з якою віцэ-канцлер Дарварскага універсітэта расказваў нам пра сваю маладую, а ўжо цудоўна наладжаную навучальную ўстанову; закаханасць у родную справу, у першыя дасягненні свабоднай Індыі, узварушліва наіўная радасць, з якою нам у адной вёсцы паказвалі прымітыўныя яслі, а ў горадзе — будаўніцтва яшчэ аднаго завода,— усе такія пачуцці здаваліся мне насычанымі гордым падтэкстам, імя якому — здаровае і зайздроснае адчуванне нацыянальнай годнасці. Наша свабода, наша культура, наша ўсё!..

А разам з тым, мне было проста сорамна, нават часамі балюча праходзіць па калідоры гатэля, калі насустрач уставала і прыніжана кланялася абслуга. Та-

кое ж адчувалася тады, калі да чамадана твайго кідалася адразу некалькі добраахвотных насільшчыкаў, калі ты не паспяваў сам сабе адчыніць дзверы аўтамашыны, калі па вуліцы следам ішоў ды кавэнчыў малы аматар яшчэ раз пачысціць твае, і так зіхотныя, туфлі... Каб ведаў мову — сказаў бы: «Ды не, я не прывык, таварышы, я не хачу і ніколі не буду сахібам!.. [1]»

Наколькі гэтая прыніжанасць перад белымі ідзе яшчэ ўсё ад двух стагоддзяў каланіяльнай няволі, а наколькі проста ад беднасці — цяжка сказаць.

Беднасці бачылі мы нямала.

Раскошныя сары, паэтычная вопратка індыянак, падсвядома здаваліся мне раней — па ілюстрацыях, карцінах і кіно — нечым толькі святочным, урачыстым, уласцівым толькі мастацтву ды арыстакратыі. Потым прыйшла прыемная проза экзотыкі — у сары бачылі мы і жней, і пастушак, і падносчыц цэменту на будаўніцтве. Прыйшла да нас, шчодра нам паказала сябе і беднасць — суровая, бязлітасная, да болю непрыгожая. Каля вясковых хацін і гарадскіх пралетарскіх закуткаў цьмяныя, нават дзіравыя сары не мелі ўжо аніякай экзотыкі, нягледзячы на тое, што прыкрывалі яны не толькі чорныя косці выпетранай галечай старасці, але і маладое дзявочае цела.

Прыгнятала душу і жабрацтва. Не разбярэшся, калі яно прафесія, з пэўнымі навыкамі і традыцыямі гэтага агіднага майстэрства, а калі яно не фальшывае, а з бяды. Працягнутая дзіцячая рука і вялікія, у такіх, здаецца, аж вельмі вялікія вочы з умольнаю просьбай — гэта не надта гарманіруе з пальмамі, скаламі і белымі каменнымі карункамі на гордых купалах. І ўжо зусім страшна, калі руку працягвае беднасць, спачвараная невылечнай хваробай...

Выступаючы на інда-беларускім вечары дружбы, доктар Даяла з жалем культурнага чалавека і патрыёта ўспомніў пра аднаго нашага інтэлігента, які, знаёмячыся з ім у маскоўскай гасцініцы, адразу ж, з лёгкай шчырасцю пустаты, сказаў: «А, вы з паўднёвай Індыі, адтуль, дзе халера!..»

Так, халера, воспа, праказа і іншая пошасць, яшчэ не пераможаныя рэвалюцыяй. Але ж таксама і людзі,

---

[1] Сахіб — пан, у сэнсе пан-еўрапеец.

харошыя людзі, якія жывуць, хочуць і могуць жыць толькі там, дзе яны нарадзіліся.

Такое чулася мне ў горкай і справядлівай крыўдзе прамоўцы. Пра гэта думаў я пасля і сам.

З антыхалернай прывіўкай мне не пашанцавала: зрабілі яе, калі я быў прастуджаны, прыйшлося адлягаць, нават адкласці паездку, а праз два месяцы выехаць з пэўным скрыпам — замест паўторнай прывіўкі з дзвюма пляшачкамі бактэрыяфагу і цэлым няпісаным кодэксам грозных перасцярог.

Справа даволі паганая — асцерагацца невядомай ежы, не піць сырой вады, дзесяць раз на дзень мыць рукі, дваццаць раз націраць іх адэкалонам... Там, дзе амаль усё невядомае, дзе прымаюць цябе, чым багаты і ад душы. Дый страх не ходзіць адзін — ён абуджаецца часамі побач са смеласцю і развагай.

Неяк апоўдні мы спыніліся на ўскраіне яшчэ аднаго незнаёмага гарадка, каля заправачнай станцыі. Пад'язджаючы да яе, я заўважыў кульгавага ды лахматага дзеда з дзіўна аголенымі верхнімі зубамі; заўважыў і яшчэ раз крутнуў галавой: колькі іх тут усялякіх!.. І вось, калі мы ўжо стаялі на запраўцы,— містэр Джордж рабіў сваю справу, а пасажыры сядзелі ў машыне,— цераз пярэдняе адкрытае акно амаль у самае маё вуха нечакана ўдарыла жаласлівым гугненнем, а па твары — пырскамі. Я тарганууся тварам у акно і зблізку, амаль упрытык заглянуў у тыя голыя зубы ў вусах ды ў струпах — у самыя зрэнкі нейкага сіфілісу ці праказы!.. Так здалося. Увесь вялікі свет, з яго красой, з маёю прагай жыць, крутануўся ў вачах, і першае, што я зрабіў — сутаргава закруціў ручку, паднімаючы шкло, і нават так, зачыніўшыся, не змог глядзець, адвярнуўся...

Прафесія медыка, як і прафесія настаўніка, у Індыі вельмі паважаная. Доктар — гэта ўжо не проста спецыяліст, а нешта накшталт падзвіжніка, выратавальніка, добрага друга: так, здавалася мне, глядзіць на яго народ. Сярод шматлікіх актывістаў майсурскага «Іскус'а» я набыў ажно трох добрых знаёмых-медыкаў. Доктар Даяла, хірург, з захапленнем і тактам майстра свае справы вадзіў нас па кабінетах і палатах клінікі, гатовы, здавалася, расказаць падрабязна пра кожнага, каго вылечыў, як садоўнік — пра кожнае

дрэўца, што вось і паправілася, і зацвіло. Доктар Шастры, тэрапеўт, з увагай разумнага друга аберагаў нас у дарозе ад усякіх нечаканасцей, вучыў, чаго і як асцерагацца. Трэці медык — доктар Ханамшэт, тоўсты, рухавы здаравяка, таленавіты хірург і заядлы, удачлівы паляўнічы. Чатыры месяцы перад нашым прыездам у яго Белгаум ён быў у Мінску, і, хоць мы з ім у нас не бачыліся, адчувалася нейкая, ледзь не зямляцкая, лёгкасць, блізкасць у нашых адносінах.

Помню вельмі выразна ягоны голас — не дробнакаліабернае прышапетванне паляўнічага-манюкі, а трубны барытон паляўнічага-паэта. Паэт гэты расказвае пра джунглі, у якіх ён, узброены майстэрствам ідэальнай асцярожнасці, прасядзеў усю ноч і дачакаўся світання. Пра чары гэтага світання. Пра паласатага магараджу джунгляў — тайгера, тыгра, што паказаўся нарэшце, стаў зусім на прыцэле, і непакоіцца, ці што — вурчыць грудным, громападобным вурчаннем...

— О тайгер, тайгер!..— усклікваў доктар Ханамшэт, падпёршы рукою шчаку. І зноў усклікваў, ужо на Рамашкіна, як быццам той быў не побач з ім, а далёка: — Ра-мэсь-кі! Дыэ містэр Рамэські! Транслейтар!..[1] Вы раскажыце сябрам, як я зусім не хачу яго забіваць. І як я яго забіваю!..

Мы сядзелі на шкуры нядаўна забітага тайгера, бачылі шкуры пантэр і вялізныя рогі дзікага буйвала — частку трафеяў гасціннага гаспадара. Бачылі і каляровы вузкаплёначны кінафільм, які паказваў трыумф і нялёгкую сціпласць доктара Ханамшэта над трупам яго найбольшага тыгра — трыста трыццаць кілаграмаў. Паказваў нам доктар і кінанарысы пра самыя складаныя аперацыі, якімі ён зусім апраўдана хваліўся, не звяртаючы ўвагі на нашу навукова-дыпламатычна-літаратурную грэблівасць. (Гэта ўжо, з кінафільмамі, у нумары нашай гасцініцы, павесіўшы на сцяне прасціну.) Няма хвароб прыгожых і непрыгожых, трэба лячыць людзей ад усіх. І ён працуе, лечыць — з той самай страсцю, з якой чакае ў джунглях тыгрынага досвітку.

Гэтая ж страсць, высакародная страсць барацьбы за жыццё, за шчасце чалавека, чулася мне і ў яго

---

[1] Рамашкін! Дарагі пан Рамашкін! Перакладчык!.. *(англ.)*

задушэўным — па-мужчынску, пасля сяброўскай чарачкі — расказе пра тое, колькі яшчэ хвароб, заразы, беднасці ў яго цудоўнай Індыі, колькі яшчэ наперадзе працы, змагання!..

Мы бачылі адносна вельмі мала. Не пабывалі, на жаль, на найбольшых новабудоўлях, дзе ўсталі і ўстаюць вялікія заводы, фабрыкі, электрастанцыі. Аднак мы бачылі народ, яго жыццё — няхай сабе толькі ў нязначнай частцы краіны, але ж сапраўднае жыццё, з яго і новым і старым. Смешна і горка было глядзець на прымітыўную малацьбу, таптанне проса буйваламі, прымітыўнае ворыва вялізным драўляным плугам — жывыя ілюстрацыі да падручніка старажытнай гісторыі. Не відаць было часта і асаблівай працавітасці: от, так сабе, сюды-туды ў цяпле ды прыгажосці. Прыкра было часамі і ад нейкага спажывецкага, утрыманскага тону ў гаворцы пра тое, што мала Індыі дапамагаюць — і большыя, і меншыя краіны, і тыя, што нажыліся на вайне, і тыя, што самі ад яе ледзь адышлі... Многа цяжкасцей, многа праблем, балючых і неадкладных, у вялізнай, складанай, у многім адсталай гаспадарцы нашых сяброў. Іх няцяжка заўважыць нават і пры не вельмі грунтоўным ды маштабным азнаямленні з Індыяй, тым больш што самі індыйцы не хаваюць іх і не апраўдваюць.

І таму нам было добра не проста бачыць, а разам з імі радавацца, як напорыста ідзе там у жыццё навука, тэхніка, прагрэс.

Гаворачы «нам», я маю на ўвазе толькі свайго спадарожніка і сябе, навічкоў у Індыі, якім паложана многа, на свежую душу, здзіўляцца. Маім земляком — былым партызанам, цяпер вучоным, спартсменам і паляўнічым, вясёлым і свойскім хлапчынай — я сядытады любаваўся адзін, па-беларуску адзін. Чалавек ведае тое, што робіць, і любіць сваё служэнне шчасцю народа. Прыемна было назіраць як ён, Міхась Максімавіч, дырэктар магутнай установы — Цэнтральнага навукова-даследчага інстытута механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі нечарназёмнай зоны СССР — апынаўся ў сваёй стыхіі. У лабараторыях інстытутаў, на заводах, на выстаўках сельскагаспадарчай тэхнікі, у гутарках з індыйскімі калегамі па барацьбе за хлеб. Добра было яму, шчыраму работні-

ку вялікай справы, якой у нас даўно дадзены дзяржаўны, планавы размах, расказваць індыйцам пра дасягненні нашага ладу, нашай, цудам сацыялізма адроджанай пасля вайны Беларусі, дзяліцца з імі вопытам.

Мне было добра па-свойму. Думаць пад гэтыя гутаркі яшчэ і пра свой абавязак, свой удзел у агульнай рабоце вялікага будаўніцтва, і тут лавіць і прызямляць у блакноце пачуцці і думкі — часова прызямляць, каб потым аддаваць іх чытачу, вось як цяпер.

Вучоным дзвюх краін здавалася, відаць, што вось пісьменнік піша, стоячы ці седзячы, запісвае, як яму і паложана, тое, што бачыць і чуе. А мне бывала часамі трохі не па ўзросту смешна, што ў кабінеце, скажам, рэктара «Сельскагаспадарчага універсітэта», побач з вучонымі мужамі, пад музыку дзвюх моў на высокім дзелавым узроўні я занатоўваю, між іншым, і такое:

«Не забыцца пра чорнага хлопчыка з бу́рдай».

«Бурдай» у нас, на маёй Наваградчыне, называюць самаробную забаўку з якой-небудзь косткі або з вялікага гузіка. У костцы прапорваюць, а ў гузіку выкарыстваюць дзве дзірачкі, каб зацягнуць туды дзве суканыя ніткі. Узяўшы ніткі за канцы, намахаеш, накруціш гэтай косткай ці гузікам, ніткі скруцяцца туга ў адзін шнурок, тады пачынаеш іх адпускаць, зводзіш, разводзіш рукі, нібы іграючы на гармоніку. «Бурда» — бурчыць, як чмель, якое там — як «ераплан»!.. Далёкі ўспамін вясковага заходнебеларускага маленства.

І раптам тут, у паўднёвай Індыі, на сонечным двары «Юніверсіты оф эгрыкалчарал сайенсыс» [1], паміж белых карпусоў, побач з газонамі і кветкамі, у чародцы... прабачце, таварышы і містэры,— у групе вучоных прыцёрся хлопчык з «бурдай», той самай, з вялікага гузіка... А паўставаў жа нехта некалі супраць параўнаўчага метаду ў вывучэнні сусветнай народнай творчасці!.. «Бурда» — спрэс наша, беларуская — бурчыць у чорных руках канарыйскага жэўжыка, вялікія вочы яго глядзяць на дарослых, не зразумееш — з цікавасцю ці амаль абыякава, зусім, відаць, не думаючы,

---

[1] University of Agricultural Sciences — універсітэт сельскагаспадарчых навук *(англ.)*.

што іменна ён — іх галоўны клопат. Ды і яны — як быццам зусім не пра гэта...

«Не забыцца пра хлопчыка...»

Ён павінен мець хлеб. І ён, і дзяўчынка. У множным, сусветна зборным ліку — дзеці, краса і будучыня неспакойнага чалавецтва.

Пры ўездзе ў зялёны, чысты горад Белгаум стаіць звычайны шчыт, а на шчыце напісаны звычайны заклік да шафёраў. Ён мне кінуўся ў памяць зусім незвычайна.

«Мы вельмі любім нашых дзяцей. Вадзіцель, будзьце, калі ласка, асцярожным!»

Амаль кожны мітынг, ва ўсіх гарадах, меў цудоўнае заканчэнне — канцэрт. Цяпер, з далечыні, усе яны нібы зліліся для мяне ў адзін, хвалюючы ціхім, сардэчным перазвонам і спевам струн, нават назвамі раней не бачаных інструментаў — тамбура, віна, сітара; хвалюючы лагодным вуркатаннем тамблы, невялікага, падобнага на бочачку, бубна; хвалюючы задушэўнасцю галасоў, радуючы пластыкай рухаў, фарбамі яркіх нацыянальных касцюмаў.

І ўсюды, дзе песня, дзе музыка,— дзеці.

Яны там, у Індыі, наогул уваходзяць у грамадскае жыццё раней за нашых дзяцей. Школа пачынаецца, напрыклад, на шостым годзе.

У першую нашу бангалурскую раніцу, пасля прыемнага знаёмства з вераб'ём, з двара сядзібы доктара Даялы я любаваўся цераз невысокі плот вераб'інаю гаманой малечы. Там, на другім двары, была школа. Па ўзросту перша- і другакласнікаў яна падобная на наш дзіцячы сад. Але ўсе чорненькія, чысценькія хлопчыкі і дзяўчаткі, апранутыя ў белае, былі з сумачкамі кніг і сшыткаў. Шум іх закончыўся пастраеннем па двое; прыстойненька пабраўшыся за рукі, яны пайшлі ў свае класы. На двары засталася толькі цётка-дырэктар, наўздзіў, не па-індыйску, здалося мне, дзябёлая, у светла-ліловым сары. Па двары пахадзіла, на вуліцу выйшла... І тут я стаў сведкам вострасюжэтнай сцэны...

Маленькі чорны брат, у ролі старэйшага, вёў за руку маленькую, чорненькую сястру, трэба думаць, звычайную «першаклашку». Абое чысценькія, з вялікімі

чорнымі вачыма. Але ж абое спазніліся на заняткі. Спачатку ён апраўдваўся, з адчаем гледзячы знізу высока ўгару, штосьці гаварыў, выконваючы ролю старэйшага, выдаваў на-гара нейкія, можа, і вельмі аб'ектыўныя прычыны... І мне, за нізенькім плотам, так зразумелай была яго трагедыя!.. Сястрычка маўчала, поўнасцю аддаўшыся на волю лёсу. І цётка-дырэктар нарэшце іх адпусціла. Сама пайшла далей па вуліцы, яны — у свой бок, па вельмі ціхім пасля нядаўняга шуму двары, аслоненым высачэзнымі парасонамі пальмаў. Пайшлі зусім сур'ёзна, прыстойна, за ручкі, зусім не спяшаючыся.

Іх аднагодкі і трохі старэйшыя вельмі сур'ёзна, з ўсёй адказнасцю выступаюць у канцэртах, выконваюць перад пачаткам мітынгу дзяржаўны гімн.

Тры-чатыры дзяўчынкі кволенькімі галасамі ціха спяваюць, а зала і прэзідыум стаяць,— бывалі мітынгі і па дзве тысячы чалавек. І сёння бачу, з якім захапленнем, сваю дрыготкую трывогу сцелючы на плынь іх галасоў, глядзіць на дзяўчатак сівы стары, што з боку сцэны, на дыване, сядзеў каля сваёй фісгармоніі. Настаўнік музыкі, як я даведаўся крыху пазней.

Дзяўчаткі гадоў па дзесяць-дванаццаць з майстэрствам дарослых танцаўшчыц выконваюць складаныя і красамоўныя народныя танцы, толькі сям-там ды ледзь-ледзь выдаючы свой узрост не зусім дасканалай дакладнасцю рухаў. Але і гэтая іх недакладнасць чаруе — абаяльнасцю маленства. Працуюць яны вельмі засяроджана, проста свяшчэннадзейнічаюць,— не толькі не хіхікне, а нават не ўсміхнецца, хоць і выконваючы танец страшэнна вусатага, грознага рыцара.

Усюды, на ўсіх канцэртах, дзеці прысутнічаюць у якасці міла дысцыплінаваных, культурных слухачоў, з рэдкімі зрывамі ў сваю дзіцячасць.

Раскажу пра адзін такі, вельмі вясёлы, «зрыў».

...Танец пад песню пачалі дзяўчаты. Чароўныя, пяшчотныя індыйскія выданніцы. У яркіх касцюмах, з мноствам бліскучых, але ж і тактоўна, са спрадвечным густам размешчаных бранзалетаў, кольцаў, завушніц і іншых, для мяне безыменных, жаночых упрыгожанняў, уключна да вясёлых, задорных бомаў на шчыкалатках, над заўсёды босымі ў танцы ступакамі.

Песня. Цяжка сказаць — яна суправаджае танец

ці, можа, ён яе растлумачвае. З настойлівасцю крынічнай рэчанькі яна бруіцца нібыта не толькі здаўна, але ж і заўсёды, разлічаная на вечнасць, ціха і звонка неперачожная. Яе выконваюць, седзячы з боку сцэны, на дыване, урачыста лагодныя, як манашкі, тры жанчыны ва ўсюды неадменных сары. Чацвёртая — з выразнай сівізной над густа-смуглым абліччам, натхнёна засяроджаным на справе. Яна выбівае такт двума званочкамі без сэрцаў. І такт гэты з ідэальнай дакладнасцю паўтараецца ў рухах танцоўшчыц.

Песню — амаль на самым пачатку — падтрымалі, уварваўшыся ціхенькім перапёлчыным боем, два бубны. Толькі ігрой і назавеш імклівую пяшчотнасць пальцаў, быстрых і асцярожненькіх нават у найвышэйшым напале страсці. Бубны то вуркаталі ўдвух, то разлучаліся, і той чарнавокі падлетак, што на нейкі час аціхаў, глядзеў на сябра, які насупраць, на яго рукі, на бубен, на вочы — глядзеў у шчаслівай стоме і нястомнасці натхнення, паслухмянага толькі законам мастацтва. Потым ён ціха ўрываўся ў плынь, а сябар, у сваю чаргу, змаўкаў, каб таксама глядзець, захапляцца і зноў уваходзіць у рытм.

Пазвоньваюць бомы на ножках. Песня бруіцца. Час ад часу рука адной з трох жанчын бязгучна перагортвае старонкі нотаў. І ў гэтай бязгучнасці, у перазвоне песні-рэчанькі ажываюць, прыпамінаюцца словы:

«Мы — старадаўні народ, і мы чуем шорах стагоддзяў. Аднак мы ведаем, як вяртаць маладосць...» [1]

І рэчанька таксама ведае, што за зімой ідзе вясна, неперамо̂жная вясна жыцця.

Дзеці абапал сцэны, выціснутыя туды перапоўненай залай, глядзяць і слухаюць, нібы зачараваныя.

Толькі адна галава, чорная, кучаравая галоўка чатырох-пяцігадовага хлапчука, я заўважаю, злёгку пахістваецца ў першай салодкай дрымоце. Вялікія, чорныя вочы яго — з першага рада мне добра відно — то адкрываюцца, то плюшчацца ў змаганні захаплення са стомай. Для малога ўжо ўсё-такі позна. Ды ён змагаецца...

Тым часам песню і танец змяняе іншае. У зале і на сцэне гасне электрасвятло. На падлозе сцэны, перад

[1] Дж. Н э р у. Адкрыццё Індыі.

аркестрам, які рассеўся на вялікім дыване, пункцірным паўкругам загараюцца свечкі — да паэтычнай сцішнаватасці прыгожа.

У аркестры са старадаўніх він і сітараў саліруе скрыпач. Малады кучаравы прыгажун, падобны на цыгана. Скрыпка яго пачынае ад той цішыні, у якой нараджаюцца найцішэйшыя гукі, яна то сардэчна, стрымана пяе, то захлынаецца захапленнем, то пераходзіць на грудное, нізкае прызнанне... Як быццам і ўсім нам, і мне аднаму яна гаворыць пра нейкі і горкі, і не такі ўжо нязбыўны, нават салодкі сум...

Зала заціхла ў глыбокім, закаханым у гэтую песню маўчанні.

Я асцярожна пераважу зрок на хлопчыка. Яго кучаравая, па-малечы вялікаватая галава прылягла ўжо, ўсё-такі пераможаная стомай, на калені старэйшай сястрычкі.

Сястрычка гэтая, жанчына гадоў дзевяці, адчула сябе пад позіркамі ніякавата. Асцярожна раскатурхала малога. Я зразумеў, што я ўжо не адзін гляджу на іх. Ачомаўшыся, прыпадняўшы галаву, хлопчык зірнуў на «цыгана» ў паўкрузе свечак, зірнуў на залу і зразумеў, што на яго глядзяць. Ён усміхнуўся, шырока і белазуба, а па зале, па першых яе радах, прайшоўся смяшок. Падахвочаны гэтым, малы засмяяўся — так чыста, хораша, як дзеці смяюцца праз сон... І тут ужо не толькі першыя рады, але ўся зала дыханула на яго амаль паўнагучным смехам.

«Цыган» не бачыў малога. Ён у сваім парыве, і не глядзеў нікуды, можа, нават наогул нічога не бачыў. Смех, ажыўленне ў зале ён прыняў на сябе, за пахвалу, за сумеснае захапленне. І — рынуўся ў вышыні віртуознасці.

Хлопчык смяяўся. Скрыпка шалела ад радасці. Людзі то стрымлівалі свой смех, то зноў смяяліся. І так было праз некалькі цудоўных маладых хвілін, да самага выхаду — грому апладысментаў.

І мне здавалася, што кожны з нас, старых, маладых і сярэдніх, жанчын і мужчын — кожны, як я, лічыў, што хлопчык смяяўся яму...

Пасля скрыпача з аркестрам на сцэну выйшаў і сеў у паўкрузе ціхенькіх агнёў перад сваёй фісгармоніяй стары настаўнік. Той самы, што любаваўся дзяўчатка-

мі, якія выконвалі гімн. Мне ветла шапнулі, што фісгармонія — бадай найбольш любімы тут інструмент, ну, а стары... Ды гэта я адчуў праз хвіліну і сам.

Стары іграў — як маліўся, з трывогай натхнення і ўпэўненасцю майстэрства ўслаўляючы «шорах стагоддзяў», спрадвечную, высакародную закаханасць у нашу непераможную вясну, імя якой — дзеці. Гэта была, мне здавалася, калыханка.

Я не здзівіўся, ніхто не здзівіўся, што пад гэтую песню наш хлопчык нарэшце заснуў. Па праву стомленага маленства. Палажыўшы вялікаватую галаву на маміны калені старэйшай сястрычкі, выставіўшы з-пад свайго белага мужчынскага дхоці, нібы з-пад прасціны, дзве смуглыя, прыстойненька і смешна складзеныя пяткі.

«Мы вельмі любім нашых дзяцей...» Відаць, што вельмі, калі гэтая любоў умяшалася нават у мову казённых наказаў, у строгасць правілаў вулічнага руху.

У Індыі вельмі многа дзяцей. І вельмі многа прыгожых. Асабліва хлопчыкаў. Можа, таму мне так здавалася, што я ўсё прымерваўся да іх, за многімі бачыў свайго далёкага, чарнавокага боя — на лыжах ці над кнігаю. А можа, і не таму. Можа, і ў закаханасці можна быць аб'ектыўным...

У мангалурскай сям'і Альбукак, я гаварыў ужо, многа дзяцей. Адны ўжо амаль дарослыя, другія сядзяць на каленях. За сталом весела, дзеці варушацца, ходзяць, і здаецца, што іх не дзевяцера, а значна больш. Гарыць агеньчыкамі калядная ёлка. Сучасная пласцінка стрымана пяе старую каталіцкую калядку. У нашага Віктара сёння ёсць добры памочнік: сваяк гаспадыні, з якім я пазнаёміўся напярэдадні, на мітынгу. Малады афіцэр індыйскага марфлоту, ён добра гаворыць па-руску. У лёгкай, па-індыйску цвярозай застольнай гаворцы раптам выяснілася, што мы з гаспадаром аднагодкі, нядаўна стукнула па пяцьдзесят. У парадку разведкі я сказаў, колькі год маёй жонцы. Пані дома, чарнявая красуня, засмяялася:

— Я разумею вас. Мне сорак тры.

Прыйшлося яшчэ раз, у душы, здзівіцца маладому выгляду такое шчодрае маці.

Развіваючы тэму, Міхась Максімавіч сказаў, што я — дзесяты ў сям'і, а сам ён — дванаццаты.

— Ну, як? — спытаўся ў жонкі гаспадар.

— Вядома ж, да дванаццаці! — махнула яна на згоду рукой.

Жарт і не жарт. Хто іх ведае. Калі ён змог тым часам забіць трынаццаць тыграў, дык і яна па-свойму справіцца. І хлеба на ўсіх, пры ўласным заводзе і птушкаферме, павінна хапіць.

У гэтым доме — так. У бяднейшых, але не бедных дамах таксама не вельмі цяжка гадаваць вялікую сям'ю. У доктара Даялы сямёра дзяцей, і ўсе яны даведзены да ладу, хоць бацьку, энергічнаму і талковаму чалавеку, яшчэ далекавата да шасцідзесяці. Аднак жа мы бачылі — і вельмі нямала — бедных дзяцей. Часамі нават з працягнутай ручкай. І часта як памочнікаў, якім яшчэ рана, на добры лад, працаваць, тым больш — амаль па-даросламу цяжка.

Нядаўна я, каб супакоіцца ад новай фотаняўдачы, спытаўся ў аднаго фатографа-прафесіянала, ці часта ў іх брата бывае і ці вялікі адсеў бракаваных кадраў. Маэстра штосьці невыразна прамармытаў, нібыта баючыся падарваць свой аўтарытэт перад аматарам. А я, аматар з дзесяцігадовым стажам, паплакаў яму ў камізэльку. Чорт ведае чаму не ўдаюцца часцей за ўсё кадры, якія вельмі патрэбны!..

У невялікім горадзе, дзе мы спыніліся каля буфета, каб напіцца содавай ці піва, я зняў два... так і карціць сказаць: цудоўныя кадры.

Дамы цераз тры ад буфета, калі мы прытармажвалі, я заўважыў нейкі своеасаблівы прымітыўны млын,— хутчэй не заўважыў, а здагадаўся пра гэта па мучным пыле ў сярэдзіне памяшкання і ў дзвярах яго.

Потым, стоячы каля ганка буфета, у прахалодзе, я ўбачыў на сонечным асфальце вузкай вуліцы дзяўчынку ў чырвонай кароткай сукенцы, з вялізным на яе галоўцы «буцці», мелкім кашом, падобным на нашы былыя сявенькі...

У гэтых «буцці», туга з чагосьці сплеценых, індыйцы носяць на галаве ўсё і памногу. Проста дзіва, як многа можа чалавек утрымаць і пранесці на галаве. Можа з паўсотні светла-новых гаршкоў, звязаных нейкім цудам у вялізную гронку, здаецца, вось-вось гатовую ўзляцець, як дзіцячыя надзіманыя шары. Гэта — мужчына нясе. Жанчыны носяць на галаве голле з

лесу, вялікія клункі рыззя, нават раствор цэменту... Носяць і дзеці. Здаралася бачыць, як з кірмашу вяртаюцца маці з суседкай, а хлопчык, ужо тым часам памагаты, хоць сам і малы, ідзе, як і жанчыны, з поўным чагосьці «буцці» на галаве. Не ўсе яе, тую універсальную «сявеньку», і рукамі прытрымліваюць — такая прывычка, такое майстэрства насіць.

Мая дзяўчынка несла ў «буцці» пшаніцу. Я папрасіў малую спыніцца, яна спынілася, і я яе сфатаграфаваў. Старэнькую чырвоную сукеначку над чорнымі кіёчкамі ног, адну руку — на краечку «буцці», другую, таксама тоненькую, апушчаную, і ўсмешку — трохі збянтэжаную, а трохі нават вясёлую. Зняў — і пайшла. А неўзабаве ішла назад. У «сявеньцы» была ўжо мука. І я толькі тут, ачмурэлы ад прыморскай душнай гарачыні, усвядоміў, што дзяўчынка была ў млыне. Зноў папрасіў яе спыніцца, зноў зняў яе, з усёй дакладнасцю настройкі ды наводкі.

І вось іменна гэтыя кадры і не ўдаліся... Прыйшлося супакоіцца на тым, што не маё гэта майстэрства, не мой абавязак — так адлюстроўваць жыццё. І супакоіўся спакваля.

А дзяўчынка ўсё яшчэ мне ўсміхаецца — худзенькае дзіця гарадской беднаты, з заўчаснай цяжкай ношай на маленькай галаве...

Дзяцей любіць трэба дзейсна — палітыкай, эканомікай, ладам і планаваннем жыцця.

Адна з самых балючых праблем сучаснай Індыі — перанаселенасць, якая пагрозліва расце і пачынае непакоіць ужо нават самых, відаць, сентыментальных дзеталюбаў. Сярод насельніцтва вядзецца шырокая растлумачальная работа па свядомаму планаванню сям'і. У дарозе мы выпадкова сустрэліся з сябрам нашага доктара Шастры па медыцынскаму інстытуту і ў гутарцы з гэтым культурным і вясёлым чалавекам зразумелі, што за аўтобусікі траплялiся нам сяды-тады — з чырвоным трохкутнікам на борце. Сябар доктара Шастры працуе на гэтым участку разумнага планавання жыцця і лічыць сваю справу вельмі патрэбнай для перамогі сацыялізма.

Праўда, побач з нармальным ходам гэтай растлумачальнай работы здараюцца і кур'ёзы, здаецца, чыста індыйскія па характару.

У прамысловым горадзе Бадраваці сустрэла нас, як і ва ўсіх гарадах, цэлая група актывістаў «Іскус'а». Размясцілі ў вялікіх пакоях раскошнага «дома для паважаных гасцей», і, пакуль мы прыводзілі сябе з дарогі ў парадак, індыйцы праходжваліся ды гутарылі перад домам. Яшчэ пры сустрэчы я заўважыў у іх белым натоўпе старога ў цямнейшай вопратцы і з нейкай кашолкай. Калі ж я, першы падрыхтаваўшыся для паездкі на завод, выйшаў на двор і далучыўся да індыйскіх таварышаў,— стары перахапіў мяне і горача загаварыў пра штосьці па-англійску. Паказваў нейкія брашуркі ды лістоўкі, палез у сваю кашолку яшчэ па штосьці... Даўно настроены на розную індыйскую экзотыку, я разгубіўся, што тут можа быць — прамудрасці іёгаў, філасофія брахманаў, таямніцы санскрыту?.. Чаго табе хочацца, старча? Пры поўным неўмяшанні іншых індыйцаў, я растлумачыў яму сяк-так, што хутка выйдзе перакладчык — разбяромся. Раней, чым стары зразумеў мяне, выйшаў Віктар Рамашкін. Амаль з ходу ўцяміўшы, што тут да чаго, ён молада зарагатаў.

Аказваецца, гэта — мясцовы энтузіяст новай агульнадзяржаўнай кампаніі, які ў святым парыве служэння дабру вырашыў ахапіць ідэяй планавання сям'і і гасцей з далёкай краіны, нават не пацікавіўшыся, дванаццаць у мяне ці толькі трое...

У доктара Шастры двое дзяцей, ціхманая дзяўчынка і мілы, быстры хлапчук. Сям'я. Такія і трохі большыя сем'і мы сустракалі і ў іншых дамах. Новыя сем'і, свядома абмежаваныя, дзе ўсім, на ўсіх шыротах зразумелая любоў да дзяцей не вымяраецца іх колькасцю.

Мая першая асабістая бібліятэка займала адну саматробную этажэрку. На «ўсходніх крэслах», у цёмнай вёсцы гэта было вельмі многа. Тым больш што кнігі былі добрыя і кожная з іх мела сваю гісторыю. Адны з іх былі прывезены бацькамі «з гораду», з савецкай Адэсы, ад скарбаў рускай літаратуры. Другія я набываў, спачатку за матчыны грошы, потым ужо за свае, па праву сталага работніка, які, дарэчы не трациўся на табак ці гарэлку. Некалькі кніг мне падарылі сябры, знаёмыя асабіста і тыя, з якімі я перапісваўся.

Бібліятэка гэтая, дапоўненая братам за два савецкія гады, загінула ў вайну: што давялося пакінуць у хаце, на здзек паліцаям, што мы забралі з сабой у партызаны, дзе этажэрак не было. Словам, ад таго кнігазбору застаўся амаль толькі адзін успамін, цёплы, але ўжо часткова і цьмяны.

Сярод найцікавейшых кніг на беларускай, рускай, польскай і ўкраінскай мовах адна помніцца мне, і не брыдка прызнацца, малюнкамі. Калі не памыляюся, гэта былі «Вароты ў будучыню» Мікалая Рэрыха, кніга, выдадзеная раскошна, з каляровымі ўклейкамі.

Пасля вайны мне давялося бачыць не толькі паасобныя карціны Рэрыха, але і цэлыя яго выстаўкі, у нашых галерэях і за мяжой. І кожны раз я ўспамінаў, як радасці маленства, тую, цяпер ужо амаль безыменную кнігу, якая адкрыла мне дзіўную песню неба і гор — вечных снягоў і сонца...

Кнігу Рэрыха прыслаў мне Валянцін Булгакаў, апошні сакратар Талстога. Ён жыў тады ў Чэхаславакіі, дзе працаваў дырэктарам рускага культурна-гістарычнага музея ў Збраславе каля Прагі. Музей гэты быў адкрыты ў 1935 годзе, дзякуючы ініцыятыве і энергіі Булгакава і пры дапамозе чэхаславацкай прагрэсіўнай інтэлігенцыі. З Валянцінам Фёдаравічам я перапісваўся. Яднала нас перш за ўсё тое, што мы, кожны па-свойму, любілі аднаго — Талстога. Булгакаў называў яго святлом свае душы. Сёння мне радасна думаць, што гэты высакародны чалавек, вельмі рускі, і, разам з тым, еўрапеец па ўзроўню культуры, знаходзіў штосьці ў вясковым беларускім дзецюку, якому пісаў вялікія пісьмы, часамі па пяць-шэсць старонак густога машынапіснага тэксту. Тады мне, вядома, вельмі імпанавала такое знаёмства, што спакваля перарастала ў дружбу. Цяпер, калі ўжо яго няма, калі па ім у мяне засталася светлая памяць, пасляваенныя пісьмы, некалькі фота і кніга з аўтографам, я, ужо даўно не юнак, дзякую лёсу за гэтую незвычайную дружбу, што дзіўным, хвалюючым чынам, кажучы па-руску, «приобщала» мяне да святла і мае душы.

Апошнюю вестку ад Булгакава з Прагі я атрымаў у нямецкім палоне, увосені саракавога года. Гэта было не пісьмо, а маленькая прадуктовая пасылка, якою мы, сябры па рабочай камандзе, падзяліліся як пры-

віtаннем роднага чалавека. Пачаўшы вайну з СССР, гітлераўцы прыбралі ў лагер і Булгакава, які і ў эміграцыі заставаўся грамадзянінам сваёе радзімы. Пра ўсё гэта я даведаўся ажно праз сем гадоў пасля канца вайны, калі мы з ім упершыню і зусім нечакана сустрэліся ў Яснай Паляне. Пры нашай другой і апошняй сустрэчы, напрадвесні шасцідзесятага года, ужо зусім стары, але ж і моцны, энергічны сібірак (ён ганарыўся гэтым, як пародай) дзяліўся са мною сваімі творчымі планамі. Паказваў тоўсты рукапіс з простым і вельмі, калі задумацца, адказным загалоўкам: «Як пражыта жыццё». Кіўнуў на машынку — там быў «запрэжаны» рукапіс меншы: перапіска з Мікалаем Рэрыхам за дзесяць год іх дружбы...

Дзіўныя сцежкі, шляхі чалавечых адносін! Колькі балючых страт і колькі светлых нечаканасцей!..

У Маскве, перад ад'ездам у Індыю, нам было дадзена многа карысных парад. Бывальцамі і спецыялістамі. Адзін з іх, вядомы індолаг, нібы між іншым сказаў:

— У Бангалуры, дарэчы, жыве Святаслаў Мікалаевіч Рэрых. Абавязкова пастарайцеся з ім сустрэцца.

Сын сусветна вядомага мастака, філосафа, вучонага, пісьменніка, падарожніка і змагара за мір, сам выдатны мастак і мастацтвазнаўца высокай, рэрыхаўскай культуры,— Святаслаў Мікалаевіч уразіў мяне сваёю прастатой і чалавечнасцю. Нягледзячы на сівую, празрыстую бародку, ён яшчэ па-маладому, па-спартыўнаму стройны і лёгкі. Непрытворная ўсмешка прыязнасці, цудоўная руская мова і тая дабрата ў вачах, без якое, як кажа індыйская мудрасць, чалавечыя вочы нічога не вартыя.

Сям'я Рэрыхаў моцна, прыгожа здружылася з «Зямлёй высакародных». У даліне Кулу, акружанай снегавымі вяршынямі Гімалаяў, стаіць помнік з такім вось простым, на мове вечнасці зробленым, надпісам: «13 снежня 1947 года тут было аддадзена агню цела Мікалая Рэрыха — вялікага рускага друга Індыі. Хай будзе мір». Многа зрабілі для дружбы нашых народаў, для адкрыцця вялікай Індыі свету і жонка Рэрыха, Алена Іванаўна, даследчыца індыйскай філасофіі, і сын Юрый, выдатны лінгвіст і знаўца Усходу. Моцна, можа, і назаўсёды, звязаў свой лёс з індыйскім народам

і Святаслаў, цяпер ужо адзіны прадаўжальнік сямейнага подзвігу.

Які, аднак жа, уплыў на гэтую душу зрабіла ўсё індыйскае? Так думалася мне тады, калі я любаваўся гэтым чалавекам, так думаецца і цяпер, успамінаючы. Калі і пяднялася найлепшае ад двух народаў, дзвюх культур, дык свайго засталося непараўнана больш. Таго чагосьці вельмі рускага, высокага, агульначалавечага, што згадвалася мне і пры сустрэчах з Булгакавым.

Жонка Святаслава Мікалаевіча, Дэвіка Рані — індыянка, у мінулым вядомая кінаактрыса, і сёння яшчэ ўсё красуня, цікавая субяседніца і абаяльная гаспадыня. У яе была госця, намеснік міністра асветы, высокая, поўная дама ў велічным сары. Наш Віктар Іванавіч з яго англійскай мовай шчасліва ўвяз на тым участку фронту. Гаспадар, Севярнёў і я прыселі трохі воддаль, у другім кутку некрыкліва раскошнай гасцінай.

Мы пачалі, вядома, з Булгакава. І Святаславу Мікалаевічу не хапіла яшчэ адной сустрэчы з нашым агульным другам, і ён быў ударaны нечаканасцю яшчэ адной страты, адной з тых вельмі заканамерных нечаканасцей, да якіх мы ніяк не прывыкнем... Потым гутарка стала агульнай, на трох з Міхасём Максімавічам. Пра нашы айчынныя справы, пра нашу шчаслівую апантанасць — служыць чалавецтву. Было і стрыманае захапленне, і дзелавітасць, і здаровая самакрытыка, што ўжо і ў нашых гутарках дома, дзякуй богу, не навіна.

Аднак, на жаль, мы павінны былі спяшацца. Па плану — хутка трэба было выязджаць у падарожжа.

Гаспадары пажадалі бачыць нас у сябе яшчэ раз, калі мы вернемся ў Бангалур.

— Я очень хочу,— сказаў Святаслаў Мікалаевіч,— видеть вас в моем поместье.

Гэтая фраза, што на сучаснай рускай мове гучыць толькі кніжна — такі цудоўны чалавек і раптам на́ табе: мое поместье! — прымушае мяне зрабіць невялічкае адступленне, успомніць пра яшчэ адну індыйскую сустрэчу.

...У горадзе Хублі, дзе мы спыніліся ў «доме для паважаных гасцей», спыніўся на начлег праезджы магараджа. З магарані і двума слугамі, колькі ўлезла ў

машыну. Мы не заўважылі б гэтага, але наш доктар Шастры быў у вясёлым настроі, быў, да таго ж, і знаёмы з самой магарані, і ён наладзіў нам сустрэчу з іх высокасцямі. Па пратаколу, зацягнутыя ў гальштукі і пэўную скаванасць, мы так і звярталіся да іх на вячэры: «ваша высокасць». Спачатку гутарка не клеілася, пасля пайшла, аж да ўзаемнага абмену нацыянальнымі анекдотамі.

А ўсё ж — мне ўвесь час здавалася, што да яго строгага фрэнча і да яе раскошнага сары трэба было б прычапіць таблічку з надпісам: «Ахоўваецца дзяржавай».

Нават пасля, калі пры развітанні «яе высокасць» сказала, што магараджа — таксама пісьменнік і яшчэ кампазітар, нават калі ён, Натварсінджы, калега па жанру, падарыў мне сваю кнігу лірычных мініяцюр з аўтографам — адчуванне нейкай толькі экзатычнасці гэтай сустрэчы, нейкай музейнасці гэтых былых, па сутнасці, людзей не прайшло. Тым больш што гэтыя вялікія князі на дзяржаўнай пенсіі, без сваіх уладанняў, ліквідаваных рэвалюцыяй, з годнасцю запрасілі нас наведаць Парбандар — «пабываць у нашай дзяржаве»...

Крый мяне бог праводзіць нейкія паралелі з Рэрыхам, хоць бы намёкам абразіць сваё адчуванне высокай павагі да гэтага чалавека, да гэтай сям'і.

А ўсё ж — «мое поместье» пасля «нашай дзяржавы» прыпомнілася мне неаднойчы. І там, у Хублі, калі мы развіталіся з «іх высокасцямі», і потым, у апошні наш паўднёваіндыйскі дзень, калі мы звыш плана ранелька выехалі з горада Майсура ў Бангалур, каб адтуль сігануць у Рэрыхаў маёнтак.

Хацелася яшчэ раз сустрэцца са Святаславам Мікалаевічам, пагутарыць і, галоўнае, паглядзець яго карціны. Цікава было, вядома, і на «поместье» цікнуць ды гэта, не лгучы, было для мяне амаль неістотным.

На прыкры выпадак можна злавацца колькі хочаш,— злосць не паможа. Прадбачыць яго і застрахавацца — таксама нельга. Наша машына, што капрызіла ды грукацела колькі дзён, наглуха стала іменна ў тую раніцу, за дваццаць міль ад месца прызначэння... Тут мы, дарэчы, ад суму ды злосці і з малпамі пасварыліся, па-блазенску настрашылі іх малыша, а та-

ды і самі спалохаліся. Было чаго злаваць ды сумаваць... На шчасце, потым каля нас спынілася машына з той самай аўтакампаніі, што і наша, гаспадар машыны аказаўся ветлівым чалавекам — перасадзіў нас у сваю і памчаў у Бангалур. Там мы пераселі ў таксі і неўзабаве пад'язджалі да дома Рэрыхаў — са спазненнем на тры з палавінай гадзіны...

Да самалёта нам заставалася мала больш за гадзіну, лічачы разам з дарогаю ў аэрапорт. Гаспадар — энергічна, спакойна — узяў справу ў свае рукі. Мы, госці, сядзелі на канапе, сёрбалі цудоўны суп, які нам з непераможнай настойлівасцю падлівала мілая гаспадыня, а самі тым часам глядзелі, спалучаючы з раннім абедам сваё захапленне карцінамі. Сам маэстра — прыгожы, сівенькі, лёгкі — сядзеў трохі збоку, у крэсле. Два індыйцы, чорныя ў белым, спраўна і моўчкі, на лёгкі ўзмах гаспадаровай рукі, мянялі вялізныя палотнішчы ў моцных падрамніках, адносячы адны, падносячы другія.

Песня неба і гор зноў паўтарылася...

Да гор індыйскай поўначы, у якія быў закаханы бацька, сын дадае чароўнасці поўдня. Запомнілася «Цішыня» — неба і дрэвы, якімі мы тут любаваліся і ў натуры. Ды гэта была не копія натуры... Наогул, жывапіс Рэрыха-сына, усе яго пейзажы, філасофскія карціны і партрэты, гэта — мастацтва музыкі і думкі, штосьці блізкае Урубелю, Кэнту, Чурлёнісу, Рэрыху-бацьку, аднак — сваё. І ўсё насычана чалавечнасцю, болем за будучыню людзей, усё напамінае тыя словы Нэру — пра шорах стагоддзяў, пра ўменне вяртаць маладосць. Мудрае спалучэнне мінулага з сучасным, з будучым — жыццё ў яго няспынным развіцці.

У Святаслава Рэрыха, таксама як і ў бацькі яго, ёсць карціны «на рэлігійныя тэмы». Марыя і Марыя Магдаліна пад знятым з крыжа Ісусам. Тэма, аднак, мае вельмі адноснае дачыненне да «опіуму для народа». Тут не бог і не божая маці, а сын, што не мог не пайсці на свой подзвіг, і маці, што не магла яго не пусціць — маці-пакутніца, маці-гераіня. Другі «евангельскі сюжэт» — чалавецтва над безданню. Натоўп ідзе да абрыву, за гранню яго канчаецца ўсё, сам ідзе, ірвецца туды, тупа таўчэцца, як у чарзе па нешта незвычайнае. Не заўважае вогненны прывід, які ўстае над

той безданню жахлівай, апошняй перасцярогай... І гэта, прабачце, не архангел з «Апакаліпсіса», не папоўскі страшны суд — гэта мудры, сардэчны боль за Зямлю, за чалавецтва з яго страшэнным прывідам над безданню — бомбай, якую мы самі прыдумалі, самі і дасканалім... Ёсць толькі боль — адчаю няма.

І ёсць любоў да жыцця, стваральная і паўнацэнная. Яна мне бачылася і ў яркім, радасным палатне «Фарбы Індыі», і ў той жа «Цішыні», і ў філасофска-складанай кампазіцыі «Мы самі сабе будуем астрогі», і ў глыбокіх партрэтах: бацькі ў акадэмічнай шапачцы; Нэру — упершыню для мяне без белай пілоткі, з залысінамі, яшчэ больш чалавечнага, у задуме; і ў песні песняў — яркім партрэце яшчэ так нядаўна, здаецца, маладой красуні-жонкі...

Поўдзень Індыі даў нам на развітанне добры падарунак — сустрэчу з такім чалавекам і мастаком.

...Бангалурская асацыяцыя студэнтаў, што вывучаюць рускую мову, ахвотна пазнаёміцца з лепшымі творамі сучаснай беларускай паэзіі і прозы, перакладзенымі на рускую мову. Прасілі гэтыя кнігі прыслаць.

...Дарварскі універсітэт хацеў бы парадніцца з нашым БДУ імя Леніна. Прасілі прыслаць ім выкладчыка рускай і беларускай мовы і літаратуры, з добрым веданнем мовы англійскай.

...На сустрэчах з канарыйскімі пісьменнікамі ў некалькіх гарадах штата Майсур вялася гутарка пра тое, каб з мэтай першага ўзаемнага азнаямлення абмяняцца ў бліжэйшы час публікацыямі ў газетах і часопісах літаратурных твораў малых жанраў. Пераклады з канара на беларускі і наадварот зрабіць пакуль што пры дапамозе англійскіх і рускіх падрадкоўнікаў.

...Аддзяленне Інда-савецкага культурнага таварыства штата Майсур згодна ў канцы 1968 года, напярэдадні пяцідзесяцігоддзя БССР, правесці ў штаце Дні беларускай культуры. З тым, каб Дні канарыйскай культуры былі праведзены ў Беларусі ў ліпені-жніўні наступнага года.

Гэта — з запісаў, зробленых на дзелавых сустрэчах.

Пажаданняў і прапаноў было, вядома, значна больш.

А пісьмо, адпраўленае мною дахаты, прыйшло адтуль праз два тыдні... Далёка? Ці проста няспраўнасць пошты, у адным канкрэтным выпадку? Бывае такое і ў нас.

Усё ж далёка!.. Лянота можа нават і пазяхнуць...

Няўжо ж тады я толькі так сабе, дзеля звычайнай цікавасці адкрыў, як выхапленую кругам святла на сцэне, частку яшчэ адной краіны, з яе чароўнай прыродай, з яе харошымі людзьмі?

«Ты ўсё адно не паспееш пабываць усюды, дзе хацелася б. Пройдзе яно — тваё захапленне Індыяй, твой жаль, што ты так мала ведаеш яе, што табе яе, хутчэй за ўсё, больш і не ўдасца пабачыць. Усё пройдзе, як спакваля прайшло тваё — не менш гарачае ды выключнае — захапленне Таджыкістанам, Югаславіяй, Далёкім Усходам, Канадай...»

Чый гэта голас? Што пройдзе? Што прайшло?

Сапраўднае не праходзіць. Яно ўвайшло ў мой вобраз свету, у маё бачанне, разуменне яго. З набытым у вандраваннях мне лепей бачыцца наша Радзіма, з тым, чаго яна дасягнула, і з тым, што ёй перашкаджае стаць яшчэ прыгажэйшай. У далёкай дарозе мне ўдавалася нават па-новаму, збоку пабачыць самога сябе — колькі я трачу напуста і колькі я мог бы не страціць.

Я сам прайду. А ўсё ж агонь майго маленькага свяцільніка я перадам другім. Не, нездарма, не так яна з'явілася мне над снегавымі вяршынямі Гіндукуша — наша Зямля, як светлы прывід будучыні, цудоўна агучаная разнамоўнай песняй, сардэчнай музыкай міру і дружбы!...

Не, нездарма я там, у Індыі...

Ты што — адзін? Ты адкрываеш ці далучаешся да адкрытага?

Я адкрываю для сябе. І далучаюся. Нават дапамагаю адкрываць.

Індыя, ты хвалюеш мяне! Я табе ўдзячны за гэта. Я хачу сваю ўдзячнасць, сваё хваляванне засведчыць працай, служэннем усенароднай справе нашай вялікай, жыццесцвярджальнай дружбы.

*1968*

# РЭХА ЗАЎСЁДЫ СА МНОЙ

У цясноце зялёнага дворыка цвітуць белыя і чырвоныя ружы. Там, дзе ашклёныя дзверы вялікай гасцінай раскрыты на поўдзень, сонечны сёння, пасля трох дзён кастрычніцкай нягоды. Ружы гараць, як быццам і на зіму не гаснучы з тых дзён, калі гаспадар, што любіў іх, пайшоў назаўсёды з дому.

Перад уваходам у гэты дом, цяпер ужо азначаны шыльдай «Музей Уладзіслава Бранеўскага», па-вясковаму сціпла, амаль сарамліва стаяць плакучыя вербы — прыспушчанай зелянінай жалобных сцягоў. Пасаджаныя ім, пасталелыя, пасумнелыя без яго.

Адсутнасць гаспадара і разам з тым прысутнасць яго адчуваюцца тут неразлучна.

Улетку пяцьдзесят другога года апошні сакратар Талстога, В. Булгакаў, гаварыў мне ў Яснай Паляне, што і яшчэ ўсё чакае... так, падсвядома, міжволі чакае, што вось ён, Леў Мікалаевіч, пакажацца на лясной сцяжыне, падыдзе да дому і ўвойдзе... «І яшчэ ўсё чакаю...» На сорак другім годзе разлукі, як быццам не пабелены сівізною і сам, а яшчэ ўсё, як у далёкім, ужо даўно гістарычным «тады», захоплены, закаханы ў генія юнак.

Бранеўскага няма толькі дзевяты год. Веліч яго яшчэ, па-мойму, не адстаялася ў часе. Яшчэ, здаецца, ледзь што не ўчора і я сядзеў, пры добрай хатняй каве, вось тут, у гэтым кутку гасцінай, дзе не бялеў яшчэ экран, на якім ён, гаспадар, зноў і зноў, кожны дзень цяпер узнікае перад вачыма наведвальнікаў музея.

Я не абражу светлай памяці выдатнага паэта і цудоўнага чалавека, сумна згадаўшы тое, што ўсе мы, хто з ім радзей ці часцей сустракаўся, ведалі яго бяду,

якая мела свае горкія прычыны... Упершыню я зблізку прыгледзеўся да Бранеўскага ў Мінску і ў Навагрудку, на стагоддзі з дня смерці Міцкевіча. Спачатку я ноччу, у адзіноце, доўга гартаў яго кнігу, а потым, з сябрамі, па свежым снезе ішоў на вакзал. У святочным настроі. Ад паэзіі, ужо нядрэнна мне вядомай, а ўсё яшчэ неразгадана свежай, ад сустрэчы, якая чакала нас. А першае, што мы пачулі ад нашага паважанага госця, яшчэ з падножкі вагона, былі пацешна рускія ў яго вуснах і нечакана прыкрыя словы, пад адпаведны жэст двума пальцамі, расстаўленымі на вышыню запаветнага посуду: «Я желаю стопочку водки...»

Праз два гады пасля гэтага, у той асенні вечар, калі і я, у ліку некалькіх польскіх і савецкіх пісьменнікаў, гасцяваў у яго, Бранеўскі быў зусім, нібы нават крыху ненатуральна, ціхі нейкай зварушлівай ціхасцю. Гэтую ціхасць мне часта нагадвае адзін яго верш, а верш, у сваю чаргу, напамінае аўтара і той вечар. Адзін даволі вядомы рускі паэт, да сівізны нястомны крыкун і пазёр, псаваў нам ціхасць таго вечара сваімі вершамі. Крычаў іх траскуча і доўга — цэлы вялікі цыкл, па карэктурных лістах. Калі ж нарэшце можна было выкарыстаць паўзу і папрасіць гаспадара таксама штосьці прачытаць, Уладзіслаў звярнуўся да жонкі:

— Вандзя, падай, калі ласка, вунь дзе той томік.

Яна прынесла, ён разгарнуў на патрэбнай старонцы, нягучна прачытаў кароткі верш, загарнуў кнігу і папрасіў паставіць яе на месца:

— Дзякую, Вандзя.

«У цягніку» — так называецца той верш. Толькі шаснаццаць радкоў. Для сябе я бяру іх у арыгінале, а перадаць другім магу, на жаль, толькі прозай. Перакажу заключную страфу:

«У сэрцы цішыня. Як жа лёгка яе спалохаць або атруціць. Вазьмі гэтую хвіліну ў далоні, як агеньчык, і заслані ад ветру».

На вачах у нас адбывалася так многа векапомнага, ствараліся старонкі і раздзелы гісторыі, а мы як быццам толькі зводдаль бачым гэта заўсёды, і сумна ці радасна ўздрыгваем у душы, прадчуваючы, здаецца, яшчэ большае... За вокнамі быў лістапад 1957 года,

навокал яшчэ усё многа і гучна гаварылася пра свежы вецер у адносінах паміж нашымі краінамі і наогул. Свежы вецер бывае сцюдзёны, на ім прастуджваюцца не толькі кволыя. Мы сядзелі як людзі блізкія, якім не трэба было мяняць, падганяць на патрэбу дня свае ўзаемаадносіны. Бранеўскі, рэвалюцыйны паэт, прыгожы і нялёгкі лёс якога ўсе гады бязлітасна нацягваўся на крутыя перавалы гісторыі, чалавек ужо немалады, аберагаў сваю цішыню дзеля спраў найважнейшых. Гэта была не тая цішыня, калі баязліва ці хітра вычэкваюць,— ён не хаваўся ад свежага ветру, ён тады многа ездзіў па Польшчы, многа выступаў сярод рабочых і моладзі, для большай раўнавагі духу правяраючы сябе па чытачу, несучы яму і сваю задушэўную лірыку, і палымяные слова трыбуна.

...Зноў слухаю той верш — пра цішыню. З магнітафоннай стужкі. І той, і іншыя. Да слёз урачыстае набажэнства паэзіі. Паэзіі, у якой цудоўна спалучана крынічна празрыстая, амаль зусім народная прастата і глыбіня, неператожна звязаная з жыццём, з роднай зямлёй, з лёсам працоўнага чалавека. Горды, нават часамі кплівы, задорны выклік вечнага — модзе, шчырая, светлая вера, надзея, любоў і маці іх — мудрасць.

Па запісу я чую Бранеўскага ўпершыню. І мне так дзіўна чуць яго, што хоць спытайся: няўжо гэта ён сам? Так молада, так здорава гучыць яго голас, нават запісаны за некалькі лічаных месяцаў да дня, калі саркома заціснула яго да канца маладое, звонкае горла.

Пастарэлая ў сваёй адзіноце, але нястомная ў адданасці памяці мужа і друга, пані Ванда частуе нас, «па сямейнай традыцыі», хатняй наліўкай, слівавым варэннем, чорнай кавай. Многа расказвае пра Уладзіслава, асабліва пра яго апошнія дні.

Ды мне, відаць, найбольш, назаўсёды запомніцца з яе расказаў тое, як ён чытаў свае вершы — вачыма толькі, як кнігу — амаль перад самым канцом. Правяраючы, што пакідае.

* * *

Малыя любяць дружыць з дарослымі. Дый маладыя са старэйшымі таксама. Калі ў першым выпадку больш за ўсё імпануе дарослáсць, хвалюе жаданне як

найхутчэй вырасці самому, дык у другім выпадку, у значна старэйшага падабаюцца не толькі яго вопыт, заслугі, слава, але ж і маладосць душы, і прастата.

У тым успомненым лістападзе, калі мы гасцявалі ў Бранеўскага, мне было сорак. У параўнанні з двума найстарэйшымі сярод нас, якім было блізу па шэсцьдзесят, гэта... ва ўсякім разе не была яшчэ старасць. І блізкасцю з імі, старэйшымі, пачаткам дружбы я ганарыўся па-маладому.

Другі быў Леан Кручкоўскі.

Улетку таго ж пяцьдзесят сёмага года ён адпачываў у нас на Нарачы. Там не было яшчэ ніякіх санаторыяў ды турысцкіх баз, і таму, каб прыняць паважанага госця належным чынам, па ўрадаваму заданню ў сасняку каля дома адпачынку мінскіх друкароў, воддаль ад яго быў збудаваны яшчэ адзін фінскі домік. Кручкоўскі пасяліўся там з жонкай і дванаццацігадовым сынам. Буйны дзяржаўны дзеяч братняй дзяржавы, ён меў права на ўвагу з боку кіраўнікоў нашай рэспублікі, аднак не толькі ў тым, даволі раскошным доміку, але і ў звычайнай вясковай хаце ён, сапраўдны пісьменнік і просты, шчыры чалавек, адчуваў сябе добра, нармальна. Ён гасцяваў у нас, беларускіх калегаў, у адной з вясковых хат, пасля ў дачным доме з не пакрытых шалёўкай ці тынкам сасновых бярвенняў. Мы многа гутарылі і на сонечным беразе возера, і ў цішыні палявой дарогі, паміж начнога аціхлага — ані шумочка — жыта. Калі я спытаўся, што ён хацеў бы, каб я пераклаў з яго твораў, ён сказаў не тое, што я спадзяваўся пачуць: назваў не славутага «Кардыяна і Хама», а «Паўлінава пер'е». Калі ён прыслаў мне потым кнігу і я прачытаў гэты «вясковы» раман, мне стала яшчэ больш зразумелай шчырасць і мудрая прастата яе аўтара.

Мне падабаецца проза Кручкоўскага, я ахвотна і з намаганнем, калі не з цяжкасцю, што дае асалоду, перакладаў яе. Няшмат — адзін раман (удвух з сябрам), адно апавяданне, адзін нарыс. Драматургію я не толькі люблю, але і зайздросціў яму, чытаючы «Немцаў», гледзячы на экране «Першы дзень свабоды» і «Сёння ноччу загіне горад».

Цяпер, калі пішу гэта, на маім стале ляжаць, яшчэ не адасланыя ў Варшаву, складальніцы тома публіцы-

стыкі Кручкоўскага, яго выказванні пра Купалу і Коласа, змешчаныя ў нашым друку ў сувязі з іх васьмідзесяцігоддзем, а таксама фотакопія яго запісаў у кнізе наведвальнікаў Купалаўскага музея.

«Аглядаючы гэты цудоўны, поўны абаяльнасці музей, мы адчуваем не толькі сардэчную дружбу да высакароднай асобы і творчасці Янкі Купалы, але разам з тым і вялікую павагу да таго клопату, да любові, якімі ўдзячны беларускі народ акружае памяць і спадчыну свайго вялікага паэта...»

Подпісы: Леан Кручкоўскі з жонкай і сынам (старанныя вучнёўскія каракулі) і дата — 2.VIII.1957 года — жыва напомнілі мне і той яго прыезд, на жаль, першы і апошні, і ажывілі ў сэрцы пачатак нашай блізкасці, далі магчымасць яшчэ раз падумаць пра тое, як прыгожа і сумна, і вельмі прыгожа на нашых вачах з часовага вышалушваецца тое, што павінна застацца.

Дзеля гэтага трэба будзе расстацца з пісьмамі Леана да мяне, таксама як я нядаўна расстаўся з пісьмамі Максіма Рыльскага, расстаўся, каб сустрэцца з імі ў друку, захаванымі для гісторыі дружбы нашых літаратур.

* * *

Я ганаруся даволі блізкімі адносінамі з яшчэ адным, значна старэйшым за мяне, вядомым польскім пісьменнікам. І ён, на жаль, ужо далучыўся да двух папярэдніх, застаўся толькі ў творах ды ў памяці сучаснікаў. Адбылося гэта ў апошні мой прыезд у Польшчу, у кастрычніку гэтага года.

Юліян Пшыбась. Шчупленькі, сціплы, культурны і шчыры пан Юліян. Тры гады назад ён нечакана, у складзе невялічкай афіцыйнай дэлегацыі, прыехаў у Мінск на святкаванне пяцідзесяцігоддзя Кастрычніка. Быў халодны, золкі лістапад, аднак мы не маглі не паказаць нашаму госцю родных мясцін Міцкевіча, а потым яшчэ і Нарачы, і Вільнюса.

Дзіўная рэч! Паэт, усё жыццё зачараваны творчасцю і асобай вялікага Адама, аўтар грунтоўнага даследвання «Чытаючы Міцкевіча», Пшыбась толькі на шэсцьдзесят сёмым годзе жыцця сабраўся на радзіму

свайго бога. Кажучы дакладней, збіраўся ён сюды даўно, амаль усё жыццё, ды ўсё яно неяк адкладалася, як гэта часта бывае, нібы ў надзеі на вельмі вялікі запас гадоў. Бывае... Было такое і з другім выдатным знаўцам і паклоннікам Міцкевіча, з Рыльскім, што ўпершыню наведаў Навагрудчыну толькі ў чэрвені пяцьдзесят восьмага года.

Паэт Алесь Бачыла, які суправаджаў Пшыбася ў Навагрудак і на Свіцязь, з разуменнем расказваў пасля, як ён, наш госць, папрасіў там, над возерам, што ён хоча прайсціся па беразе адзін. Пахадзіў пад дубамі, пастаяў «над вялікай і чыстай вадой», як на малітве, з непакрытай сівізною.

У мяне захаваліся здымкі (на жаль, вельмі мала прыдатныя да друку), на адным з якіх шчупленькі, высакародна сціплы з выгляду чалавек ідзе абочынай гасцінца ў нашым наднарачанскім сасновым бары.

Ён умеў быць адзін.

Ён любіў быць з людзьмі.

Жыва помняцца нашы сяброўскія гутаркі ў дарозе і на прывалах, за рэстаранным сталом і каля ляснога вогнішча; з Максімам Танкам і Піменам Панчанкам мы сяды-тады, пры сустрэчах, успамінаем тое наша падарожжа.

Мы ўспаміналі яго з Пшыбасем удвух, хоць нашых сустрэч было пасля вельмі няшмат, толькі тры.

У чэрвені шэсцьдзесят восьмага года, перад ад'ездам з Варшавы ў Катавіцы, я пазваніў яму з Саюза польскіх літаратараў дахаты, толькі каб прывітацца. А ён прыехаў, мы пагутарылі, што называецца, толькі перакусілі перад наступнай, ужо сапраўднай, сустрэчай, калі я вярнуся са службовай паездкі. І не змаглі сустрэцца. Наступным разам сустрэліся ў Шарамецьеўскім аэрапорце. З жонкай і малою дачкой — той самай Утай, разам з якою (яе малюнкі, яго вершы) напісана Пшыбасева, здаецца, апошняя прыжыццёвая кніга,— ён вяртаўся з адпачынку ў Ялце, а я з жонкай ехаў у Гданьск, на з'езд пісьменнікаў, прысвечаны трыццацігоддзю пачатку другой сусветнай вайны. Разам ляцелі, разам потым жылі ў каютах легендарнага цеплахода «Баторы», ветэрана вайны, што супачыў каля прычала Гдыньскага порта.

Светлы і мілы — асабліва цяпер, ва ўспаміне — быў

ён, Юліян, на нашым развітальным снеданні, утрох за столікам, з лагодным морам за акном.

І — як кантраст, змрочны кантраст да тае светласці — наша апошняя сустрэча.

Другі міжнародны з'езд перакладчыкаў польскай мастацкай літаратуры пачаўся, па традыцыі, з «какТэйля знаёмстваў». Я ведаў, што Пшыбась моцна хварэў улетку, і таму, калі знайшоў яго ў нашым шумлівым ды мітуслівым інтэрнацыянальным натоўпе, бла гі і сумны выгляд Юліяна не спалохаў мяне нечаканасцю, хоць і засмуціў. Ды смутак гэты, загадзя прадбачаны, я, здаецца, не паказаў, а ён, здаецца, яго не заўважыў...

На дзвюх нашых папярэдніх сустрэчах у Польшчы я адчуваў іх, так сказаць, уступнасць, спалучаную з надзеяй, што вось мы пасля, неўзабаве сустрэнемся ды пабудзем разам даўжэй, пагаворым ды памаўчым. На трэцяй сустрэчы, сёлетняй, я быў зусім — як заўсёды або часцей за ўсё бывае — далёкі ад думкі, што гэта — сустрэча апошняя...

Пісалі ўжо і я пішу, бо гэта ў літаральным сэнсе дакладна,— Пшыбась памёр на сваім паэтычным пасту. Быў вечар польскай паэзіі на мовах народаў свету. Чыталі перакладчыкі. Прагучала нямецкая мова, чэшская, руская, прагучала японская... Юліян вёў гэты вечар. З прыгожым тактам, з натуральнай шчырасцю. Сказаў некалькі слоў маладому японцу, слоў, якія таму, безумоўна, запомняцца. Папрасіў нас, хто ў зале, паслухаць, як прагучыць польскае паэтычнае слова на мове французскай... І — упаў за сталом.

Яго — малога, бледнага — вынеслі на руках, панеслі з залы пасяджэнняў на вышэйшы паверх. Наш устрывожаны інтэрнацыянал прыцішана зашумеў і змоўк. Пасля пачуўся сігнал машыны «хуткай дапамогі». Яго павезлі. Мы разышліся.

Амаль да поўначы была няўпэўненасць, тэлефонны перазвон, а потым — паведамленне па радыё, і, уранні, партрэт у чорнай рамцы — трохі разгубленая, трохі нібы сарамлівая ўсмешка...

Паэзія Пшыбася, як справядліва гаворыць адзін з найлепшых гісторыкаў польскай літаратуры Ю. Кшыжаноўскі, «прычыняе многа цяжкасцей» яе чытачу — яна перанасычана, загушчана, западтэкшчана. Сам ён

быў значна працейшы за яе. Я больш люблю паэзію Бранеўскага. Аднак... Дзён праз некалькі, дома, чытаючы пра пахаванне Юліяна ў яго роднай вёсцы на Падкарпацці, мне сумна захацелася ў ёй пабываць, пахадзіць па тым полі, якое ён араў у маладосці і ў дні гітлераўскай акупацыі, там, на родным грунце, пераносячы найвялікшае гора, словам і справай прымаючы ўдзел ва ўсенародным супраціўленні захопнікам.

Днямі глядзеў яго кнігі, перачытваў пісьмы і аўтографы. За тры гады іх сабралася няшмат. Прыгадаю адзін, на тытульным лісце акадэмічнага выдання «Пана Тадэвуша»:

«Дарагому... з гарачымі пачуццямі дружбы шлю гэта найнавейшае выданне са шчодрым прафесарскім каментарыем, які свірэпы — аднак! — не выясніў!..»

Дата — снежань шэсцьдзесят сёмага года. Напісанае — згадка пра наш дарожны смех з той архаічнай, але і жывучай стараннасці, з якою некаторыя польскія даследчыкі творчасці Міцкевіча абыходзяць ды прыкрываюць беларусізмы ў яго мове. У заўвазе да слова świerzop — свірэпа, што побач з золатам пшаніцы, серабром жыта і снежнай беллю грэчкі янтарылася на палях наваградскага Наднямоння, вучоны каментатар на цэлай кніжнай старонцы блытаецца паміж тым жоўценькім пустазеллем і культурным рапсам, rzepakiem, ніяк не могучы асмеліцца прызнаць, што świerzop — гэта ўсё-такі наша свірэпа, па-польску ognicha, што на чужыне, у сумоце па родным, магла, як дым айчыны, быць салодкім успамінам.

Гэты аўтограф для мяне — яшчэ адна мудрая, мілая ўсмешка старэйшага сябра, цяпер — ужо вельмі здалёк...

* * *

Летняя ноч у Сілезскіх Бяскідах.

Каля вогнішча на міжгорнай паляне высокая, дужая красуня, узняўшы, як птушка, галаву — так хочуць горы — звонка выводзіць:

> Ой, гураль, гуралік,
> Не бываць табе ў маёй пасцелі!..

Паганская, шчырая і такая народная прыгажосць.

А я сядзеў перад гэтым адзін, на мокрай лаве паміж чужога, мокрага лесу, і сумаваў, як малады — калісьці — вясковы таўкач. Пакуль не прыйшло вясёлае, патрэбнае — пакуль не пачуў, не ўсвядоміў, што я тут, для многіх польскіх сяброў-пісьменнікаў, свой. Што мне на гэтым свяце належыцца і чарачка гарачай медавухі, і гарачая каўбаса на ражончыку, і смех, і песні, і танцы з мясцовай моладдзю ў раскошных нацыянальных касцюмах.

Вакол высокага, вострага, гаманлівага вогнішча.

Для многіх свой... Так, у мяне ўжо нямала польскіх сяброў. З кожнай новай паездкай іх набіраецца больш. Праўда, і адсяюцца таксама. У тых выпадках, дзе не было сапраўднай узаемнай зацікаўленасці, дзе не дайшло да той шчырасці, якая патрэбна для дружбы. Аднак і засталіся многія. Што значыць — многія: колькі іх — дзесяць, дваццаць, сто? Ну, а навошта сто, нават і дваццаць? «Многія» тут у мяне не ад колькасці — гэта хутчэй не акрэсленне, а адчуванне, за якім не толькі ўсмешкі, словы, поціскі рук, брудэршафты, а за якім і шчырасць, што правяраецца часам і справамі, і веданне адзін аднаго, зацікаўленае пазнаванне таго свету, які пісьменнік і носіць у сабе, і паказвае ў сваіх творах. Багацце пісьменніцкіх светаў, іх населенасць жывымі вобразамі, напоўненасць думкамі і пачуццямі — гэта якраз і дае мне падставу лічыць, што польскіх сяброў у мяне, сяброў-пісьменнікаў — такое адчуванне — многа.

Былі нашмат старэйшыя,— пра трох я гаварыў вышэй. Ёсць такія і сёння: нястомны палярнік Чэслаў Цанткевіч; пясняр рабочай Варшавы, нечым падобны да Бранеўскага, Станіслаў Рышард Дабравольскі; аўтар выдатнай кнігі пра Шаўчэнку Ежы Енджаевіч. Ёсць аднагодкі, салдаты трагічнага верасня трыццаць дзевятага года, партызаны, удзельнікі варшаўскага паўстання, салдаты Войска Польскага, што разам з нашымі ішлі і дайшлі да Берліна. Войцех Жукроўскі, Лeслаў Бартэльскі, Тадэвуш Ружэвіч, Мацей Канановіч, Ян Гушча... З адным нямала, шчыра пагаворана, прозу другога ты чытаў, а сёе-тое і перакладаў. З прыемнасцю. Ёсць і моладзь, і дружба з імі — ужо не знізу ўверх, як са значна старэйшымі, і не на ўзроўні, калі

не аднаго для ўсіх, дык вельмі падобнага мінулага, але ж і не зверху, а проста з пачуццямі нашага ўзросту: як у намнога старэйшага брата. Тут згадаю крытыка і перакладчыка Фларыяна Няўважнага, шчырага хлопца і дзейснага друга ўкраінскай і нашай літаратуры; магутнага акіянскага рыбака, суровага і лірычнага навеліста Юрку Пахлёўскага; энергічнага Збігнева Жакевіча, які ў сваю паэтычную прозу нямала ўзяў успамінаў ваеннага і трохі пасляваеннага маленства на Беларусі...

Многа сяброў. З аднымі дружба даўняя, выразная, з другімі толькі пачынаецца, у адносінах з іншымі знаходзіцца недзе на мяжы прыязнага знаёмства, з ухілам да большага.

Зрэшты, таксама — і па ўзросту, і па блізкасці — сябры мае дзеляцца і дома, і ў некаторых іншых рэспубліках, перш за ўсё — рускія, украінцы, літоўцы, малдаване, латышы. І дружба з імі правяраецца таксама: шчырасцю, веданнем, справамі.

Часамі пачынаецца ад шчырасці. Ёсць жа людзі, толькі сустрэўшыся, пазнаёміўшыся з якімі, упершыню пагаварыўшы, амаль адразу здаецца, што ты яго ведаеш вельмі даўно, бадай, ад самага свайго пачатку. Потым ты пачынаеш чытаць напісанае ім і радасна пераконваешся, што ёсць прычыны, падставы для блізкасці, дружбы: вы з ім і думаеце і адчуваеце падобна. Толькі падобна, бо ў кожнага з нас — сваё, і адкрыванне гэтага свайго ў другім — кожнаму з нас патрэбна.

Бывае і наадварот. Спачатку ты яго ведаў па творах, там адчуў вашу блізкасць, а потым ужо пазнаёміўся, і знаёмства як быццам засведчыла, узаконіла, замацавала дружбу.

Бывала так, што знаёмства нічога не дадало да твайго ведання яшчэ аднаго калегі, чалавека блізкага табе па яго самаадлюстраванню ў слове.

Бывала і найгорш — знаёмства расчароўвала, ты потым нават думаў, і неаднойчы, што лепш не ведаў бы яго ці яе асабіста, як чалавека.

Ёсць яшчэ адна патаемная горыч у дружбе, горыч якая точыць цябе адчуваннем той няроўнасці, што ідзе не ад розніцы ва ўзросце ці ў значэнні, але ад розніцы ў веданні таго галоўнага, з чаго складаецца яго

і твая пісьменніцкая сутнасць. Словам, ты яго больш чытаеш, ён цябе менш, а то — і такое бывае — зусім не чытаў...

Калі такое ёсць паміж сваімі, людзьмі адной мовы, або тымі, каму ўзаемаразуменне аблягчае яшчэ адна, вядомая абодвум, мова, тады пра дружбу, вядома, няма чаго гаварыць.

А вось у адносінах з прыязнымі чужаземцамі такая няроўнасць ва ўзаемным веданні здараецца даволі часта, і нават адчуванне яе часовасці не робіць горыч тваю лягчэйшай.

Такое бывае не толькі паміж людзьмі, але — яшчэ горш — і паміж літаратурамі. Такая няроўнасць ёсць у адносінах паміж літаратурамі нашай і польскай, і горыч ад гэтага добра знаёмая не толькі мне аднаму. Калі лічыць ад восені пяцьдзесят пятага года, ад майго наракання на такую ненармальнасць, выказаную ў нарысе «Польскі дзённік»,—справа палепшылася. Прынамсі, у прозе. Перакладзены: Колас, Лынькоў, Шамякін, Мележ, Быкаў, прычым — два апошнія з арыгінала, і добра. Горш у паэзіі: толькі Купала і Танк, проста як на адчэпнае, ушанаваныя маленькімі зборнічкамі, у якіх і падбор вершаў, і якасць перакладаў далёкія ад патрэбнага. Асабліва ў Купалы.

У нас за гэтыя пятнаццаць год выдадзены па-беларуску: Міцкевіч (другі раз), Славацкі, Канапніцкая, Сыракомля, Бранеўскі, Кручкоўскі, Корчак, Бжэхва, Дабравольскі, Путрамант, анталогія сучаснага апавядання і сёе-тое іншае. Многа вершаў і апавяданняў змяшчалі нашы часопісы і газеты. Некалькі кніг паэзіі і прозы плануецца на бліжэйшыя гады.

Ды я не наракаць хачу — хачу сказаць пра Гушчу і пра лодзінскіх сяброў.

Выпадкова, праездам, і сціпла, амаль незаўважна ён пабываў у нас, Ян Гушча, увосень шэсцьдзесят восьмага года. Не любіць гэты чалавек ні гучных, ні салодкіх слоў, зусім абыдзены быў ён нашай увагай як паэт і празаік. Ды вось прайшло два гады і, дзякуючы ініцыятыве і, я сказаў бы, сяброўскаму подзвігу Яна Гушчы, у Лодзінскім (абласным) выдавецтве выходзіць анталогія беларускай паэзіі, падрыхтавана да выдання кніга вершаў Багдановіча. Шмат беларускай паэзіі з'явілася апошнім часам на старонках польскай пе-

рыёдыкі, шмат прагучала па радыё. За два гады... Вядома ж, Гушча не адзін рабіў гэта, яму дапамагалі і перакладаць, і друкаваць у часопісах і газетах, знайшліся кіраўнікі выдавецтва, якія ўзяліся выдаваць. Не толькі выдаць анталогію і Багдановіча, а наогул выдаваць нашу беларускую літаратуру, побач з літоўскай, азербайджанскай, іншымі літаратурамі савецкіх народаў, выдаваць — з высакародным намерам давесці польскаму чытачу, што *савецкае* — гэта не толькі *рускае,* што ў СССР — вялікая сям'я народаў і літаратур. Дапамагалі Яну Гушчы перакладаць лодзінскія паэты Тадэвуш Хрусцялеўскі, Мацей Кагановіч, Ігар Сікірыцкі; выдавецтва там узначальвае празаік і публіцыст Веслаў Яжджыньскі; шмат беларускага публікуе лодзінскі літаратурны штотыднёвік «Адглосы» («Водгулле»), які рэдагуе паэт Ян Капроўскі.

Сведчачы нашу ўдзячнасць і жаданне дружыць таксама па-дзелавому, беларускія часопісы даволі шчодра друкавалі сёлета паэзію і прозу Гушчы і яго сяброў-памочнікаў, а хутка будзе падрыхтавана кніга «Паэзія чырвонай Лодзі». Ад Тувіма і Бранеўскага — да нашых дзён, да самых маладых.

Няхай гэта стане добрым пачаткам!

* * *

Там, дзе гарэла ў горах на паляне высокае вогнішча, на пісьменніцкім з'ездзе ў Яшоўцы каля Катавіц, у чэрвені шэсцьдзесят восьмага года я пазнаёміўся з яшчэ адным польскім калегам. У канцы свайго выступлення я перадаў кіраўніцтву з'езда, як сціплы, але сімвалічны падарунак ад беларусаў, сігнальны экземпляр альбома «Між тых палёў», прысвечанага Адаму Міцкевічу. Потым, у перапынку, да мяне падышоў пажылы, сухашчавы таварыш у акулярах, назваўся Канановічам і земляком, папрасіў прыслаць такі альбом яму, са свайго боку, нібы руку на дружбу, прапануючы кнігу вершаў з аўтографам. Альбом я, вядома, потым паслаў, атрымаў, як і належыцца, пісьмовую падзяку. Здавалася — і ўсё, звычайная ветлівасць пры выпадковай сустрэчы.

Праз год я атрымаў ад Кагановіча пісьмо, добрае слова пра маю кнігу «Птушкі і гнёзды», якую яму ўго-

лас, па-беларуску прачытала савецкая госця, яго дваюрадная сястра, маладая настаўніца са Слонімшчыны. А праз месяц, у рэстаране цеплахода «Баторы», дзе мы сабраліся за столікам, неафіцыйныя прадстаўнікі трох літаратур — Кананові́ч, Бартэльскі, Яжджыньскі, Алесь Ганчар і я,— звонам маленькіх польскіх кілішкаў, па прапанове гаспадароў, было замацавана пагадненне на пераклад Кананові́чам і выданне Яжджыньскім зборніка маіх апавяданняў.

Гэтая радасць мая, звычайная, прывычная для многіх савецкіх пісьменнікаў, пераважна рускіх і не заўсёды нават «сярэдніх», была вялікай для мяне таму, што я чакаў яе даўгавата і з пэўнай горыччу ў сэрцы. Трэба сказаць, што мой радавы, салдацкі ўдзел у абароне польскага Узбярэжжа ў верасні трыццаць дзевятага года, мая, таксама сціплая, праца перакладчыка польскай літаратуры не абыдзены ўвагай: у кожны мой прыезд у ПНР пра гэта гаварылася ў той або іншай форме, прыватна ці афіцыйна. Бывала і прыемна, і няёмка часамі, а потым стала, нарэшце, і прыкра — толькі як быццам ад такой увагі з боку польскіх сяброў-пісьменнікаў, ад няроўнасці ў нашых адносінах з тымі, з якім я дружыў, каго я чытаў, а хто... у лепшым выпадку вельмі мала ведаў мяне як літаратара. Была ў мяне, праўда, выдадзена па-польску кніга, адразу пасля атрымання Сталінскай прэміі, што было, відаць, асноўнай прычынай яе выдання, аднак пераклад яе быў зроблены з дрэннага рускага перакладу, і выхад гэтай кнігі не радаваў мяне. З самага пачатку, а чым далей, тым прыкрэй было ўспамінаць яе, хоць і не ўсё я звальваў на двайны пераклад.

Мацей Юзаф Кананові́ч узяўся перакладаць з арыгінала. Амаль адразу ён прызнаўся мне ў пісьме, што гэта для яго нялёгка і што ў працы яму дапамагае амаль дзевяностагадовая маці, якая доўга жыла на Беларусі і ганарыцца іх, Кананові́чаў, сямейнай дружбай з Міхалам Федароўскім. Нядаўна, у Варшаве, я ўдзячна пазнаёміўся са старэнькай і працавіта-бадзёрай паняй Аннай. А перад гэтым, улетку, разам з Мацеем і трыма беларускімі калегамі пагасцяваў у светлай хаце над Шчарай, у якой нарадзіўся Мацееў бацька, дзе жыве яго дваюрадны брат, адкуль пайшла на свой настаўніцкі хлеб мілая Ганначка Кананові́ч, тая, што



Выступленне перад чытачамі ў мінскай цэнтральнай кнігарні. За сталом — Мікола Аўрамчык. *1969 г.*

падружыла нас, каму па праву належыцца адзін з трох першых аўтарскіх экземпляраў маёй будучай польскай кнігі, і складзенай, і перакладзенай ужо, як мне здаецца, па-сапраўднаму.

Над гэтай кнігай мы працавалі з Мацеем нямала і дружна.

Пішу гэта, і зноў успамінаецца жніўеньская ноч, калі мы выйшлі з Дуброўкі пасля вясёлага калгаснага застолля з беларускімі і польскімі песнямі,— поўны барвовы месяц над ракою, хісткая пласкадонка, у якой мы сядзелі на кукішках і якой даволі бесшабашна кіраваў багром падвяселены брыгадзір. Мне толькі страшна было адно — што бултыхнуся ў быструю плынь не так сабе, не толькі пад гальштукам, але і з папяровым скруткам, які трымаю ў прыўзнятай на ўсякі выпадак руцэ. Гэта — наш з Мацеем рукапіс, апавяданні, перапісаныя ім пасля маёй, як мы дамаўляліся, прыдзірлівай аўтарызацыі, прывезеныя ім на яшчэ адзін сумесны прагляд.

Дзякую, дружа! Мне было добра працаваць з табой — і аўтарызуючы пераклад, і перакладаючы тваё, асабліва тое апавяданне, дзе ты так шчыра, цёпла ўспамінаеш дні сваёй наднёманскай маладосці.

* * *

Панна Гражына Кананові́ч, дачка майго новага сябра, трымае каліва сціплай кветкі, што называецца па-іхняму, здаецца, празаічна — дзюра́вец, а па-нашаму святаяннік — куды прыгажэй. Мы ў ціхім, светлым настроі, нібы нават рады, што прыпомнілі, удакладнілі гэтыя назвы, больш, аднак, па той прычыне, што навокал нас — сонечны беларускі верасень, самы яго пачатак, а мы — талковая, сімпатычная панна, яе малодшы брат, студэнт Тадэвуш, іхні бацька і я — сядзім на ўзлеску, у цёплай траве, каля бярозак, толькі на нейкую палавіну пажаўцелых.

Ёсць і яшчэ адна прычына нашай ціхасці, нашага ўрачыстага настрою — мы толькі што абышлі Хатынь.

Ад хаты да хаты, ад брамкі да брамкі... Не! — ад котлішча да котлішча, ад коміна да коміна... Хрумсцела пад нашымі нагамі дзындра, ціха вызвоньвалі

бязладныя, трывожныя званы, з чорных табліц на комінах крычалі імёны спаленых...

Помнік ахвярам адной вёскі.

Могілкі мноства вёсак, спаленых разам з людзьмі.

Цяпер, адпачываючы на ўскраіне неіснуючай вёскі, не хочучы існі адгэтуль, ад гэтых ціхіх хвілін, мы трохі гаворым пра штосьці простае, не вельмі абавязковае, нібы дзеля таго толькі, каб тлеў, перабягаў ад аднаго да другога агеньчык нашай супольнасці, у той час, калі над гэтай ціхай, нешматслоўнай знешнасцю, у душы ў кожнага з нас — свая спакойная ці растрывожаная глыбіня.

Пасля святаянніка і яшчэ чагосьці там я гавару пра тое, што адзін з маіх беларускіх сяброў, правільна раіў на тую вунь ліпу, якая адзінока ўзвышаецца наводшыбе Хатыні, падняць барану або кола, каб тут загняздзіўся бусел. Яго прысутнасць яшчэ больш падкрэсліла б жалобную самотнасць вёскі-помніка, яе трагедыю і, калі хочаце, неперреможнасць жыцця. Дзеці і кветкі, якіх тут так многа бывае, клёкат з буслянкі і белыя крылы над зялянінай вялізнай лясной паляны...

Гаворачы і слухаючы іншых, я ўспамінаю, як храбусціць пад падэшвамі буйны жвір,— вельмі выразна чутно ў людней цішыні. Ён храбусціць пад нетаропкімі нагамі мноства маўклівых людзей, што папарна, урачыста ідуць да абеліска — помніка савецкім салдатам, вызваліцелям Польшчы. Ціха, стрымана б'юць барабаны. Хрумсценне жвіру — як суровы гоман нейкай непарыўнай плыні, а вуркатанне салдацкіх «вэрбляў» — барабанны перастук,— як нейкая трывожная перасцярога, заклік да нястомнай пільнасці. Жывыя кветкі, іх несмяротнае мноства, і дзеці на ганаровай варце, дзяўчынка і хлопчык, сімвал нявіннасці, чыстаты, з чаго накпіць, наздзекавацца — найбольш злачынства.

> Кланяюся Рэвалюцыі Рускай
> Шапкай да зямлі,
> Па-польску...

Гэтыя словы Бранеўскага, вядомыя мне раней, але па-новаму пачутыя на ўрачыстым сходзе, напярэдадні, гучалі ў душы як неадчэпны, хвалююча неадчэпны

лейтматыў. Разам з хрумсценнем жвіру і вуркатаннем «вэрбляў».

Лістапад пяцьдзесят сёмага года, саракагоддзе Кастрычніка, якое мне давялося сустракаць у Варшаве,— ужо і тое далёкі ўспамін.

«Ужо і тое...» Летась я быў удзельнікам Гданьскага пісьменніцкага з'езда, прысвечанага трыццацігоддзю пачатку другой сусветнай вайны. А ўжо і гэты з'езд спакваля становіцца ўспамінам, займае... ужо заняў сваё месца ў гісторыі.

Успамінаю кветкі, якія мы — літаратары польскія, савецкія, румынскія, венгерскія, славацкія, балгарскія, нямецкія, сербалужыцкія, в'етнамскія — клалі каля помніка героям Вестарплятэ, велічна-гордага помніка народнай славе, які ўзвышаецца над недалёкімі хвалямі мірнай і працавітай польскай Балтыкі.

Успамінаю «àпэль палèглых» — пераклічку тых, што загінулі ў змаганні з фашызмам. Зноў старадаўняя краса палаца і дамоў Доўгага Рынка, узнятых з руін да апошняй драбніцы дакладна. Жалезны, элегантны строй ганаровай варты. Белыя галубіныя крылы на фоне вячэрняй зары — галубоў растрывожылі залпы салюта. А перад гэтым над плошчай урачыста, хутчэй — сардэчна гучалі словы пасівелага паэта, што прамаўляў і да прысутных, і да ўсіх, хто думае пра лёс людзей, пра чалавечы сэнс жыцця.

«Людзі добрай волі! Не паддавайцеся падману, не дазваляйце заражаць вас прапагандай нянавісці, рэваншызму, захопніцтва! Сябры-пісьменнікі! Пільна распазнавайце атруту нацыяналізму, які прасочваецца ў людскія душы, дзякуючы намаганням ворагаў чалавечнасці!..»

Выступаў тады Юліян Пшыбась. І я ўжо словы яго памятаю не толькі з таго выступлення, але і з кнігі пра той з'езд, прысланай мне сёлета вясной.

Па гэтай кнізе я правяраў сваю памяць, чытаючы яшчэ адно выступленне, якое год таму назад уразіла мяне сваёю, зрэшты, вельмі простай незвычайнасцю. Словы нямецкай пісьменніцы Ганны Гайдэ Крацэ, якая апраўдваючыся перад калегамі з краін сацыялістычнай садружнасці, чаму яна толькі пад канец антываеннай дыскусіі далучылася да яе, сказала:

«Я зразумела, нібы ўпершыню так глыбока, што

мушу выступаць тут на мове, якая для ўсяго свету была калісьці мовай жаху, мовай, якую ненавідзелі, бо ёю тады злоўжывалі гітлераўскія нелюдзі. Нам, пісьменнікам ГДР, нялёгка было вярнуць нашаму роднаму слову яго гуманістычны змест. Нам удалося гэта — мы можам меркаваць так па тым, што вы вось палічылі нас вартымі запрашэння на гэтую дыскусію, вартымі ўдзелу ў ёй».

...Залатая беларуская восень.

Мы ўжо любуемся ёю праз вокны «Волгі». Госці мае любуюцца, бо гэта новае для іх, а я — бо роднае, на што не наглядзішся.

І яшчэ адно адчуванне ў мяне: радасць гаспадара, якому ёсць што паказаць. Вось яна вам, Беларусь! Колькі яе ні таптaлі — жыве і квітнее!

* * *

Сярод далёкіх і блізкіх замежных гасцей, якіх мне па службе і дружбе даводзіцца суправаджаць у паездках па нашай рэспубліцы, найбольш пакуль што бывае палякаў. І дзе б я з імі ні бываў, амаль усюды і амаль у любым настроі, у ранняй свежасці і ў вячэрняй стоме, у душы маёй не змаўкае ціхая, патаемная радасць гаспадара пры жаданых гасцях.

Самому госцем быць — таксама добра.

За сем паездак у Народную Польшчу я любаваўся ёю каля сотні дзён і начэй. Хадзіў па вуліцах многіх гарадоў, большых і меншых, зрэдку не кранутых вайной, часцей адбудаваных з руінаў, і новых, ва ўсёй раскошы сучаснага будаўніцтва. Снаваў у шумным натоўпе днём і ў любай адзіноце ноччу або раненька. Слухаў гоман карпацкіх рэк і пошум соснаў над лебядзінымі мазурскімі азёрамі. Сядзеў, часамі ў знаёмай з дому сумоце, у прэзідыумах высокіх сходаў. У родным доміку Шапэна ўсхвалявана слухаў яго сардэчную, мудрую музыку. Любаваўся размахам новабудоўляў над песеннай Віслай, над морам, у дымнай Сілезіі. Любаваўся і экзатычнай красою касцельнай і вясковай даўніны ў сонечным Ловічы, на славутым хрэсным ходзе, а потым на сялянскім кірмашы. Бываў на пышных банкетах у былых магнацкіх палацах. Піў сяброўскую чарку ў вясковай карчме. Спяваў і спрачаўся на

сямейным застоллі. Зачаравана снаваў па залах музеяў, фотавыставак і праз акно машыны любаваўся васількамі і макамі ў густой і ціхай прыдарожнай збажыне...

Жыццё і сапраўды бяжыць. Чым далей жывеш, тым выразней адчуваеш, як хутка з'явы сённяшняга дня становяцца мінулым.

Што там казаць пра хатынскі пачатак верасня, тым больш — пра леташні Гданьскі з'езд, калі ўжо і мой сёлетні кастрычнік, мая другая ў адным годзе залатая восень, польская, здаецца, толькі ўчарашняя, цяпер, калі пішу гэта, у снежні,— ужо таксама рэха перажытага.

Яно заўсёды са мною — водгулле фарбаў і гукаў, думак, пачуццяў і слоў.

Была яшчэ раз Варшава, у якой мне цяпер, як ніколі, пашанцавала на адзіноту. І ў ясны, ледзь не палетняму цёплы поўдзень, калі я адзін хадзіў па завулачках, адкосах і плошчах Старога Мяста, на кожным кроку сутыкаючыся з гісторыяй, вядомай мне і новай. І на ўсходзе сонца над Віслай, у Чарнякоўскім парку, дзе велічная красуня рака, найпрыгажэйшае з усіх каханняў Бранеўскага, плыве і ў горадзе неяк па-палявому прывольна, у яснай ранішняй самотнасці. І ў дождж, заўчасна па-восеньску нудны і золкі, калі Варшава таксама прыгожая, калі яе, кажучы словамі песні, таксама можна любіць.

Была і Лодзь. І няхай мне даруюць лодзінцы-патрыёты, што я і цяпер, пасля няпершага наведання гэтага горада катаржных фабрык і чырвоных барыкад у мінулым, другога пасля сталіцы прамысловага цэнтра Польскай Народнай Рэспублікі, буйнога цэнтра навукі і культуры,— што я і цяпер не запомніў яе адметнага ды выразнага вобліку. Апошнім часам мне давялося многа чытаць паэзіі і прозы тых польскіх таварышаў, што не толькі жывуць у Лодзі, але і любяць яе, аднак, горад свой яны любяць, здаецца, больш не з-за знешнасці яго, а таму, што ён родны, што ў ім і людзі, і справы, і сённяшні дзень, і мінулае вартыя самай глыбокай пашаны.

З групаю лодзінскіх сяброў, на дзвюх машынах мы зрабілі незабыўны «выпад» на Кялеччыну, да Свентакшыскіх гор.

Залатая восень... Перад гэтай паездкай у Польшчу бываў я разоў колькі ў грыбах. На ўсход ад Мінска, на поўдзень, на захад — усюды сёлета баравікоў было няшмат, больш проста свежасці, паэзіі, ад якое і ў стоме не хутка заснеш. Колькі паклонаў — кожнай лісічцы, пакуль не напоўніцца кошык, колькі разоў пасля перакруціцца перад вачыма памяці каляровая плёнка чароўных мікрасветаў! Верас ці мох, а ў ім баравічок, а то, бог-бацька, і два. Распарасонены папаратнік, першае золата лісцянога насцілу і — падасінавік, а то і не адзін. Так бывала не толькі сёлета. А вось лася ў грыбах бачыў я ўпершыню. Ён бег па полі, побач з той прылясной дарогай, па якой мы ехалі,— перабягаў з ляска ў лясок, спакойна, з годнасцю, з узнятаю каронай гордай галавы. Мы ў сваім «газіку» галёкалі ад радасці ўслед яму, а потым побач з ім, і не хочучы палохаць, і не могучы ўстрымацца. Увечары, дома, мне хацелася, як маломy, гаварыць пра яго яшчэ і яшчэ, а ўранні, пасля маладога, амаль дзесяцігадзіннага сну,— адразу ўспомніўся ён. Як нейкая светлая, яркая радасць — новы, хоць і спрадвечны, сімвал нашых лясоў, акраса нашай залатой, грыбной ды яблычнай восені. З песні, з казкі, з расказаў старэнькай маці — жывы, рэальны, буры, з магутным перадам і паэтычнымі рагамі.

Польская залатая восень на Кялеччыне не здзівіла мяне, не здалася мне лепшай за нашу. Яна была проста польская. У прыгажосці, якую я ў тых мясцінах бачыў упершыню, сярод палёў, яшчэ з палосамі, дзе відаць былі людзі, коні, вазы, белы россып гусей і дымок бульбянога вогнішча, каля хат і ракітаў над грэблямі, добра, прыемна было разважаць у думках простых і вельмі няпростых герояў польскіх «вясковых» раманаў, аповесцей і навел, добра было здагадвацца, якія яны, тыя героі, сёння. Не яны, вядома, а іх нашчадкі з трохі вядомай і мне рэчаіснасці.

Прафесійная звычка ці, можа, комплекс такі? Ці гэта зразумела і законна — кожнаму глядзець на свет па-свойму? Скажам, які ні быў бы сход,— ці фізікаў, ці лірыкаў,— калі туды запросяць моднага або моцнага старшыню калгаса, ён заўсёды, абы ўзышоў на трыбуну, адразу пачне з дасягненняў і планаў свае гаспадаркі. Пацешна бывае часамі, аднак і думаеш: «Пра-

вільна, дружа, давай! Абы толькі мяса ды хлеб не былі папяровыя!..» Чаму ж тады нам, літаратарам, апраўдвацца, што нашы вочы бачаць па-свойму? Абы толькі добра глядзелі!

У нас была перад гэтым работа: мы абмяркоўвалі планы ўзаемных выданняў і публікацый. Раіліся і ў выдавецтве, і ў рэдакцыі «Адглосаў», і ў гарадскім камітэце ПАРП.

У нас было потым свята сустрэчы з зямлёй трох любімых пісьменнікаў. Вёска, дзе нарадзіўся Жаромскі, касцёл, дзе яго ахрысцілі, гімназія, дзе ён вучыўся, пра якую напісаў аповесць «Сізіфава праца». Былы маёнтак, падараваны польскай грамадскасцю Сянкевічу, ужо старому ды славутаму, аднаўлены палацык, у якім музей. Мемарыяльная дошка Дыгасіньскаму на сцяне той гімназіі, дзе ён вучыўся раней за Жаромскага, дзе цяпер некалькі класаў сталі музеем.

Мы святкавалі. Аднак і там, у дарагіх мясцінах і ў дарозе, раз-поразу вярталіся да спраў, абавязкаў і планаў. Як селянін, гаспадар, што і ў свята думае пра снапы ды баразны. Але гаварылі мы ўжо не так будзённа, як за сталамі дзелавых сустрэч. Быстры, сардэчны Веслаў Яжджыньскі і спакойна, хітравата вясёлы Тадэвуш Папер абодва вучыліся ў гімназіі імя Жаромскага, «трохі пазней за яго», пра што расказвалі са зразумелай, крыху не па гадах маладою гордасцю і весела. Пяць літаратараў, людзей ужо, як гаворыцца, шаноўнага ўзросту, стаялі мы перад мемарыяльнай дошкай Дыгасіньскаму і, на мой пачын, ніяк не маглі ўспомніць — і весела было, і сумнавата,— як жа ўсётакі называўся той сабака, што гаўкаў нам з вокладкі яго, Дыгасіньскага, кнігі пра дружбу з жывымі істотамі, адной з любімых кніг нашага маленства. Не ўспомнілі, але радасць таго далёкага чытання яшчэ больш зблізіла нас. Скідаючыся па думцы, па кавалачку сэрца, гаварылі мы пра раскошную веліч Сянкевіча, пра глыбіню, чалавечнасць Жаромскага. І ў кожнага з нас, апроч агульных адносін, агульнай любові і пашаны да нашых вялікіх папярэднікаў, былі яшчэ і асабістыя адносіны да іх, пра што мы і гаварылі, і маўчалі — кожны па-свойму. Маўчалі — значна больш.

Мяркую па сабе.

Цяжка сказаць, дзе выпадковасць, а дзе закнамер-

насць у тым, што іменна сёлета, за некалькі тыдняў да паездкі ў Польшчу, я чытаў Гогаля... па-польску, а Сянкевіча — у рускім перакладзе. У першым выпадку пачалося з таго, што мяне чамусьці пацягнула да апісання саду Плюшкіна, а потым, ад арыгінала, захацелася перайсці да перакладу, зробленага Бранеўскім. Можа, часткова і таму, што на адной толькі, на жаль, гэтай кнізе, на «Мёртвых душах» па-польску, ёсць у мяне Уладзіславаў сяброўскі аўтограф. Я зачытаўся да поўначы, і гэты вечар не здаўся мне змарнаваным. Успомнілася, чытаючы, і тое, што і Дастаеўскага я пачаў калісьці па-польску,— з «Іграка», у перакладзе таксама Бранеўскага,— што і некаторыя рэчы Талстога («Хаджы Мурат», «За што?», «Малітва») прачытаны былі раней па-польску. Сянкевіча ў рускім перакладзе, яго апавяданні, я перачытваў не толькі таму, што ў бібліятэцы калгаснага дома адпачынку, дзе мы сумавалі ў аблажна дажджлівыя дні, лепшых кніг не было. Мне захацелася праверыць, як яны, яго «Бартак-пераможца», «Вартаўнік маяка», «Па хлеб» і іншыя апавяданні, як яны гучаць на дарослае ўспрыманне, ці варта было захапляцца імі, уваходзячы ў жыццё. Варта было! І яшчэ за адно стала радасна — за іх агульналюдскае гучанне. Гогаль, Талстой, Дастаеўскі, — па-польску, Сянкевіч — па-руску... Ці выпадковасць гэта, ці заканамернасць, такія інтымныя факты мае біяграфіі,— справа не ў гэтым. Справа іменна ў тым, што ў такім моўным перапляценні мне вельмі добра, хоць і па-свойму, асабіста, бачыцца наша агульнае, тое, што лучыць нас, што нам гаворыць пра наш ідэал, пра адзіна разумны сэнс існавання.

Што да Жаромскага, дык я яму ўдзячны не толькі за тое, што «Сізіфава праца» была калісьці, у школьныя гады, адной з маіх любімых кніг. На цэлую чвэртку стагоддзя пазней, перачытаўшы гэтую рэч, я жыва зацікавіўся адным маім юнацкім рукапісам і дапісаў, перапісаў яго, «Сірочы хлеб», з думкай пра тое самае, што і ў Жаромскага, але пайшоўшы, як мне здалося, далей. У яго быў гнеў, пратэст супраць нацыянальнага прыгнёту, а ў мяне было і вышэйшае: дружба паміж сумленнымі палякамі і намі, хто быў прыгнечаны, але вучыўся і ўмеў распазнаваць, дзе прыгнятальнік, а дзе друг — у адным і тым самым народзе. Тут ужо многа

зрабіў і час, у якім мы жывём, які нам паказвае такія думкі. І сёння, калі мы дзейсна думаем пра неабходнасць дружбы паміж нашымі народамі, як жа зношана, анахранічна, пачварна выглядае ён, той вялікадзяржаўны, узброены грубай магутнасцю шавінізм, які мог лічыць разумнай, нібыта патрэбнай рускаму народу, мерай — вынішчэнне ўсяго польскага, асіміляцыю народа з вялікай гісторыяй, навукай, культурай, цудоўнымі рэвалюцыйнымі традыцыямі сусветнага гучання. Гэта мне, як ніколі раней, прадметна ясна стала ў Келецкім музеі школьных гадоў Стэфана Жаромскага, дзе я пад шклом вітрыны ўбачыў «Элементарь» і «Польскую хрестоматию» — рускія, замест польскіх, падручнікі для... польскіх дзяцей, у самым сэрцы польскай краіны. Не дзіва, што ўсе намаганні лепшых сыноў польскага народа былі ў той час скіраваны на адно — на барацьбу з царызмам за незалежнасць. І дзіва, пашана да гэтых лепшых людзей, якія маглі над горам, над трагедыяй свайго народа ўздымацца да агульналюдскага, працаваць для нашай агульнай будучыні. У гэтым сэнсе, вышэйшым, я думаў іменна пра Жаромскага, аўтара «Попелу» і «Прадвесня», які пайшоў далей і глыбей за Сянкевіча.

Ад гэтых думак зямля Жаромскага, Кялеччына, асенняй красой якое мы любаваліся, была яшчэ прыгажэйшая. Мы не толькі маўчалі пра гэта — і гаварылі таксама. Няхай нібы ўскосна, намёкамі, аднак... Словам, мы адчувалі, што дружым, што ёсць нам у імя чаго дружыць, што дружбе гэтай не трэба гучных слоў, казённых дэкларацый.

Бо ў нас было яшчэ адно, што праясняла, паглыбляла наша свята. Мы гаварылі пра партызан, кялецкіх і беларускіх, да слаўных спраў якіх мы мелі пэўнае дачыненне. Ягджыньскі і Папер паказвалі мясціны, звязаныя з перамогамі і пакутамі. А каля помніка партызанам, ужо на подступах да Свентакшыскіх гор, пакрытых вечнай зелянінай хвойніку і восеньскай стракатасцю золата і чырвані, мы пастаялі ў немнагаслоўнай задуме. Тры партызаны, лічачы і мяне: удзельнік варшаўскага паўстання, потым вязень канцлагера Мацей Канановіч; намеснік Веслава Ягджыньскага па выдавецтве — Тадэвуш Яскула, ардэнаносны, не раз паранены салдат дывізіі імя Касцюшкі; Ева Астроў-

ская, жонка Веслава, пісьменніца, сціплая, мілая Гражына, сацыёлаг і любімая Мацеева дачка.

Веслаў меўся яшчэ раз дастаць сваю пукатую бутлю шатландскага віскі, якую мы пачалі ў росным ранішнім лесе, на мяжы цудоўнай Кялецкай зямлі, аднак у глыбінным Мацеевым партфелі, дзе жывуць звычайна рукапісы і кнігі, цудам знайшлася яго летняя знаёмая па Беларусі — наша «Белавежская». Гэта таксама здалося нам маленькім, але значным сімвалам.

Дзякую, сонечны польскі дзень, што ты мне шчодра дазволіў глядзець з-пад гэтага помніка на поўнач, на размах неабсяжнай даліны, пяшчотна прыкрытай смугою, засеенай словам Жаромскага, народнай песняй неперамажнасці!..

Дзякую, цёмны і так звычайна, проста, як і дома, таямнічы лес,— за ціхі звон тваіх крынічак, якія і мы, «бязбожнікі», называлі цудадзейнымі, смакуючы халодную, крыштальную ваду і згадваючы тых, што прыходзілі і яшчэ ўсё прыходзяць сюды, у горны гушчар, палячыцца ад непаладкаў і горычы!..

Дзякую і табе, імклівы «Фіят», што птушкай, паслухмянай Евіным далікатным рукам, лунаў па серпанціне горнай дарогі туды, дзе на вяршыні кляштар-турма «Святы крыж», на варотах якое, ужо разбураных, калісьці быў надпіс: «Ідзі з богам і не вяртайся!..»

З богам ішлі сюды не толькі багамольцы. З імем яго ішоў сюды канвой, спачатку царскі, потым санацыйны. Дарога, якая сёння лёгка сцелецца пад гумавыя скаты, тады са звонам — доўга, паволі — падмяталася кайданамі. А на прасторы зялёных хрыбтоў і засмужаных далін арлы глядзелі адгэтуль праз краты...

Я думаю пра тых, што былі тут асноўнымі вязнямі,— пра змагароў рэвалюцыйнага падполля. Палякі. Украінцы. Беларусы. Некаторых я ведаў, пра некаторых трохі пісаў. Некаторым пацісну руку, як вярнуся дахаты. І раскажу, што быў тут, і яшчэ паслухаю...

Справы мінулыя. Сённяшні дзень — гэта той, пра які яны марылі, за які змагаліся і пакутавалі. Дзень гэты — наш, дарагія сябры, мы адказваем за яго.

*1970*

# ДВОЙЧЫ ПРА ТОЕ САМАЕ

## ПРОСТА ЎДЗЯЧНАСЦЬ [1]

«Калі б ён быў рыбай, дык плаваў бы, вядома, толькі ў акіяне...»

Успамінаючы гэтыя словы, міжвольна ўяўляеш той неабдымны, нязмераны акіян рускага і наогул чалавечага жыцця, якое змог адлюстраваць у сваіх творах адзін чалавек, адзін літаратар.

Да самай смерці не здолеем мы начытацца Талстога, не здолеем перачытаць яго, бо ён якраз належыць да ліку тых нямногіх пісьменнікаў, якіх нельга прачытаць адразу, а трэба і — галоўнае — хочацца перачытваць зноў і зноў.

Ва ўсёй яго, і сапраўды вялізнай, літаратурнай спадчыне, пачынаючы ад «Маленства» і канчаючы апошнімі чарнавымі накідамі, усюды тоіцца сакрэт яго абаяльнасці, яго прыцягальнай сілы — жыццё, кроўная сувязь з якім жывіла геній Талстога.

«Герой... якога я люблю ўсімі сіламі душы, якога стараўся паказаць ва ўсёй прыгажосці яго і які заўсёды быў, ёсць і будзе найпрыгажэйшы,— праўда».

Гэта было сказана ў маладосці. Гэта ён мог бы з поўным правам паўтарыць і завяршаючы свой вялікі шлях.

Незгасальную паходню праўды, што загарэлася ад палымянага сэрца Радзішчава, Талстой прыняў з рук Пушкіна і Гогаля, нёс яе над Расіяй і ўсёй Зямлёй разам з Чарнышэўскім і Герцэнам, Тургеневым і Шчадрыным, з Караленкам і Чэхавым і праз рукі Горкага перадаў яе нам.

---

[1] З даклада на 125-годдзі з дня нараджэння Л. М. Талстога.

Праўдай, служэннем праўдзе жыве — у сваіх лепшых творах — і наша шматнацыянальная савецкая літаратура, дзякуючы гэтаму яна ганарыцца імем перадавой, найбольш чалавечнай у свеце літаратуры.

Талстой быў просты, і ў гэтым яго незраўнаная сіла. «Ах, прастата — як гэта неабходна!» — часта паўтараў ён, гэты — па Горкаму — «апошні і сапраўдны арыстакрат рускай літаратуры», гэты барын, пра якога яшчэ Чарнышэўскі сказаў, што і ў беднай сялянскай хаце і ў паходнай салдацкай палатцы ён адчувае сябе дома, гэты граф, да якога, згодна з акрэсленнем Леніна, у літаратуры не было сапраўднага мужыка.

Мудрая прастата Талстога — у непарыўнай сувязі з жыццём, з працоўным народам, вусную творчасць якога ён лічыў невычэрпнай крыніцай натхнення.

Прастата гэтая арганічна выцякала з глыбокага, шчырага жадання праўды, служэнне ёй было сімвалам веры.

Талстой быў непрымірымым ворагам фразы, усякай прыгажосці дзеля прыгажосці, усякага мастацтва дзеля мастацтва, у творах ягоных нічога не цвіло пустацветам. Прастата яго звязана з глыбокім і грунтоўным веданнем жыцця, з гранічнай дакладнасцю слова. Ужо не гаворачы пра выдатнае веданне «дыялектыкі чалавечай душы», Талстой ведаў прыроду так, як не ведаў яе і не ведае, бадай, ніводзін пісьменнік. Ён не пісаў, як часта пішам мы, што заспявала на дрэве *нейкая* птушка, цвілі на ўзлеску *нейкія* кветкі, конь *чамусьці* крутнуў галавою, а ў душы чалавека адбывалася *штосьці* незвычайнае...

«Як ні дзіўна гэта сказаць,— гаварыў Леў Мікалаевіч,— а мастацтва патрабуе значна большай дакладнасці... чым навука». У іншым месцы: «Простае і няштучнае можа быць дрэнным, але няпростае і штучнае не можа быць добрым». І нарэшце зусім ужо проста і ясна: «Каб я быў цар, дык выдаў бы закон, што пісьменнік, які ўжыў слова, значэнне якога ён не можа вытлумачыць, пазбаўляецца права пісаць і атрымлівае сто ўдараў розгамі».

Геніяльная талстоўская сіла пераўвасаблення — уменне перадаць чытачу, «заразіць» яго пачуццямі воіна, што памірае на полі бітвы, пачуццямі жанчыны, што нараджае ці корміць малое, адчуваннямі каня, які

ратуе чалавека ў завіруху,— сіла гэтая, з аднаго боку, звязана з выдатным веданнем прадмета, які апісваецца, і, з другога боку, з мудрай і абаяльнай прастатой, якая немагчыма без глыбокага ведання жыцця.

У выніку сваёй шматгадовай і страснай пагоні за прастатой і дакладнасцю ў перадачы асноўнага ў любым мастацкім творы — яго ідэі, зместу — Талстой перамог, па-мядзведжы падмяў пад сябе і ўсіх нягеглых сцяганосцаў «чыстага мастацтва», і ўсіх крыклівых прапаведнікаў «чыстай, аб'ектыўнай прыгажосці».

Возьмем для прыкладу «Анну Карэніну».

Пра форму гэтага твора напісана многа і, можна думаць, будзе напісана яшчэ больш. І сам аўтар законна ганарыўся архітэктурай рамана: «Скляпенне зведзена так, што нельга і заўважыць тое месца, дзе замок. І пра гэта я больш за ўсё дбаў. Сувязь пабудовы зроблена не на фабуле і не на адносінах (знаёмствах асоб), а на ўнутранай сувязі».

А тым часам, чытаючы гэты, і сапраўды класічны па форме, раман, зусім забываешся пра форму, нават пра аўтара — архітэктара гэтай цудоўнай будыніны: так непасрэдна і моцна адчуваеш жыццё, як быццам яно само гаворыць за сябе, як быццам гэты манументальны па сіле згустак пачуццяў і думак створаны не адным чалавекам, а нейкай магутнай стыхіяй.

Або апавяданне «Пасля балю».

З якой глыбінёй і сілай супастаўляюцца тут два класавыя полюсы жыцця Расіі ў сярэдзіне мінулага стагоддзя!

Спачатку — музыка пышнага балю, увесь бляск раскошы і самых «тонкіх» пачуццяў, усёй той «паэзіі», «прыгажосці», якую вякамі ўздымала на шчыт цэлая армія буржуазных пісьменнікаў, кампазітараў, мастакоў. Потым у гэту незямную музыку, у гэты райскі сад «вяршыні шчасця» ўрываецца — перш далёкім водгуллем — жорсткі перастук мікалаеўскіх бубнаў, надрыўнае падвыванне флейты і голас, які, як тол, укінуты ў глыбокую ваду, са дна ўзрывае пачуцці вашай душы,— голас усіх замучаных, прыгнечаных нізоў, заключаны ў жудасна простыя словы: «Братцы, помилосердуйте!»

Салдата гоняць скрозь строй, ногі яго бездапаможна коўзаюцца ў адліжным снезе, рукі прывязаны да

двух ружжаў, на акрываўленую спіну сыплюцца ўдары шпіцрутэнаў...

Ідзе народ, крывёй якога жывіцца ўся тая «прыгажосць», «паэзія» з усім яе тонкім чадам кахання, віна і музыкі... Колькі яшчэ ўдараў вынесе яна, акрываўленая спіна народа? Калі ён загучыць інакш, гэты зняможаны голас: «Братцы, помилосердуйте!»? Яшчэ ўсё ноч, і ранак займаецца вельмі марудна, у халоднай імгле. Яшчэ смыляць анямелыя ад мазурак і вальсаў губы музыкаў прыгоннага аркестра; яшчэ не спіць, растрывожаная высокай паэзіяй, томная дзева і бродзіць па цёмных вуліцах закаханы ў яе рыцар у фраку... Яшчэ не застылі навек дзве голыя рукі, прывязаныя да ружжаў; яшчэ ўздымаюцца сотні і тысячы паднявольных рук, апускаючы шпіцрутэны на акрываўленую спіну...

Так, яшчэ ноч, і сыты палкоўнік рукой у беленькай пальчатцы б'е па твары салдата, які, парушаючы статут, недастаткова моцна ўдарыў свайго таварыша; яшчэ і таварыш гэты толькі паўтарае два словы дарэмнай просьбы; яшчэ і каваль, як сімвал класа, які рашуча ўмяшаецца потым у гэтую справу, толькі гаворыць: «О господи»,— і злосна хмурыцца...

Ды ўжо чуваць і ў гэты ранак туманны далёкія перакаты будучых залпаў народнай помсты, ужо няўмольная рука закаханага ў праўду генія благаслаўляе той час, калі на коўзкі мармур магнацкіх палацаў уніз галавой паляціць з вышыні сыты нашчадак ка̀та ў беленькіх пальчатках!..

Які зарад глыбокага — з самага дна народнай душы — пачуцця заключаны ў гэтым апавяданні! І ўсё гэта расказана так коратка і так проста, як мог расказаць толькі Леў Талстой, які, дарэчы, лічыў гэта сваё — па-нашаму, класічнае — апавяданне... незакончаным і яго збіраўся зрабіць па-свойму «проще, яснее и кратче».

Зусім няцяжка прывесці мноства прыкладаў гэтай здзіўляючай прастаты. Зусім дастаткова ўзяць любы раздзел з яго раманаў і аповесцей, любую з'яву п драмаў, любое апавяданне, каб там, як у кроплі расы, убачыць мора вялікай і вечнай паэзіі. У азарце абаронцы або ў захапленні закаханага можна бясконца знаходзіць яшчэ і яшчэ адзін вобраз, яшчэ і яшчэ адну дэ-

таль — пакуль не ўспомніш, што не адзін ты ім захапляешся, што аднаму табе не працытаваць дзесяткі тысяч несмяротных старонак.

Талстой — вялікі, можа, найвялікшы прыклад патрабавальнасці, прыклад добрасумленнасці ў працы пісьменніка.

Успомнім тыя, да немагчымасці пакрэмзаныя, рукапісы і карэктуры, над якімі з пашанай і хваляваннем схіляюцца свае і замежныя наведвальнікі талстоўскіх музеяў. Успомнім цэлыя тамы забракаваных варыянтаў, пад кожным з якіх ахвотна падпісаўся б не адзін з ранейшых і сучасных класікаў.

А ўсё ж бывае і сёння, калі заходзіць гутарка пра гэтую добрасумленнасць мастака, сёй-той з літаратараў ахвотна ківае на іншую акалічнасць — Талстой меў, бачыце, Ясную Паляну, чаму было не працаваць! Па простай логіцы — дайце маёнтачак нам, дык і мы, чаго добрага... Словам, таварыш не будзе тады спяшацца, не памчыць у рэдакцыю сяк-так дацягнуты напярэдадні першы варыянт, не будзе больш прыкрывацца ад крытыкі дзіравай плашч-палаткай аператыўнасці або нават і «грамадзянскага абавязку», не будзе спадзявацца на рэдактараў ды стылістаў, якім нярэдка яшчэ ў нас даводзіцца і абціраць, і мыць, і прачэсваць чужых неданоскаў — звыш меры, абавязку і зарплаты. Тварэц той самы не будзе больш думаць, што чытач, густ якога ў асноўным нядрэнна адвостраны на рускай, савецкай і сусветнай класіцы, даруе яму ўсе грахі за тое, што ён на старонках свайго «патрэбнага» ды «сучаснага» твора праводзіць падкормку азімых згодна з апошнімі парадамі газеты «Сельская гаспадарка» або назойліва гудзе над чытацкаю галавой яшчэ адною машынай, першы экземпляр якое толькі пазаўчора сышоў з канвеера...

Літаратурнаму юнцу, які ад горычы часовых нястач ці проста па наіўнасці дапамагае халтуршчыкам ныць ды хіхікаць у адрас вялікіх настаўнікаў, варта памятаць пры гэтым, што далёка не ўсё ў творчасці вырашае матэрыяльная забяспечанасць. Ёсць і ў наш час уладальнікі раскошных кватэр і дач, аўтамашын, стэнаграфістак і магнітафонаў — некаторыя з так званых вядучых пісьменнікаў, што і за белы хлеб адплачваюць сырой, павярхоўнай літаратурнай прадукцыяй, у якой

адсутнасць значнай думкі і сапраўднага пачуцця, адсутнасць або скажэнне жыццёвай праўды ніяк не кампенсуецца ні пропаведдзю агульнавядомых ісцін, ні ілюстрацыямі на хадовыя тэмы, ні наяўнасцю адносна прыстойнай формы...

Не нам, савецкім літаратарам, скардзіцца на матэрыяльныя ўмовы. Даючы нам нямала, народ-карміцель патрабуе аднаго — сумленнай працы. Хто ж не бачыць у ёй сапраўднага шчасця — таму не варта і прэтэндаваць на высокае званне пісьменніка.

Гаворачы ці думаючы пра таго, хто ўзняў гэтае званне на небывалую вышыню, успамінаюцца словы Луначарскага:

«Мастацкая талстоўская школа — абавязковая школа для кожнага пралетарскага пісьменніка, бо які ж ён пралетарскі пісьменнік, калі ў яго няма моцных перажыванняў,— тады не варта яму пісаць: чым жа ён будзе заражаць?.. Ён павінен быць сапраўдным мастаком, павінен ведаць сваё рамяство, аддацца гэтай справе з усёй любоўю, і ён павінен быць максімальна просты. Але гэта павінна быць не тая прастата, якая горш за зладзейства, якая заключаецца ў непісьменнасці, у заіканні, у няўменні валодаць мовай».

...Пра яго вельмі цяжка сказаць штосьці новае. Тым не менш гаварыць пра яго будуць яшчэ вельмі і вельмі многія, амаль няўяўна доўга, хочацца думаць — заўсёды.

Не намагаюся і я, вядома, сказаць пра Талстога штосьці новае, небывалае. Разам з усімі, хто любіць яго, мне проста хочацца пры нагодзе сказаць сардэчнае дзякуй Льву Мікалаевічу — па-чалавечы і па-пісьменніцку выказаць шчырую ўдзячнасць за цудоўны, натхняючы прыклад беззапаветнага служэння праўдзе жыцця, нястомнага служэння мудрай прастаце.

## ХОЦЬ БЫ САМЫМ МАЛЕНЬКІМ

Ёсць нешта незвычайнае і невыказнае ў тым хваляванні, з якім ты набліжаешся да помнікаў народнай славы — да месцаў, звязаных з найбольш вядомымі, найбольш любімымі імёнамі.

Калі я падыходзіў да белых вежаў яснапалянскіх варот, у душы маёй з кожным крокам расла тая гордая радасць, якую пранеслі сюдой многія тысячы, той неспакой захаплення і тая трывога, што нават Чэхава прымусілі павярнуць свае коні ад гэтых варот...

Так і здаецца табе, што вось ён, Талстой — вечна жывы, нястомны ў працы і цікавасці да людзей,— сустрэне цябе на гэтай цяністай алеі і іменна ў той час, калі анямеюць твае ногі і рука сама падымецца да шапкі, скажа:

— Добры дзень, малады чалавек! Што, і вы таксама пісьменнік?

І ты не зможаш вымавіць вельмі кароткае і вельмі адказнае слова «так», табе захочацца перакрэсліць усё, напісанае табой, усё перапісаць нанова, ад пачатку.

У ціхай, зялёнай засені старога парку, над спускам у яр — сціплы ўзгорачак пакрытай вечна свежым папаратнікам магілы, зверху засаджанай маленькімі белымі кветкамі — нібы засланай кавалкам кужэльнага палатна.

У славутым «пакоі пад скляпеннямі» — у пабеленым прахалодным сутарэнні, дзе столькі год яго пяро паскрыпвала на многіх сотнях геніяльных старонак,— чуваць ненадакучлівы голас экскурсавода і асцярожнае шорганне абутых у музейныя выступкі ног...

А табе ўсё здаецца, што вось ён, так добра вядомы, вывучаны па карцінах і фотаздымках, выйдзе з-за дрэў, з капелюшом у руцэ, апіраючыся на кій; што ён сядзіць за сталом у суседнім пакоі, дзе больш сонца, у новым сваім кабінеце...

Так устрывожана, з такім вось невыказным хваляваннем ты ціха ходзіш з пакоя ў пакой яго роднага дома, па раскошным яснапалянскім парку, дзе нястомныя рукі Талстога пасадзілі не адну бярозу, не адзін — ужо стогадовы — дуб, па лузе, дзе калісьці званіла пад бруском яго каса, ад сцюдзёнай студні-крыніцы, з якой ён часта браў ваду, да простай лаўкі з бярозавых жэрдак, на якой ён адпачываў на ўскраіне парку, каля поля, глядзеў, прыплюшчыўшы вочы, у зялёны гушчар і думаў над тым, што паспеў і чаго не паспеў нам сказаць...

Ты не адзін. Тут людна, відаць, заўсёды.

Каля ўвахода ў літаратурны музей, двухпавярховы

белы дом, у якім Леў Мікалаевіч вучыў сялянскіх дзяцей, пад дрэвамі на простым стале ляжыць — каторая ўжо? — аб'ёмістая кніга рэгістрацыі наведвальнікаў. Рэгістратар — ужо таксама не першы і не другі за трыццаць год існавання музея — нястомна заносіць у кнігу імёны і адрасы.

А ён бясконца плыве — паток гасцей з усіх куткоў краіны і з-за граніцы, людзей, у сэрцы якіх вялікае месца займае вечна жывы Талстой. Шахцёры і будаўнікі, калгасныя жнеі і агародніцы, настаўнікі і студэнты, сівабародыя вучоныя і маладыя загарэлыя салдаты, дзеці, якія ўжо самі чытаюць Талстога, і дзеці, якіх яшчэ чакае гэтае шчасце,— усе, па-святочнаму апранутыя і настроеныя, ідуць сюды, пакінуўшы за белымі вежамі варот свае «Пабеды» і аўтобусы, «Масквічы» і грузавікі з лаўкамі ў кузаве, свой бесклапотны смех і клопаты працоўных будняў.

Тут, у гэтым графскім маёнтку, што стаў адным з помнікаў нашай славы, адным са шматлікіх музеяў, кожнае крэсла ў якім і кожнае дрэва любоўна ахоўваюцца для пакаленняў,— у Яснай Паляне, асабліва выразна і моцна адчуваеш сувязь жывога з жывым, сувязь народа са сваёй гісторыяй, яго па-ленінску мудрую ўласцівасць — захоўваць тое, што павінна застацца, а тое, што аджыло, што назаўсёды адмецена з нашага шляху наперад,— паказаць у належным святле. У гэтым паказе амаль зусім няма нічога штучнага, прыцягнутага і выпукленага знарок: на фоне сучаснага мінулае свабодна выступае ў правільным размежаванні старога з новым, жывога з тым, што аджыло.

Вось, каля дома-музея, вядомае «дрэва бедных».

Пад гэты стары вяз, да графа, што стаў па душы мужыком, раннім ранкам штодня збіралася босая вёска. Папрасіць на кавалачак хлеба, хаця б для дзяцей, папрасіць заступіцца ад здзеку.

Паны, паненкі і панічы яшчэ спяць; ажылі толькі слугі, рыхтуючы для іх дастатак і ўтульнасць новага дня. Не спіць таксама стары, амужычаны барын, які сядзіць ужо за рабочым сталом у сваім сутарэнні, дзе каса і лапата ў кутку, сядзіць і разблытвае пытанні права на зямлю і мірнае шчасце для ўсіх...

А галодная вёска цярпліва чакае: яна прывыкла цярпець і чакаць.

І вось ён, стомлены волат, выходзіць, нарэшце, на парог. З агідай да сябе выслухоўвае іх скаргі і просьбы, якім няма і, здаецца, не будзе канца, якіх не могуць суняць, задаволіць ні словы мудраца, ні медзякі вялікага гуманіста, ні прашэнне на імя цара, якое за непісьменнага мужыка напіша рука самога генія.

Ён, яшчэ раз апынуўшыся над безданню балючых неразблытаных пытанняў, як ніхто адчуваючы гэтую чорную бездань, ён — самотны, адзін — застаецца на парозе роднага і так балюча, шчыра зненавідзенага дома. А яны, на хаду надзяваючы рваныя картузы, ідуць па алеі туды, за белыя вежы графскіх варот, дзе пачынаецца той самы жудасны акіян галечы і бяспраўя, якому, здаецца, няма ні граніцы, ні дна...

Сёння на «дрэве бедных» даўно маўчыць звон, які калісьці склікаў з далёкіх шпацыраў за сыты стол прадстаўнікоў той «нікчэмнай меншасці», што нават не ведала зместу агульнанароднага слова «голад».

Сёння пад вязам сядзяць на лаўцы і стаяць у духмянай засені вясёлыя юнакі і дзяўчаты. Гэта праўнукі тых, што хадзілі сюды басанож, з палыновай горыччу ў сэрцы: чыстыя, у акуратнай форме фабзайцы, сталявары і слесары ў адпрасаваных светлых касцюмах, маскоўскія студэнткі і калужскія калгасніцы, якіх па вопратцы цяжка адрозніць ад гараджанак. Юнакі і дзяўчаты спявалі і смяяліся ў дарозе, едучы сюды, будуць спяваць, смяяцца і шумна, усхвалявана дзяліцца ўражаннямі на зваротным шляху. Цяпер яны адносна ціха, паддаўшыся агульнаму настрою, адпачываюць у цяні або чакаюць сваёй чаргі на ўваход у музей і гавораць амаль паўшэптам...

Яны не прыйшлі сюды нічога прасіць — прыйшлі зблізку і прыехалі здалёк пакланіцца таму месцу, што называецца калыскай і магілай іх любімага пісьменніка. Яны маглі б расказаць яму многа аб тым, чаго ён так доўга шукаў у пакутах, чаго ён так шчыра жадаў ім, сынам і дочкам працоўнага народа, што нават для яго, Талстога, было неразгаданым і шмат у чым незразумелым, а для іх стала ясным, звычайным...

Яны прыйшлі сюды не як прасіцелі і нават не як госці, а як гаспадары ўсяго гэтага роднага багацця — з блакітным і светлавоблачным небам, ■ духмянай, залатой і зялёнай зямлёй!..

У былой графскай канюшні таксама, як і калісьці, вісяць хамуты, а жывыя экспанаты запаведніка хрупаюць свежае сена. На сцяне той старэнькай хаціны, дзе жыў калісьці графскі конюх, таксама, як усюды тут, вісіць мемарыяльная дошка...

Навокал — ясны, багаты фарбамі і гукамі жнівеньскі дзень, а ты да болю выразна ўяўляеш халодную і мокрую восеньскую ноч, калі праз кусты прабіраецца сівы, вымучаны жыццём дзядуля — гордасць рускай і сусветнай літаратуры,— дарэмна шукае шапку, якую згубіў у кустах, а потым да малога, цёмнага акенца конюхавай хаткі працягваецца рука, што напісала паўмільёна геніяльных старонак, і знямоглы ад болю голас просіць: «Адрыян, гэта я. Устань, Адрыян, вязі мяне адгэтуль прэч. Я не хачу памерці тут, у гэтым вар'яцкім доме...»

І вось па бруку каля канюшні асцярожна грукочуць колы, і паміж белых вежаў назаўсёды выязджае вазок з гаспадаром. У цёмную ноч, у беззваротны шлях, што абарваўся праз некалькі дзён.

Ён не дажыў толькі сем год да той — таксама кастрычніцкай — ночы, калі паўсталі мільёны такіх, як Адрыян, мільёны бяздольных карміцеляў і будаўнікоў, каб адразу і назаўсёды разблытаць вялікія пытанні права на зямлю і працоўнае шчасце.

Вакол старога графскага саду і парку шуміць калгасная збажына. На полі гамоняць камбайны. Чуюцца песні. У зелені садоў чырванеюць чарапічныя дахі новай Яснай Паляны — вёскі, з якой калісьці так многа мужыкоў і баб увайшло ў літаратуру як сведчанне бяды і цемры, якой неабходна было пазбыцца. Адным з дастойных помнікаў вялікаму асветніку працоўнага народа побач з вёскай і запаведнікам узвышаецца гмах дзесяцігодкі імя Л. М. Талстога. На былой Кіеўскай шашы, што стала цяпер аўтастрадай Масква — Сімферопаль, на той «вялікай дарозе», дзе Талстой сустракаўся з хадакамі і багамольцамі, што хадзілі па праўду да бога і цара, цяпер гудуць грузавікі з жалезам і хлебам, праходзяць поўныя шумлівай дзетвары аўтобусы.

А ў засені парку, на любімай лаўцы аўтара «Вайны і міру», сядзіць мужыцкі праўнук — праўнук су-

часнікаў Талстога,— чысты душой, шчаслівы і прагны да прыгажосці жыцця юнак-рабочы. Ён не змог дачакацца таго запаветнага моманту, калі апынецца за сталом свайго пакоя, ён застаўся адзін, разгарнуў тую кнігу, што сёння тут купіў, адну з тых кніг, што тут была напісана,— і вось ён перачытвае яе, ужо знаёмыя яму ды вечна свежыя, любімыя старонкі...

Усе тут паводзяць сябе вельмі стрымана, ціха. Нават і дзеці.

Каля драўлянага зрубіка студні, з якой «вазіў ваду Талстой», у густой засені, на багатай траве адпачываюць экскурсанты-піянеры. Побач з імі — той, што ўнушыў ім гэтую хвалюючую, незабыўную цішыню, той, што стаіць цяпер паміж імі і тым чалавекам, дому, магіле і студні якога яны прыйшлі пакланіцца. Стары серабрыстабароды настаўнік у белым парусінавым касцюме і белым картузе ляжыць паблізу ад зруба — як сам літаратурны бог з карціны Рэпіна «Талстой на адпачынку».

Калі я, прачытаўшы надпіс на дошцы над зрубікам студні, хацеў ісці далей, стары прыўстаў на локці:

— Малады чалавек! А вадзічкі напіцца? Ды што вы! Абавязкова! Вось вам і шкляначка.

Пакуль я з міжвольнай асцярожнасцю чэрпаў і піў-цягнуў сцюдзёную крынічную ваду, успомнілася і талстоўскае акрэсленне гамераўскага верша — вада, якая ломіць зубы,— успомніўся і той крынічна чысты акіян бяздоннай творчасці рускага генія, той родны акіян, да якога і я прыпаў — сыноўняе дзякуй табе, не вельмі ласкавая доля! — яшчэ на парозе юнацтва, той вечна свежы і невычарпальны акіян, на бераг якога часта прыходжу і, схіліўшыся, чэрпаю сёння.

— А на магіле былі ўжо, малады чалавек? Не пасля, а адразу! Ідзіце, схіліце сваю галаву!..

На тым месцы, дзе сорак тры гады таму назад у суровы лістападаўскі дзень тыя сотні людзей, што прасачыліся сюды праз паліцэйскі частакол, на каленях спявалі «вечную памяць»,— там, каля сціплай магілы я яшчэ раз адчуў, як гэта добра быць Чалавекам, не лішнім у той грамадзе, што робіць вялікую справу, як гэта добра быць літаратарам — хоць бы самым маленькім! — калі ў літаратуры ёсць Талстой.

*1953*

# КРЫТЫК ПАВІНЕН БЫЦЬ ДРУГАМ [1]

...Цяпер дазвольце, таварышы, сказаць пару слоў пра маю пазіцыю ў адносінах да крытыкі аповесці «На Быстранцы» і ў нейкай меры да крытыкі наогул.

Справа тут будзе не толькі асабістага характару.

Напісаўшы гэтую рэч, я даваў яе чытаць многім. Абмяркоўвалася яна ў рэдакцыі часопіса «Полымя», пасля — на секцыі прозы, і таварышы не дадуць мне салгаць, што я прасіў іх крытыкі, хваляваўся, хвалююся, чуючы слушную крытыку, і буду хвалявацца, дапрацоўваючы твор, бо ўсім нам, хто сумленна зарабляе свой пісьменніцкі хлеб, вядома, што напісаць аповесць крыху цяжэй, чым рэцэнзію.

Я не збіраюся адпрошвацца ад крытыкі, якую заслужыў, а таксама крывадушна каяцца ў тых памылках, якіх яшчэ не паспеў прадумаць і зразумець,— буду гаварыць пра тую крытыку, што правільна называецца павярхоўнай і аглабельнай.

Маю на ўвазе газетную рэцэнзію І. Агеева на маю аповесць, надрукаваную ў «Полымі» № 6 за гэты год.

У аповесці сваёй я хацеў перш за ўсё сказаць аб тым, як добра рашэнні вераснёўскага Пленума ЦК КПСС адказалі на спадзяванні народа, на веру народа ў мудрасць роднай партыі, і толькі з гэтых пазіцый я гаварыў пра тое, што, здаецца мне, было вартым крытыкі. Справа ўся ў тым, *наколькі гэта ўдалося мне*, а не ў тым,— як лічыць мой рэцэнзент,— *з якіх пазіцый я падыходжу да праўды жыцця.*

---

[1] З выступлення на трэцім з'ездзе СП БССР.

Праўда для ўсіх нас адна, праўда нашай Камуністычнай партыі. Я, калі б думаў інакш, не меў бы смеласці ўзысці на гэтую высокую трыбуну.

Аднак жа паважаны крытык, шчасліва выявіўшы маё *асабістае*, як здаецца яму, разуменне нашай адзінай праўды, тлумачыць гэта наступным чынам.

Цытую ўласны тэкст:

«Трэба гэтую праўду — непрыкрытую, жывую — падаваць наверх, каб ведалі».

Сказ гэты аказаўся для крытыка ключом, пры дапамозе якога ён расшыфраваў мяне і забіў трывогу.

Згодна з руска-беларускім слоўнікам, выдадзеным нядаўна Акадэміяй навук БССР, «падаваць наверх» у перакладзе на рускую мову азначае «подавать наружу», а ў перакладзе з мовы вобразнай на простую, паколькі ў аповесці гаворыцца канкрэтна, маладому журналісту,— пісаць праўду, каб яе чыталі. Толькі такое значэнне маюць словы «падаваць наверх, каб ведалі».

Рэцэнзента гэта, аднак, чамусьці насцярожвае. Беларускае слова *наверх* (наружу) пачынае здавацца яму словам угору (вверх), ён натхнёна надае яму значэнне нездаровага намёку на нашы вярхі, даволі туманна і баязліва прыпісвае мне кіданне «камешков в объекты несколько иного порядка». Алхімія, як бачыце, даволі тонкая. Зрабіўшы гэтае адкрыццё, нованароджаны пракурор ад літаратуры пачынае выварочваць «налицо отягчающие обстоятельства».

«Создается впечатление,— піша ён,— что имеется такая правда, о которой «не знали», о которой не принято было говорить публично, которая до сих пор не могла пробить себе дорогу ни в жизни, ни в литературе».

Пайшоўшы па такой дарожцы, крытыку няцяжка было, вядома, пераможна дабрацца і да вываду, што маім героям, якія пралівалі кроў за Савецкую ўладу, якія свята верылі і вераць у сваю Радзіму, у сваю партыю, што гэтым людзям, як сцвярджае крытык, «нет дела до того, что за четверть века колхозный строй превратился в могучую силу», што героям маім «нет дела» да таго, дзякуючы чаму савецкі народ перамог фашысцкую навалу.

Гэта «нет дела» лепшым людзям былой Заходняй Беларусі, якія на працягу ўсёй аповесці толькі і думалі

аб тым, каб падцягнуць свае калгасы да ўзроўню перадавых калгасаў краіны, тым людзям, якія дастойна ўдзельнічалі ў барацьбе з ворагамі!..

Дзе, над якім сталом «осенила» крытыка гэтая думка? Дзеля чаго яму спатрэбілася ашукваць грамадскасць, ачарніўшы ўсё ў аповесці, не знайшоўшы ў ёй ніводнага станоўчага чалавека, ніводнага патрыятычнага пачуцця?

Аб якіх «лукавых полунамеках», «хитроватом хохотке» и «камешках, бросаемых в объекты несколько иного порядка» гаворыць ён з безадказнасцю Мітрафанушкі, шукаючы падтэксту там, дзе яго няма?..

Дазвольце мне прывесці пару прыкладаў падтасоўкі цытат.

Інвалід Айчыннай вайны, добры савецкі чалавек, пытаецца ў настаўніка:

«Скажыце яшчэ, таварыш, чаму гэта нашаму брату, хто кроў праліваў за Савецкую ўладу, жывецца пакуль што не вельмі соладка».

На гэтым крытык абрывае аўтарскі тэкст, выкраіўшы з яго патрэбную для сябе цытату.

А ў аўтара інвалід гаворыць далей:

«Добры калгас, дык добра, а дрэнны — дык і дрэнна. А чаму не зрабіць так, каб усім было лепш».

Што гэта, як не шчырае жаданне, каб і адсталыя калгасы былі ўзняты на ўзровень перадавых?

Ды крытыку гэтага не хочацца бачыць — ён заказаў сабе рэцэнзію на іншы капыл.

Другі герой аповесці гаворыць:

«Я не выдумваю, я сам у горадзе жыў, не адзін раз чуў: «Ды што вы хочаце — гэта ж калгаснік...» Што ж гэта,— абураецца герой,— святое слова, карміцель, а яны яго ў кут».

«Кто они,— заключае крытык,— остается тайной автора».

А перад гэтым у аўтара гаварылася ясна, хто так адносіцца да калгасніка,— мешчанін, спекулянт, шкурнік. Калі ўжо таварыш Агееў пазбаўлены здольнасці непасрэдна бачыць перажыткі капіталізму ў свядомасці нашых людзей, дык няхай ён успомніць надрукаваны нядаўна ў «Правде» нарыс В. Авечкіна «Своими руками», у якім мешчанін і шкурнік аддае сакратару райкома свой партыйны білет, абы толькі не

ехаць на працу ў калгас. Чым прадыктаваны гэты ўчынак нягодніка, як не пагардай да калгаса, да калгаснікаў? Вось адзін з тых, каго я называю такім таямнічым для крытыка словам «они».

Нарэшце яшчэ адна, на жаль, не апошняя, падтасоўка.

Прыпісаўшы мне агульнае ахайванне беларускага літаратуразнаўства, Агееў падмацоўвае гэта сцверджанне ўжо нават не абрыўкам аўтарскага тэксту, а сваімі словамі.

«Заметим в скобках,— піша ён,— что только диссертация Максима Нагорного удостаивается хвалебного отзыва. Этот отзыв дает Анатоль».

У аўтара Анатоль дае гэты водгук наступным чынам:

«А я цябе, брат, даўно паставіў туды, дзе сур'ёзныя людзі стаяць. А працу тваю стаўлю побач з тымі сур'ёзнымі працамі па крытыцы, якія ўжо выйшлі і выйдуць».

Значыцца — ёсць у нас сур'ёзныя людзі і сур'ёзныя працы? Дзе ж тут тады ахайванне ўсяго і ўсіх?

Вось гэта дык ужо сапраўды застаецца таямніцай рэцэнзента!

Ён і сам адчувае, што не ўсё ў парадку з такім падыходам да аўтарскага тэксту, і таму спрабуе апраўдацца:

«Это не цитаты. Это атмосфера, в которой «действуют» герои повести, какие-то пришибленные жизнью люди... Только один из них жизнерадостен, да и тот спекулянт».

А крышку раней гэты самы крытык, ва ўступным паклоне перад аўтарам, «касаясь пола перьями своей шляпы», сюсюкае:

«Его звенящие строки легко складываются в песню любви, *радости жизни*. С величайшим интересом следит читатель за игрой пышного расцвета юношеских сердец».

Словом — «какие перышки, какой носок», пасля чаго ідзе сцверджанне полюсна супроцьлеглае, што ў творы... адзін толькі жыццярадасны чалавек, ды і той спекулянт.

Такою крытыкай і сапраўды няцяжка сапсаваць любую атмасферу.

Добра ці дрэнна, але я шчыра, з болем у сэрцы, а не «со скрежетом зубовным», як здаецца майму крытыку з яго ўяўнай вышкі, гавары́ў пра недахопы ў нашым калгасным жыцці, у нашай літаратуры і літаратуразнаўстве. Партыя нас заклікае да гэтага, і мы павінны гаварыць пра гэта.

Калі ж таварыш І. Агееў, зноў выступаючы супроць шчырага слова, захоча яшчэ раз прыпісаць камусьці п савецкіх літаратараў філасофію Сабакевіча, калі яму захочацца сказаць што-небудзь пра пракурора, «які таксама свіння», дык я такому крытыку раю крыху падумаць і зблізку паглядзецца ў люстэрка.

Прашу, таварышы, прабачэння за тое, што я так доўга скланяў тут адно імя. Я гавару ўсё гэта не таму, што мне было вельмі шкада самога сябе, а таму, што мне, савецкаму пісьменніку, балюча было чытаць такую, з дазволу сказаць, крытыку на старонках паважанай усімі намі газеты.

Хочацца выказаць законнае пажаданне, што рэцэнзіі, каб яны карысталіся сапраўдным аўтарытэтам, трэба даручаць крытыкам сапраўды кваліфікаваным і да канца прынцыповым, сумленным.

У гэтыя ўрачыстыя для нас, літаратараў, дні мы параўнаўча многа гаворым пра крытыкаў. І гэта не таму, што мы — прадстаўнікі іншых жанраў — папярэдне згаварыліся падвергнуць іх публічнай экзекуцыі за ўсе крыўды, якія яны нам зрабілі ці яшчэ збіраюцца ўчыніць. Справа тут не ў асабістых крыўдах ці прэтэнзіях,— справа ў росце нашай літаратуры.

Крытыкам адведзена пачэсная роля настаўнікаў, дарадчыкаў, прапагандыстаў добрага і знішчальнікаў усякай гнілі.

Яны, па сутнасці,— нашы вялікія сябры, хай толькі будуць такімі.

Калі ты думаеш пра тое, каб я прынёс найбольш карысці народу, калі ты дапамагаеш мне ў гэтай адказнай працы — ты мой найлепшы таварыш і друг. І ты павінен думаць, што я хачу цябе паважаць, што я хачу прыйсці да цябе ў хвіліну творчай радасці ці творчай няўдачы, каб падзяліцца з табой маім шчасцем ці горыччу, папрасіць дапамогі, парады. Калі мне цяжка, дык хай жа мне будзе лягчэй з табою. Я працую, дык і ты працуй, я вучуся, дык і ты вучыся, я хаджу, ез-

джу, вывучаю жыццё, дык патурбуйся ж і ты, калі ласка,— пайдзі, паедзь, паглядзі...

У Горкага ёсць пра вашага брата едкія словы, якія ты павінен памятаць. Прашу прабачэння, што працытую іх па памяці:

«Рецензент — это молодой человек, который поучает другого молодого человека, хотя он сам менее его умен и талантлив».

Калі ты такі рэцэнзент, такі крытык, калі табе толькі для хлёсткага слова хочацца ўшчыпнуць мяне або падставіць ножку і пахіхікаць, калі я скрыўлюся ад болю або спатыкнуся,— дык табе нават і грош не цана, і не блытайся ты, калі ласка, ля ног!..

За нашу дружбу, за нашу вучобу, за нашу агульную справу павінны мы змагацца разам, і толькі дзеля гэтага павінны мы карміць адзін аднаго горкай праўдай.

*1954*

# ВЕЧНА ЖЫВЫ

Адам Міцкевіч увайшоў у маё жыццё вельмі даўно, яшчэ са старонак польскай чытанкі для трэцяга класа пачатковай, так званай «паўшэхнай» школы.

Адну з яго ранніх балад, «Вяртанне бацькі», вывучаную на пашы, ведаю і дагэтуль на памяць.

«Пана Тадэвуша» чытаў тады, калі далёка не ўсё мог разумець, аднак жа многае, відаць асноўнае, з таго часу засела ў душы.

Такая ўжо сіла яго цудоўнай прастаты і вобразнасці.

Магчыма, дапамагала тут і зямляцтва. Мне было дванаццаць год, калі мы, беларускія хлапчукі і дзяўчаткі, усёй школай ішлі па Навагрaдчыне «шляхам Міцкевіча», начавалі ў дубовым Плужынскім лесе над сіняй Свіцяззю, а яшчэ праз два гады — прыносілі зямлю з тых палосак, што кармілі нас хлебам, на «Курган неўміручасці» ў Навагрудку — трыццаць пяць кіламетраў ад вёскі, дзе вучыліся.

Увосені трыццаць чацвёртага года, калі я быў ужо, як казалі старыя, сталым работнікам у гаспадарцы, а вечарамі-начамі многа чытаў і ўпотай упарта «вучыўся хадзіць» у літаратуры — ляпіў вершы і першыя апавяданні, давялося яшчэ раз, ужо грунтоўным чынам, перачытаць Міцкевіча ўсяго.

Захапленне ўжо не магло быць пасіўным — пачаў перакладаць, то ў хаце, то ў полі, перажываючы асалоду і боль няроўнай барацьбы з яго суровым і мужным, здрадліва простым радком.

Важней за ўсё было, вядома, тое, што ён усё больш ды больш рабіўся маім, навечна родным, як Пушкін і Лермантаў, як Купала і Колас...

Сёлета мы, кажучы мовай кіно, глядзім Міцкевіча буйным планам. Праз сто гадоў пасля смерці гаворым пра несмяротнасць яго — голасам многіх мільёнаў.

У гэтым магутным страі і я з хваляваннем маладога салдата трымаю крок і раўненне, і ні разу мне не здалося, што займаюся не сваёй, не вялікай справай, калі і я — па жанру празаік — разам з сябрамі-паэтамі працаваў над падрыхтоўкай да друку выбраных твораў геніяльнага сына польскага народа ў перакладзе на беларускую мову.

Родны для ўсіх, хто любіць жыццё, хто любіць мір і культуру, Адам Міцкевіч неаддзельны ад свайго народа, ад сваёй радзімы.

На працягу двух тыдняў нядаўняга прабывання за Бугам мне, удзельніку Дзён беларускай культуры ў Польскай Народнай Рэспубліцы, нельга было не думаць пра Міцкевіча.

Не толькі каля яго саркафага на старадаўнім Вавелі, але і на канвееры Гданьскай суднаверфі, на палях, што ўжо не панскія, і за дратамі былога Асвенціма, на новабудоўлях Варшавы і каля помнікаў савецка-польскай воінскай славы...

Усюды горды дух яго — дух змагара і прарока — палымнеў у сонцы нашых дзён, як велічны сцяг нашай дружбы.

Сёння, калі мы са шчырым сэрцам і непакрытай галавой ушаноўваем чалавечнасць яшчэ аднаго з геніяльных сыноў чалавецтва, вобраз яго блізкі, родны для нас, беларусаў, неяк па-асабліваму,— як блізкая і родная для нас зямля, палітая потам і крывёю змагароў за сённяшні светлы дзень, зямля, на якой нарадзіўся і ён, па якой ён з сыноўнім болем тужыў на чужыне, прыгажосць якое ён непаўторна апяваў, шчасную долю якое натхнёна прадбачыў.

Вечна жывы, вечна ў імкненні наперад, да перамогі дабра — Міцкевіч заўсёды з намі.

*1955*

# СЛОВА ПРА ДРУЖБУ

## ...З КНІГАЙ

У пачэснай, але і нялёгкай працы пісьменніка ёсць моманты, калі ты або адчуваеш заслужаную радасць, узнагароду за цяжкасці і творчыя хваляванні, або заслужаны сорам — як за тое, што ты павінен быў зрабіць і не зрабіў, так і за тое, што ты зрабіў недастаткова добра ці наогул дрэнна.

Я маю на ўвазе сустрэчы з чытачамі, якія з'яўляюцца своеасаблівай, можа, нават найлепшай праверкай тых мастацкіх вартасцей, ствараць якія і памнажаць пісьменнікі заклікаваны народам, партыяй.

Цікава і нялёгка сустракацца з юным чытачом. Ці выступаеш у мінскім Палацы піянераў, ці ў вясковай школе самага далёкага раёна — хвалюешся, трэба сказаць, аднолькава.

Дзеці — гэта такі чытач, якога абы-чым не падкупіш.

Калі ты ўзышоў на трыбуну з кнігай ці з новым рукапісам, і дзесяткі, сотні вачэй дапытліва, шчыра глядзяць на цябе — ад першых радоў, дзе сядзяць школьнікі наймалодшыя, і да апошніх, дзе размясціліся вучні старэйшых класаў,— будзь асцярожным і пільным. Праўда, часцей за ўсё праз меру ўдзячныя чытачы ўзнагароджваюць пісьменніка апладысментамі і кветкамі. Але бывае і так, што на словы яго малышы адказваюць няўважлівасцю, абыякавасцю, гэта — найпершае сведчанне, што твор твой нецікавы. Старэйшыя школьнікі перадаюць у прэзідыум запіскі, у якіх бываюць пытанні да аўтара і ацэнкі яго твораў, пытанні і ацэнкі, па непасрэднасці сваёй часам настолькі моцныя, што даходзяць яны да пісьменніка лепш, чым словы некаторых крытыкаў-прафесіяналаў.



З польскім сябрам, пісьменнікам Мацеем Юзафам Канановічам каля хаты яго сваякоў на Гродзеншчыне. *1970 г.*



У дні V з'езда пісьменнікаў СССР.
*Справа налева:* Іван Мележ, Янка Брыль, Эдуардас Межалайціс.
*Масква, 1971 г.*

Літаратары, якім даводзіцца часта выступаць у школах, добра ведаюць, што і за тую цеплыню, з якой сустракаюць іх удзячныя чытачы, і за тую крытыку, якая бывае часам у выказваннях і запісках старэйшых вучняў,— за ўсё гэта яны павінны быць удзячны не толькі вучням, але і настаўнікам.

Настаўнікі, якія прывіваюць вучням любоў да мастацкага слова,— актыўныя ўдзельнікі ўсенароднай справы развіцця літаратуры, вялікія сябры пісьменнікаў.

Усе сустрэчы вучняў з літаратарамі і — асабліва цікавыя — канферэнцыі па той ці іншай новай кнізе, якія практыкуюцца ў многіх школах нашай рэспублікі,— гэта вынікі добрай працы настаўнікаў, выкладчыкаў літаратуры, разумеецца, таксама і дырэкцыі школы, якая ідзе насустрач такім карысным пачынанням.

Я назваў вучнёўскія канферэнцыі па творах цікавымі для пісьменнікаў. Трэба дадаць, што яны і карысныя.

З усіх апошніх сустрэч з чытачамі мне асабліва запомнілася абмеркаванне маёй аповесці «У Забалоцці днее», што адбылося сёлета зімой у Валеўскай сярэдняй школе Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці. Яно дало мне не менш, чым выказванні чытачоў сталых, скажам, студэнтаў філалагічнага факультэта БДУ або рабочых Мінскага аўтамабільнага завода.

Выступаючы сёння на старонках «Настаўніцкай газеты» са шчырым словам прывітання да ўсіх настаўнікаў Беларусі, мне хочацца ад імя маіх сяброў і ад свайго асабіста выказаць шчырую падзяку тым настаўнікам і вучням, што гасцінна прымалі нас, пісьменнікаў, у сваіх школах, а таксама і выказаць пажаданне, каб сустрэчы такія наладжваліся часцей, асабліва канферэнцыі чытачоў, дзе былі б не толькі апладысменты і кветкі, але і дзелавая крытыка, якая даражэй за ўсё.

Не трэба думаць, таварышы настаўнікі, што крытыка з вуснаў вашых выхаванцаў, якой вы дапаможаце сваімі парадамі, якой вы зможаце прыдаць свабоднае, шчырае гучанне, можа зменшыць цеплыню вашай гасціннасці, можа быць непрыемнай для гасцей.

Якраз не. Калі вы забяспечыце нам такую крытыку, мы будзем часцей наведваць вашы школы, бо ісці

ці ехаць, часамі за сотні кіламетраў, яшчэ ў адну школу, каб пачуць парадныя словы і воплескі, значна менш цікава, чым накіроўвацца туды з упэўненасцю, што ты пачуеш разумнае, шчырае слова крытыкі, добрай сяброўскай парады.

Хочацца пажадаць, каб вы прывівалі сваім выхаванцам любоў да сапраўды мастацкага слова, развівалі смеласць да крытыкі. Трэба не скоўваць волі школьнікаў умоўнай ветлівасцю да гасцей і тымі напісанымі (часамі нават рукой настаўніка) і завучанымі словамі, з якімі на сустрэчах часта выступаюць вучні. Няхай яны самі гавораць тое, што думаюць, верачы свайму густу, а за гэты густ адказваеце вы, настаўнікі.

Вельмі часта і вельмі законна школьнікі звяртаюцца да пісьменнікаў з патрабаваннем ствараць новыя, патрэбныя і цікавыя кнігі. Кніг такіх у нас, на жаль, вельмі мала, і мы, літаратары, нясём за гэта адказнасць перад чытачом. Вы можаце і павінны дапамагчы нам у стварэнні такіх кніг. Адной з форм вашай дапамогі і з'яўляюцца іменна канферэнцыі па кнігах ужо напісаных, пры абмеркаванні якіх вучні часта выказваюць і павінны выказваць яшчэ больш дзелавых парад пісьменніку і патрабаванняў да яго і ўсёй літаратурнай грамадскасці.

Няхай жа будзе больш вашай ініцыятывы ў гэтай вялікай справе, няхай наша дружба і супрацоўніцтва будуць больш дзелавымі і плённымі!

*1954*

## ...З ПРЫРОДАЙ

Мне хочацца пагаварыць з вамі, дарагія юныя сябры, пра адну бясконца цікавую кнігу, якую мы чытаем праз ўсё жыццё, ніяк не могучы начытацца, нацешыцца яе прыгажосцю, разгадаць таямніцу яе прывабнасці.

Назва кнігі добра вядомая вам. Кніга падзелена на чатыры вялікія тамы, а кожны том падзелены на тры часткі.

Цяпер мы з вамі чытаем другую частку другога тома з прыгожаю назвай — Ліпень.

Чароўны ліпень! Як толькі пачую гэтае слова, у памяці ўстаюць малюнкі перажытага ў такую пару.

Адно было даўно, калі я басаногім вясковым хлопчыкам ехаў упершыню на возе духмянага сена і лічыў, што няма на свеце нікога, хто сядзеў бы гэтак жа высока і хто быў бы шчаслівы, як я. Праўда, было і страшна, але не вельмі,— побач сядзеў бацька, рука якога здавалася самай надзейнай падтрымкай.

Другое было нядаўна. Я плыў на імклівым кацеры ўздоўж марскога берага і ўсё глядзеў на зялёныя горы, вяршыні якіх ахутвала імгла, падобная на дым. За гэтым дымам-імглой былі недзе яшчэ вышэйшыя, ужо снегавыя вяршыні. І я глядзеў туды, прагны пазнаць іх, убачыць, шчаслівы ад думкі, што вось і я, нарэшце, на Каўказе. Пасля я сядзеў над абрывам адной з зялёных узбярэжных вяршыняў, у прахалоднай засені магутных букаў, глядзеў як зачараваны на зямлю ў зеляніне садоў і золаце даспелага збожжа, на мора з белай каймою пены ля берага і з далеглядам, што губляўся ў сіняй смузе...

Успамінаецца адно за адным. Многа незабыўных старонак, малюнкаў прыроды, сустрэч звязана ў мяне, як і ў кожнага з вас, з цудоўным ліпенем.

Да ліку самых цікавых, самых радасных сустрэч належаць летнія, ліпеньскія сустрэчы з вамі, сябры, калі вы не ў школе, не ў Палацы піянераў, а на ўлонні прыроды — у піянерскім лагеры.

Успамінаю возера Свіцязь каля Навагрудка, ласкавую празрыстую ваду, каля берага пасыпаную ліпавым цветам, чародкі паласатых, нібы празрыстых акунёў, калі яны гуляюць на мелізне, светла-зялёнае трысцё і дрэвы — ліпы, клёны, дубы...

Успамінаю Бярозу, у ляску над якою ўсю ноч гарэла наша рыбацкае вогнішча. А на світанні мы, ідучы да ракі, пракладалі на росным лузе першую сцежку...

Успамінаю «беларускае мора» — цудоўнае возера Нарач, спакойны, велічны Сож, быстры Нёман і ціхія рэчкі, якіх я нямала бачыў, вандруючы па роднай краіне....

І з усіх гэтых успамінаў зноў ідзе да мяне, зноў кранае за сэрца цудоўны голас піянерскага горна.

Я чуў яго не раз над рэкамі і азёрамі Беларусі; чуў зблізку, калі начаваў над Свіцяззю, побач з ла-

герам баранавіцкіх піянераў, чуў і здалёк, з-за Бярозы, дзе ў сасновым лесе схаваўся лагер дзяцей, якія прыехалі сюды з Бабруйска. І ўсюды ён хваляваў, той голас, усюды навяваў харошы роздум над жыццём. Я думаў пра ваша шчасце, пра ваша маленства.

Перад вамі раскрыта цудоўная кніга — прырода роднай Савецкай краіны. Чытайце гэтую кнігу, смела заглыбляйцеся ў яе таямніцы, бярыце шчодрую матчыну ласку яе ад промняў сонца, ад плёскату празрыстых хваляў, ад сасновага шуму і духмянасці спелага збожжа.

Няхай будзе светлым і радасным ваш адпачынак.

*1955*

## ...З ПРАЦАЙ

З маленства мне запомнілася адно невялічкае, просценькае апавяданне са школьнага падручніка.

Дзяўчынка Насця не захацела ўранні есці заціркі, назвала яе нясмачнай. А потым, папрацаваўшы з дзядулем у садзе, з'ела яна тую самую страву са смакам, палічыўшы нават, што мама паставіла ёй нешта іншае...

Апавяданніца гэтае запомнілася, відаць, таму, што яно ўспрынялося ў той час не як назойлівае, прыкрае павучанне, а як вясёлае, мудрае сцверджанне той асноўнай жыццёвай праўды, якая перадавалася мне ўсімі, у каго я вучыўся жыць, усім, што я бачыў навокал.

Многа і весела працаваў самы любімы і самы аўтарытэтны для мяне чалавек — мая маці. Працавалі старэйшыя браты. Працавалі ўсе людзі ў нашай вёсцы, ад найстарэйшага дзеда, які плёў кошык пад паветкай, да наймейшага з маіх аднагодкаў, што рана-ранënька гнаў на пасту карову.

Працавала навокал уся прырода: ад пчалы, што звінела на кветцы, і мурашкі, якая на дзіва мне валакла ўдвая-ўтрая большы за яе самую цяжар, ад нястомнага шчабетуна і рабацягі-шпака, якому я па-сяброўску змайстраваў, абіваючы пальцы, шпакоўню, да нашай кабылы, якая і вазы вазіла, і цягала плуг, і

трухала пада мною рыссю, і якой я з асаблівай прыемнасцю дасыпаў употай лішнюю жменьку аўса. Працаваў і вецер, які сушыў людзям сена, і дождж, што паліваў іх жыта і капусту, і сонца, якое наогул робіць больш за ўсіх...

З усёй гэтай працоўнай атмасферы я вынес адну — найбольшую, найважнейшую ісціну: працай трэба ганарыцца, працу трэба любіць.

У маленстве я ведаў гэтую ісціну падсвядома. Цяпер, узбагачаны вопытам, і я, следам за мільёнамі іншых людзей, радасна сцвярджаю, што той чалавек, які не любіць працы,— не ведае сапраўднага смаку жыцця.

У нас, савецкіх людзей, праца лічыцца справай гонару, доблесці і геройства. Нашай натхнёнай, напорыстай працай створана ўсё, чым мы багатыя і слаўныя,— усё, ад будынка вашай школы да штучнага спадарожніка Зямлі і ракеты, спадарожніцы Сонца, ад вашай любімай кнігі да неабдымнай велічы ўсіх тых народных багаццяў, якімі ганарыцца наша неабсяжная краіна.

Чытаючы гэтыя словы, вы, дарагія сябры, успомніце, бясспрэчна, і тых вашых знаёмых, што не вельмі закаханыя ў працу; і такіх, што больш, чым самастойную працу над урокамі, паважаюць спісванне і падказванне; і такіх, каму мама або цёця ледзь не да самага атэстата сталасці прасуюць стужкі і заплятаюць косы; і такіх, якія, зачмурыўшы свае і так не багатыя мазгі папяроскай ці чарачкай, не толькі ахвотна становяцца бессаромнымі нахлебнікамі і агіднымі лайдакамі, але яшчэ і фанабэрацца гэтым, як дзікуны...

Што ж, ёсць у нас і такія.

Вы бачыце іх штодня сярод сваіх сяброў па школе, сваіх аднавяскоўцаў, суседзяў па дому, па вуліцы, сваіх знаёмых і незнаёмых,— малых, падлеткаў і дарослых.

Пагарджайце такімі — яны вартыя жалю і асмяяння! Не паддавайцеся іх прыкладу, які бывае часамі, асабліва спачатку, зманліва салодкім і прыліплівым, як зараза. Ведайце, што ў цяжкасцях працы, у змаганні за перамогу — найбольшае шчасце, даступнае чалавеку.

Зрэшты, вы ў гэтым сэнсе многа ведаеце і самі.

Вы любіце залатыя, нястомныя і ласкавыя рукі вашых мам, вы ганарыцеся працай, дасягненнямі, заслужанай славай вашых бацькоў, разумнай працавітасцю вашых настаўнікаў. Вы хочаце быць такімі, як любімыя героі тых шматлікіх кніг, якія вы чыталі з захапленнем.

Пішучы гэта, я ўспомніў наступныя словы аднаго з найбольш любімых вамі пісьменнікаў:

«Вакол мяне ходзяць моцныя, як валы, людзі, але з халоднай кроўю, сонныя, абыякавыя, нудныя і размагнічаныя. Ад іхняй гутаркі патыхае цвіллю, і я іх ненавіджу, не магу зразумець, як здаровы чалавек можа сумаваць у такі напружаны час».

Іх — разумныя, страсныя словы — варта запісаць сабе ў дзённік. Яны гучаць асабліва моцна і прыгожа ў спалучэнні з абаяльным вобразам іх аўтара — Мікалая Астроўскага, чалавека, які і ў цяжкіх пакутах застаўся для многіх выдатным прыкладам працоўнага гераізму, пісьменніцкі подзвіг якога прыдбаў для нашай Радзімы тысячы шчырых сяброў.

Нямала ёсць кніг, якія вы палюбілі і яшчэ палюбіце, нямала ёсць і будзе людзей, жыццёвы шлях якіх кране ваша сэрца сваёй высакароднай прыгажосцю.

Вучыцеся ў іх, дарагія сябры, пазнавайце жыццё ва ўсёй яго красе! Любіце працу — у ёй найбольшы смак жыцця!

*1959*

# ПАМЯЦІ ВАЛЯНЦІНА ТАЎЛАЯ

Яго жыццёвы шлях быў кароткі, складаны, насычаны. Званне паэта-рэвалюцыянера, вядомасць аднаго з лепшых работнікаў падполля каштавалі яму вельмі дорага. Катаванні ў засценках дэфензівы, этапныя шляхі, турмы, пасля, у дні вайны, нялёгкая работа партызанскага сувязнога... Калі ж прыйшоў нарэшце час пажыць, папрацаваць, яго — на трыццаць трэцім годзе жыцця — аблажыла хвароба.

Лёгка сказаць — ён паміраў шэсць месяцаў; ён ведаў пра гэта, а ўсё ж заставаўся самім сабою: цярплівы, спакойны, мілы. Адзіная дачка не паспела ўсцешыць яго сваім першым словам. Першая кніга не прыйшла да яго ў бальніцу нават у выглядзе карэктуры. А ён жартаваў, смеючыся па-свойму ціха і смачна, з таго, як мы з ім будзем хадзіць некалі «ў чыне цесцяў», гаварыў мне:

— Нічога, не бойся, мы яшчэ папрацуем, яшчэ не раз пацешым адзін аднаго чым-небудзь новым, цікавым...

І цяжка было пазнаць, колькі яму каштуе гэты няштучны аптымізм.

Пачаў ён рана. На дванаццатым годзе жыцця хлопец быў выключаны з панскай школы за першае праяўленне нацыянальнай самасвядомасці. Першыя на дзіва сталыя вершы яго датаваны 1928 годам, калі паэту было чатырнаццаць. Праз год ён быў арыштаваны за падпольную камсамольскую дзейнасць.

Пра пачатак яго рэвалюцыйнага шляху красамоўна расказвае фотаздымак, знойдзены пасля вызвалення Заходняй Беларусі ў архівах слонімскай дэфензівы.

Звычайны ў той час здымак скатаванага падпольшчыка з вядомай дошкай на грудзях.

Здымка гэтага сам паэт не бачыў, інакш — у спадчыне яго, магчыма, быў бы яшчэ адзін верш, па-таўлаеўску авеяны роздумам над мінулым, асветлены мужнай усмешкай чалавека, які пасталеў заўчасна.

Мне давялося быць першым чытачом і крытыкам некаторых апошніх вершаў Валянціна, у пэўнай меры прысутнічаць пры іх нараджэнні.

Адзін з такіх вершаў — «Лістоўка» — прыпомніўся мне, калі я ўпершыню зірнуў на знойдзены здымак.

> ...Стыль да болю знаёмы:
>     любіў я калісьці і сам
> гэткім чынам расхістваць
>     асновы варожага свету.
> Прызнавайся, лістоўка,—
>     ці часам не я напісаў
> і цябе ад імя
>     забастовачнага камітэта?..

Нават не ўвесь верш, а іменна гэтыя словы ўспыхнулі ў памяці, калі я міжвольна ўявіў іх аўтара схіленым над сваім непаўторным партрэтам — з жывой усмешкай, з жывым пытаннем у вачах: «Прызнавайся, дзе ты быў, дзе ты так доўга вылежваўся ў архівах?..»

«Стыль да болю знаёмы...»

А нам да болю знаёмы гэты твар, такі дзяціны яшчэ, такі падобны да тварыка яго дачкі, цяпер ужо вучаніцы чацвёртага класа. Яркі ўспамін, вострае пачуццё жалю і захаплення зайграла двума сваімі полюсамі: з аднаго боку — звонкі смех яго дзесяцігадовай Галінкі, і смехам вельмі падобнай да бацькі, з другога — дошка на грудзях скатаванага рэвалюцыянера, «ганебная» дошка, якой можна ганарыцца і якой, як баявымі ордэнамі, ганарыліся і ганарацца многія паплечнікі паэта па барацьбе.

На дошцы — дата баявога хрышчэння: 29 жніўня 1929 года. Выходзячы на барацьбу з польскім фашызмам, камсамолец Таўлай быў маладзейшым за краснадонскіх маладагвардзейцаў. З дзесяці гадоў гэтай барацьбы каля сямі прайшло за кратамі — амаль уся маладосць.

Дапераснёўская біяграфія паэта — красамоўная

ілюстрацыя лёсу перадавой заходнебеларускай моладзі. Барацьба за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне з-пад прыгнёту пілсудчыны, за ўз'яднанне з Савецкай радзімай, самаадданая барацьба была і зместам яго жыцця, і запаветнай тэмай творчасці. Усюды, на кожным этапе гэтай барацьбы, верным спадарожнікам змагара было паэтычнае слова. Верш яго быў перш за ўсё зброяй. Таму ён амаль усюды па-салдацку суровы, з рэдкімі пераходамі да задушэўнай цеплыні.

У творчай спадчыне Таўлая, толькі колькасна невялікай, ёсць нешта накшталт дакументальнай аповесці — «Аб сабе», напісанай скупой і вобразнай мовай. На жаль, нататкі гэтыя ахопліваюць толькі маленства паэта. Ні ім самім, ні сябрамі яго, паплечнікамі па змаганню, не напісана амаль нічога пра маладосць Валянціна — пра тыя гады падпольнай працы і нечалавечых пакут у санацыйных турмах, калі гэты вельмі ж неяк па-беларуску ціхі, лагодны юнак умеў быць сапраўдным байцом рэвалюцыі, калі гэты сціплы і не па гадах сталы таварыш «пілаваў вершам краты», ствараў першакласныя ўзоры паэзіі.

Пасля вызвалення, азіраючыся на сваю маладосць, на «знаёмыя шляхі», якія «затанулі ўдалеч», ён пісаў:

> Пры юнацтве, што здалёк звініць,
> і арлы садзіліся ахвоча,
> часам,— каб да лёту заманіць,
> часам,— каб выдзёўбваць вочы.
> Але мы, ўлюбіўшыся насмерць
> у шляхі, пракладзеныя ў заўтра,
> навучылі песню разумець,
> што ў змаганні і загінуць варта.

Пакаленне, разам з якім паэт быў насмерць улюбёны ў светлую будучыню Радзімы, аддало сваю маладосць справе народа, справе камуністычнай партыі. Маладая гвардыя даверасьнёўскіх год змагання за сённяшні светлы дзень заходніх абласцей Беларусі — чакае свайго гісторыка і мастака.

Ёсць у Максіма Танка верш, дзе паэт расказвае, як да яго — у тыя змрочныя даверасьнёўскія дні, калі «гадамі не ўставала сонца»,— прыйшоў звольнены з лукішскага астрога таварыш і прынёс зашытыя ва ўбогай вопратцы вершы Таўлая.

I мы іх перапісвалі ўсю ноч.
Калі ж прыйшоў пад вокны ранак хмарны,
У непагоду, у асенні дождж
Аднеслі іх ў падпольную друкарню.

Напрадвесні сорак чацвёртага года ў партызанскую друкарню, што працавала пры штабе Стаўбцоўскага міжрайцэнтра, на поўдні Налібоцкай пушчы, адзін з разведчыкаў Асоба-казацкага атрада прывёз вершы невядомага паэта, засакрэчанага па ўсёй строгасці баявых законаў. Мы, супрацоўнікі рэдакцыі сатырычнай газеты «Партызанскае жыгала», не дапытваліся, вядома, пра аўтара, а далі яго вершам «зялёную вуліцу». За першай ластаўкай — паляцелі другія. І толькі ў канцы года, пазнаёміўшыся з Таўлаем ужо ў вызваленым Мінску, я даведаўся, што ён — той наш засакрэчаны супрацоўнік, вершамі якога захапляліся і наборшчыкі, і мінёры.

...У памяці яшчэ стаіць, як учарашні, дажджлівы поўдзень, калі мы, сябры Валянціна, у горкай жалобе схіляліся над заўчаснай магілай.

А ўсё ж не верыцца, што ён... ужо даўно не з намі...

Не, не так!

У памяці маёй яшчэ стаіць, нібы жывы, ціхі і звонкі вясновы досвітак, калі я апошні раз вяртаўся з бальніцы дахаты, на ўскраінную вуліцу зруйнаванага Мінска, глядзеў праз слёзы на зару і аднаму яму гаварыў тое, што праз дзень... так і не змог да канца паўтарыць над труною.

«Сёння яшчэ не так... А вось пройдзе некалькі дзён, і мы, твае маладыя сябры, сыдземся недзе ўдвух ці ўтрох, загаворым пра нашу найдаражэйшую справу і адразу адчуем, што нам не хапае яшчэ аднаго. Кожнаму з нас, хто па-сапраўднаму ведаў цябе, у лепшыя хвіліны адзіноты, у лепшыя хвіліны творчай працы часта будзе прыходзіць на думку той, хто так моцна любіў жыццё і людзей, хто ўмеў падаць на агульны стол палкае і горкае часамі слова праўды, хто мог не аднаго з нас павучыць, як трэба паважаць чытача...»

Такім ён з намі застаўся.

Таўлай, па сутнасці, толькі пачаў. Ён не паспеў зрабіць і невялікай часткі з таго, што хацеў і што мог. Побач з паэмамі і вершамі, над якімі ён думаў, у планах Валянціна вельмі пачэснае месца было адведзена

і прозе. Ён любіў хораша марыць, але амаль зусім не ўмеў хваліцца. Ягоны, мала каму вядомы, намер — пісаць аповесць пра маленства Купалы — наводзіць на горкую думку аб тым, што ў асобе Таўлая мы страцілі не толькі выдатнага паэта...

Па старой турэмнай прывычцы да «грыпсаў», патайных пісулек, ён занатоўваў думкі свае, планы новых твораў, паасобныя радкі на маленькіх кавалачках паперы, мікраскапічным почыркам, і гэтымі паперкамі быў заўсёды набіты яго стары партфель, з якім ён ніколі не расставаўся. Ён працаваў як сапраўдны мастак — многа, але без спешкі. І ў гэтай немітуслівай, грунтоўнай працы мне бачылася яго сталая, правераная ў жорсткіх выпрабаваннях упэўненасць у несмяротнасці справы, якой ён беззапаветна служыў.

А ў несмяротнасці справы — і наша бяссмерце.

*1957*

# РОДНЫ КУТ

Пражыта, здаецца, мала, а ўжо так прыемна бывае вяртацца думкай да вытокаў не надта лёгка заробленай сталасці.

Быў час, калі ад хараства жыцця патрабавалася нямнога. Каб соладка размарыцца, вясковаму хлапчаняці дастаткова было прыціхнуць каля плота, утаропіцца ў дзівосныя ўзоры сівога моху на штакеціне... Калі ж здараўся часам выпадак такой незвычайнай важнасці, што на траву звальваўся з гнязда толькі што апераны верабейчык,— шчасце не мела граніц!..

Навокал быў зусім невялікі свет жывых істот і рэчаў, якія я ўмеў назваць. Кожны новы прадмет, новы голас жывой істоты — проста жыццё, якому і за межамі майго далягляду, як адчуваў я падсвядома, не было ні канца ні краю. Адтуль у кружок мае жыццёвай прасторы безупынна прыходзіла нешта новае, што з часам адкрывала сваё імя.

Разам з кожнай новай птушкай ці кветкай прыходзіла новая песня ці казка.

Сярод мноства прыгожых прыйшла неўпрыцям і такая, дзе мой вясковы аднагодак збіраўся першы раз у школу, а бацька наказваў яму быць старанным.

Ні то казка яна, ні то песня. Прыйшла — са слоў старэйшага брата — і адразу знайшла ў маім сэрцы ўтульнае месца.

А неўзабаве і я надзеў шарачковую торбачку з букваром і грыфельнай дошкай. Бацькі, які тым часам выплятаў бы на калодцы лапаць, ужо не было. Маці сама дала наказ быць не горшым, чым дзеці ў добрых людзей... Рэшту сказала казка:

А старанны будзеш,
Да навукі здатны —
Я прадам кароўку
І кажух астатні...

У тым, што гэта датычыла мяне, не магло быць сумнення, нягледзячы нават і на тое, што хлопчык з казкі называўся Ігнатам. Не мог жа той, хто пусціў гэтую казку ў жыццё, прадбачыць, што я буду называцца інакш... Ды не, гэта ўжо не тая, не дзіцячая думка! Тады я не думаў, чыя яна, гэтая казка. Яна проста жыла, проста сабе прыйшла да мяне з таго цудоўнага «ні канца ні краю» і знайшла ў маім сэрцы якраз тое самае, што адчуваюць на парозе школы ўсе малыя. Яна стала маёй шмат раней, чым адкрыла і мне свой зыходны адрас. Гэта прыйшло пазней, калі да наказу авалодваць святлом далучыліся іншыя казкі і песні, родныя па прастаце і цеплыні гучання.

Журботна шумяць за сцяною старыя ліпы. Худы конік упяўся за плугам пад крык аратага. Расквітнелай грэчкай пахне родны край, у час майго маленства і юнацтва — прыгнечанае, бунтарнае Наднямонне. Лунае над вёскай увечары песня пра Нёман — быстры і чысты, як з расы. Па-жабрацку нясмела грукае дзвярыма ўбогай хаты начны вецер, а старая маці, якіх я бачыў навокал многа, прадзе бясконца і бясконца тужыць па сыне, які сядзіць у турме за праўду...

Такі быў першы свет чароўных казак і песень жыцця... Не, ён быў значна шырэйшы! Але ў ім быў такі вось асаблівы «родны кут» — у той час, калі і для мяне адкрылася і стала блізкім імя яго творцы — Коласа.

Напрадвесні бываюць дні, калі няцяжка забыцца, што ў далах і разорах датайваюць апошнія лапінкі бруднага, хрумсткага снегу, што хутка — вясна... З нізкага, мутнага неба на брудную зямлю нячутна асядае халодная слата, фарбуючы даль па-восеньску сумна і хварабліва...

Цяжка тады пазіраць на свет з-за лагерных дратоў.

На калючках збіраюцца буйныя кроплі і, ацяжэўшы, адна за адной ападаюць на жвір. Бязгучна і

шчодра. За драцяной сцяною па мокрым жвіры павольна шоргаюць падкутыя боты. Думай сабе пра гэтых вахманаў, такіх неваяўнічых, шэрых з выгляду, што кожны з іх усё ж такі чалавек, які з радасцю скінуў бы жалезную шапку і аддаў карабін, павер і лезь пад драты — і ён застрэліць цябе ва ўпор або, заплюшчыўшы вочы, праштыхне сцюдзёнай сталлю гарачае ад голаду нутро. І зноў будзе снаваць туды-назад...

На дроце першай, унутранай агароджы гібее некалькі штук благенькай, ушчэнт заношанай бялізны. За гэтымі трантамі — воля: вялікія гурбы смецця на пустыры, на фоне белых домікаў рабочага пасёлка, далей топіцца ў цьмянай імгле невялікі баварскі горад. Над ім лянів\u0430, чорна дымяць фабрычныя коміны і штыхамі тырчаць вежы кірхаў.

Адтуль, з гэтай чужой, непрыветлівай волі, да нас прыходзяць толькі тыя, каму патрэбны нашы рукі і плечы. Палічаць і пагналі, а ўвечары — палічаць і заганяць зноў.

І нашае заўсёды з намі — цела, што ные па хлебе, а душа — па волі...

Быў сакавік сорак першага года. Для нас, жаўнераў польскай арміі, поўз другі год палону.

Маладыя — нічога, трымаліся. А са «старых» — сямейных мужчын, мабілізаваных напярэдадні вайны,— двое ўжо звар'яцелі. Неяк зусім непрыкметна і дзіўна; спачатку не хацелася паверыць. Адзін усё пісаў кіёчкам на пяску — дахаты, бабе і дачушцы Мані. Другі амаль кожнай ноччу будзіў наш барак то прарэзлівым крыкам пра чорта, які вунь дабіраецца ўжо да яго, то задушэўным, грудным барытонам:

На Мурамскай дарозе
Стаялі тры сасны...

Трэці дзядзька пачаў батрачыць у французаў: мыць падлогу, бялізну, посуд...

У першым французскім бараку жылі «арыстакраты»: былыя і будучыя фабрыканты, ранцье, памешчыкі. Яны і тут, пад салдацкім сукном, за дратамі, глядзелі на іншых зверху, бо самі амаль штодня атрымлівалі пасылкі, гатавалі ў паабіваных кацялках шакалад, курылі, лежачы на нарах, духмяныя

люлечкі і чыталі вішыйскія газеты... Усё гэта — з выглядам людзей, зусім спакойных за лёс свае краіны.

Батракоў яны наймалі за лагерны «суп», якім самі, па міласці Петэна, не карысталіся ўжо з паўгода.

Хлопцы прыпільнавалі нашага дзядзьку і ўвечары пагаварылі з ім культурна: гэта, браток, абражае годнасць савецкага чалавека. Мы ўжо лічылі сябе савецкімі людзьмі, хоць новае жыццё сваіх родных мясцін ведалі толькі ў марах ды па скупых пісьмах з дому. Калі ж такая размова дзядзьку не дапамагла, за другім разам яго ўжо назвалі старым хрэнам і нават намякнулі пра «ката́»...

І ён пакаяўся, перастаў хадзіць цішком на паклон за кацялок кіславатай баўтухі з вотруб'я і бульбы.

Ён толькі ўсё ўсміхаўся сумна, седзячы каля акна...

І вось тады яна завітала да нас — нібыта чалавек адтуль, з радзімы,— «Новая зямля»!..

Не варта здзіўляцца гэтаму факту. Мне давялося, напрыклад, сустрэцца ў лагерах з Леанідам Андрэевым, Кацюбінскім, Серашэўскім. У перапоўненым таварняку, галодныя, халодныя, седзячы на падлозе, пад якой ужо не першыя суткі чортведама куды грукочуць па рэйках колы, мы — пры святле з вузкага закратаванага акенца — услых, запоем чыталі «Шчасце» Неміровіча-Данчанкі...

Словам, тым самым шляхам выпадку, праз дзесяткі салдацкіх рук і торбаў, прыйшла да нас і Коласава паэма.

Перад вайной не давялося мне бачыць ніводнага артыкула пра яе — ні шчырага, ні подлага, ні разумнага, ні дурнога, і меў я пра гэтую кнігу толькі ўласную думку. Была і прыхільнасць, і пэўная смеласць: Колас здаваўся тут сям-там залішне простым, нават прымітыўным і саладжавым, а звычайнасць, штодзённасць паэзіі гэтага твора — далекаватай, скажам, ад велічнай эпікі Пушкіна ці Міцкевіча...

Дома, у вёсцы, не чуў я не толькі таго, што «Новая зямля» пачата была ў турме, але не разумеў і поўнага сэнсу слова няволя, тым больш — на далёкай чужыне.

Дзядзька наш — пажылы, рабацяшчы, часамі нават вясёлы мужчынка. Сіратлівая хата яго стаяла недзе над Віллёй. Для такое хаты няцяжка было б

выбраць месца ў любым кутку Беларусі. І чалавека такога, як дзядзька Курэц, няцяжка было б знайсці, бадай, у кожнай беларускай вёсцы.

Зрэшты, не толькі ў нас...

Такога дзядзьку — толькі не ў польскім, абшарпаным, выкачаным у палоне мундзіры, а ў навейшым, французскім, не ў памятай палявой канфедэратцы, а ў светлым цюрбане — бачыў я ўлетку саракавога года ў шматтысячным натоўпе палонных мараканцаў з французскай каланіяльнай арміі. Стракатая безліч цюрбанаў — белых, ружовых, салатавых,— якія часта, пабачыўшы ваду, палотнішчамі віселі на дратах. Аднастайная безліч мундзіраў, смуглявых твараў, чорных вачэй. Колькі ні таўчыся ў гэтым шумлівым мурашніку — нельга па-чалавечы разгаварыцца. І адно жаданне ва ўсіх: адны называюць яго словам *есці*, другія — *манжэ*, трэція, нашы «карміцелі»,— *фрэсэн*. «Зі волен нур імэр фрэсэн унд фрэсен!..» [1] Так, відаць, лаюцца яны, множачы ў думках тры чвэрткі літра дзікай баланды на прыкрую лічбу — сорак пяць тысяч лыжак.

Лагерная кухня карміла нас па чарзе. Каля ўсіх варот і брамак яе драцяной агароджы стаяла ахова з падкупленых палонных.

І вось адзін з такіх ахоўнікаў — лупаты здаравіла ў чырвонай фесцы і блакітных галандскіх галіфэ з абмоткамі — ударыў таго сухарлявага дзядзьку ў цюрбане вялікім кіем па галаве.

Дзядзька проста праходзіў каля кухоннага дроту, а ён падышоў напярэймы, замахнуўся раптоўна ды бухнуў сваім кантовым, апілаваным дручком. Пажылы, лагодны з выгляду мужчына, відаць, рабацягафелах, радзіма якога, спякотнае Марока, была не бліжэй адгэтуль, чым наша Беларусь, знясілены тугой і голадам чалавек, ухапіўся аберуч за твар...

Натоўп палонных завірыў, загудзеў абурэннем. Дурыла ў чырвонай фесцы ўцёк за кухонныя драты. Начальнік кухні (мы здагадаліся пасля) пазваніў у «лагер-камандатур» пра небяспеку. З усіх — у большасці незразумелых — слоў народнага абурэння, які-

---

[1] Ім толькі б жэрці ды жэрці *(нямецк.)*.

мі кіпеў наш інтэрнацыянальны натоўп, уразілі мяне такія:

— Чалавек сабе ідзе! І за што ты яго? Чалавек сабе ідзе!..

Гэта крычаў па-польску, з сілезскім акцэнтам, пажылы французскі салдат, відаць, з тых беднякоў, што густа ехалі з Польшчы па хлеб за мяжу. Араб не зразумеў яго, але — здалося мне,— пачуўшы імена гэтыя словы, адняў ад твару акрываўленыя рукі, убачыў усё, зноў ухапіўся аберуч за вочы і, як дзіця, заплакаў наўзрыд.

А ўжо ад цэнтральнай брамы лагера, дзе размяшчалася ў бараку варта, у наш бок бег ланцуг блакітна-шэрых вахманаў з нахіленымі штыхамі...

Чалавек, чыя крыўда ўзбунтавала тысячны натоўп, зацёрся ў тым натоўпе назаўсёды, застаўся, як і кожны з нас, проста ахвярай фашысцкага здзеку.

Такім чалавекам, які *сабе ідзе* — ціха, сумленна ідзе па зямлі, аплачваючы сваё няхітрае шчасце мазольнаю працай, бязвінна пакутуючы за чужыя грахі,— такім бачыўся мне і той заходнебеларускі дзядзька, наш Васіль Курэц.

І вось у рукі яго, якраз у тыя дні, калі мы, маладыя сябры, забаранілі яму прыніжаць сваю чалавечую годнасць, трапіла неяк бывалая кніга без вокладак, якая пачыналася адразу з самых блізкіх, у сэрцы вынашаных слоў:

Мой родны кут, як ты мне мілы!..

Бачыў я тады — пакуль што адзін раз у жыцці,— як самы просты, ледзь пісьменны чалавек плакаў над кнігай паэзіі. Не забыцца пра той журботны, цьмяны прадвясновы дзень, пра пасвятлелы воблік шэрага рабацягі, які, чытаючы ўголас, па складах, трымаўся, як дзіця за бацькаву руку, парэпаным пальцам за кожны радок,— каб не дай бог не разлучыцца з тым родным светам, без якога так натамілася, так збалела яго шчырая душа!..

І я тады думаў... Не, я спачатку выйшаў з барака, сарамліва застаўся адзін... Мне зноў адкрылася, маю душу па-свойму ўразіла непаўторная беларуская прыгажосць, абаяльная сіла паэзіі — народнай і таму вялікай.

...Дзіўна, але так — не памятаю дакладна, калі і як убачыў я Коласа ўпершыню.

З тых дзён запомніліся найярчэй такія два здарэнні.

Для зборніка беларускай сучаснай паэзіі, які мы складалі ў канцы сорак пятага года ўдвух з Валянцінам Таўлаем, патрэбны былі новыя вершы нашага патрыярха. Ён жыў ужо ў сваім новым доміку побач з Акадэміяй навук. Таўлай з сям'ёю прыпыніўся ў тым самым сасняку, у адным з зялёных салдацкіх баракаў, што стаялі тут яшчэ з таго часу, калі і сам акадэміцкі гмах быў гітлераўскай казармай. У параўнанні са мной Валянцін быў старажылам у літаратуры, аднак і ён пайшоў па вершы да суседа не адзін, а папрасіў пасрэдніцтва ў Глебкі.

Сцюдзёны лістападаўскі вечар. Мы ішлі паміж рэдкімі, працярэбленымі вайною соснамі на святло ў Коласавым акне, і Таўлай, чалавек не вельмі моцны ў гаспадарчых справах, па-свойму ціха і наіўна скардзіўся, што вось зіма пачалася, а дроў, браток Пятро Фёдаравіч, яшчэ няма.

— А піла ў цябе ёсць?

— Ёсць нейкая, браток.

— Што ж, дык давай вось утрох сасну павалім. Завалачом, нарэжам.

— Ха!..

— А назаўтра стары мне ж першаму і пазвоніць: «Пятрок, нехта, брат, сасонку пусціў. І яшчэ, свіння, пад самымі вокнамі!.. Трэба ўзяць панятых: след павёў да Таўлая...»

І мы, спыніўшыся, рагаталі тым смачным, здаровым смехам, які прыходзіць нячаста.

Аднак, нягледзячы на ўсю яго такую прастату, я на той раз падышоў са старэйшымі таварышамі толькі да брамкі ў высокім плоце, а потым вырашыў, што мне, можа, лепш пачакаць у Валянцінавай хаце.

Пазней, па заданню рэдакцыі, мне давялося самому зайсці ў той домік пад соснамі, дзе за акном невялікага кабінета красавала паміж пладовых дрэўцаў звычайнае наша вясковае жыта, пасеянае рукой паэта-акадэміка. Прыемна прызнацца, што і тады ўжо, значна больш асвойтаны ў літаратурным асяроддзі, я быў далёкі ад рэпарцёрскай бойкасці некаторых нось-

бітаў рэдакцыйнага блакнота. І гэта быў не страх, не сарамлівасць, а проста адчуванне дыстанцыі.

Хацелася мне, вядома, пачуць ад Коласа нешта незвычайнае, важнае. І верылася, што пачую...

Слухаў дзядзька Якуб уважліва, па-гаспадарску дапытліва глядзеў з-за свайго пісьмовага стала на яшчэ аднаго, што вось таксама, кажуць, вельмі хоча далучыцца да вялікай справы. Калі ж я скончыў са службовай грунтоўнасцю і неслужбовым хваляваннем выказваць яму рэдакцыйную просьбу, ён памаўчаў яшчэ трохі, збянтэжыўшы мяне сваёй — як мне здалося — нездаволенай насупленасцю, і нарэшце прамовіў:

— Дажджу каторы час няма... І што гэта, хлопча, будзе?..

Прызнацца, мяне спачатку здзівіла і нават расчаравала ажно такая прастата і проза. Не адразу я зразумеў, колькі ў гэтым яго неспакоі народнай душы, не адразу ўявіў яго горкую думу ў бяссонную ноч, румяны досвітак над шорсткай зелянінай сасновых вяршалін і словы, што не выказваліся ўслых у гадзіны старэчай самотнасці... Словы шчырага непакою за шчасце тых, што столькі нацярпеліся ў нядаўнюю, учарашнюю вайну!..

«Толькі той, хто сапраўды пачуе голас зямлі, голас народа, прасякнецца яго паэзіяй, той перадасць іх шматтысячным рэхам ва ўсе куты нашай Радзімы».

І я ўжо ведаў тады гэтыя яго словы. Яны ахвотна пераклікаліся з вобразам самога песняра. З яго — міжвольна, падсвядома зробленым — аўтапартрэтам, які быў заключаны ў зусім новых тады, толькі што апублікаваных радках:

> Пытае бура старца-дуба:
> — Чаму цябе я не зламлю?
> І кажа дуб: — Я ўрос ў зямлю,
> З зямлёю жыць у дружбе люба.

Яшчэ адзін, таксама нібы нязначны, але характэрны факт.

У верасні пяцідзесятага года, едучы аўтобусам з Баранавіч у Навагрудак, я любаваўся прыгажосцю надсвіцязянскай восені — дарогай у залатым тунелі ліп і клёнаў, ірдзеннем рабінавых гронак на фоне

свежай, зноў засеянай зямлі. Калі ж я, не стрываўшы, сказаў свайму суседу-пасажыру нешта пра гэтую прыгажосць, ён, мясцовы селянін, адказаў з усмешкай:

— Якуб Колас гаварыў, што хоча, хай здароў будзе, прайсціся тут калі-небудзь пехатой...

Я не спытаўся, каму ж ён, Колас, гэта гаварыў. «Гавораць людзі»,— адказаў бы, напэўна, мой выпадковы спадарожнік.

Калі ж гэта — легенда, дык яно яшчэ лепш: гэтая залацінка добра гаворыць пра любоў народа да свайго паэта.

Мы ўсе любілі яго. Маладзейшыя літаратары, мы раўнавалі свайго старэйшыну да людзей, якіх ён лічыў сябрамі, і пагарджалі тымі, што аціраліся каля яго не па праву сапраўднай, а тым больш узаемнай прыхільнасці. Застаецца пакуль не зусім ясным, што было ці хто быў прычынай яго не вельмі шчодрай часамі ўвагі да маладых літаратараў. Мы адчувалі гэта балюча, нягледзячы на тое, што некаторым з нас пашанцавала ўсё ж такі быць да яго бліжэй, нават пачуць бацькоўскае слова ацэнкі...

Зрэшты, справа не ў тым, колькі разоў хто сустракаўся з дзядзькам Якубам, што ён каму гаварыў.

Галоўнае, з чаго складаецца сутнасць прыгожай, радаснай з'явы, імя якой Колас,— заўсёды і поўнасцю з намі.

Па праву багатых спадчыннікаў мы можам і не скупіцца — больш строга адбіраць ад выдатнага і добрага тое, што, мякка кажучы, магло б быць значна лепшым. Успомнім для смеласці, як ён сам гаварыў пра свайго «Адшчапенца»:

«Ураджай выйшаў такі, што я толькі-толькі вярнуў сабе насенне».

Дрэнна, што мы ў апошнія гады не гаварылі з ім таксама шчыра... Адны, зразумела, не адважваліся, а другія дарма лічылі свае, не заўсёды і не ва ўсім шчырыя, адносіны нейкай асаблівай любасцю да чалавека, які лепш за многіх разбіраўся ў сапраўдных і несапраўдных пачуццях.

Ад праўды мы не пабяднеем, Колас не паменшае ад таго, што мы назавём, напрыклад, «Рыбакову хату» творам значна ніжэйшым за магчымасці аўта-

ра «Новай зямлі», «Суд у лесе» — зусім слабой паэмай, а якую-небудзь «Кукурузку» — проста нявартай ягонага подпісу.

Заключаны ў яго лепшых творах свет — шматфарбны, шматгалосы, сонечны свет яго народнасці — і я, следам за тысячамі іншых, удзячна лічу сваім.

Мой родны кут, у які я часта заходжу таксама ўсхвалявана, як заходзяць пасля разлукі ў бацькоўскі дом,— свой ад маленства да скону.

*1958*

# ПРЭТЭНЗІІ ДА СПАЖЫЎЦА

Адказ паэта І. Абашыдзе чытачу А. Волкаву, надрукаваны ў «Литературной газете» 25 красавіка, спадабаўся мне не з-за цэхавай салідарнасці з яго аўтарам, а таму, што і сапраўды вельмі часта яшчэ даводзіцца сустракаць чытача, які не толькі сам разважае пра літаратуру прымітыўна, але і да пісьменніка звяртаецца з прэтэнзіямі, часта вельмі прымітыўнымі.

...Памятаеце кінакарціну «Трагедыя вострава Сайпан»?

З хваляваннем мы назіраем там журботны шлях простых людзей Японіі, якія пакутуюць ад жахаў вайны. Успамінаецца перажытае нашым народам у дні фашысцкай навалы. Яшчэ ясней бачыш агідную сутнасць імперыялізму.

І раптам...

Так, іменна раптам, у самы напружаны, кульмінацыйны момант, калі герой карціны, японскі рабацяга, рыдае над трупам забітай жонкі,— добрая чвэртка залы грымнула дружным і шчырым рогатам!..

«Дык што ж гэта? — здзівіўся мой малады незнаёмы сусед па месцы.— Жах адзін — што яны робяць!..»

Можна было падумаць, што гэты, калі ўжо не зусім жахлівы, дык, безумоўна, сумны факт — выпадковасць. Выпадкова падабралася такая дзіўная група гледачоў, пераважна моладзі. «Эх, як ён здорава смешна скрывіўся!..»

Кінакарціну «Паядынак», па Купрыну, мне давялося глядзець двойчы.

Памятаеце тую цудоўную сцэну, калі Рамашоў абнімае Хлебнікава, калі ён у збітым, запалоханым салдаціку ўбачыў брата-чалавека?

Гэта, па-мойму, адна з найлепшых старонак сусветнай літаратуры. І паказана гэта ў добрым — і рэжысёрскім, і аператарскім, і акцёрскім — вырашэнні. І вось іменна ў гэтым цудоўным месцы — і першы і другі раз пры мне — добрая сотня людзей... смяялася!..

Няўжо ўсе яны вышэй за такія перажыванні?

Няма падстаў меркаваць.

А калі не, дык чаму ж іх так многа сярод нас — мяшчан, стылягаў, пашлякоў, якія надзімаюцца культурнымі людзьмі?

Яны рагочуць там, дзе іншыя плачуць слязьмі высокага чалавечага хвалявання. Яны бягуць у гардэроб, не чакаючы канца апошняй сцэны, няхай сабе там будзе хоць тройчы Шэкспір. Яны «не любяць» народнай і класічнай музыкі, аддаючы і тут перавагу «апошняй модзе». Яны пазяхаюць над старонкамі Талстога і з заміраннем сэрца глытаюць «лёгкую», «пікантную» прадукцыю літаратурных халтуршчыкаў. Яны пішуць пісьменнікам — шмат і ахвотна. І там не заўсёды бывае пашляцкі рогат. Не толькі гэта засмучае нас і абурае. На жаль, многія пісьмы чытачоў вельмі красамоўна гавораць пра нізкі культурна-эстэтычны ўзровень іхніх аўтараў. А, тым не менш, гэтыя людзі чамусьці імкнуцца павучаць. І павучаюць.

Чаму?

Было са мной аднойчы такое. Сусед за вясельным сталом, добры столяр і нядрэнны чалавек, тузаў мяне ўвесь вечар настаўленнямі: дрэнна піша ваш брат, трэба, бачыце, лепш апісваць, паказваць, адгукацца... Калі я, даўшы яму магчымасць і выказацца і паўтарыцца ў некалькі столак, зусім карэктна спытаўся, што ён чытаў з маіх твораў, таварыш адказаў:

— Нічога не чытаў. Але гэта няважна.

— Як няважна? Я ж не вучу вас, як рабіць сталы, а вы мяне... Па якому такому праву, ды яшчэ на вяселлі, дзе добрыя людзі весяляцца?

— Па якому праву? — успыхнуў ён абурана.— А вы не ведаеце, што на апошнім пленуме я сядзеў амаль побач з таварышам Н.?..

Можна падумаць, што і гэта — выпадковасць. Ну, выпіў дзядзька, фанабэрыцца...

Ды вось у чым бяда — такога ці амаль такога знатака-настаўніка не-не дый сустрэнеш зноў.

Я бачыў яго нядаўна на адной даволі адказнай трыбуне. Праўда, адтуль яго аўдыторыя прагнала апладысментамі. І таварыш гэты быў таксама абураны, нават як быццам да глыбіні душы, хаця, як потым прызнаўся, не чытаў ніводнай з тых рэчаў, якія ён — не зацмялелы вясельнік, а чалавек, здавалася, культурны і з вялікім вопытам — пачаў крытыкаваць, прытым — пад корань і з апломбам.

Сумна ў наш час атрымліваць чытацкія пісьмы з такімі, напрыклад, маркотна-аднастайнымі пытаннямі: «А як пажывае цяпер ваша Галя: выйшла яна замуж за Сяргея ці, можа, ён пакахаў другую?..» Сумна і крыўдна за чытача, які — усё часцей ды часцей з сярэдняй і вышэйшай адукацыяй — не ведае хоць бы прыблізна розніцы паміж праўдай факта і праўдай мастацтва, які любіць толькі тое, што забаўляе, «лёгка чытаецца», казыча «агульнадаступныя пачуцці»...

Яшчэ больш сумна бывае, калі чытач такі — не проста чытач, а і арганізатар, кіраўнік, настаўнік іншых чытачоў.

Вось ён мне звоніць з майго роднага раёна:

— Мы тут праводзім абмеркаванне вашай аповесці «У Забалоцці днее». Пейзаж, вы разумееце, амаль сходзіцца, тое, што ў вас ёсць два браты, таксама верна, ды вось сястры ж у вас у сям'і тут няма, а ў аповесці яна ёсць... Як гэта вытлумачыць народу?

І трэба тлумачыць гэтаму, даволі адказнаму таварышу, ды яшчэ па міжгароднім тэлефоне, што рэч, напісаная ад першай асобы,— не абавязкова аўтабіяграфічная, што справа тут не ў колькасці аўтарскіх братоў і сясцёр, не ў пейзажы, які не сходзіцца ці сходзіцца, не ў падабенстве персанажаў з прататыпамі...

Цяжка пры кожным выпадку пачынаць тлумачэнне з азоў, тым больш з людзьмі, якія лічаць сябе дастаткова падрыхтаванымі для таго, каб вучыць, накіроўваць іншых.

Нядаўна адзін з такіх таварышаў напісаў у рэдакцыю рэспубліканскай газеты водгук на маё апавяданне «Надпіс на зрубе».

Пейзаж таксама задаволіў яго — «ён амаль сходзіцца з пейзажам ваколіц возера Нарач». Герой апавядання падобен да аднаго са знаёмых яму рыбакоў. Значыцца, заключае таварыш, апісаны наш Мядзель-

скі раён. Пачаўшы танец ад гэтай печкі, чытач, у пэўнай меры адказны за лёс раёна, пачынае з вельмі сур'ёзным выглядам папракаць аўтара ў скажэнні праўды жыцця. У нас, каб вы ведалі, у нашым раёне справа з шыферам і лесаматэрыяламі выглядае не так. У нас, хай вам будзе вядома, людзі і не грэшаць і не каюцца...

І паспрабуйце давесці гэтаму, не проста пісьменнаму чалавеку, а чалавеку са значком вышэйшай школы, што сутнасць апавядання не ў «правільным» ці «не зусім правільным» апісанні яго раёна, што аўтар думаў перш за ўсё і больш за ўсё пра духоўную прыгажосць простага савецкага чалавека, а такога чалавека і такое жыццё назіраюць не толькі над Нараччу...

Работнікі рэдакцыі спрабавалі ўтлумачыць таварышу гэтыя літаратурныя азы, ды ён упарта стаяў на сваім, патрабуючы паслаць яго артыкул «па прызначэнню», нястомна пісаў пісьмы, у якіх так і гуло ў падтэксце: «Мы не даруем пісаку!..» Асабліва, вядома, калі мы, як той падвыпіўшы столяр, сядзелі калі-небудзь амаль побач з тым ці іншым таварышам Н.

Справа тут, вядома, не ў асабістай крыўдзе. Такіх і значна ярчэйшых прыкладаў можна было б прывесці і больш — у кожнага з літаратараў яны знойдуцца. Шмат іх можна знайсці і ў пісьмах, адрасаваных у рэдакцыі газет, часопісаў, у Саюз пісьменнікаў і ў іншыя ўстановы.

Справа ў тым, што і я, разам з маімі таварышамі па прафесіі, веру ў чытача не толькі шматлікага, але ж і вялікага,— у чытача культурнага, строгага, высакароднага, перад якім нашаму брату бывае заслужана брыдка за свае сапраўдныя недахопы, якому мы служым сваёй працай з хваляваннем сапраўдных сяброў.

Разам з такім чытачом, мы, літаратары, павінны змагацца з пошласцю, некультурнасцю, маральнай і эстэтычнай, усюды — як у пісьменніцкім, так і ў чытацкім асяроддзі.

*1959*

# ПРОЗА 1959 ГОДА [1]

У часопісах нашых надрукавана было летась каля сямідзесяці арыгінальных апавяданняў. Секцыя прозы налічвае цяпер больш шасцідзесяці членаў. Каб пераканацца, што нават і з колькасцю апавяданняў у нас даволі-такі блага, можна прыгадаць, што ў Чэхава бывалі гады, калі ён пісаў столькі апавяданняў адзін, колькі мы пішам усёй талакою. А што ўжо гаварыць, калі прымерацца да Чэхава па якасці?..

Можа, хіба гэта няправільны метад — параўноўваць нас, грэшных, з геніем?

Погляды на гэтае пытанне пакуль што разыходзяцца.

Многім, напрыклад, спадабалася выступленне А. Твардоўскага ў «Литературной газете» супраць прапаведзі шэрасці і пасрэднасці ў літаратуры. Такая прапаведзь, як ён слушна сказаў, «супярэчыць высакародным прынцыпам высокай дасканаласці, самаахвярнай працы пісьменнікаў, сапраўднай вывучкі і майстэрства, якія — неабходная зарука з'яўлення твораў, годных эпохі будаўніцтва камунізма».

Кажуць, што адзін наш малады празаік, прачытаўшы гэтае выступленне, за ноч напісаў рашучы пратэст адразу ў некалькі газет, а ўранні яшчэ і пахваліўся ў рэдакцыі сваёй заслужанай стомленасцю. Забыўся хлопец, што Твардоўскі, па сутнасці, не сказаў нічога прынцыпова новага, а паўтарыў сказанае многімі вялікімі стваральнікамі сапраўднай літаратуры; забыўся, бедны ваяка, што XX з'езд партыі заклікаў нас «да-

---

[1] З даклада, поўнасцю надрукаванага ў кнізе «Роздум і слова» пад назвай «Пісьменнік і сучаснасць».

магацца таго, каб стаць першымі ў свеце не толькі па багаццю зместу, але і па мастацкай дасканаласці».

Іншыя абаронцы так званага «сярэдняга ўзроўню», менш наіўныя, адкрыта не лезуць на ражон, аднак жа ў душы вызнаюць і ў цішы прапаведуюць гэты, вельмі выгадны зайздроснікам і графаманам, нездаровы і шкодны прынцып прымірэнства з шэрай літаратурнай пасрэднасцю.

Паняцце «сярэдняга пісьменніка», «сярэдняга ўзроўню» перш за ўсё вельмі адноснае. У свой час, пры Талстым і Чэхаве, сярэднім пісьменнікам быў іх сучаснік Караленка, творчасць якога магла б па-свойму ўпрыгожыць літаратуру любога ■ народаў свету. На такі сярэдні ўзровень можна арыентавацца! А як выбраць сярэдзіну для арыентацыі ў нас, дзе, калі гаварыць пра прозу, можна адзначыць сярэдзіну паміж Чорным і тым ваяўнічым аўтарам начных пісьмаў пратэсту? І чаму іменна трэба арыентавацца на сярэдзіну? Грош цана таму, скажам, апавядальніку, які не носіць у сваім салдацкім ранцы маршальскае жазло Антона Чэхава ці каго іншага з нашых вялікіх папярэднікаў! Што ўжо з нас выйдзе, то выйдзе, але, прынамсі, нацэльвацца трэба правільна. І вымяраць нашы дасягненні неабходна вышэйшай меркай.

Сярод апавяданняў мінулага года хочацца перш за ўсё адзначыць апавяданні М. Лупсякова: «Пераправа» — суровае, сталае слова мастацкай праўды пра гераіку ваенных дзён, і «Кірык» — абаяльную замалёўку дзіцячых характараў. Творчай культурай, маральнай чысцінёй і паэтычнасцю вызначаюцца апавяданні І. Навуменкі «Верасы цвітуць», «Жуль Верн», «Новая хата». Апавяданне В. Быкава «Радасць», напісанае рукою таксама ўжо сталага майстра, па-сучаснаму трактуе высакародную тэму простага, як гаварылася раней, «маленькага чалавека». Сучасным, і па майстэрству і па тэме, з'яўляецца, на маю думку, і апавяданне А. Чарнышэвіча «Калінішын заяць», у якім пісьменнік удала, мовай вобразаў, ускрывае і ганьбуе перажыткі мінулага. Хочацца добрым словам сустрэць прыход у прозу майстра дзіцячай паэзіі В. Віткі з яго напісанымі жывой, мастацкай мовай апавяданні «Нясказанае слова» і «Трывога ў Ельнічах». Хочацца з пачуццём сяброўскай радасці вітаць выхад першых зборнікаў

І. Пташнікава і В. Адамчыка, а таксама адзначыць цікавую творчую заяўку, якую зрабіў некаторымі сваімі апавяданнямі Б. Сачанка.

Тром апошнім таварышам, улічваючы іх маладосць, можна яшчэ зрабіць сякія-такія скідкі: менш папракаць у тэматычнай аднастайнасці Пташнікава, у празмерным, аднабокім захапленні мінуўшчынай і ў зрывах у натуралізм — Адамчыка, у не заўсёды выразнай і значнай задуме —Сачанку... Асноўны акцэнт гэтым разам можна зрабіць на іх першых і прыкметных дасягненнях: жывой, вобразнай мове, добрым веданні матэрыялу, яркіх дэталях. Можна даць палёгку і магчымасць лепш выступіць у далейшым самым маладым апавядальнікам, якія зрабілі толькі першы, нясмелы, устрывожаны крок у літаратуру. Маю на ўвазе Ул. Дамашэвіча, Я. Каршукова, М. Аўсеенку і іншых таварышаў, выхаваннем якіх найбольш займаецца «Маладосць».

Але ў адносінах да некаторых старэйшых недаравальна было б не сказаць некалькі горкіх слоў.

Пішам мы, апавядальнікі, апошнім часам у большасці нецікава: вяла, шэра, мнагаслоўна, без маладога, высокага ўздыму, якім вызначаюцца лепшыя ўзоры нашай сучаснай паэтычнай лірыкі, без значнай думкі, якая спрадвеку лічылася першаасновай сапраўднай прозы.

Ёсць такое і ў тых таварышаў, чые апавяданні я назваў як лепшыя ў мінулым годзе, назваў, не ўспомніўшы пра іх слабейшыя, недацягнутыя апавяданні. Яшчэ ў большай меры нашы агульныя недахопы прыкметны ў іншых старэйшых апавядальнікаў, чые творы, пры ўсёй сяброўскай прыхільнасці, нельга залічыць да нашых дасягненняў.

Мала і горш, чым бывала раней, піша І. Грамовіч. Яго апавяданне «Аднойчы ў нядзелю», дзе зместу хапае толькі на лёгкую, дасціпную замалёўку, напісана чамусьці ў плане вельмі сур'ёзнага, вельмі грунтоўнага і, у выніку, вялага, сумнага расказу. А справа там заключаецца толькі ў тым, што тры пары жанатых людзей, адпачываючы ў нядзелю на гарадской ускраіне, назіраюць выхадным вокам, злёгку замглёным ад чарачкі, як адна дзяўчына ўсё ходзіць паблізу, ломіць у роспачы рукі і, здаецца, плача... Шкада дзяў-

чыну робіцца нашым сучаснікам, і яны, нарэшце, хочуць яе ўсцешыць. Ды аказваецца, што дзяўчына проста рыхтуецца да выступлення ў ролі беднай, пакрыўджанай, дарэвалюцыйнай Кацюшы Маславай... І ўсё...

Чытаючы гэтае апавяданне, я міжвольна ўспомніў першамайскі сцяг у руках сімпатычнага фабзайца Алёшы з апавядання «Запаветны камень», успомніў словы яго аўтара:

«Якое шчасце існі наперадзе! Хто нёс сцяг, той гэта ведае. Сэрца чалавека радасным пульсам, нібы ток па правадніку, з грудзей па руках, па дрэўку сцяга прабягае ўгару, на завостраны шпіль сцяга, туды, дзе зіхаціць залатая зорка. Там заўсёды сэрца сцяганосца — над галовамі ўсіх!»

Грамовіч ведае, якое гэта шчасце існі наперадзе: і ён бываў сцяганосцам у нашай, маладой калісьці, калоне беларускіх апавядальнікаў. Ён можа, і яму, як і многім з нас, неабходна ўзняць сваё сэрца пісьменніка значна вышэй — над сваім і суседскім вялым бытапісальніцтвам.

М. Ракітны апублікаваў летась тры апавяданні, адносна найцікавейшае з якіх, «Паранька», не вызначаецца ні арыгінальнасцю задумы, ні мастацкімі якасцямі, вартымі яго ж, Ракітнага, лепшых апавяданняў, напісаных у папярэднія гады.

У адсталым калгасе стварылі трусаферму. Клетак удосталь не нарабілі, а проста адвялі трусам узгорак, сказаўшы: рыйце тут сабе норы, шукайце харч, пладзіцеся і размнажайцеся. І прыставілі да гэтай жывёлы маладога здаравілу з матацыклам у якасці загадчыка фермы, старога залатавуста Арцёма вартаўніком, а даглядчыцай — дзяўчыну Параньку. Калі ж, у парадку ўзбуйнення, прыйшлося далучаць гэты адсталы калгас да большага, мацнейшага, кіраўніцтва большага калгаса не захацела лішне лічыцца з трусіным узгоркам. «Палавіце ўсіх трусоў, наладзьце ўлік, а тады будзем гаварыць». Першая палавіна апавядання занята лоўляй гэтых трусоў, бясконцым і нудным балбатаннем дзеда Арцёма і злёгку лірычным роздумам чалавека, ад імя якога ўсё гэта напісана. Другая палавіна апавядання — той самы зматарызаваны загадчык, які цяпер наогул застаецца за сцэнай, той самы арцёмаўскі

маналог, з якога дзяўчына Паранька паўстае гераіняй: яна, аказваецца, ездзіла ў раён і там, вядома, наладжылі рэзалюцыю, ад якой ускалыхнулася ўся гэтая трусіная пашахонія. Калгас наладзіў добрую трусаферму, хутка пачне атрымліваць высокія прыбыткі, а ў Параньку пачаў, здаецца, улюбляцца той таямнічы здаравіла з матацыклам...

Такі, дакладна пераказаны, змест апавядання «Паранька».

Колькі ўжо іх было, такіх гераінь, і ў кнігах, і на экране! Не менш, мусіць, як і начальнікаў, рукі якіх спачатку не даходзілі да ўсіх недахопаў, а потым расправуляліся з імі адным росчыркам пяра. Ад сваіх літаратурных папярэдніц Паранька адрозніваецца толькі калецтвам: яна кульгае, бядачка, ганяючыся за трусамі, і гэта не вельмі хораша сведчыць аб мастацкім і проста чалавечым такце аўтара. А «сучасны каларыт» апавядання заключаецца больш за ўсё ў тым, што надрукавана яно ў 1959 годзе.

Чытаючы леташнія апавяданні Ракітнага — «Паранька», «Павадыр» і «Пад адным дахам», міжвольна ўспамінаеш загадку пра семдзесят сем адзёжак, якія ўсе без засцёжак. За другарадным і проста лішнім цяжка дабрацца да галоўнага. Тэксту ў гэтых апавяданнях столькі ж, як у чэхаўскіх аповесцях, а зместу — свежага, цікавага, з добрым падтэкстам — з макавае зерне.

Справа тут не толькі ў Грамовічу ці Ракітным. Недахопы іх леташніх апавяданняў — тэматычную ўбогасць, прыземленасць і бязлітасную шматслоўнасць — я лічу недахопамі, характэрнымі для большасці нашых апавяданняў апошняга часу.

Часта, напрыклад, назіраецца такое ва Ус. Краўчанкі, з-пад пяра якога раней выходзілі нядрэнныя апавяданні. Пацяжэў чамусьці і без пары разгаманіўся, як дзед, нядаўна вясёлы і востры А. Рылько. Даволі настойліва, але без прыкметных удач шукае сябе ў апавяданні Р. Сабаленка. Задоўга не заўважаецца творчага росту ў М. Даніленкі...

І яшчэ адна бяда — пасіўнасць. Маўчаць апошнім часам такія добрыя апавядальнікі як А. Кулакоўскі або І. Мележ. Маўчыць пакуль што і М. Лынькоў, твор-

чы аўтарытэт і прыклад якога як навеліста многа памог бы нам — і старэйшым, і моладзі.

Становішча з апавяданнем, без лішняй панікі гаворачы, трывожнае. Няхай нас не суцяшае тое, што і ва ўсёй савецкай прозе вельмі мала па-сапраўднаму добрых апавяданняў. Пісьменнікі Украіны апошні свой пленум цалкам прысвяцілі ўздыму апавядання і нарыса. Ці не пара і нам заняцца гэтымі жанрамі калектыўна і па-гаспадарску? Хопіць ужо такога становішча, што адзін, два, тры празаічныя лірыкі будуць біць трывогу, прасіць увагі да свайго жанру, а ў адказ ім адзін, два, тры эпікі пахіхікваць: «Не можа, бачыце, напісаць раман, дык і разводзіць істэрыку». Пара канчаць і з такой, невядома каму патрэбнай, несправядлівасцю, што ў нашых дакладах ды справаздачах сур'ёзнаму, сталаму майстру І. Навуменку, які піша апавяданні, адводзіцца ледзь не дзесятае месца пасля маладога аўтара пасрэднага рамана Ул. Дадзіёмава. Пара развеяць недарэчны міф пра чытача, які нібыта перастаў любіць добрае апавяданне. І нашым выдаўцам, і бібліятэкарам, і кнігагандлярам неабходна напомніць старую ісціну пра тое, што якасць кнігі не акрэсліваецца яе лістажом. Бліскучым сцверджаннем гэтага быў нядаўні сусветнатрыумфальны юбілей вялікага малафарміста Чэхава. Ён ганарыўся калісьці як найбольшай сваёй заслугай тым, што адваяваў кароткаму апавяданню законнае месца ў літаратуры. Трэба і нам адчуць такі гонар. У імя далейшага ўздыму нашай літаратуры, якая павінна шчыльней наблізіцца да жыцця, глыбей адлюстроўваць героіку нашай сучаснасці, трэба нам захаваць за прозай малых жанраў тое пачэснае месца ў вялікай літаратуры, якое адваявалі ёй нашы слаўныя папярэднікі. Трэба нам гэтую прозу стварыць, як стварылі мы нашу далёка вядомую і многімі народамі любімую паэзію.

Яшчэ горш, чым з апавяданнем, выглядае ў нас справа з нарысам і публіцыстыкай як жанрамі мастацкай прозы.

Памятаючы тую ісціну, што «нашаму грамадству патрэбна літаратура, у якой актуальныя тэмы сучаснасці набываюць яркае мастацкае ўвасабленне», нельга з

чыстым сэрцам, без скідак на тэму, на аператыўнасць, а часам і на сапраўдны ці ўяўны аўтарскі ранг успомніць апублікаваны летась нарыс, публіцыстычны артыкул, памфлет, фельетон, які можна было б назваць сапраўды мастацкім. Гэта — не агульнае ахайванне, як можа камусьці паказацца. Разам з многімі і я з прыемнасцю вітаю нашага працавітага, сціплага таварыша, майстра сваёй справы І. Дуброўскага з заслужаным поспехам: яго вядомы нарыс «Светлы шлях» адзначан прэміяй «Дружбы народов». Добрыя нарысы летась напісалі, скажам, А. Рылько («Тыдзень на Віцебшчыне»), І. Новікаў («Побач сябры»), Ул. Дадзіёмаў («Новая песня Бярозы») і некаторыя іншыя пісьменнікі і журналісты. Добрыя яны ці нядрэнныя,— беручы вельмі адносна, параўноўваючы з тым, што ў нас ёсць, а не з тым, што павінна ў нас быць.

Рэдакцыя «Полымя» падрыхтавала да друку цыкл антырэлігійных і антынацыяналістычных памфлетаў украінскага пісьменніка Ю. Мельнічука, якога сябры з пашанай, а ворагі з лютай нянавісцю называюць дастойным паслядоўнікам бліскучага публіцыста Я. Галана. Галана, як вядома, Пій XII адлучыў ад царквы, на што пісьменнік адказаў памфлетам «Плюю на папу!». Цяпер нашы ворагі за мяжой страшаць Мельнічука: «Пішы, пішы, будзе і табе, як Галану!..» А Мельнічук піша — памфлеты яго часта з'яўляюцца ў перыядычным друку, выходзяць брашурамі. Вострыя, трапныя, баявыя. Гэта, таварышы, подзвіг, гэта і сапраўдная літаратура. Чытаеш такое, і сорамна ад думкі: а дзе ж нашы, беларускія публіцысты? Няўжо, скажам для прыкладу, гэта найлепшая форма антырэлігійнай прапаганды — усе тыя нудныя і аднастайныя газетныя пропаведзі аб тым, як бабка Тэкля або састарэлы айцец Афанасій парвалі нарэшце з рэлігіяй?.. Праўда, у гэтым сэнсе і нашы Дамы культуры, клубы і бібліятэкі маглі б працаваць значна лепш, культурней, аднак давайце перш за ўсё гаварыць пра свой, пра наш пісьменніцкі абавязак. І не толькі, вядома, у справе барацьбы з рэлігіяй. Нямала ў нас і іншых перажыткаў.

Нам як паветра, як хлеб надзённы патрэбна актыўная, баявая, таленавітая, высокакультурная публіцыстыка. Нарысам, артыкулам, фельетонам, памфлетам мы, пісьменнікі, павінны перш за ўсё забяспечыць на-

шы часопісы, ажывіць нарэшце свой «ЛіМ», зрабіць, як людзі кажуць, смешным наш прэсна-сатырычны «Вожык». Мы павінны з усёй сур'ёзнасцю, з пачуццём высокага абавязку адгукнуцца на пастанову ЦК КПСС «Аб задачах партыйнай прапаганды ў сучасных умовах» — адгукнуцца дзейсным, зацікаўленым удзелам у партыйным і маладзёжным друку, на радыё і ў тэлебачанні.

Абавязак нялёгкі, але пачэсны і неадкладны.

Мінулы год быў колькасна багаты на празаічныя творы буйных жанраў.

Апублікаваны былі першыя кнігі раманаў І. Гурскага «Мір хацінам» і Ул. Карпава «Вясеннія ліўні». Першы з іх прысвечаны Кастрычніцкім падзеям у Беларусі, другі — адлюстраванню жыцця і працы мінскіх аўтазаводцаў. Тэмы, вядома, значныя, і кнігі могуць быць патрэбныя. Пры адной, зразумела, умове: калі яны будуць зроблены на належным майстэрскім узроўні. Ужо цяпер, пасля апублікавання ў перыёдыцы першых кніг гэтых раманаў, я не знаходжу пакуль што падстаў лічыць іх значнымі літаратурнымі з'явамі, беручы хоць бы адносна да нашай сучаснай беларускай эпікі. Няма, аднак, і належных падстаў, пакуль раманы не дапісаны, даваць ім закончаную ацэнку.

Аповесцей надрукавана было летась васемнаццаць. Першае месца сярод іх, на маю думку, займае «Агонь і снег».

Гэта, як вядома, трэцяя аповесць з тэтралогіі «Трывожнае шчасце», яшчэ адной кнігі І. Шамякіна, якую чытачы самі, без лішняй арганізуючай дапамогі, будуць ахвотна чытаць, жыва абмяркоўваць, многа хваліць. Аднак з усёй тэтралогіі я выбраў «Агонь і снег», хачу палажыць акцэнт на гэтай іменна аповесці таму, што толькі яе лічу сапраўднай аўтарскай удачай.

І. Шамякін увайшоў у нашу не толькі беларускую, але і ўсесаюзную літаратуру перш за ўсё як аўтар раманаў «Глыбокая плынь» і «Крыніцы». Апавяданні яго, на жаль, уступаюць па сіле гэтым раманам. Былі ў Шамякіна і пэўныя спады (раман «У добры час»), і некаторыя няўдачы (п'еса «Не верце цішыні»), сло-

вам — усё, як у добрых людзей. Прыемна, што наш таленавіты друг не супакойваецца на дасягнутым, многа працуе, хвалюецца, шукае. Аднак я не магу не сказаць, што паўтараць самога сябе і яму ўсё ж такі не варта.

Дзве з чатырох аповесцяў — «Начныя зарніцы» і «Пошукі сустрэчы» — я лічу запозненым водгуллем «Глыбокай плыні», перапяваннем самога сябе, што больш злосна называецца маршам на месцы. Калі «Начныя зарніцы», паўтараючы па сутнасці лепшыя старонкі «Глыбокай плыні», з'яўляюцца ўсё ж такі творам у пэўнай меры самастойным, мастацка закончаным, дык «Пошукі сустрэчы» — проста адпіска, зроблена «пад заслону», паўтарэнне ўжо не лепшага з «Глыбокай плыні», а якраз таго горшага, што даравальна было маладому ў свой час аўтару. Гэта — наіўнае ўра-прыгодніцтва на самай мяжы таннай фантастыкі, свавольнае коўзанне па паверхні суровай героікі ўсенароднай барацьбы з фашызмам, пра якую Шамякін умеў гаварыць з зайздроснай задушэўнасцю і строгасцю ўжо не два і не пяць, а больш дзесяці гадоў таму назад. Дык на каго ж разлічаны гэтыя самапаўторы са зрывамі — на неперабарлівага аматара так званай лёгкай, займальнай літаратуры ці на таго сур'ёзнага чытача, які даруе любімаму аўтару многае? Навошта Шамякіну дарма і самахоць зніжаць свой палёт?..

Адчуваць такое асабліва прыкра, калі, прачытаўшы ўсю тэтралогію, вяртаешся думкай да сапраўды добрай аповесці «Агонь і снег».

Калі першая ў цыкле аповесць «Непаўторная вясна» — проста твор даволі свежы і прыемны, дык «Агонь і снег», на маю думку,— поспех Шамякіна, новы і значны якасны скачок у яго пісьменніцкім станаўленні. Сваім уласным голасам, нікога не пераймаючы, бо вучоба — не пераймание, беларускі празаік загаварыў пра Айчынную вайну так, як можна гаварыць пасля XX з'езда партыі,— па-новаму, па-сучаснаму, больш смела і праўдзіва. Шамякін паказаў нам, што ён умее пісаць не толькі займальна, але і глыбока, што ён, лепш за многіх з нас валодаючы сюжэтам, умее даць сваму герою і падумаць, і паразважаць пра жыццё, адчуць у ім прыгожае і паганае значна глыбей, чым ён, шамякінскі герой, рабіў гэта раней. І мне нават не хочацца лішне спыняцца на адным, даволі істотным,

недахопе аповесці — маю на ўвазе ханжаскую «чысціню» Петруся ў адносінах да «грэшніцы» Антаніны; не хочацца думаць пра гэта, бо Пятрусь Шапятовіч устаў перада мною як наш абаяльны сучаснік, жывы і змястоўны малады савецкі чалавек. Пры яго актыўным удзеле была выйграна ўсенародная бітва з фашызмам, мадноўлена знявечаная вайной зямля, закінуты на Месяц наш горды савецкі вымпел. Усё гэта мне бачыцца і ў тэксце і ў падтэксце гэтай яркай, сучаснай аповесці.

Найбольш прыкметнымі па спалучэнню значнасці, сучаснасці зместу з майстэрствам пасля шамякінскай аповесці мне здаюцца аповесці А. Карпюка «Данута», А. Рылько «Мядовыя краскі», І. Пташнікава «Не па дарозе».

Для прыхільнікаў вузкага, спрошчанага падыходу да сучаснай тэмы мая ацэнка ў паасобных выпадках можа паказацца суб'ектыўнай ці нават парадаксальнай. «Ну, можна яшчэ зрабіць скідку Шамякіну, назваць яго ваенную аповесць творам сучасным. Але як жа называць такім творам аповесць Карпюка, дзеянне якой пачынаецца яшчэ перад вайной?..»

Я лічу, аднак, што герой «Дануты», Янка Барташэвіч,— гэта своеасаблівы вобраз нашага сучасніка, ярка і свежа паказаны ў развіцці. Ад наіўнага юнака, які разам з усім прыгнечаным насельніцтвам былой Заходняй Беларусі, імкнецца чыстым і палкім сэрцам на родны савецкі Усход, праз гады суровай партызанскай барацьбы аўтар вядзе свайго Барташэвіча да нашых дзён, калі гэты яго сімпатычны герой разам з намі хвалюецца, працуе, любіць. Нягледзячы на некаторыя недахопы, якія Карпюк, трэба думаць, выправіць пры далейшай рабоце над творам, аповесць «Данута», калі меркаваць па прыватных гутарках, многім падабаецца. А вось крытыка маўчыць пра яе чамусьці вельмі дружна і незразумела...

Аповесць А. Рылько «Мядовыя краскі» напісана для дзяцей. Займальна, з цёплай усмешкай. На матэрыяле, я сказаў бы, цяжкім. Хлопчык пазнае жыццё, вучыцца любіць працу, шанаваць добрых і ненавідзець шкодных людзей, захопленымі вачыма чытаць чароўную кнігу роднай прыроды. Ніякіх асаблівых падзей у аповесці не адбываецца, а чытаць яе цікава. Такога дамагчыся нялёгка. А. Рылько неабходна толькі піль-

ней сачыць за прастатой сваёй мовы — не сюсюкаць, падрабляючыся пад малога чытача, што аўтар робіць даволі часта.

Жывой мовай, з глыбокім пранікненнем у псіхалогію герояў напісана аповесць І. Пташнікава «Не па дарозе», твор пра маральную чысціню савецкага чалавека, пра яго гаспадарскае стаўленне да народных багаццяў як да свайго кроўнага, за што ён змагаецца з уласніцкімі перажыткамі ў сабе і ў іншых.

...Пачынаючы з аповесці Б. Бур'яна, я хацеў бы сказаць некалькі слоў пра два найбольш значныя недахопы ў леташняй працы нашых празаікаў.

Пра што б мы ні пісалі — неабходна памятаць пра тое галоўнае ў нашай творчасці, што М. Горкі называў чалавеказнаўствам. Без гэтага сапраўднай творчасці няма.

Дык вось у нас, па-мойму, часта вельмі блага выглядае справа з гэтай першаасновай творчай працы. Героі нашы бываюць не зусім падобныя да жывых людзей, а паводзіны іх выклікаюць недаўменне сваёй надуманасцю.

У новым творы Б. Бур'яна «Твая аповесць» усё было б, здаецца, нядрэнна, калі б аўтар змог пераканаўча паказаць галоўнае — чалавека. Героі яго, Кірыл і Ліда, кахалі адно аднаго з маленства. Потым яны чамусьці — іменна чамусьці — разышліся... Чытаеш і думаеш: відаць, толькі таму іх аўтар разлучыў, каб праз пятнаццаць год наладзіць ім рамантычную сустрэчу. Вы, дарагія, паўздыхайце над сваімі дзіўнымі паводзінамі, а я напішу пра гэта аповесць з вострай інтрыгай. Гэта таксама коўзанне па паверхні з'яў, у той час калі пранікненне ў іх сутнасць здаўна лічылася прадметам сапраўднага мастацтва.

Аўтар аповесці «Паплавы» А. Асіпенка прымусіў сваю гераіню, заатэхніка Веру, рабіць цэлы шэраг ненатуральных і таму неверагодных учынкаў, якія, у выніку, разбураюць гэты вобраз з сярэдзіны. Дзяўчына выходзіць замуж за пажылога чалавека і толькі пасля загса паўстае на абарону свае дзявочай чысціні, пераканаўшыся, што яна свайго мужа зусім не кахае. Пасля з'яўляецца другі, які таксама не пранікае ў яе душу. Прыехаўшы на працу ў калгас, яна пазнае ў адным лайдаку ды шаптуну свайго роднага бацьку, які зла-

чынна пакінуў яе малым дзіцем. Пазнае, але, па цвёрдаму загаду аўтара, не гаворыць пра гэта нават сама з сабой. Для большай займальнасці аўтар пакідае гэтую таямніцу да канца аповесці ў надзеі на нейкі сюжэтны выбух, які павінен асвятліць усю музыку цудадзейным рэтраспектыўным святлом, асвятліць і звязаць у нешта цэлае, адно. Выйсці замуж, разысціся, палюбіць, разлюбіць, зноў палюбіць, ужо трэцяга за пяць год нявесцінага стажу, сустрэць бацьку-злачынцу і не прызнацца ў гэтым ні яму, ні сабе — усё гэта, на думку аўтара, нібыта нават з'явы чыста знешняга парадку. Калі ж не, калі ты так не лічыш, калі ты ўзяўся за такое ворыва, дык думай, браток, які будзе з гэтага хлеб. Нагнятанне фальшу не абышлося без пакарання: аповесць, калі яе дачытаеш і азірнешся, рассыпаецца без усякага выбуху, як кубікі,— ляцяць ва ўсе бакі і людзі, і каровы, і бітоны...

Такая ж бяда атрымалася ў аповесці П. Васілеўскага «Первопуток».

Трагікамедыя разгортваецца тут з калейдаскапічнай пацешнасцю.

Два ўрачы, Ніна і Юрый, сыходзяцца. Два інжынеры, Вера і Сяргей, таксама. Здаецца, што абедзве пары пажаніліся па любві. Але за Юрыем страляе пустышка Алачка, а за Верай — станоўчы Віктар. Пасля Сяргей захворвае на рак. Ніна аперыруе Сяргея і адначасова ўлюбляецца ў яго. Бо яна, аказваецца, ужо не любіць свайго Юрыя, які тым часам ператварыўся нейкім чынам у пашляка. Сяргеева жонка Вера, спалохаўшыся яго хваробы, схіляецца да Віктара. Ніна з Юрыем разыходзяцца. Алачка не прымае Юрыя, і ён вяртаецца да мамы. Сяргей пачынае папраўляцца; ён выходзіць на бальнічны двор, а Ніна закахана любуецца ім праз акно... На гэтым калейдаскоп перастае круціцца. Наплывам з'яўляецца вобраз аўтара, які, злёгку збянтэжана ўсміхаючыся, гаворыць: «Все смешалось в доме Облонских». Што ж, бывае, дарагі чытач!..»

Бывае, хочацца сказаць яму, ды не павінна быць! Людзі не кубікі, людзьмі гуляць у літаратуры нельга. Яны павінны жыць, а мы павінны іх ведаць.

«Пісьменнік павінен шмат працаваць, але не павінен спяшацца». З гэтай бясспрэчнай ісцінай уступілі ў канфлікт аўтары трох леташніх аповесцей — «Каралін-

цы», «Дома» і «З табою побач»,— аповесцей, якія маглі б стаць куды больш значнымі, але не сталі такімі з-за аўтарскай спешкі.

Аповесць «Каралінцы» магла быць зроблена куды лепш, калі б Р. Сабаленка прылажыў да яе руку пасапраўднаму, як да сваёй, скажам, аповесці «Юнацтва ў дарозе». Не было б тады ў «Каралінцах» і столькі ўжо знаёмага па іншых творах; столькі «развесистой клюквы», накшталт службовых тэлефонаў у заходнебеларускіх солтысаў; не было б і такіх «мастацкіх дэталяў», як залаты зуб у камуніста-падпольшчыка, якога мы па гэтым зубе ў асноўным і запамінаем; не было б і іншых недахопаў і промахаў, якія ў цэлым вельмі збядняюць гэты твор.

Цікава задуманая і добра пачатая аповесць «Дома» не была б такой рыхлай па кампазіцыі, вялай па сюжэту, няроўнай па абмалёўцы вобразаў, калі б А. Кулакоўскі больш грунтоўна вывучыў тыя абставіны, у якіх жывуць і дзейнічаюць яго героі, у прыватнасці — будаўнікі Салігорскага камбіната.

Па-чалавечы, па-сяброўску няцяжка зразумець гэтых таварышаў.

Р. Сабаленка толькі нядаўна шчасліва знайшоў самога сябе ў жанры прозы і хоча цяпер, зусім зразумела, зрабіць найбольш. А Кулакоўскі пасля здарэння з «Дабрасельцамі» хацеў як мага хутчэй выступіць з новым творам...

Ад душы жадаючы гэтым таварышам як найбольшай удачы, нельга ім не напомніць, што поспех не ходзіць у пары са спешкай.

Адзін з нашых слаўных сучаснікаў, Кірыла Арлоўскі, паслужыў прататыпам для даволі цікавага вобраза старшыні калгаса Сыча ў рамане М. Паслядовіча «Святло над Ліпскам». Не задаволіўшыся гэтай удачай, М. Паслядовіч напісаў аповесць «З табою побач» і адначасна нарыс «Мяцежнае сэрца». Творы гэтыя, калі пакарыстацца параўнаннем М. Рыльскага, падобныя адзін на аднаго, як літр на паўлітра. Адлюстроўваючы цікавыя моманты біяграфіі К. Арлоўскага ў больш сціслай форме, нарыс нагадвае добрасумленны і сухаваты аўтарэферат аповесці, якая, у сваю чаргу, нагадвае вельмі расцягнуты і дрэнна скампанаваны нарыс.

Пачата аповесць прыстойна, згодна з патрабаван-

нямі жанру. Аднак толькі пачата. Потым адзін, як здавалася, сталы герой, новы сакратар райкома Шынкевіч, прыязджае ў калгас, дзе старшынёй Тарлоўскі, і задае сам сабе пытане: «А хто ж ён такі, гэты старшыня?» Задае і ўцякае са старонак аповесці назаўсёды, выкарыстаны аўтарам у якасці падстаўнога крыжня. Тады пачынаецца белетрызацыя біяграфіі героя, паспешлівая і даволі-такі лёгкая. Месцамі гэта проста рытарычная публіцыстыка, якая грэшыць няведаннем гістарычных фактаў. Партызанская барацьба працоўных з санацыяй была, як вядома, характэрнай толькі для першай палавіны дваццатых гадоў, а ў Паслядовіча яго міфічныя Пчала і Чмель бушавалі па былой Польшчы да самага верасня трыццаць дзевятага года. Сусветна вядомы канцлагер Картуз-Бяроза арганізаваны быў не адразу пасля акупацыі Заходняй Беларусі пілсудчыкамі, а толькі ў 1934 годзе. «Афіцэры дэфензівы» не маглі пераапранацца ў цывільнае, бо шпікі, як вядома, не носяць формы, а тым больш яшчэ, як сцвярджае аўтар, з «зіхотнымі пагонамі». Ёсць і яшчэ шмат чаго не менш наіўнага. Іспанскі перыяд жыцця Арлоўскага даваў многа прастору для творчай фантазіі, аднак Паслядовіч для большай зручнасці замяніў Іспанію кактэбельскім пляжам, дзе слаўная барацьба рэспубліканцаў падаецца ў плане сухіх, таропкіх успамінаў. Параўнальна найлепш зроблены партызанскі перыяд. А зусім дрэнна, проста наспех і скроены і пашыты перыяд пасляваенны, калгасны, дзе аўтар, па сутнасці, паўтарае ў горшым варыянце свой раман «Святло над Ліпскам».

М. Горкі сказаў: «Рашаючую роль у рабоце іграе не заўсёды матэрыял, але заўсёды майстар». Кіруючыся той бясспрэчнай ісцінай, што гераічныя характары патрабуюць дастойнага мастацкага ўвасаблення, трэба сказаць, што з вобразам К. Арлоўскага ў аповесці М. Паслядовіч не справіўся. Ён ужо вопытны майстар, і яму не да твару такая хапатлівасць і неахайнасць у працы.

У заключэнне — некалькі слоў пра сціпласць.

«Самая характэрная якасць бяздарнага пісьменніка,— гаварыў А. Чэхаў,— заключаецца ў тым, што ён трымаецца надзьмута і пыхліва, як першасвяшчэннік».

Першасвяшчэннікі — катэгорыя, як вядома, не сучасная, і займацца іх гадоўляй ды штучным падкармліваннем — справа ў наш час несур'ёзная.

Трымаючыся сваёй тэмы, не магу не сказаць, што не варта нам і не трэба ствараць лішняга шуму вакол любой рэчы, напісанай «на сучасную тэму». Гэты шум дрэнна памагае правільнаму выхаванню нашай творчай моладзі, а таксама, спрыяючы росквіту халтуры, расчароўвае і адпалохвае ад нашай літаратуры чытача, у якога добра выхаваны або проста здаровы густ. Такому чытачу мы даволі часта стараемся ўнушыць, што добры твор — не проста добры твор, а пасрэдны — не проста пасрэдны, але, паколькі твор гэты напісаны на матэрыяле самым блізкім да нашага часу,— ён ледзь не эталон, узор сапраўднай літаратуры. Мы забываемся пры гэтым, што ў нас не толькі шматлікі, але і вялікі савецкі чытач, які, перш чым дабрацца да нас, чытаў Талстога і Дзікенса, Дастаеўскага і Сервантэса, Чэхава і Флабэра... Мы як быццам не памятаем, што ў адзін час з намі пішуць Шолахаў і Рыльскі, Паўстоўскі і Упіт, што кожны год прыносіць нам усё новыя імёны ўдзельнікаў і пераможцаў высакароднага спаборніцтва вялікай арміі стваральнікаў савецкай літаратуры.

Не будзем жа забывацца пра наша даволі сціплае — асабліва па прозе — месца ў гэтым усесаюзным спаборніцтве, не будзем так шчодра чапляць адзін на аднаго ўяўныя лаўровыя вянкі, даваць адзін аднаму то поўную індульгенцыю, то дзевяностапяціпрацэнтную скідку на значнасць тэмы, на нядрэнную арыентацыю ў матэрыяле, на творчую маладосць і на заслужаную сталасць.

Да твораў на тэмы нашай сучаснасці трэба падыходзіць з усёй прынцыповасцю, агульнаю для ўсіх работнікаў літаратурнага фронту. «Чым больш сур'ёзнае значэнне матэрыялу, тым больш строгай, дакладнай формы ён патрабуе,— мне здаецца, што гэта даўно пара зразумець». Так гаварыў вялікі Горкі.

Мнагавата шуму было ў нас, напрыклад, вакол раманаў Шамякіна «Крыніцы», Броўкі «Калі зліваюцца рэкі», Хадкевіча «Даль палявая», Карпава «За годам год», Дадзіёмава «Над Нёманам». Кожны з гэтых, вельмі розных па мастацкай значнасці, твораў мае свае

станоўчыя якасці, але ж бясспрэчна мае і свае недахопы. Аднак у нас — і ў друку, і з трыбуны — няшмат было спроб падысці да гэтых раманаў з адной для ўсіх нас, пісьменнікаў, меркай майстэрства. Больш модна было гаварыць пра іх аднолькава высокім тонам. Такое становішча з ацэнкамі оптам, абоймамі, нездаровае. Так толькі ў нас у мястэчках раней гандлявалі гаршкамі: «у тры насыпаць жыта, а два прыставіць пустыя».

Пакуль мы будзем абменьвацца сур'ёзнымі думкамі толькі на сяброўскіх сустрэчах, а на сходах будзем у крывадушным ці баязлівым маўчанні адбіваць паклоны перад нашымі першымі і адноснымі ўдачамі, датуль і будзе ў нас працягвацца даволі нездаровае становішча з узроўнем пісанай і няпісанай крытыкі. Смелае, прынцыповае слова будзе ўспрымацца некаторымі таварышамі як асабістая абраза, як замах на ўсю літаратуру. На старонках часопісаў і газет, нібы знарок ствараючы патрэбны для трохі лепшай прадукцыі шэранькі фон, будуць з'яўляцца сырыя, недапрацаваныя або проста бяздарныя творы накшталт так званых індустрыяльных аповесцей П. Валкадаева («Разлив»), Ул. Шыцікa («Назаўсёды»), Г. Сапрыка («Калі ў сэрцы вясна»), накшталт многіх занудлівых нарысаў, прыдуркаватых тэкстаў для песень, рахітычных аднаактовак і іншай бяздушнай, антымастацкай прадукцыі, якая часта засланяецца ад сонца крытыкі шчытком з вялікім надпісам: «Вельмі патрэбная тэма». Спекулюючы на гэтай тэме, які-небудзь кан'юнктуршчык, яшчэ толькі пачаўшы раман ці аповесць пра найбольш модную ў даны час новабудоўлю, будзе хітранька ўсміхацца з поўнай надзеяй, што — як бы ён ні падняў сучасную тэму — будзе яму і карона, няхай сабе з кардону, але блішчастая, будзе яму і карова, няхай сабе і незаслужаная, але шчодрая да ганарарнага малака.

Мнагавата шуму было таксама ўзнята намі мінулай вясной вакол творчых камандзіровак. Карціна поўнага зліцця літаратараў з новабудоўлямі, заводамі, калгасамі, наогул з жыццём створана была ў друку і па радыё даволі эфектная, а вынік атрымаўся не вельмі бліскучы. Трохі вершаў ды трохі нарысаў. Прытым якраз больш поспехаў прыпадае на долю тых пісьменнікаў, пра самаахвярнасць якіх мы найменш гаварылі.

А ў некаторых таварышаў і дэкларацыі былі летась

залішне звонкія, і поза ледзь не на фоне космасу, і апломб даволі пацешны. Пры нашай калектыўнай дапамозе. І мы стараемся, і газета наша таксама стараецца. Яна ў нас можа, напрыклад, звычайную паездку пісьменніка ў раён, на абмеркаванне яго ўласнай кнігі,ператварыць на сваіх старонках у нейкі трыумфальны архірэйскі выезд усенароднага значэння. А ўжо калі той пісьменнік выберацца куды-небудзь з творчай мэтай, «збіраць матэрыял», ды ўмее пра гэта своечасова намякнуць — «ЛіМ» наш яго распіша!..

Тут нам, калі гаварыць пра будучую вясну, пра нашы — вельмі неабходныя — паездкі ў людзі, варта зрабіць невялічкую змену ў парадку інфармавання. Давайце не будзем паўтараць паводзін тых герояў Ганчарова, што на пальчыках хадзілі вакол абломаўскага дома ды шыкалі адзін на аднаго: «ці-ха-а, барын пішуць!..» Давайце не будзем спяшацца паведамляць, што вось ён, таварыш Ікс, збіраецца на энскую навабудоўлю ці ў шэраг перадавых калгасаў, каб напісаць паэму ці раман, што вось ён вырушыў ужо, схаваўся за даляглядам, пачаў абдумваць першы ўрывак!.. З пункту гледжання эканоміі паперы і чытацкіх нерваў куды прасцей і лепш будзе крышку пазней паведаміць, што таварыш Ікс дзесьці быў, штосьці бачыў, і вось мы друкуем яго новы цікавы твор.

Сказаць, што мы шумелі на творчых секцыях,— нельга. Тут якраз панавала апошнім часам, да самых перавыбараў кіраўніцтва, даволі загадкавая цішыня. Як быццам нават нехта вось-вось скажа: «А навошта нам збірацца, навошта спрачацца пра якасць, вырашаць нейкія праблемы, калі ў нас і так усё ў поўным парадку!..» Такога, богу дзякаваць, пакуль што не чуваць. Затое чуюцца часамі неўрастэнічныя выгукі пратэсту супроць больш-менш удалай пародыі, эпіграмы, крытычнай рэплікі, якія сталі чамусьці вельмі рэдкімі і нясмелымі гасцямі на старонках нашых перыядычных выданняў. Чуліся нават празрыста-лірычныя фразы аб «росквіце беларускай сучаснай манументальнай прозы». Гаворыцца нават і аб тым, што мы недастаткова шчодра ды смела вылучаем адзін аднаго на прэміі. А большасць нашых рэцэнзій? Фанфары і феерверкі! Чаго варта толькі канцовачка: «Аднак, нягледзячы на гэтыя нязначныя (ці значныя) недахопы, твор нашага

(ці майго) таварыша з'яўляецца пэўным (калі малады) або бясспрэчным (калі старэйшы) крокам наперад, укладам у нашу літаратуру, падарункам удзячнаму чытачу...»

Такі вось вывад бывае ў пераважнай большасці нашых рэцэнзій, вывад стандартны, нудны і шкодны.

Вельмі карысна было б часцей, чым мы гэта робім, уяўляць нашы поспехі на фоне ўсёй савецкай літаратуры, часцей думаць пра нашых геніяльных настаўнікаў.

Згадаем словы Бальзака, якімі ён пачынае сваю «Чалавечую камедыю»:

«Малая колькасць твораў жывіць вялікае самалюбства, вялікая праца ўнушае сціпласць». Гаворачы далей пра той прыклад сціпласці, нездаволенасці сабой, які давалі яму Карнель, Мальер і іншыя вялікія аўтары, Бальзак робіць натуральны і мудры вывад: «Калі немагчыма зраўняцца з імі ў іх цудоўных творах, дык цалкам дапушчальна жаданне быць падобнымі да іх у гэтым пачуцці».

На ўвазе мае ён пачуццё сціпласці, якой нам ёсць у каго вучыцца — і ў людзях, і дома.

*1960*

# З ЧУЖОЙ ПАДВАРОТНІ[1]

Ёсць краіна, імя якой — Беларусь — мы вымаўляем з сыноўняй гордасцю, з хваляваннем закаханага юнака. Краіна сініх азёр і чыстых, прывольных рэк, шумлівых лясоў і палёў, пазалочаных буйным калоссем, пафарбаваных у колер неба льнамі. Краіна магутных заводаў, прыгожых гарадоў, заможных калгасных паселішч. Свабодная, працавітая, мужная Беларусь.

Ёсць беларускі народ — стваральнік шчодрага хлеба, разумных машын, светлых палацаў, сардэчных песень, таленавітых кніг. У дні апошняй вайны больш за мільён сыноў і дачок гэтага народа змагаліся супраць фашызму на франтах, каля чатырохсот пяцідзесяці тысяч у партызанскіх атрадах і ў падполлі. Ціхі, сціплы, міралюбівы народ паказаў усяму свету, на што ён здольны, калі вораг падніме руку на яго жыццё.

У тыя жудасныя дні, калі рэспубліка наша была часова акупавана гітлераўцамі, на іх паслугах мітусілася нікчэмная жменька здраднікаў радзімы. Улетку сорак чацвёртага года высокая хваля народнага гневу змыла гэтую пошасць з нашай зямлі, разам з іх крывавымі панамі і натхніцелямі.

Ды лакеі знайшлі сабе новых паноў, новых натхніцеляў на цёмныя справы. Рукамі, заплямленымі крывёю землякоў, некаторыя з гэтых істотаў зноў узяліся за свае пёры, і тым самым чарнілам, якім служылі Гітлеру, пачалі адрабляць за сачавічную поліўку з новага катла.

Сабака брэша — вецер носіць, кажа народная муд-

[1] Напісана для газеты «Голас Радзімы».

расць. Я не чапаў бы ні гэтых сабак, ні падваротні, з-пад якой яны сёння абрэхваюць сваю даўно і тройчы здраджаную імі радзіму, не чапаў бы, каб справа датычыла толькі мяне асабіста. Бо што мне, былому партызану, савецкаму пісьменніку да таго, як брэша на мяне былы фашысцкі бургамістр, што стаў нядаўна дробным гангстэрам пяра. Крыўдна толькі, што пісаніну яго чытаюць за мяжою і нашы сумленныя суайчыннікі, што каму-небудзь з іх мана прадажнага пісакі можа паказацца праўдай...

У мюнхенскай «Бацькаўшчыне» (№ 12 за 1960 г.) надрукаваны артыкул Ст. Крушыніча «Пад цяжарам партыйнага ціску...». Ст. Крушыніч — гэта адзін са шматлікіх псеўданімаў, ці, лепш сказаць, адна з тых гангстэрскіх масак, якімі карыстаецца, выходзячы на промысел, той самы пан, спадар і, нарэшце, містар Станіслаў Станкевіч, які даўно зрабіў сваёй прафесіяй здраду.

У названым артыкуле Ст. Крушыніч каменціруе мой даклад на пленуме Саюза пісьменнікаў БССР, які адбыўся ў лютым гэтага года.

Прылады працы, як вядома, зношваюцца на рабоце. Знасіўся на сваёй «рабоце» і Стась Станкевіч — прылада, якой карысталася многа гаспадароў. Прычым карысталіся яны, трэба сказаць, без асаблівай беражлівасці. Да таго знасіўся, што і маніць ужо больш-менш гладка не можа. Дайшоў да дробнага, смешнага падтасоўвання.

Пра пленум наш Крушыніч піша так: «Ён паказаў і афіцыйна пацвердзіў вялікі заняпад беларускай савецкай літаратуры». А пра даклад мой, вядома, у тым жа духу: даклад гэты, маўляў, у цэлым сцвярджае, «што беларуская савецкая літаратура, стаўшы ўсяцэла на службу... «вялікім ідэям» партыі, згубіла і тое «высокае майстэрства», якім дагэтуль вызначалася».

Поўнага тэксту даклада, піша Крушыніч, «не апублікавала савецкая прэса, і мы вымушаны карыстацца толькі ягоным пераказам і паасобнымі ўрыкаўкамі, якія надрукавала газета «Літаратура і мастацтва» 24 лютага сёлета. Але і гэтага дастаткова...»

Пачнём з фактычнай даведкі. Даклад мой, пад назвай «Пісьменнік і сучаснасць», надрукаваны поўнасцю ў часопісе «Полымя» № 4 за 1960 год. Глыбакадумны

намёк на тое, што гэта быў нейкі незвычайны даклад пра нейкае незвычайнае становішча ў беларускай літаратуры — адпадае. У дакладзе вялася гутарка пра дасягненні і недахопы нашай літаратуры ў адным толькі 1959 годзе. Як найбольш удалыя, адзначаліся творы дваццаці паэтаў, семнаццаці празаікаў і трох крытыкаў, у цэлым — сарака аўтараў. Нават у газетнай справаздачы пра пленум, надрукаванай у «Літаратуры і мастацтве», усе гэтыя аўтары і творы названы, таксама як названы і тыя творы, што, на думку дакладчыка, або недастаткова дапрацаваныя, або проста слабыя. Ацэнкі дакладчыка, як станоўчага, так і адмоўнага характару, у той ці іншай меры аспрэчваліся ўдзельнікамі пленума, ніхто не лічыў іх афіцыйнымі. Словам — звычайны даклад, якія ў нас штогоду робяцца на пленумах, пераказваюцца ў газетах ці поўнасцю друкуюцца ў часопісе. Звычайная, творчая, дзелавая размова, у якой мы па-гаспадарску радуемся сваім дасягненням і асуджаем недахопы.

А вось «каментатар» Крушыніч хацеў бы бачыць усё інакш. Перш за ўсё ён, вядома ж, бярэцца за недахопы, пра іх гаворыць з асаблівым смакам, як не гавораць у такіх выпадках ні сябры, ні аб'ектыўныя назіральнікі. Значныя дасягненні беларускай паэзіі, што былі і ў мінулым годзе, ён намагаецца закрыць некаторымі яе недахопамі, забыўшыся, што адзін з яго не менш вучоных папярэднікаў ужо намагаўся аднойчы закрыць вушамі сонца. А вось што гаворыць ён пра нашу прозу: «Гэтак нецікава стаіць справа з мастацкім апавяданнем. Што ж датычыцца буйнейшых твораў мастацкай прозы — повесцей і раманаў, дык іх у мінулым годзе не было зусім. І гэта нягледзячы на тое, што ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі налічваецца звыш сямідзесяці празаікаў!»

Пра тое, што летась у нас было адносна малавата высокамастацкіх апавяданняў, я гаварыў, маючы на ўвазе празмернае, на маю думку, захапленне маіх калегаў-празаікаў так званым манументалізмам — аповесцямі і раманамі. А іх, раманаў ды аповесцей, летась у нас было апублікавана толькі ў перыёдыцы дваццаць. Пра гэта выразна сказана ў той жа газетнай справаздачы, якой карыстаўся Крушыніч. Там жа сказана таксама, што празаічная секцыя налічвае больш

за шэсцьдзесят членаў. Пад пяром Крушыніча празаікаў пабольшала толькі на дзесяць чалавек, затое колькасць раманаў і аповесцей з дваццаці зведзена ім да нуля... Вось на якой арыфметыцы грунтуюцца яго вывады. Ды што яму...

Зрэшты, і я не такі ўжо наіўны, каб апеліраваць да сумлення дробнага шулера ад журналістыкі. Ужо дастаткова даўно і многім вядома, што ён ненавідзіць і нас, беларускіх савецкіх пісьменнікаў, і літаратуру, якую мы маем гонар ствараць, і ўсё святое, чаму мы натхнёна служым. Нянавісць гэтая — нянавісць аднаго з буйнейшых у яго асяроддзі «вучоных», «тэарэтыкаў», «мужоў даверу» — паступова і заканамерна перарастае ў бяссільную злосць, бяззубае шамканне з трупным смуродам. Што ж, брэх сабачы вецер носіць. Калі ж гэты састарэлы ды апаршывелы званар з чужых падваротняў яшчэ ўсё лічыць сябе не сабакам, а воўкам, сілай больш унушальнай і грознай,— я дазволю сабе прыгадаць яшчэ адну прыказку. Яна па-народнаму грубаватая, аднак падыходзіць удала. «Няма чым воўку с..., дык ён лыкам». І кропка. А колькі на лыку працягнеш — у гэтым хай разбіраюцца самі ваўкі.

Дарагія суайчыннікі, дарагія нашы сябры за мяжой, сумленныя сыны і дочкі роднай Беларусі! І я, як многія з маіх таварышаў, што выступалі, выступаюць і будуць выступаць на старонках газеты «Голас Радзімы», і я хацеў бы, каб вы ведалі нашых з вамі агульных ворагаў — і вялікіх, і меншых, і самых нікчэмных. Крушынічаў з іх «Бацькаўшчынай» мы, беларусы, лічым вельмі нікчэмнай, але ж і даволі смярдзючай памыйніцай, якая дарма і смешна намагаецца давесці, што патыхае не простаю здрадай, а нейкім адмысловым «водарам свабоды»... Памятайце пра гэта, калі ў вашы рукі часамі трапіць іх прадажны, хлуслівы газетны шматок.

*1960*

# ЗАПАВЕТНАЯ ПЕСНЯ

Гэта будзе, відаць, не рэцэнзія, а проста сяброўскі водгук на з'яву, якую без перабольшання можна назваць цікавай і радаснай.

Часопіс «Полымя» апублікаваў новы раман Івана Мележа са сціплай, можа, нават не зусім удалай назвай — «Людзі на балоце».

У гэтым творы — многае ад сапраўднага мастацтва, ад сапраўднай прозы, па якой сумуе наш чытач.

Парушаючы крытычныя традыцыі, можна не праз славутае фінальнае «аднак», а адразу сказаць, што ў рамане ёсць і недахопы, якія, бясспрэчна, будуць заўважаны і рэцэнзентамі і чытачамі.

Каб не быць галаслоўным, скажу перш за ўсё пра адну, даволі-такі нясмачна, вяла і прэсна расцягнутую сцэну — сход сялян-куранёўцаў з нейкай бясконцай гутаркай пра тое, рабіць ці не рабіць ім на балоце грэблю. Праўда, такая няўдалая сцэна ў рамане адна, але ж таму яна і заўважаецца ў густа і спраўна сабранай тканіне расказа.

Другім недахопам я лічу неапраўдана засушаную і скамечаную сцэну пасля вяселля. Яна патрабуе такога ж і яшчэ большага псіхалагічнага напаўнення, драматычнай напружанасці, якія ёсць у іншых любоўных сцэнах рамана. Мілая і задорная Ганначка, па страшнаму закону беднасці і цемры адарваная ад любімага і выдадзеная за кулака і хама, амаль вылюдка, вельмі ж неадпаведна свайму характару, незразумела пакорліва, нават без натуральнай агіды прымае свой лёс, нібы між іншым аддаецца чалавеку, які нядаўна намагаўся яе груба згвалтаваць, якога яна не магла так хутка перастаць ненавідзець. У гэтай сцэне аўтар ча-

мусьці здрадзіў сабе, як быццам спалохаўся магчымага (каб жа толькі магчымага!..) бурчання крытыка-ханжы. Дарэмна!

Можна сказаць і пра такія недахопы: Канаплянка, найшчырэйшая сяброўка Ганны, не толькі была закахана ў яе жаніха, але і нялюдска пакрыўджана ім, аднак яна нават і для прыліку не зазлавала ў рамане на здрадніцу-сяброўку. Вельмі добра «выведзен на сцэну» Васілёў маленькі брат Валодзька, але пасля, амаль да Ганнінага вяселля, якім канчаецца кніга, аўтар не па-гаспадарску скупа напамінае пра хлопчыка, нібы толькі для памяці рэгіструючы яго прысутнасць у запасе. Цікава пачатае будаўніцтва грэблі (само будаўніцтва, не сход), першая ластаўка калектыўнай працы, і добрае наша знаёмства з Міканорам амаль у самым пачатку рамана загадкава павісае ў паветры такою сабе даўно знаёмай вытворчай сцэнай з добрымі намерамі. Канец рамана — заканчэнне пабудовы грэблі — напісаны, на жаль, з нейкай дзяжурнай паспешлівасцю.

Ёсць пэўныя пралікі і ў добрым, сакавітым палешуцкім дыялогу: часамі той ці іншы з персанажаў возьме ды й загаворыць чамусьці не за самога сябе, а за аўтара.

Ёсць і іншыя, яшчэ драбнейшыя недахопы. Я не хачу займацца іх публічным пералікам не толькі таму, што маю магчымасць пагаварыць пра гэта з аўтарам асабіста, але і па той яшчэ прычыне, што мне больш за ўсё хочацца гэтым сваім выступленнем сказаць:

У савецкай літаратуры, сябры, з'явіўся яшчэ адзін добры раман!

У рамане гэтым дзейнічаюць героі з выразна акрэсленымі, жывымі, паўнакроўнымі характарамі. Людзі гэтыя не выконваюць па загаду аўтара нейкія глыбокаідэйныя і высокамастацкія ролі, а іменна жывуць, у чым я, чытач, не сумняваюся ад пачатку і да апошняй старонкі. І гэта — першая прычына майго задавальнення.

Юнак Васіль з яго бядняцкай тугой па зямлі, з яго народнай любасцю да працы. Ганна, што ў дзікаватай і мілай прастаце сваёй нагадвае прыгожую і калючую кветку палескай шыпшыны. Яўхім, па меншай меры соты ў літаратуры кулацкі сын, у Мележа зноў-такі свой, арыгінальны. Цудоўныя вобразы Васілёвай маці

і Ганнінага бацькі напісаны не толькі вопытнай рукой, але і чулым, разумным сэрцам. Жывыя, кожны пасвойму цікавыя вобразы — дэмабілізаваны чырвонаармеец Міканор, міліцыянер Шабета, стары кулак Корч, Ганніна мачаха, вясёлы бядняк Зайчык, актывіст Грыбок, Хадоська, старшыня сельсавета Дубадзел, старая Сарока, упаўнаважаны з воласці Зубрыч, ляснік Міця... Цэлая вёска, амаль цэлая воласць палешукоў, і старасвецкіх яшчэ, і ўжо разбуджаных да новага жыцця Савецкай уладай.

Добра паказана ў рамане праца. Людзі там, праўда, вялікіх спраў пакуль што не робяць, аднак яны і гор не варочаюць з лёгкасцю некаторых літаратурных герояў. Яны проста працуюць, любяць працу, не мысляць без яе жыцця. Гэта паказана хораша, з грунтоўным, а не з налётчыцка-блакнотным веданнем. Справа ж, вядома, не толькі ў паказе таго, *што* робяць тваё героі, але і *як* яны робяць. У «людзей на балоце» *«што»* яшчэ ўсё старое — яны проста змагаюцца за кавалак няшчодрага хлеба на сваіх дакалгасных надзелах. Новым у іхняй працы з'яўляецца калектыўнае, дзвюма вёскамі, будаўніцтва грэблі. Наперадзе, у наступных кнігах рамана, па сведчанню аўтара, герояў яго чакае эпахальна вялікая праца — станаўленне калгаснага ладу, партызанскае змаганне з ворагам, пасляваеннае аднаўленне і сённяшні наш усенародны марш да светлай камуністычнай будучыні. Прыемна падкрэсліць, што ўжо і цяпер, у першай кнізе рамана, на прыкладзе «малых спраў», аўтар дамогся таго, што я, чытач, упэўнены — героі яго і вялікія справы будуць рабіць як жывыя, без таннай літаратурнай позы, а з тым некрыклівым натхненнем, з той верай, якія нараджаюць наш, савецкі гераізм.

У рамане Мележа ёсць каханне. Яно не існуе там, не лічыцца ў наяўнасці, як дазіраваны аўтарскім рэцэптам «творчы кампанент», неабходны для акрасы «працоўных» ці «гераічных» старонак. Героі рамана кахаюць па вечнаму і неадменнаму для ніякай крытыкі закону самога яго вялікасці жыцця. Ёсць там каханне чыстае, як у Васіля з Ганначкай,— з начным выстойваннем каля весніцаў, з нясмелымі поціскамі рук, з першым пацалункам, з наіўнымі злаваннямі, з тугой у разлуцы, з нечаканым і страшным, але зусім ве-

рагодным разрывам. Ёсць і трагізм кахання, як у беднай Канаплянкі, якой давялося потым, нялюдска адкінутай Яўхімам, выбіраць паміж двума злачынствамі — абортам і самагубствам. Ёсць і прыгожы, дзіка нахабны «першы хлопец у вёсцы» Яўхім з яго «перамогамі»... Выдатна напісана сцэна ў малінніку, дзе калючая ружа — Ганначка — здарава пастаяла за свой дзявочы гонар!.. Наогул, за выключэннем успомненай сцэны пасля вяселля, каханне напісана Мележам на добрым, здаровым мастацкім узроўні, без ханжаскага маралізатарства, без аб'ектывісцкага натуралізму і, тым больш, без замаскаванага любавання эротыкай.

У падтэксце рамана, у меру сціпла і глыбока, арганічна жыве, бадзёра пульсуе, а месцамі пераможна пяе аўтарская любоў да роднай палескай зямлі, да людзей, што змагаліся там за сваё, за святое права звацца сапраўднымі людзьмі, вера ў іх справу і ў іх вялікае заўтра. І мне, чытаючы пакуль што толькі першую кнігу новай палескай трылогіі, удзячна паглыбляючыся ў мастацкую гісторыю дваццатых гадоў, ні на момант нават не здалося, што я чытаю не сучасны твор.

Раман «Людзі на балоце» — вынік шматгадовай, напружанай і грунтоўнай працы, вынік сур'ёзнага і таленавітага пранікнення ў жыццё. У творы гэтым, у прыклад некаторым іншым, не толькі беларускім творам, не чуваць у падтэксце аўтарскага поту, нагнанага кан'юнктурнай хапатлівасцю; не відаць тут і тэатральнай «глыбакадумнасці» на зморшчаным чале літаратурна-ганарарнага пазёра. Мележ у многім дасягае той свабоды і лёгкасці мазка, якая, праўда, бярэцца вялікімі намаганнямі, але ж і даецца толькі сумленнаму, прыроджанаму мастаку. У паасобных карцінах і сцэнах рамана пісьменнік уздымаецца да той зайздроснай ступені майстэрства, калі майстэрства гэтага, як гаварыў Л. Талстой, і не відаць, бо перад намі са старонак твора гаворыць само жыццё.

Для прыкладу можна прыгадаць, доўга не думаючы, начлег каля вогнішча ў першым раздзеле, калі была ўпершыню ўсвядомлена ўзаемная сімпатыя Васіля і Ганначкі («Калі ты там еў!.. Нядобра без гарачага...» — цаны няма гэтым тонкім і дынамічным штрыхам!); пасля — кірмаш у Юравічах, куды Ганначка — учора яшчэ шчаслівае дзіця, а сёння горкая нявеста —

едзе з бацькам купляць вясельныя ўборы; тады — пачуцці і паводзіны старога Чарнушкі ў дзень вяселля: як яму цяжка развітацца з Ганначкай, па спрадвечнаму праклятаму парадку, з-за беднасці, з-за ведзьмымачахі, аддаючы яе за нялюбага...

Ёсць і другія, сапраўды высокамастацкія месцы.

Ёсць большае — не толькі паасобныя ўдачы, а ўдалы раман, які па праву зойме ў нашай літаратуры дастойнае месца,— сам, без усякіх там самадзейных ды прафесіянальных падпорак, без нудных скідак на тэму, без спецыяльнай аранжарэйнай атмасферы.

Карыстаючыся агульнапрынятымі словамі, можна сказаць, што раманам сваім Мележ ступіў далёка наперад у параўнанні з усім, што ім напісана было раней. Хочацца сказаць і больш — ён тут, па-мойму, на самых блізкіх подступах да сваёй самай запаветнай пісьменніцкай песні.

Праўда, апублікавана пакуль што першая кніга рамана. Па прыкладу скептыкаў, можа, і не варта было б заўчасна так захапляцца?

Чаму ж, аднак, ужо і цяпер, як першая кніга, раман гэты жаданым госцем уваходзіць у маё жыццё, нясе мне многа новага, патрэбнага, па-свойму пераклікаючыся з палескай эпапеяй Коласа, па-свойму таленавіта расказваючы пра пачатак станаўлення роднай улады ў самай лясной ды балотнай глушы?

Наперадзе, я гаварыў ужо, сусветна-велічныя падзеі нашага часу — калектывізацыя, Айчынная вайна, удзел палешукоў ва ўсенародным будаўніцтве камунізма.

Хочацца ад душы пажадаць Івану Мележу, каб ён правёў сваіх герояў праз усе выпрабаванні гісторыі дастойным чынам, на ўзроўні сапраўднага майстэрства.

Чытач, я веру, будзе непакоіцца далейшым лёсам яго герояў. Дык няхай жа гэта будзе для аўтара і заслужанай радасцю, і сур'ёзнай прычынай для глыбокага творчага хвалявання.

*1961*

# ДУМЫ Ў ДАРОЗЕ

У мяне было два маленствы. І акалічнасць гэтая, хочаш не хочаш, нават у самай кароткай аўтабіяграфіі патрабуе тлумачэння.

Мой бацька, Антон Данілавіч, сын дваровага мужыка паноў Гнаінскіх, з ранняй маладосці і амаль да смерці працаваў на чыгунцы правадніком, жыў у Адэсе адзін, сяды-тады наязджаючы госцем дахаты, у вёску Загор'е (Загора — па-мясцоваму), паблізу ад Міра на Наваградчыне. Тут гаспадарыла маці — Анастасія Іванаўна, да самай смерці Настуля, родам з суседняй вёсачкі. Маласельцы, з працавітай, нябеднай сям'і Чычукоў. Абое вельмі старанныя, моцныя людзі, яны да пачатку першай сусветнай вайны сабралі добрую серадняцкую гаспадарку. Бацька не быў, аднак, па натуры селянінам — ён толькі грошы прысылаў, купляў зямлю, а потым, як пачалася вайна узяў дый наогул забраў сям'ю назаўсёды ў Адэсу, усё вясковае дабро пакінуўшы адной з дзвюх замужніх дачок.

Я нарадзіўся і пачатак маленства пражыў, такім чынам, у горадзе.

Улетку дваццаць другога года бацька, знясілены двума наваратамі тыфусу, брушнога і зваротнага, паддаўся жончыным угаворам і вярнуўся з ёю і меншымі дзецьмі ў Загор'е.

Яно было ўжо за граніцай, у Польшчы, але бацька, як і многія ў той час, лічыў граніцу гэтую справай не вельмі сур'ёзнай: «Адкрыецца — зноў вернемся ў Адэсу». Ды ў лютым дваццаць чацвёртага ён, прастудзіўшыся ў лесе, злёг і памёр.

У маці нас засталося тры хлопцы, старэйшаму з якіх, Мікалаю, не было яшчэ чатырнаццаці год.

За граніцай, якая і не думала адкрывацца, жылі недзе ў горадзе, што стаў для нас, малых, легендай, і скупа пісалі адтуль два старэйшыя нашы браты, мамі-на горкая гордасць — «вучоныя».

У Загор'і была пачатковая школа, польская, тры класы так званай «паўшэхнай». Беларуская мова тады яшчэ выкладалася ў ёй — дзеля дэмакратычнага прыліку, дзве-тры гадзіны ў тыдзень. Але чытаць мяне, яшчэ да школы, навучыла маці. Па рускім буквары.

За навуку гэтую мне давялося доўга адрабляць, часта чытаючы старой уголас. Сама яна ледзь-ледзь слібізавала па складах, падпісвалася крыжыкамі, для адводу, крыху сарамліва скардзячыся на вочы, але кніжных гісторый ведала многа. Пяты сын, сёмае дзіця, з тых, што выжылі, я быў, вядома, не першы, хто ёй чытаў, але я — яна сама гаварыла — найбольш і найлепш.

Воблік яе назаўсёды ідзе са мной разам з тым нашым чытаннем, і колькі б разоў я ні вяртаўся ў творчасці да вобраза старой, па-народнаму мудрай жанчыны-маці — перш за ўсіх мне ўспамінаецца свая. Нястомная, суровая і добрая.

Найлепш пакуль што, найбліжэй да натуры, яна паказана ў аповесці «У сям'і» і ў апавяданні «Сцежка-дарожка». Бабуляй — бо, колькі я памятаю яе, мама, на сорак пяць гадоў старэйшая за мяне, была заўсёды пажылой [1].

На покуці ў нас ляжала некалькі кніжак, прывезеных з Адэсы.

Як самую, здаецца, першую з іх, успамінаю малую, без вокладкі, кніжыцу баек Крылова, а ў ёй — два першыя радкі пад застаўкай, якія здорава нагадваюць мне і маленства, і барадатага бацьку, важна-вясёлага, у акулярах:

> Предлинной хворостиной
> Мужик Гусей гнал в город продавать.

Былі таксама Пушкін, Лермантаў, Жукоўскі, многія вершы якіх ці ўрыўкі з паэм і казак дагэтуль ведаю на памяць.

---

[1] Заўвагі, зробленыя праз пяць гадоў, пададзены ў канцы нарыса.

Калі Пушкін і Лермантаў зачароўвалі пераважна Расіяй, дык Жукоўскі, хоць шмат у чым сумны, многа даў мне, першы раскрыўшы дзверы ў літаратуру замежную. У расказе пра маленства гэта, магчыма, гучыць залішне сур'ёзна, аднак пастушынае слёзнае зачараванне трагедыяй турка Зараба ці карсіканца Матэа Фальканэ мне прыемна лічыць пачаткам знаёмства з сусветнай літаратурай.

Пасля прыйшоў ні з чым не параўнаны гогалеўскі «запой». Яшчэ пазней, у пачатку трыццатых гадоў, першыя сустрэчы з Чэхавым, Горкім, Талстым...

Льва Мікалаевіча нейкі час успрымаў без агаворак, усяго — з непраціўленнем і вегетарыянствам. З гадамі юнацкая закаханасць саступіла месца сталаму захапленню сілай, праўдзівасцю, чалавечнасцю геніяльнага мастака, здзіўляючай нястомнасцю, добрасумленнасцю вялікага настаўніка ў пажыццёвай творчай вучобе.

Знаёмства з беларускай літаратурай пачалося ў школе, па чытанках.

Да Купалы і Коласа, пра чытацкую дружбу з якімі я ўжо трохі пісаў, хочацца ўпершыню дадаць Багушэвіча. Сваімі, блізкімі і вольна, без намагання замацаваліся ў памяці «Воўк і авечка», «Ахвяра» і асабліва «Калыханка». Таксама, як радкі Пушкіна ці Міцкевіча,— з пашы замацаваліся, з пакрэмзанай парты, ад цьмянай газавай лямпы над родным сталом. І ў сталасць са мною пайшлі, часта і цёпла напамінаючы вобраз іх аўтара, мілага, мужнага чалавека.

Трохі пазней, у юнацтве, прыйшоў, раскрыўся Багдановіч, народнасць якога, высокая культура і чалавечая абаяльнасць з тых дзён хвалююць мяне як нейкі своеасаблівы і прыгожы сімвал сваяцтва з вялікай рускай літаратурай.

У эсэ «Мой Чэхаў» і ў іншых творах я пісаў ужо, як нам, майму пакаленню «заходнікаў», даводзілася шукаць і знаходзіць рускую ды беларускую кнігі...

Польскія былі блізка, у школе, спачатку ў Загор'і, а потым у суседнім мястэчку Турэц, дзе я скончыў сямігодку. Міцкевіч, Прус, Славацкі, Сянкевіч, Канапніцкая, Ажэшка... Здаровая, натуральная любасць да польскай культуры, да прыгожага ў польскім народзе — вось найлепшае, што я вынес са школы.

І гэта яшчэ не ўсё — польская мова шчодра пазнаё-

міла мяне ■ літаратурным набыткам усяго чалавецтва, ад казак Андэрсена да раманаў Дастаеўскага, з арыгіналамі якіх мне суджана было сустрэцца ў іншы час.

Данік з «Сірочага хлеба», вядома, не я, а тып або заяўка на яго, мілы сябар майго маленства, якога я зляпіў з многіх знаёмых хлопчыкаў, дадаўшы трохі і свайго. Свайго найбольш — у Данікавай закаханасці ў настаўніцу, якая была, якую я любіў, можа, нават мацней, чым напісаў пра гэта. Прыгожая, па-мацярынску абаяльная і светлая душой, яна вучыла нас, заходнебеларускіх пастушкоў, любіць высокае, сапраўднае ў паэзіі і ў песні польскага народа, іншых прадстаўнікоў якога мы бачылі навокал у большых ці меншых чынах прыгнятальнікаў. Яна, дарэчы,— як полька з «крэсаў» і выхаванка рускай гімназіі,— вяла ў нас і тыя рэдкія гадзіны беларускай мовы, калі нам адкрывалася свая, найраднейшая прыгажосць. Яна ж была і бібліятэкарам, з разумных рук яе ішлі да нас і кнігі, перакладзеныя ■ іншых моў.

Пасля вызвалення Заходняй «пані Мар'я» працавала ў савецкай школе, а ў дні фашысцкай акупацыі загінула ў Калдычэўскім лагеры смерці. Яе жыццё стала часткай майго, і таму я яшчэ раз пішу пра яе, сведчу сваю ўдзячнасць і неўміручасць сапраўдных людзей [2].

Кніга, а потым і пяро, не былі для мяне, як пазней выявілася, часовым захапленнем. З чатырнаццаці год за сталага працуючы ў гаспадарцы, я многа чытаў, настойліва займаўся самаадукацыяй (нават і эсперанта вывучаў), многія ночы праседжваў над першымі творамі.

Пра тое, што я празаік, пачаў думаць даволі рана: захаваліся спробы, адносна прыстойныя, з тых дзён, калі я не ўмеў яшчэ як след касіць.

Ад думкі, што я паэт — хоць бы, скажам, па сумяшчальніцтву,— канчаткова адмовіўся толькі ў Мінску. У рашэнні гэтым больш было ўласнага перакanання, хаця атрэсціся ад рыфмаў памаглі і іншыя, скажам, Кандрат Кандратавіч Крапіва, якому я, як рэдактару майго першага зборніка, разам з апавяданнямі падсунуў і вершы.

«Пішыце, мусіць, лепш усё ж прозу» — такі быў апошні голас на гэтую тэму, хоць і пасля, нібыта па

інерцыі, я яшчэ трохі рыфмаваў — удзельнічаў у перакладах баек Крылова, вершаў для зборніка «Паэты Ленінграда», у сааўтарстве, за кампанію, пісаў сёе-тое ў «Вожык», дзе працаваў да лета сорак дзевятага года.

Пачаткам свае літаратурнай работы я ўжо не раз называў «Марылю». Паўтараючы гэта і цяпер, падумаў міжвольна не толькі пра першы вершык, складзены на пашы, але і наогул пра самы золак светаўспрымання...

Паэты пачынаюцца, відаць, з тых дзён, калі яны наогул пачынаюць захапляцца хараством жыцця, шчасліва, яшчэ падсвядома пакутаваць ад жадання выказаць свае пачуцці. Гэта прыходзіць так рана, што нават хочацца думаць: ты быў заўсёды паэтам, бо ты ніколі не мог ім не быць.

А да здзяйснення мары — перадаць сваё другім — у кожнага свой шлях. Адзін пачынае раней, другі як быццам запозна. А колькі Багрымаў загінула, нават хоць так, як крошынскі, не выйшаўшы на паверхню жахлівага мора галечы і цемры!..

Кастрычнік разняволіў таленты, аднак — няхай будзе дазволена такое адступленне — і ў гэтай справе з'явіліся «выдаткі вытворчасці». Побач з сапраўднымі талентамі на паверхню друкавання ў нас яшчэ часта — не па закліку сэрца, а па халоднаму разліку — выплываюць літаратурныя прыстасаванцы, якіх натхняюць больш за ўсё ганарар, аўтамашыны, дачы, курорты... «Сытых, самазадаволеных мастакоў не бывае». Іх не павінна было б быць, Леў Мікалаевіч, аднак яны ёсць, яны нават ходзяць зачаста паверсе, свірэпай сваёй прадукцыяй глушаць народны хлеб паэзіі, і мы іх замала, відаць, ненавідзім, залена выполваем з роднага поля — сілай натхнёнага, шчырага выкрывальнага слова!..

Ад першага вершыка, які ўспамінаю з інтымнай усмешкай, да першага апавядання, якое ўспрымаю сур'ёзна, было ў мяне дзесяць гадоў неспакойнага трымкання на трох мовах адразу.

Руская прыйшла з неабдымна-чароўным светам вялікай паэзіі.

Польская, даўшы таксама нямала сапраўднага захаплення, перш за ўсё забяспечыла сякой-такой адукацыяй.

Роднае слова — гэта былі не толькі любімыя паэты,

гэта было само жыццё, з яго раллёй і хлебам, з яго задушэўнымі песнямі і невыказным навакольным харастом.

І роднае перамагло.

Гадоў з пятнаццаці я пачаў запісваць новыя словы, трапныя выразы, прыказкі, прымаўкі, цэлыя сцэнкі і гісторыі, падслуханыя ды падгледжаныя дома і ў людзях — на загорскіх вячорках, на вечарынках у суседніх і далейшых вёсках, на мірскіх маляўнічых кірмашах.

Першыя сшыткі гэтых запісаў загінулі ў вайну, прыйшлося потым заводзіць новыя. Аднак паколькі запісванне ў гэтай вучобе было дзеяннем трэцім пасля пільнага, закаханага слухання ды назірання,— набытак тых дзён застаецца са мною [3].

Такую вучобу, асноўную, дапаўнялі беларускія кнігі, да граматыкі Тарашкевіча ўключна. Кніг было вельмі мала, не ўсе яны падабаліся і не ўсе прыносілі карысць. Савецкія выданні даходзілі толькі «крамольным» шляхам, дай бог адну за год. Запомніліся «Босыя на вогнішчы», некаторыя байкі Крапівы, першая кніга «Сокаў цаліны».

З літаратурным рухам у Вільні я быў звязаны спачатку толькі тым, што амаль рэгулярна чытаў «Калоссе», «Беларускі летапіс», «Нашу волю». Гады за два да арміі пачаў туды пасылаць сваё.

З пісьменнікаў, якіх лічыў ужо сапраўднымі, асабіста ведаў толькі Міхася Васілька, у якога быў праездам у пачатку трыццаць восьмага года. Сустрэча наша, праўда, не ўдалася: у сваёй старасвецкай халоднай хаціне паэт ляжаў цяжка хворы, з абвязаным хусткаю горлам; я моўчкі пасядзеў каля яго даволі-такі ўбогага ложа і лясною зімовай дарогай падаўся на станцыю Скідэль.

Два гады перад гэтым здарылася была нагода спаткацца з Максімам Танкам. У групе студэнтаў ён як турыст праходзіў чатыры кіламетры ад нашай вёскі, цераз Турэц, у Налібоцкую пушчу, пра што раней паведаміла, здаецца, «Наша воля». Я, вядома ж, пайшоў у Турэц, але спазніўся, і знаёмства наша, такім чынам, было адкладзена на восем год...

Што я хачу сказаць? Што я рос цалкам ізалявана,

што да ўсяго, як Ляпкін-Цяпкін у вальнадумстве, даходзіў сваім розумам?

Гэта было б няпраўдай, позай.

Было жыццё і кнігі. Адзін час было нават радыё, дэтэктарны прыёмнічак, які ўдзень добра браў Баранавічы і Варшаву, а ўвечары Мінск і Маскву.

Былі сябры, і сярод іх — самы блізкі, на тры гады старэйшы брат Міхась, з якім мы, маці казала, «ад роду спрэжаныя», з маленства разам захапляліся прыгажосцю, разам шукалі сцежку ў «разумнае, добрае, вечнае».

Вобраз брата я ў пэўнай меры абрысаваў у той жа аповесці «У сям'і», з тым парушэннем праўды факта, што мой Міхась не пісаў, як той Міхась Ганчарык, а хораша маляваў і добра разбіраўся ў літаратуры [4].

Цікавыя былі і іншыя сябры. Адны з іх — то іранічна, то пагардліва — называліся «талстоўцамі», многа чыталі добрых кніг, умелі і працаваць і смяяцца, сядзелі за свой пацыфізм у астрогах. Другія, цэлая група ў суседняй вёсцы Чыжыноўцы, вярнуліся з такіх самых астрогаў, на зайздрасць многім з нас — палітычна пісьменнымі работнікамі камуністычнага падполля. Былі пачаткоўцы-паэты, мастакі, наваградскія гімназісты і віленскія студэнты, быў нават свой Сымон-музыка, студэнт кансерваторыі. Былі проста добрыя хлопцы і мілыя дзяўчаты, з якімі было весела дружыць, гуляць і працаваць.

З аднымі сябрамі я перапісваўся, як хлебам, дзяліўся кнігамі, з другімі ладзіў самадзейныя спектаклі, спрачаўся і спяваў, трэцім давяраў свае літаратурныя сакрэты...

Зрэшты, да часу таго і да блізкіх людзей я хачу неўзабаве вярнуцца — з большай сілай, у іншым жанры... [5]

Цяпер я хачу толькі сказаць, што адарванасць мая ад культурнага свету і самавуцтва былі адносныя, што мне было не горш, як многім з тых, каго я ведаў, з кім сябраваў, з кім разам імкнуўся да лепшага.

Больш таго, у мяне, у адрозненне ад большасці сяброў было сваё: ціхае патаемнае найвялікшае шчасце — пісаць!..

У будзень, нават і зімою, пісаць было калі толькі ўвечары, які часта зацягваўся для мяне да світання.

Каб не турбаваць сямейнікаў і адчуваць сябе свабодней, часта пераходзіў з лямпай у кухню-бакоўку.

Запомніўся дасціпны малюнак у «Крокодиле» — проста блуза Л. М. Талстога і подпіс: «В этой рубахе когда-то неплохо писалось».

Нядрэнна мне пісалася на тых сталах — на хатнім, пад кужэльным абрусам, і на кухонным, да палавіны застаўленым місамі ды гаршкамі. Часамі нават і цяпер ад рыжскага пісьмовага цягне туды, у братаву хату, каб палячыцца жыццём, асвяжыцца прыродай, адчуць далёкую ўжо маладосць!.. [6]

Апавяданне «Марыля» было пачата па-руску. Потым, адчуўшы па-сапраўднаму, што «кожная бочка павінна стаяць на ўласным дне», перапісаў на мову родную, даўшы першую назву «Чарка»...

Проста так сабе, спакойна, мне цяжка гаварыць пра тое ні з чым не параўнанае хваляванне, тое шчасце сувязі з жыццём, з душой народа, калі я пісаў і гэтае, і некаторыя іншыя апавяданні таго часу. Радасна было, што не «прыдумваю», не забаўляюся, а пішу жыццё, і адначасна новым, хмельным шчасцем кружыла галаву і калаціла сэрца радасць мастацкай выдумкі, якая зноў жа ішла поруч з жыццём, што было навокал, якім я ў пэўнай меры жыў і сам. Дзяўчат і маладзіц, такіх, як Марыля, такіх баб, як свякроў, такіх мужыкоў, як стары Жук, Іван, Мікіта, бачыў я шмат, хапала іх толькі ў адным нашым Загор'і. Пісаць іх з натуры, адпаведна «мяшаючы ды ператоўкваючы», было вельмі прыемна. Аднак куды больш хвалявала «выдумванне» сцэны Марыліных родаў з паводзінамі ў гэты час усёй сям'і.

Да войска, куды я пайшоў у сакавіку трыццаць дзевятага года, былі напісаны толькі два першыя раздзелы «Чаркі». Калі я ўвосень сорак першага дабраўся з палону дахаты і разам з маці дастаў з яе старой пасажнай скрыні свае рукапісы (яна да іх не дапускала нават Міхася!..), у мяне было ўжо не толькі адно меркаванне, што апавяданне гэтае — не закончана.

Бо і яно, і іншыя пачатыя апавяданні радасна непакоілі мяне на суровай чужыне: і ў панскіх казармах, і за фашысцкім дротам чалавек вяртаўся да іх душою, каб пагрэцца. Творчая работа не магла спыніцца і там: многае з пачатага было не толькі вынашана, але

і «напісана» ў памяці. Яго цяпер трэба было запісаць.

У жудасці і адчаі першых месяцаў акупацыі і пазней, калі я падружыўся з будучымі партызанамі, каб потым стаць іх памочнікам, нейкі прасвет, нейкую сувязь з родным светам знаходзіў у патаемнай працы над незакончанымі і новымі рэчамі.

Так былі дапісаны «Марыля», «Праведнікі і зладзеі», напісана «У сям'і», першы варыянт «Сірочага хлеба» і іншае, знаёмае і незнаёмае чытачу.

Ездзячы юнаком па дровы ў Налібоцкую пушчу, я не мог нават і блізка падумаць пра тое, што іменна там, за Нёманам, у ельніку Хідры каля вёсачкі Антанёва, знайду я нарэшце сваю стартавую пляцоўку, што тут пачнецца мой уваход у савецкую літаратуру.

І гэта ўжо не толькі факт майго жыццёпісу, гэта — яшчэ адно, няхай сабе найсціплейшае, сведчанне сілы і прыгажосці нашага ладу, нашых людзей.

У партызанскім лагеры, у суровыя дні барацьбы, знайшліся людзі, якіх па-гаспадарску зацікавіла, што вось адзін з разведчыкаў нешта, казалі, дома пісаў. Мне загадалі адкапаць свой скарб, схаваны не ў роднай вёсцы, дзе быў пастаўлены фашысцкі гарнізон, а ў суседняй, у сваяковым гумне. Сёе-тое было заслухана, нават абмеркавана, мяне ўзялі на працу ў рэдакцыю, а некаторыя рэчы штабная машыністка перадрукавала на паперы з тых сшыткаў, якіх не заўсёды хапала на газеты і лістоўкі.

І вось першы мой рукапіс паляцеў зляснога аэрадрома ў Маскву з кароткім адрасам: Саюз пісьменнікаў, Максіму Танку.

Сярод людзей, якім я ўдзячны за гэта, толькі адзін быў літаратарам. Рэдактар стаўбцоўскай падпольнай газеты, яўрэйскі публіцыст Грыша Смоляр, друг Таўлая, Танка і Пестрака па падполлю і турмах. Яго цікавасць да маладога аўтара зразумець было найпрасцей. Камісара атрада Паўла Жалезняковіча і «дзядзю Валодзю», упаўнаважанага ЦК КПБ Царука, таксама можна было зразумець: землякі, старэйшыя таварышы з суседніх вёсак, героі-падпольшчыкі, любяць кнігу і песню. А вось брыгадны наш камісар, кадравы афіцэр Аляксандр Іванавіч Дзееў, русак, быў, як здавалася, далёкі ад самай блізкай мне справы...

І таму я не магу без хвалявання ўспамінаць той

чэрвеньскі вечар сорак чацвёртага года, калі яны, камісар і начштаба Міхась Маскалёў, таксама афіцэр, перад вайной настаўнік з Магілёўшчыны, сказалі мне сабраць свае рукапісы, каб закапаць іх разам з архівам штаба брыгады. Чакалася блакада.

— Хто застанецца, хлопцы, запомніце гэтыя тры яліны...

Гэта сказаў нядаўні капітан-танкіст, наш камісар, калі мы капалі ў карэнні, утрох адной вясковай рыдлёўкай, на змену.

Як жа я ганарыўся ў душы ад такога даверу! I ўспамін пра той вечар не толькі хвалюе як інтымнае, маё, але ж і вельмі хораша гаворыць мне пра наша.

Першая кніга...

Зрэшты, трэба пачаць ад першай радасці, першага слова твайго, што — нарэшце! — з'явілася ў друку.

Сакавік трыццаць восьмага года. Марозны ранак, звонкая піла, пярэстыя бярозавыя цурбаны. I вось прыходзіць хтосьці з Турца (паштальёнаў у вёсках тады не было) і прыносіць мне з пошты нумар «Шляху моладзі», прысланы, як аказалася праз момант, у якасці ганарару.

Што гэта быў за момант, калі я, пад шэлест старонак, убачыў сваё імя, свае радкі! А што гэта быў за дзень — няхай скажа той факт, што я за ноч і вока не звёў, хоць напілаваўся ды накалоўся ад радасці ўтрая, можа, больш, як заўсёды...

Верш мой — «Апошнія крыгі» — пра тое, як пачынаецца вясковая вясна, як дзед у парваным кажусе папіхае жардзінай крыгу з-пад моста і кажа:

> Ну, праклятая!
> Як быццам ты не знаеш,
> Што ў хляве карова не ўстае,
> Што каніна шоры ледзь цягае,
> Што ў хаце хлеба не стае,
> Што год ад году ў лесе даражае!..

Было пра гэта трохі больш, ды верш быў старанна «дапрацаваны», яго выдаўцамі, хадэкамі. Прыемна ўспомніць, што я, нягледзячы на вялікую радасць і і ўдзячнасць, наступны верш паслаў у рэдакцыю з наіўным ультыматумам:

«Ні на якія змены, апроч граматычных, не згодзен...»

Калі друкавалася першая кніга, мне не хапала таго, што я, работнік «Вожыка» з пастаянным пропускам у друкарню, ледзь не ўвесь дзень снаваў паміж машын, нібы заняты нечым іншым. Прыходзіў і ноччу — браць аркушы, аддрукаваныя хоць на адзін бок, каб дома брашураваць іх самому і любавацца разам з жонкай і нават з дачкою, якой было ўжо... больш за год.

Тады, у тыя снежаньскія ночы каля друкарскіх машын, я пазнаёміўся з прататыпам Лазунка, з якім мы і сёння ахвотна вітаемся.

Яшчэ з тых дзён, калі друкаванне было для мяне толькі марай, запомнілася чамусьці апавяданне Купрына «Першынец», больш дакладна — канцоўка яго, цвярозая і крышку, мусіць, няшчырая, а такой сабе сталай хітрынкай. Цытую, вядома, па кнізе:

«З таго часу мінула многа-многа год. Я ўжо з вопыту ведаю, што на шляху літаратара куды больш церняў, чым ружаў, і, атрымаўшы нумар са сваім творам, *не радуюся, а спакойна лічу радкі.* Але ў маёй душы часам і варухнецца зайздрасць да ранейшай наіўнай радасці і светлай веры».

Няшчырым мне здаецца тое, што я падкрэсліў. Гэта не абавязкова поза, гэта хутчэй такая абарона ад сентыментальнасці. Ганарар мы, вядома, лічым, гэта наша зарплата, аднак усяму належны час і мера, і, беручы сваю новую кнігу ў рукі, гартаючы яе, думаеш ўсё-такі больш паэтычна, чыста.

Гэта ж не проста так сабе словы: першая кніга на роднай мове, першая ў перакладзе на рускую, пасля на ўкраінскую ці эстонскую, пасля — яшчэ больш нечакана — на чэшскую, нямецкую і, нарэшце, ажно на кітайскую!.. А чаму ж толькі першая? Хвалюе, радуе і другая, і пятая, і дваццатая; і купрынскае «спакойна лічу радкі» — па-мойму зусім не да месца.

У мяне было ўжо нямала радасцей сустрэч са сваімі новымі кнігамі, арыгінальнымі і перакладнымі, і я не стаміўся ад гэтага.

Аднак куды больш радуе цяпер уладны прыход новай задумы, гарэнне над чарнавіком, прыдзірлівае, удумлівае шчасце перапісвання, вычытка пасля машынкі, калі шкада, здаецца, парушыць з месца нават літару, а потым — гадзіны, дні новага роздуму над зробленым, новыя прыступы горкай нездаволенасці і —

новая асалода чыркання, дапісвання, новая праўка — у карэктуры, на старонках кнігі, якая ўжо даўно пайшла да чытача.

Бласлаўлёныя будзьце, такія дні, на сухі цябе лес — нерабочы настрой!..

Люблю пісаць апавяданні. Здаецца нават часамі, што на любую тэму магу глядзець толькі праз прызму малое формы.

Амаль усе аповесці каштавалі мне вельмі дарага... [7]

Зрэшты, і апавяданні не ўсе выходзяць адразу. Калі малыя, як «Ліпка і клёнік» ці «Memento mori» напісаны былі за адзін раз, а большыя — «Галя» ці «Мой зямляк» — у два-тры прыёмы і потым амаль не выпраўляліся, дык такія, як «Адзін дзень», «Праведнікі і зладзеі», маюць па некалькі варыянтаў. «Маці» пісаў я на працягу цэлага тыдня, а іншыя навелы, скажам, «Асколачак вясёлкі» ці другое што, перарабляю па некалькі разоў і правіў пры кожным новым выданні.

Корпанне гэта, таптанне на месцы ці не?

Аповесць «У сям'і» я напісаў вясной сорак трэцяга года, а заключны раздзел дапісаў праз дванаццаць гадоў [8].

Патрэбна гэта, заканамерна?

Чарнышэўскі казаў: «У старасці не варта перарабляць тое, што напісана ў маладосці». А ёсць і іншы пункт гледжання: Леў Талстой у старасці ўздыхаў, што, каб яшчэ адно жыццё — усё перапісаў бы нанава.

Паміж двума такімі полюсамі — многа прастору для разумнага стаўлення да сваёй адказнасці перад народам-чытачом.

А што да жанру, якому я служыў дагэтуль найахвотней і, як гавораць, з большай удачай, дык можна ўжо і прызнацца, што апошнім часам мне з ім, з гэтай любімай малалітражнасцю, бывае і сумнавата. Цягне да большага, і пішу цяпер гэта большае ў новых радасцях і ў новым неспакоі... [9]

Выдаўшы першую кнігу, наіўна думаў, што разлічыўся са сваім даваеннёўскім вопытам.

Пасля другой можна было б з не меншым поспехам лічыць, што ўсё ў парадку з вопытам ваенных дзён.

А тут — і вяртаўся ўжо неаднойчы да пражытага ў маленстве і ў маладосці, і буду, вядома, вяртацца.

Гэта мой скарб, ён набываўся нялёгка, аддаваць яго трэба разумна і шчодра.

Аднак мяне даўно раздражняе крытычны шаблон у акрэсленні тэм, блізарукае іх сартаванне: індустрыяльная, калгасная, ваенная, заходнебеларуская... Апошняя ідзе, між іншым, амаль прымусовым асартыментам, як тавар заляжалы.

А ты, дзівак, яшчэ думаў, што не проста запознена адлюстроўваеш тое ці іншае, ужо даўно занесенае ў крытычны гросбух,— што ты робіш нешта большае, на матэрыяле тым ці іншым гаворыш, намагаешся сказаць па-сапраўднаму пра наша свяшчэннае *адно,* пра галоўнае для ўсіх нас, каму дарагі людзі,— іхняе шчасце!..

Яно — гэтае *адно* — тэма майго жыцця, запаветная мэта маіх намаганняў, той бунінскі славуты гук, які я прагна лавіў і ў цясноце свайго заходнебеларускага Загор'я, і на прасторах нашай неабсяжнай Радзімы, і за межамі яе, у суседніх і самых далёкіх краінах.

Вельмі люблю падарожжа. Ездзіць, лятаць, хадзіць пехатою. Глядзець на жывую карту Зямлі з вышыні дзесяці кіламетраў; зачаравана хадзіць па залах Траццякоўкі, Луўра, чыкагскага «Інстытута мастацтва»; адказваць з трыбуны на запіскі гродзенскіх ці варшаўскіх студэнтаў і без трыбуны, за сяброўскім сталом, гутарыць на высокія тэмы з маладымі жыхарамі хабараўскага ці наваполацкага рабочага інтэрната; праз перакладчыка асцярожна даваць інтэрв'ю хадоваму работнічку мацёра-непрыязнай нам газеціны і ад душы смяяцца з ніўхам-рыбаком у цесным кубрыку амурскага кацера; урачыста хадзіць па руінах Пампеі, глядзець з Манмартра на Парыж або ў ціхай завоіне амаль безыменнай палескай рачулкі пацвельваць канцом вудзільна вужа, што паўнаўладна плыве пад твой бераг, імклівa-звілісты, непалохана-ваяўнічы, перыскопам узняўшы галоўку ў жоўтых акулярах...

Колькі яго, хвалявання, патрэбнага нам, як паветра і хлеб!

Я нямала паездзіў па свеце, асабліва за шэсць апошніх гадоў, быў у некалькіх краінах Еўропы, у Канадзе і ЗША, многа, здаецца, езджу па сваёй і па братніх рэспубліках. Іменна — толькі здаецца, што многа, бо адчуванне яшчэ ўсё такое, што мала, што негрунтоў-

на, што мімаходзь! I напісаў пра гэта, калі лічыць надрукаванае, мала і павярхоўна.

Гэта не какецтва, а яшчэ адно сведчанне, што падарожжа дае літаратару вельмі многа. Добра бачыць, што робіцца ў людзей, не горш — глядзець здалёк на сваё, на нашу краіну з яе станоўчым і недахопамі.

Калі б мая была воля на гэта, дык я лячыў бы некаторых маладых ад моднага ныцця ды пырхання іменна падарожжам. Гэта і ачышчае душу, і абвастрае зрок, і ўмацоўвае станавы хрыбет.

І не бяда, што ты не адразу напішаш сваю «Адысею»,— набытае нідзе не дзенецца, яно паможа табе нечакана і непрыкметна, само калісьці знойдзе свой выхад наверх, у паэтычны радок ці на старонку прозы.

Найвышэйшая форма пісьменніцкай справаздачы перад народам — кнігі. Пра гэта трэба думаць найбольш, пільна аберагаць свой час і сілы для галоўнага. Бо самотна і горка бывае ад думак, што мала і слаба табою напісана!.. Хацелася б добры раман, куды больш крутых па сюжэту і глыбокіх па зместу апавяданняў. Калі ні выступаеш перад дзецьмі — заўсёды сорамна, нават балюча, што ты сваім словам не расквеціў мільёны вачэй і вуснаў усмешкай, што ты не стварыў свайго Рабінзона, Цімура і Чыпаліна...

Аднак я не шкадую, што даволі шмат перакладаў, пісаў крытычныя артыкулы і водгукі на падзеі, чытаў чужыя рукапісы, рэдагаваў чужыя кнігі, выступаў з дакладамі, хадзіў і ездзіў на сустрэчы з чытачамі.

Гэта патрэбна не толькі тым, каму мы служым, але ж і нам самім,— як вучоба, што не павінна спыняцца, як фізкультура, лячэбная, ад маральнага атлусцення.

...Захапляцца маленствам, наогул пачаткам жыцця, пісаць пра гэта — найцікавей. Усё там ясна, міла здалёк, адстаялася ў часе, выдатна вынашана, нават і ў сорак пяць гадоў.

А чым бліжэй да сённяшняга дня, тым больш пачынаеш скупіцца. Адно здаецца ўжо малацікавым, пра другое — яшчэ ранавата пісаць...

Дыстанцыя? А што ж, патрэбна і яна для падбівання пэўнага балансу.

І яшчэ адно, вельмі істотнае: пісьменнік робіць свой жыццёпіс на працягу ўсяго свайго творчага шляху.

Кожны, вядома, па-свойму, залежна ад характару чалавека і жанру, якому ён служыць.

За дваццаць пяць гадоў сваёй літаратурнай службы я гаварыў пра самога сябе можа нават залішне. Цяжка мераць пачуцці, калі іх аддаеш. Апроч суб'ектыўна-лірычных матываў у творчасці былі яшчэ і проста біяграфічныя аўтадаведкі, якія я або сам, або цераз другіх ужо неаднойчы прапаноўваў увазе чытача.

Мне цяпер не хацелася паўтарацца, складаць, перамагаючы нуду, найпаўнейшы, разведзены на лірыцы паслужны спіс. Таму я свядома абмежаваўся тым, што хочацца назваць думамі на хаду, у дарозе наперад, яшчэ адным накідам аўтабіяграфіі, якую я пішу з тых дзён, калі ўзяўся за пяро, якую я з прыемнасцю пісаў бы найдаўжэй — ну, хаця б на дзесятак па-людску замешаных томікаў!.. [10]

*1962*

1. Пасля гэтага былі напісаны «Птушкі і гнёзды» — маці Алеся Руневіча, і «Ты жывеш» — пазбаўлены найменшай выдумкі расказ пра маці маю.

Не ведаю, колькі разоў, і як, і дзе яшчэ давядзецца вяртацца да гэтага вобраза...

2. Мяне папракалі, што ў «Птушках і гнёздах», выводзячы «паню Ванду», я нібыта хацеў «паправіць сам сябе», залішне і без патрэбы, ледзь не ва ўгоду моднай дэгераізацыі, прызямліў светлы вобраз настаўніцы з «Сірочага хлеба».

Гэта няпраўда. Я толькі нейкім чынам паўтарыў яго. І не ад беднасці, а — думаецца — дапоўніў, ажывіў чалавечай слабасцю, чаго не мог дазволіць сабе, пішучы «Сірочы хлеб», па задуме адрасаваны дзецям.

Зрэшты, ёсць і яшчэ адно апраўданне (калі яно трэба) — настаўніца для «кнігі адной маладосці» была напісана раней, даўжэй праляжала ў чарнавіках.

3. Адтуль пачалася «Жменя сонечных промняў».

Рашэнне даць гэтыя нататкі ў друк, часопісу «Маладосць», падказана было — «якая проза»! — часовым безграшоўем.

Падбадзёраны сяброўскімі ды чытацкімі водгука-

мі, я перастаў сумнявацца, ці не зарана выходжу ў людзі з такім «інтымным» ды «старэчым» жанрам.

І, мусіць, буду ўжо гэтую кнігу папаўняць і даскаваліць датуль, пакуль яна не застанецца незакончанай.

4. Толя Руневіч з «Птушак і гнёздаў» — таксама Міхась.

Кніга прысвечана яму наўздагон, праз імглу незагойнага смутку... Ён зусім нечакана пакінуў мяне напрадвесні мінулага года.

5. Пра гэта — зноў жа ў «Кнізе адной маладосці». Цяпер ужо здаецца, што з сілай недастатковай, мала і нібы мімаходзь.

6. За Міхасёвым сталом, перад акном у ціхі аснежаны сад, былі напісаны «Сцежка-дарожка», добрая палавіна «Птушак і гнёздаў», зроблена нямала запісаў для «Жмені».

Многа было там прачытана сапраўдных кніг — успамін таксама высокі і творчы.

7. А «Птушкі і гнёзды» — яшчэ даражэй...

Справа не ў цяжкасцях працы,— у ёй, і найцяжэйшай, наша пісьменніцкае шчасце. Бяда прыходзіла паміж надрукаваннем той ці іншай рэчы ў часопісе і выхадам яе асобнай кнігай. І заключалася яна, тая, як потым выяўлялася, нікому добраму не патрэбная бяда, не толькі ў дагматычна тупым або проста спекулятыўным крытычным вэрхале, у збіванні з толку чытача і аўтара, але і ў шэптах, супраць якіх няма яшчэ процівагазаў, у шэптах, што нават лічацца, бывае, патрыятычнымі сігналамі пра небяспеку...

Выключэннем былі «Сірочы хлеб» і — асабліва — «У Забалоцці днее», рэч найслабейшая, за якую мяне хвалілі якраз найбольш...

8. Да «Кнігі адной маладосці» я вярнуўся праз дваццаць гадоў, калі лічыць яе пачаткам дзве незавершаныя аповесці, «Сонца праз хмары» і «Жывое і гніль», якія пісаліся ў акупіраванай вёсцы, начамі, і ў партызанскай зямлянцы, удзень.

9. Увосень шэсцьдзесят другога года, у самым напружным і радасным разгары працы над «Птушкамі і гнёздамі», я вымушаны быў перапыніцца, каб напісаць гэтую аўтабіяграфію для кнігі «Пяцьдзесят чатыры дарогі».

10. Не варта ўспамінаць, колькі разоў я падбіваў

ужо «баланс жыцця», канчаў «творчыя этапы», пра што сёння думаю з паблажлівай усмешкай сталасці, а то і сур'ёзна.

Тым больш невядома, колькі яшчэ будзе такіх этапаў.

Успамінаецца з «Дзённіка» Жуля Рэнара (цытую па памяці):

«Можа, пасля мяне застанецца толькі пяць радкоў, але як жа хацелася б самому падрыхтаваць гэтыя радкі да друку!..»

Гэты чатырохтомны збор твораў лічу асновай таго, што мне ў маёй літаратурнай працы здаецца чаго-небудзь вартым.

Амаль усё для гэтага выдання — што з меншай, што з большай патрэбай — перагледжана і папраўлена. Не ў плане нейкай мадэрнізацыі,— я толькі чысціў сябе пад сцягам праўды жыцця, пад сцягам так неабходнай нашаму слову шчырасці, здымаючы наноснае, часовае, чужое.

*1967*

# ПАСЛЯ ПЕРШЫХ СТАРОНАК

Летась я пісаў раман. Працаваў з захапленнем, з сапраўднай любоўю да прадмета. Тэма — бурная маладосць майго пакалення, дні вайны, фашысцкі палон, партызанскія ночы... Словам, падзеі дваццацігадовай даўнасці. Матэрыял вельмі блізкі мне, здавалася — вынашаны як мага найлепш. Толькі пішы.

А тут мне прапануецца паездка на Далёкі Усход. І я ахвотна згаджаюся, як быццам нават нечакана для самога сябе, парушаючы цвёрды, так сказаць, генеральны план... Праўда, было гэта ўлетку, калі працуецца дрэнна, калі па прывычцы цягне ў дарогу. Ды ўсё ж прычына маёй згоды заключалася ў іншым.

Мне раптам зусім-такі натуральна і вельмі захацелася яшчэ раз паглядзець на тое, што я пішу, здалёк, наколькі гэта магчыма — збоку, праз прызму нашага дня, яго выдатных здзяйсненняў, захацелася яшчэ раз спытацца ў самога сябе: ці тое я раблю, ці патрэбна гэта?..

У канцы жніўня, калі я зноў узяўся за раман, мне яшчэ і яшчэ раз стала ясна, як патрэбна была тая паездка, як добра ўсё гэта — убачыць лоўлю гарбушы ў Татарскай пратоцы, падыхаць бадзёрай спякотай у цэхах «Амурсталі», з хваляваннем пастаяць каля магілы Арсеньева, пагутарыць з біраблджанскімі калгаснікамі, будаўнікамі Сонечнага і Находкі, артыстамі Камсамольскага «таежнага тэатра» і літаратарамі Прымор'я, як добра мне было і неабходна ўбачыць братні Кітай за магутным Амурам, свяшчэнны Байкал, няхай сабе толькі пад крылом самалёта, сустрэць ранне на вуліцах Омска...

«Зноў узяўся за раман...» А праца тая, калі па

праўдзе сказаць, і зусім не спынялася. Я думаў пра яе ўсюды і ўвесь час, не мог не думаць, але думаў — што вельмі важна — неяк маштабней, глыбей, сталей.

Убачанае, пачутае, перажытае ў дарозе, далёка ў людзях, у новых абставінах не толькі памагло мне ў пачатай працы,— яно мне было патрэбна наогул, як патрэбны былі мне ўсе мае паездкі па краіне і за мяжой, як патрэбным, неабходным было і застаецца для мяне жыццё, з яго бясконцымі сустрэчамі і растаннямі, удачамі і няўдачамі, горкім роздумам і песнямі, з яго жыватворнай прагай няспыннага пазнавання дабра і зла.

Успомнім Пушкіна:

*«Шукаць натхнення* заўсёды здавалася мне смешным і недарэчным дзівацтвам; натхнення не знойдзеш; яно само павінна знайсці паэта».

Гэтыя глыбока справядлівыя і вельмі сучасныя словы маюць самае непасрэднае дачыненне да нашых размоў пра пошукі тэмы, пошукі матэрыялу.

Усё жыццё пісьменніка — калі ён разумее яго як беззапаветнае служэнне народу — гэта натуральна неабходнае для яго і пажыццёвае вывучэнне рэчаіснасці, вывучэнне чалавека ў самім сабе і ў бліжнім, нястомная падрыхтоўка да працы, да напісання новых, сапраўдных твораў.

Узбагачацца, збіраць, набываць — у нашай справе гэта не скупасць; быць вечна ў руху — гэта не мітусня, не гастралёрства; дапытліва, прагна глядзець на свет — гэта не ўласцівасць толькі наіўнага юнацтва, гэта проста прырода мастака.

Цяжка, дый немагчыма, мусіць, угадаць наперад, нашто табе прыдасца тая ці іншая сустрэча, гутарка, дзе, на якіх старонках ты знойдзеш найбольш адпаведнае месца для карціны прыроды, што ўсхвалявала цябе, каму з будучых герояў аддасі свае думкі і пачуцці.

«Усё, што ўражае розум і сэрца, трэба запісваць»,— раіў Л. М. Талстой. Словы гэтыя я яшчэ ў раннім юнацтве ўзяў на сваё ўзбраенне не толькі ў іх прамым, канкрэтным значэнні. Запісваць — гэта пісаць найлепшым чынам — працай, барацьбой, любоўю ці нянавісцю сваёй узводзячы заўважанае і перажытае ў ступень вялікага мастацтва.

Бывае па-рознаму. Адну з'яву, што ўразіла твой

розум і сэрца, ты здолееш перадаць чытачу амаль неадкладна і добра, а другую — носіш гадамі, з тугой і болем чакаючы апошняга штуршка, найбольшай сілы азарэння, якія дадуць табе права як след, на ўсю сілу «запісаць» для другіх перажытае.

І тое, і другое заканамерна. Важна адно — не гвалтаваць самога сябе, не лгаць, не прыстасоўвацца да моды, а мець на ўвазе галоўнае і адзінае — праўду жыцця.

У мяне даволі-такі сціплы літаратурны вопыт: апавяданні, нарысы, пяць аповесцей, адзін раман, пакуль што невядомы чытачу. Думаючы пра гэтае выступленне [1], я ўспамінаў гісторыю амаль кожнай з маіх рэчаў, напісаных у розны час. Так, «перад першай старонкай» заўсёды было жыццё, а ў жыцці — тое невытлумачальнае, хвалюючае, блізкае мне, мною заўважанае *нешта,* што я павінен быў запісаць. Я ніколі нікуды не ездзіў з зададзенай мэтай — знайсці тэму, героя, матэрыял, тым больш натхненне. Я не паспеў або не змог справіцца з многімі тэмамі — гэта размова другая. Але ўсё, што мне ў той ці ў іншай меры ўдалося дагэтуль напісаць, было вынікам не нейкага спецыяльнага, выпадковага вывучэння, а вынікам усяго жыцця, усёй і ўсебаковай вучобы ў яго.

Праўда, у паасобных выпадках, аднак ужо толькі пасля таго, як была даволі пэўная задума, былі пачаты першыя старонкі, даводзілася зноў выязджаць «на месцы», да прататыпаў, і ўдакладняць сёе-тое,— зноў жа такі не «сверяя с жизнью первый том», а ад жадання яшчэ раз акунуцца ў блізкае, напіцца з той крыніцы, што жывіла і жывіць цябе заўсёды.

*1963*

---

[1] Напісана па просьбе часопіса «Вопросы литературы», пад рубрыку «Перед первой страницей».

# РАЗУМНА, САРДЭЧНА, ВЕСЕЛА

Кніжак шмат, часу непараўнана менш, і не ведаю, ці так ужо гэта брыдка, што я да апошніх дзён не чытаў нічога з напісанага Іонам Друцэ. А вось прачытаў яго п'есу «Каса марэ», зборнік апавяданняў «Падуранка», раман «Стэпавыя балады» і ўжо нібыта не магу сабе нават уявіць, што я зусім нядаўна не ведаў гэтых таленавітых рэчаў, іх разумнага, сардэчнага, вясёлага аўтара.

Над старонкамі Друцэ даволі-такі часта думаеш: так, гэта тое, што ёсць — як жыццё, і тое, што трэба — як літаратура.

Падкупляе праўдзівасць пісьменніка, яго чалавечнасць, тонкае пачуццё гумару, лірычная ўсхваляванасць, амаль усюды дастаткова далёкая ад свайго смяротнага ворага — сентыментальнасці.

Усе гэтыя якасці, на маю думку, асабліва прыкметныя ў лепшых апавяданнях Друцэ, праявіліся, вядома, і ў яго рамане.

І ў ім я ўдзячна бачу, лепш пазнаю Малдавію, яе людзей, і свет становіцца ад гэтага яшчэ больш утульны і прыгожы. Так, Іон Друцэ — пісьменнік малдаўскі, ён вельмі любіць свой працавіты народ, сваю цудоўную, сонечна-песенную зямлю. Але ж, разам з тым, ён — пісьменнік савецкі ў самым шырокім значэнні гэтага слова, ён цікавы і блізкі для ўсіх, хто любіць наша жыццё, яго стваральнікаў і абаронцаў.

Анакі Карабуш, галоўны герой «Стэпавых балад», нягледзячы на тое, што некаторымі сваімі, зрэшты, агульначалавечымі, рысамі ён нагадвае злёгку іншых Кала Бруньёнаў, усё ж такі вобраз арыгінальны і цікавы. З ім весела, добра, асабліва ў першай палавіне

рамана, дзе вобраз гэты бачыцца мне па-сапраўднаму цэльным і ясным.

Слабей выглядае ён у раздзелах пра вайну, дарэчы, наогул напісаных незразумелай і недаравальнай скорагаворкай.

І сапраўды, нельга ж комкаць і падзеі, і перажыванні герояў, «пісаць пункцірам» пасля таго, як вы прывучылі чытача да поўнай грунтоўнасці апавядання, аддалі шмат душы другім з'явам і падзеям, не больш значным, чым, напрыклад, страта галоўным героем абодвух сыноў...

З Карабушам я пазнаёміўся, здавалася, як друг, сусед, ледзь што не член яго сям'і, уведаў яго ў працы, у нястачах, у радасці, палюбіў яго казкі, яго хітраватую, добрую ўсмешку, нават хату яго, з усімі шчылінамі на белых сценах, і лазовую, з гасцінным скрыпам брамку запомніў, здаецца, назаўсёды.

А вось як яго сыны сталі румынскімі фашыстамі, як ён страціў іх, як гараваў і баяўся адпомсты, як пасля гэтай трагедыі зноў ужываўся ў блізкую для яго, бедняка, савецкую сапраўднасць,— пра ўсё гэта расказана бледна, непераканаўча.

Вобразы Карабушавых сыноў не вытрымліваюць параўнання з іншымі вобразамі рамана.

Скажам, дачка яго, Нуца. Яна і мілая, ажно хлопцы-аднасяльчане б'юцца з-за яе, яе да слёз шкада, калі дзяўчына акалечала, яна і прыгожа моцная, калі насуперак усяму становіцца жанчынай, жонкай любімага чалавека; яна жыве ў рамане з першых яго старонак, любіміца сям'і, адзіная дачка «бадзі» (дзядзькі) Анакія і ягонай, не менш сімпатычнай, ціхай Тыкунцы.

Сыноў у іх два, яны блізнюкі. Як вобразы — з адной на двух нагрузкай, так сказаць, двойчы адзін, а па сутнасці — амаль ніводнага. Ніяк не эпізадычныя ў творы, яны нашмат больш невыразныя за эпізадычныя вобразы накшталт настаўніка Мікулеску, дзеда Булгарэ, братоў Марару...

І мне знаёма тое горкае пачуццё прыкрасці, якую мы, аўтары, адчуваем, убачыўшы ў рэцэнзіі на нас традыцыйна-шаблоннае «аднак»... Чытаючы Друцэ, я радасна думаў спачатку, што абыдуся ў сваім водгуку без «аднак» — гаварыць буду толькі пра дасягненні. Ды што ж ты зробіш, калі хочацца, каб яшчэ адзін та-

варыш па прызванню, пазлаваўшы трошкі, быў удзячны табе за шчырасць.

Харошая, натуральная паэтычнасць прозы Друцэ здаецца сям-там робленай і зацяжной, яе варта было б для праверкі ўстойлівасці самому аўтару судзіць больш строга, часцей думаць пра дакладнасць малюнка і нідзе не лішнюю сціслаcць. Мёд, як вядома, цудоўная рэч, але ж ён якраз і патрабуе найбольш гаспадарскай памяркоўнасці ў спажыванні і дазіроўцы.

Пачуццё меры ўласціва Друцэ ў вялікай ступені, аднак і яму, вядома, неабходна быць пільным. Чым лепшы майстар, тым больш прыкметны зрыў.

Закранаючы адзін з іх, дазволю сабе такое адступленне.

Неяк на Амуры, ноччу, у кубрыку былога маніторa, пераабсталяванага ў плывучы дом адпачынку, дырэктар аднаго з вядомых на ўсю краіну заводаў, таварыш цалкам салідны і заслужаны, частаваў нас, групу літаратараў, гасціннай чарачкай і рыбацкімі расказамі, што ў паасобных выпадках лёгка пераходзілі мяжу рэальнага. «Калугу мы, браткі, злавілі нядаўна — во, дзевяноста шэсць пудоў!..» Уражаныя мясцовай экзотыкай, госці пачціва маўчалі, ведаючы ўсё ж такі, што, калі верыць «Вялікай савецкай энцыклапедыі», гаспадар хапянуў амаль удвая больш. І толькі адзіная за нашым сталом жанчына, вясёлая, мілая ўкраінка, спыталася, ледзь стрымліваючы смех: «Іван Іванавіч, ну і навошта вам столькі рыбы за раз? Збаўце, будзь ласка, ну хоць трошкі!..» Яна рагатала так весела, што і госці збіваліся з пачціва-стрыманага тону, а гаспадар, як сапраўдны рыбак, адпачываў на ўсю душу і далей.

Чытаючы адзінаццаты раздзел рамана «Стэпавыя балады», своеасаблівае прызнанне Мірчы і Нуцы, мне здавалася, што аўтар, уздымаючы паэтычнасць на страшэнную рамантычную верхатуру, трошкі перахапіў. Першая блізасць на вялікім, раскалыханым на калдобінах возе сена, ды яшчэ ў той момант, калі коні панеслі з гары, а спераду «чортаў мост» — хісткі і вузенькі — над глыбокім ярам,— гэта ах як прыгожа!.. А ўсё ж хочацца сказаць таленавітаму калегу: «Іон Панцялеевіч, дружа, ну і навошта вам адразу столькі прыгажосці? То ж, далібог, не вельмі верыцца!..»

Бываюць пралікі і з гумарам. Арыгінальны, сакаві-

ты, чысты гумар, і раптам... Паўтарагодні хлопчык, лаючы старога, па-даросламу карыстаецца «папулярнай малдаўскай лаянкай». Ну, гэта хай сабе. Ды вось аўтар яшчэ і «адшліфоўвае дэталь», старанна растлумачвае: «лаянкай, у якой гаворка ішла пра пэўныя адносіны паміж гэтым жэўжыкам і даўно нябожчыцай маці Кастаке Міхая». Гэта, па-мойму, вельмі нясмешна...

Паметка «канец першай кнігі» не дае мне поўнага права гаварыць пра некаторыя іншыя недахопы рамана, звязаныя з кампазіцыяй,— задоўгае прабыванне Нуцы па-за дзеяннем, «фатаграфічнае» з'яўленне чэшкі, выхад Мірчы ледзь не адразу на месца самога Анакія і сёе-тое яшчэ.

Зрэшты, як ж не пра гэта хацеў спачатку гаварыць. Мне хацелася, перш за ўсё, выказаць радасць па прычыне знаёмства з яшчэ адным цікавым пісьменнікам і пажадаць яму вялікіх поспехаў.

Ну, а некалькі заўваг — гэта ж не так сабе, не прычэпкі дзеля раўнавагі, а пажаданне поспехаў — у канкрэтным плане.

*1963*

# РАННЕ І ВЕЧАР

Украіну я пачаў любіць па Гогалю. Любові гэтай вельмі шмат гадоў — здаецца, значна больш, чым мне самому... Яна непарыўна звязана з імем Мікалая Васільевіча, які ў сваёй творчасці спалучыў красу Украіны і Расіі, і розную і агульную ў нечым галоўным.

Шаўчэнка прыйшоў пазней. Прыйшоў партрэтам і вершам, у старой, зачытанай рускай хрэстаматыі, адной з рэдкіх, выпадковых кніг майго вясковага маленства. Нахмураныя бровы пад папахай, запарожскія вусы, расхрыстаны доўгі кажух. А верш — «Садок вишневий коло хати» — чароўная прастата, што адразу бярэ за душу, адразу і назаўсёды твая.

Пасля гэты верш прыйшоў у нашу вёску песняй. Нехта прынёс яе цудоўную мелодыю, гучала яна вясновымі вечарамі на вуліцы, яе хацелася паўтараць за плугам, у адзіноце...

У трывожныя летнія дні трыццаць дзевятага года, салдаты былой польскай арміі, беларускія і ўкраінскія хлопцы, мы часамі збіраліся па некалькі чалавек за горадам, у нядзелю, і адводзілі душу ў сяброўскай гутарцы, падмацоўваліся роднымі песнямі.

І там быў Шаўчэнка. Не толькі ў песнях.

Да ціхай, цёплай журбы выразна ўспамінаю прыгажуна Апанаса, валынскага парубка ў форме польскага артылерыста,— як ён стаіць на каленях у густой, высокай, расквечанай траве, узвышаючыся над намі, бо мы ляжым, як ён натхнёна чытае па памяці:

За горами гори, хмарою повиті,
Засіяні горем, кровію политі...

Так я пачуў упершыню «Кавказ».

Пасля вайны, ужо ў высокім званні савецкага пісьменніка, я многа ездзіў па Украіне, бачыў, як яна любіць Шаўчэнку. Да таго часу я ўжо і сам на ўсю душу палюбіў яго вершы, паэмы, «Журнал», яго карціны і малюнкі, сардэчныя песні, што нарадзіліся з яго паэзіі.

Дзве радасці падарыла мне жыццё, два дні, азораныя веліччу Кабзара.

Майскае ранне на Дняпры, каля падножжа гары Чарнечай. Зялёны, ледзь не да самага неба стромы абрыў, з густой, ацІхлай, шчодра акропленай расою лістотай. І высока, высока — першы ў промнях усходу — Тарас.

Летні вечар у Канадзе, на беразе вялізнага, як мора, возера Антарыё. Дамок-музей Шаўчэнкі. Дняпроўскія вербы... Так, яны там выраслі з галінак, прывезеных з Дняпра. Адтуль жа і помнік Кабзару. Знаёмае, простае аблічча геніяльнага паэта, мысліцеля і палымянага рэвалюцыянера, што вырас з прыгоннага хлопчыка, як гэтыя вербы — з маленькіх галінак, што перайшлі бязмежны акіян...

У тую раннюю ўкраінскую раніцу, калі мы, тры беларускія пісьменнікі, падніамаліся па бясконцых драўляных прыступках на Чарнечую, навокал стаяла зялёная, росная, першабытная цішыня, а ў душы маёй ціха, да слёз сурова і пяшчотна не сціхаў напеў:

> Думи мої, думи мої,
> Лихо мені з вами!..

І было так добра далучыцца да самых высокіх пачуццяў, што клічуць да працы і барацьбы, як найдалей ад дробязнай абывацельскай мітусні.

У той канадскі летні вечар, мы савецкія турысты,— згубіўшыся ў шматтысячным эмігранцкім натоўпе ўкраінцаў, рускіх, беларусаў, палякаў, чэхаў, македонцаў,— у адзіным масавым парыве спявалі магутную, як гімн, «Реве та стогне Дніпр широкий», і ў душы маёй, у маёй свядомасці, як ніколі раней, Шаўчэнка ўставаў як сімвал прагрэсу, братняй еднасці ўсіх, хто за мір, за шчасце для людзей.

*1964*

# З ІМ ДОБРА

«Сто радкоў пра Кацюбінскага? Ну што ж, з прыемнасцю. Так, я люблю яго. І даўно, з тых яшчэ дзён, калі мне ўпершыню адкрылася «Fata morgana». Вось толькі пераглядзець, перачытаць сёе-тое...»

Адразу, пасля гэтай гутаркі па міжгароднім тэлефоне, пачынаю з таго, што перачытваю паасобныя рэчы.

Пачаў з таго, што першае згадалася — эцюд «Цвет яблыні». Гора бацькі, боль страты, апошняе развітанне з адзінай дачушкай і... высокае адчуванне абавязку ў чалавека, які і ў горы не можа не заставацца мастаком. Вобраз дзяўчынкі, вобраз бацькі, сонца, белыя пялёсткі — усё гэта зноў ажывае ў маім уяўленні, пачуцці аўтара з новай сілай хвалююць...

«Падарунак на імяніны», «Смех», «Што запісана ў кнігу жыцця»... Я як быццам забыўся, што ўсё гэта ведаю,— зноў чытаю як новае, яно палоніць мяне новай свежасцю, глыбінёй, не магу адарвацца ад кнігі, выйсці са свету, які мне з прыхаваным хваляваннем і разумнай шчодрасцю сапраўднага пісьменніка паказвае сапраўдны чалавек — мілы Міхайла Міхайлавіч. І як ні бязрадасны, як ні жахлівы часамі той свет дэспатызму, цемры, галечы, свет, па якім я іду ад апавядання да апавядання, мне добра, таму што я не адзін. Я з тым, хто цвёрда ведае, што шчасце прыйдзе, хто повен светлай веры ў перамогу дабра.

«Ён быў адным з тых рэдкіх людзей, якія адразу ж, пры першай сустрэчы з імі, выклікаюць шчаслівае задавальненне: іменна гэтага чалавека ты даўно чакаў, іменна для яго ў цябе ёсць нейкія асаблівыя думкі!»

Цяпер, у юбілейныя дні, гэтыя словы Горкага цы-

туюцца многімі. Дый над старонкамі Кацюбінскага яны як найлепш падыходзяць для выражэння тых пачуццяў, якія мы перажываем, думаючы пра яго.

І ў мяне для яго ёсць свае асаблівыя думкі... лепш сказаць — асаблівыя пачуцці.

З гэтымі пачуццямі я, беларус, думаю пра дружбу двух выдатных сыноў Расіі і Украіны. І не выпадковым, а сімвалічным бачыцца тое, што іменна Кацюбінскаму Горкі перадаў сваю высакародную радасць у простых, задушэўных словах:

«У Беларусі ёсць два паэты: Якуб Колас і Янка Купала — вельмі цікавыя хлопцы! Так прымітыўна-проста пішуць, так ласкава, сумна, шчыра. Нашым бы трошкі гэтых якасцей!..»

Гэта ўжо добра вядома. Вельмі многім знаёма і гэтае пісьмо, і пачуццё захаплення цудоўнымі людзьмі, носьбітамі сапраўднай чалавечнасці.

Ды я і не збіраўся сказаць пра Кацюбінскага штосьці новае. Зноў перачытваючы яго апавяданні, я радасна пераканаўся ў тым, што мне толькі здавалася, што я нядрэнна яго ведаю... Як кожны талент, ён раскрываецца не адразу. Ён жывы, ён патрэбны, з ім добра.

*1964*

# З ЮБІЛЕЙНАЙ ТРЫБУНЫ [1]

Улетку сорак першага года недалёка ад лермантаўскіх Тарханаў спынілася на начлег адна з вайсковых часцей. І вось там здарылася маленькае, аднак і дзёрзкае «ЧП». Раптам адзін з радавых папрасіў у начальства дазволу пабегчы ў сяло, у музей. Хлопцу пашанцавала — камандзір дывізіёна зусім нядаўна быў дырэктарам школы. Ён нават устаў з-за стала і падышоў да маладзенькага байца, учарашняга студэнта, каб спытацца:

— Ты да яго?..

І дазволіў. У парушэнне дысцыпліны.

Прабегшы некалькі кіламетраў, баец апынуўся каля зачыненага музея. Сяк-так упрасіў старога вартаўніка ўпусціць яго. Моўчкі і доўга снаваў з пакоя ў пакой. А выходзячы — зрабіў злачынства: са стосіка паштовак на стале, па-хлапечы нясмела, зладзеявата ўзяў адну і, склаўшы яе ўдвая, схаваў у вокладках свайго адзінага дакумента — студэнцкай заліковай кніжкі.

Пасля з гэтым салдатам здарылася вельмі страшнае — вясной наступнага года ён апынуўся ў палоне... Праз пекла фашысцкай няволі пранёс хлапчына свой талісман — тую паштоўку з партрэтам Міхаіла Юр'евіча, цудоўны сімвал мілай Радзімы, заруку немінучай, як верыў хлопец, перамогі. Тры гады Лермантаў быў з ім — і за калючым дротам лагераў, і ў чорным падзямеллі Рура...

Сёння той былы юнак, наіўны ды захоплены, узмужнелы ў нялюдскіх умовах — вядомы наш беларускі паэт і добры таварыш Мікола Аўрамчык,— пачы-

[1] Выступленне ў Калоннай зале Дома Саюзаў 15.X.1964 г.

нае свой расказ пра перажытае простымі, дакладнымі словамі:

«Не адзін я, а тысячы людзей закаханы ў яго паэзію. І кожны з нас любіць яго па-свойму».

І сапраўды, у кожнага з нас ёсць свой Лермантаў. У кожным з нас жыве непаўторнае пачуццё, нават падзіцячы, падсвядома раўнівае: а я люблю яго больш за усіх!..

Каму не памагаў не сумаваць у барацьбе яго непараўнаны «Ветразь»! У горкія хвіліны каму не рабілася лягчэй, як толькі дакранешся душою да болю ягонага — да песні пра зоркі над ціхай зямлёй, над крамяністым шляхам! З Лермантавым — «Калі хвалюецца пажоўклае калоссе» — неяк паўней мы любім родную прыроду. Каму з нас, літаратараў, не даводзілася ў пачатку дарогі да сцішнаты шчасліва правяраць самога сябе на суровых радках: «Не верь, не верь себе, мечтатель молодой...»! Чыё сэрца, няхай сабе і стомленае ад барацьбы і працы, не здрыганецца ад радаснага адчування абавязку пры гуках вечавога голасу яго «Паэта»! Яго «Барадзіно» вучыла мужнасці і воінаў, і партызанаў, мужчын і жанчын, якія абаранялі радзіму. Яго «Калыханка» — даўно знаходзіцца на ўзбраенні не толькі ў мам ды бабуляў,— і мы, мужчыны, аберагалі яе пяшчотнасць у нягодах вайны, нясмела думаючы пра сваіх... далёкіх, будучых першынцаў.

Зрэшты, пра нашу ўсеагульную любоў да паэзіі Лермантава, да яго, кажучы ўслед за Гогалем, «правильной, прекрасной, благоуханной» прозы можна — ледзь не так, як пра маці,— гаварыць бясконца.

Гэтую любасць сведчаць не толькі тысячы і тысячы людзей — пра гэта гавораць народы, у чым нас яшчэ раз прыемна пераконвае сённяшні святочны вечар.

Я маю шчасце быць маленькім, сціплым сведкам шчырай любові да вялікага сына Расіі, той любові, якую жывіць да яго і да яе мой, нязменны ў пачуццях, беларускі народ.

*1964*

# НЕПАРАДНЫ АГЛЯД

У «Маладосці» ў мінулым годзе надрукавана больш за сорак апавяданняў. Побач з іншымі празаічнымі творамі (раман, шэсць аповесцей, некалькі нарысаў) рэдакцыя па-гаспадарску шчодра дала дарогу і таму працаёмкаму, высакароднаму жанру, які ў нас, і не толькі ў Беларусі, усё яшчэ не карыстаецца належнай увагай. Такі выхад апавяданняў толькі ў адным з трох нашых літаратурных часопісаў здаецца мне значнай з'явай яшчэ і таму, што апавяданні гэтыя ў большасці напісаны маладымі. З семнаццаці аўтараў — трынаццаць маладых, сярод якіх тры дэбютанты. Добра! Моладзь ідзе адразу, ды так дружна, у прозу — гэта яшчэ адно сведчанне жывучасці і сталасці нашай літаратуры.

Некалькі апавяданняў надрукавалі ў часопісе старэйшыя пісьменнікі: А. Пальчэўскі, А. Кулакоўскі, В. Хомчанка, І. Навуменка. Але я буду гаварыць пра маладых. З прыемнасцю, а не ў дакор старэйшым і не таму, што маладыя нібыта менш балюча ўспрымаюць крытыку... Нейкіх катэгарычных рэцэптаў даваць не збіраюся, за шчырасць таксама не буду прасіць прабачэння, у абодвух выпадках — з павагі да нашай агульнай справы. Проста выкажу некалькі думак, нібы зраблю заўвагі на палях часопіса, але ж, вядома, з надзеяй, што сёе-тое з майго вопыту можа каму і прыдацца.

Спачатку пра дэбютантаў.

Нядаўна мне давялося прачытаць першыя, яшчэ не апублікаваныя апавяданні здольнага паэта А. Наўроцкага. Няцяжка прарочыць яму вядомасць арыгінальнага, сур'ёзнага празаіка — я веру, што чытач пераканаецца ў гэтым у недалёкай будучыні. Вельмі добра,

што Ул. Караткевіч, пісьменнік цікавага таленту і пакуль што нялёгкага лёсу, піша не адну паэзію, але і прозу. З розным поспехам выступілі апошнім часам у прозе Я. Сіпакоў, Ул. Нядзведскі, М. Арочка... Я хацеў бы, каб выступіў Р. Барадулін: у яго гэта, верыцца, пойдзе. Дарэмна замыкаюцца ў чыста жанравай вузкасці іншыя з маладых — хто з іх шчыра шукае, каму па-сапраўднаму ёсць што сказаць.

І вось я чытаю першае апавяданне Генадзя Бураўкіна «Мёртвыя жывуць». У вершах гэтага паэта і я быў нядаўна рады заўважыць якасны зрух да большай мужнасці і глыбейшага пафасу. А прачытаўшы апавяданне, падумаў: што ж тут сказаць яму, таварышу адукаванаму, здольнаму, не навічку з пяром? Ёсць жа такая, па-мойму — найцяжэйшая для крытыка, сітуацыя, калі ні хваліць няма асабліва за што, ні ганіць — таксама, а прамаўчаць — не хочацца, нельга, бо ў аўтару бачыцца шчырасць імкнення. Апавяданне «Мёртвыя жывуць» здаецца мне ледзь не плакатна бясспрэчным, ясным і... знаёмым па сваёй задуме, хоць гэта добрая задума і прадыктавана аўтару жыццём. Бяда, відаць, у тым, што Г. Бураўкін не змог перамагчы адзін вельмі істотны недахоп, уласцівы і іншым маладым таварышам (да гэтага я яшчэ буду вяртацца ніжэй). Пра ўсё гаворыць ён з нейкім «эпічным» размахам, грунтоўна, месцамі проста расцягнута, а як дайшоў да галоўнага — скорагаворка і заслона. Я маю на ўвазе сустрэчу маці-партызанкі з былым паліцаем, ваенным злачынцам, які цяпер, столькі гадоў пасля вайны, забраўшыся ў мясціны, дзе яго не ведаюць, маскіруецца пад сумленнага чалавека. Іменна гэтая, апошняя ў апавяданні, сцэна павінна быць узята буйным планам, тут павінна адбыцца галоўнае — я, чытач, павінен перажыць разам з героем тое, што ён перажывае, а разам з аўтарам — адчуць захапленне, нянавісць, агіду. Гэтага ў апавяданні, на жаль, не атрымалася: псіхалагічнае напаўненне ключавой сітуацыі недастаткова глыбокае. І я параіў бы аўтару не толькі памятаць пра небяспеку спешкі, гладкапісу, павярхоўнасці ў далейшай працы, але і да гэтага апавядання вярнуцца з большай строгасцю. Задума яго вартая найбольшых намаганняў.

Апавяданне Ірыны Крэнь «Антон Чобат», першы надрукаваны твор навуковай супрацоўніцы Інстытута

літаратуры Акадэміі навук, таксама не новае па тэме і расцягнутае. У рэдакцыі я пачуў (прашу прабачэння за здраду таямніцы), што гэта была аповесць, якую разам з аўтарам скарацілі да памераў апавядання. Калі па Чэхаву, дык гэта правільна. Аднак шляхам толькі скарачэння тут было вельмі нялёгка дамагчыся поспеху, большага, чым той адносны поспех, якога дамаглася дэбютантка. У І. Крэнь нядрэнная мова, бачыцца веданне жыцця, шчырая зацікаўленасць тым, пра што яна піша. І тут бяда зноў жа ў празмернай, вялай грунтоўнасці. А яшчэ большая — у недастаткова глыбокім і яркім паказе духоўнага свету героя. З упартага, узброенага спрадвечнай традыцыяй аднаасобніка стаць свядомым, актыўным калгаснікам — гэта вельмі складаны працэс, а з Чобатам ён адбываецца залішне гладка. Справа тут, вядома, не ў колькасці старонак, а ў іх насычанасці, у навізне і дзейснасці мастацкіх сродкаў. Бо толькі гэта дае любому аўтару права пачынаць гаворку на тэму, даўно не новую ў савецкай літаратуры.

Анатоль Сідарэвіч, юнак дапрызыўнага ўзросту, нядаўні выхаванец дзіцячага дома, зрабіў цікавую заяўку на апавядальніка. Яго «Вяртанне» і «Лета», асабліва першая замалёўка, свежыя па мове, па непасрэднасці, па паходжанню ад жыцця. І нічога, што мова маладога — як на празаіка, дык зусім маладога аўтара трохі залішне назойліва стракаціць дыялектызмамі,— глянец ён нажыве, толькі каб глянец гэты не пашкодзіў свежасці. У канцы «Вяртання» ёсць дэталь, якая добра сведчыць пра здольнасць А. Сідарэвіча. Бандыцкім стрэлам забіты на самотнай дарозе салдат, які вярнуўся з фронту калекам, просты і шчыры чалавек, якога клічуць на цяжкую працу ваенныя разбурэнні, якога ў першую ноч на суровай радзіме прыгрэла ласка маладой удавы, такой жа адзінокай, як і ён. Вось два заключныя сказы апавядання: «На дарозе ляжаў чалавек. Воддаль — маленькі — як сэрца — клуначак...» Той клуначак, які дала яму яна. Той клуначак, які хвалюе.

Аднак пра Сідарэвіча мне хочацца гаварыць пакуль што вельмі асцярожна — толькі жадаючы яму як найбольш сур'ёзнасці ў працы, толькі чакаючы таго, што будзе, бо, мяркуючы па заяўцы, павінна быць.

Ігар Хадановіч і Клара Пішчыкава — ужо не дэбю-

танты, яны надрукавалі дагэтуль па некалькі апавяданняў, у пэўнай меры звярнуўшы на сябе ўвагу аматараў роднай літаратуры. Імёны гэтых аўтараў я паставіў побач не выпадкова — абое яны пішуць пра маладых інтэлігентаў, кожны па-свойму намагаючыся пранікнуць у душу сучасніка.

І. Хадановіч у апавяданні «У кватэры заставаўся хлапчук» даволі ўдала паказвае характар маладога чалавека, яго яшчэ юначую, чыстую наіўнасць, раздвоенасць паміж сабой, сваім унутраным «я» і тым, што нібыта павінна быць, каб і ён выглядаў, «як усе». Начальнік па рабоце папрасіў, каб, пакуль ён з жонкай будзе на курорце, Алека пажыў у ягонай кватэры. Вярнуўшыся, гаспадары нязлосна западозрылі яго ў тым, што ён прыводзіў сюды дзяўчат. А ў хлопца дзяўчыны яшчэ няма, ён яшчэ не сустрэўся са сваім каханнем. Але ж яму чамусьці не трэба, каб думалі, што ён — «не як усе», і добры, сімпатычны юнак, падвыпіўшы для смеласці, ілжэ гаспадару: «А ведаеце, я прыводзіў сюды адну...» Яму робіцца брыдка ад гэтай маны, і, пішучы ў той жа вечар пісьмо да маці, ён не хоча, каб і яна хоць трохі западозрыла свайго хлопца ў нечым благім. «У кватэры заставаўся іхні хлапчук»,— маніць ён і зноў адчувае, што гэта таксама не тое...

Дарэчы, ад гэтай фразы з пісьма пайшла назва апавядання. Назва няўдалая, бо з самага пачатку апавядання і да канца яго, да тае фразы з пісьма, думаецца, што хлапчук — гэта Алека, які ўжо зусім не хлапчук, і недарэчнасць гэтая без дай прычыны раздражняе.

Зроблена апавяданне, як і належыць яму, лірычнаму ды «бессюжэтнаму», даволі тонка, аднак і залішне ўжо асцярожна, месцамі нават нясмела, бледна. Патрэбных штрыхоў не хапае — скажам, хоць бы якога намёку на працу, на прафесію героя,— а на «святыя месцы», што не любяць пуставаць, прыходзяць іншыя штрыхі, то лішнія, то недакладныя — як тыя вочы ў пачатку, што так да канца і не «стрэлілі». У выніку апавяданне месцамі, ды часткова і цалкам, нагадвае недапраяўленую фотаплёнку, у той час калі дакладнасць, яснасць найбольш патрэбны ў творах кароткіх.

Падобная «недапраяўленасць» бачыцца мне і ў апавяданні К. Пішчыкавай «Зайду да цябе, Светка!». Аў-

тарка нібыта нават знарок забаўляецца недагаворкамі, настолькі баіцца быць дакладнай і зразумелай, што мне, нарэшце, няясна, з-за чаго гарыць сыр-бор — чаму героі пакахалі адно аднаго, чаму разышліся... Ад такога жадання быць звышлапідарным, звышлёгкім, звышінтэлектуальным нараджаецца часам зусім адваротнае — самая звычайная неахайнасць. Маналог аўтара месцамі штучны, фармальна скіраваны да гераіні, а па сутнасці разлічаны на чытача, а чытачу бывае смешна і прыкра бачыць «белыя ніткі».

У тым выпадку, дзе яснасць задумы спалучылася з добрым, як у народзе гаворыцца, чыстым выкананнем, атрымаліся два зусім прыстойныя апавяданні, «Звычайны» і «Незвычайны», зробленыя далікатнай ды спрытнай жаночай рукой, з належным веданнем дзявочай псіхалогіі.

Крытыку даўно непакоіць той факт, што ў нас вельмі мала твораў «на рабочую тэму». Прамысловасць расце, расце рабочы клас, а літаратура, маўляў, усё яшчэ астаецца сялянская. Нешматлікія выпады нашых празаікаў у дэфіцытную тэматыку — так званае вывучэнне імі жыцця метадам творчых камандзіровак на заводы і фабрыкі — не далі пакуль што асабліва прыкметных вынікаў. Я не надта схільны шукаць выхаду з такога становішча нейкім знешне адміністрацыйным шляхам. Нараджэнне сапраўды значных твораў з жыцця беларускага рабочага класа — працэс складаны, яго не вельмі падгоніш. Жывасілам цягнуць рабочага ад станка да пісьмовага стала, больш за ўсё спадзеючыся на сілу класавай прыналежнасці, цяпер ужо ніхто, бадай, не возьмецца. Рабочы як аўтар прыйдзе ў літаратуру сам, па прыкладу селяніна і інтэлігента. Той рабочы, што па-народнаму разумна зберажэ матчыну мову і годнасць патрыёта разняволенай Кастрычнікам Беларусі. Ён скажа сваё важкае, таленавітае слова, ён ужо нават у пэўнай меры сказаў яго, пачаў гаварыць — вуснамі сваіх маладых прадстаўнікоў. І нельга, вядома, не радавацца іх першым удачам.

Валянцін Мыслівец і Іван Шальманаў ідуць у беларускую прозу, ведаючы жыццё рабочых не збоку, не мімаходзь, але з глыбінь яго, арганічна. Будзе добра, калі таварышы гэтыя не парвуць, не паслабяць жывых і

пастаянных, а не гастралёрскіх сувязей з тым асяроддзем, якое дало ім пуцёўку ў літаратуру.

Чытаючы «цэхавую хроніку» В. Мысліўца «Сябры-таварышы», я радаваўся яго шчырай любові да таго, пра што ён піша,— да свайго завода, да людзей, з якімі ён працаваў, а цяпер, хоць сам пайшоў у газету, ён сустракаецца па-сяброўску, часта прыходзячы да іх. У разглядзе апавяданняў не вельмі было б апраўдана даўжэй спыняцца на «цэхавай хроніцы», напісанай цікава, асабліва ў другой палавіне нарыса. Я закрануў гэты твор таму, што ён сказаў мне яшчэ раз пра здольнасці В. Мысліўца, пра тое, што з яго павінен вырасці добры пісьменнік рабочай тэмы. Недарэчна было б, аднак, заклікаць маладога таварыша абмяжоўвацца толькі гэтай тэматыкай, калі яго хвалюе жыццё ва ўсіх праявах.

З прыемнасцю прачытаў я, напрыклад, апавяданне В. Мысліўца «Апошні страх» — жывы ўспамін пра адчуванні хлопчыка, што з нямоглым дзедам і маленькай сястрой хаваецца ў лесе ад фашыстаў, якіх ужо гоняць, якія лютуюць, спаганяючы злосць на мірным, безабаронным насельніцтве.

Я толькі параіў бы Мысліўцу асцерагацца сентыментальнасці, якая сям-там прыпсоўвае здаровую, мужную жывасць апавядання нейкім бабуліным бяззубым прышапетваннем: «сястрычка Галачка», «дурнічка», «кулі, як пчолкі» і іншыя.

Другое, на што мне хочацца звярнуць увагу В. Мысліўца, гэта дыялог, над якім яму трэба працаваць больш настойліва, строга думаючы пра яго натуральнасць. Радасць хворага дзеда і малога ўнука, калі прыйшло вызваленне, аўтар выказвае не іхнімі, а больш сваімі словамі, што гучыць прыкра сваёй неадпаведнасцю.

І трэцяе пажаданне, галоўнае. В. Мыслівец збіваецца на скорагаворку, на сухую павярхоўнасць там, дзе трэба думкі і адчуванні герояў даваць буйным планам. Малы карміцель і абаронца (якая горкая і страшная іронія!) — хлопчык паклаў у прысак бульбу, а сам пайшоў у гушчар шукаць вады. Аўтар нібы забываецца, што мог думаць тады галодны, запалоханы малец, які ён ні мужны, а ўсё ж дзіця, якому патрэбны перш за ўсё ласка і абарона,— што думаць, блукаючы па ле-

се, і што адчуваць, як балюча пакрыўдзіцца, калі прыйшоў, прынёс вады, а бульбу другі галодны дзіцёнак... з'еў без яго. Тут можна душу перавярнуць чытачу, калі чарпануць на ўсю глыбіню. Даваць аўтару скідкі на маладосць, апускацца да «філасофіі»: што ж, мы не Чорныя, не Дастаеўскія — я не хачу, не маю права. Я хачу верыць у магчымасці В. Мысліўца. А тым больш павінен верыць у сябе, у святасць свайго абавязку ён сам.

«Абэрак», апавяданне І. Шальманава, было б куды мацнейшае, каб аўтар не размахваўся на «ахоп падзей», міжволі ці нават з асалодай, як здаецца месцамі, пагарджаючы законам жанру — сцісласцю. Цікавы, не прыдуманы вобраз старога машыніста Пяхцецкага, па мянушцы Абэрак; вобразы яго памочніка Васіля Пацярухі і маладога качагара, ад імя якога вядзецца апавяданне, значна выйгралі б ад большай сабранасці твора, большай эканомнасці, пругкасці фразы. Яшчэ мацней «ударыла б па чытачу» нечаканая, натуральная, навелістычная канцоўка. Можна было б, вядома, сказаць: апавяданне добрае і так — яно даволі цікава чытаецца, у ім дзейнічаюць даволі жывыя персанажы, аўтар даволі грунтоўна ведае матэрыял і г. д. Сказаць так было б з майго боку даволі-такі несумленна. Я прачытаў пакуль што толькі адно апавяданне І. Шальманава, але і ў гэтым апавяданні мне бачыцца, што аўтар яго не проста можа штосьці сказаць, але мог бы сказаць і лепш. Ну, дык што — можа, ён гэтага не хоча?

Я не ставіў сабе за мэту паслядоўна ды падрабязна, ад назвы да назвы, разгледзець усе апавяданні, надрукаваныя летась у «Маладосці». Пакідаючы за сабой права пры зручнейшым выпадку выказацца пра набытак некаторых іншых сяброў па жанру, хачу спыніцца яшчэ на трох імёнах — Б. Сачанка, І. Чыгрынаў, М. Стральцоў.

Чатыры аповесці, адну з якіх, «Пакуль не развіднела», я лічу вельмі нядрэннай, і расцягнуты дарожны нарыс «Зямля маіх продкаў» не надта перашкаджаюць мне думаць, што Барыс Сачанка — перш за ўсё апавядальнік. Яго апавяданні і замалёўкі я пазнаваў бы ўжо, здаецца, і тады, калі б яны друкаваліся ананімна ці пад псеўданімам. І не толькі па іх станоўчых

якасцях — любові да чалавека працы, пэўнай смеласці, пластычнасці малюнка, добрай мове,— але і па недахопах, таксама сачанкаўскіх. Сцісласць яго кароткіх апавяданняў, замалёвак, накідаў, мініяцюр сяды-тады пераходзіць у звычайную неданошанасць задумы; ад празмерна кароткага аўтар часамі шыбае ў вялую расцягнутасць; жывая, не кніжная, натуральная ў Сачанкі мова сям-там акрашваецца то пераймальнасцю (К. Чорны), то нейкім ледзь не старэчым прастарэканнем ды нараканнем.

Новая нізка апавяданняў, змешчаная ў «Маладосці», пачынаецца такой іменна «старэчасцю». Нельга не ўсміхнуцца ўжо ад назвы — «Далёкага дзяцінства дні» — ах, якога ж далёкага на... трэцім дзесятку!.. Апавяданне — звычайнае, прахадное, такія ў рэдакцыях акрэсліваюцца словамі «нішто сабе», «можна», «нядрэнна». Аўтар расказвае, як яго і ягоных сяброў калісьці ў маленстве вабіла ўдаль чыгунка. Звычайнасць апавядання ў яшчэ адным выданні просценькай задумы, вядомай не толькі па літаратуры, але і па фальклору, ад той, напрыклад, казачкі, дзе певень узляцеў на плот, убачыў, што неба сутыкаецца з зямлёй, усцешыўся і мужна павёў туды сваіх курэй. І вось звычайнасць гэтая, калі і не лічыць яе адразу недахопам, пачынае непакоіць:

А ці не вынік яна звычайнага, спакойнага жадання больш пісаць?..

Такое ўражанне склалася ў мяне, на жаль, ад усёй нізкі.

Апавяданне «Балота». Чытаючы яго, зноў успамінаеш дабрадушную рэдактарскую рэзалюцыю: «можна», «нядрэнна»... Здольнаму, удумліваму празаіку, аўтару трох цікавых кніжак, ужо няможна так пісаць, каб чытачу было відно, што аўтар чагосьці, кудысьці спяшаецца.

Для прыкладу — два абзацы:

«Адразу ж, не дастаўшы нават дна, пачынаю рукамі і нагамі грабці да травы — там, дзе яна, мае выратаванне. Ногі мае намацваюць пад сабой нешта цвёрдае. «Няўжо кладка!..» Так, гэта яна, бо праз некалькі крокаў я зрываюся зноў у прорву, і ўжо не ведаю, выплыву я ці не...

Дождж не аціхае, ён усё лье і лье... Чуваць, як не-

дзе далёка-далёка спявае певень. Заядла, задзірыста, няйнакш хоча кінуць некаму свой птушыны выклік. Праз хвіліну яму адгукаецца яшчэ адзін, потым яшчэ і яшчэ. І вось ужо крычаць дзесяткі — не менш — задзірыстых галасоў. І такая мілая, проста казачная музыка поўніць наваколле, што я ажно перастаю грэбацца. Стаю і, зачараваны, слухаю. Значыць, у тым баку, дзе пяюць пеўні, вёска. Там страха, гарачая бульба і цяпло...»

Прабачце, але чалавеку, які тоне ў багне і не можа выграбціся, з яе, не да пеўнікаў — яму проста нельга «стаяць» ды «зачаравана» слухаць. Тут не ён, не герой ваш перажывае, а вы, аўтар, пішаце пра гэта, спакойна расстаўляючы на шашачнай дошцы новай задумы пешкі мастацкіх якасцей.

Апавяданне «Чорны дзень» слабое сваёй сентыментальнасцю, як на дарослага чытача — залішнім «ачалавечваннем» пеўня Боціка і ўсяго курынага асяроддзя. Сёе-тое ў гэтых героях літаратурнага твора выглядае, відаць, інакш — скажам, пачуцці... закаханасці.

Такое апавяданне лепш было б, можа, адрасаваць маленькім чытачам, адпаведна падагнаўшы яго да ўзросту і ўзбагаціўшы цікавейшымі прыгодамі.

Ад замалёўкі «Дарогі» павявае даўно знаёмым, стражэй кажучы — літаратуршчынай. То Колас, то Гогаль, то песні любімыя ўспамінаюцца. Арыгінальнай тут здасца хіба канцоўка: «Іду, бо нехта ж павінен ісці — дарогі не могуць, каб па іх не хадзілі. Калі па дарогах не ходзяць, яны зарастаюць, перастаюць быць дарогамі...» Ісціна неабвержная, але ж і нуднаватая. Хоць ты бяры ды папрасіся ў кузаў грузавіка да вясёлай моладзі, дзе і праз стому здорава спяваецца супроць ветру!

Паспешлівасцю, павярхоўнасцю ў вырашэнні тэмы вызначаецца і апавяданне «Яе памылка». Прачытаўшы яго, раз і яшчэ раз, я ніяк не магу пазбыцца адчування пэўнай штучнасці ў паказе пачуццяў і паводзін герояў. Ён аўдавеў і ўсё яшчэ кахае сваю нябожчыцу, а дзяўчына, якая даўно закахана ў яго, стараецца купіць прыхільнасць любага тым, што па-рабску, калі не звышнаіўна, дык проста нізка, стараецца ва ўсім напамінаць яму тую, што памерла... Пачуцці герояў — яе

рабства і яго стойкасць — здаюцца мне толькі названымі аўтарам, а не паказанымі з глыбіні.

І апошняе — мініяцюры з цыкла «Агарод». Найбольш удаўся, па-мойму, «Часнок». Галава з адных зубоў, пра якія толькі і дбае злосны герой,— гэта і трапна і смешна. Усе іншыя мініяцюры пранізаны адной нотай — нейкім панылым скепсісам, што асабліва прыкметна ў «Сланечніку». Западозрыць любімца нашых агародаў, вясёлага, закаханага спадарожніка сонца, у падхалімажы — гэта можна толькі наўмысна. Вось гэтая наўмыснасць, зададзенасць і робяць, па-мойму, усе мініяцюры, за выключэннем «Часнаку», мелкавата аднастайнымі.

Б. Сачанку адносна многа і часам няслушна, груба крытыкавалі. А потым пачалі хваліць, таксама часта недарэчы. А здольнаму, сумленнаму пісьменніку трэба расці, самому разбірацца, шукаць сваю сцежку. Гэта нялёгка кожнаму і заўсёды — і ў цернях ды крапіве крытычнага вэрхалу, і на асфальце не вельмі шчырых, не вельмі глыбокіх пахвал, хоць бы нават пад ручку з крытыкам і выдаўцом. Я буду рады, калі мае заўвагі да некалькіх апавяданняў, заўвагі, што не прэтэндуюць на абагульненні, не толькі засмуцяць ды раззлуюць таварыша, за творчасцю якога я ахвотна сачу ўжо нямала гадоў, але і чым-небудзь яму памогуць.

Летась Іван Чыгрынаў выдаў першы зборнік «Птушкі ляцяць на волю». Большасць апавяданняў, змешчаных там, я ведаю па газетна-часопісных публікацыях, аднак, пачаўшы кнігу, з прыемнасцю дачытаў яе да канца. Добры пісьменнік расце, удумлівы, энергічны. Каму-небудзь, магчыма, дзіўным, непрафесійным здасца такое акрэсленне — энергічны. Але мне, разам з аўтарам ходзячы па любых яму мясцінах, праз яго знаёмячыся з новымі людзьмі, перш за ўсё добра было адчуваць яго энергію, цікавасць да жыцця — відушчую, шчырую, творчую.

Трэба, аднак, прызнацца і ў іншым. Калі я чытаў кнігу Чыгрынава, мне здавалася, што напісаць пра яе — куды лягчэй, чым пра тыя тры апавяданні, якія пісьменнік надрукаваў летась у «Маладосці».

Няўжо апавяданні ў кнізе такія ўжо дасканалыя, што ў параўнанні з імі «Першы бой», «На пыльнай дарозе» і «Шчаслівае месца» выглядаюць бяднейшымі?

Не, вядома, і ў кнізе ёсць рэчы слабейшыя, а ў рэчах добрых ёсць недацягнутыя або лішнія месцы. А ўсё ж, калі я прачытаў названыя апавяданні ў часопісе, мне іменна тады і захацелася праверыць свае адносіны да творчасці маладога калегі яшчэ раз па кнізе. Чаму? Чагосьці ў іх, у гэтых трох апавяданнях, не хапала мне, каб з чыстым сумленнем толькі хваліць І. Чыгрынава.

«Першы бой». Што ж, так сабе апавяданне — ні зместу новага, ні сродкаў. Такое ўражанне ўзнікла пры першым чытанні, асталося яно і дагэтуль. Давесці, што здольны празаік Чыгрынаў можа напісаць пра ўсё, яму не так ужо і цяжка. Але ж, напісаўшы гэтае — проста яшчэ адно — апавяданне, ён мне давёў хіба толькі тое, што на любую тэму, за вырашэнне якой бярэшся, пісаць трэба добра. І прычына промаху не ў тым, па-мойму, што аўтар піша пра вайну, пра фронт, не бачыўшы яго, па малалецтве, непасрэдна, як салдат. Апавяданне «Праз гады», змешчанае ў зборніку, напісана пра партызанаў сорак першага года, калі аўтару было сем год. Але ж яно напісана куды глыбей, у ім ёсць новае, узятае з жыцця, і гэта новае прымушае мяне па-сапраўднаму хваляваецца. Я думаю пра страшны лёс той вясковай кабеціны, жонкі перадваеннага старшыні сельсавета, якая сядзіць у хаце з малечай і ведае, што не сёння, дык заўтра ворагі прыйдуць забіць яе. І сама яна ведае гэта, і ўся вёска ведае, а ўсё ж і ў гэтай асуджанасці жанчына дае прытулак і хлеб партызанам, ціха і шчыра робячы тое, што не здаецца ёй гераізмам. Гэтак было ў жыцці, думаю я з хваляваннем, бо веру — было. А разам з тым мне радасна ведаць, што такога твора не было яшчэ ў нашай літаратуры. І таму вось мне нельга не сказаць, што «Першы бой» — штосьці такое, што можа існаваць як «пэўны літаратурны факт», але яго магло б, ды з большым поспехам для аўтара, і не быць.

Удала задумана апавяданне «На пыльнай дарозе». У першыя дні вайны Антон Шасцярнёў, старшыня сельсавета, адступае з сям'ёй на ўсход, потым бярэ вінтоўку і астаецца з тымі, што павінны бараніць Радзіму. Ну, як нармальна наш чалавек. І напісана гэта суровым і скупым, адпаведна сітуацыі і настрою, пяром. Запамінаецца, хвалюе сцэна спаткання з меншым сы-

нам, яшчэ хлапчуком, якога бацька-салдат застаў на вызваленым пажарышчы. А далей пайшла зусім недаравальная скорагаворка. Як нейкі канспект, як намёкі на тое, што потым павінна быць разгорнута належным чынам. Антона Шасцярнёва мне ў пачатку апавядання прыемна было лічыць нармальным чалавекам, сынам свае радзімы, бацькам сваіх дзяцей. А потым з яго пачынае рабіцца другі чалавек. Яго не радуе дэмабілізацыя, не адчувае ён шчасця вяртання да родных — спачатку, нібы міжволі, спыняецца на тыднік у выпадковай спадарожніцы, у Растове, а потым, дома, у вёсцы, паныўшы трохі без кіраўнічай пасады, вяртаецца да той спадарожніцы, лепшай. І вось праз многа год, калі ён пацяжэў, абвяў ад часу, так і не зрабіўшы кар'еры, да яго нечакана прыязджае меншы сын, той сцішнаваты, без пары калісьці пасталелы хлопчык з пажарышча, цяпер ужо салдат, мужчына. Нельга, зрэшты, сказаць — нечакана, бо бацька ўсё ж чакаў, што нехта з сыноў нарэшце прыйдзе да яго, і прыйшоў якраз наймалодшы, той, што мае найбольшае права спытацца, чаму ў пасляваенны цяжкі час ён рос адзін... Бацька чакае гэтай размовы — седзячы ў машыне, на заднім сядзенні, ён глядзіць у сынаву патыліцу, і я — чытач, таксама пажылы чалавек, таксама бацька — не зайздрошчу яму, старэйшаму Шасцярнёву. Канцоўка — вельмі ўдалая. Але тое, што запаўняе апавяданне ад сцэны апошняй сустрэчы з сынам, на пажарышчы, да канцоўкі,— тое, як іменна Антон Шасцярнёў рабіўся пошлым, нізкім чалавекам,— з'яўляецца, на жаль, не нармальнай мастацкай тканінай, а нейкай часовай начынкай дупла, начынкай з агульных, бясколерных слоў, накшталт наступных:

«З райкома Антон Ягоравіч выйшаў як бы прысаромлены. Але спаслаўся на тое, што яшчэ не адпачыў. Пасля пачаў знаходзіць іншыя адгаворкі.

Напісаў у Растоў. Валянціна Захараўна адказала тыдні праз тры. Але на канверце адрас ужо быў не растоўскі — кароткае пісьмо прыйшло з Стаўрапольскага краю. «Мне пераслалі ваша пісьмо знаёмыя,— пісала Валянціна Захараўна.— Па мяне прыязджаў у Растоў мой брат, і я цяпер жыву разам з ім. Дарэчы, я расказала яму пра Вас. Калі Вы ўсё ж не ўладкаваліся там, то прыязджайце да нас. Брат кажа, што работа тут

знойдзецца. На першы час ён можа ўзяць памочнікам да сябе. Яго памочнік якраз на павышэнне пайшоў — забралі ў другі раён...»

Пісьмо гэта неспадзявана і вырашыла ўсё. Антон Ягоравіч спалохаўся цяжкасцей, раптам сабраўся і паехаў. А жонцы і меншаму сыну — самы большы ўжо служыў у арміі, а сярэдні, Пецька, вучыўся ў тэхнікуме — сказаў, што паедзе пашукае добрага месца і, калі спадабаецца там, прыедзе, забярэ іх...

У падтэксце гэтай сухой, грунтоўнай пратакольшчыны ўтапіліся і жонка (якой, дарэчы, і раней, амаль ад самага пачатку, не было як вобраза), і дзеці, і сам чалавек, яго адчуванні і думкі, яго ўнутраны свет, паказ якога, калі верыць нашым вялікім папярэднікам, якраз і з'яўляецца прадметам сапраўднага мастацтва.

Аўтар трохі залішне спяшаецца. А шкада. І боязна, каб не стала прывычкай...

У апавяданні «Шчаслівае месца», наогул цікавым, вельмі зацягнута экспазіцыя. Расказчыку трэба трапіць у «чайхану» над Сожам, каб там сустрэцца з былым маракам і ад яго пачуць гісторыю, якая і складае змест апавядання. І вось з пяці часопісных старонак цэлыя дзве адведзены на падрабязную інфармацыю пра тое, як расказчык ехаў, як прыехаў, каго сустрэў, з кім вітаўся-развітваўся... Нават кабыла, што везла яго, апісана з дарожнай дабрадушнай шчодрасцю... Шкада энергіі, як бы многа яе ні было. Нельга сказаць, што ў гэтай неашчаднасці мне ўжо бачыцца небяспека для аўтара, аднак зацягнутасць экспазіцыі назіраецца і ў іншых апавяданнях Чыгрынава, напрыклад, у добрым апавяданні «Сустрэча на пероне», змешчаным у кнізе. І гэта ўсё ж такі насцярожвае.

«...Мы павінны клапаціцца як мага пра пашырэнне сферы мастацкага даследавання жыцця. Не сакрэт, што большасць нашых твораў аб сучаснасці не выходзіць за межы вясковай тэматыкі... Нам прынцыпова важна пісаць пра горад, пра тыя сферы дзейнасці чалавека, якія народжаны сучасным жыццём і якія не знайшлі яшчэ належнага адлюстравання ў нашай літаратуры».

Я не выпісваў бы гэтай цытаты з цікавай кніжкі крытычных артыкулаў «Жыццё ў слове», калі б аўтар яе, Міхась Стральцоў, быў, так сказаць, толькі тэарэ-

тыкам, а сказанае ім — яшчэ адным высакародным пажаданнем. Справа ў тым, што сваім новым апавяданнем «Свет Іванавіч, былы Дон-Жуан» М. Стральцоў — таленавіты празаік — добра давёў, як шчыра сам ён клапоціцца пра пашырэнне тэматыкі нашых твораў.

Гэты самы яго Свет Іванавіч вылузаўся з жыцця ў літаратуру даволі-такі кругленькім тыпам трохі стомленага, трохі разгубленага, а найбольш спустошанага трыццацігадовага старца, якога, як хваля камень, абкатала складанасць нашага часу. Інтэлігент, на маладосць, на час фарміравання характару якога абрынулася тая пераацэнка вартасцей, якой азначана наша апошняе дзесяцігоддзе, малады чалавек, якога, як цяля ад маткі, адсадзілі ад «крыніцы найвышэйшай мудрасці» і пусцілі, каб думаў сам,— не вельмі здолеў разабрацца ў з'явах і прычынах з'яў. Ён нібыта і шукаў чагосьці (пайшоў з дыпломам вышэйшай школы працаваць рабочым), ён нібыта і бачыць больш, глыбей за іншых сваіх аднагодкаў (прыгадаем гутарку з Эмай), ён можа зверху паглядзець на мадэрнізаванага мешчаніна за рулём (добра пададзены гэты таксіст!), а ўсё ж — Свет Іванавіч не лятае, а поўзае, бо вельмі няшмат асталося ў яго за душой. Як заяц пад фарамі, толькі што не бяжыць, а паўзе ён пад мяккім, сціпла прытушаным святлом разумнай аўтарскай іроніі, сунецца ў сваё «нікуды», паразітычна чапляючыся за чужую чыстую маладосць, карыстаючыся тым, што ўварве,— пошла вопытны, лена хцівы, патачаны капрызным скепсісам спажывец.

Святло аўтарскай іроніі вядзе героя толькі да канцоўкі. І ў гэтым бачыцца мне адзіны недахоп апавядання. Толькі ў канцы яго М. Стральцоў нібыта нават губляецца, не ведае: што ж мне з табой былы Дон-Жуан, рабіць далей?.. Аўтар як быццам выключыў святло свае іроніі, даў поўную магчымасць герою спыніць усю яго вялую ды цьмяную філасофію на тым, што пасля таго, як ён амаладзіў сваё цела, а заадно і душу ў камунальнай ванне, прыйдзе яго новая маладзенькая ахвяра (сама пазваніла) і... усё будзе зноў ад пачатку — пошласць у новым варыянце... Канцоўка не знойдзена псіхалагічна. Нейкая вялая абыякавасць... Не хочацца думаць, што аўтар выбраў гэта свядома, пасля настойлівых пошукаў...

Яшчэ раз вяртаючыся да Стральцова-крытыка, дазволю сабе прывесці і такое выказванне:

«Новыя тэмы — гэта новыя з'явы жыцця, узаемаадносіны людзей, новы побыт і, нарэшце, новыя пласты мовы. Сакавітае слоўца знайсці лягчэй, чым з сапраўдным клопатам ставіцца да развіцця мовы».

Гэты сапраўдны клопат у высокай ступені ўласцівы самому Міхасю Стральцову. Ён пісьменнік не толькі таленавіты, але і высокакультурны. Культура ж, як вядома, вынік няспыннай працы над сабой.

Поспеху ў гэтым я зычу ад душы, безумоўна, не толькі Стральцову, але і ўсім таварышам, пра творы якіх я гаварыў вышэй.

А «Маладосці», якая так шчодра і рупна дае нашай моладзі стартавую пляцоўку, хочацца пажадаць яшчэ дружнейшага прыходу аўтараў і — галоўнае — як найбольш спелага творчага плёну.

*1965*

# НЕ ВЕЛЬМІ МНОГА [1]

З першым годам палону, калі расказваць пра гэта нямецкаму чытачу, ёсць у мяне адна «неловкость повествования» — Памеранія, дзе я сядзеў у шталагу і працаваў на рабочых камандах, была калісьці польскай зямлёю, цяпер стала ёю зноў, а ў гады вайны, як і перад ёю, лічылася Германіяй.

Трэба, такім чынам, гаварыць у пэўным сэнсе абстрактна — пра Германію наогул, пра Памеранію, пра ваколіцы Шчэціна ці нешта ў такім плане.

На ўсякі выпадак — першы год я «палоннічаў» у Памераніі, сядзеў за дратамі «шталага II Д» у горадзе Старгард (які і сёння называецца таксама), трыццаць, ці што, кіламетраў на ўсход ад Шчэціна. На рабочых камандах бываў у не вельмі далёкіх ваколіцах Старгарда, за 30—50—100 кіламетраў. Працаваў на сельскагаспадарчых работах, у вёсках, у гаспадароў і ў маёнтках. І там, і там было нямала магчымасцей збліжацца з простымі людзьмі, сялянамі ды батракамі, бо вахманы, старыя салдаты, далей ад начальства часцей за ўсё заставаліся проста людзьмі і на палонных, на іх гутаркі з «арыйцамі» глядзелі скрозь пальцы.

У першым годзе я пазнаў у пэўнай ступені нямецкага селяніна.

Другі год палону прайшоў больш у лагерным і рабочым асяроддзі. Я быў у Верхняй Баварыі, якая ў іх называецца Обэрпфальц, у горадзе Вайдэн («шталаг XIII Б»), дзе працаваў на шкляных гутах — у самім Вайдэне, грузчыкам на заводзе аконнага шкла, і ў гарадку Нойштадт, кіламетраў за пяць ад Вайдэна, на за-

[1] Напісана па просьбе Алеся Адамовіча, аўтара пасляслоўя да нямецкага выдання рамана «Птушкі і гнёзды».

водзе крыштальнага шкла, дзе нас, палонных, вучылі майстэрству разьбы па шкле і шліфоўкі яго. Такая «раскоша» — па той прычыне, што на заводах крыштальнага шкла рабочых ад арміі не браніравалі, і заводчык быў вельмі рады, калі яму ўдавалася дастаць са шталага групу палонных. Працаваў я яшчэ ў студзені 1941 года на нейкай турысцкай базе, дзе на паверхах спыняліся лыжнікі, а ў сутарэнні жыла каманда палонных, што чысцілі ад снегу горныя дарогі. Чысціў я гэтыя дарогі нядоўга, каля месяца.

У самім шталагу працаваў на лагернай пошце. Некалькі дзён ездзіў з гарадскім смецяром.

Наогул — у Обэрпфальцы я адносна нядрэнна пазнаў нямецкага рабочага.

«Вышэй» сялян і рабочых не «падымаўся» — з інтэлігентамі сустракацца не даводзілася, бо і вахманы былі пераважна людзьмі ад плуга ці кельмы.

Нямецкую мову я вывучаў у польскай школе, дзе яна выкладалася вельмі нядрэнна, а потым, у палоне, апынуўшыся ў нямецкім асяроддзі, асабліва на рабочых камандах, кожны дзень засвойваў некалькі слоў, ужываўся ў граматыку, у дух мовы, так што на другім годзе мог ужо даволі нядрэнна гаварыць.

Гэта і памагло мне ў дзвюх справах — паехаць у цывільнай вопратцы ў Берлін, у савецкае консульства (я быў там 21.VI.1941 года), а потым, зноў жа ў цывільнай вопратцы, уцячы дахаты.

У польскай школе вывучаліся нават нямецкія песні. Са школьнага хору я ведаў трохі Моцарта і Шуберта. З літаратуры помніліся найлепш: «Рэйнеке Ліс» Гётэ, адна з любімых кніг майго маленства, раскошна выдадзеная з ілюстрацыямі Каўльбаха; вершы і «Падарожжа на Гарц» Гейнэ; раман фон Поленца «Селянін» («Бютнербаўэр») з прадмовай Льва Талстога; ну, вядома ж, казкі братоў Грым; балады Шылера і «Ундзіна» ў перакладзе Жукоўскага; «На заходнім фронце без змен» і «Вяртанне» Рэмарка (з асаблівай цікавасцю, за адну ноч, прачытаў першую рэч)...

Не вельмі многа, аднак жа тое, што трэба, што ў пэўнай меры адкрыла мне вочы на Германію, на нямецкі народ — на галоўнае, вечнае ў гэтым народзе.

*1966*

# КРЫХУ ЗАЦЯГНУТЫ ТОСТ

Вясной сорак пятага года наша цудоўная перамога апярэдзіла выхад апошняга нумара газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну». Гадзіна была ўжо раздаўлена, а друкарня яшчэ ўсё перамагала непаладкі, прычыненыя трыма гадамі акупацыі. Зрэшты, Савецкая Армія ішла тады наперад так імкліва, што дараўняць ёй у тэмпах было немагчыма.

Той апошні нумар я памятаю перш за ўсё па адным — як нам тады здавалася, вельмі простым — малюнку. На касцы гітлераўскага вермахта, што разяўляўся на ўвесь свет, сядзіць галазады, смаркаты анёлачак з беларускай вёскі, робіць сабе сваю чалавечую справу, а ў душы яго нараджаецца самы першы варыянт цяпер ужо сусветна вядомай песні:

> Хай заўжды будзе сонца...
> Хай заўжды буду я!..

Так робіцца гісторыя. Той анёлачак тым часам сядзіць ужо на трактары ці за штурвалам звышгукавога самалёта, а то, чаго добрага, за дырэктарскім ці рэдактарскім сталом. А мы, што былі тады маладымі, спакваля выходзім у ветэраны.

Боская моц, мядзведжая сіла! Гэта ж я памятаю маладога Кандрата Крапіву, у якасці нашага сатырычнага бога — нашага строгага і любімага рэдактара! Маладога, праўда, трохі ўмоўна. Ён пакрысе падбіраўся тады да свайго паўстагоддзя, і сёння мы, каму ўжо таксама пяць разоў па дзесяць, ахвотна бачым яго ў тыя далёкія дні маладым. А ўсё ж ён быў малады, хоць смяяўся, як здавалася, малавата, затое смяшыў — куды больш, а ў працы, у акуратнасці, у нястомнасці даваў нам добры прыклад.

А што ўжо казаць пра маладосць энергічнага, шумна-вясёлага Максіма Танка, якому з выгляду не даў бы тады больш за дваццаць пяць. Або пра Пімена Панчанку, які вярнуўся з арміі, з далёкага Ірана, маладым, ахвочым на смех, абаяльным хлопцам, што слаўныя, задушэўныя вершы свае прыносіў у запазусе капітанскага кіцеля.

Для Крапівы мы былі ў тыя дні... не скажу блазнюкамі, але ж здаваліся часам і не вельмі сталымі. Асабліва калі не ладзілася з нумарам.

Апошняя ваенная зіма была суровая. У адзіным пакойчыку нашай рэдакцыі было так холадна, што, як я цяпер ні намагаюся,— не магу прыпомніць каго-небудзь з супрацоўнікаў без паліто ці шынялі. Так мне і памятаецца Кандрат Кандратавіч — з каракулевым каўняром, у высокай папасе. Сядзіць за сталом, глядзіць на нас моўчкі праз свае суровыя акуляры. Час ад часу глядзіць, бо заняты: ён робіць тое, чаго не зрабіў адзін з нас,— піша верш на патрэбную, злабадзённую тэму. У цэнтры злабадзённасці — яшчэ ўсё той самы Гітлер, ліха яго ўзяло б сто тысяч разоў перад гэтым заданнем!.. Крапіва глядзіць у акно. За шыбамі — завіруха, на шыбах наледзь і шэрань,— што ён там бачыць?.. Можа, проста не хоча глядзець на нас, лайдакоў?.. Ды вось ён павярнуўся да паперы, піша. Вострае слова ў Крапівы, быстрае, а почырк вельмі павольны, сказаў бы — разважлівы ці марудны. Напісаў два радкі і задумаўся. Піша. Зноў думае. Зноў піша. І вось нарэшце просіць занесці гатовае на машынку.

Нясу, гляджу на хаду і думаю, як яно лёгка і проста чытаецца, падказанае тым замарожаным акном:

> На дварэ мароз, завея...

Ясна — ад гэтага і думка адштурхнулася. Далей — да галоўнага:

> У Адольфа сэрца млее.

Таксама правільна. Абгрунтаванне млоснасці:

> Успамінаецца той час,
> Калі грэў яго Данбас.

Маленькая заўвага ў дужках:

> (Потым, праўда, так нагрэлі,
> Што аж пяты засмылелі...)

Кульмінацыя:

> Ой, мароз, дык мароз!
> Прабірае аж да слёз,
> Пасінела нават скура.

І нечаканае джала канцоўкі:

> Як жа вытрываць без Рура?

Стала паэзіяй тое, што ўчора і мне, як новы факт гісторыі, паведаміў радыёрэпрадуктар,— нашы саюзнікі вядуць баі ў Рурскім басейне.

Днямі, праглядаючы падшыўку «Раздавім фашысцкую гадзіну», я спыніўся на момант на гэтых вострых і ёмкіх радках, нібы па лёдзе цераз рэчку махануў — так молада, лёгка прыпомніўся той час, калі яны былі напісаны.

Успомніўся не толькі Крапіва.

Свае празаічныя фельетоны адзін з нашых супрацоўнікаў падпісваў псеўданімам Ахрэм Цыбуля. У паэзіі той горкі, востры хрэн з цыбуляй заставаўся самім сабою — Максімам Танкам, сатырычныя ўзмахі і ўдары якога былі па-маладзецку прыгожыя.

Жыццесцвярджальным, радасным смехам іскрыліся радкі Пімена Панчанкі, які па-салдацку ахвотна і шчодра дзяліўся з чытачом сваім тады ўжо шырокадалёка праслаўленым словам.

На зайздрасць культурным, часта зусім па-народнаму дасціпным, хлёсткім бываў радок Максіма Лужаніна, які сяды-тады хаваўся за псеўданімы.

Валянцін Таўлай — змагар супраць пілсудчыны, пакутнік-вязень, выдатны рэвалюцыйны паэт — застаўся ў народнай памяці адным з яго найлепшых сыноў, рука якога ўпісала ў гісторыю нашай літаратуры адну з яе яркіх старонак. А ў штодзённым жыцці ў тыя нялёгкія дні апошняга ваеннага і двух пасляваенных гадоў Валянцін быў прасцецкім, сціплым, любімым нашым таварышам. Памятаю яго падраныя туфлі, вечна поўны пацёрты партфель, тоўстую, дымную самакрутку і ўсмешку душэўнага, глыбокага і вельмі ж неяк па-нашаму, па-беларуску мяккага, ціхага і вясёлага чалавека. Адзін час мы жылі з ім разам, у цесным пакойчыку на ўскраіне, спалі на змену, хто на падлозе, хто на вузкім, як карыта, ложку, з тым парушэннем

чарговасці, што калі нам бог — а ён быў шчодры на гэта — даваў новага госця, дык мы, гаспадары, абодва лажыліся на падлозе, зрэшты, менш мулкай, чым тое наша карыта. Бюджэту хапала на хлеб, малако і на летнюю раскошу — чарніцы з Чэрвеньскага рынку. Самасад, вядома, не пераводзіўся, бо без яго наш літаратурны завод не дыміў бы. Разам з пахам таго таўлаеўскага дыму ўспамінаю часта Валянцінаў смех — амаль па-дзіцячы чысты і, кажучы па-руску, «заразительный», ад якога і табе хацелася чыста і звонка смяяцца. Сёе-тое мы з ім пісалі ў «Вожык» разам, у сааўтарстве, а больш паасобку. Нядаўна, калі я гартаў рэдакцыйную падшыўку, мне было добра пазнаваць пяро Таўлая. Ён то пісаў адкрыта, то пад рознымі псеўданімамі, якія хутка прыйдзецца і мне прыпамінаць з натугай. Пісаў ён і такія... можа, нават своеасаблівыя шэдэўры, як «Тры дакументы», і так званыя дробязі, якіх паэт не цураўся, якія рабіў з усёй стараннасцю сапраўднага літаратара і — што галоўнае — заўсёды востра, весела.

Я тут не проста назваў тых самых лепшых, што працавалі калісьці ў «Раздавім фашысцкую гадзіну», што разам з нашымі вядомымі мастакамі — Анатолем Волкавым, Дзмітрыем Красільнікавым, Валянцінам Ціхановічам, Сяргеем Раманавым, Міколам Гурло — стваралі першыя нумары «Вожыка», вучыліся авалодваць майстэрствам сатыры ў мірных умовах. Мне, вядома, і хацелася, і прыемна было назваць гэтых таварышаў, успомніць добрым словам іх рупную працу, але... Але ёсць у мяне і такая думка:

А што, каб мы, старэйшыя пісьменнікі, успомніўшы даўнейшае, зноў дружна і весела рушылі да чытача і на старонках «Вожыка»? Давёўшы маладым, што сталасць — сталасцю, а старасць — старасцю, аднак жа, пакуль чалавек смяецца, пакуль ён можа і іншых смяшыць — ён юнак.

З маладым прывітаннем прыходжу да цябе, наш паважаны юбіляр, і я, твой ужо даўні сябар і вечны даўжнік. Тупай рупліва, чмыхай бадзёра, каліся востра — няхай цябе любіць народ!

*1966*

# ЯШЧЭ АДНО СЛОВА ПРЫЗНАННЯ

...Адразу, толькі пачуўшы па тэлефоне просьбу рэдакцыі, падумалася: ну што я магу новага сказаць пасля ўсіх сваіх выступленняў на гэтую тэму? Колькі ж разоў публічна прызнавацца ў пачуццях да польскага народа, да яго літаратуры, да тых яе прадстаўнікоў, з якімі я знаёмы ці сябрую?.. Тысячагоддзе Польшчы, дваццаць другая гадавіна яе новай, сацыялістычнай дзяржаўнасці — даты, бясспрэчна, вялікія, слаўныя, але ж і паўтарацца ў выступленнях нягожа...

Выхад мне падказалі не столькі, можа, адчуванне сяброўскага абавязку, колькі будзённыя факты сапраўднасці.

Пачну з апошняга.

Учора я з цікавасцю гартаў кнігу Ганны Мільскай «Польскія пісьменнікі. Выбраныя сілуэты», набытую ў нашай кнігарні «Дружба». Было прыемна, што з сотні гэтых сілуэтаў, ад пачынальніка польскай літаратуры, сярэдневяковага Мікалая Рэя да папулярнага сучаснага фантаста Станіслава Лема, большасць я ў той ці іншай ступені ведаю.

Справа не ў акадэмічнай грунтоўнасці ведання, на якую ў такой вялікай літаратуры цяжка прэтэндаваць. Важна і радасна другое — я ўжо даўно і шчыра люблю ў польскай літаратуры тое, што называецца вечным, агульналюдскім, значыцца, і нашым, беларускім, і маім.

Многае стала маім на парозе сталасці, калі настаўніца-полька, якой я, дарэчы, аддаў трохі сэрца ў «Сіроцім хлебе» і ў «Птушках і гнёздах», выдавала нам, беларускім падлеткам, па порцыі ў дзень цудоўнага. Як маці, з беражлівай шчодрасцю. З той скарбніцы, веліч

якое я адчуваў ужо тады з салодкім, сцішнаватым захапленнем, сам заглядаючы ў яе бяздонныя сховы.

Па-рознаму ўспыхвалі для мяне агеньчыкі блізкасці на старонках кнігі Г. Мільскай.

Адны пачуцці для Міцкевіча... Днямі паеду ў родныя мясціны, дзе мы разам з Уладзімірам Калеснікам будзем рабіць нарыхтоўкі для фотаальбома «Між тых палёў» (Міцкевічава Наваградчына). Яшчэ адна пасільная, сціплая даніна яго велічы.

Другое ўспамінаецца, калі чытаеш пра Ю. Кажанёўскага. Нашы заходнебеларускія самадзейныя спектаклі, калі ў зімовай цясноце вясковай школы або ў летняй прахалодзе гумна, з падмосткаў прымітыўнай сцэны слова гэтага, суха кажучы, прагрэсіўнага драматурга гучала побач са словам Купалы, у яго несмяротнай, народнай «Паўлінцы».

Пра вечнае, агульналюдское добра думаць, правяраючы гэтай меркай сілу і вартасць сучаснага.

Мужна стрыманы боль, некрыклівую сілу, глыбокую думку апошніх вершаў Бранеўскага мне добра адчуваць, успамінаючы сустрэчы з гэтым абаяльным чалавекам. Знаёмства наша не паспела развіцца ў сапраўдную дружбу, хоць мы і пілі, па яго прапанове, на брудэршафт, пасля якога я зноў жа, не сарамліва, не ўparta, а натуральна гаварыў яму «вы», прыняўшы ягонае «ты» як бацькоўскае. Аднак жа вершы яго здаюцца мне ад нашай блізкасці яшчэ раднейшымі і прыгажэйшымі.

Дзіўнае спалучэнне пачуццяў — агульная для вельмі многіх павага да мастацкіх вартасцей, што цвёрда сталі ў строй вялікага і вечнага, і ціхая гордасць, што стваральніка гэтых вартасцей ты ведаў, што ты з ім неаднойчы гаварыў, дзяліўся хлебам і шчырасцю, што ў тваёй бібліятэцы ёсць кнігі з яго сяброўскім аўтографам.

А то і пісьмы ёсць, якімі ён зрэдку падмацоўваў цяпельца высокай, бо міжнароднай, і проста чалавечай дружбы.

Тут ужо мне ўспамінаецца Леан Кручкоўскі, з якім я, нягледзячы на вялікую розніцу ў гадах, быў усё ж такі на «ты», густую прозу якога не толькі ахвотна чытаў, але і перакладаў, з рабочай асалодай адчуваючы месцамі, як гэта нялёгка.

Зноў іншыя, хоць тыя самыя па сутнасці, пачуцці — да маладой гвардыі сучаснай польскай літаратуры.

Тадэвуш Бароўскі. Мілы хлопец з прасцецкай усмешкай. Змагар з фашызмам і вязень трох канцлагераў. Кніга ягоных апавяданняў «Развітанне з Марыяй», вялікай сілы мастацкае сведчанне пра жахі Асвенціма, дала мне многа да болю высокага хвалявання.

Болем адгукнуліся і ў маім сэрцы страты польскай літаратуры, панесеныя гэтым летам,— смерць Станіслава Ежы Леца, сусветнай вядомасці аўтара «Непрычасаных думак», і смерць Яна Бжэхвы, вясёлага, мудрага чарадзея мастацкага слова для дзяцей.

Не ўсе, каго я ведаю і шаную, трапілі ў кнігу «Польскія пісьменнікі». Зрэшты, аўтар і не прэтэндаваў на энцыклапедычную ўсеабдымнасць, і цяжка мець да яго прэтэнзію. Мне проста ўспомніліся два харошыя таварышы і добрыя літаратары, сустрэчы з якімі і кнігі якіх у нейкай ступені сталі нядаўна фактамі і майго жыцця.

Леслаў Бартэльскі апублікаваў пазалетась у нашым «Полымі» бліскучы артыкул пра польскую пасляваенную літаратуру. Ён быў госцем рэдакцыі, потым мы з Танкам гасцілі ў ягонай сям'і, ездзілі з ім па начных вуліцах адроджанай прыгажуні Варшавы. Удзельнік варшаўскага паўстання, ён праўдзіва расказаў пра трагічны гераізм тых дзён у адной са сваіх апошніх кніг, нядаўна прачытанай мною з вялікай цікавасцю.

Кніга Ежы Енджаевіча пра Тараса Шаўчэнку, якую ён праслаў мне гэтай вясной, забрала тры мае рабочыя раніцы. Ды я чытаў яе з такім адчуваннем, якое бывае, калі пасняхова працуецца. Ці ж гэта не высокая ацэнка? Каму з нас не хацелася б напісаць такую рэч, што прымусіла б чытача на некалькі дзён забыцца пра свае абавязкі?.. Кніга Е. Енджаевіча «Украінскія ночы або радаслоўная генія» — гэта не проста выдатная дакументальная аповесць пра Шаўчэнку. З любоўю і веданнем Кабзар у ёй упісаны ў свой час, паданы ў плыні рэвалюцыйнага кіпення ўсёй Еўропы, дзе побач з імёнамі Мадзіні і Герцэна, Бланкі і Лелевеля разумна згадваюцца імёны нашага палымянага Кастуся з яго «Мужыцкай праўдай» і Паўлюка Багрыма з яго балючай і крыўднай мужыцкай трагедыяй. Мудрасцю і

цеплынёй сапраўднай інтэрнацыянальнай дружбы прасякнута гэтая кніга нашага польскага сябра, і я ахвотна згадваю яе добрым словам іменна сёння.

І яшчэ адзін — як для мяне, дык не вельмі і нязначны — факт, што дапамог мне выступіць з гэтым словам.

Сёння ў Варшаве святочны парад. Не звычайны ваенны парад, а проста феерычны, трапна некім прыдуманы агляд тых сіл, што на працягу тысячагоддзя адстойвалі польскую самастойнасць. Пасля тапорнікаў і лучнікаў Ягайлы, гусараў Сабескага, касіньераў Касцюшкі, бліскучых уланаў князя Панятоўскага, паўстанцаў 1830 і 1863 гадоў — апошнімі перад сучасным, узброеным магутнай тэхнікай войскам Народнай Польшчы, пройдуць шэрыя пехацінцы трагічнага верасня трыццаць дзевятага года. Пра гэта я не магу думаць распакойна. Гэта датычыць і мяне, як і многіх маіх равеснікаў з-пад Пінска ці Браслава, Наваградка ці Гродна, тых нашых хлопцаў, чыя маладосць была кінута лёсам на захад перадваеннай Польшчы — першым крывавым заслонам ад стальной фашысцкай махіны...

Польшча хвалюе мяне сваёй рэвалюцыйнай гісторыяй, сваёй чалавечнай літаратурай, прыгажосцю сваёй шматпакутнай зямлі, прыгажосцю вясёлых і мужных людзей. Даўно і часта хвалюе, бадай, як ніводная з іншых замежных краін. Маё жыццё і мая праца звязаны з ёю ужо назаўсёды, і з гэтай дружбай мне добра.

Хай гэта будзе яшчэ адным словам прызнання, маім прывітаннем са святам тысячагоддзя.

*1966*

# ЗАЎВАГІ НА ПАЛЯХ

Перачытваў «Пана Тадэвуша». Поўнасцю, чаго не рабіў даўно, хоць апошнімі гадамі часта, а сёлета вельмі часта бываў у родных мясцінах Міцкевіча, нямала думаў пра яго, пра свет яго паэзіі.

Ярка ўяўляецца, як тут, на нашых дарогах, паміж родных і для мяне ўзгоркаў, пералескаў, далінамі каля рэк і азёраў пыліла, чвякала па гразі, пырскала снегам у вочы іншая рэчаіснасць — той клас, якога ўжо назаўсёды няма.

Смешныя, жалю, пагарды вартыя норавы і тыпы,— усе гэтыя дурныя «крапідлы» Мацькаў і «сцізорыкі» Гервазых, задзіры ды п'яніцы шляхцюкі, надзьмутыя падкаморыі, рамантычна нягеглыя графы — усё гэта адышло ў нябыт. Не памятаю хто — ці не Герцэн? — сказаў, што Міцкевіч праспяваў ім цудоўную адыходную.

Зося збіраецца «ў свет», упершыню выходзіць да гасцей. І Наташа Растова збіраецца і выходзіць на баль. Як падобна!..

Думаю пра іх, творы Міцкевіча і Талстога, неяк адразу, паралельна. (Можа, часткова і таму, што перад ад'ездам сюды, у Нясвіж, глядзеў Бандарчукову кінакарціну.) Жывыя яны любоўю аўтараў да жыцця, людзей, прыроды. Апошнім — прыродай — быў, здаецца, найбольш задаволены і сам Міцкевіч.

Падабенства дзвюх эпапей бачыцца мне не толькі ў часе, які ў іх апісаны, але — і галоўнае — у тым, што паказаны, ды з вялікай сімпатыяй, той самы ці вельмі падобны адзін да аднаго свет, свет пануючых. Толькі ў Талстога з большым размахам, з грунтоўнейшым запасам агульналюдскага цяпла і глыбіні.

Здаецца, што добра бачу тую свабоду, з якою ён, Міцкевіч, тасаваў пейзажы, маёнткі, вёскі, замкі, корчмы, прататыпаў — здалёк, з выгнання, у горкім шчасці тугі і творчага азарэння ствараючы вобразы свае цудоўнае Наваградчыны.

Гаворачы пра яе, ён думаў, бясспрэчна, не толькі пра той куток, дзе нарадзіўся, дзе прайшло яго маленства і юнацтва,— Міцкевіч думаў пра Беларусь. Наш неласкавы лёс судзіў і яму называць яе афіцыйна, на мове ўладароў — Літвой. Аднак жа ніхто з вялікіх не сказаў пра родную мову прыгнечанага, абяздоленага беларуса так, як сказаў гэта ён, з еўрапейскай трыбуны назваўшы яе найбагацейшай і найчысцейшай з усходнеславянскіх моў, азначанай *узнёслай прастатою*.

Многа сэрца аддаў ён нашым палям і пушчанскім нетрам, яснай Свіцязі, быстраму Нёману, нашаму небу — усходам і заходам сонца, пяшчотнасці белых аблокаў, цемры і гневу навальніц, высокай мудрасці зорных начэй. Ад першых юначых балад і рамансаў да мужнай, велічнай плыні «Пана Тадэвуша» — усюды, а тут, у «Тадэвушы»,— з асаблівай сілай, з вечна свежай і неразгаданай чароўнасцю жыве яно, хараство беларускай прыроды, непераймальна проста і моцна ўзятае ў звонкае польскае слова.

Чытаючы, бачу і тую навуковую важданіну, якую і дагэтуль цягнуць руплівыя міцкевічазнаўцы, блытаючыся ды гразнучы ў здагадках: дзе? што? чаму? наколькі? І дзіўнай здаецца іх праца — няўжо яна ажно так патрэбна?

А твор жыве сваім жыццём. З усімі сваімі ўдачамі і няшкодным, нават пацешным смеццем памылак, недакладнасцей. Звычайныя памылкі не вельмі, з майго ўзросту гледзячы, пажылога чалавека (тады яму было 35—36 гадоў), памылкі, цудоўна спалучаныя з геніяльнасцю.

Свята «найсвентшай панны кветнай», шчодра апісанага ў адзінаццатай кнізе, і зусім, напрыклад, няма ў каталіцкім календары. Пра гэта з тактоўнай нешматслоўнасцю зазначаецца ў заўвагах да эпапеі. Я ажно засмяяўся, прачытаўшы тую няпростую заўвагу,— і вырабляў жа гэты высокаадукаваны наваградскі «літвін»!..

Для пышных шляхецкіх банкетаў стравы выпісаны ім са старой кухарскай кнігі і, як тлумачыць выдавец, «пацешна спалучаны без увагі на значэнне». Згаладнелы эмігрант, які, пакуль пісаў сваё arcydzieło [1], харчаваўся, так я чытаў калісьці, пераважна бульбяною бабкай, дранкай, як гавораць і пры ім, відаць, гаварылі ў нашай мясцовасці. Гэта мне вельмі падабалася, дзіўна, радасна спалучаючы ва ўяўленні вясковага падлетка веліч генія з прастатой, з блізкасцю чалавека.

У гэтай сувязі стала неяк холадна, сумна, дзіўна ад думкі, што жывога чалавека, з яго глыбокай, іскрыстай душой, натуральна надзеленай чалавечымі слабасцямі,— замкнулі ў халодна-гладкі мармур Вавельскай грабніцы, у камень і метал шматлікіх помнікаў. А спадчыну яго — тое галоўнае, што вызначае сусветную з'яву, імя якой Міцкевіч,— здорава падчысцілі (сын-католік, як піша Яструн), навек абакраўшы нашчадкаў.

*1966*

---

[1] Шэдэўр.

# Я НЕ САМОТНЫ

Багдановіч прыйшоў да мяне перш за ўсё сваім «Перапісчыкам». І цяпер, перачытваючы гэты верш, амаль расчулена ўспамінаю тое сваё хлапечае хваляванне, выкліканае, як сёння бачыцца, гранічна простым, але высока і — галоўнае — *свежа* паэтычным словам.

Такія звычайныя рэчы — сонца, што свеціць у вузенькае акенца келлі, яснае неба, белыя аблокі, ластаўкі, што лунаюць кругамі... Адзін стомлены позірк туды, праз акенца, ад чыстага аркуша са шматфарбнымі застаўкамі і канцоўкамі, выведзенымі гусіным пяром натхнёнага рабацягі-манаха, адзін позірк — і я, не толькі колішні вясковы хлапчук, але ўжо і сталы, вопытны мужчына сённяшняга дня, я так многа бачу, мяне так непаўторна хвалюе музыка роднага слова, разумнае, яркае спалучэнне сівой мінуўшчыны з простым, звычайным, даўно-даўно вядомым, любімым, да шчымлівага болю прыгожым:

> ...а тут, каля акна,
> Малінаўка пяе і стукае жаўна...

Такім хваляваннем, вось ужо сорак гадоў, мяне хвалюе песня пра слуцкіх прыгонных ткачых — зноў жа цудоўнае спалучэнне мінуўшчыны з вечна жывым; хвалюе ўзнёслая, урачыстая «Зорка Венера» — наш, беларускі гімн чыстаму каханню, яго нявянучай прыгажосці; так хвалююць мяне многія вершы Багдановіча, многія і да апошняга — выключнага па сваёй прастаце і насычанасці чатырохрадкоўя:

> У краіне светлай, дзе я ўміраю...

Дзіўнае і цудоўнае адчуванне! Чытаеш, перачытваеш, зноў прывыкаеш да думкі, што ён, наш першы Максім, таленавіты, па-сталаму мудры, высокаадукаваны... а потым — зноў радаснае здзіўленне: дык яму ж, калі ён пісаў, скажам, вось гэты верш, было васемнаццаць гадоў!.. Яму было толькі дваццаць два, калі ён даў выдатны разбор першых Купалавых кніг!..

А потым — сум і боль, і горкая крыўда,— у той сонечны крымскі дзень, калі з рукі беларускага ціхага юнака вылецеў і белым жалобным птахам асеў на падлозе лісток з радкамі пра кнігу, з якою ён, гэты юнак, усімі пакінуты, быў не самотны ў свой апошні час — тады таму юнаку ішой толькі дваццаць шосты...

Такія страты меў кожны народ. Пішу гэта, і ўспамінаецца прабіты куляй Лермантаў, пасечаны шаблямі Пецёфі... Абодва — таксама да трыццаці. Ды наша страта — пры нашай беднасці — здаецца мне асабліва балючай.

...Дзве заўвагі.

Ніяк не ўяўляю зорак на... «грудзях пана бога!..» Хоць бы ўжо яны ўпалі з грудзей пані багіні. А то ж барада Саваофа перашкаджае такое ўявіць.

І другая, куды больш значная. Шкада, што для такога таленту, як Багдановічаў, наша літаратурная мова была яшчэ замала апрацаваная.

Дарэчы, тое самае адчуваеш, чытаючы ранняга — самага моцнага — Купалу.

*1966*

# БЫЦЬ ЧАЛАВЕКАМ

На маё даваеннае вясковае юнацтва горкаўскага слова, у параўнанні са словам іншых рускіх і сусветных класікаў, прыйшлося вельмі мала. У запісах захаваліся назвы яго нямногіх твораў, упершыню прачытаных мною ўвосені трыццаць другога года, а ў памяці парой ажывае юнацкая прага, з якой тады ўспрымалася прыгожае і мудрае.

Песня насупраць дажджу, што хвошча ў вочы, песня пад грукат грымотаў — гэта, і гэта найбольш, помніцца з «Майго спадарожніка». І не проста помніцца, а кожны раз, калі і сам апынешся пад такой навальніцай, спяваеш... ну, не скажу: пад Горкага, аднак жа ў гарэзлівай, дзікаватай і акрыленай радасці адразу ўспамінаючы яго.

Такую ж радасць жыцця, жаданне не паддацца ў барацьбе з нягодамі вельмі свежа, своеасабліва адчуў я тады, вядома, у «Песні пра Буравесніка», канкрэтна гістарычная рэвалюцыйнасць якое была зразумета пазней, і ў «Легендзе пра Марка», дзе вельмі імпанавала і клікала да незвычайнага задорнае:

А вы на земле проживете,<br>
Как черви слепые живут:<br>
Ни сказок о вас не расскажут,<br>
Ни песен о вас не споют!

Мудрасцю на мяне дыхнулі апошнія старонкі «Жыцця Мацвея Кажамякіна», асабліва дзённік Мацвея. Зрэшты, я прачытаў тады толькі чацвёртую частку рамана, бо толькі яна і трапіла мне ў рукі. Блаславёная і смешная наіўнасць! Я тады, на шаснаццатым годзе жыцця, меў намер ні больш ні менш, а пакінуць людзям свой запавет, нешта накшталт «Круга чытання»

(талстоўскага «Круга» я тады яшчэ не ведаў) або кнігі афарызмаў — самай высокай мэтай, для ачышчэння і падмацавання духу. Свайго было, так сказаць, малавата, і я старанна — увечары, пасля баранавання ці малацьбы,— проста ў малітвеным настроі перапісваў з кніг прыгожыя, глыбокія мясціны. Свайго, зразумела, наогул яшчэ не было, калі не лічыць тых цыбатых ды прышчатых вершыкаў, што самі, і даволі хутка, ціхенька пайшлі ў нябыт. Маім, да хвалявання, да слёз маім здавалася чужое, якое ад таго, што я яго перапішу, а то яшчэ з польскай мовы перакладу... І нічога, што перапісваю ды перакладаю я з кніг, якія ўжо даўно і шырока разышліся па свеце, што перапісваю я ў «кнігу», зробленую з рэштак нядаўніх вучнёўскіх сшыткаў, маім неважнецкім почыркам, з памылкамі... Ну, што ж, цяпер, праз трыццаць пяць гадоў, я не шукаю сталай логікі ў паводзінах падлетка, які, сутыкаючыся з чарамі слова і таямніцамі думкі, не ведаў, што яму рабіць ад радасці пазнавання.

Бо смеласць, жаданне барацьбы з нягодамі жыцця, любоў да беднага, пакрыўджанага чалавека, бо мудрасць, глыбокая, добрая, чалавечная мудрасць і ў Горкага былі спалучаны з хвалюючай прыгажосцю.

Згадваецца не вельмі смешная слязінка Вольгі з чэхаўскіх «Мужыкоў» — тыя *аще* і *дондеже,* што растрывожылі душу, не ў меру, «не по чину» чулую да прыгожага. Такую прыгажосць, здаецца, нават блізкую да сонечнага вадаспаду непераможнай, на ўсё жыццё глыбіннай, неразгаданай красы пушкінскага «Прарока», такую красу трохі як быццам залішне былога, залішне ўзнёслага па-стараславянску звонкага слова я памятаю з запісаў Кажамякіна:

«Нет в людях духа моего, потерян я и забыт, заветы мои — медь звенящая, и слова мои без души и без огня, только пепел, падающий на камни, и снег в поле пустынном».

Цытую я гэта па кнізе, аднак у памяці маёй і медзь звініць, і попел падае на каменне, і снег бялее ў пустынным полі — усё само па сабе, даўно і ўжо, відаць, да канца.

За дзевяць наступных гадоў, лічачы ад той восені, у адносна немалой колькасці прачытаных кніг мне толькі двойчы трапіўся Горкі. У тых умовах, у цёмнай

вёсцы на «крэсах» буржуазнай Польшчы, выбару асаблівага не было. Стракатасць незвычайная! — побач з Талстым ды Сянкевічам, Пляханавым ды Кантам — «Полавае пытанне» Фарэля, «Жыццё Ісуса» Рэнана, «Каля апошняй рысы» Арцыбашава... Чаго не бывала на палічках ды ў куфэрках, а то і пад застрэшшам вясковых аматараў пачытаць!.. А вось на Горкага мне доўга не шанцавала. Толькі ў самы разгар майго захаплення філасофіяй Талстога, у трыццаць пятым годзе, трапіліся нам з братам горкаўскія ўспаміны пра Льва Мікалаевіча. Яны падзейнічалі як халодны душ — было і сцюдзёна, і боязна, але ж і да смеху, да маладога рогату з чарцінкамі ў вачах прыемна. Пазней, таксама выпадкова, сустрэлася апавяданне «Дружкі», якое так спадабалася, што гэтую чалавечнасць, гэтае хваляванне я панёс на вячоркі, сябрам ды сяброўкам.

Вобраз брата Міхася, з заўчаснай смерцю якога я ўсё ніяк не магу пагадзіцца, упрыгожвае для мяне адна сімпатычная рыса — здаецца, нібы не вельмі прадуманая, бесклапотная смеласць вясёлага, паэтычна гультаяватага і на зайздрасць разумнага чалавека. Смеласць гэтую ён выявіў у пачатку фашысцкай акупацыі, не здаўшы ўладам кніг, хоць за такім загадам, як і амаль за ўсімі загадамі акупантаў і іх памагатых, у не вельмі далёкай перспектыве бачылася стандартная ў тыя жахлівыя дні мера пакарання...

Вярнуўшыся з палону, я змог накінуцца на двух, амаль невядомых мне пісьменнікаў — Салтыкова-Шчадрына і Горкага.

Законную, зразумелую прагу пазнання ўзмацняла яшчэ і спакуса забароненага яблыка і нават, калі хочаце, пэўная форма пратэсту.

За восень і зіму 1941—1942 года я прачытаў «Фаму Гардзеева», «Трое», «Гарадок Акураў», мноства апавяданняў.

Але найбольш чамусьці з гэтага часу запомнілася, выдадзеная асобнай кнігай, перапіска Горкага з Чэхавым — подых здаровай і прыгожай дружбы двух талентаў, двух незвычайных людзей.

Пасля вайны, калі я праз бездарожжа жыццёвых нягод выйшаў нарэшце на светлы бераг савецкага кніжнага мора, мне давялося добра-такі паднапяцца, каб дайсці да прыстойнага мінімуму начытанасці, з якім

не сорамна лічыць сябе пісьменнікам. Апраўдвацца ўмовамі мінулага не хацелася, бо і брыдка было б, а звышурочная праца над кнігай была не нудным карпеннем завочніка з вялікімі «хвастамі», а радаснай вучобай, жыццём на ўсю яго паўнату.

Быў не прачытаны яшчэ і Аляксей Талстой, і Шолахаў, і Горкі!..

Разам з іншым, упершыню тады прачытаным, у мой свет прыйшло яго цудоўнае «Маленства», стала побач п маленствам Аксакава, Талстога, Пруса, Амічыса, Караленкі — такое непаўторнае, з такою несмяротнай Бабуляй і несмяротным шчабятаннем птушак. Яго, «Маленства», і хочацца адзначыць удзячнай памяццю — перш за ўсё іншае.

Ад радасці дружбы з ягонай душой (харошае рускае слова *общение!)* я ўжо не перапісваў Горкага ў патаемны самаробны сшытак — я з асалодай творчай працы перакладаў «Мае універсітэты», з сярэдзіны пазнаючы сакрэты яго слова.

Але ж, прызнаюся — перапісваў ці, лепш сказаць, выпісваў сёе-тое з яго кніг і ў сталасці. Для раўнавагі духу.

Пра адну з такіх выпісак раскажу.

Зусім нечаканы і дагэтуль не да канца зразумелы мне ў сваёй арганізацыйнай частцы пагром аповесці «На Быстранцы» мне было параўнаўча не надта балюча пераносіць па той прычыне, што на самы вэрхал я трапіў з Чорнага мора, дзе тапілася мая малая дачка, тапілася, ратуючы яе, жонка і, урэшце, ратуючы іх, тапіўся я сам. Дзякуючы добрым людзям усё закончылася шчасліва, але застаўся глыбокі, спакойны настрой, калі жыццё набывае для цябе сапраўдную цану, калі ўзмацняецца адчуванне твайго чалавечага абавязку.

Тады і крытыка можна слухаць спакойна — што чуеш, а што і не чуеш, як ён ні гучна, з якое высокае купіны ні крычыць. Ты тады сам сабе крытык — і самы суровы, і самы прыязны, па дружбе без блату і скідак.

Гэта не галоўнае, што я хачу сказаць у сувязі з тым недарэчным пагромам. Было б залішне дробязна заставацца ажно дагэтуль у рамцы прыкрага факта, вельмі звычайнага на той пераходны перыяд, што прадвя-

шчаў XX з'езд партыі. Горкі, якога я хачу цяпер працытаваць, дапамог калісьці, пісьмом з Сарэнта, маладзейшаму сябру, Гладкову, справіцца з болем і крыўдай, якія яму прычынілі айчынныя дагматыкі таго часу. Прачытаўшы гэтае пісьмо, мне было да слёзнага рогату весела думаць пра дагматыкаў новых, відаць, не менш занудлівых і шкодных, чым тыя, што тармазілі рэвалюцыйнасць думкі ў дваццатых гадах. Да таго сур'ёзнага, глыбокага настрою, у якім лягчэй пераносіцца незаслужаны боль, Горкі дадаў мне зарад высокага ад мудрай вечнасці і ад зямлі здаровага смеху.

Гэтым зарадам я і хацеў бы падзяліцца з тымі, каму яшчэ давядзецца — і давядзецца, вядома, а мне, можа, раней ці больш за каго — трапіць пад новую, крыху мадэрнізаваную крытычную аглоблю.

Вось што я запісаў тады з 482-й старонкі 29-га тома поўнага збору горкаўскіх твораў:

«А на злосны шум, узняты кнігай, не звяртайце ўвагі, гэта — глупства. Гэта — ніжагародскі баншчык Ів. Ів. Гневушаў шуміць. Быўшы прысутным, як глядач, на парадзе мясцовых войскаў, ён задаволена сказаў: «Якая любата на салдатаў глядзець, стаяць як свечкі перад іконай! А вось мы, цывільныя, усё мазгаўні наперад высоўваем. І так мне заўсёды хочацца трэснуць кулаком па высунутай мазгаўні!»

Во яно як. Калі ўжо Вы — прабачце! — мазгаўню Вашу высунулі за рысу, назначаную Ів. Іванавічам,— гэта Ваша віна. Аднак Вы ўсё-такі высоўвайце яе, высоўвайце, нічога! Стомяцца. І. І-чы».

Каб жа хутчэй яны стаміліся, мілы вы наш Аляксей Максімавіч!..

Ну, што ж, пакуль не стомяцца,— будзем смяяцца з іх, як смяяліся вы!..

Засталося яшчэ адно — трафарэтнае пытанне: «Які ўплыў на вашу творчасць зрабіў Максім Горкі?» Такое пытанне даводзілася ўжо чуць. Ды і само яно папрасілася на паперу.

А адказаць — нялёгка... Які, напрыклад, уплыў на тое, што я адносна ў добрым здароўі пражыў ажно цэлае паўстагоддзе, зрабілі сонца, паветра, хлеб, вада?.. Станоўчы? Вялікі? Выключны?.. Што ні скажы — банальна. Але ж і праўда, сто разоў праўда, што з Горкім і мне было добра, што і я люблю яго, а любячы — не

мог, не магу не вучыцца таму, што мне ў яго здаецца добрым, прыгожым, трывалым.

Калі ж гаварыць не так шырока ды агульна, дык сёння я мог бы сказаць, што Горкі дапамог мне быць смялейшым у шчырасці, не баяцца ды не саромецца гаварыць адкрыта тое, што ты перажыў сам, лічыць любую літаратурную форму, любы жанр — сродкам для выражэння сваіх адносін да жыцця, да высокага абавязку быць Чалавекам.

*1967*

# СОСНЫ І СОНЦА

Вясной сорак чацвёртага года ў нашу партызанскую рэдакцыю трапіў з Вялікай зямлі нумар часопіса «Беларусь», дзе быў надрукаваны першы для мяне верш Панчанкі «Вока снайпера». Шчыра кажучы, не вельмі памятаю ўражанне ад гэтага верша. Больш помніцца здзіўленне, што імя, якое спалучалася дагэтуль толькі з радкамі «Еще одно последнее сказание...», якое і само здавалася летапісным па часу свайго бытавання, імя гэтае — Пімен — стаяла перад прозвішчам маладога, як мне сказалі, паэта, афіцэра-франтавіка, вясёлага, нават крыху забулдыжнага хлопца...

Сапраўднае знаёмства з паэзіяй Панчанкі прыйшло пазней.

Гэтае юбілейнае слова я пішу ў летнім, сонечным лесе пад Мінскам, тут, на духмяных палянках і сцежках, думаю пра Пімена, перачытваю яго некаторыя вершы. І таму мне лягчэй, ярчэй уяўляецца тое, ужо далёкае, гістарычнае лета, калі Налібоцкая пушча два тыдні не спала ад гулу гармат.

З гэтым магутным, несціханым гулам з усходу ішло вызваленне.

Маладзенькі наборшчык нашай друкарні — цяпер салідны дырэктар вясковай дзесяцігодкі, а тады цыбаты, смяшлівы падлетак — крадком узлазіў ноччу на хрыбет зямлянкі і доўга стаяў там — ці то заслуханы ў даўно і горка чаканы гул, ці то выглядаючы, калі ж яны, таварышы, прыйдуць: цяпер ці пад раніцу?

Уранні перад зямлянкай густа стаялі, нібы знарок тут сабраліся, гонкія, ціхія сосны. У гэтым гуле, у гэ-

тым сонцы, помніцца, сосны былі незвычайныя — мусіць, найпрыгажэйшыя ў маім жыцці.

Праз адчыненыя дзверы з рэдакцыі чулася радыё. Я не змог яго слухаць пры людзях, выйшаў і адышоўся, нават лёг — вачыма ў верас... Радыё я ўжо не чуў. Там была нейкая песня, ці што. А сюды, пад сосны, я вынес глыбока сардэчную музыку слоў, вялізны свет пачуццяў — маіх да шчаслівага болю, да радасных, нястрымных слёз...

Гэта быў верш «Зварот». Ён пачынаўся соснамі, што стаялі навокал мяне, канчаўся прызнаннем у любві да Радзімы, любві, якую мы адчувалі тады, здаецца, на ўсю глыбіню...

Дваццаць чацвёрты год пайшоў з той раніцы, а вось яна жыве, зноў ажывае ў памяці сэрца, як непаўторны, адзіны, адзін з самых светлых момантаў жыцця, цудоўна, чарам сапраўднай паэзіі спалучаны са словамі:

Асушу твае слёзы,  
Залячу твае раны,  
Кожны ліст твой распраўлю рукою старанна.  
Узніму з папялішчаў твае гарады я,  
Насаджу каля вёсак сады маладыя,  
Каб ты вечна цвіла  
І у шчасці расла,  
Дарагая мая Беларусь!

Дваццаць чацвёрты год... За гэты час, немалы і няскупа насычаны, я паспеў, калі ўспамінаць ад самага пачатку, і прачытаць усё напісанае Панчанкам за папярэднія гады, мне не вядомае па волі лёсу, і пазнаёміцца з капітанам у чорнай скуранцы, што, як новы Пячорын, вярнуўся ў зруйнаваны Мінск з далёкай, легендарнай Персіі. Паспелі мы і папрацаваць у адной рэдакцыі, і злёгку, з-за маладосці пазабулдыжыцца. Пасля бывалі разам і над блакітным Ядранам боскай Далмацыі, і пад вечным, сонечным дажджом Ніягарскага вадаспада, і на ташкенцкім эпіцэнтры ўздрыгвалі, і нястомна хадзілі па сцежках і альпійскіх лугах паўночнага Каўказа... Многа перагаворана разам, дома і ў людзях, нямала і перадумана пра адно і тое ж. Шмат і недагаворана, не выказана, натуральна пакінута «ў падтэксце» думак і пачуццяў, што яднаюць людзей, патрэбных адзін аднаму.

Дваццаць чацвёрты год я чытаю Панчанку, перажываю яго і ўзлёты, і роўнядзь, і спады (што ж, дыялектыка!), упарта лічу, што ён усё яшчэ як след не ацэнены і ў нас, і за межамі Беларусі, шчасліва веру, што ён як сапраўдны мастак увесь яшчэ не раскрыўся, што нас яшчэ чакае радасць не адной сустрэчы з яго нервовым і мудрым, пяшчотным і вострым радком.

І часта да мяне, то адным, то другім, то яркім, то ярчэйшым наплывам, вяртаецца тая ваенная раніца — з меднастволымі соснамі ў сонцы паэзіі, з грозным і справядлівым гулам гармат, з маім, на ўсё жыццё глыбокім, хваляваннем...

Толькі маё, інтымнае гэта? Не! Праз верш «Зварот» (ёсць у Панчанкі і мацнейшыя, ведаю,— справа не ў гэтым) мне добра бачыцца злітнасць пачуццяў паэта з пачуццямі народа, радасць яго радасці, боль яго болю, тая цудоўная якасць, якую можна назваць і вострым адчуваннем сучаснасці, і грамадзянскай лірыкай, і яшчэ як-небудзь, і — усё будзе не так, недакладна. Можа, хіба народнасць падыдзе найбольш. Не ў сэнсе звання, а па сутнасці. Так мне здаецца. Прыемна, што не толькі мне, а многім.

Разам з многімі, каму патрэбен твой светлы талент, твая часамі лішняя пахмурнасць, нібыта нават без прычыны злосная, твая развага і мужнасць, што не любіць азірацца, твая маладая, неперіаможная, парой ажно дзіцячая — вось гэта добра! — усмешка,— разам з многімі хачу, дружа Пімен, і я — чалавек як-ніяк, а старэйшы за цябе на цэлых дзевятнаццаць дзён — сказаць не святочныя, а сяброўскія словы:

Жыві, працуй і смейся!

*1967*

# ПЕРШ ЗА ЎСЁ

З усіх з'ездаў і пленумаў, на якіх мне давялося пабываць,— дома, у Маскве, у некаторых сталіцах братніх рэспублік — запомнілася перш за ўсё тое адчуванне, з якім я вяртаўся да свайго зыходнага пункта — рабочага стала. Трэба працаваць! Трэба спяшацца рабіць як найлепш, як найбольш. Думаючы, вядома, не пра хапатлівую паспешлівасць, а пра час, які сваё ведае — мерна, няўмольна і абыякава лічыць нашы скупыя дні, і пражытыя з пэўнай карысцю, і прабытыя напуста...

Нехта можа спытацца: а ці варта тады наогул адлучацца ад свайго стала, ці варта кудысьці ездзіць па такое простае пераканаяне?

Варта. Бо пасля таго, як пабачыш, колькі зрабілі іншыя, колькі часу ідзе міма галоўнага ў нашым жыцці — творчай працы, ахвота да яе прыходзіць, здаецца, глыбейшая, больш свежая і трывожная.

І другое, за што я ўспамінаю з'езды і пленумы з удзячнасцю, гэта сустрэчы і знаёмствы з таварышамі па прызванню.

Нельга без хвалявання думаць пра тое, як табе, у свой час маладому, прагнаму на ўсё добрае чалавеку і літаратару, проста-такі здорава пашанцавала пазнаёміцца, скажам, з мудрым Айні, з волатам працы Упітам, з абаяльным сваёй высокай культурай і чалавечнасцю Маршаком, з ціхім, непераможным аптымістам Вішняй... Гэта — старэйшыя, большасць якіх ужо ад нас пайшла. На дружбу з імі мы, маладыя, не асмельваліся, вядома, і прэтэндаваць — нам хапала і той павагі, з якою мы былі каля іх, а потым панеслі яе з сабою. А з іншымі, аднагодкамі і маладзейшымі, ты

не проста пазнаёміўся, бо знаёмства тое — дзе-небудзь у Душанбе, у Рызе, у Маскве ці дома, у Мінску,— спакваля перарасло ў дружбу. Быў абмен кнігамі, ціхі роздум над імі ў хатняй адзіноце, была перапіска, а потым зноў сустрэчы — тое, без чаго было б сумна і цяжка жыць.

І на сённяшні наш — святочны, юбілейны — з'езд я еду з надзеяй, што дахаты вярнуся з новым, свежым жаданнем працаваць, з новымі пачуццямі і думкамі — вынікам новых сустрэч, шчырых сяброўскіх гутарак, і радасцю новых знаёмстваў.

*1967*

# ЗУСІМ УПЭЎНЕНА [1]

...Шчымлівае адчуванне блізкасці, сваяцтва з бедным украінскім хлопчыкам, які нікога не ўмее, не можа, не хоча пакрыўдзіць, які ідзе ў наш вялізны, загадкавы свет, заслухаўшыся ў яго расспяваную, зіхатліва шматфарбную, ашаламляльную красу. Яшчэ адзін з тых «дзівакоў», якія асвяжаюць, няспынна абнаўляюць жыццё, дадаюць яму сваім прыходам высакароднасці.

Вобраз як быццам і не новы, напамінае ён нечым і Сянкевіча, і Караленку, і Коласа, і іншых, аднак вобраз жыццёвы, блізкі. А сустрэць блізкага заўсёды прыемна, асабліва — пасля разлукі.

Я гавару пра апавяданне Грыгора Цюцюнніка «Дзівак», наогул першы для мяне твор маладога ўкраінскага празаіка, пра апавяданне, якое здаецца мне першым па сіле ва ўсім цікавым, таленавітым цыкле, які прапануецца ўвазе чытачоў «Дружбы народов».

Зрэшты, калі не тое самае, дык штосьці вельмі падобнае можна сказаць і пра іншыя апавяданні цыкла. Для ўсіх іх аднолькава характэрна аўтарскае пранікненне ў душу герояў, зайздроснае ўменне не проста паказаць чалавека, але і парадніць яго з чытачом, заразіць чытача пачуццямі героя, зацікавіць яго горкім ці шчаслівым лёсам.

Вось апавяданне «На змярканні». Пакуль бацька ваяваў, маці зблыталася з суседам, не толькі здрадзіла мужу, але на ўсё жыццё параніла сынаву душу. Тады сын быў дзіцем, а цяпер — пасталелы вопытам юнак,

[1] Уступ да цыкла апавяданняў Грыгора Цюцюнніка. «Дружба народов», № 10, 1967 г.

які, многае разумеючы, ніяк не можа перамагчы ў сабе адчуванне кроўнай крыўды, выкліканае матчынай здрадай сапраўднаму пачуццю — пачуццю жонкі і маці.

А колькі малечай тугі па бацьку, які дзесьці на фронце, і вестачкі даўно не шле, колькі хітрынкі і пяшчотнасці, заўчаснай узмужнеласці і зноў жа такога дзіцячага, безабароннага гора тоіць у сабе нібы вясёлае — праз слёзы — апавяданне «Сіта, сіта...».

Цікавыя апавяданні «Халодная мята» і «Завязь», першае — пра сум, пра боль у душы чалавека, каханне якога ашукана, другое — пра пачатак здаровага, чыстага кахання, пра перамогу і несмяротнасць жыцця.

Словам — у нашу вялікую літаратуру зусім упэўнена ідзе сапраўдны пісьменнік. І гэта, вядома ж, вельмі прыемна.

*1967*

# З ДОБРАЙ, СУМНАЙ УСМЕШКАЙ [1]

Беларускі чытач ведае Міхася Стральцова як аўтара дзвюх кніг апавяданняў, аповесці і зборніка крытычных артыкулаў. З гэтым творчым набыткам прыйшоў ён да свайго трыццацігоддзя, з лепшымі творамі свае лірычнай прозы, сабранымі ў гэтай кнізе, ідзе ён да чытача ўсесаюзнага.

...Увосень шэсцьдзесят другога года, у залатым, утульным лесе, у адзіноце я чытаў бунінскі «Храм сонца», прымаў яго слова, нібы духмяны ліпавы мёд, маленькімі дозамі, па некалькі старонак у дзень, пасля працы, шчасліва адчуваючы, што гэтае чытанне — не толькі выдатны адпачынак, але і работа, і вучоба, і жыццё ва ўсёй яго паўнаце.

У такіх умовах, што вельмі спрыяюць успрыманню сапраўднага мастацтва, у такім настроі мне давялося пазнаёміцца з першым зборнікам апавяданняў Міхася Стральцова «Блакітны вецер». Я з радасцю адчуў, як быццам толькі што адкрыў для сябе, што нават і адразу пасля Буніна апавяданні нашага ціхага хлопца чытаюцца з хваляваннем, амаль на той самай хвалі прыёму.

Справа, вядома, не ў тым, каб некага з некім параўноўваць,— не варта рызыкаваць авансамі і раздражняць таго, хто думае інакш,— мне толькі хочацца сказаць, што проза Стральцова лірычная ў самым высокім значэнні гэтага паняцця, што яна безумоўна адтуль, дзе пачынаецца сапраўдная літаратура. Пісьмен-

---

[1] Прадмова да кнігі Міхася Стральцова «Что будет сниться». «Молодая гвардия», 1968.

нік гэты не проста піша, сачыняе свае апавяданні і аповесці — ён так арганічна, так натуральна ідзе ад жыцця, як быццам яно само падказвае яму, што і як трэба рабіць. Яму толькі застаецца выконваць загады жыцця, што ён і робіць, часта з зайздроснай дакладнасцю. Ён з тых, для каго літаратура не прафесія, а прызванне, не пісаць ён не змог бы, не быць нездаволеным сабою — таксама.

Шчырае і разумнае, шматфарбнае і тонкае слова Стральцова законна, па праву ўзаемнасці, патрабуе ад чытача павагі. Яго нельга чытаць абы-як, для забавы, толькі ідучы за фабулай,— пры такіх адносінах да яго слова гэтае сарамліва, але ж і рашуча замыкаецца ў сабе, раўніва не выдае сваіх таямніцаў. Пра такую прозу адны, сыценька пазяхаючы, гавораць, што яна, бачыце, цяжкавата чытаецца; другія ж бачаць у ёй і іншую асаблівасць — яе, здараецца, і перачытваюць, нават даволі ахвотна і часта. А гэта ўжо адна з тых станоўчых якасцей, якою вызначаюцца далёка не ўсе займальныя кнігі.

Пра што піша Стральцоў? Хто яго героі?

Студэнты дапамагаюць калгаснікам капаць бульбу, часова ўваходзяць у жыццё вёскі, з усёй красою яе пагодлівай восені і складанасцю нялёгкага побыту. Адзін з іх нібы закахаўся ў нявесту наіўнага, дабрадушнага дзецюка, сына ўдавы, у якое студэнт кватаруе, дзяўчыну абаяльную ў сваёй душэўнай свежасці. Ён пачынае заляцацца да яе, потым спахопліваецца, што гэта — не сапраўднае пачуццё, і адыходзіцца ўбок, каб не перашкодзіць чужому шчасцю...

Пажылы чалавек, выкладчык, якому ў жыцці добра такі шанцавала, пачынае раптам усведамляць сваю адарванасць ад часу, ад новага пакалення, якое ён пакліканы выхоўваць...

Вясковы хлопчык, горкае дзіця ваеннага часу, зрабіў злачынства — употай ад мамы і бабулі адламаў ад бохана кавалачак хлеба, якому ў хаце, у жыцці яго сям'і няма цаны. Ён пакараны і хаваецца, вядома ж, зусім сур'ёзна збіраючыся ўцячы з дому. Бабуля, выканаўшы суд і пакаранне, успамінае бацьку свайго неслуха, свайго адзінага сына, якога яна малога вось таксама сурова пакарала, а цяпер ён загінуў недзе на фронце, а крыўда тая ў душы яго, можа, і не астыла...

Бабуля плача, ёй трэба, каб прыйшоў нехта добры, родны і, нарэшце, пашкадаваў яе. Маці хлопчыка, якая займае адказную сярэдзіну паміж дзвюма няшчаснымі істотамі («старое — што малое»), гаспадыня, карміцелька асірацелай сям'і, абавязаная быць мужнай, раптам усведамляе ўсю горыч іх долі і плача. Удзвюх са свякроўю, якую яна, здавалася, не любіць. А хлопчык, які заснуў удзень у сваёй схованцы, якога там пасля знайшлі і, сонnаму, даравалі, цяпер, у пасцелі, прачынаецца ад гэтага плачу мамы і бабулі і, ахоплены жахам, просіць прабачэння за гэты кіслы, прымешаны бульбай, без дазволу зачэплены хлеб...

Малады журналіст, хлапчына з тонкай, паэтычнаю душою, ніяк не можа пагадзіцца з руцінёрам-рэдактарам, з мёртвымі штампамі, па цвёрдай волі гэтага рэдактара абавязковымі ў працы...

Трыццацігадовы інтэлігент, піжон і лавелас з душою, выпетранай ад скепсісу, прадстаўнік часткі таго пакалення, юнацтва якога прыйшлося на першую палавіну пяцідзесятых гадоў, чый пераходны ўзрост, як гаворыць аўтар, вельмі зацягнуўся,— «Свет Іваныч, былы Дон-Жуан», стомлены і затузаны сваім бязмэтным, ненармальным існаваннем...

Зноў ваеннае маленства — цудоўны Іванка з аповесці «Адзін лапаць, адзін чунь», глыбока адчутая і да шчымлівай радасці ярка, свежа, шчыра паказаная паэзія дзяцінства, гімн чалавечнасці, дабраце...

Такі, у прыблізным пераказе, круг тэм і такія героі кнігі М. Стральцова. Гэта, зразумела, далёка не ўсё, што можна і што трэба сказаць пра аўтарава бачанне свету, пра тое, што выклікаюць у нас яго творы.

Пра што б, пра каго б ні пісаў Стральцоў, на кожнай яго старонцы я перш за ўсё бачу аднаго і галоўнага героя — абаяльны вобраз самога аўтара, чалавека высокакультурнага і сардэчнага, з позіркам вострым на праўду і няпраўду, інтэлігента з народных працоўных нізоў, які няблага засвоіў нялёгкую і складаную мудрасць часу. Шчыры чалавек, відушчы пісьменнік ідзе па жыцці з добрай і сумнай усмешкай. Так хадзілі яго вялікія папярэднікі, з гэтым сумам, з гэтым шчаслівым болем за ўсіх і за ўсё горка і радасна адчуваць сябе літаратарам. І гэта — не сузіральнасць, якою нас палохаюць некаторыя крытыкі, гэта павышаная

любоў да красы, да чыстага, новага, на чым і трымаецца жыццё.

Стральцову трохі за трыццаць. Прыйшла сталасць, вастрэйшым робіцца пачуццё адказнасці за тое, што ты зрабіў і чаго не паспеў, не змог. Як сапраўдны мастак, Міхась ідзе насустрач гэтай адказнасці з хваляваннем і трывогай, якія толькі і могуць дапамагчы яму ў пошуках.

Я рады пажадаць яму новых поспехаў.

Спадзяюся, што пажаданне гэтае падтрымае і наш патрабавальны друг — шматмільённы савецкі чытач.

*1967*

# ЯК ПТУШКА ДЛЯ ПАЛЁТУ

«Дзень за днём перастуквае па рэйках цягнік. Божа, якія прасторы, якая мілата! Гэта ўжо канец мая, за вокнамі ўсё жыве і красуе. Бок аголенай чырвонай скалы, пералесак, ручай, стэп, сіні вецер з далёкіх прастораў, косае крыло птушкі. Сяло з дзёрнам на стрэхах ад ветру, з нафтавым складам пры станцыі і раз'езджанай да яго чорнай, бліпчастай ад нядаўняга дажджу дарогай. Лес, пільня, высокая і тонкая труба паравіка, штабелі дошак, бярвенне, трэскі, аполкі і ваганетка на тоненькіх нітачках рэек. Лініі высакавольтавых перадач, дарогі ўсцяж чыгункі і грузавыя машыны, што то пакажуцца, то схаваюцца разам з нечаканым паваротам гэтай дарогі. На станцыі саставы і саставы, нагружаныя цэглаю, вугалем, пяском, металам, машынамі, абсталяваннем. А за Новасібірскам, аж да самага Урала, спрэс зялёная кучаравая рунь. Ну што ж, бывай, Сібір, ад цябе я таксама ўзбагацеў душою».

Усё гэта праз акно вагона бачыць, усім гэтым любуецца даўно немалады, бязлітасна цёрты жыццём, аднак яшчэ ўсё дапытлівы, жыццярадасны чалавек.

Праз некалькі дзён — гэта было вясной 1955 года — ён непрыкметна, збоку сядзеў на шумным пісьменніцкім сходзе. Калі старшыня сходу назваў яго імя і ўнёс прапанову аднавіць таварыша ў правах члена Саюза пісьменнікаў — большая палавіна прысутных адказала маўчаннем. Гэта былі мы, пасляваенны прызыў, тыя, для каго васемнаццаць год — не проста перапынак у стажы, а добрая палавіна жыцця. А для тых, хто яшчэ маладзейшы, і зусім дзве трэці. Ціхі таварыш, пра якога гаварылася, адсутнічаў — без ві-

ны, праз памылку — васемнаццаць гадоў. Імя яго і першыя кнігі захоўваліся толькі ў памяці прадстаўнікоў даваеннага пакалення.

Вось выступае адзін з гэтых прадстаўнікоў, паэт, густу і слову якога мы верым. Ён пачынае не проста знаёміць нас з незвычайным госцем, а нават пераказвае адно з яго, захаваных у памяці, апавяданняў, захапляецца, гаворыць горача, і пачуцці яго перадаюцца нам...

Крадком гляджу на таго, пра каго гаворыцца,— мы сядзім у адным радзе, праз два чалавекі,— і бачу, як па шчацэ яго пакацілася сляза. Ледзь прыкметная, непаслухмяная. І ціхі чалавек, нібыта непрыкметна, змахнуў яе кручком вялікага пальца, з мужчынскай нездаволенасцю самім сабою, неяк па-дзіцячы зварушліва, бездапаможна.

З гэтага пачалося маё знаёмства з Янкам Скрыганом.

Цяпер мы з ім суседзі, дзверы ў дзверы. Часта праходжваемся пад вечар удвух па вуліцах і завулках Мінска. Ён любіць больш завулкі старое часткі горада і новабудоўлі, дзе яшчэ цяжка бывае прабірацца па гразкіх звілістых сцежках, скачучы цераз раўкі, рызыкуючы, што так і хляпнуць вапнаю з рыштавання. Разоў некалькі мы ездзілі разам па гарадах і вёсках Віцебшчыны, Наваградчыны, Палесся. Часамі мне здараецца, зайшоўшы да суседа па агеньчык, застаць яго над новым рукапісам, сваім, незаконачаным, або чужым, які ён чытае па абавязку службы ці дружбы. Нейкі час мы працавалі разам у рэдакцыі «Полымя». Сяды-тады ўдзельнічаем у творчых спрэчках, больш ці менш гарачых. Бывае, і за сталом сустрэнемся, дома ці ў людзях. Словам, вось ужо больш дзесятка год мінула пасля таго, як мы ахвотна ўзяліся за свой славуты пуд солі.

Мне добра з Янам Аляксеевічам, часта я ад яго заражаюся любасцю да жыцця. Простай такой, незададзенай, не «высокаідэйнай», а ледзь не дзіцячай радасцю па той прычыне, што вось нарэшце і пачалі трыбушыць ды разносіць старыя крывабокія баракі ў яшчэ адным ускраінным квартале. А потым — не паспееш і азірнуцца, як ужо часта бывала,— і тут уздымецца па-сучаснаму прыгожы, светлы дом. Яшчэ адзін.

Ну, а зірні, браток, якая дружная рунь пайшла па гэтай роўнядзі — смаката!.. Нават і языком лузгане ад маладое радасці.

Гэта ўжо ў полі, вядома, недзе за Клецкам якім ці на ягонай Случчыне.

Я бачыў, як ён выступаў перад самай рознай аўдыторыяй: перад студэнтамі, рабочымі, вясковымі школьнікамі. Усюды заставаўся сам сабою, цікавым, непасрэдным субяседнікам. Бачыў, як ён гаворыць з хлебаробамі пра самае надзённае, як зайздросна танцуе з моладдзю ў вясковым клубе. Чалавек на сёмым дзесятку складаных, нялёгкіх гадоў, ён можа ад радасці і дабраты, як хлапчук, гарэзліва пахваліцца: «Ага, а мне купілі новую кашулю, паглядзі!..» І смех — харошы, чысты, чалавечы.

Я ведаю, як можа і любіць працаваць Янка Скрыган — пісьменнік і рэдактар, як ён глыбока ведае нашу літаратуру, гісторыю, як любіць жывое слова і як нямала робіць для яго культуры.

І таму мне, зусім натуральна, прыемна было ўбачыць у кнігарні яго кнігу «Лунная ночь» [1], купіць яе і цішком далучыцца да радасці сябра, даўно і тройчы заслужанай.

Знаёмае ў арыгінале ўпершыню перачытаў у перакладзе, і вось пішу гэта ўпотай ад свайго суседа, пішу з уцешным жаданнем зрабіць яму прыемнае, а чытачу — і рускаму, і ўсесаюзнаму — параіць звярнуць увагу на кнігу, знешне сціплую, малапрыкметную ў паводцы кніжнай прадукцыі.

Янка Скрыган — перш за ўсё добры апавядальнік. Пра гэта пераканаўча гавораць такія, па-мойму, найлепшыя ў кнізе, апавяданні, як «Месячная ноч», «У Кірылы на хутары», «У старым доме», «Над гаем кружылі буслы», «Паваротак ля сасны»... Калі прыняць талстоўскі крытэрый акрэслівання сапраўднага мастацтва — значнасць зместу, шчырасць аўтара і прыгажосць формы,— найлепшыя апавяданні Скрыгана вытрымліваюць такую праверку. Тэмы яго значныя, у цэнтры ўвагі — чалавек з усёй складанасцю ягонай сутнасці і жыццёвага шляху; аўтар шчыра любіць добрае, ненавідзіць усё, што прыніжае годнасць Чалавека; піша

[1] Артыкул напісаны для «Литературной газеты».

Скрыган дакладнай, яснай, вобразнай мовай, уся беларуская, блізкая да народнай абаяльнасць якое не заўсёды, на жаль, захоўваецца ў рускім перакладзе.

З дзвюх аповесцей, «Скажы адно слова» і «Кругі», лепшай здаецца мне другая. Шчыры, займальны расказ пра тое, што пражыта за шэсцьдзесят гадоў, яркія, хоць часамі і залішне фрагментарныя малюнкі вясковага маленства, гарадской літаратурнай маладосці, суровых год выпрабавання вернасці ў мясцінах, далёкіх ад любай Беларусі... Дзіву даешся, чытаючы гэтыя старонкі,— так многа пражыць і захаваць зайздросную, амаль юнацкую свежасць пачуццяў, закаханасць у жыццё, жаданне быць з тымі, хто наперадзе!..

Добра напісаны і паасобныя нарысы, партрэты — «Ранішнія росы», «Некалькі хвілін чужога жыцця», «Платон Галавач»,— у якіх аўтар жыва, разумна расказвае пра цікавых людзей і з'явы беларускага літаратурнага жыцця дваццатых — трыццатых гадоў.

Захоўваючы вернасць крытычным традыцыям, я мог бы, вядома, не без падстаў звярнуць увагу чытача і на пэўныя, бачныя мне недахопы апавяданняў, аповесцей і нарысаў Я. Скрыгана, сказаць пра тое, што не ўсё абавязкова было ўключаць у дабротную, цэласную кнігу, а сёе-тое, як мне здаецца, варта было б трошкі дапрацаваць...

Ды мне зусім не хочацца гэта рабіць. І не трэба. Задача ў мяне іншая. Я хачу аднаго — па-сяброўску сказаць чытачу, што вось яшчэ адзін цікавы, добры чалавек, таленавіты, сумленны пісьменнік выдаў кнігу, з якою варта пазнаёміцца ўсім, хто любіць свой вольны час аддаваць адной з найбольшых радасцей, даступных людзям,— чытанню.

*1967*

# СЛАВА

Учора, пасля нялёгкага, прыкрага дня службовай тузаніны, позна ўвечары мне вельмі захацелася слова Паўстоўскага... «Залатой ружы» не знайшоў, узяў на начное чытанне «Блізкія і далёкія».

«Найцяжэйшае ў смерці для тых, хто застаўся жыць далей, заключаецца ў тым, што яны не паспелі сказаць таму, хто памёр, тое галоўнае, што адчувалі і думалі пра яго. Тыя, хто любіць, як заўсёды, спазніліся. Незразумелая сарамлівасць сціскала ім губы. І цяпер ён, вядома, ніколі не даведаецца, якой бескарыслівай была іх любоў».

Так гаварыў ён пра смерць, пра пачуцці іншых...

Два тыдні таму назад мы з дачкою дабраліся з нашай лясной надрэчнай глухамані ў раённы цэнтр. І толькі там, у рэстаране, чакаючы абеду, я — страшнае «між іншым»! — заўважыў у старой, пазаўчарашняй «Правде» некралог. Захацелася крыкнуць ад болю. Аднак толькі сказаў пра гэты боль дачцэ. Бо і яна ўжо любіць яго па-даросламу. Хацелася напісаць яго блізкім. Не напісаў. Бо я нікога з іх не ведаю.

На з'ездаўскім прыёме ў Крамлі, вясной пяцьдзесят дзевятага, нашы сталы стаялі побач. Але я не асмеліўся падысці пазнаёміцца, хоць год перад гэтым меў ад яго пісьмо. У адказ на маё. Неяк нават не верылася аднаму з таварышаў, што Канстанцін Георгіевіч аднойчы ўспамінаў мяне ў Ялце... Я віншаваў яго тэлеграмаю з сямідзесяцігоддзем, потым паслаў кнігу. І горка было, што ён не адказаў і не прыслаў свае. Трохі пазней я даведаўся, што ён цяжка хворы, зразумеў, вядома, што яму не да таго, але... горка было ўсё роўна.

Бо я люблю яго. Адзін? Як многія. Як кожны з многіх — па-свойму.

У безлічы такіх любовей — яго сапраўдная слава, яго вялікае значэнне для жыцця многіх з нас, для святла і цяпла ў многіх душах.

Дарма, што ім часамі бывалі нездаволены. Сёй-той. Скажам, адзін знаёмы член камітэта па прэміях, які — прыватным чынам, але як быццам не па-прыватнаму — крычаў аднойчы да хрыпаты, што «гэты абыватаель» прэміі не варты...

Прыклад Паўстоўскага патрэбен многім. І я прымаю яго. Зноў і зноў. Цяпер — каб супакоіцца і належным чынам рабіць тое, што трэба.

*1968*

# ЦАНА СОЛІ

У нашу вёску, яшчэ калі я быў малы, Тургенеў прыйшоў зусім выпадкова. У старой, добра-такі патрапанай рускай хрэстаматыі, што нейкім цудам трапіла ў адну з суседскіх хат, я прачытаў яго «Щи» і, здаецца, трохі пазней — «Певцов».

З тых дзён я памятаю... з тых дзён мяне хвалюе вобраз старое маці, забітай горам і галечай. Я выраслаў у цяжкай сялянскай працы, сярод бяспраўных і прыгнечаных, якія ведалі цану пасоленай капусце, бачыў шмат старых маці, выпетраных працай і нягодамі. Адну з іх любіў і люблю, ужо даўно толькі па памяці. І тая, з высахлай рукой, з суровым воблікам — тургенеўская маці вось ужо больш за сорак гадоў стаіць перада мною як вобраз да сціпнаты прыгожы, абагулена-народны.

З дзён маленства я памятаю і спеў Яшкі-Турка. Дзіўна — я і дагэтуль амаль не ведаю песню, якую ён спяваў, але ў душы маёй яна пяе — руская «удаль», шырыня, туга і шчымлівая радасць надзеі, ужо не толькі рускай... Помню, бачу даўно адлюстраваную ў хлапечым сэрцы белую чайку на марскім беразе, у промнях вячэрняй зары. Боль і мара. І гэта было мне вельмі знаёма. Было і застаецца.

Нядаўна я — першы і хутчэй за ўсё адзіны ў жыцці раз — быў на радзіме Івана Сяргеевіча, хадзіў па дарожках старога, залаталістага парку, стараўся пазбягаць людзей, быць толькі *з ім,* у тым ціхім, таямнічым свеце, які жывіў калісьці яго геній. Не ведаю, ці вінавата сіла першых дзіцячых уражанняў, ці вінавата маё працоўнае, чарнахлебнае паходжанне, аднак мне і там, пад спрадвечнымі дрэвамі Спаскага, раней

за ўсё і больш за ўсё ўспаміналіся «Запіскі паляўнічага» — ярка разнастайнае, шматпакутнае, любімае насельніцтва, зямля і неба, дні і ночы гэтай несмяротнай кнігі. І — з іншай кнігі — вобраз рабацягі-маці, забітай горам, але ўсё ж такі... Так, так — капуста ўсё ж такі пасолена!..

Каб убачыць гэта на ўсю глыбіню і паказаць на стагоддзі, патрэбны былі дзве рэчы — вялікае чалавечае сэрца і вялікая агульналюдская культура. Яны шчасліва спалучыліся ў яшчэ адным сыне Расіі. Не толькі для яе — для ўсіх, ва ўсім свеце, куды ўжо прыйшло і куды яшчэ прыйдзе непаўторна па-руску цудоўнае слова Тургенева.

*1968*

# УСПАМІН

Я моцна спаў у цяпле, так моцна, як можа спаць здаровы сялянскі дзяцюк, які ўвесь дзень працаваў на марозе і толькі што заснуў. Старэйшаму брату, які раскатурхаў мяне, відаць, дасталося б, прынамсі, нямала крыку было б, але ён пабудзіў мяне так асцярожна і, здаецца, нават радасна, што настрой яго перадаўся мне, і ўстаў я адразу і ціха.

Аказваецца, брат прывёў да нас зусім незвычайнага госця.

Наогул ён, мой Міхась, любіў і ўмеў сыходзіцца з цікавымі людзьмі, умеў іх знаходзіць. Трэба сказаць, што і памыляўся ён даволі часта, але ж ніколі не пакідаў і ў сталасці па-юначы захапляцца прыгожым у людзях, не мог яго не шукаць.

Госць, які апоўначы, нібыта нейкім цудам, апынуўся за нашым сталом, гэта быў першы для нас, заканых у кнігу, жывы, сапраўдны паэт. Не з кнігі, а з трэцяй вёскі, за нейкіх пяць кіламетраў. Ён ужо друкаваўся, мы чулі пра яго, сёння ён прыйшоў да сваякоў, у хаце якіх былі якраз вячоркі, там чытаў свае вершы, і там Міхась не прапусціў нагоды пазнаёміцца. Нават і начаваць забраў да нас — ад родзічаў.

Гэта для мяне стала зразумелым пазней. Адразу я быў проста ўражаны. І таму, калі наш незвычайны госць, павітаўшыся са мною, тонам загаду і крыху заікаючыся, прапанаваў мне пайсці памыцца, я адразу пайшоў, шурпатасць сваю затаіўшы глыбока ў душы. Што ж, мне толькі шаснаццаць, а госцю ажно дваццаць пяць. Што ж, ён ужо друкуецца, а я толькі пішу, у мяне пакуль што адзін і чытач, і крытык, і выдавец, на тры гады старэйшы брат, які не толькі часамі перапісвае мае

творы сваім прыгожым почыркам, але, пад ахвоту, нават і ілюструе іх акварэллю. Я думаў гэта, нехаця ідучы ў кухню-баковачку, нехаця мыючыся над цэбрам. Было ў маіх думках і іншае. Што ёсць — тое ўжо ёсць, а што яшчэ будзе калісьці — тое ведаю я адзін... Ну, і гэтак далей, у падобным сэнсе, што вядома, памятна кожнаму, хто рана ўзяўся за пяро. І наіўнасць, і самалюбства, смешныя на сталае вока, але ж таксама і штосьці добрае, натуральнае, без чаго не было б ні пошукаў, ні веры ў самога сябе, ні... проста маладосці.

Таксама як памыцца («Вельмі мне трэба гэта апоўначы!»), мне было проста загадана чытаць свае вершы. На гэта я пайшоў ахватней, маўклівае бурчанне нездаволенасці саступіла ў душы маёй месца хваляванню, не менш затоенаму, але да напалу ў шчоках і вушах адчувальнаму.

Вершы мае былі, разумеецца, недаацэнены. Так здалося б, відаць, і кожнаму на маім месцы. Госць больш хваліў жаданне пісаць, раіў мне тое ды сёе, і я прыняў гэта праз ветлівасць спакойна, нібыта нават удзячна...

Навошта, суме мой, такі вялікі ўступ? Нам куды лепш было б сёння зноў сустрэцца ўтрох за сталом, успомніць тую вясковую поўнач і пасмяяцца — здалёк, праз восеньскую паэтычную смугу так многа перажытага. Не ўспомнім. Бо не сустрэнемся. Іх абодвух ужо даўно няма. Асабліва даўно — таго нашага госця.

На ўрачысты вечар у нашым пісьменніцкім клубе, прысвечаны гадавіне перамогі над фашызмам, былі запрошаны студэнты тэатральнага інстытута. Яны чыталі са сцэны вершы паэтаў, якія загінулі на франтах і ў партызанскіх атрадах. Юнакі, не вельмі старэйшыя за таго мяне, што соладка пакутаваў над спыткамі першых літаратурных пошукаў, і асабліва мілыя дзяўчаты, што хваляваліся, як мне здавалася, і больш і прыгажэй за хлопцаў.

Адна з іх чытала вершы таго начнога госця — Алеся Мілюця.

У кнізе «Мы іх не забудзем», першым пасляваенным зборніку паэзіі нашых загінуўшых сяброў, да вершаў Алеся, якія ўпершыню тады з'явіліся ў савецкім друку, ёсць мая невялічкая прадмова. Яна напісана рукой таварыша, і сёння я не думаю, што быў у той час

несправядлівы ў акрэсленнях. Аднак, прызнаюся, што за апошнія гады я некалькі разоў міжволі вяртаўся думкай да тае прадмовы — зноў узважваў на правільнасць наступны абзац:

«Алесь Мілюць з'яўляецца адной са шматлікіх ахвяр панскага гнёту, адным з тых, у каго не хапіла сіл самому прабіцца скрозь гушчу рэакцыі да вяршынь майстэрства, хто не здолеў на працягу доўгіх год саматужнай працы вырвацца з межаў бясконцага пачынання».

Ці не залішне сурова, катэгарычна? Ці да канца аб'ектыўна?..

Калі я слухаў вершы ў выкананні студэнтаў, асабліва верш майго сябра з голасу маладзенькай, усхваляванай дзяўчыны,— вобраз Алеся — дабрадушнага, шчырага беларускага хлопца, сціплага і вясёлага, захопленага ўсім прыгожым і чыстым,— вобраз гэты ўстаў перада мною з небывалай выразнасцю. З ім прыйшоў да мяне водар белае грэчкі і вялых пракосаў, залацістая шчотка — сцяна аўсяных гузыроў над прахалодным, старанна падмеценым токам, ціхае і вільготнае вуркатанне жывое скібы за плугам, пах адліжнага снегу і свежых бярозавых трэсак,— усё, з чаго складаўся той свет, адкуль ішла і яго, Алесева, апантанасць, адкуль ішла паэзія, якая і жывіла і натхняла нас: Колас, Купала, Багдановіч, Танк. Апошні — сваім голасам, сваім рэальным, блізкім, заходніцкім існаваннем — хваляваў тады, бадай, найбольш, неяк па-асабліваму.

Я не ведаю, як ён, Алесь, памёр — адразу, падбіты куляй або разарваны снарадам, або не адразу — ад ран. Пад гукі ягонага верша мне ўявілася, да слёз зразумела і востра, як ён бяжыць па асенняй нямецкай раллі, недзе ў сцюдзёнай замглёнасці Усходняй Прусіі, як ён — і тут, як заўсёды, з людзьмі — крычыць задыхана баявое «ўра!». Мой сардэчны, заўсёды не надта здаровы, хутчэй не салдат, а ціхі, любімы вясковы настаўнік. Як ён падае — я не бачу: гэты бег па раллі і гэты задыханы крык — апошняе, што мне ўяўляецца з яго апошніх момантаў.

Днямі яму споўнілася б шэсцьдзесят гадоў. Дваццаць чатыры з шасцідзесяці забралі ў яго фашысты — заўчасная смерць. Што ён мог бы зрабіць за гэ-

тыя дваццаць чатыры, каб жыў? Кім ён быў бы: ці ўзяў бы сваё, як літаратар, ці, можа, стаў бы, як мне ўявілася, добрым, любімым дзецьмі настаўнікам, выкладчыкам літаратуры? А можа, застаўся б, як быў да вайны, пасля Верасня, сціплым сельпоўскім рахункаводам? Адно я ведаю цвёрда — у нашым свеце было б яшчэ на аднаго харошага чалавека больш. Як ён любіў бы родную справу, роднае паэтычнае слова!..

На тым святочным майскім вечары некалькі слоў пра Алеся мне перашкодзіў сказаць, да канца па-мужчынску, пушкінскі верш. Нават не ўвесь той верш, а пасобныя, вельмі адпаведныя майму настрою радкі, што самі, міжволі, як гукі амаль нячутнага рэквіема, усплылі ў балюча абвостранай памяці:

> Грустен и весел вхожу, ваятель, в твою мастерскую...
> Грустен гуляю: со мной доброго Дельвига нет...
> Как бы он обнял тебя! Как бы гордился тобой!

Алесь, вядома, не Дэльвіг, а я, тым больш вядома, не Пушкін. Справа толькі ў адным. Калі б і ён, адзін з найбліжэйшых сяброў мае маладосці, не загінуў за тых, што жывуць, сёння мне вельмі добра было б разам з ім радавацца прыходу новага ў нашу літаратуру. Ён умеў так радавацца. Я ведаю гэта. Я памятаю тую зімовую поўнач. Праз ціхае, няшчодрае, а вельмі ж свойскае, утульнае святло зноў запаленай у нашай хаце лямпы, праз маладую свежасць халоднай вады, якую вочы мае прынялі хоць і не вельмі адразу, але ж ахвотна, праз далячынь трох з палавінай дзесяцігоддзяў я не проста прыгадваю, а выразна бачу яго разумную, заўсёды прыязную ўсмешку, чую ягоныя словы, якія толькі тады, толькі адзін раз у жыцці здаліся мне суровымі. Дый то ненадоўга.

Ты мяне, суме мой, так ужо, мусіць, і не пакінеш?..

*1968*

# ЖЫЦЦЁ І ЛІТАРАТУРА

За два з палавінай гады, якія прайшлі пасля нашага пятага з'езда, толькі «Полымя» і «Маладосць» надрукавалі больш за сорак раманаў і аповесцей, каля дваццаці паэм і п'ес, многа вершаў, апавяданняў, нарысаў, крытычных артыкулаў. Нямала надрукавалі іншыя нашы выданні. Добрую сотню арыгінальных кніг выпусціла выдавецтва «Беларусь».

Словам — колькасна мы ўжо даволі вялікая літаратура.

Трэба сказаць і другое. І я хачу яго сказаць, свядома ўлічваючы тое, што гэта, зусім натуральна, можа сяму-таму не надта спадабацца.

Чытаючы нашу прадукцыю апошніх год не выбарачна, а падрад, я зачаста хацеў на панылай, прыстойненькай літаратурнай роўнядзі сустрэць ці ўзлёт грамадзянскай мужнасці, якая разварушыла б сонную ціхмень, ці горды ўсплеск іскрыстага таленту, што напаіў бы душу высокай радасцю жыцця, ці глыбокую, свежую думку — мудра спакойны, сумленна смелы, на доўгае, на вечнае разлічаны пісьменніцкі роздум. Мала, трывожна мала ў нас такіх сустрэч!..

Не спяшайцеся абвінавачваць мяне ў зазнайстве, у агульным ахайванні працы вялікага калектыву. Я ўпэўнены, што ўсе, каму па-сапраўднаму рупіць развіццё беларускай літаратуры, добра бачаць, што пажадаць ёй сёння трэба вельмі многага.

Ёсць, вядома, на фоне прыстойненькай пасрэднасці і выключэнні. Ва ўсіх жанрах. Іх, на жаль, не так шмат, як хацелася б, і страшна было б, каб іх не было зусім. Пра гэтыя выключэнні хочацца гаварыць са зразумелай радасцю. Аднак я дазволіў сабе мінорны

запеў не дзеля таннай інтрыгі, а таму, што хачу, каб наша гаворка была не сонна-параднай, а жывой і карыснай. Стаць такой яна можа пры адной толькі ўмове — калі мы будзем гаварыць адкрыта.

На мяне ўскладзены абавязак сакратара праўлення — зрабіць агляд нашых дасягненняў, ускрыць недахопы і паўтарыць задачы, якія стаяць перад намі. Не ведаю, у якой ступені я спраўлюся з гэтым, дый, шчыра кажучы, не ўпэўнены, што мне абавязкова трэба вучыцца гэтаму рамяству па агульнавядомых стандартах. Я хачу, каб словы мае было ўспрынята перш за ўсё як слова таварыша па прызванню, вашага пільнага чытача, чалавека не менш за ўсіх зацікаўленага ў лёсе роднай літаратуры. Такім чынам, я не прашу пэўнай скідкі на дылетанцтва (ну, які там, скажа хто-сьці, з празаіка крытык паэзіі, драматургіі, а яшчэ больш — крытыкі!). Я проста хачу, каб сёння многія з нас выказалі *сваё*, а з гэтага свайго каб выйшла шматгалосае *наша*.

Каму і ў якой меры дазволена быць суб'ектыўным у ацэнках? Трэба думаць, што ўсім і настолькі, наколькі ў нас розныя густы, здольнасці, падрыхтоўка. Як і кожны з нас, я маю права на сваё. Даклад гэты я рыхтаваў адзін, без дапамогі збоку. І пралікі мае, калі яны будуць, будуць толькі маімі. А наогул — ці можа хтонебудзь застрахавацца ад памылак у вызначэнні мастацкай вартасці? І ці ў гэтым галоўнае? Важней за ўсё тое, з якою меркай мы падыходзім да літаратурных з'яў.

Летась, на юбілейным вечары Упіта ў Маскве, мне давялося слухаць канцэрт, седзячы з маскоўскімі латышамі. Я наогул люблю латышскі народ — за някрыклівую мужнасць, зайздроснае нацыянальнае здароўе і высокую культуру працы. А там, у Цэнтральным доме літаратараў, я апынуўся сярод былых латышскіх стралкоў, што засталіся пасля рэвалюцыі ў СССР,— сядзеў сярод людзей, авеяных легендарнасцю першых Кастрычніцкіх дзён, гадоў гераічнага будаўніцтва, горкіх нястач і незаслужаных пакут, перажыць якія, вытрываць давялося не ўсім. Мне гаварыла пра гэта старая, інтэлігентная латышка, жонка пасмяротна рэабілітаванага стралка, жанчына, што многа папрацавала на вяку, нямала перажыла і засталася прыгожай, як

мужная, добрая, справядлівая маці. Гаварыла яна ў перапынках паміж канцэртнымі нумарамі, а пасля, калі пачыналася музыка або песня, культурна, зацікаўлена маўчала. Гаварыла — умеючы, перакладала змест песень, паспявала сказаць галоўнае пра артыстаў. І мне ад розуму яе, ад мацярынскай абаяльнасці запомнілася адно акрэсленне — на лёгкі погляд вельмі звычайнае, непрыдатнае для трыбуннага цытавання. Калі на сцэну выйшаў малады артыст, мая суседка, маючы вельмі няшмат часу, каб сказаць пра яго найважнейшае, шапнула з мілым латышскім акцэнтам:

— Хо-ро-ший пе-вец. Поет о жизни.

Сказанае гэтай жанчынай я мог бы без асабліва цяжкіх пошукаў падмацаваць больш ці менш вядомымі выказваннямі нашых вялікіх папярэднікаў. Ды справа не ў цытатах — усе мы памятаем іх нямала.

Слоў песні я не разумеў. Толькі музыка, толькі натхненне артыста гаварылі, што ў гэтай песні і сапраўды жыццё, што яна ад яго неадлучная, што яна ім жыве. Там, дзе мы разумеем і слова, дзе пазнаём яго вартасць па паходжанню — ад сэрца яно ці ад халоднага разліку,— там яшчэ больш няцяжка пазнаць, дзе пульсуе жыццё, дзе дыхае сапраўднае мастацтва, а дзе сапе ды пацее цягучае, упартае рамесніцтва, якое нельга апраўдаць і добрымі, і найлепшымі намерамі аўтара.

У падтрымку самому сабе больш, можа, выгадна было б прывесці выказванне каго-небудзь з класічных тэарэтыкаў. Я працытую Ул. Салаухіна — адно з выказванняў таленавітага, добрасумленнага практыка рускай савецкай прозы:

«Вядома, ідэйны бок мастацкага твора вельмі важны. Аднак, калі мне гавораць, што стрэльба нацэлена вельмі дакладна, а стрэльба ўрэшце не страляе або страляе халастым стрэлам, што мне з таго, што так дакладна нацэлена стрэльба?»

Глыбокая ідэйнасць як неадрыўны элемент высокага мастацтва — усім нам вядомая аксіёма. Задачы, пастаўленыя перад пісьменнікамі Ленінскай рэвалюцыяй, не змяніліся. Мы толькі праясняем іх для сябе, усведамляем у новых абставінах рэчаіснасці. Заданне застаецца тое ж — ствараць літаратуру, дастойную чырвонага сцяга, вартую народа — героя і падзвіжніка, вартую нашага вельмі складанага і вялікага часу. Час

гэты патрабуе асаблівай відушчасці, спеласці, мужнасці — якасцей, неабходных у барацьбе супрацьлеглых ідэалогій. Зброя, якою мы абараняем заваёвы Кастрычніка, павінна быць па-сучаснаму дасканалай. Зброя пісьменніка — слова. Яно тады толькі дасягае мэты, тады натхняе, радуе сваіх і паражае ворагаў, калі яно таленавітае і, па-другое, праўдзівае, калі яно, кажучы словамі той латышкі, *спявае пра жыццё*. Нікому не павінна быць дазволена спекуляваць на складанасці часу, на вастрыні палітычных абставін — адсутнасць сапраўднага майстэрства, адсутнасць праўды жыцця не прыкрыеш ніякімі добранадзейнымі фразамі. А што ж такое праўда жыцця? Гэта яго паўната, шматграннасць, гэта яно — не засушанае блізарукай, панылай ілюстрацыйнасцю, не затуманенае ўпартым дагматызмам і мадэрнізаванай дэмагогіяй, не абкрадзенае баязлівасцю і перастрахоўкай, гэта яно, яго вялікасць жыццё, ва ўсёй сваёй паўнакроўнай красе. Толькі такім яно павінна быць у мастацкім слове; па гэтым слове законна засумаваў наш чытач.

Што ў нас ёсць і чаго нам не хапае, наколькі глыбокаідэйна, таленавіта, праўдзіва мы апяваем наша жыццё — пра гэта мы і павінны сёння пагаварыць. Без панікі і мітусні, без дробнай помслівасці і кан'юнктурнага ўра-патрыятызму — спакойна, сумленна, па-дзелавому.

* * *

Больш за сорак раманаў і аповесцей. Каля дваццаці паэм і п'ес. Мноства вершаў, апавяданняў, нарысаў, артыкулаў...

А ўдач, шчыра кажучы, вельмі нямнога. Нават і ўдачы, амаль усе, можна прымаць толькі з пэўнымі агаворкамі.

Пачнём з так званай вялікай прозы.

Вызначаць месцы — першае, другое, трэцяе — я не бяруся. Проста назаву тыя рэчы, што бачацца мне найбольш цікавымі па сваёй жыццёвасці, мастацкай спеласці і вастрыні пастаўленых пытанняў.

Гаворку гэтую мне прыемна пачаць з маладзейшых.

Дні Вялікай Айчыннай вайны, кашмарны час фашысцкай акупацыі, усенародную радасць вызвалення

і першыя, цяжкія пасляваенныя гады ўжо даволі многім з нас уласціва — па ўзросту — успамінаць непаўторна па-свойму. Ужо даволі многія з нас былі тады дзецьмі, усё тое бачылі чыстымі дзіцячымі вачыма, успрымалі і вымяралі мераю гэтай чысціні. І голас іх, іх суд, можа, найбольш справядлівы, бо вайна, бо фашызм, які нясе яе чалавецтву — найбольш вінаваты якраз перад дзецьмі.

Добра, што нашы маладзейшыя празаікі разумеюць важнасць гэтай тэмы і аддаюць ёй увагу.

Мне хочацца напомніць вам у гэтым сэнсе пра цудоўнае сваёй праўдзівасцю і глыбінёй апавяданне Міхася Стральцова «На чацвёртым годзе вайны». Тэму яго ён як быццам прадоўжыў у сваёй першай аповесці «Адзін лапаць, адзін чунь». Гэта, на маю думку, бясспрэчная ўдача таленавітага, удумлівага празаіка. Гэта — глыбока адчутая і да шчымлівай радасці сардэчна пададзеная паэзія дзіцячай чысціні, праклянцце вайне, гімн чалавечнасці.

Проза М. Стральцова ў найлепшым сэнсе гэтага азначэння лірычная і насычаная неспакойным роздумам над жыццём. Я не спяшаюся гаварыць пра ягоныя поспехі ў вершах. Затое апошняя яго праца, эсэ «Ад Максіма кніжніка пачатак...», падабаецца мне плённым спалучэннем вобразнасці і думкі, спалучэннем мастацкай прозы і крытычнага даследавання — на мяжы высакаякаснага жанравага сплаву, вельмі рэдкага ў нас і вельмі патрэбнага. Верыцца — тут будзе ў Стральцова толк.

Бывае часамі такое. Слухаеш, як паважаны, дыпламаваны спецыяліст «растлумачвае» нейкі музычны твор. Слухаеш, стрымліваеш пазяханне, і вось — адваротнае ўздзеянне — раптам вельмі захочацца твор той паслухаць... Аповесць Уладзіміра Караткевіча «Чазенія» (можа, і правільна названую ім паэмай), таленавіты твор з жывымі фарбамі і гукамі прыроды, з напалам жывых чалавечых пачуццяў, можна было б таксама «растлумачыць», як музыку. Лепш, аднак, прачытаць яе, хто не чытаў, самому прыняць зарад гаючай, па-дзіцячы свежай радасці жыцця, жадання думаць, адкрываць, любіць, быць чалавекам — па-горкаўску — з вялікай літары. Хіба ж не ў гэтым задача сапраўднага мастацтва?

Нельга перабіваць спевака, пакуль ён захоплены песняй. Але пасля яму можна і трэба што-небудзь сказаць. У запале Ул. Караткевіч — мастак з зайздроснай творчай энергіяй і фантазіяй — можа часамі і лішняга наспяваць. І па колькасці, і па якасці. Зачараваны прыродай Далёкага Усходу, я ўсё-такі не магу сур'ёзна ўспрымаць начны двубой героя «Чазеніі» з таежным леапардам, двубой, перад якім паядынак Мцыры з барсам — ледзь не звычайная гульня... Добра было б Караткевічу, пры ўсіх яго станоўчых якасцях, авалодаць яшчэ і мудрай стрыманасцю слова, а таксама пагардай да яшчэ ўсё нязбытай ім да рэшты кніжнасці — гордай пагардай, неабходнай кожнаму арыгінальнаму мастаку.

Алена Васілевіч надрукавала летась аповесць «Доля цябе знойдзе». У творы гэтым пяе паэтычны, глыбокі падтэкст: аўтарскае пачуццё любві і нянавісці, больш — любві да жыцця, да добрага, прыгожага ў жыцці, любві па-жаночаму трохі сям-там мнагаслоўнай, але ж і па-жаночаму сардэчнай — да мацярынскай пяшчотнасці. Жыццё ў яе не выдуманае, не прыстасаванае да тэмы, да так званай патрэбы дня, а жывое, без схематычнасці і фальшу. Ёсць добры гумар, добрая мова, чысты стыль, ёсць грамадзянская смеласць і паэтычнае бачанне свету — дзве якасці, што даюць літаратару права пісаць, лічыць сябе мастаком.

У сёлетнім дзесятым нумары «Полымя» надрукавана яшчэ адна аповесць, «Новы свет», трэцяя ў цыкле, які пачаўся ў 1965 годзе аповесцю «Расці, Ганька».

І «Новы свет» — нягледзячы на крыху шаблонную публіцыстычнасць некаторых раздзелаў і залішнюю гаварлівасць, вынікі прыкметнай спешкі — аповесць добрая, прывабная сваёй праўдзівасцю.

Мне здаецца, што на працягу апошніх гадоў, мераючы пакаленні ды дзелячы лаўры, мы нібыта праглядзелі, што побач з намі тым часам без шуму, настойліва расла і вырасла добрая пісьменніца. А так расці — не юначым парывам, а пастаянна, упарта, ад твора да твора, ужо не ў маладосці (прабач мне, Лена) быць творча маладой, з цікаўным і відушчым сэрцам — гэта няхай сабе і ціхі, але сапраўдны подзвіг.

Думаецца, што мы не вельмі па-гаспадарску не заўважаем таксама, што ў нашу прозу за два апошнія га-

ды прыйшоў цікавы, таленавіты работнік. Маю на ўвазе дзве аповесці паэта Уладзіміра Паўлава, «Яжэліха» і асабліва «Спелыя травы». Яны падкупляюць праўдзівасцю вобразаў і сітуацый, жывою плынню... так і хочацца сказаць: не проста мовы, а нават радка, народжанага хваляваннем.

Славутае «Черт вас побери, степи, как вы хороши!» тоіць у сабе несмяротную выбуховую сілу таму, што тое, адкуль яна ідзе, гэта і ёсць цудоўная, таямнічая з'ява, імя якое Гогаль. Не кожны можа быць Гогалем, аднак жа кожны павінен мець сваё — свой стыль, сваю мову, свой голас. Абгрунтаваць, чаму яны ёсць у аднаго, а ў другога іх няма — ніхто не зможа. Пазнаць жа, у каго яны ёсць, не толькі можна, але і радасна. Магчыма, яшчэ ранавата гаварыць пра свой, зусім выразны, арыгінальны голас у Паўлава. Гаварыць жа, што піша ён праўдзіва, паэтычна, добрай, арганічна беларускай мовай — мне прыемна, бо гэта, як для пачатку, вельмі нямала.

Аповесць Васіля Быкава «Праклятая вышыня». Першае ўражанне, калі пачынаеш яе чытаць,— як быццам нічога новага, калі не паўтарэнне таго, што мы ўжо ведаем у Быкава, дык проста далейшае, паслядоўнае развіццё яго тэмы. Аднак, чытаючы, ты хутка забываешся пра гэтае ўражанне — цябе палоніць суровая праўда вайны, бачыш жывых людзей, пранікаешся трывогай за іхні лёс, табе перадаецца аўтарскі настрой — стрыманае захапленне непаказной, некрыклівай мужнасцю сапраўдных патрыётаў, непрымірымая пагарда і нянавісць да шкурнікаў і прыстасаванцаў, баязліўцаў і салдафонаў... З глыбіннага падтэксту апавядальнай плыні да цябе даходзіць страсна зацікаўлены роздум пра першааснову нашага ладу — пра чалавечнасць. Рука Быкава-мастака прыкметна пасталела. Сям-там, на жаль, застаецца да рэшты непераможанай прыкрая неахайнасць мовы.

Гэта было напісана мною паўгода таму назад, калі я рыхтаваўся да пленума, які, як вядома, спачатку планаваўся на май. У жніўні я прачытаў «Праклятую вышыню» яшчэ раз, у нова-мірскай, трохі ўдасканаленай рэдакцыі. Чытаў і крытыку. Чуў многа розных думак пра гэтую рэч. Бясспрэчным застаецца адно — аповесць таленавітая. Твор пасрэдны, напісаны не сэрцам,

а халоднай, абыякавай рукой, не выклікаў бы такой зацікаўленасці, такіх супярэчлівых ацэнак.

Я гавару гэта не таму, што — як нехта можа падумаць — лічу «Праклятую вышыню» бездакорнай у сэнсе ідэйна-мастацкай завершанасці. І не па нейкай выключнай асабістай прыхільнасці да твораў трагедыйнага плану. Мне думаецца — значэнне аповесці перш за ўсё ў тым, што яна, адносна беручы, найбольш адчувальна і плённа непакоіць нашу творчую думку, прымушае задумацца пра вельмі немалаважнае ў нашай справе.

Я далёкі ад намеру лічыць свой погляд абавязковым для ўсіх, але ж і не магу лгаць перад самім сабой і перад тымі, каго паважаю. Я не лічу таксама, што В. Быкаў недатыкальны для крытыкі, што вакол яго, у адрозненне ад кожнага з нас, павінна быць за любую цану створана нейкая бескрытычная зона. Гэта не патрэбна ні Быкаву, ні літаратуры. Хто будзе адмаўляцца ад здаровай, добразычлівай крытыкі? Давайце абмяняемся думкамі. Па-дзелавому, аб'ектыўна. Для гэтага мы і сабраліся.

Прыкметнай з'явай нашай прозы апошняга часу слушна названа аповесць Івана Пташнікава «Тартак». На тэму таксама яшчэ ўсё сучасную. Аддаючы належнае сталасці гэтага мастака, веданню ім жыцця, вострай назіральнасці, вобразнай мове, нельга не сказаць, што і ў новую рэч ён перанёс свае некаторыя недахопы. Гэта і замаруджанасць дзеяння, месцамі проста падобная на запаволеную кіназдымку, і перагружанасць дэталямі, няхай сабе і яркімі, але не ўсюды і не заўсёды абавязковымі. Яшчэ раз кажучы мовай кіно, не кожную з'яву, не кожны вобраз трэба абавязкова паказваць буйным планам: гэта не ўзмацняе цэласнасці твора, яго мэтанакіраванасці і вастрыні. А што да залішняй шчодрасці, дык варта ўспомніць, што бацькі нашы пшаніцу не толькі праполвалі, але і прарэджвалі, каб лепш ад гэтага расла ды каласілася.

Закончаны друкаваннем раман Міколы Лобана «Гарадок Устронь». Я чытаў яго яшчэ ў рукапісе, чытаў з прыемнасцю, якая светла помніцца ўжо хутка тры гады.

Жывыя людзі, жывая гісторыя трыццатых гадоў, кніга сумленная і смелая. Помніцца, аднак, і другое —

адчуванне нейкай залішне спакойнай, несхавана прадуманай размеркаванасці, адсутнасць узлётаў, лірычнай усхваляванасці, так патрэбнай, па-мойму, і для эпічнай прозы.

«Гарадок Устронь» у пэўнай ступені з'яўляецца працягам першага рамана М. Лобана «На парозе бучыні», таксама, як раман Івана Навуменкі «Вецер у соснах» працягвае яго раман «Сасна пры дарозе».

Тут, на прыкладзе гэтых раманаў, мне хочацца выказаць свае меркаванні наконт мнагатомнасці. Дазволю сабе нават, для большай нагляднасці, зрабіць адхіленне ў часе — закрануць і два палескія раманы Івана Мележа.

У «Людзях на балоце» трохкутнік Ганна — Васіль — Яўхім, іх пачуцці, іх лёс хвалявалі мяне па-сапраўднаму. У «Подыху навальніцы» гэтая лінія пайшла на спад, вычарпалася, перастала быць цікавай. Героем рамана, вобразным стрыжнем яго фактычна стаў Апейка. Мяне па-сяброўску трывожыць, як Мележ увядзе тых самых Ганну — Васіля — Яўхіма ў яшчэ адзін раман, чым ён зробіць іх для чытача цікавымі?..

Мікола Лобан, па-мойму, справіўся з задачай: некаторыя героі першага рамана і ў другім адчуваюць сябе натуральна, жывуць паўнакроўным жыццём.

Горш атрымалася ў Івана Навуменкі. Калі б у нас не было рамана «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах» быў бы цікавым творам, слабейшым, праўда, за першы, але таксама патрэбным. Цяпер жа «Вецер у соснах» — толькі працяг «Сасны пры дарозе», толькі *працягвае дзеянне*, уносячы ў навуменкаўскую тэму — падлеткі ў падпольным і партызанскім руху — вельмі і вельмі мала новага, невядомага чытачу па «Сасне пры дарозе» і па яе папярэдніках — свежых, усхваляваных апавяданнях на тую ж тэму.

Гігантаманія ці, лепш сказаць, яшчэ ўсё модная схільнасць некаторых нашых празаікаў да так званых «вялікіх палотнаў», нават да цыклаў гэтых палотнаў, набывае ў паасобных выпадках проста нездаровы характар. Паасобныя таварышы як быццам не разумеюць або не хочуць разумець, што многа напісанага — гэта яшчэ не аповесць і не раман, гэта можа быць і часта, на жаль, бывае проста бясформенная масай слоў, якія ў суме сваёй нічога нікому не скажуць.

Паказальным у гэтым сэнсе можна лічыць так званы раман Алеся Ставера «Пад канвоем», хаатычнае нагрувашчанне жахаў, сентыментальнасці, фальшу і проста стыхійнага мнагаслоўя. Успрыняць такое нельга нават пры тым запасе цярплівасці, з якой мы пераадольваем іншыя шматаркушныя прасторы падзолістай зямліцы-прозухны, чытаючы яе па абавязку службы. Прызнаюся, што А. Ставера я і па службе ніяк не змог дачытаць ажно да самага канца. А ён тым часам ужо рэкламуе ні больш ні менш, а цэлую трылогію...

Мнагаслоўнасць шкодзіць не толькі пасрэднасці, але і людзям таленавітым. У іх яна якраз лепш бачыцца.

Аповесць Барыса Сачанкі «Апошнія і першыя» — яшчэ раз вайна вачыма дзіцяці — была б, я ўпэўнены, большым дасягненнем аўтара, калі б ён набраўся мужнасці яшчэ раз вярнуцца да яе і скараціць бязлітасна, адчуўшы ў гэтым асалоду найвышэйшага майстэрства. Зашмат прычытання, стылізацыі пад народнае, проста зашмат лішніх слоў, якія перашкаджаюць добрай задуме вылузацца з іх, узяць чытацкае сэрца ў палон. Дзіўна, як гэтага і здольнага і ўдумлівага літаратара кідае ад мініяцюры, маленькай навелы то да расцягнутага нарыса, то да бязмерна мнагаслоўнай лірыкі. Яшчэ дзіўней, што ён, даволі зоркі і непрымірымы да чужых недахопаў, сваіх як быццам не заўважае...

Перабіраючы ў памяці гады і нягоды нашага літаратурнага жыцця, не памятаю выпадку, каб каго-небудзь добра адлупцавалі за баязлівасць. За асцярожненькую, хітранькую баязлівасць, дзякуючы якой жыве і квітнее такое няшчасце літаратуры, якім з'яўляецца ілюстрацыйнасць. Размалёўваць *нібыта жыццё* па трафарэце, модным у гэтым сезоне, крытыкаваць тое, што ўжо і без цябе раскрытыкавана, адкрываць ды ўскрываць тое, што ўжо адкрыта і элементарна ясна, з сур'ёзным выглядам «ставіць на папа» даўно пакладзеныя на бок пытанні, не лезці ў той агарод, куды яшчэ не лезлі або ўжо не лезуць службовыя філосафы,— гэта і спакойна, і выгадна. Чытаеш такое мастацтва, нібыта нейкую тоўстую, нудную, неахайную стэнаграму, дзе процьма выступленняў і проста немагчыма разабрацца, хто, што і навошта гаворыць, чаго варушыцца, куды ідзе. Пачуцці не жывуць, а суха назы-

ваюцца. Так званай публіцыстыкі настолькі ўжо многа, што проста хочацца другому ілюстратару параіць пісаць не за сталом, а лепш адразу за трыбунай, дзе ў іх, як правіла, выходзіць лепш, асабліва калі яны павучаюць іншых.

Даволі красамоўных прыкладаў ілюстрацыйнай, схематычнай прозы было ў нас апошнім часам яшчэ ўсё нямала. Тут і раман Алеся Савіцкага «Палын, зелле горкае» — мнагаслоўная смеласць і мудрасць заднім чыслом. Тут і «Дарогі без слядоў» Антона Алешкі — да суму грунтоўная і бяскрылая інфармацыя пра жыццё ваенных лётчыкаў. Тут і наіўна павучальныя дэтэктывы — «Падзенне Хвядоса Струка» Паўла Кавалёва, «Гром у ліпені» Васіля Хомчанкі. Тут і «Зачынена на рамонт» Леаніда Гаўрылкіна, і «Сын» Міколы Гроднева, і «Ці варта было жаніцца» Леаніда Прокшы, і сёе-тое яшчэ...

Справа не вычэрпваецца толькі ўзроўнем літаратурных здольнасцей таго ці іншага аўтара. Важна адно — ці пражыта, ці прапушчана праз сэрца тое, пра што ты пішаш. У аўтара слабой, схематычнай аповесці «На струнах буры» Лідзіі Арабей, калі яна звярнулася да пражытага і расказала пра гэта шчыра, на ўсю душу, атрымаліся дзве прыстойныя аповесці: «Сярод ночы» і, асабліва, «На другой зіме вайны». Нават у Якава Герцовіча, калі не памыляюся, дэбютанта ў прозе, у яго нататках «На вайне як на вайне», калі ён проста расказвае, як было, асабліва не думаючы пра выключнае веданне ім законаў мастацтва, выходзіць даволі цікава, можна чытаць без прынукі.

Зрэшты, тут ужо я перайшоў тым часам мяжу дакументальнай прозы, пра якую ў нас ёсць што сказаць асобна.

* * *

Добрымі дасягненнямі ў гэтым жанры можна назваць «Лісткі календара» Максіма Танка і, у пэўнай меры, «Лічыла дні турма» Піліпа Пестрака — творы праўдзівыя і глыбокія, мастацкая і гістарычная вартасць якіх аплочана дарагою цаной рэвалюцыйнай барацьбы і пакут. У вялікім нарысе «Дзівасіл» ярка рас-

крыўся талент сціплага, добрасумленнага работніка нашай літаратуры Веры Палтаран. Прыемна ўразіў мяне «Слабодскі парламент» Міколы Гіля — зноў жа свабоднай жыццёвасцю, натуральнымі фарбамі мовы, родным паветрам нашай сучаснасці, што вызначае мастацкую вартасць і нарыса В. Палтаран.

Наогул, калі азірнуцца гадоў на некалькі назад, у нас ёсць што без асаблівых скідак пахваліць у жанры прозы дакументальнай. Ёсць названыя ўжо «Ліcткі календара» М. Танка і кніга Максіма Лужаніна «Колас расказвае пра сябе»; ёсць «Пушчанская адысея» Аляксея Карпюка і «Руіны страляюць ва ўпор» Івана Новікава; ёсць паасобныя нарысы Ігната Дуброўскага, Анатоля Клышкі і Янкі Сіпакова, Уладзіміра Караткевіча, Яўгена Рамановіча, Міхася Стральцова, Валянціна Мысліўца... Нядаўна многіх з нас усцешыў сваёй свежасцю надрукаваны ў «ЛіМе» нарыс Паўла Місько «Дрэва жыцця». Ёсць у нас дзве цікавыя, у цэлым добрыя, кнігі пісьменніцкіх аўтабіяграфій — «Пяцьдзесят чатыры дарогі» і «Пра час і пра сябе». Ёсць таксама ўжо і надзея, што хутка мы ўсё-такі пазбудземся прыкрага, памылковага стаўлення да нарысаў і мемуарнай прозы як да ніжэйшага літаратурнага гатунку, справай пацвердзім, што разумеем мастацкую вартасць, скажам, «Былога і дум», «Запісак паляўнічага» і многіх іншых шэдэўраў не толькі рускай прозы.

Вельмі добра, калі дакументальную прозу пішуць людзі таленавітыя, як трэба падрыхтаваныя, узброеныя жыццёвым вопытам і грамадзянскай мужнасцю. Было б, магчыма, нават нетактоўна прад'яўляць аднолькава высокія патрабаванні да ўсіх, хто піша нарысы, так званыя дакументальныя аповесці, апрацоўвае ўспаміны герояў вайны. Тым больш нетактоўна і бескарысна папракаць кагосьці ў недастатковай таленавітасці. Аднак праясніць становішча з гэтым жанрам і з жыццёвай неабходнасцю яго далейшага развіцця, мне думаецца, трэба.

Кожнаму, а як не кожнаму, дык большасці людзей бывалых, што бяруцца за пяро, хочацца напісаць не проста так сабе штосьці, але абавязкова *рóман*. Не кожны ведае, што расказаць пра перажытае проста, ясна, дакладна і коратка — гэта таксама майстэрства. Нават вялікае, вельмі патрэбнае, любімае чытачом. Пра гэта

можа, напрыклад, засведчыць адзін «Новый мир» — сваёй выдатнай дакументальнай прозай.

Успомнім Някрасава:

> А если ты богат дарами —
> Их выставлять не хлопочи...

Тым больш, вядома, не трэба лішне «хлопотать», калі і выстаўляць асабліва няма чаго. А тут якраз і бывае наадварот. Чым меншы талент, тым меншая вастрыня адчування складанасці пісьменніцкага абавязку, тым смялей такі літаратар (ужо не толькі бывалец, але і член Саюза пісьменнікаў) бярэцца за найцяжэйшае. Выручыць тэма, выручаць факты. Што ж, калі факты гавораць самі за сябе, дык і не давайце ім мастацкай, так сказаць, «падтрымкі», дайце свабоду фактам загаварыць самім. А калі хочаце напісаць мастацкую рэч, дык не хавайцеся за непрыдуманых герояў, не хавайцеся за важнасць тэмы. Будзьце мужнымі, як вашы героі, не бойцеся стаць перад адным для ўсіх нас законам мастацтва.

Калі гаварыць пра значнейшыя творы гэтага жанру, за апошні час напісаныя нашымі пісьменнікамі, трэба назваць у першую чаргу «Рудабельскую рэспубліку» Сяргея Грахоўскага, «Тварам да небяспекі» Івана Новікава, «Тры старонкі легенды» Генадзя Бураўкіна і «Алёшку-атамана» Рыгора Няхая. Аддаючы пашану высакародным намерам і шчырым намаганням гэтых таварышаў, я не магу не сказаць, што ў аповесцях іхніх заўважаецца, як галоўны, вырашальны недахоп, жаданне прыдаць фактычнаму матэрыялу белетрыстычную форму. І выходзіць, на жаль, не жывапіс, не каляровае фота, а фота падфарбаванае. Найлепш, вядома, калі б жывапіс. А не, дык давайце ўжо хоць фота чорна-белае, зробленае па ўсіх правілах настройкі ды наводкі, тэхнічна пісьменнае, без прэтэнзіі, без падмалёвак. Матэрыялу, фактаў у кожнай з гэтых аповесцей хапіла б самому Дастаеўскаму. Адну старую ліхвярку, забітую сякерай студэнта, ведае ўвесь свет. А пра подзвігі многіх герояў грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, апісаныя нашымі дакументалістамі, часамі можна чытаць з недаравальным, злачынным спакоем. Я не хачу абвінавачваць таго ці іншага таварыша ў адсутнасці адчування матэрыялу і важнасці

тэмы. Я хачу, бо маю права, як чытач, хацець галоўнага — адчуваць разам з аўтарам веліч і красу жыццёвай праўды, паказаныя з поўнай адказнасцю, з высокім хваляваннем. А гэтага вось якраз і замала. Амаль ва ўсёй нашай дакументальнай прозе. Замест неабходнай там прастаты, дакладнасці, лапідарнасці апавядання праступаюць наверх то наіўная прэтэнцыёзнасць, а то дык і непраходны гушчар самых звычайных літаратурных штампаў, да якіх мы ў прозе недакументальнай ставімся куды больш строга.

Нам ёсць пра што пісаць, нам трэба многа добрых кніг дакументальнай прозы. Тое, напрыклад, што мы за трыццаць пяць год існавання выдатнай серыі «Жизнь замечательных людей» не далі для яе ніводнай кнігі пра тых, кім ганарыцца наша нацыя, нельга лічыць толькі недахопам — па-мойму, гэта наша калектыўная ганьба. Пісаць дакументальную прозу нялёгка. (Я ведаю гэта трохі і сам, з уласнай практыкі.) У таварышаў дакументалістаў заўважаецца ўжо нават і тэндэнцыя скардзіцца, следам за драматургамі, на неймаверныя цяжкасці, на крыўдную нібыта няўвагу саюзнага кіраўніцтва... Гэта трохі нагадвае выпрошванне нейкіх выключных адносін яшчэ і да гэтага жанру. Што ж, паўторым без іроніі, пісаць дакументальную прозу вельмі нялёгка. Не цяжэй, аднак, чым дамагацца поспеху ў іншых жанрах, калі мець на ўвазе сапраўдную, добрасумленную працу. Ствараць для дакументалістаў нейкія выключныя ўмовы ніхто, відаць, пакуль што не збіраецца. А паважаць іх, дапамагаць ім як калегам, як паплечнікам — трэба. У тым ліку і шчырым словам крытыкі, без паблажлівых скідак.

* * *

Пра паэзію лепш было б паслухаць паэта ці крытыка... Спрадвеку бласлаўлёны жанр, у асобе многіх яго жрацоў, ён не вельмі любіць утаржэння ў таямніцы свае свяшчэннае касты. Без жартаў можна сказаць, што і сёння яшчэ некаторыя таварышы паэты, ужо і не наіўныя юнцы, яшчэ ўсё вераць у абсалютную магію рыфмы, у перавагу любой версіфікацыі над прозай. Праўда, нашы празаікі, апусціўшыся да зласлівасці,

маглі б ужо сяму-таму з паэтаў напомніць, што атрымалася з іх празаічных спроб... Не трэба гэтай зласлівасці. Трэба шчыра вітаць усіх тых прадстаўнікоў нашай магутнай паэтычнай раці, што разумна не замыкаюцца ў вузенькай рамцы свае ўяўнай вышэйшасці, а выпрабоўваюць пяро і ў прозе, і ў іншых жанрах. Ёсць поспехі, і добрыя. Няхай іх будзе больш і значна большых!

Трохі задобрыўшы такім чынам паэтаў, я паспрабую сказаць сёе-тое пра іх паэмы і вершы.

Спачатку пра паэмы. І зноў пачнём з маладзейшых.

Рыгор Барадулін апублікаваў за апошні час «Лінію перамены дат» і «Неба тваіх вачэй». Яшчэ два доказы таленавітасці і добрай пладавітасці аднаго з нашых найлепшых, на маю думку, паэтаў. Паэмы гэтыя радуюць яркай ігрой фарбаў, народнай дасціпнасцю, усплёскамі трапнай і, месцамі, мудрай сатыры. Як і ў шматлікіх лепшых вершах Барадуліна, тут многа паветра, сонца, радасці жыцця. На жаль, таленавітая гарэзлівасць вастраслова, віртуознасць валодання вершам часамі пераходзяць у самамэту. Чуваць сям-там не зусім свае інтанацыі, чаго ў Барадуліна не бывала раней. Месцамі слабаватая арганізаванасць, абавязковая і ў паэзіі, асабліва ў паэме. І яшчэ адно, што мяне непакоіць найбольш: часамі, чытаючы, думаецца і пра звычайнае дробна- і мелкатэм'е. Гэта — у «Небе тваіх вачэй», дзе таленту Р. Барадуліна зусім ужо зацесна ў кухлі латгальскага піва — зашмат паэзіі сыходзіць пенай...

Сцяпан Гаўрусёў, другі таленавіты прадстаўнік таго пакалення паэтаў, якое ўжо не толькі па гадах, але і творчым вопытам выходзіць з «маладых» у «сярэднія», выступіў з паэмай «Профіль веку». З павагі да Ленінскай тэмы гэтай рэчы і да магчымасцей аўтара я не магу не сказаць, што паэма — не ўдалася. Зашмат у ёй прэтэнцыёзнасці і рытарычнай траскатні, непрыкрытай мадэрнізацыі, нацягвання на сучаснасць. Раздражняе і вычварнасць параўнанняў. Гэта і названая ўжо М. Лужаніным ледзь не гогалеўская «тройка рускіх рэвалюцый», і «дзяшовыя сігары Маркса», якія ні больш ні менш, а прадвяшчаюць «міжкантынентальных рэйсаў караблі», гэта і «буравесныя вусы» Максіма Горкага, і многа іншых недарэчнасцей, якія дрэнна

гавораць пра аўтарскі густ і зашмат — пра адсутнасць глыбокай, няштучнай думкі.

Не ведаю — няўжо нашы паэты не трывожацца станам беларускай паэмы?.. Чаму няма, не відаць ні вернасці нашым багатым традыцыям, ні плённых пошукаў новых формаў і сродкаў?.. Ці, можа, жанр гэты сваё аджыў?..

Я люблю па-народнаму светлую і сардэчную паэзію Дануты Бічэль-Загнетавай. Мы памятаем, як яна пачынала — чыстай, захопленай дзяўчынкай; мы рады бачыць праз яе натхнёныя радкі таксама мілы вобраз маладое маці. Мова яе вершаў — і для дарослых, і для дзяцей — прыгожа гаворыць пра несмяротнасць нашага роднага слова, дае добры прыклад для многіх. Аднак «Жыта» яе я не магу і па дружбе назваць паэмай. Гэта некалькі вершаў, злучаных, а то, калі казаць пра ўнутранае адзінства, і не злучаных у адно. Тое самае і з «Буслянкай». Зноў жа — цудоўная беларуская мова. Часамі нават не разбярэшся: ці гэта яна, паэтэса, бярэ ў народа ці аддае яму. Пытанне радаснае. А ўсё ж — паэмы няма.

Цікавая па-свойму і паэзія Веры Вярбы, рост якое даволі прыкметны, калі ўзяць ад наіўных, у добрым сэнсе, і не вельмі, па маладосці, ахайных, аднак, і папулярных «Ручнікоў» — да лепшых вершаў апошняга часу, што здзіўляюць часамі і радуюць спеласцю думкі і культурай радка.

А вось з «Каліны», па-мойму, нават і «ліра-паэмы» не атрымалася. Проста вершы наконт Веры Харужай. У празаічных эпіграфах да раздзелаў часамі праглядаецца больш сапраўднай, сугучнай тэме паэзіі, чым у вершаванай расшыфроўцы гэтых эпіграфаў. Прынамсі, няма там «горкай парфумы» лугоў-мурагоў і іншых подыхаў уяўнай паэтычнасці. Няма там і іншага, куды большага недахопу — вольнага ці міжвольнага пазіравання на фоне вобразаў і з'яў, якія патрабуюць глыбейшай грамадзянскай павагі, вышэйшага творчага хвалявання.

Анатоль Сербантовіч — паэт і шчыры, і трошкі пазёр, але паэт таксама здольны. Пра гэта сведчаць лепшыя вершы двух яго зборнікаў. Пра пошукі, вельмі ўласцівыя маладому запалу, сведчыць і паэма «Міннае поле». Шэсць раздзелаў — «шэсць выбухаў» (так яны

называюцца), але, на жаль, ад ніводнага з гэтых выбухаў не скаланешся. Зашмат надзеі на падтэкст, а гэта, здаецца, якраз тая якасць, наяўнасць якое найменш залежыць ад аўтарскіх намаганняў.

Добрых прыкладаў маладым ад старэйшых у жанры паэмы — вельмі няшмат. Паэмы Міколы Аўрамчыка «Волхаўская споведзь», Кастуся Кірэенкі «Іспанка» і «Слёзы Раданы», Пятра Прыходзькі «Апошняе пісьмо з вайны», Антона Бялевіча «Вяселле» і Міколы Хведаровіча «Крылы» цяжка назваць дасягненнямі. Калі чытач, нават самы прыхільны да аўтара як да паэта і чалавека, таварыша, не можа, паважаючы шчырасць, хваліць яго твор, дык вінаваты не чытач, а твор, які не ўсхваляваў чытача, не абудзіў у ім удзячнага пачуцця. Пачуцці нашы не хочуць больш жывіцца ні банальнымі пропаведзямі, ні добранадзейнай рыторыкай, ні рыфмаванай празаічнай вяласцю, ні глухатою аўтарскага адчування, ні прыватнымі з'явамі, не ўзнятымі на вышыню мастацкага абагульнення, ні акынскім узроўнем культуры. Тэмы не выручаюць, добрыя тэмы тым больш патрабуюць належнага вырашэння.

Лірычная паэзія Аляксея Пысіна — сведчанне глыбіннага разумення жыцця, цудоўнае сведчанне відушчай, мужнай, рэвалюцыйнай чалавечнасці. Мудрасцю сталага веку і гаючаю чысцінёю маленства азначаны, напрыклад, гэтыя радкі:

> І пачынаць мне ўсё трэба нанова:  
> Плакаць, смяяцца, любіць,  
> З гліны, з праменняў, з роднага слова  
> Свет свой па-свойму ляпіць.

Вечная свежасць, што б'е наплывамі, як цудоўнае, несмяротнае мора, свежасць сапраўднай паэзіі.

І зноў жа — як непрыемна, як прыкра яшчэ і яшчэ раз гаварыць пра няўдачы з паэмай, нават і ў такога, як Пысін, паэта. «Белы камень», «Кара» і «Жураўліны бераг» — аж лішне рэзкі пераход ад моцнай філасофскай лірыкі да нейкай нібыта эпічнай аголенасці, беднасці і прастаты... на ўзроўні зусім нечаканага прымітыву. Справу ніяк не ратуюць лірычна-пейзажныя адступленні.

Два словы пра «Куфар» Ларысы Геніюш. Няхай сабе шчырыя і няшчырыя скептыкі скажуць (яны ўжо казалі), што ў паэме гэтай і ў некаторых вершах тале-

навітай кнігі «Невадам з Нёмана» зашмат архаікі... Толькі б адно і бяды! Затое як паэтычна, як свежа і ярка гучыць гэты «Куфар»! У народных песнях нас чаруе і заўсёды будзе чараваць старое — не старэючы. Паэзія «Куфра» адтуль, ад народнага. І назва паэмы — таксама: вясковы, матулін бяздонны куфар нашай народнасці, гімн залатым рукам і светлым душам.

Пра паэмы Анатоля Вярцінскага, Васіля Віткі і Аркадзя Куляшова.

Кнігі А. Вярцінскага «Тры цішыні» і «Чалавечы знак» — гэта перш за ўсё роздум над жыццём, боль і смутак уражанай чалавечнасці, не песімізм, а страснае жаданне бачыць свет і чалавека лепшымі. Неяк не хочацца абражаць гэтыя вершы модным сёння акрэсленнем: інтэлектуальная паэзія. Тут сапраўды паэзія думкі, не халоднай, набытай ледзь не механічным спосабам, а прапушчанай праз шчырае чалавечае сэрца, сагрэтай яго цяплом.

У апошнім зборніку змешчаны тры паэмы. Першая з іх (паводле часу надрукавання ў перыёдыцы), «Заазер'е», была сустрэта прыхільна. Другая, «Дажынкі», выклікала жорсткую крытыку. Трэцяя, «Даруйце!», як быццам проста не заўважана.

«Заазер'е». Месцамі мне хацелася чытаць яе самому сабе ўголас. І я чытаў, як мы чытаем тую сапраўдную паэзію, на якую так часта, так страсна хочацца абаперціся душой. Усё ў паэме вельмі проста — сыноўні боль па страчанай маці... Але ж і я падзяляю яго, гэты мужчынскі стрыманы боль, гэтыя пачуцці. І вельмі проста, чаму — таму, што яны ад жыцця, яны сапраўдныя. Як вельмі простыя і вельмі сапраўдны, скажам, лермантаўскі сум пад зорамі на крамяністай дарозе, як словы ясенінскіх пісьмаў да маці... Гэта — не параўнанне А. Вярцінскага з класікай, а гаворка пра паходжанне яго паэзіі — з самых чыстых крыніц.

Абедзве другія паэмы, «Дажынкі» і «Даруйце!», пайшлі з «Заазер'я» — ад пачуцця сыноўняй любві да маці-падзвіжніцы, ад адчування свае віны перад тымі, каму мы не аддалі належнага, бо ўсё хацелі, усё збіраліся аддаць і вось спазніліся, ад адчування свае віны перад тым, чаму мы служым, з-за мітусні ды марноты аддаючы не ўсё, што павінны аддаць.

Лірычнае паходжанне «Дажынак» і абумовіла на-

яўнасць у гэтай паэме несправядлівага абагульнення. Тут, відаць, варта прыпомніць словы Чэхава пра тое, што любоў да чалавека трэба насіць не толькі ў сэрцы, але і ў галаве. Я не бачу ніякай злой волі ў «Дажынках» — яны ідуць ад шчырага чалавечага пачуцця, справа толькі ў яго недастаткова прадуманай падачы.

«Паэма віны» — «Даруйце!» — раздражняе паўторамі. Мнагаслоўе ніяк не ўласцівае строгаму почырку А. Вярцінскага. Тое, што ў «Заазер'і» зусім арганічнае,— словы болю, які мы адчуваем толькі аднойчы ў жыцці, выказванне гэтага болю і смутку, нечым блізкае да спрадвечнага, народнага галашэння,— тут, у паэме «Даруйце!», ад зачастых паўтораў, па-мойму, страціла сілу. Шкада, бо задума паэмы значная.

У творчасці Васіля Віткі, небагатай колькасна, але жанрава разнастайнай, мне асабіста найбольш падабаецца паэзія для дзяцей. В. Вітка найлепш з усіх нас давёў, якая гэта высакародная справа — ствараць вялікую літаратуру для маленькіх.

Гэта — не ватна-мякенькі ўступ дзеля таго, каб потым сказаць таварышу штосьці калючае. Паэму-араторыю В. Віткі «Беларуская калыханка» я ўспрымаю, як рэч, якая патрабуе сур'ёзнага, удумлівага падыходу. У ёй і сучасны, па-філасофску паглыблены позірк на нашу гісторыю, на нашых сейбітаў зерня і слова, працай якіх і ахвярнасцю мы ганарымся. У ёй і жывое пачуццё, якім, як жыццядайным сокам, насычаны і радкі, і строфы, і ўся паэма. У ёй і высокая культура паэтычнага слова. Чагосьці толькі мне ў гэтай рэчы не хапае — нейкай большай, ці што, знітаванасці думкі і пачуцця, большай выразнасці некаторых вобразаў, хаця і другарадных, але неабходных для поўнага выражэння задумы. Я двойчы правяраў сябе чытаннем гэтай незвычайнай калыханкі і пры ўсіх маіх, можа, залішне асабістых, засцярогах лічу яе значнаю з'явай нашай эпічнай паэзіі апошніх гадоў.

Сёння, на нашай вялікай сябрыне, будзе зусім не лішнім сказаць, што ўсе мы з задавальненнем вітаем у страі актыўных Аркадзя Куляшова, які пасля працяглай хваробы, працы ў кіно і проста маўчання ў паэзіі прыйшоў да чытача з новымі вершамі, з перакладам «Спеву аб Гаявіце», з новай паэмай.

«Цунамі» — паэма філасофская, задума якое, у



Пасля выступлення ў балгарскай школе.
*Добруджа, 1972 г.*



У час работы над кнігай «Я з вогненнай вёскі...».
*Злева направа:* Уладзімір Калеснік, Янка Брыль, Алесь Адамовіч.
*Віцебшчына, 1972 г.*

сваім найкарацейшым выражэнні, бачыцца мне ў двух радках:

> Што неспакой не лечыць адзінота,
> Што адзіноту лечыць неспакой.

Ніхто з нас не мае права дый не зможа стварыць для сябе нейкі ціхі аазіс, нейкае сховішча, куды не прыйдуць трывогі часу. Ніхто не мае права хавацца ад абавязку барацьбы з найбольшым злом — з кашмарным прывідам атамнага знішчэння. Толькі ў змаганні з ім, толькі ў калектыве змагароў за шчаслівую будучыню чалавецтва можна знайсці разумнае чалавечае шчасце.

На жаль, паэма чытаецца цяжкавата. Яе чаканныя радкі, высечаныя з думкі і пачуцця рукою майстра вышэйшага класа, просяць трохі больш самай звычайнай прастаты і яснасці, так уласцівай А. Куляшову ў яго лепшых паэмах і вершах.

* * *

Гэтым кароткім разглядам усіх значнейшых паэм апошняга часу я хацеў, перш за ўсё паставіць пытанне пра крызіс гэтага жанру, пра неабходнасць пошукаў прычын гэтага крызісу. Пытанне вартае самай гарачай, вострай дыскусіі.

Гаворачы пра паэмы, я ў той ці іншай меры закрануў і лірыку такіх паэтаў, як Куляшоў, Пысін, Барадулін, Вярцінскі, Вітка, Бічэль, Генію́ш, Вярба, Сербантовіч. Вершы іх, апублікаваныя ў перыёдыцы і ў зборніках, ідуць у актыў нашай лірычнай паэзіі, кожны са сваім узроўнем майстэрства, але ўсе з адзнакамі таленту, вернасці праўдзе жыцця, глыбокай ідэйнасці.

Сюды ж трэба дадаць лірычныя дасягненні паэтаў рознага ўзросту — ад Танка, Панчанкі, Броўкі, Дзяргая, Русецкага, Аўрамчыка, праз сярэдняе пакаленне паэтаў, такіх, як Макаль, Сіпакоў, Гілевіч, Зуёнак, Лойка, Лось, да самых маладых — Панізніка, Разанава, Семашкевіча, Янішчыц і некаторых іншых.

Справа не ў пераліку. Справа ў тым, што і ад нашай лірычнай паэзіі апошніх гадоў, нават і ўлічваючы дасягненні паасобных паэтаў, у цэлым вельмі няшмат сапраўднай радасці. Пра вершы многіх — і сталых, і

яшчэ сталейшых — цяжка сказаць нешта большае, іншае ў параўнанні з тым, што ім ужо гаварылася і ўчора, і пазаўчора, і надоечы. А што гэта — рост ці таптанне на адным месцы? Культура слова, культура радка... Гэта, вядома, нямала, але ж усё гэта для больш-менш сталых элементарна абавязковае, за гэта можна хваліць толькі пачаткоўцаў. А колькі ўзлётаў, думак, адкрыццяў? Колькі сапраўднага хвалявання? Спакойны, роўненькі ўзровень паэзіі, шаблоннасць і дробязнасць тэм — гэта не сведчанне яе росквіту або стойкага трывання ў абароне, на гераічна здабытых пазіцыях, гэта — прычына для трывогі за яе далейшы рост.

Прыпамінаецца апавяданне Маміна-Сібірака «Вучонае гора», дзе хлопчык у адной сям'і быў вынянчаны ціхенькім, прыстойненькім, прылізаным па ўсіх правілах так званага «добрага тону». На радасць вельмі ж культурнай маме. А бацька вярнуўся аднойчы з працы, глядзеў, глядзеў на пестуна і выбухнуў: «Слухай, ты! Пайдзі ты разбі, калі ласка, акно, парві штаны — будзь жа ты нарэшце чалавекам!..»

Біць вокны ды рваць штаны — гэта, вядома, не заклік і не выхад. Але ж паэзія была, і будзе, і павінна быць не прылізанай, а віхрастай, не ціхенька прыстойненькай, а поўнай парыву, страсці, імкнення, рэвалюцыйнасці. Яна павінна ісці, шукаць, непакоіцца, бо калі стане, застыне на месцы — яе не выручаць ні рыфма, ні культура, ні тэматыка.

Не думаю, што я толькі па маёй вернасці высакароднаму жанру апавядання выкажу такую думку, што ў лірычнай навелістыцы апошняга часу мне бачыцца больш аўтарскіх пошукаў і чытацкага ўдзячнага хвалявання, чым у лірычнай паэзіі. Прыгадаю для прыкладу толькі двух — Вячаслава Адамчыка з яго апавяданнямі «Дзень ранняе восені», «Пагарэльцы», «Кароль Нябожа», «Дзікі голуб» і Анатоля Кудраўца, у першым зборнічку якога, што выйшаў нядаўна пад назвай «На зялёнай дарозе», больш паэтычнай свежасці і роздуму над жыццём, чым у некаторых рыфмаваных аднатомніках не толькі яго аднагодкаў.

Сёлета ў Кіеве, на «круглым стале» па ўкраінскім апавяданні, пра якое вялі гаворку пісьменнікі ўкраінскія, рускія, малдаўскія і нашы, мне было вельмі прыемна — без кваснога, абмежаванага патрыятызму —

параўноўваць дасягненні гаспадароў і гасцей з нашымі, беларускімі. У нас, як быццам неяк неўпрыцям,— такое адчуванне бывае вясной, калі зацвітаюць сады,— апошнім часам вырасла і пасталела цэлая група маладых апавядальнікаў, роўных якім і лепшых за якіх не вельмі многа ў іншых братніх літаратурах. Адамчык, Стральцоў, Караткевіч, Пташнікаў, Сачанка, Наўроцкі, Кудравец, Дамашэвіч, Чыгрынаў, Капыловіч... За кожным з гэтых прозвішчаў — жывы, упарты, настойлівы, дзёрзкі, удумлівы, задушэўны... як хочаце, а ўсё-такі здольны, і самабытны, і неспакойны пісьменнік. Толькі б ім, гэтым харошым і нядрэнным, не спыніцца ў маршы, ні строем, адразу, ні паасобку. Толькі б ім яшчэ глыбей пранікаць у праблемы сучаснасці, знаходзіць для вырашэння найбольш значныя тэмы. І яшчэ адно сяброўскае пажаданне, як вынік некаторай назіральнасці,— толькі б ім навучыцца трохі больш любіць поспехі сваіх сяброў, любіць літаратуру, не аднаго сябе ў літаратуры.

Трывога пра стан нашай драматургіі даволі часта выказваецца апошнім часам калектыўна. Трывога і клопат пра росквіт. Праўда, клопат гэты часцей за ўсё выяўляецца неяк па-санаторна-курортнаму — куды, на бераг якога мора паслаць на гэты раз тых ці іншых, аднаактовых ці поўнаметражных драматургаў. Не проста адпачыць або палячыцца, а на яшчэ адзін семінар — для штучнага абсемянення таленту. А што да трывогі, дык мне ўспамінаецца адна нарада, якая адбылася сёлета ў нашым пісьменніцкім клубе. На ёй прысутнічалі намеснік міністра культуры і іншыя адказныя асобы, драматургі і іншыя пісьменнікі. Словам — трывога калектыўная і на высокім узроўні. Гаварылі мы доўга і, па сутнасці, пра адно: няма, няма і яшчэ раз няма добрых п'ес!.. І ніхто з нас ні слова не сказаў пра тое, што ў двух прысутных там нашых вядучых драматургаў — К. Крапівы і А. Макаёнка — ёсць па добрай, таленавітай, праўдзівай, глыбокай ідэйнай п'есе, адна з якіх чакае пастаноўкі вось ужо дваццаць тры гады, а другая — пакуль што толькі другі год...[1]

П'есы тыя абедзве сатырычныя. І ў гэтым іх бяда.

---

[1] Маюцца на ўвазе «Мілы чалавек» К. Крапівы і «З кірмашу» А. Макаёнка.

І іх, і наша. Непакояць пытанні: няўжо ў нашым жыцці ўжо зусім няма недахопаў, з якімі трэба змагацца? Няўжо нам не трэба вучыцца на памылках мінулага? Няўжо хто-небудзь сур'ёзна не лічыць сатырыкаў патрыётамі нашага ладу? Вось дзе трывога, якую не здымеш ні пасылкамі членаў драматургічнай секцыі на курортныя семінары, ні малакроўнымі, нібыта арыгінальнымі п'есамі апошніх гадоў, ні тым больш паўфабрыкатамі і эрзацамі інсцэніровак.

Два словы пра кіно.

Мы, бясспрэчна, мы, літаратары, у першую чаргу вінаваты, што ў Беларусі няма сваіх «Браняносца «Пацёмкіна», «Балады пра салдата», «Звычайнага фашызму» і іншых шэдэўраў савецкага кіно. Гэта — для поўнай яснасці. Аднак прыгадаем і іншае.

Гаворачы пра поспех нашага дакументальнага кіно, мы ўсё часцей апошнім часам успамінаем імя Анатоля Вялюгіна. Многа можа зрабіць адзін культурны і руплівы літаратар. Праўда, адной культуры і энтузіязму замала, каб выйшла штосьці сапраўднае — трэба яшчэ і талент. У гэтым выпадку і гэтая якасць маецца. Вялюгін як кінасцэнарыст пасведчыў гэта не толькі «Бацькам Нёманам», «Арлінай крыніцай», «Генералам Пушчай», але ж і (напісанай у сааўтарстве з В. Рудавым) кінааповесцю «Конь апошні». Аповесцю, трэба сказаць, вельмі цікавай, якая магла б з добрым поспехам пераўвасобіцца ў выдатны фільм. Але... Але не будзе чамусьці пераўвасабляцца...

Нас даўно і заслужана дакараюць, што мы мала працуем для кіно, недастаткова разумеем яго спецыфіку. Нядаўна мы далі кінастудыі «Беларусьфільм» двух літаратараў. Не проста таленавітых, не проста адукаваных, але ж яшчэ і з нядрэнным веданнем той самай спецыфікі, якою нас даўно палохаюць. Уладзімір Караткевіч і Алесь Адамовіч апроч усяго іншага закончылі яшчэ і вышэйшыя кінасцэнарныя курсы. І што ж атрымалася на сённяшні дзень? Не ведаю, у стане якой недаскубленасці і калі ўбачаць свет кінафільмы, зробленыя пры ўдзеле гэтых пісьменнікаў па іхніх таленавітых раманах «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» і «Вайна пад стрэхамі». Мне вядома адно, што гэтыя шчырыя хлопцы, якія пайшлі ў кіно не па доўгі рубель, паспелі ўжо так нацешыцца тою славутай спе-

цыфікай, што зноў ісці туды ахвоты ў іх вельмі нямат.

Відаць, і гэта даволі трывожны факт. Відаць, варта падумаць, ці ўсё нармальна ў адносінах і кіраўнікоў і практыкаў кінасправы да нас, літаратараў, да нашай літаратуры наогул.

Улетку гэтага года выдавецтва «Беларусь» запрасіла вялікую групу пісьменнікаў, каб разам параіцца, мякка кажучы, пра далейшае развіццё нашай дзіцячай літаратуры. Стан яе, нізкі ўзровень паэзіі, прозы і драматургіі для дзяцей і юнацтва патрабуе нашай як найпільнейшай увагі. Сярод найважнейшых мерапрыемстваў, з якімі наша арганізацыя плануе ўступіць у Ленінскі юбілейны год, значыцца і нарада па дзіцячай літаратуры. Яе мяркуецца правесці ў лютым ці сакавіку разам з Цэнтральным Камітэтам камсамола, Міністэрствам асветы, Камітэтам па справах друку і рэдакцыйным саветам выдавецтва «Беларусь». Спадзеючыся, што гаворка там будзе грунтоўная, дазволю сабе, што да гэтага, цяпер абмежавацца толькі інфармацыяй.

Рэгламент і тэма даклада не даюць мне магчымасці з большай увагай спыніцца на стане і задачах нашай крытыкі. Тут патрэбна гаворка асобная, магчыма, нават спецыяльны пленум.

У нашай крытыцы і літаратуразнаўстве нам ёсць ужо тым часам пра што пагаварыць. Яшчэ больш радасна — ёсць ужо што чытаць, не прымушаючы сябе, з карысцю і цікавасцю. Маю на ўвазе кнігі артыкулаў і артыкулы ў перыёдыцы такіх нашых прадстаўнікоў гэтага жанру, як Р. Шкраба, Р. Бярозкін, В. Каваленка, Ул. Юрэвіч, Ул. Калеснік, Н. Пашкевіч, С. Александровіч, Д. Бугаёў, А. Яскевіч, Г. Кісялёў, Ф. Янкоўскі, А. Мальдзіс, А. Ліс і яшчэ некаторыя крытыкі і літаратуразнаўцы, так сказаць, чыстай вады. Маю таксама на ўвазе і творчасць тых, што займаюцца крытыкай і літаратуразнаўствам па сумяшчальніцтву, як А. Адамовіч, М. Стральцоў, І. Навуменка, А. Лойка, Ф. Яфімаў і іншыя, хто не лянуецца ці не лічыць для сябе занізкім напісаць артыкул, рэцэнзію, водгук на цікавую або недаравальную справу. Прыемна ўжо нават і тое, што пералік цікавых крытыкаў сёння зрабіць не проста: у нас ужо нямала тых, што займаюцца гэтым кваліфікавана і сур'ёзна.

Праўда, яшчэ і сёння бывае так, што слухаеш ці чытаеш якога-небудзь старэйшага, а то і маладзейшага павучальніка, і прыходзіць адна невясёлая думка. А што, калі б гэта мы — паэты, празаікі, драматургі — пачыналі свой літаратурны шлях з папярэдняга азнаямлення з тэорыяй і задачамі, ды яшчэ з вуснаў такіх тэарэтыкаў? Наколькі менш было б на свеце добрых літаратараў — колькі іх адпалохалі б нуднай, бяздарнай дыдактыкай?.. Адным такім асветнікам не дапаможаш: позна. Хавай, божа, другіх, маладзейшых, ад гэтай вучонай немачы!.. Таму вось і прыемна, што яе ўсё менш, што ўсё жывейшымі пёрамі пішуцца нашы крытычныя і літаратуразнаўчыя працы.

Што нам патрэбна ў нашай крытыцы найбольш? Дзве якасці — не новыя, але абавязковыя — сумленнасць і смеласць. У адных ёсць адно, у другіх другое; малавата бывае, на жаль, і таго і другога адразу.

Думаецца таксама, што наша літаратурная практыка яшчэ ўсё вельмі апярэджвае нашу, умоўна кажучы, тэорыю. Нашы літаратуразнаўцы і крытыкі яшчэ ўсё не могуць, не ўмеюць належным чынам падаць наш беларускі літаратурны ўраджай на ўсесаюзны і міжнародны стол. Ва ўсякім выпадку не могуць тыя з іх, каму гэта найчасцей даручаецца. Думаю пра артыкулы ва ўсесаюзных і некаторых замежных выданнях, пра ўступы да публікацый і прадмовы да кніг, што выдаюцца за межамі Беларусі.

Бо голас наш чуцён ужо далёка.

Сёння кожны наш літаратар, надзелены трыма неабходнымі якасцямі — талентам, сумленнем і культурай — піша з большай ці меншай упэўненасцю ў тым, што ён гаворыць ужо не толькі са сваім родным народам, не толькі з народамі нашай савецкай краіны, але ўжо і з народамі свету. Гэтаму ёсць ужо нямала сведчанняў: кнігі нашы перакладаюцца на многія мовы ўсіх нямёрзлых кантынентаў і з кожным годам, ёсць падставы спадзявацца, перакладаў будзе больш.

Прыемна і важна адзначыць, што і наша культура міжнародных літаратурных сувязей таксама расце прыкметна і настойліва, як ні слаба ў нас з веданнем замежных моў і з выдавецкай справай. За апошнія два з палавінай гады з'явіліся ў выдатных і добрых перакладах паэмы і вершы ўспомненага ўжо Лангфела,

Лермантава, Сыракомлі, Зульфіі; кнігі балгарскіх, грузінскіх, чувашскіх, італьянскіх апавяданняў; у друку лірыка А. Міцкевіча, анталагічны зборнік сучаснай нямецкай паэзіі... Заслугоўвае добрага слова работа ў гэтым сэнсе часопіса «Полымя», які сістэматычна і шчодра змяшчае пераклады замежнай паэзіі і прозы. Добры прыклад для нашага выдавецтва. Яшчэ і надзея, што і мы, як людзі, дачакаемся свайго часопіса, накшталт «Иностранной литературы» ці «Всесвіту». Добрага слова заслугоўваюць і нястомныя актывісты перакладчыцкай справы: Алесь Зарыцкі за пераклады з нямецкай мовы, Ніл Гілевіч — з балгарскай, Юрка Гаўрук і Язэп Семяжон, якія перакладаюць паэзію з некалькіх моў. У гэтым годзе нас парадавалі дзве рэчы, перакладзеныя Семяжонам: сярэдневяковая «Песня пра зубра» нашага земляка Міколы Гусоўскага — з лацінскай мовы, а з французскай — «Апалены лотас», першая ў СССР кніга сучаснай паэзіі гераічнага В'етнама.

* * *

Праз два месяцы мы будзем урачыста святкаваць пяцідзесяцігоддзе сваёй беларускай савецкай дзяржаўнасці. Наперадзе — сусветна знамянальная дата: стагоддзе з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча.

Напярэдадні гэтых падзей, перад імем і вобразам вялікага Леніна мы павінны ачысціцца ад шэрай, дробязнай і зласлівай будзёншчыны ў нашым літаратурным жыцці, узняцца духам на тую вышыню адкрытай, па-ленінску ідэйнай самакрытыкі, якая толькі і можа дапамагчы нам у далейшым палепшанні нашай працы. Давайце паспрачаемся. Не дзеля таннага і бясплоднага вэрхалу, а дзеля нашае святое справы, памятаючы тую элементарную ісціну, што кожную найвастрэйшую, найсмялейшую думку можна выказаць і культурна.

Я сваім словам хацеў прычыніцца да шчырай і прынцыповай гаворкі.

*1968*

# ПРА ЗДЗІЎЛЕННЕ І ЗАЙЗДРАСЦЬ

У кніжыцу на сто семдзесят старонак малога фармату сабрана дзесяць апавяданняў. Некаторыя з іх вядомы мне па перыёдыцы. Ужо тады, калі яны з'яўляліся ў часопісах, хацелася сказаць пра іх у друку. З гэтай жа мэтай чытаю зборнік. Усё падрад, што першы раз, а што другі і нават, у адным выпадку, трэці. Чытаючы, лаўлю сябе на тым, што нават і перачытваю, амаль усё, з сапраўднай цікавасцю. Яшчэ раз ясна і радасна — талент.

«На зялёнай дарозе», першы зборнік Анатоля Кудраўца, уяўляецца мне малым, зачараваным акенцам у вялікі і праўдзівы свет нашай сучаснасці. Кажучы не залішне гучна, у ім уздымаецца праблема сувязі з тым жыццём, якое — не «мастацкая» выдумка, у той ці іншай ступені падобная на праўду, а іменна тое, з чаго складаецца наша рэчаіснасць, тая складаная, і радасная, і нялёгкая несвяточнасць, ад якое адны маладушна ўцякаюць на любую работу ў горад, а другія не хочуць належным чынам пісаць пра яе — таксама ад маральнай беднасці.

Чытаючы, я ўспомніў радкі Р. Барадуліна:

> Трэба дома бываць часцей,
> Трэба дома бываць не госцем,
> Каб душою не ачарсцвець,
> Каб не страціць святое штосьці...

Апавяданні А. Кудраўца, амаль кожнае паасобку і ўсе яны разам, усім сваім яўным і скрытым гучаннем добра дапаўняюць задуму гэтага верша.

Трэба заўсёды быць дома, адчуваць сябе сваім у сваіх, не столькі частым, няхай сабе і шчыра радасным

госцем, заклапочаным назіральнікам, якому трэба час ад часу асвяжыцца здароўем роднай вёскі, але ж — у першую чаргу — і гаспадаром, саўдзельнікам, работнікам народнай справы, адказным за ўсё, на поўную меру душэўнай неадрыўнасці ад маці-зямлі, ад бацькі-народа — дзе б ты ні жыў, як бы далёка ад дому ні ехаў.

Гэтая сувязь з родным светам, якую мы часцей называем вывучэннем жыцця, павінна быць пастаяннай, неабходнай, абавязковай для кожнага сумленнага літаратара. Той факт, што гэтае вывучэнне жыцця, гэтая сувязь з ім зрабілі несмяротнымі, скажам, тургенеўскія «Запіскі паляўнічага» — гэта не шчаслівае супадзенне акалічнасцей і не адна з умоў, што могуць гарантаваць удачу,— гэта тое паветра і хлеб, без якіх няма і не будзе сапраўднай літаратуры.

Іменна — не прыблізная, не асцярожненькая, з аглядкай на моду, а шчырая, сыноўняя адданасць праўдзе жыцця, не прыблізнае, камандзіровачнае, а грунтоўнае, глыбока, кроўна зацікаўленае веданне яго — такое, перш за ўсё, уражанне робіць на мяне, чытача, зборнік «На зялёнай дарозе».

Другое ўражанне — ціхая, мудрая і сардэчная чалавечнасць, якою зусім арганічна і вельмі па-нашаму, па-беларуску прасякнута кніга, усё, што аўтар бачыць і чуе, пра што ён мае патрэбу расказаць.

І трэцяе — А. Кудравец здаў, па-мойму, уступны экзамен майстэрства амаль на «выдатна». «Амаль» — таму, што не ўсе яго апавяданні аднолькава бездакорныя, пра што я скажу пазней. Праўда, паняцце выдатнага — справа адносная. Адно бясспрэчна — яшчэ адзін беларускі празаік упэўнена заявіў пра сваё святое і заслужанае права выйсці на ніву роднай літаратуры аратым і сейбітам, кажучы па-вясковаму, спраўным, з быстрым вокам і вернай рукой.

Пра ўсе гэтыя якасці — праўдзівасць, чалавечнасць і майстэрства — сведчаць і вобразы і мова апавяданняў. Малая кніжыца населена жывымі, на ўвесь рост нармальнымі людзьмі, пра іх натуральна і жыва расказана дакладнай, вобразнай, роднай аўтару мовай.

Апавяданне «На балоце скрыпелі драчы». Максім і Маня. Ён — удачлівы сэрцаед, такі сабе сучасны, весела нахабны «арыстакрат» сярод калгаснай моладзі,

прыезджы экскаватаршчык, якому, бачыце, трэба «маладзічку... на тыдзень-другі, а там — дай бог ногі...». Яна — харошая, разумная дзяўчына, работніца і пявуння, што зведала дзіцем ваеннае, а падлеткам — пасляваеннае гора, што па прычынах, суха кажучы, ад яе незалежных, засядзелася ў дзеўках, даўно гатовая сустрэць сваё адзінае, сапраўднае каханне, вартая яго. Гэта раскрываецца не адразу, а толькі ў канцы апавядання, без ханжаскай павучальнасці, з той натуральнай цнатлівасцю, якая і побач з хамствам, і ў гэтым хамстве свеціць высокай, стрыманай чысцінёй, паэзіяй, зусім без сентыментальнасці і фальшу. Ён двойчы пацалаваў яе, першы раз для разведкі, другі — таксама не ад шчырага пачуцця. І яна нечакана заплакала. Сама як быццам не ведаючы чаго. Ды гэта толькі яму, дый то адно спачатку здалося, што невядома, чаго яна плача. Мы ведаем — і аўтар, і яна, і я, чытач, зрэшты — і ён, Максім, хлопец па сутнасці добры. І ад гэтай недагаворанасці, і ад слёз дзяўчыны, і ад слоў яе — як быццам зусім пра іншае — ад усёй па-юнацку трывожнай паэтычнасці летняга досвітку на ціхай вясковай лавачцы перад хатай канец гэтага апавядання чытаецца на самым высокім настроі ўспрымання сапраўднай прыгажосці і мудрасці жыцця.

Апавяданне «Сяструха». Жывы, паўнакроўны вобраз жанчыны, што многа адпакутавала, многа папрацавала, многа страціла, а ўсё ж засталася моцнай і добрай — сілай і дабратою жонкі і маці, шчодрай на ласку і разумную строгасць, багатую пяшчотнасць і надзейную сяброўскую руку, калі надарыцца нягода. Адзін яе муж, яшчэ не стаўшы мужам, толькі жаніх, першая і, як здавалася, адзіная на ўсё жыццё любоў, партызан Лёнька загінуў у самым канцы вайны. Другі — нярослы пустальга Іванка, гарманіст і п'яніца — трапіў пад цягнік, пакінуўшы ёй чацвёра дзяцей. Трэці — спакойны, працавіты Пятрок — надарыўся тады, калі ўжо яна... Зрэшты, пра гэта сама Яніна расказвае лепш. Гаворыць яна госцю, гарадскому родзічу, які ледзь не цудам заехаў да яе ад свае вечнай сталічнай занятасці:

«А я што... Я ведаю, што я не дзевачка, што мне не шаснаццаць... Але ж ён паважае мяне. І я ажыла пры ім, сагрэлася, адтала душой і целам... І хай будзе як будзе... Але скажу, братка: навучыліся мы гараваць,

навучыліся шкадаваць, толькі не навучыліся радавацца. І не хутка, ой, не хутка навучымся...»

Трое дзяцей Іванка пакінуў ёй удалых, а чацвёртае нарадзілася калекай, непаўнацэнным псіхічна. Да сцішнаты дакладна, скупа і ярка напісана гэта беднае дзіця, ужо школьніца, і матчына горкая любоў да яе хаваецца вельмі глыбока за простымі, на далікатнае вуха «грубаватымі» словамі:

«Я думаю, што, можа, і дрэнна рабіла, што вельмі добрая была да Іванкі, мала злавалася... Было, прыйдзе ён дамоў п'яненькі, як зямля, і лезе ў пасцель. Можа, таму, што п'янага падпускала, і радзілася Галя калекай... Можа, каб стражэйшая з ім была,— і не была б яна такой...»

Потым, амаль адразу, праз некалькі хвілін маўчання і думання, кожны пра сваё, яна сказала задумлівым голасам:

«— Мне трэба яшчэ дзіця. Ад Петрака... Хачу, каб гэта быў хлопчык».

Шчырасць і прастата — ад сілы, на якой трымаецца свет, ад сілы шаноўнай і абаяльнай, што можа, умее і абдарыць і ўзяць сваё.

Гэта не чэхаўская «Душачка», што так і просіцца на параўнанне,— гэта жанчына нашага часу, куды больш адпорная на пакуты, куды больш актыўная як стваральная сіла.

Паўтараецца тое, што адчуваеш, чытаючы па-сапраўднаму таленавіты твор свайго сучасніка: і здзіўленне, што вось жа побач, зусім побач было такое, і зайздрасць, што вось жа зноў не я, а іншы гэта заўважыў!..

Што ж, на здароўе — і яму, і нам. Больш бы такіх здзіўленняў і такое зайздрасці.

Апавяданні «У нас вяселле», «Цітаўкі» і «Такі дзень».

Перш за ўсё хочацца сказаць, як добра ў іх аўтар паказвае дзяцей, як добра ён уваходзіць у бачанне свету, у мову, у душу сваіх маленькіх герояў.

У першым апавяданні хлопчык расказвае нам, як яго любімая сястра выходзіць замуж не па любві, здрадзіўшы таму, з кім дружыла, каго нібыта — а можа, і не нібыта — кахала. Дружба, каханне, вернасць — такія пачуцці ацэньваюцца дзіцем?..

Што ж, і несмяротнае, агульналюдскае «А кароль жа голы!» таксама было сказана чалавекам да шаснаццаці гадоў. А. Кудравец вельмі нядрэнна праверыў чыстым вокам, чыстай душой свайго хлапчука паводзіны чалавека дарослага, шырэй — праверыў складанасць жыцця, не сарваўшыся ні на момант, ні на драбніцу ў фальш.

У «Цітаўках» гэтая дзіцячая чысціня сама праходзіць праверку. Другому хлапчуку вельмі прыемна, цікава ашукваць разам з сябрамі дзеда-вартаўніка: загаворваць яму зубы, пакуль сябры, у далёкім кутку калгаснага саду, латошаць загадзя нагледжаную яблыню. Ды вось наш маленькі герой, выйшаўшы познім вечарам на заданне, поўны салодкай паляўнічай ці разведчыцкай трывогі, сутыкаецца яшчэ раз з дзедавай дабратою. Яна яго ўразіла, яму адкрылася мудрасць гэтай старэчай дабраты, ён адчуў нізасць сваіх паводзін і заплакаў, як быццам бездапаможна. Пасля, гаворачы сябрукам, што больш на такое не пойдзе. Здорава гэта напісана! А так жа нялёгка такое пісаць — у здрадлівай цеснаце паміж дзвюма страшэннымі пагрозамі: дыдактыкай і сентыментальнасцю.

Герой трэцяга апавядання, зусім яшчэ недарослы свіны пастушок, нясе нагрузку толькі дапаможную. Сваімі смешнымі паводзінамі, сваёй пацешнай сур'ёзнасцю ў размове са старым чалавекам, якому ён патрэбен, як нейкі прасвет для душы, як нейкае лякарства ад нялёгкага роздуму. Прачытаўшы гэтае апавяданне, хочацца гаварыць не пра мастацкі паказ маленства, а пра другое.

У чым нялёгкі роздум гэтага старога чалавека? Трэба прадаць гаспадарку — хату, карову, багаты сад — і ехаць за свет да сына, у Караганду. Між іншым, гэтым сёння ўжо нікога не здзівіш. Бабка, якую калісьці выдалі замуж «вельмі далёка», вёрстаў, скажам, за пятнаццаць ад роднай вёскі, бабка, якая калісьці нямала паплакала з гэтай прычыны, сёння шпарыць у турбавінтавым самалёце ў адведзіны да сына або да дачкі, у Алма-Ату ці ў Хабараўск, і — хоць бы цвік, паводзіць сябе зусім па-сучаснаму. І дзед з апавядання «Такі дзень» паехаў бы, вядома, са сваёю бабай у Караганду да сына, да ўнукаў, і не было б у гэтым нічога незвычайнага, каб не адна акалічнасць. Іменна

гэтая акалічнасць, на іншае вока — дробязь, перашкодзіла дзеду паехаць, а аўтару апавядання пра яго дала магчымасць звярнуць нашу ўвагу на вельмі важнае.

У лёгкасці, з якою мы цяпер, можна сказаць, разумна перамяшчаемся з месца на месца, а можна сказаць, зашмат мітусімся па сваёй неабсяжнай краіне, ёсць адна сур'ёзная небяспека, якую добра бачаць перш за ўсё тыя з нас, хто па-сапраўднаму ведае цану пашане і любві да зямлі-карміцелькі. Яшчэ дакладней — хто сам належна адчувае гэтую пашану і любоў. Дзед Гаўрыла не вельмі і таргаваўся б, аддаў бы ўсё амаль за першую цану, ды вось пакуль ён у кухні рыхтаваў сваім гасцям-пакупнікам пачастунак, выціраў ручніком яблыкі, праз прыадчыненыя дзверы з хаты ён пачуў, як госць угаворваў сваю жонку купляць старую дзедаву хату хоць бы з-за саду. Апраўдаем, кажа, свае грошы за год, за два, прадаючы такую процьму яблыкаў, а там — «чорт з ёю, з гэтай хатай» — зноў паедзем у горад...

«Эге, вось яно што...— з нейкай радасцю ўздыхнуў Гаўрыла.— Я думаў, што чалавеку жыць трэба, зямля трэба, сад... Думаў, чалавек абжывацца хоча. Ажно тут вось што яно...»

І ён застаўся, не прадаў ім нічога і не паехаў нікуды, гэты залішне непрыкметны, непапулярны сёння Антэй, тып, аднак, у народзе бясспрэчна жывы, убачаны пісьменнікам, сабраны ім з прататыпаў, як пыльца з многіх кветак, рупліва і радасна. Гэта ж так па-народнаму — дабро, якое набыта сумленнаю працай, не даць у нядбайныя рукі, не даць таму, хто не сталы ў пачуццях пашаны, любві да чалавечага месца на зямлі, да чалавечай працы. Парою нам гэтага не хапае, нават і вельмі, і дзякуй таму, хто трывожыць наша сумленне.

Апавяданне «Марута і Зіна» — якраз адно з тых, якія мне давялося прачытаць двойчы. Спачатку ў часопісе, а цяпер у зборніку яно мяне ўразіла яркасцю і эканомнасцю мастацкіх сродкаў і разам з тым аж залішне суровай праўдзівасцю...

Недзе ў Талстога ці ў нечых успамінах пра яго ёсць запіс пра такую вось залішнюю суровасць. «Возьмеш ды пашкадуеш свайго героя,— сказаў, смеючыся, Леў Мікалаевіч,— дадасі яму рысачку: хай будзе лепшы».

Так было нават у рэалістаў крытычных. Мы на гэтыя рысачкі, трэба сказаць, не скупыя, часамі аж надта... І проста так сабе, ствараючы або выдумляючы станоўчага героя, і не проста так сабе, а змагаючыся з існуючай ці з уяўнай пагрозай так званай дэгераізацыі. Кажучы не між іншым, а для большай яснасці, асабіста я — і не за лішнія станоўчыя штрышкі, і не за дзесьці там модную дэгераізацыю: я проста за неадменны, за неабходны ў сапраўдным мастацтве паказ жыцця ва ўсёй яго паўнаце і складанасці.

А ўсё ж мне здалося, што ў адным месцы А. Кудравец — ужо аж залішне суровы ў праўдзівасці.

Адна з дзвюх жанчын, што прыводзяць да ладу свіную свежаніну, маладзейшая, выпісана аўтарам ледзь не з рубенсаўскай пластычнасцю. Справа не толькі ў знешнасці гэтай Зіны — «мяккай, добрай, як недапечаны велікодны пірог»,— партрэт яе паўстае перад намі ва ўсёй закончанасці, як і павінна быць у мастацтве слова, і ў рогату яе, і з пільнасці ў працы, і з расказу пра няўдалае замужжа. Нейкі Гога, двойчы жанаты прайдзісвет, запрымачыўся ў іхняй хаце, на трэці дзень груба набіў Зіну, і бацька дзяўчыны прагнаў яго. Расказваючы пра гэтую сваю трагедыю, здаровая васемнаццацігадовая дзеўка рагоча. Яна і тады смяялася: «Прыбягае тата — босы, у споднікаx — ён ужо спаць лажыўся. У руцэ папружка матляецца. «А ну марш з маёй хаты!» — на Гогу. Я сяджу на печы, раву, а самой смешна...» Далей яна недаўмявае, палюдску, па-сталаму горка: «Хай бы хоць сказаў што... Хай бы сказаў, што не любіць, дык і то лягчэй было б. А то паехаў, і ўсё... Як і не было нічога...» Пасля бяздумнай смяшлівасці (ці не ад лішняга здароўя) гэтыя горкія словы так многа гавораць пра тое, што не так усё проста і для гэтай рагатухі — Зіны. Тут, здаецца, і трэба было б закончыць гэты выдатны эцюд. Аўтар пайшоў, аднак, далей. «Я думаю, цётка,— кажа яговая Зіна,— каб у суд на яго падаў. Мы ж яму і кашулю к вяселлю купілі, і касцюм... То хай бы хоць за гэта заплаціў...» Дарэчы, гэта сказана ўпрытык перад працытаванай горычу: «Хай бы хоць сказаў што...» А потым зноў — яшчэ раз паўтараецца: «А я ўсё ж хачу схадзіць да пракурора». Яшчэ раз удакладняец-

ца, у чым жа будзе заключацца святая адпомста: «Можа, хоць рублёў пяцьдзесят вернем...»

Не сумняваюся, што так бывае. Няма ахвоты і змагацца з гэтай неабвержнай верагоднасцю. Хоць мне адразу і захацелася зняць залішне суровы штрышок з пяццюдзесяццю рублямі. Праўдзівасць тут непадкупная, і, хоць мне холадна ад гэтага, няхай сабе будзе і так. Нават не дзеля гэтага — збоку майстэрства бездакорнага — апавядання. Дзеля большага — дзеля поўнай, бескампраміснай праўдзівасці, дзякуючы якой і маглі з'явіцца раней названыя мною выдатныя, глыбока чалавечныя апавяданні.

Апавяданне «Іваніха» нельга назваць слабым. Яно проста не новае па тэме і таму не хвалюе, само нібыта адступаецца ўбок, даючы дарогу лепшым, больш арыгінальным. «На зялёнай дарозе» — твор не сабраны ў адно, для аднаго настрою, не падпарадкаваны адной задуме і таму здаецца мне незавершаным, яго варта дапрацаваць. У апавяданні «Мама чакае» не знойдзена канцоўка: яе таксама варта пашукаць. Найслабейшыя ў зборніку — «Барвовыя сумёты». Пра партызанскі подзвіг братоў Цубаў тут не расказана з дакументальнай строгасцю, якая дазволіла б аўтару ўсхваляваць чытача; подзвіг гэты не паказаны і знутры, шляхам псіхалагічнага раскрыцця. Такому мастаку, як А. Кудравец, такая разгубленасць і павярхоўнасць не падыходзяць.

У зборніку нямала тых мастацкіх залацінак, тых «дробязей», якія здорава, часамі нават вырашальна працуюць на красу і значнасць цэлага. Скажам, «брама, абгрызеная восямі падвод» дзед, вартаўнік калгаснага саду, які «грамадзянскую вайну прайшоў у сядле, з галёшам на адной назе і з лапцем на другой», «свойскі пагляд цёмных дробных вачэй» і яшчэ нямала падобнага. Такія драбніцы маюць вялікую і таямнічую прыцягальную сілу, яны не проста засяроджваюць увагу чытача на расказе, але і палоняць яго сэрца сваім паходжаннем ад жыцця. Гаворачы пра той галёш і лапаць, аўтар нібыта хоча зняць з сябе адказнасць за тое, праўда гэта ці не: «калі верыць яго словам», устаўляе ён. Такая сабе, не вельмі простая, хітрынка, што таксама робіць сваю справу, яшчэ больш узмацняе наш давер.

Зусім не дзіва, што ў пісьменніка, у якога і такія дробязі добра нясуць мастацкую службу, заўважаецца найменшая недакладнасць, найменшы промах можа лічыцца пралікам.

Пачнём ад найдрабнейшага. Адзін з яго герояў ідзе «па крутой дарозе, набіраючы пяску ў чаравікі». Зусім непатрэбна спыняюся, чытаючы, і думаю: «Можа, не ў чаравікі, а ў туфлі? Няўжо такі глыбокі пясок?» Драбніца, вядома, але навошта ж мне прыпыняцца без патрэбы, калі, згодна Чэхава, «белетрыстыка павінна ўкладвацца ў секунду»? Побач з гэтай драбніцай, у тым жа апавяданні «На зялёнай дарозе», нават на суседняй старонцы, дырэктар школы, зайшоўшы да настаўніка, заўважае ў яго на ложку распячатанае пісьмо, бярэ, чытае яго, і ўсё яму, сардэчнаму, становіцца ясна: настаўнік хоча адтуль уцякаць. І вось у апавяданні, дзе бярэцца на ўлік нават тое, як пад тым самым дырэктарам, калі ён злосна выходзіў, «рыпнулі, прыгнуўшыся, маснічыны»,— ні намёку пра такую дырэктарскую некультурнасць, такую абразу асобы... Бярэ і чытае — чужое пісьмо... Па дружбе? Не, дружбы ў іх няма. Па службе? Няма такога права. Па некультурнасці? Як хочаце, але так вось проста, не рэагуючы, ні герою, ні аўтару прапусціць гэтага нельга.

Маладая ўдава і шафёр, абое добрыя людзі, маюць неўзабаве пажаніцца. Суседзі, што памагалі ім згружаць з машыны карчы, а потым вячэралі разам, пайшлі ад іх, пайшоў у клуб і сын гаспадыні, хлапчук. Толькі шафёр застаўся. Неўзабаве адзін з тых гасцей, малады настаўнік, вяртаючыся з клуба, глядзіць, што вёска ўжо спіць, і з маладою рэўнасцю ў падтэксце (яго каханая парвала з ім адносіны) заўважае, што і ўдовіны «вокны таксама не свяціліся». Добра. Гэты штрышок робіць сваё. Ды вось штосьці падобнае, вокны з намёкам, паўтараецца ў добрым апавяданні «Сяструха». Яніна праводзіць свайго госця-родзіча на вакзал і гаворыць яму тыя цудоўныя ў сваёй грубаватасці, шчырыя словы, што яна, ужо немаладая жанчына, хоча мець сына ад свайго трэцяга мужа. А потым, калі яна развіталася з госцем, даецца такая канцоўка:

«А дарога вяла Яніну ў бок электрастанцыі. Там быў Пятрок, і да раніцы яшчэ вунь як далёка...»

«Хвалюючы намёк?» Не, проста недарэчны, нават прыкры...

І ўжо зусім, па-мойму, дрэнна, не тактоўна, калі дзяўчына, згвалтаваная немцам, параўноўваецца — за стройнасць і танклявасць — з бярозай, на якой яна павесілася ў адчаі... Хто так падумаў: маці, якая бегла да гэтай бярозы, ці аўтар, што даў нам так многа доваду сваёй пісьменніцкай і чалавечай культуры?

...З дзесяці апавяданняў чатыры здаюцца мне слабейшымі. Адносна, па суседству з апавяданнямі моцнымі. Ва ўсіх іх ёсць, аднак, тая аснова, што дае патрабавальнаму да сябе аўтару поўную магчымасць дапрацаваць іх для наступнага выдання.

Яшчэ менш клопату з дробязямі — што проста выкрасліў, што замяніў.

Словам, хочацца паўтарыць, што А. Кудравец здаў свой уступны экзамен амаль на «выдатна». Падыход у яго да свайго абавязку правільны. З такім падыходам, з такімі магчымасцямі, як у яго, варта брацца за тэмы заўсёды іназаўсёды значныя.

*1968*

# НА ТРЫ ПЫТАННІ [1]

## ЯК Я АДНОШУСЯ ДА СУЧАСНАЙ МОЛАДЗІ?

Трэба сказаць, што часта даводзіцца чуць такое пытанне.

Часцей за ўсё яго задаюць не маладыя, а старэйшыя. І ў падтэксце пытання то больш, то трохі менш выразна прасвечвае і натуральнае паводле ўзросту, і ўнечым хваравітае, і смешнае бурчанне: сённяшнія маладыя — гэта, маўляў, зусім не тое, што былі мы.

Што ж, справа гэта спрадвечная. Кажуць, што ў Егіпце быў знойдзены папірус, у якім ужо тады, тры ці чатыры з гакам тысячы гадоў таму назад, хтосьці са старэйшых наракаў на сучасную яму моладзь.

І сённяшняя моладзь павінна таксама памятаць, што прыйдзе час, калі і ім давядзецца наракаць на сваіх патомкаў, і ім прыйдзецца пахадзіць ды пабурчаць у якасці «продкаў»...

Не скажу, што і мяне ва ўсім задавальняе аблічча сучаснага маладога чалавека, асабліва ў горадзе. Раздражняе цынізм, пустата, чаго — будзем шчырыя — нам навокал хапае, як і п'янства, і хамства, і паразітызму.

Аднак жа я не забываюся і пра тое, што ў нашай моладзі многа і добрага, прыгожага.

Дапамагаюць не забывацца пра гэта і сваё жаданне не старэць душою, быць па-юначы вясёлым, актыўным. Я даволі-такі многа езджу па нашай рэспубліцы, па ўсёй краіне, часта сустракаюся з моладдзю розных прафесій. Гэта і рабочыя на заводах, і трактарысты, аграномы, заатэхнікі ў полі, гэта і вясковыя школьнікі і

---

[1] Выступленне па тэлебачанні.

гарадскія студэнты. У мінулым годзе мне давялося выступаць у інстытутах Мінска, Гродна, Брэста, у глыбінных школах Гродзеншчыны і брэсцкага Палесся. Прымаў я ўдзел у працы рэспубліканскага семінара творчай моладзі і першай беларускай нарады самадзейных чытальнікаў мастацкай літаратуры... Ды што тут лічыць паездкі і мерапрыемствы. Дзеці маіх сёстраў, братоў, дзеці маіх сяброў і добрых знаёмых, мае дзеці і сябры маіх дзяцей — усё ж гэта моладзь, сучасная моладзь, розных характараў, са сваімі мінусамі і плюсамі ў поглядах, у паводзінах. Я сустракаюся з імі штодзень, у пэўнай меры жыву іхнімі інтарэсамі, і — прызнаюся — калі не бурчу, а хачу і сам не старэць — мне з імі добра, дый і яны не лішне часта і не вельмі скардзяцца на несправядлівасць маіх адносін да іх, прадстаўнікоў іншага пакалення. Пакалення, вядома ж, не горшага і не лепшага за ўсе былыя, а можа, і за наступныя.

## ШТО Я НАЙБОЛЬШ ЛЮБЛЮ, ЯКОЕ МАЁ, ЯК ГАВОРЫЦЦА, ХОБІ?

Вышэй я ўжо намякнуў на гэта. Падарожжы. Вельмі люблю перасоўвацца па планеце — хадзіць па лугавых сцежках, па палявых ды лясных дарогах, плаваць па рэках, азёрах, па моры, лятаць над гарамі, над хмарамі, над граніцамі дзяржаў. Спачатку, у маленстве, хапала адлегласцей невялікіх — пабегчы, скажам, у другую ці ў трэцюю вёску з наказам ад мамы да цёткі або — якая раскоша! — удзельнічаць у школьнай экскурсіі. Пасля прыйшла сталасць, салдацкае і партызанскае, дзённае і начное вывучэнне геаграфіі. Потым — пісьменніцкія падарожжы ў бліжэйшыя і далёкія братнія рэспублікі, краіны свету — ад Сахаліна да Ніягары, ад Ленінграда і Міхайлаўскага — да Самарканда і Паўднёвай Індыі... Паездкі далёкія не выцеснілі яшчэ ўсё ледзь не дзіцячай любові да сцежак, да вудачкі і грыбнога кошыка, да ўсё новых і новых адкрыццяў красы прыроды, радасці новых сустрэч, радасці пазнавання.

І другое — з маленства і нязменна люблю кнігу. Чытаць — гэта і праца, і свята. Люблю вяртацца да

старонак даўно знаёмых. Хвалююць, радуюць сустрэчы з новымі талентамі, новымі праўдзівымі, глыбокімі, сэрцам напісанымі кнігамі.

## ШТО Я МАГУ СКАЗАЦЬ ПРА НАШЫХ МАЛАДЫХ ПІСЬМЕННІКАЎ?

Гэтыя прадстаўнікі сучаснай моладзі — парода, вядома ж, найбольш знаёмая мне і найбліжэйшая па духу. Знаёмячыся з новымі імёнамі, з творамі ўжо вядомых маладых літаратараў, я адчуваю двоякае хваляванне — і радасць адкрывання, і міжвольны, недзе глыбока схаваны, але жывы, неспакойны ўспамін пра тое, як пачынаў ты сам, якія радасці і турботы былі зместам твайго пачатку...

У нас харошая пісьменніцкая моладзь. Многа шчырых, добрасумленных, адукаваных, працавітых, натхнёных работнікаў роднай літаратуры. Яны шукаюць, часамі знаходзяць, часамі не, ім уласціва парою і маладое зазнайства, але ж і маладое гарэнне. Я ганаруся дружбай з некаторымі з маладых таварышаў па пяру, радуюся іх поспехамі, не люблю іхнія недахопы і... рады цяпер, з тэлеэкрана, перадаць ім шчырае прывітанне.

*1969*

# З НОВАЙ СІЛАЙ [1]

У полымі апошняй вайны мы, беларусы, страцілі кожнага чацвёртага жыхара нашай рэспублікі. На барацьбу з фашызмам наш народ, параўнальна нешматлікі, паслаў амаль паўмільёна партызанаў. Як салдаты мае землякі змагаліся на ўсіх франтах Вялікай Айчыннай вайны — на сушы, на моры, у паветры.

Мы добра ведаем, што такое вайна, што такое фашызм, што такое мір, аплочаны крывёю і невычэрпнымі пакутамі дарослых, старых і дзяцей...

Таму зусім натуральна, што тэма вайны і міру, тэма барацьбы за чалавека і чалавечнасць была і будзе ў нас актуальнай. Гэтай тэме прысвечаны многія творы нашых празаікаў, паэтаў, драматургаў, яны і больш і менш удалыя, але выводзяцца пераважна з асабістага вопыту аўтараў, з перажытага імі ў вайну.

Эпапея «Векапомныя дні», аўтар якое ў дні вайны — падпалкоўнік Міхась Лынькоў, ветэран трох войнаў. Адна з найлепшых нашым паэм, «Сцяг брыгады», пісалася ваенным карэспандэнтам Аркадзем Куляшовым у франтавой зямлянцы. Салдацкія дні і ночы, крывавыя будні і святы вельмі дарагіх перамог — адтуль ідзе пачатак цудоўнай ваеннай лірыкі Максіма Танка, Петруся Броўкі, Пімена Панчанкі, Аляксея Пысіна. Адтуль, з франтавых і партызанскіх дарог, завіталі да нашага чытача апавяданні, аповесці і раманы Івана Мележа, Івана Шамякіна, Міколы Лупсякова, Аляксея Карпюка...

Аўтар агульнавядомых у нас і за мяжою ваенных аповесцей Васіль Быкаў ( у Польшчы выдадзена яго

[1] Напісана для польскай газеты «Współczesność».

«Трэцяя ракета») у канцы вайны меў дваццаць год і быў артылерыйскім афіцэрам. Шаснаццацігадовым падлеткам пайшоў у атрад народных мсціўцаў аўтар таленавітай дылогіі «Партызаны» Алесь Адамовіч. Нават тыя пісьменнікі, якіх мы яшчэ ўсё называем маладымі — празаік Міхась Стральцоў, паэт Рыгор Барадулін,— сваю ваенную, а дакладней кажучы — антываенную паэзію і прозу пішуць па праву горкага вопыту. Гэта дзеці вайны, першыя гады жыцця якіх прайшлі ў халодных, галодных зямлянках, у нялюдскіх пакутах і жахах акупацыі.

Свой асабісты вопыт, матэрыял для апавяданняў і аповесцей, я набываў у розных акалічнасцях і ў розных кутках Еўропы. Вайна пачалася для мяне як для польскага салдата, удзельніка абароны польскага Узбярэжжа, а закончылася ў партызанах, на роднай Наваградчыне. Паміж пачаткам і канцом вайны былі гітлераўскія шталагі, лагерныя штрафныя роты, дні і ночы ўцёкаў з палону...

У партызанскай зямлянцы, на трафейнай машынцы перапісваўся першы варыянт майго рамана «Птушкі і гнёзды», дзе я расказваў пра перажытае. Кнігу гэтую я закончыў праз дваццаць гадоў. Я поўнасцю перакананы, што сваёй антыфашысцкай накіраванасцю яна — зусім сучасная. У рамане расказваю пра польскі верасень 1939 года, пра наша братэрства па зброі, пра супольную барацьбу «за вольнасць нашу і вашу».

Тут, у Гдыні, дзе я пішу гэтыя словы, мінулае, перажытае хвалюе мяне з новай сілаю.

*1969*

# ПА ПАДРАДКОЎНІКАХ І БЕЗ ІХ[1]

У аглядах, якія мы атрымалі пазаўчора (праўда, крыху пазнавата для таго, каб пазнаёміцца з імі належным чынам), і ва ўчарашніх дакладах нямала і нядрэнна сказана пра стан перакладчыцкай справы ва ўсёй нашай краіне.

Сэнс выступленняў у спрэчках, як я разумею яго, заключаецца не толькі ў тым, каб дапоўніць агляды і дакладчыкаў інфармацыяй «з месц», але і ў тым яшчэ,— і гэта найважней,— каб калектыўна высветліць тое галоўнае, што нам патрэбна для далейшага руху наперад і што нам у гэтым перашкаджае.

Не будзем баяцца неабходных паўтораў, не будзем ленавацца лішні раз (а падумаўшы, дык і зусім не лішні) падкрэсліць жыццёва важнае ў нашай творчай практыцы.

Учора, слухаючы пачатак гутаркі пра так званую праблему падрадкоўніка, я ўспамінаў прачытанае ў эстонскім аглядзе вельмі простае, сціплае і вельмі важнае прызнанне ў тым, што ў Эстоніі гэтая праблема «не ўзнікала». Там перакладаюць без падрадкоўніка — ужо з трыццаці пяці моў, і з кожным годам колькасць гэтая расце. Якія зайздросныя сціпласць і гордасць! Аказваецца, у гэтай справе зусім не абавязкова быць народам колькасна вялікім — дастаткова быць высокакультурным.

Колькі б ні рабілася ў нашых вялікіх рэспубліках, скажам, у Расіі, на Украіне,— а робіцца там, безумоўна, шмат,— на прыкладзе эстонцаў відно, па-мойму,

---

[1] Выступленне на ўсесаюзнай нарадзе па пытаннях мастацкага перакладу.

што ў большасці сваёй мы, літаратары розных рэспублік, працуем у галіне перакладаў далёка не ў меру нашых магчымасцей — і па падрадкоўніках і без іх.

Нас, беларусаў, найбольш перакладаюць на рускую і ўкраінскую мовы.

Калі гаварыць пра рускія часопісы, больш за ўсіх для нас робіць «Дружба народов» — часопіс, трэба сказаць, яшчэ ўсё па-сапраўднаму не ацэнены. За сёе-тое мы ўдзячныя «Новому миру», «Юности», ленінградскай «Звезде».

Гаворачы пра выдавецтвы, у першую чаргу трэба назваць «Советский писатель». Праўда, аддаючы належнае ўсяму добраму, што робіць гэтае выдавецтва для ўсіх нацыянальных літаратур, трэба сказаць і тое, што пры вялікім наплыве рукапісаў якраз туды, у «Советский писатель», з асаблівай настойлівасцю і спрытам стараецца прашыцца і вельмі часта прашываецца названая ўчора таварышам Ананіяшвілі небяспека пасрэднасці — як у выглядзе шэрых арыгіналаў, так і ў выглядзе, з дазволу сказаць, перакладаў.

Папрок — не толькі выдавецтву: мы ўсе павінны памагаць яму змагацца з гэтай і сапраўды вялікай небяспекай.

Менш выдаюць нас, затое як быццам з большым адборам, у «Художественной литературе». Апошнім часам палепшыліся, дакладней — трохі наладзіліся, адносіны з «Молодой гвардией».

Многа нас перакладаюць на Украіне. Выдаюцца кнігі паасобных аўтараў, анталогіі прозы, паэзіі, даволі часта з'яўляюцца публікацыі ў перыёдыцы.

Дзякуючы намаганням паасобных нашых сяброў у Прыбалтыцы, такіх, як літовец Альбінас Жукаўскас, латыш Юлій Ванаг, эстонец Олеў Йыгі і некаторых іншых, беларуская проза і паэзія апошнім часам перакладаюцца там з арыгінала, даволі часта і добра.

У нашых сэрцах, і гэта зусім зразумела, жыве не толькі пачуццё братняй удзячнасці нашым рускім, украінскім, прыбалтыйскім калегам, але і тым сябрам у іншых рэспубліках, дзе перакладаюцца нашы кнігі, няхай сабе яшчэ ўсё па рускіх перакладах і падрадкоўніках — не толькі пачуццё ўдзячнасці, але ж і жаданне адказаць дабром на дабро. Ёсць у нас і талена-

вітыя літаратары-перакладчыкі. Аднак жа ёсць і сваё «але». Прыкрае, горкае «але». Яно часткова заключаецца і ў тым, што пры ўсім нашым шчырым жаданні, пры ўсёй нашай зусім нядрэннай падрыхтаванасці ў нас вельмі няшмат магчымасцей выдаваць пераклады.

Нам даўно патрэбен часопіс тыпу «Иностранной литературы» ці «Всесвіту».

У нашым выдавецтве «Беларусь», адзіным выдавецтве, дзе разам з іншай літаратурай выдаецца і мастацкая, нам неабходна мець значна больш месца для перакладаў. З братніх літаратур, з літаратур нашай сацыялістычнай садружнасці, з літаратур народаў свету.

Тут я хачу падтрымаць Л. С. Собалева ў тым, што наша нарада не толькі мае права, але і абавязана звярнуцца ў высокія інстанцыі з просьбай навесці належны парадак у адносінах паміж кіраўнікамі некаторых выдавецтваў і Саюзамі пісьменнікаў — бадай, не памылюся — у большасці нашых рэспублік.

Вялікую, высакародную, партыйнай і дзяржаўнай важнасці справу выдання перакладной літаратуры некаторыя выдаўцы, па старой валюнтарысцкай памяці, падпарадкоўваюць перш за ўсё і толькі матэрыяльнаму разліку, свядома ці несвядома пагарджаючы непараўнана большымі вартасцямі маральнага, духоўнага парадку.

У нас, напрыклад, у Беларусі, выдаюцца і перавыдаюцца масавымі тыражамі часамі вельмі і вельмі пасрэдныя арыгінальныя кнігі і кнігі беларускіх аўтараў, не богведама як перакладзеныя на рускую мову, так званыя «ходкія» кнігі, якія даюць выдавецтву матэрыяльны прыбытак, і ў мізэрнай колькасці, вельмі неахвотна плануюцца і выдаюцца пераклады з іншых моў як «нерэнтабельныя»...

(Г о л а с з м е с ц а: — Так яно амаль усюды!)

Апроч гэтай сумнай акалічнасці ёсць і яшчэ адна. Некаторыя кіраўнікі выдавецтваў разам з некаторымі іх памочнікамі, відаць, не зусім правільна разумеюць пастанову пра персанальную адказнасць за ідэйна-мастацкую якасць прадукцыі, якую яны выпускаюць. Разуменне адказнасці, якая ў іх дыктуецца больш за ўсё перастрахоўкай. І тады: «Калектыўнае кіраўніцтва з гэтага часу бяру ў свае рукі».

Адказнасць кожнага паасобку пісьменніка, адказ-

насць пісьменніцкага калектыву апошнім часам у разлік не бярэцца. Да рэкамендацый Саюза пісьменнікаў, да рэкамендацый сапраўдных спецыялістаў часцей за ўсё не прыслухоўваюцца і пажаданні пісьменнікаў калі часткова, а калі і цалкам ігнаруюцца.

Такое становішча ненармальнае, і мы абавязаны сумленна выказаць свае адносіны да яго.

Я хачу падтрымаць Віталія Кароціча ў той частцы яго выступлення, дзе ён хоча, каб у бліжэйшы час быў скліканы ўсесаюзны пленум, прысвечаны пытанням перакладаў. Там, відаць, трэба будзе з вышэйшай трыбуны паўтарыць тое, пра што мы гаворым, і, магчыма, тады мы чаго-небудзь дамажамся.

Ад імя беларускай дэлегацыі я хачу падтрымаць ідэю стварэння спецыяльнага часопіса, прысвечанага тэорыі і практыцы перакладчыцкай справы, а таксама ідэю асобнага выдавецтва, якое выпускала б у перакладзе на рускую мову, што так цудоўна нас аб'ядноўвае, найлепшыя кнігі ўсіх народаў Савецкай Радзімы.

Варта таксама як мага паляпшаць падрыхтоўку кадраў перакладчыкаў з ліку таленавітай моладзі, якую трэба пасылаць вывучаць братнія мовы ў вышэйшых навучальных установах іншых рэспублік, часцей, чым гэта робіцца цяпер, пасылаць іх за граніцу для глыбейшага, жывога вывучэння моў, з якіх яны перакладаюць.

Асабіста мой перакладчыцкі вопыт невялікі. Перакладаю прозу, ахватней за ўсё апавяданні, з рускай, украінскай і польскай моў, адчуваючы ў гэтай працы і сапраўднае творчае задавальненне і нязменна маладое шчасце ўсё больш ды больш глыбокага пранікнення ў цудоўны свет рускага, украінскага, польскага слова. Гэта ў мяне не прафесія, нават на палавіну не, гэта мне проста трэба для таго, каб адчуваць сябе як літаратара зусім нармальна.

Відаць, што большасць удзельнікаў нашай нарады — таксама не перакладчыкі па прафесіі, а, так сказаць, перакладчыкі-аматары, крый бог не дылетанты, але аматары ў самым высокім значэнні гэтага слова. Вось мне і хочацца пажадаць ім вялікіх поспехаў не толькі ў арыгінальнай творчасці, але і ў працы над перакладамі чужых, любімых імі твораў.

Я хачу, разам з тым, засведчыць сваю павагу і

ўдзячнасць усім тым таварышам, якія працу перакладчыка — працу нялёгкую і высакародную — лічаць сваім прызваннем і аддаюцца ёй усёй душою.

У Беларусі таксама ёсць, вядома ж, і таленавітыя і добра падрыхтаваныя прадстаўнікі гэтай катэгорыі літаратараў, што поўнасцю аддаюць сябе такому віду творчасці. Трохі пазней адзін з іх выступіць тут, перад вамі, будзе больш канкрэтна, чым я, гаварыць пра дасягненні і цяжкасці нашых беларускіх калегаў і, зусім зразумела, нічога не скажа пра самога сябе. Маю на ўвазе паэта-перакладчыка Язэпа Семяжона, імя якога называлася ўчора ў дакладах. Таварыш Семяжон вы датна і многа працуе над перакладамі з англійскай, нямецкай, французскай, італьянскай, польскай моў, ведае гэтыя мовы, ведае літаратуру, у першую чаргу паэзію кожнага з гэтых народаў.

Высокай думкі пра Семяжонавы пераклады паэзіі Бёрнса быў Самуіл Якаўлевіч Маршак, што ён выказваў гадоў пятнаццаць таму назад.

Учора тут згадвалася па-свойму унікальная кніга «Апалены лотас», анталогія паэзіі гераічнага В'етнама, перакладзеная Я. Семяжонам ■ французскай мовы. Мне хочацца дадаць, што летась у нас выйшаў яго бліскучы пераклад з лацінскай мовы — цудоўная паэма «Песня пра зубра», напісаная нашым земляком Міколам Гусоўскім у XVI стагоддзі і дагэтуль не вядомая належна ні нашаму, ні польскаму, ні рускаму чытачу.

Гэтым дазвольце мне і закончыць.

*1970*

# ДОБРА ТАК

Былі сустрэчы, ростані, праца і адпачынак за адным сталом, выступленні ў вясковых школах і перад студэнтамі, былі самотныя гутаркі пра наша найдаражэйшае, былі вандраванні па роднай зямлі. Пехатой, у машыннай выгодзе, у маторнай лодцы насустрач ветру, у самалёціку над балатамі...

Першае выданне сабраных ім беларускіх прыказак — факт ужо гістарычны, адна з яго, ужо даўно шматлікіх, кніг. А ў маёй памяці, у тым раздзеле, дзе ў загалоўку значыцца імя і прозвішча Фёдар Янкоўскі, кніга гэтая — яшчэ ўсё рукапіс, над якім мы ўдвух сядзім, яшчэ ўсё снег пералётвае і ляжыць за акном, сосны маўчаць, а з паперы гаворыць народная мудрасць, паэзія ў скупасці слова...

Пасля пайшлі яго другія рукапісы. Над самым капітальным з іх, над рукапісам першай беларускай фразеалогіі, мне таксама прыйшлося пасядзець, у якасці першага чытача. Аднаму ўжо, без аўтара. Тыя гадзіны,— дарэчы, таксама са снегам і соснамі за акном,— бачацца ўжо не далёкім, светлым пачаткам нашага сяброўства, а проста як час сапраўднай чытацкай асалоды і плённага творчага роздуму. І ў гэтай, тады яшчэ толькі будучай, кнізе мне зноў адкрывалася шчаслівае спалучэнне карпатлівай, настойлівай працы высокага майстра і закаханасці вернага сына народа. Мне ўжо даводзілася пісаць пра найсвятлейшае ў маім уражанні ад гэтай кнігі, тут я свядома паўтаруся. Ілюстрацыйныя прыклады, запісаныя руплівым даследчыкам у розных кутках рэспублікі і часткова запазычаныя ім у папярэднікаў, разгортвалі перада

мной жывую, паэтычную карту роднай мовы, хвалявалі душу яе нелінючымі фарбамі, крынічным звонам яе несмяротнасці. Як і ўсюды, і ў гэтай сваёй працы ён хаваецца за народ, з натуральнай сціпласцю разумення справы. Але ў адным выпадку, дзе даецца апавяданне вясковай бабулі пра тое, як даўней маладую садзілі на пасад, ён, па няўвазе ці ад пашаны да дакладнасці, выдаў сябе. «Раскажу табе, голубе, усё...» — гаварыла бабуля. І я ўпэўнены, мне зусім жыва ўяўляецца, што так яна гаварыла іменна яму, чарняваму, ціхаму хлопцу з харошай усмешкай, прастата якога хавае ў сабе і былую суровую, некрыклівую мужнасць партызана-разведчыка, і па-народнаму шчырую, у сэнсе поўнай аддачы, працу выдатнага выкладчыка, і талент ды вопыт вучонага, набытак якога не сорамна пакласці ад імя Беларусі на міжнародны стол. Толькі таму, хто любіць свой народ, народ раскрывае свае векавыя скарбніцы.

Чарнявы, сціплы «хлопец» пасівеў. Час ідзе, ад ран старых здароўем надта не пахвалішся, а праца патрабуе моцных нерваў. Аднак за многія ўжо нашыя гады я амаль не бачыў, каб ён быў неўраўнаважаны. Хоць ёсць і тут, як і ва ўсім у жыцці, сваё «амаль». Культурнага выкладчыка, спакойнага сямейніка, прыязнага таварыша я бачыў раз ці два ўсё-такі злосным, аднойчы нават ледзь не раз'юшаным... Як рыбака, якому груба перашкодзілі... Ісці пад ліўнем за пяць кіламетраў, уверх па лясной незнаёмай рачулцы, у тое запаветнае месца, дзе, кажуць, стронга ёсць, перамагаць тую хітрую, асцярожную стронгу яшчэ ўсё пад ліўнем — гэта ўжо страсць. «Сэрца, браце пяе, и пахваліцца няма каму! Што ажно восем штучак узяў! Бо той жа нехта мне тут зусім не патрэбен!..» Калі ён сядзіць на сваім, загадзя падкормленым, адмысловым гатку, засяродзіўшыся на справе з найвышэйшай адказнасцю,— я наогул лепш абыходжу яго здалёк, дый там яшчэ, у тым «здалёк», стараюся ісці на пальчыках. Не ўсе пра гэта ведаюць, каторыя дык нават любяць падысці да рыбака, папрастарэкаваць з прыязнасцю. А ўжо калі ўбачаць, што чалавек ды штосьці валачэ з вады — бягуць туды як на пажар з усім гукавым афармленнем. Тым, што беглі да Федзі, я не зайздросціў...

Тым больш цікава, нязвычна было бачыць яго самога ў якасці парушальніка рыбацкіх законаў.

Здарылася ў нас аднойчы такое. Над рэчкай Рытай, на поўдзень ад Брэста. Звечара мы ўтрох удачліва лавілі плотак і акунёў, варылі юшку, пасля вячэры доўга яшчэ сядзелі каля вогнішча, сяк-так паспалі і на досвітку выйшлі да рэчкі ў густой палескай імгле.

Яна здавалася мне казачнай. Можа, таму, што ўвечары да мяне, у маю найцішэйшую завоіну, казачна падплываў, злосна ўцякаў, пацвелены кончыкам вудзільна, і зноў з настойлівай наіўнасцю вяртаўся вуж.

Цяпер, уранні, вужа не было. У завоіне была тая самая, толькі ўжо ранішняя, цішыня, была блазенская радасць надзеі на небывалую ўдачу, быў потым першы, пакуль што не вельмі багаты, пабліск удачы — першая плотка. А потым у нашай імглістай, роснацерпкай, трошкі пранозлівай і вельмі чуткай цішыні раптам пачулася нечаканае:

— Эй!

Я азірнуўся, з ходу яшчэ здзіўлена зразумеўшы, што гэта голас ягоны, Янкоўскага. Ён быў бліжэй да мяне. Здзіўленне маё мільганула, як іскра, а потым яно распасцерлася ў ціхую радасць.

З густой імглы, празрыста падрумяненай усходам сонца, на мяне пазірала казуля.

На мілай мордачцы вельмі выразна відно было недаўменне. Выйшла з лесу, а тут...

Спыніся, маё першае ў жыцці, такое казачна прыгожае імгненне!..

Нейкі момант, можа, нават адносна вельмі доўга, яна глядзела на мяне, бліжэйшага, маўклівага ды непарушнага, перажываючы і мой выгляд, і голас майго, менш бачнага ў імгле, суседа, не ведала, што ёй рабіць — ісці да вадапою ці вярнуцца...

Вярнулася.

Але ў маёй удзячнай памяці стаіць, глядзіць... Адзін на двух незвычайны ўспамін.

Не столькі па класічнаму запавету, колькі па патрэбе душы, наведалі мы з Федзем узаемна нашы родныя мясціны. Мае ён, зрэшты, ведаў трохі і да знаёмства са мною. А Глушчыну яго мне давялося ўпершыню наведаць разам з ім.

Пішу гэта і ўспамінаецца тая яго наіўна мудрая,

ужо і шматвопытная, але ж і маладая радасць ды трывога, схаваная ў падтэксце гутарак і паводзін:

«Хаця ж ці спадабалася табе мая хата, мой брат, нашы людзі, наш лес, наша поле і неба?..»

Добра так. А яшчэ калі чысты, здаровы смех, калі шчырае слова пра штосьці новае ў радаснай і хвалюючай безлічы спраў, якія мы збіраемся зрабіць,— тады, вядома, яшчэ лепш. І па ўзлеску ісці, і сядзець над ракою, і ў роднай сябравай хаце.

*1971*

# ГЛЕДЗЯЧЫ Ў ЧЫСТЫЯ ВОЧЫ[1]

У адным з мінскіх паркаў над кронамі маладых дрэў узвышаецца бронзавы хлопчык з вялікай гранатай ва ўзнятай руцэ. Граната — не супрацьтанкавая, звычайная РГД, аднак яна і сапраўды вялікая ў хлопчыкавай руцэ, і гэта адразу кідаецца ў вочы.

Па суроваму закону мужнасці граната гэтая была апошняй: з ёю маленькі партызан кінуўся на ворагаў і разам з імі падарваўся.

У хлопчыка была сястра. Калісьці разам з ёю, тады яшчэ падлеткам, хлопчык пайшоў у партызаны. Пасля таго як фашысты замардавалі іх маму. Дзяўчынка, ціхая беларуская скромніца, адмарозіла ў разведцы абедзве нагі, і гэтыя быстрыя, спрытныя ножкі лекар ампутаваў у зямлянцы звычайнай пілой, якою рэжуць дровы.

Бронзавы хлопчык стаіць, узвышаецца, нібы лунае над роднай зямлёй...

А сястра яго, сёння ўжо немаладая жанчына, на двух, не адразу прыкметных, пратэзах, кожнай раніцы ўваходзіць у светлы, аціхлы клас адной з мінскіх школ і гаворыць сваім, ужо даўно не першым, выхаванцам вельмі простыя словы, поўныя стрыманай матчынай цеплыні і вялікага пераможнага сэнсу:

— Добры дзень, дзеці!..

Хлопчык з гранатай — гэта піянер Марат Казей, якому праз дваццаць год пасля яго смерці было нададзена званне Героя Савецкага Саюза.

---

[1] Напісана для ўкраінскага літаратурна-крытычнага альманаха «Весняні обрії».



Каля дома Эль Грэка. *Таледа, 1974 г.*



У Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.
*Злева направа:* рускі паэт Дзмітрый Кавалёў,
Янка Брыль, латышскі пісьменнік Юлій Ванаг.
*Мінск, 1975 г.*

Сястра яго, настаўніца Арыядна Іванаўна, тры гады таму назад стала Героем Сацыялістычнай Працы.

Гэта — дзеці толькі адной беларускай сям'і. Падобных прыкладаў з нашай ваеннай гісторыі можна было б прывесці нямала.

Калі рыхтаваўся «план Барбароса», адзін з яго стваральнікаў меў ласку выказацца пра беларускі народ такім чынам, што з усіх, бачыце, славянскіх народаў ён — найбольш бяскрыўдны і для будаўнікоў «новай Еўропы» — найменш небяспечны.

Не гаворачы пра дастойны ўдзел беларусаў у барацьбе з фашызмам на франтах Вялікай Айчыннай вайны, на Беларусі, як вядома, было больш за чатырыста тысяч рэгулярных партызанаў, намнога больш тых, што памагалі партызанам, кожны дзень і кожную гадзіну рызыкуючы жыццём сваім і сваіх блізкіх. Падпольшчыкі і сувязныя.

Разам з дарослымі ў партызанскіх атрадах — як ні трывожна, як ні балюча гучыць гэта ў наш мірны час — з ворагам змагаліся і дзеці, больш за дваццаць пяць тысяч беларускіх дзяцей.

Хутка пасля вайны ў нас была створана кніга «Ніколі не забудзем», якая вытрымала ўжо восем выданняў. Аўтары гэтай, калі не памыляюся, адзінай у такім родзе, кнігі — самі дзеці, якія перажылі вайну ў акупаваных гарадах і сёлах, у партызанскіх атрадах і ў гітлераўскіх канцлагерах. Пісаць гэтую кнігу дзецям дапамагалі, вядома ж, дарослыя — пісьменнікі, журналісты, рэдактары. Сляды гэтай дапамогі на старонках кнігі заўважаюцца, безумоўна, даволі часта, часамі нават залішне прыкметна. Аднак і праз некаторую знешнюю літаратуршчыну непераможна прабіваецца цудоўная сутнасць кнігі — сведчанне вялікага гістарычнага і ў пэўнай ступені мастацкага значэння, да жудасці суровая праўда, якая на ўсю моц дзіцячай чысціні, святой наіўнасці гаворыць пра жахлівасць фашызму, кліча нас быць пільнымі.

У прадмове да гэтай кнігі Якуб Колас пісаў, што вартасць яе, перад усім, заключаецца ў тым, што яна «ў значнай меры запаўняе сабою прыкры прабел у беларускай літаратуры, у якой пакуль усё няма яшчэ больш-менш прыкметнага твора пра гераічную барацьбу нашага народа з фашысцкімі захопнікамі».

Пасля такога горкага прызнання прайшло больш за дваццаць гадоў.

У нашай «дарослай» літаратуры «прыкры прабел» у значнай меры запоўнены. Можна было б з законнай гордасцю назваць кнігі, напісаныя пра вайну нашымі паэтамі, празаікамі і драматургамі, аднак у большасці сваёй яны вядомыя ўжо не толькі беларускаму чытачу.

Горш выглядае ў гэтым плане справа з літаратурай дзіцячай. Кніг напісана як быццам нямала, але прыкметных дасягненняў — значна менш.

І таму, зразумела, з'яўленне кожнага новага твора, адзначанага талентам, чытач сустракае з задавальненнем.

Так былі сустрэты нядаўна — дарэчы, не толькі чытачом дзіцячым, але і дарослым — аповесці Івана Сяркова «Мы з Санькам у тыле ворага» і «Мы — хлопцы жывучыя», дзве самастойныя кнігі, аб'яднаныя адной тэмай, аднымі героямі. Напісаныя праўдзіва і займальна, з добрым гумарам, аповесці гэтыя натуральна і без назойлівай дыдактыкі павучальныя, яны даюць юнаму чытачу правільнае ўяўленне пра тое, чым была наша вайна з фашызмам і які ўдзел у ёй, а потым і ў пасляваеннай адбудове прымалі нашы дзеці. Дылогія Івана Сяркова — гэта яго дэбют, аповесці маюць пэўныя недахопы, аднак у аўтара іх ёсць тое найважнейшае, што трэба для дзіцячай літаратуры,— талент не проста пісьменніка, але пісьменніка дзіцячага, якасць, трэба падкрэсліць, даволі-такі дэфіцытная, і не толькі, здаецца, у нас, беларусаў.

Кнігі Сяркова не з'явіліся і не маглі з'явіцца на пустым месцы.

Калі гаварыць толькі пра тэму ваенна-патрыятычную, дык, перш за ўсё, неабходна аддаць належную пашану дзвюм аповесцям, якія па праву лічацца класічнымі, з пакалення ў пакаленне ахвотна чытаюцца. Гэта «Дрыгва» Якуба Коласа і «Міколка-паравоз» Міхася Лынькова. Трэба назваць таксама лепшыя патрыятычныя аповесці і апавяданні Алеся Якімовіча, Івана Шамякіна, Тараса Хадкевіча...

Аповесці І. Сяркова я з прыемнасцю выдзеліў на гэтым фоне як бясспрэчна цікавую з'яву самых апошніх гадоў.

Патрыятычнае і грамадзянскае выхаванне нашых

дзяцей мастацкім словам не абмяжоўваецца, вядома, толькі ваеннай тэматыкай. Мір — па-нашаму — гэта не проста прамежак часу паміж дзвюма войнамі, тым больш — не час, патрэбны для накаплівання пагарды і нянавісці да іншых народаў. Наша барацьба за захаванне міру на Зямлі і наш савецкі патрыятызм у аснове сваёй чалавечныя, патрэбныя ўсім людзям добрай волі. Выхаванне савецкага патрыёта, грамадзяніна і чалавека з вялікай літары — справа вельмі складаная і шматгранная, аснаваная на глыбокай маральнасці і высокай любві да прыгожага ў жыцці.

Такое выхаванне пачынаецца ад матчынай калыханкі і бабулінай казачкі, ад буквара і першай, вельмі нескладанай, як здаецца збоку, кніжачкі — першага сутыкнення з мастацкім словам.

Ствараць такую літаратуру для дзяцей, пачынаючы ад іх наймалодшага ўзросту, вельмі і вельмі нялёгка. Гэта ведаюць раней і больш за ўсіх тыя, хто займаецца такой высакароднай справай па прызванню, па закліку сэрца.

Маленькі чытач непадкупна патрабавальны, чулы на праўду і фальш у іх найменшым выяўленні, ён дапускае ў свет сваёй чыстай, паэтычнай душы толькі таго, хто таксама шчыры і закаханы ў прыгожае.

У гэтай сувязі мне хочацца гаварыць пра Васіля Вітку, выдатнага дзіцячага паэта, на жаль, яшчэ ўсё недаравальна малавядомага за межамі Беларусі.

За дваццаць з нечым гадоў, якія прайшлі ад з'яўлення ў друку паэмы-казкі «Вавёрчына гора», В. Віткам напісаны яшчэ дзве таленавітыя паэмы — «Буслінае лета» і «Песня пра цара Зубра», кніга вершаў «Дударык», «Азбука Васі Вясёлкіна», «ППШ», зборнік апавяданняў «Зайчык-верхалаз». У гэтым годзе выходзяць яшчэ дзве кнігі Віткі — паэма «Беларуская калыханка» і «Чытанка-маляванка» — вялікая кніга вершаў, пацешак, загадак, казачак для малодшага ўзросту.

Чытачу ўкраінскаму, які ў той ці ў іншай ступені знаёмы з творчасцю Віткі, цікава будзе, на маю думку, даведацца пра дружбу нашага паэта з выдатным сынам Украіны, педагогам і пісьменнікам, прыгожым, высакародным чалавекам Васілём Сухамлінскім. Сэрцы, якія аддадзены дзецям аднолькава шчыра, б'юцца

адным жаданнем, блізкасць сваю адчуваюць беспамылкова. Вітка і Сухамлінскі не толькі сустракаліся, перапісваліся, чыталі адзін аднаго, дапамагалі адзін аднаму ў працы. У гэтым годзе наша выдавецтва «Народная асвета» выпусціць (дарэчы, звышпланава) зборнік «Блакітныя жураўлі» — невялікую, але вельмі цікавую кнігу паэтычных, філасофскіх навел Васіля Сухамлінскага, незадоўга да смерці аўтара прысвечаную ім беларускаму чытачу. Кніжку гэтую пераклаў і забяспечыў грунтоўнай, усхваляванай прадмовай Васіль Вітка.

Знаёмячы кагосьці з сучаснай беларускай дзіцячай літаратурай, мне амаль заўсёды міжвольна хочацца гаворку пачынаць ад Віткі. У гэтым я, разумеецца, не адзінокі — паэзія яго згодна лічыцца ў нас з'явай арыгінальнай і яркай, яго пачэснае месца ў роднай літаратуры — не толькі дзіцячай, але дзіцячай у першую чаргу — належыць яму па праву.

Аднак жа і да такога, шчодра выяўленага, майстра натуральна стасуецца тое самае, што я сказаў вышэй пра яго маладога сабрата Івана Сяркова,— і творчасць Віткі не вырасла і не расце на пустым месцы.

Прыгадваюцца нашы слаўныя папярэднікі, іх натхнёнае слова дзецям. «Хлопчык і лётчык», «Алеся» і іншыя вершы Купалы. Вершы, апавяданні, казкі, чытанкі Коласа. Многа думаў пра маленькага чытача стваральнік «Новай зямлі» і многа зрабіў для яго — па-народнаму мудра і сонечна. Многа зрабілі таксама палымяная Цётка і сардэчны Змітрок Бядуля, з імёнамі якіх таксама звязаны першыя крокі беларускай дзіцячай літаратуры, вытокі якое ідуць ад непаўторнай «Калыханкі» Францішка Багушэвіча. У яркай і шматграннай творчасці юнага Багдановіча, побач з яго бліскучай лірыкай, выдатнымі перакладамі і даследаваннямі беларускай, рускай і ўкраінскай літаратур, ёсць і чароўная паэма на народны лад «Мушка-зелянушка і Камарык-насаты тварык», якая радуе малых ужо цэлае паўстагоддзе. Нязменнай любоўю дзетвары карыстаецца творчасць найстарэйшага з нашых сучаснікаў, «беларускага Жуль Верна» — Янкі Маўра. Многа працуе для дзетвары і ў старасці малады паэт высокай культуры Уладзімір Дубоўка. Плённа працуюць празаікі старэйшага пакалення: Алесь Якімо-

віч, Ядвіга Бяганская, Алесь Пальчэўскі. З поспехам ідуць на сцэне і чытаюцца п'есы на фальклорныя матывы Віталя Вольскага — «Дзед і жораў», «Цудоўная дудка», «Несцерка».

Яшчэ ў гады заходнебеларускага рэвалюцыйнага падполля малады Максім Танк пісаў не толькі свае «дарослыя» паэмы і вершы, але знаходзіў належнае слова і для дзіцячай казкі пра зачараванага Музыку, пра Мядзведзя, што задумаў у цёмным лесе ажаніцца, пра Мухамора, які, на смех усім грыбам, узяў ды заснаўся... І сёння паэт час ад часу — на жаль, толькі мала — звяртаецца да свайго маленькага друга, піша вясёлыя вершы ды казкі.

Не абмінаюць малых сваёй увагай такія майстры паэтычнага слова, як Максім Лужанін, Аляксей Пысін, Анатоль Вялюгін, Сяргей Грахоўскі, Канстанцыя Буйло, Міхась Калачынскі. Многа і з поспехам працуе паэтэса Эдзі Агняцвет.

З празаічных кніг апошняга часу светла згадваюцца «Мядовыя краскі» Алеся Рылько, «Вайна каля Цітавай копанкі» Івана Навуменкі — таленавітыя аповесці пра любоў да прыгожага, пра шчасце дружбы. Сюды ж можна аднесці паэтычную кнігу апавяданняў Івана Грамовіча «Сонца скрозь воблакі», школьныя аповесці Міколы Гамолкі, апавяданні Аркадзя Чарнышэвіча, аповесць Уладзіслава Нядзведскага з жыцця пасляваеннага дзіцячага дома «Хлопцы з другога корпуса».

Таленавітая пісьменніца Алена Васілевіч апублікавала нядаўна аўтабіяграфічную тэтралогію, аповесці якой — «Расці, Ганька», «Доля цябе знойдзе», «Новы свет» і «Пачакай, затрымайся...» — вельмі прыхільна сустрэты і дзецьмі і дарослымі. Цікава, з сардэчнай шчырасцю і сталым розумам расказвае ў іх пісьменніца пра нялёгкі, але прыгожы лёс дзяўчынкі, якая ўваходзіла ў жыццё ў знамянальны і складаны час станаўлення Савецкай улады, гаворыць пра гэты час нямала новага, убачанага ў глыбінцы жыцця чыстым вокам маленства і юнацтва.

Сяды-тады вяртаецца ад сваіх раманаў да дзіцячай літаратуры Іван Шамякін. Нядаўна ён напісаў гістарычную аповесць для юнацтва «Першы генерал», у якой вядзе свайго юнага героя праз агонь імперыялі-

стычнай вайны, Кастрычніцкай рэвалюцыі і вайны грамадзянскай.

Тэматычна блізкімі можна назваць тут аповесць Сяргея Грахоўскага «Рудабельская рэспубліка» і аповесці Уладзіміра Мехава «Сцяг над рэўкомам», «Апошняя яўка» і «Чырвоны губернатар» — творы дакументальна-мастацкія, якія добра расказваюць юнаму чытачу пра герояў, што змагаліся за наш сённяшні дзень з царызмам, інтэрвентамі і контррэвалюцыяй.

Калі гаварыць пра літаратуру пазнавальнага характару, дык тут раней за іншых згадваецца Віталь Вольскі, адна з апошніх кніг якога, «Падарожжа ў краіну беларусаў», спадабалася і нашаму чытачу і выйшла за межы рэспублікі. Добрага слова заслугоўваюць такія цікавыя і павучальныя кнігі, як «Ад роднае зямлі» Сцяпана Александровіча — расказ пра маленства Якуба Коласа, кніга пра трактарны завод «Магутны твой зямляк» Анатоля Чаркасава, «Падарожжа ў калгас» Паўла Місько і некаторыя іншыя.

Трэба сказаць, аднак, што ў жанры дакументальнай прозы для дзяцей найбольшай нашай бядой была і застаецца пакуль што адсутнасць высокамастацкіх біяграфій нашых славутых землякоў. Мы яшчэ не расказалі як след нашым дзецям і моладзі пра выдатнага беларускага асветніка, першадрукара Ф. Скарыну, пра легендарнага рэвалюцыянера, аднаго з кіраўнікоў паўстання 1863 года Кастуся Каліноўскага, пра Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, пра выдатнага паэта і абаяльнага чалавека Францішка Багушэвіча, нялёгкі і багаты лёс якога быў цесна звязаны з жыццём і барацьбой за лепшае заўтра беларускага, украінскага, польскага, рускага і літоўскага народаў. Мы не расказалі яшчэ належным чынам пра жыццё і дзейнасць беларускіх герояў Кастрычніка і Вялікай Айчыннай вайны, імёны якіх назаўсёды ўпісаны ў гісторыю ўсёй Савецкай краіны. Пэўныя захады ў гэтым кірунку прымаюцца, і ёсць падставы спадзявацца, што і гэты, кажучы яшчэ раз услед за Коласам, таксама «прыкры прабел» хутка будзе запоўнены добрымі творамі.

З даволі вялікай колькасці кніжак для самых маленькіх апошнім часам прыемна вылучаюцца зборнік

апавяданняў Васіля Хомчанкі «Зімовы дождж», паэтычныя зборнікі «Перапёлка» і «Грыб-парасон» Дануты Бічэль-Загнетавай, «Будзільнік» і «Вясёлыя дзятлікі» Станіслава Шушкевіча, «Раскідач» Рыгора Барадуліна.

Васілю Хомчанку, аўтару цікавых дзіцячых апавяданняў і аповесцей, найлепш удаюцца апавяданні для найменшых. Лепшыя з іх нагадваюць класічныя ўзоры — апавяданні М. Прышвіна і Л. Талстога, нагадваюць сваёй празрыстасцю, немнагаслоўнасцю, сур'ёзнасцю задумы і чысцінёй мовы, без сентыментальнасці — лютага ворага дзіцячай літаратуры.

Вершы Дануты Бічэль-Загнетавай па сваёй лаканічнасці і паэтычнай свежасці шчасліва блізкія да нашага дзіцячага фальклору, цудоўнай і несмяротнай творчасці шматлікіх пакаленняў беларускіх бабуль і матак. Вершы гэтыя і песенна пяшчотныя, і казачна мудрыя, і ў той жа час яны — арыгінальныя, выношаныя ў душы таленавітай паэтэсы, філігранна апрацаваныя нястомнай і спрытнай жаночай рукою.

Нямала добрых вершаў для дашкольнікаў напісаў адзін з нашых ветэранаў гэтай пачэснай справы Станіслаў Шушкевіч. Новымі сваімі зборнікамі для маленькіх паэт зноў хораша засведчыў, што ён умее бачыць свет у «дробязях», у мностве паэтычных мікрасветаў, праз якія ідзе ў маленстве пазнаванне вялікага жыцця, умее і можа дапамагаць свайму чытачу пазнаваць жыццёвыя таямніцы разумна і весела. Большасць вершаў С. Шушкевіча і дарослы чытае з удзячнай усмешкай.

Рыгор Барадулін — паэт яркага, самабытнага таленту. Іскрыстая радасць жыцця, любоў да яго, дасціпнасць і весялосць, высокае майстэрства паэтычнага радка — гэтыя якасці сваіх «дарослых» вершаў і паэм Барадулін лёгка і ўдала перанёс у лепшыя вершы для дзяцей.

Добра дэбютавалі ў паэзіі і ў прозе для маленькіх Вера Вярба і Даір Слаўковіч. Цікава пішуць для іх паэты Васіль Зуёнак, Алег Лойка, Іван Муравейка, празаікі Уладзімір Юрэвіч, Вісарыён Гарбук і некаторыя іншыя.

Знаёміць маленькага і юнага чытача з лепшымі творамі літаратуры для дзяцей, напісанай на мовах

народаў свету,— справа вялікая і вельмі сучасная. Прыемна адзначыць, што ў гэтым сэнсе ў нас, беларусаў, таксама ёсць свае поспехі. Для ілюстрацыі зробленага назаву толькі выдатныя пераклады з італьянскай, украінскай, польскай, балгарскай, французскай паэзіі і прозы, зробленыя на высокім прафесійным узроўні Язэпам Семяжонам, Анатолем Вялюгіным, Аляксеем Зарыцкім, Нілам Гілевічам, Эдзі Агняцвет і іншымі нашымі майстрамі мастацкага перакладу. Прыемна адзначыць таксама, што ў нас ёсць шчырае жаданне справу гэтую як мага больш дасканаліць і пашыраць.

...Успамінаюцца вочы — мноства чыстых дзіцячых вачэй, вясёлых і дапытлівых. І мне даволі часта даводзілася стаяць перад імі — у многіх школах, летніх лагерах і дамах піянераў, у беларускіх гарадах і вёсках, далёка ў падарожжах — недзе ў Бірабіджане, у Латгаліі, у Кіеве, Вільнюсе, Магнітагорску... Даводзілася трымаць адказ перад строгімі суддзямі, якіх не падкупіш добранадзейнай сумотай, надзённасцю тэмы, якім трэба шчырасць за шчырасць, якім давай сапраўднае, цікавае, вясёлае, і — як найбольш. Часта даводзілася шкадаваць, што ты так мала робіш для гэтага цудоўнага народа, зайздросціць тым таварышам, каму не брыдка на такім судзе, перад мілым святлом гэтых чыстых вачэй...

Гаворачы цяпер пра поспехі нашай беларускай дзіцячай літаратуры — гаворачы няпоўна і, магчыма, трохі суб'ектыўна,— я думаю ўвесь час, ці не замала ў нас сапраўдных поспехаў і як многа мы павінны, абавязаны зрабіць.

*1971*

# ГЕРОЙ І «ПУНКЦІРНЫ» ПЕРСАНАЖ [1]

Хачу сказаць, перш за ўсё, што таджыкскую літаратуру я ведаю недастаткова добра. Літаратура гэта вялікая, яна патрабуе пільнай увагі да сябе, знаёмства з жыццём рэспублікі, ведання мовы. Права на выступленне дае мне адно — мая даўняя любасць да вашай літаратуры, да вашай краіны, народа, да вас, дарагія сябры таджыкі. Голас таджыкскай літаратуры ў шматгалосым хоры нашай савецкай літаратуры я слухаю вельмі ахвотна. І мне прыемна, калі называюцца знаёмыя імёны і кнігі, прыемна думаць, што я іх таксама ведаю...

Успамінаюцца словы Льва Талстога, калісьці мною прачытаныя. Сэнс іх у тым, што, беручы ў рукі любую кнігу любога жанру, перш за ўсё задаеш сабе пытанне: хто ж ты такі і што ты мне новага скажаш? Можна дадаць ад сябе і такое: што ж ты мне скажаш пра свой народ і як ты гэта скажаш?

Спадзяюся, што буду не адзінокі, хвалячы кнігу, якая была для мяне сапраўдным адкрыццём. Гэта раман Хасана Ірфона «У хацінах кустароў».

Тут Мірзо Турсун-задэ гаварыў, што дамуло Садрыдзін Айні лічыў сябе вучнем Максіма Горкага. Пра раман Ірфона нялёгка сказаць, у якой традыцыі ён напісаны — у традыцыі аўтабіяграфічнай прозы Горкага ці ў традыцыі ўспамінаў Айні. Прасцей сказаць, што раман «У хацінах кустароў» знаходзіцца ў рэчышчы традыцый вялікай таджыкскай і вялікай рускай літаратур. Аўтар нетаропка, скупа і ярка расказвае пра родную зямлю, пра жыццё простага чалавека, працаў-

[1] Выступленне ў Душанбе на абмеркаванні таджыкскай прозы.

ніка і пакутніка, у старым, дасавецкім Туркестане. І расказ гэты гучыць сучасна: гаворачы пра цяжкае мінулае, аўтар у глыбокім і светлым падтэксце ненастырна і свежа, па-новаму праводзіць думку пра сённяшні дзень свайго народа. Кніга чытаецца з цікавасцю. Добра гучыць яна па-руску, у перакладзе Сары Шчукінай.

Хачу таксама сказаць пра пісьменніка, з якім пазнаёміўся некалькі год таму назад, калі на старонках «Дружбы народов» была апублікавана яго аповесць «Падарожжа на той свет». Цяпер я перачытаў гэтую рэч і яшчэ раз пераканаўся, што аповесць — добрая. Вясёлая, вострая, разумная. Тая акалічнасць, што яе прыемна было не толькі чытаць, але і перачытваць, сведчыць, што проза Фаслідзіна Мухамадзіева па-сапраўднаму таленавітая.

Я з прыемнасцю пазнаёміўся таксама з новай кнігай яго апавяданняў і аповесцей.

У вашай літаратуры, таварышы таджыкі, доўгі час вялася гутарка пра разняволенне жанчыны. У аповесці «Дамок на ўскраіне» Мухамадзіеў гаворыць... пра «заняволенне» мужчын таджыкаў. Весела гаворыць, з уласцівым яму гумарам. Пра новую жанчыну, пра новую таджыкскую сям'ю, шчаслівую і дружную. Добра, ненадакучліва, пераканаўча расказвае аўтар і пра жыццё народа, як у кроплі вады паказваючы гэтае жыццё канкрэтна, у рамцы будняў гарадской рабочай ускраіны.

Многа можна ўбачыць, калі ісці да людзей з адкрытым сэрцам і вострым позіркам сапраўднага мастака.

Я люблю апавяданні, сам іх пішу і таму з асаблівай цікавасцю чытаю апавяданні іншых празаікаў. Прыемна адзначыць выдатнае апавяданне Мухамадзіева «Пахаванне ўсто Акіла». У падтэксце яго мудра сказана, што кожны з нас, хто лічыць сябе патрэбным народу, хто сябе лічыць майстрам, той павінен памятаць, што майстэрства неабходна перадаваць людзям, а то інакш яны такога майстра выракуцца. Дарэчы, гэтая простая і глыбокая думка ёсць і ў рамане Ірфона, дзе добра, і пераканаўча вымаўляецца гордае акрэсленне: майстар — чалавек, які выдатна ведае сваю справу.

Мне спадабалася таксама апавяданне Мухамадзі-

ева «Дарога». Але хачу быць зусім шчырым і адзначыць, што дзяўчына, гераіня апавядання, увесь час незразумела, ненатуральна баіцца свайго спадарожніка шафёра. Паасобныя месцы робяць проста дзіўнае ўражанне, прымушаюць зноў думаць пра... неабходнасць разняволення таджычкі, цяпер ужо да таго ж... з вышэйшай адукацыяй. А шафёр напісаны, так сказаць, пункцірам, толькі як дапаможны персанаж. Не на ўсю сілу Мухамадзіеў зрабіў гэтае апавяданне, варта яму пераглядзець, перапісаць яго.

Скажу трохі пра аповесці маладых аўтараў Мухіддзіна Хаджаева і Джумы Адзінаева. Гэтыя аповесці я прачытаў у рукапісах.

Ёсць, здаецца, у таджыкаў такая прыказка: калі старэйшы гаворыць глупства, малады павінен маўчаць. Прыказка, трэба сказаць, старая. Маіх маладых сяброў прашу не маўчаць, калі я скажу што-небудзь не тое, але абараняцца, не аддаваць сваіх пазіцый, калі пазіцыі тыя вартыя абароны. Нялёгка мне меркаваць пра ўсе вартасці прачытаных рэчаў: у абодвух выпадках гэта падрадкоўнікі, што адчуваецца адразу і да канца.

Дрэнныя справы ў нас з рабочай тэматыкай. Ва ўсёй савецкай літаратуры. Яна настолькі патрэбная, што на тэмы такія звычайна даецца скідка. Скідка на важнасць яе. А гэтага, па-мойму, рабіць не трэба. Такая практыка не памагае павышэнню ўзроўню літаратуры.

У аповесці Джумы Адзінаева «Стракатыя старонкі», напісанай з прыкрай паспешлівасцю, што, як вядома, не мае нічога агульнага са сцісласцю, характэрнай для добрай прозы, прыкметна парушана стройнасць кампазіцыі. У другой палавіне размова з галоўнага героя зусім нечакана пераходзіць на другараднага — дырэктара прадпрыемства, прайдзісвета, на якога аўтар абрынае ўвесь свой «публіцыстычны» гнеў. Назойліва, без патрэбы шчодра падкрэсліваецца п'янства і брыдкая лаянка... Аўтар вельмі прыкметна пахваляецца гэтай «праўдзівасцю», раздражняючы чытача, адводзячы яго ад галоўнага.

Аповесць Мухіддзіна Хаджаева «Сэрца сэрцу вестку падае», па-мойму, лепшая за «Стракатыя старонкі» Адзінаева. Тут галоўны герой — хлопчык, які закон-

чыў школу і вырашыў папрацаваць, увайшоў у рабочае асяроддзе. Нядрэнна напісаны аўтарам і гэты хлопчык, і асяроддзе. Аповесць у добрым сэнсе слова лірычная, чыстая, без лішне ружовых фарбаў. Аднак — зноў жа, як і ў Адзінаева,— вельмі, да раздражнення прыкметна, што аўтар надта спяшаецца. Матэрыял, які ён сяк-так уціснуў у некалькі дзесяткаў старонак, патрабуе значна большага месца. І яшчэ адно — галоўны герой, жывы, сімпатычны падлетак, у другой палавіне расказу траціць сваю законную самастойнасць, пачынае быць персанажам дапаможным (як шафёр у апавяданні Мухамадзіева), які патрэбен аўтару толькі каб паказаць адносіны паміж героямі старэйшымі...

Спадзяюся, што заўвагі мае не вельмі засмуцяць маіх маладых калегаў. Я гаварыў, зыходзячы з самых добрых намераў: і мне хочацца, каб таджыкская літаратура пабагацела на новыя добрыя творы.

*1972*

# ПЕРШЫ ПРЫПЫНАК

Пяць гадоў розніцы ва ўзросце і дзесяць кіламетраў адлегласці паміж нашымі вёскамі не дазволілі нам пазнаёміцца раней, чым гэта адбылося ў партызанах, у Налібоцкай пушчы. Знаёмства стала дружбай не адразу, спачатку Валодзя пасябраваў з маім старэйшым братам Міхасём.

Танклявы, крыху важны ад сарамлівасці, то вясёлы, то порсткі, смелы ў небяспецы, юнак-партызан пасля вайны стаў студэнтам, у характар, у паводзіны якога спакваля прыйшло больш мірнага і сталейшага. Студэнт быў, вядома, ужо без каня, не ў доўгім кавалерыйскім шынялі, а ў нейкай іншай вопратцы, якая цьмяна помніцца мне толькі сваёй несамавітай цывільнасцю. Больш помніцца Валодзева любоў да кнігі, да мастацкага слова, яго здольнасць захапляцца прыгожым у слове, у песні, у музыцы, часамі да няпрошанай слязы.

Побач з кнігай была і яшчэ адна «слабасць» — фарбы, пэндзаль, загрунтаванае палатно. Ды гэта выяўлялася ўжо не пры мне, не ў Мінску, а ў дзвюх вёсках на роднай Наваградчыне, то ў Валодзевых Крынках, дзе яго бацька, славуты партызанскі «дзед Андрэй», загадваў вадзяным млыном, то ў Маласельцах, дзе жыў тады наш Міхась. І там, і там яны даволі часта, на летніх і зімовых канікулах, спаборнічалі ў маляванні, зноў жа больш гаворачы пра любімыя кнігі.

Да лета 1951 года ў нас з Валодзем былі толькі ўзаемныя гарадскія наведванні — ён гасцяваў у мяне дома, а я ў яго інтэрнаце, спачатку студэнцкім, пасля аспіранцкім. Потым пачаліся супольныя вандраванні. Спачатку па Беларусі. Пехатой, на веласіпедах, у лод-

цы. Роднае Наднямонне, ваколіцы Бабруйска, Піншчына. Разам працавалі ў архівах Вільнюса, Гродна, Слоніма, Брэста. Пазней, калі мы абжыліся тэхнікай, пайшлі падарожжы далёкія — Волга, Карпаты, Карэлія, Узбекістан... І, разам з тым, падарожжы бліжэйшыя, з даўжэйшымі прываламі — над Свіцяззю ці Кроманню, над Нёманам ці Шчарай — заўсёды найраднейшае, што, як вада і хлеб, не прыядаецца ніколі. Многа перагаворана ў той светлай цішыні, сам-насам з красою прыроды, многа было сустрэч з цікавымі людзьмі. Здорава гэта — быць найбліжэй да зямлі, да жыцця.

Валодзева здольнасць нястомна, на ўсю душу захапляцца прыгожым знайшла яшчэ адно выяўленне: ён стаў фатографам-мастаком, пра што вельмі нядрэнна сведчаць яго альбом «Між тых палёў» і шматлікія здымкі ў зборніках і перыядычных выданнях.

А любоў да мастацкага слова выявілася з часам у двух кірунках.

Уладзімір Калеснік (гэта ўжо неаднойчы гаварылася і да мяне) — таленавіты, грунтоўна падрыхтаваны і добрасумленны даследчык беларускай літаратуры. Ён аўтар кніг «Паэзія змагання» і «Час і песні», аўтар уступаў і пасляслоўяў у кнігах паасобных пісьменнікаў, артыкулаў у калектыўных навуковых працах, у часопісах і газетах, рэспубліканскіх і ўсесаюзных. Яго літаратурныя партрэты Міхася Васілька, Міколы Засіма і некаторых іншых паэтаў, застаючыся цікавым крытычным даследаваннем, знаходзяцца на самай блізкай мяжы добрай мастацкай прозы; пра гэтую схільнасць яшчэ больш выразна гавораць нарысы пра заслужанага настаўніка БССР М. Петрыкевіча, герояў заходнебеларускага рэвалюцыйнага падполля Я. Урбановіча і А. Альшэўскага, апублікаваныя раздзелы з дакументальнай аповесці пра Валянціна Таўлая.

З другога боку, Уладзімір Андрэевіч Калеснік — педагог, кандыдат філалагічных навук, дацэнт, загадчык кафедры беларускай літаратуры Брэсцкага педагагічнага інстытута. Расшыфроўваючы гэтую неабходную афіцыйнасць, прыемна нагадаць такое. Многім пісьменнікам, што выступалі ў гарадскіх і вясковых школах Брэстчыны, часта даводзілася сустракаць там маладых і ўжо не зусім маладых настаўніц і настаўнікаў, выкладчыкаў роднай літаратуры, якія добра ве-

даюць і любяць сваю справу. І вось амаль усе яны — выхаванцы Калесніка, педагога патрабавальнага і шчодрага, дастойнага людское ўдзячнасці. Выкладчыкам працуе ён ужо дваццаць гадоў.

Сваё юбілейнае слова я разумею як абавязак расказаць чытачу «Маладосці» пра чалавека, у якога была прыгожая маладосць, які цяпер — шчыры друг усяго маладога, імклівага, чыстага.

Спачатку пра першае — як ён хораша быў маладым. Хто захоча ў гэтым упэўніцца, таму варта зазірнуць у кнігу пісьменніцкіх аўтабіяграфій «Пра час і пра сябе», дзе Уладзімір Калеснік успамінае сваё маленства ў беднай, глухой прыпушчанскай вёсцы, сваё імкненне да святла з цемры прыгнёту ў былой, буржуазнай Польшчы. Шчыра і сціпла ўспамінае, асабліва сціпла там, дзе гаворыць пра свой удзел у партызанскім змаганні. Неабходна дадаць, што партызанам стаў ён фактычна ў першыя дні Вялікай Айчыннай вайны, калі, да глыбіні душы ўражаны нашым, незразумелым тады, адступленнем, дапамагаў акружаным савецкім воінам на пераправах, насіў ім хлеб і малако, перавязваў і хаваў ад варожага вока параненых. Не адзін, вядома, а з сябрамі-камсамольцамі. Адразу ж яны пачалі збіраць і старанна захоўваць зброю, у чысціні юнацкай верачы, што зброя гэтая прыдасца. Яна прыдалася ім вясною наступнага года, калі трэба было ўзбройваць першыя партызанскія групы, а крыху пазней, улетку, узброіцца і самім. Мінёр, які ведае, як гэта няпроста і як радасна — кульнуць пад адхон варожы цягнік; кулямётчык, што неаднойчы заглядваў у вочы смерці; камандзір узвода, пасля начальнік штаба атрада, двойчы паранены. А ў душы — летуценнік, мастак, які свае мары, імкненні падпарадкаваў адной толькі мэце — перамозе над заклятым ворагам.

Вельмі проста можна сказаць або падумаць, што такіх, як гэты юнак, у той час было многа. Так, многа, тысячы тысяч мужчын і жанчын, маладосць якіх упрыгожана самаадданым змаганнем за нашу перамогу. І ад таго, што кожны з іх быў не адзін, а з сябрамі па зброі, лёс кожнага, як жывая часціна лёсу ўсяго маладога ваеннага пакалення, прыгожы і павучальны па-свойму.

Сёе-тое ў гэтым жа сэнсе можна сказаць і пра першых пасляваенных студэнтаў, нядаўніх партызанаў і франтавікоў, дзяўчат і хлопцаў, яшчэ з незадаўненым ныццём у ранах і з гулам гармат у вушах. Нялёгкай была іх вучоба ў разбураных гарадах, у сяк-так аднаўленых сценах інстытутаў. А ўсё ж яны тыя дні ўспамінаюць цяпер і весела, і з гордасцю. Законнай.

Такім быў працяг ваеннай маладосці і ў Калесніка.

Некалькі слоў пра яго як пра друга ўсяго маладога.

На юбілеях, не толькі тады, калі імянінніку, як у гэтым выпадку, толькі пяцьдзесят, але і тады, калі яму ледзь не ўдвая больш, прынята пацяшаць чалавека яго прыблізнай, а то і ўяўнай маладосцю. А маладосць бывае толькі адна. І шчасце таму, у каго яна была чыстая, багатая, прыгожая. Аднак жа, праўда і тое, што шчаслівы і той, хто ў сталасці сваёй ад душы дапамагае жыць прыгожа маладым.

Уладзімір Калеснік ведае гэтае шчасце як педагог, закаханы ў сваю пачэсную, высакародную працу, і як пісьменнік, які ўжо нямала гадоў паспяхова кіруе брэсцкім літаратурным аб'яднаннем, аддаючы свае веды, свой вопыт, шчырасць свае паэтычнай душы пачаткоўцам — празаікам і паэтам. Пра гэта могуць сказаць і кажуць нямала добрага Міхась Рудкоўскі, Ніна Мацяш, Алесь Разанаў, Жэня Янішчыц, Васіль Жуковіч, Мікола Купрэеў і некаторыя іншыя літаратары, у той ці іншай меры ўжо вядомыя чытачу, здольная моладзь, першыя крокі якое на шляху служэння роднай справе мастацкім словам звязаны з імем іх добрага друга — Уладзіміра Андрэевіча.

Ды і ў сваёй літаратурнай працы Калеснік не выпадкова так прыкметна схільны да апявання гераізму маладых. Паэзія маладога Максіма Танка, кароткае і яркае жыццё і творчасць Валянціна Таўлая, тыя ж арлы Урбановіч, Альшэўскі...

Добра таму, хто і ў сталасці любіць усё маладое, і сам ад гэтага без пары не старэючы.

Быць табе, дружа Валодзя, такім і далей! Бо што там пяцьдзесят гадоў — усяго толькі першы прыпынак, на якім дазволена азірнуцца назад, падумаць пра вынікі пражытага.

*1972*

# ААДУ ХІНТ, «АПОШНІ ПІРАТ» [1]

Прачытаўшы гэты невялікі, але ёмкі зборнік, міжволі хочаш спытацца:

Чым жа растлумачыць тое, што гэтыя па-сапраўднаму добрыя апавяданні і нарысы толькі цяпер, у паасобных выпадках гадоў праз сорак пасля напісання, выдадзены ў рускім перакладзе, упершыню такім чынам прапануюцца ўсесаюзнаму чытачу? Ці аўтар такі ўжо сціплы, ці так заняты быў вялікай працай, што не хапіла часу паклапаціцца і пра драбнейшае?

Відаць, і адно, і другое. Вялікая праца — гэта тэтралогія «Бераг вятроў», якую Хінт пісаў на працягу 1929—1965 гадоў, а сціпласць аўтара вельмі натуральна прысутнічае ў яго слове ўсюды і заўсёды, у зайздросным спалучэнні з пачуццём уласнай годнасці грамадзяніна і чалавека. Яшчэ раз успамінаецца мудрасць, народжаная вялікім вопытам і глыбокім роздумам над прыродай творчасці: пісьменнік павінен многа працаваць, але не спяшацца. Без мітусні, без ліслівасці перад чытачом, лішне не мудрагелячы над знешнасцю літаратурнай формы, пісьменнік Хінт гаворыць пра тое, пра што не можа не гаварыць, і, паважаючы свайго чытача, выклікае ў душы яго ўзаемную павагу і ўдзячнасць.

У апошнім апавяданні зборніка, «Пра мой экслібрыс...», А. Хінт так гаворыць пра сябе, пра свой пісьменніцкі почырк:

«Я лічу сябе не столькі белетрыстам, стваральнікам мастацкай літаратуры, як рэалістам, пісьменнікам жыцця».

---

[1] Напісана для часопіса «Литературное обозрение».

Дапаўняючы гэтае самаакрэсленне збоку, па праву ўдзячнага чытача, можна сказаць: не проста пісьменнікам ідзе Ааду Хінт да нас, але пісьменнікам таленавітым, арыгінальным, вельмі эстонскім і, адначасна, цікавым і патрэбным кожнаму, хто прачытае гэтыя апавяданні, у любым кутку нашай Савецкай краіны. І яшчэ не ўсё — такое слова пра Эстонію, пра эстонскі народ, сурова паэтычны, працавіты, мужны, заслужана паважаны ў нашай савецкай сям'і, такое праўдзівае і дакладнае слова мае поўнае права з'явіцца перад чытачамі ўсёй зямлі.

Апавяданні «Аблога Пэйдэ» і «Дзікія гусі», як быццам старадаўнія сагі панурай марской поўначы, цудоўна пераносяць чытача ў далёкае мінулае Эстоніі, што ў нялёгкім змаганні мужна адстойвала сваю свабоду і незалежнасць. З гэтымі сагамі своеасабліва пераклікаюцца «Ледаход», «Браты», «Поўны наперад!» — апавяданні рамантычна, легендарна прыўзнятыя, аднак укаранелыя ў роднай зямлі сваёй нібы празаічнай праўдзівасцю, сваім суровым і прыгожым рэалізмам крывавых, страшэнна напружаных будняў Вялікай Айчыннай вайны.

Шчырай сімпатыяй да чалавека працы, да яго выпрабавання ў нягодах маральнага здароўя вызначаюцца апавяданні «23 ліпеня 1932 года», «Ісус з'явіўся», «Пра прыкладнага хлебароба» і асабліва — «Ты, месяц і мама», цудоўнае апавяданне, што ўспрымаецца як яшчэ адно сцверджанне правільнасці таго, што «пра маці можна расказваць бясконца».

Сілай, якая развенчвае ханжанства і сцвярджае права маладосці на чыстае каханне, азначана апавяданне «Абсалютная чыстасардэчнасць».

Знешне простыя, але значныя па зместу апавяданні «Злачынства і пакаранне», названае ўжо «Пра мой экслібрыс...», «Чытаючы «Старога і мора». Па-народнаму вясёлая, вострая хітрынка, светлы сум працавітай, сумленнай старасці, дакладней — прадчуванне, што яна набліжаецца,— за гэтым, у падтэксце, уцешна праглядваецца спакойная, велічная мудрасць вечнасці, да якое можна далучыцца толькі самааддана працай дзеля агульнага шчасця. Для пісьменніка гэтая праца — яго слова. У гэтым сэнсе, пра несмяротнасць са-

праўднага слова, добра сказана ў апавяданні «Чытаючы «Старога і мора»:

«Працуючы над аповесцю, ствараючы сваю «вялікую рыбіну», Хемінгуэй быў значна шчаслівейшы за свайго героя. І кніга яго не нейкі абгрызены шкілет, а цудоўная паэма ў прозе, якая адначасова і напоўнена веданнем жыцця, і насычана жыццёвымі сокамі. Вось і мы, тры памараніны на другім баку акіяна, чэрпалі сабе з гэтай кнігі і смеласці, і новых сіл, каб лавіць у жыцці свае «рыбіны».

Да такой літаратуры, безумоўна, належыць і кніга «Апошні пірат». Многія старонкі яе хвалююць чытача высокім чалавечым хваляваннем, клічуць да актыўнага жыцця, да творчай працы.

*1972*

# ПАЭТ І ЧАЛАВЕК [1]

Брашурка, надрукаваная на пажаўцелай ад часу газетнай паперы з такой жа слабенькай, малапрыкметнай вокладкай. Выдадзеная на Вялікай зямлі, брашурка гэтая, разам з газетамі і лістоўкамі, разам з патронамі і толам, пабывала ў партызанскім тыле, на ўзбраенні народных мсціўцаў. З хваляваннем бярэш яе ў рукі цяпер, гартаеш, перачытваеш даўно знаёмае, прыпамінаеш першае ўражанне. Вершы. Два дзесяткі вершаў, адзін друкаваны аркуш. Першая кніга Васіля Віткі, тады яшчэ толькі Цімоха Крысько,— «Гартаванне», якая выйшла ў Маскве ў пачатку 1944 года.

Гэты невялічкі зборнік меў і мае права лічыцца кнігай — амаль усе яго вершы не састарэлі разам з паперай, на якой яны надрукаваны ўпершыню, не адышлі ў гісторыю, адслужыўшы сваю службу ваеннага часу.

Знаёмства з творчасцю В. Віткі пачалося ў мяне з гэтага зборнічка вершаў, а ўражанне новага, сапраўднага ў паэзіі застаецца свежым і дагэтуль, вось ужо хутка тры дзесяцігоддзі.

Увосені таго ж нялёгкага і радаснага сорак чацвёртага года, у зруйнаваным Мінску, прыйшлося пазнаёміцца з самім паэтам. Не надта гаваркі, але даступны і спагадлівы, Вітка тых дзён амаль заўсёды выклікае ў маёй памяці вобраз другога пісьменніка і чалавека, знаёмства з якім было для мяне тады і засталося давеку радасным адкрыццём. Кузьма Чорны. Яны сябравалі. У іх мне бачылася і сёння бачыцца штосьці агульнае, блізкае. Гэта і любасць да роднай зямлі, да

---

[1] Прадмова да двухтомніка выбраных твораў Васіля Віткі.

чалавека працы, і ўменне пранікаць у глыбіні чалавечай душы і таямніцы народнага слова, гэта і сціпласць, прастата, па-народнаму здаровы і чысты гумар, прыроджаная культура паводзін — якасці, што так спрыяюць шчырасці ў адносінах.

Не выпадкова, што сярод успамінаў пра Чорнага і даследаванняў яго творчасці тое, што напісана Віткам, займае сваё асаблівае месца, прываблівaючы не толькі належным разуменнем чорнаўскага слова, але і яркімі накідамі партрэта пісьменніка і чалавека, значэнне якога з гадамі раскрываецца ўсё больш ды больш выразна.

Неяк улетку 1946 года Цімох Васільевіч вярнуўся з роднай Случчыны і ў цесным рэдакцыйным пакойчыку мы, літаратары, нікім не арганізаванай кампаніяй слухалі і абмяркоўвалі яго новыя вершы. Прыемна ўспамінаецца тая здаровая атмасфера пасляваеннай творчай дружбы, радасці за сябраў поспех. Цяпер, убачыўшы гэтыя вершы ў новым перавыданні, з задавальненнем перачытваеш і іх. У маім пазнаванні Віткі мастака слова іх мірная, зямная і сонечная паэзія — штосьці накшталт другога пасля «Гартавання» этапа.

Трэцім своеасаблівым этапам была паэма-казка «Вавёрчына гора», якая стала пачаткам найбагацейшага раздзела ў творчасці нашага сябра — яго паэзіі і прозы для дзяцей. За два дзесяцігоддзі пасля з'яўлення гэтай паэмы Васілём Віткам напісаны «Буслінае лета», «Казка пра цара Зубра», кніга вершаў «Дударык», «Азбука Васі Вясёлкіна», зборнік апавяданняў «Зайчык-вадалаз», выдатная «Чытанка-маляванка» — кніга вершаў, загадак, лічылак, пацешак і казачак для малодшага ўзросту.

Як мне бачыцца тое, што Вітка піша для дзяцей?

Раскошны, жыццярадасны свет казачных герояў — ад вавёрачкі і зайца да мядзведзя і зубра — свет вядомы нам даўно, пазнаны як быццам поўнасцю і да найменшай драбніцы, зноў, па праву таленту і любві, паўнаўладна мабілізаваны яшчэ адным чараўніком на вялікую службу дзецям, іх чыстай радасці, нястомнай і абаяльнай дапытлівасці, іхняй празе пазнання дабра і зла. Увесь гэты свет зноў прыведзены ў разумны рух творчай фантазіяй яшчэ аднаго майстра высокага

класа, надзейна ўзброены яркім і скупым, вясёлым і мудрым словам, увесь гэты шматфарбны і шматгалосы свет жыве сваім арыгінальным беларускім жыццём. Як і ўсякая сапраўдная паэзія, захоўваючы свае нацыянальныя асаблівасці, паэзія гэтая, як свая, прымаецца чытачом не толькі беларускім і не толькі дзіцячым.

Не вельмі часта, але не здаючы пазіцый, выступае Вітка як паэт «дарослы», адзін з нашых лепшых паэтаў старэйшага пакалення, аднак, гаворачы пра яго, мы перш за ўсё цяпер успамінаем светлую радасць малечы, яе сардэчны смех і бляск захопленых вачэй, што многім з нас неаднойчы даводзілася бачыць і чуць на Віткавых сустрэчах з дзецьмі. Я, напрыклад, назіраў гэта з сяброўскай зайздрасцю і ў Мінску, і на Палессі, і ў Латвіі, і на Урале...

Яшчэ адным своеасаблівым этапам у творчасці Віткі, у нашым пазнаванні сябравых магчымасцей было з'яўленне ў канцы пяцідзесятых гадоў яго таленавітых апавяданняў. І гэтаму жанру пісьменнік служыць ахвотна і паспяхова, час ад часу радуючы аматараў роднай літаратуры свежасцю слова, пачуццяў і думак. У другім томе гэтага выдання, у раздзелах «Чмяліны мёд» і «Познія палыны», змешчаны апавяданні і замалёўкі на розны чытацкі ўзрост, але з адной нязменнай адзнакай — самабытнага таленту і светлай чалавечнасці. Трэці раздзел, «Паміж людзей добрых»,— проза аўтабіяграфічная, удумлівы, шчыры расказ пісьменніка пра час, у які яму давялося несці службу Радзіме, і пра людзей, з якімі яму пашанцавала быць блізкім. Асабліва ўдаліся аўтару партрэты Кузьмы Чорнага — і ў нарысах пра яго, і ў замалёўках «Лісткі трывожных дзён»,— Міхася Лынькова, Уладзіміра Дубоўкі, Міколы Лобана, выдатнага ўкраінскага педагога і пісьменніка Васіля Сухамлінскага і некаторых іншых.

Такая проза, вельмі патрэбная і пакуль што не вельмі багатая ў нас, чытаецца з асаблівым задавальненнем і карысцю.

Добры паэт, празаік, выдатны дзіцячы пісьменнік — гэтага, здаецца, зусім дастаткова, каб мець права называцца літаратарам. Аднак уяўленне пра Вітку будзе няпоўным, калі не ўлічваць яго спробы ў дра-

матургіі і пастаянныя, не такія ўжо і рэдкія, выступленні ў перыядычным друку з публіцыстычнымі і крытычнымі артыкуламі, упершыню ды часткова сабранымі ў кнігу толькі ў гэтым выданні.

У сваіх выступленнях, вусных і друкаваных, якія помняцца старэйшым і маладзейшым удзельнікам нашага літаратурнага жыцця за блізу трыццаць пасляваенных гадоў, Васіль Вітка заўсёды быў варты пашаны за сваё сур'ёзнае стаўленне да святое справы служэння народу мастацкім словам, за свой тонкі густ, грунтоўную адукаванасць і смелую шчырасць у ацэнках. Часамі гэта сяму-таму здавалася то «завострым», то «засуб'ектыўным», але, як паказаў найлепшы суддзя — час, у большасці ацэнкі паасобных з'яў у дакладах і артыкулах В. Віткі і сёння не выклікаюць пярэчання. Праўда, часамі яму (а ці толькі яму?) шкодзіла трохі «злоба дня», пэўная модная ў той ці іншы час павярхоўнасць у вырашэнні тэм і пытанняў, аднак такіх выпадкаў, такіх «выдаткаў вытворчасці» параўнальна няшмат. Асноўным было і ёсць галоўнае. Добра чытаюцца яго агляды творчасці маладых, рэцэнзіі на паасобныя творы паэзіі, прозы і драматургіі, напісаныя ў розны час, і пяць, і дваццаць пяць год таму назад. Прыемна ўспрымаецца тая заклапочанасць лёсам не толькі літаратуры, але і станам сумежных галін беларускай савецкай культуры, заклапочанасць, якую аўтар выяўляе з добрым веданнем і жывапісу, і графікі, і музыкі, і тэатра. У артыкулах «Некалькі слоў аб фальклоры», «Народная паэма» і некаторых іншых Вітка выступае цікавым, падрыхтаваным даследчыкам літаратуры. Як пра добрага педагога думаеш пра яго, чытаючы артыкулы «Шчасце быць настаўнікам», «Сэрца аддаю дзецям», «Увага — малююць дзеці», лепшае ў раздзеле «Дыялогі з унучкамі». Здольным публіцыстам выяўляецца ён і ў ваенным усхваляваным «Слове да маці», і ў інтэрв'ю «Бацькі і дзеці, дзяды і ўнукі», і ў выступленнях з нагоды святаў дружбы — «Пут, веіні!», «Салом табе, Узбекістан!», і ў дзённікавым роздуме «Чалавек, натоўп, мода...».

У нашым літаратурным асяроддзі і на сустрэчах з чытачамі можна было часамі пачуць, што Васіль Віт-

ка належыць да тых пісьменнікаў, якія, на жаль, пішуць менш, чым маглі б. І я сяды-тады згаджаўся з гэтым меркаваннем. Цяпер жа, пасля азнаямлення з гэтым двухтомнікам, з ідэйнай напоўненасцю яго зместу і дасканаласцю формы, думку тую поўнасцю адхіліла адчуванне шчырай павагі да старэйшага калегі і таварыша — пісьменніка, грамадзяніна, чалавека.

*1972*

# ЧЫТАЮЧЫ АПАВЯДАННІ ЧОРНАГА

«Пасля дзённага дажджу пахла жвіраванае каменне, *маўчалі платы і хаты»*.

Сказ — з «Вераснёвых начэй». Дакладна і пранікнёна напісана гэтае апавяданне. Як ён мудра любіў сваю гераіню з яе прыгожай спеласцю і красой, якая трошкі, не па сваёй віне, прыпазнілася з пераходам у час кахання і мацярынства. І верасень так хораша, сумна і трохі трывожна адпавядае настроям Агаты і нашаму ёй спачуванню.

* * *

Адзін цяжкавагавы навуковец казаў, што маё «Апоўначы» ідзе ні больш ні менш, а проста ад «Начлегу ў вёсцы Сінегах». Успомніўся і другі навуковец, які ўжо не за бяседным, а за пісьмовым сталом вывеў прамую залежнасць Коласавага «Рольніка» ад верша Шаўчэнкі «Садок вишневий коло хати»... Бывае і такое разуменне літаратурнага працэсу, уплыву былога на новае, роднасць у душах пісьменнікаў аднаго найважнейшага.

Не памятаю, ці Колас пісаў дзе-небудзь пра сваю любоў да таго Кабзаровага верша, аднак любоў такую, хоць трохі ведаючы нашага песняра, зусім няцяжка ўявіць. Ды няўжо ж аўтару «Новай зямлі» так ужо цяжка было самому ведаць, самому перажыць радасць таго «рольніка», які вясновым пагодлівым адвячоркам выйшаў палюбавацца, як узышло яго жыта?..

Люблю «Начлег у вёсцы Сінегах», лічу яго выдатным не толькі ў творчасці Чорнага, ды гэта аніяк не перашкаджае мне бачыць у жыцці сваё — па-свойму.

Велічная тэма — вайна і дзіця — не ўчора пачалася і не заўтра закончыцца.

* * *

«Па дарозе». Зноў адкрываю яго для сябе і зноў здзіўляюся, як гэта я такіх рэчаў як быццам не ведаў.

Успомнілася над кнігай, як я падлеткам перакладаў з польскай мовы на нейкую сваю (бо ні роднай, ні рускай добра не ведаў) кітайскае апавяданне Серашэўскага «Кулі», а пераклаўшы — чытаў маме і госці-сястры і... нечакана расплакаўся. Яны мяне разважалі, нават калюча-кплівая, вясёлая сястра, на дваццаць год старэйшая за мяне. І гэта ўспамінаецца так добра.

Братоў кулі было двух, яны дружылі, і гэта адпавядала нашай дружбе з братам Міхасём. Але ж там, у апавяданні, была яшчэ і краса, узвышаная краса чалавечнасці, туга па прыгожым, па дабраце, пачуцці ўжо знаёмыя і мне. Я быў дзівак, значыцца, я быў паэт. І застаўся ім, гатовы і сёння заплакаць, як нехта сказаў бы, зусім недарэчы.

Так было сёння ў таварыстве дружбы, дзе мы глядзелі з індусамі дакументальныя фільмы пра Беларусь, ваенных і пасляваенных дзён, з горам і радасцю выпрабаванняў і перамогі.

Такі настрой паўтарыўся цяпер над старонкамі Чорнага.

* * *

Патомны парабак. Быў бы ім, каб не Кастрычнік. Ці думаў, ці гадаў хто з ягоных бацькоў ды дзядоў, што з тое беспрасветнасці выйдзе вялікі мастак, які з найбольшым разуменнем, з найглыбейшым пранікненнем у тэму раскажа пра тую беспрасветнасць свайму народу і ўсяму свету?.. У гэтым штосьці такое прыгожае, значнае, пра што так няпроста сказаць на ўсю сілу, на ўсю глыбіню адчування.

Днямі я думаў,— здавалася, што з найбольшай, як дагэтуль, яснасцю,— як гэта няважна: колькі мець славы, таленту, а як важна правільна карыстацца сваімі магчымасцямі, рабіць іменна тое, што трэба.

Думка гэтая вярнулася цяпер, калі чытаю Віткава слова пра Чорнага. Чытаў я гэта і раней, але, відаць,

з меншай сілай прыёму, бо цяпер мне здаецца, што Чорнага пазнаю ўсё глыбей. «Вінаваты» тут і Адамовіч з яго «Маштабнасцю прозы», і сам Чорны, апавяданні якога я для душы, для яе раўнавагі адны чытаю, а другія перачытваю. Вось ужо некалькі дзён. Вінавата, магчыма, і яшчэ што-небудзь, пакуль не вельмі выразна ўсвядомленае...

Разумнасць нашых паводзін (што рабіць, як рабіць) павінна залежаць і ад той горычы, якую мы адчуваем даволі часта. Не лічачы людзей глухіх на яснасць нацыянальнай палітыкі, якую так неабвержна выказаў перад смерцю, з найбольшай глыбінёю, Ленін.

Вельмі добра, што будзе ў нас і такая проза: расказы пра нашых лепшых пісьменнікаў, жывыя і глыбокія. Гэта ўжо ёсць і ў Віткі: Чорны, Дубоўка, Лынькоў... І Сухамлінскі. З апошнім — не толькі братняе, украінскае, але і агульналюдскае. Так трэба пісаць і пра сваіх.

...Чорны кожную з'яву жыцця бачыў як сапраўдны мастак — у маштабах эпохі, гісторыі.

* * *

Калі мяне, хвалячы, называюць лірыкам, я адчуваю нейкую прыкрасць: што я вам — тэнар які, бяздумны і саладжавы?..

І цяпер падумалася так, калі разгарнуў Чорнага («Сцены») і пачаў ісці за яго думкай, такой сталай ужо ў дваццаць сем год.

* * *

На цэлы месяц — у лясным спакоі. Пакуль што толькі раскоша чытання. Ад Швейцара і Хікмета, праз маладога Алеся Жука, зноў да таго, каго ўсё пачынаю ды пачынаю разумець.

І нейкі смак да паперы і ручкі, як да яды пасля хваробы. Няўжо хутка буду пісаць? Няўжо ўсё тое, што цяпер раблю, што адбываецца са мною — патрэбна як падрыхтоўка, вучоба?

Добра, глыбока — «Ліст», сам гэты ліст, раздзел з апавядання «Ліст Якуба Малькевіча».

Які пісьменнік поўнасцю не адбыўся! «Між іншым...»

* * *

Часамі гэта цьмяны чарнавік («Броня Казакевіч», «Браты»), калі невядома, чаго ён, аўтар, хоча, пра што гаворыць так прыблізна.

Часамі прытча («Семнаццаць год»), калі спачатку думка, а потым нацягванне фактаў, падзей, каб думку тую прыкрыць, даць ёй вобразнае выражэнне, даволі часта не зусім, не вельмі верагоднае. Там людзі гавораць за аўтара, як у жыцці яны ніколі не гаварылі (расказ маладога салдата), там думка, хоць і глыбокая, існуе сама па сабе, і мастацтва няма, ёсць раздваенне зместу, ідэі і формы яе выражэння.

І толькі там, дзе гэтага раздваення няма, там ён, Чорны, паўстае як цэласны філосаф і паэт, асабліва ў апавяданнях 20-х гадоў.

Мне ж ім спачатку не пашанцавала: на дваццаць пятым годзе жыцця пачаў чытаць яго з гэтых якраз «Броняў Казакевічаў» ды «Брыгадзіравых памылак». І мяне, ужо сяк-так знаёмага з сапраўднай літаратурай, Чорны адразу не ўзяў.

Знаёмячыся з ім асабіста, я не ведаў яго цаны, а стоячы ў ганаровай варце — значэння нашай страты.

Вось што такое першае ўражанне. Яно заставалася са мной, у той ці ў іншай меры вяртаючыся, даволі доўга. Толькі цяпер яно... як быццам толькі цяпер пачынае праходзіць па-сапраўднаму.

Такое адчуванне адкрыцця.

...Вайна ў яго неваяўнічая,— усюды мужык на вайне, селянін. Амаль усе гавораць аднолькава, і салдат, і палкоўнік, і аўтар (у тым жа апавяданні «Семнаццаць год»).

Бяда гэтая ёсць часткова і ў нас: дзе тыя рабочыя, салдаты, афіцэры, тэхнічныя інтэлігенты, што гавораць так, як мы гэта пішам? Сумна, цяжка бывае — гэтая адарванасць, такі разрыў...

Месца, абставіны ў яго («Вінгель») настолькі ўжо часамі ўмоўныя, як быццам ён вакол свае задумы, каб выказаць яе, гародзіць нейкія дэкарацыі, расстаўляе нейкіх манекенаў.

«Рамонтная брыгада». Ад нарыса не адарваўся, а да апавядання не дацягнуў. Канспект. Таропкі, мнага-

слоўны, шэры. Чытаецца такое толькі з павагі да аўтара. Калісьці я так не змог бы, не ведаючы, што такое Чорны.

Бяда, калі з «эпічнымі прыёмамі» падыходзяць да лірыкі — называюць пачуцці, а не перадаюць іх чытачу. «Ён адчуў страшэнную злосць, ненавісць да ворага». «Ён успомніў галодных дзяцей, і яму стала іх вельмі шкада»...

І пацешная «ліпа» ў апавяданні «Злачынца пакараны». «Сержант артылерыйскага палка» ішоў за фурай хлеба, ахоўваючы яго. Гэта ў даверасвёўскай Польшчы. Па-першае — не па чыну: тут і яфрэйтара хапіла б, бо сержант таго часу адпавядае фельдфебелю, нашаму старшыне. Па-другое, у польскай артылерыі быў не «сержант», а «огнёмістш». А па-трэцяе, і наогул — якога ліха ён будзе не ехаць на той фуры, а ісці за ёю, тым больш што і возчык — таксама салдат, які павінен усё давезці някранутым.

Неяк у Кіеве сябры хвалілі мне навелы рэабілітаванага Касынкі. Адразу купіў іх, пачаў дома чытаць і... надоўга спатыкнуўся на тым, што польскую граніцу перад вайной ахоўвалі... «конныя гарцэжы» — члены дзіцячай арганізацыі.

У аўтараў гэтага ранга такіх рэчаў быць не павінна.

Гэта ж не той наш надзіманы «класік», у якога заходнебеларускі селянін абуваўся ў... драўляныя скрыначкі, наслаўшы туды пырніку.

Ці не такое ён, Чорны, меў на ўвазе, калі ў перадсмяротным дзённіку горка шкадаваў, што так многа пісаў непатрэбшчыны?

* * *

Пасля спробаў індустрыяльных ды замежных пайшлі спробы калгасныя, трэба сказаць, больш удалыя. Сярод іх «Трухлявае кола», «Звяга», «Макаркавых Волька».

Найлепш напісана апошняе. Шаблонна кажучы — на маральную тэму. У той час і такая смеласць была, відаць, сапраўднай смеласцю.

Ажно задумаўся: калі ж гэта і з ім самім адбылася памылка, калі «Волька» напісана — *да ці пасля?..*

Учора не змог больш чытаць, дайшоўшы да «Дарагусі» і, за ёю, да ваенных апавяданняў. Падумалася, што ведаю гэта, што напісаны гэтыя рэчы *здалёк*, не на ўсю яго сілу. А вось цяпер, уранні, зноў не магу нічога іншага рабіць, бо пацягнула да шэрага томіка.

«Дарагуся». Як змагаліся яго талент, шчырасць, веданне вёскі дарэвалюцыйнай і савецкай з няведаннем заходнебеларускай! Жменя солі, як элемент вырашальны, выглядае наіўна, нацягнута — да промаху. І палатно, бадай, таксама. І канцоўка слабая. Пакуль прыйшло 17 верасня, было шаснаццаць дзён польска-нямецкай вайны, якая жахам сваім не абышла і нашы вёскі, а ў аўтара пра гэта ані слова.

«Навагодняя ноч». Мала клопату, каб канцы з канцамі вязаліся, каб не было відаць белых нітак. І мова герояў, бацькі-селяніна і сына-студэнта,— аўтарава. І думка маленькая: як добра, што ў нас пакуль што няма вайны...

Хоць ёсць і намёкі на значна большае: пісьмы на дзвюх мовах, французскай і нямецкай. І заключная фраза, на сённяшні прыём такая горкая, ледзь не прарочая:

«Пачынаўся тысяча дзевяцьсот сорак першы год»...

* * *

«Расказы партызан Віцебшчыны».

Мова, мова... У Чорнага ды такое: «Мы ішлі ўрукапашную. Навокал свісталі кулі. Нюра была ў першых радах. *Многа яна выявіла адвагі, баявой хітрасці і ўласнай ініцыятывы...»* [1].

Хто мог яму *так* расказаць і як ён, знаўца народнай мовы, майстар дыялога, мог *так* пісаць?

Што ж, і ён не пісаў гэтага на фронце, хоць і не жыў тады ў глухой тылавой раскошы. Толькі ж чаму аж так слаба?.. Ён быў патрыёт, ненавідзеў фашызм — гэта, вядома ж, бясспрэчна. Аднак мастацтва было ў яго ўсё-такі там, дзе гэта ішло з самых глыбіняў дум-

---

[1] Падкрэсленні, як і ўсюды ў тэксце, мае.

кі і пачуцця, яго служэнне музе больш, чым у каго іншага, не любіла мітусні і спешкі. Замалёўкі партызанскіх расказаў і «Расплата» — усё-такі выдушванне з самога сябе на «патрэбу дня», і ён рабіў гэта, як умеў, значна горш, чым умелі іншыя, для прыкладу — Эрэнбург.

«Маленькая жанчына» — добра. Слабейшае — «Матчына благаславенства». Зноў моцнае — «Бацька». Цяжкахворы, не так даўно страшэнна абражаны ў сваіх найсвяцейшых пачуццях патрыёта Савецкай Радзімы, ён бачыў Беларусь, захопленую ворагам, у крыві, і гэтая сыноўняя любоў, памножаная на яго высакародную чалавечнасць, падказала яму і жывыя вобразы, і пачуцці, і думкі, якія — назаўсёды.

Не пісалася гэта «ў нумар», надрукавана значна пазней, чым трэба было б, пісалася поўнасцю «для сябе», а выйшла — для нас і для тых, што будуць пасля.

«Смерць». Піша пра адступленне немцаў на беларускай зямлі ў... сорак другім годзе. Трэба было *ўяўляць* і такое.

Тут ужо выступае ўпершыню і гітлераўскі памагаты, Пацейчык, найбольш выразнае пацверджанне, што дзея адбываецца ў Беларусі.

Ад Клебера з Пацейчыкам ужо аддае «Млечным Шляхам».

* * *

«Аксеніны сляды». Якое бачанне роднага здалечыні, у адарванасці! Немцы — нельга сказаць, што ўдаліся, трохі плакатныя яны. А бацька — той, што трэба.

«Паганыя косці», «Матчына кроў». Некаторыя калегі Чорнага вырашылі такое з пачварнай анекдатычнасцю. І тады, і пасля. А ў яго і гэта прыстойна.

«Агонь». І тут намацванне невялікай тэмы.

Умоўнасць месца (адзін горад, на адным гасцінцы), умоўнасць мовы (аднолькава гавораць і героі, і аўтар, і ворагі), толькі намёкі ў акрэсленні другога і далейшага планаў — усё гэта раней у яго раздражняла, часамі здавалася нават манернічаннем, а цяпер, у ваенных апавяданнях, перад аблiччам вялікай тэмы — бачыцца натуральным. Там, дзе наяўнасць больш ды

менш прыватных падрабязнасцей перашкаджала б галоўнаму даходзіць не толькі да беларускага чытача.

У гэтай сувязі зноў згадваецца «Млечны Шлях», асабліва пачатак гэтай глыбокай і сёння вельмі сучаснай аповесці.

«На папялішчы». Пачатак — штосьці ад той эпічнай умоўнасці, якая так уражае ў спрадвечных і несмяротных легендах многіх народаў, яшчэ адзін намёк на пошукі, намацванне вялікай тэмы.

«Стаяла вялікая цішыня і павявала духам адзіноты». Мова высокай паэзіі, глыбокіх абагульненняў.

* * *

Не выпадковасць гэта, што ў яго столькі месца займае жанчына-маці. Спачатку і да сімвалічнай «Маленькай жанчыны».

Нашы запісы для кнігі «Я з вогненнай вёскі...», расказы многіх беларускіх маці пра іх пакуты — і ўласныя, і за дзяцей — яшчэ раз сведчаць, які народны, які чалавечны быў яго талент.

«Прасторны дом». Цудоўны пачатак і... так сабе канец.

Успомнілася, як я аднойчы амаль зусім па-бацькоўску востра ўявіў, як гэта цяжка было якому-небудзь бацьку прыгожай дачкі ці прыгожых дачок захаваць іх у акупацыю, сярод варожага бяспраўя.

* * *

У «Заўтрашнім дні» ўпершыню ў яго апавяданнях так выразна, свабодна з'явіліся адступленні ад эпічнасці расказу, у плеціве сюжэта адкрыта прагучала аўтарскае «я».

Адзін з яго герояў «...быў вельмі пакрыўджаны, што не быў узнагароджаны ордэнам». Так ідзе расказ пра кагосьці і раптам: «Я нядаўна чуў (у Маскве, сярод нашых эвакуіраваных.— *Ян. Б.)*, як адзін работнік так суцяшаў сябе: «Яшчэ рана думаць, што ўсё скончана. Яшчэ не ўсе загадчыкі аддзелаў атрымалі ордэны». Як быццам ордэн павінен давацца за загадванне аддзелам, а не за працу і заслугі перад дзяржавай».

І яшчэ:

«Ох, гэты «аўтарытэт», там, дзе яго няма! Колькі

разоў мне даводзілася выслухоўваць павучанні, як працаваць і як жыць, ад людзей, якія самі не ведаюць, як трэба працаваць і як трэба нам усім жыць».

Так і да дзённіка ён дайшоў — ад «лірычнай недастатковасці».

...Людзей пераганяюць з канцлагера ў канцлагер. Па лясным гасцінцы. Не абавязкова было самому бачыць такое,— трэба быць мастаком і так любіць гэтых людзей, каб настолькі праўдзіва і назаўсёды ярка напісаць гэты страшны паход.

Мудрасць, вынашаная ў пакутах:

«Даносчыкі родзяцца на свет там, дзе знікае вера ў чалавека. Трэба ведаць, што без веры ў чалавека не можа трымацца не толькі сям'я або сяброўства двух, але і цэлая дзяржава».

Смеласць і яснасць думак — як сёння.

Дарэчы, падобнае ўражанне было ў мяне ад трывалай, «непреходящей» сучаснасці рамана «Па кім звоніць звон», напісанага ў 1940 годзе,— як быццам ён, Хемінгуэй, пісаў сваю кнігу ў наш час.

Прыкра прыгадваецца, як... смела «Заўтрашні дзень», апошняе і, па-мойму, найлепшае апавяданне Чорнага, было «адрэдагавана» ў яго першым зборы твораў... З выкрэсліваннем цэлых старонак, і дапісваннем за аўтара, з дылетанцкаю праўкай...

* * *

Шмат чаго ён не зрабіў — час не даў яму гэтага,— многа чаго зрабіў не на ўсю сілу, аднак усё роўна — гэта такая прыгожая з'ява, такі незвычайны вобраз пісьменніка і чалавека, які нам вельмі трэба і добра бачыць самім і ўмець як след паказаць людзям.

Патрэбны добрыя пераклады, перш за ўсё — на рускую мову, якая паможа яму пайсці далей. Не пераказы патрэбны, не прыблізнае штосьці, а пераклады мастацкія.

* * *

Як ён адводзіў душу, зводдаль, з ваеннай Масквы, купаючыся ў роднай беларускай стыхіі, з майстэрствам, з любасцю сплятаючы дабротны невад дзеяння з выдатна вядомага матэрыялу.

Так ведае сейбіт, якая паэзія сканцэнтравана ў бохане хлеба, а пралля — у сувоі палатна. Праз усе ступені гэтай паэзіі, на ўсім шляху штогадовага цыкла вясна — восень, ад зярнят на раллі да духмянай, цёплай мукі ў млынавым кашы, ад масляністага семя, цераз блакітныя кветачкі, да пяшчотнасці валакна...

У тыя дні ён працаваў на найвышэйшым уздыме.

І якім жа глыбокім, балючым, заўчасным акордам гучыць яго дзённік, магчыма, адзіны ў жыцці, напісаны і сапраўды *для сябе* — шчыра і смела, перад воблікам апошняй справаздачы.

«Божа, напішы за мяне мае раманы!..»

Апавяданні таксама многія не напісаны.

*1972*

# АД МАГІЛЫ ЧАЧОТА [1]

Даўно адпаліраваны граніт пакрыты шэранню. Абмахнуўшы яго пальчаткай, толькі вачыма чытаю польскі надпіс.

— Тут пахаваны сябар Міцкевіча Чачот,— тлумачыць нам тым часам старшыня мясцовага сельсавета.— Ён быў таксама паэт, але вельмі бедны. Прыехаў сюды лячыцца і памёр. А мы, што ж мы,— нібы просіць прабачэння малады чалавек,— вось магілу яго даглядаем. Вясною тут кветкі растуць. І вуліца ў нас ёсць яго імя.

Вітаючыся з намі, старшыня назваў сваё прозвішча. Ён літовец, і прозвішча ў яго літоўскае, і вёска гэтая, Ратніца, таксама літоўская, і ўсё гэта зусім нармальна тут, на літоўскай зямлі. Як проста і нармальна тое, што мы, некалькі «адпачываючых», прыехалі сюды з недалёкага курортнага гарадка Друскінінкай, каб ушанаваць памяць Яна Чачота, першага беларускага фальклярыста і польска-беларускага паэта.

Ды ўсё ж у гэтым натуральным, звычайным мне адчуваецца і незвычайны, радасны змест. І дзень сённяшні, шэры лістападаўскі поўдзень, здаецца ад гэтага ледзь не святочным. Незвычайным здалося раптам і тое, што ў нашай невялікай групе апроч беларусаў ёсць украінцы, палякі, рускія. Значным здаецца і само літоўскае гучанне прозвішча старшыні сельсавета...

І недарма, не так сабе. Яно, гэтае гучанне, выклікала ў маёй памяці іншае прозвішча, якое спачатку, гучаннем, здалося мне латышскім.

---

[1] Напісана для часопіса «Kraj Rad».

У старадаўнім беларускім Навагрудку, у музеі Міцкевіча, на мармуры замацаваны словы:

«Савецкая ўлада, з'яўляючыся носьбітам культуры і святла, памятае пра тых, хто працаваў на гэтай ніве, і памяць пра іх, увекавечаная тым, што яны стварылі, захоўвае і аберагае».

Гэта вытрымка з загада № 40 Навагрудскага павятовага ваеннага рэўкома пра арганізацыю дома-музея Міцкевіча. Дата: 16 верасня 1920 года. Подпіс старшыні рэўкома: Мертанс. Станіслаў Мертанс, польскі рабочы, удзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі, пра жыццё і дзейнасць якога сцісла і вельмі змястоўна расказваюць наша і польская энцыклапедыі.

Над магілай Чачота мне ўспомніўся і снежань пяцьдзесят пятага года, святкаванне стагоддзя з дня смерці Міцкевіча, група беларускіх, польскіх, рускіх, літоўскіх і ўкраінскіх пісьменнікаў на ганку дома-музея, выступленне Бранеўскага і прастадушнае пытанне з натоўпу:

— Казалі, што ўнук яго прыехаў. То дзе ж ён, каторы?

І адказ Уладзіслава:

— Усе мы — унукі Міцкевіча.

Гэтыя словы мне чуюцца ўжо з гістарычнай далечы, са звычайных яны сталі нечасова значнымі, блізкімі нечым да гэтых:

> Он говорил о временах грядущих,
> Когда народы, распри позабыв,
> В великую семью соединятся.

Гэтая мара, гэтае прадбачанне пэўным чынам ужо збылося ў межах садружнасці краін, што разам будуюць сацыялізм. У гэтай садружнасці сваю асаблівую гісторыю маюць беларускі і польскі народы, беларуская і польская літаратуры.

Успамінаюцца словы Леана Кручкоўскага:

«Беларусь — слова для паляка зусім асаблівае. Як многа гэтай зямлі ў нашай нацыянальнай паэзіі! Як многа нашых першых жыццёвых хваляванняў непарыўна звязана з фарбамі і пахамі гэтай зямлі, мяккім святлом гэтага неба!..» І яшчэ, больш канкрэтна: «Цяжка ў творчасці Міцкевіча аддзяліць яго нацыянальную непаўторнасць ад глыбокага і хвалюючага

пачуцця, якім, як матчыным малаком, выпаіў яго беларускі народ».

Пра красу і сілу нашага слова, пра сваю любоў да яго Адам Міцкевіч гаварыў неаднойчы, у прыватнасці ў сваіх лекцыях у Калеж дэ Франс. Сучаснікі паэта ўспамінаюць пра яго любасць да беларускай народнай песні. У гэтым ён не быў адзінокі, гэтая любасць здружыла яго не толькі з Янам Чачотам. На Навагрудчыне бытуе легенда пра тое, што ў пецярбургскіх салонах ён, малады выгнаннік, не толькі здзіўляў сваім талентам імправізацыі, але і спяваў беларускія народныя песні і быў аднойчы ўражаны, калі падпяваць яму пачаў... Кандрат Рылееў. Што ж, і гэта тлумачыцца проста. Ведаюць у нас і мястэчка Сталавічы і горад Нясвіж, у гісторыю якіх (у Нясвіжа асабліва доўгую і цікавую) увайшло і тое, што тут стаяў калісьці са сваёй батарэяй артылерыйскі прапаршчык Рылееў, будучы дзекабрыст, аўтар і ў гэтых мясцінах любімага «Ермака».

Беларускі рэвалюцыянер-дэмакрат, правадыр паўстання і публіцыст Кастусь Каліноўскі быў паплечнікам і другам выдатных польскіх рэвалюцыянераў Валерыя Урублеўскага і Зыгмунта Сlaunчыкаўскага, дарэчы, сябра Тараса Шаўчэнкі. Але ў той жа час ён, Каліноўскі, у паўстанне 1863—1864 гадоў прыйшоў з Пецярбурга як палымяны паслядоўнік ідэй Бялінскага, Герцэна, Чарнышэўскага, Дабралюбава. І не выпадковасць гэта, а цудоўная заканамернасць і своеасаблівы сімвал — тое, што першая беларуская рэвалюцыйная газета «Мужыцкая праўда», якую рэдагаваў Каліноўскі, была адзначана і падтрымана на старонках «Колокола».

Эліза Ажэшка, гуманістычная творчасць якое прасякнута любоўю да нашага селяніна, сябравала з Францішкам Багушэвічам, Іванам Франком, перапісвалася з Салтыковым-Шчадрыным. У Гродне, дзе большую палавіну свайго жыцця амаль бязвыездна пражыла апальная пісьменніца, у нашы дні старанна ахоўваецца яе драўляны аднапавярховы дом, а адзін са сквераў горада, па вуліцы імя Ажэшкі, упрыгожвае помнік пісьменніцы.

У васьмідзесятых гадах мінулага стагоддзя ў Гродна да Элізы Ажэшкі прыязджала яшчэ адна высака-

родная полька, Марыя Канапніцкая, якая пісала потым пра наш прыгнечаны народ з вялікай чалавечай спагадай і своеасаблівым прадбачаннем будучыні:

«Тое, што народзіцца там калісьці ў народным асяроддзі, не будзе Польшчай ці Літвой, але Беларуссю».

Час гэты прыйшоў з перамогай Кастрычніка. А наша раўнапраўная, братняя дружба з палякамі, дружба нашых літаратур стала па-сапраўднаму дзейснай з узнікненнем Народнай Польшчы.

Дружба літаратур выяўляецца перш за ўсё ва ўзаемных перакладах.

У гэтым сэнсе мы, беларусы, сёе-тое зрабілі задоўга да рэвалюцыі. Дунін-Марцінкевіч быў першым перакладчыкам «Пана Тадэвуша», аднак пераклад гэты адразу пасля выхаду канфіскавала царская цэнзура. На пачатку нашага стагоддзя, пад дабратворным уплывам рэвалюцыі 1905 года, пачалося пэўнае ажыўленне ў галіне перакладаў на беларускую мову твораў іншых літаратур, у тым ліку — польскай. Тут неабходна сказаць перш за ўсё пра маладога Купалу, пра яго пераклады паэзіі Міцкевіча, Канапніцкай і Сыракомлі, пра той уплыў, які на развіццё Купалавага таленту зрабіла, побач з літаратурамі рускай і ўкраінскай, літаратура польская.

І ў Беларусі, як і ў кожнай іншай Савецкай рэспубліцы, справа дружбы літаратур, пераклады лепшых твораў з іншых моў — з'ява зусім нармальная. І я не буду стамляць чытача пералікам твораў польскай літаратуры, выдадзеных у нас на працягу савецкіх дзесяцігоддзяў, а затрымаюся толькі на фактах з апошніх гадоў.

Культура мастацкага перакладу ў нас высокая, пісьменнікі нашы перакладаюць многа. Нядаўна Аркадзь Куляшоў атрымаў рэспубліканскую дзяржаўную прэмію за пераклады паэзіі Лермантава, Катлярэўскага, Лангфела. Некалькі гадоў таму назад балгарскі ўрад адзначыў ордэнам Кірылы і Мяфодзія маладога Ніла Гілевіча за пераклады балгарскай паэзіі. У творчым актыве Язэпа Семяжона выдатныя пераклады паэзіі Бёрнса, Міцкевіча, Гейнэ, паэтаў Парыжскай камуны і гераічнага В'етнама, бліскучая «Песня пра зубра» Міколы Гусоўскага і многа іншага.

Шырокі дыяпазон перакладчыцкай дзейнасці Мак-

сіма Танка: Байран, Пушкін, Маякоўскі, Рыльскі, Межэлайціс, Судрабкалн... Але найбольш перакладаў з паэзіі польскай. Гэта абумоўлена біяграфіяй паэта, маладосць якога прайшла ў Заходняй Беларусі, у супольнай з перадавымі палякамі рэвалюцыйнай барацьбе за наш сённяшні дзень. Паэзія Міцкевіча, Славацкага, Стафа, Тувіма, Бранеўскага, Ружэвіча, Шымборскай і іншых добра гучыць па-беларуску ў перакладах нашага выдатнага паэта.

Побач з Танкам польскую паэзію плённа перакладаюць іншыя паэты розных пакаленняў: Ул. Дубоўка М. Лужанін, С. Дзяргай, А. Вялюгін, М. Аўрамчык, П. Макаль, Р. Барадулін...

Толькі за апошнія гады выйшлі ў нас два выданні выбраных твораў Міцкевіча, кнігі паэзіі і прозы Сыракомлі, Сянкевіча, Канапніцкай, Бранеўскага, Кручкоўскага, Тувіма, Корчака і іншых, а таксама анталагічныя зборнікі вершаў і апавяданняў для дарослых і дзяцей. Часта друкуюць пераклады нашы часопісы і штогадовы альманах «Дзень паэзіі».

Зусім нядаўна пачалі ў нас выдавацца паэтычныя зборнікі дзвюх серый: «Паэзія народаў СССР» і «Паэзія народаў свету». Нядаўна ў другой серыі выйшла анталогія «Горад мільённы і мы. Паэзія чырвонай Лодзі».

Чытач можа слушна спытацца: чаму ж іменна Лодзь, што гэта за падзел літаратуры па гарадах? Калі сказаць, што чырвоная Лодзь, як даўно і з любоўю называюць яе палякі,— горад вялікіх рэвалюцыйных традыцый, другі пасля Варшавы па ліку насельніцтва і прамысловаму значэнню — гэта будзе не ўсё. У нашых літаратурных сувязях з Польшчай Лодзь, а дакладней — «Лодзінскае выдавецтва» заняло асаблівае месца.

Пачалося з таго, што ў канцы 1971 года ў Лодзі выйшла анталогія беларускай паэзіі, складзеная і адрэдагаваная паэтам Янам Гушчай. Нядаўна нам стала вядома, што «Лодзінскае выдавецтва» мае намер выпусціць гэтую анталогію паўторна, у больш поўным і ўдасканаленым выглядзе. Гэта цудоўна, але разам з тым, мы ўдзячна будзем помніць тое, што «Вершэ бялоруске» — наогул першая анталогія беларускай паэзіі ў перакладах на польскую мову, да таго ж — у пера-

кладах у асноўным добрых. Перакладчыкі — пераважна лодзінскія паэты: Ян Гушча, Тадэвуш Хрусцялеўскі, Мацей Кананові́ч, Ігар Сікірыцкі і іншыя.

Неўзабаве павінны выйсці па-польску том вершаў Максіма Багдановіча, выбраныя творы Максіма Танка, анталогія беларускіх апавяданняў, у планах «Лодзінскага выдавецтва» — зборнікі паэзіі і прозы іншых нашых пісьменнікаў.

Што ж, беларусы даўжнікамі не застануцца — ні перад чырвонай Лоддзю, ні перад усёй вялікай польскай літаратурай.

*1973*

# КУЛЬТУРА І ДУША

Вясной 1953 года невялікая група беларускіх пісьменнікаў і артыстаў была запрошана ў Кіеў на выступленні.

Адчуванне шчырасці пачуццяў пачалося адразу з таго моманту, калі прызямліўся наш самалёт, калі нас сустрэлі не толькі кветкамі, але і непрытворнымі ўсмешкамі, і непрыдуманым словам. Асабліва ж прыемна, хораша было тое, што разам з маладзейшымі сябрамі сустракаць нас прыехаў і Рыльскі.

Анатолю Вялюгіну і мне пашанцавала — Максім Тадэевіч запрасіў нас у сваю машыну. Сябар Купалы і Коласа, чалавек, упрыгожаны сівізной, заслужанай пашанай і незаслужаным крытычным ганьбаваннем, паэт і вучоны з божай міласці, ■ працы сваёй, не з выпадку... Мы з Анатолем адчувалі сябе спачатку даволі няёмка, скавана, намагаліся неяк трымацца «на ўзроўні». А ён гаварыў, распытваў нас, і ясна было, што ўсё гэта не так сабе, не з гаспадарскай ветлівасці,— ён па-сапраўднаму цікавіцца нашай работай, нашым жыццём. Скаванасць наша, няёмкасць прайшлі вельмі хутка.

У той памятны дзень маёй з ім першай бліжэйшай сустрэчы Максім Тадэевіч вёў наш беларуска-ўкраінскі вечар. У «зялёным тэатры», дзе слухачоў было некалькі тысяч, дзе дружба адчувалася ў прыўзнятай, святочнай цішыні, з якой нас слухалі. Калі аркестр ці хор залежыць ад майстэрства дырыжора, дык вечар наш з яго цудоўнай атмасферай у многім залежаў ад вядучага. Прыгожы быў ён і пры выкананні гэтага абавязку — калі даваў нам слова, калі свабодна, проста гутарыў з аўдыторыяй, калі чытаў свае вершы...

А назаўтра я ўпершыню пабачыў яго над паплаўком, а пасля і над місай юшкі, якую мы, кругам лежачы на траве, дружна чэрпалі драўлянымі лыжкамі. І не ігралі ў жыццё, а проста жылі, бо так вось, разам ды на прыродзе, нам было добра. Калі ж звечарэла і наша рыбацкая радасць, як і юшка, вычарпалася да дна, наш гаспадар сказаў:

— Хлопцы, нас хоча бачыць мая Каця.

Нямоглая, прыгожа ціхая, сівенькая гаспадыня сустрэла нас, па звычаю сям'і, «у стылі Рыльскага»,— шчыра і проста. А недзе за поўнач, калі ўжо стэпам з-за Дняпра да Галасіеўскай дачы паэта пачаў памалу падкрадацца майскі ранак, Максім Тадэевіч сеў за раяль. Ён іграў нам Шапэна, Чайкоўскага, Лысенку, іграў сваё... Зноў жа і так звычайна, і так велічна прыгожы ў сваёй, здавалася, такой заўчаснай сівізне...

Праз пяць гадоў, улетку 1958 года, я меў гонар прымаць яго ў сваіх родных мясцінах, над возерам Свіцязь каля Наваградка. Добра помніцца не толькі радасць тое сустрэчы, але і неспакой, з якім мы з жонкай чакалі такога госця. Мы толькі што прыехалі туды, пасяліліся ў лясніцтве, заняўшы з сям'ёй палавіну невялікай хаты-пяцісценкі. Гасцей прыехала восем чалавек, у хаце цесна, а сена ў гумне яшчэ няма... І тут наш галоўны госць яшчэ раз засведчыў сваю высокую чалавечую прастату, супакоіў нас тым, што ў цеснаце і сапраўды не ў крыўдзе. Мы весела размясціліся на хутарку лясніцтва, тым больш што чэрвеньскую ноч амаль зусім скараціла бяседа.

Максім Рыльскі не толькі любіў і ведаў Адама Міцкевіча — ён вельмі многа зрабіў для таго, каб слова польскага генія стала набыткам і ўкраінскай культуры. Ды як ні дзіўна, а гэта быў першы прыезд Максіма Тадэевіча туды, дзе пачаўся Міцкевіч,— на легендарную Свіцязь, у Турганавічы, у Наваградак, у Шчорсы... Першы, доўгачаканы прыезд, першыя, найярчэйшыя ўражанні...

І мы, беларускія літаратары, што суправаджалі Рыльскага і яго блізкіх у паездцы, як мага шанавалі спакой старэйшага друга, яго цішыню, адзіноту, яго хваляванне і роздум, якія потым адлюстраваліся ў вядомай нізцы санетаў «На братняй зямлі».

Некалькі ягоных пісьмаў, дзесятак кніг з аўтографамі, некалькі сумесных фота. Хаваю іх, як дарагое сведчанне мінулага...

Цяжка дый немагчыма акрэсліць, чаго было больш у абаяльнасці гэтага чалавека — культуры ці душы? Але адчувалася гэта, яго высокая культура і глыбокая душа, пры кожнай сустрэчы па-новаму, як адчуваецца высакагорнае паветра — свабодна, молада, радасна.

Вы з намі, дарагі Максім Тадэевіч, сардэчны друг людзей, разумны друг маладосці, верны друг і маёй Беларусі! Адзін з тых вельмі многіх, што любілі вас, што не казалі вам такога пры жыцці, я гавару гэта цяпер — жывы жываму.

*1973*

# РАДАСЦЬ ЖЫЦЦЯ [1]

Мікола Лупсякоў нарадзіўся ў сакавіку 1919 года ў Маскве, адкуль сям'я іх вярнулася неўзабаве на родную Жлобіншчыну. Памёр у лютым 1972 года ў Мінску.

За трыццаць год літаратурнай дзейнасці выйшла больш за дваццаць кніг яго апавяданняў, аповесцей і нарысаў на роднай мове і ў перакладзе на рускую мову. І па колькасці зроблена параўнаўча нямала, асабліва калі ўлічыць, што ў гістарычнай бітве на Курскай дузе малады пісьменнік, артылерыйскі афіцэр, быў цяжка паранены і вынікі гэтага ранення, боль галавы і іншыя недамаганні не пакідалі яго да смерці. Што ж да мастацкай вартасці прозы М. Лупсякова, дык яна высока ацэнена савецкімі чытачамі, а крытыка дружна і слушна лічыць яго адным з найлепшых беларускіх навелістаў.

У кнізе пісьменніцкіх аўтабіяграфій «Пра час і пра сябе» Мікола Лупсякоў пачаў расказ пра свой літаратурны шлях такімі словамі:

«Пісьменнікам мяне зрабіла любоў да роднай прыроды і людзей».

Сказана коратка і дакладна.

І сапраўды — любоўю да роднай прыроды, перш за ўсё да нашага маляўнічага Прыдняпроўя, якое так добра ведаў нястомны вандроўнік і заўзяты рыбак, любоўю да добрых, мужных, шчырых людзей, якіх нямала пабачыў за сваё жыццё вясковы школьнік, тады сталічны студэнт, афіцэр-франтавік, пасля вайны

---

[1] Прадмова да кнігі апавяданняў Міколы Лупсякова «На вірах» (серыя «Школьная бібліятэка»).

журналіст і пісьменнік,— такімі высокімі пачуццямі прасякнута творчасць таленавітага празаіка.

Пра гэта красамоўна сведчаць і тыя творы, што прапануюцца ў невялікім зборніку «На вірах».

Тэматыка гэтых твораў даволі разнастайная.

Тут і суровая праўда вайны, і самаадданая праца хлебаробаў, паказаная без выдумак ды прыкрас; тут і пачуцці кахання, непаўторна прыгожыя ў ранняй маладосці, пакутліва і шчасліва пранесеныя праз доўгія гады выпрабаванняў і вернасці; тут і высакародная краса сумленнасці, мужнасці, дружбы, адчування патрыятычнага і грамадзянскага абавязку; тут і светлая паэзія маленства, і глыбокае разуменне невычэрпнасці ды неабдымнасці красы прыроды...

Усяму, пра што піша Мікола Лупсякоў, чытач верыць, бо ўсё гэта праўдзіва, усё ўбачана назіральным пісьменнікам у жыцці, адчута ім і прадумана.

Героі апавяданняў і аповесцей не «дзейнічаюць» паводле кабінетнага загаду аўтара, а свабодна жывуць сваім натуральным жыццём, адных мы, разам з аўтарам, любім, паважаем, хочам быць падобнымі да іх, да іншых ставімся з жалем, кплівасцю ці пагардай.

Аднак найбольш ахвотна М. Лупсякоў гаворыць пра людзей станоўчых, савецкіх у найглыбейшым значэнні гэтага паняцця.

Нельга не захапляцца такімі людзьмі, як героі апавядання «Пераправа»,— стары, вопытны камандзір Плешчавеня і малады, неабстраляны камсорг Забіла, якому ў няроўным баі давялося замяніць забітага камандзіра. Мужнасцю такіх людзей — а іх было вельмі і вельмі многа,— цаною перажытых імі неймаверных цяжкасцей, іхнімі ранамі і жыццямі аплачаны наш светлы дзень, а наша цудоўная Радзіма і ўсё чалавецтва выратаваны ад той жахлівай будучыні, якую рыхтаваў ім фашызм.

Шчырасць, добрасумленнасць, працавітасць такіх людзей, як дняпроўскі бакеншчык дзед Ахрэм, як маладая калгасніца Ганна з аповесці «Пабіраха», упрыгожваюць наша жыццё, справай спрыяюць росту народнага дабрабыту.

Трапна і тонка высмейвае М. Лупсякоў уласніцкія перажыткі ў свядомасці некаторых людзей, такіх, як

знелюдзелы ў рыбацкай самоце Тамаш з апавядання «Торба з салам», а яшчэ больш — сыты, самаздаволены хутаранец з апавядання «Дажджы», людзей, што так ненатуральна, не па-сучаснаму выглядаюць у нашай рэчаіснасці.

Апавяданне «Галаўні», узятае з вялікага цыкла «Вясковых паданняў», расказвае пра далёкае мінулае нашай вёскі, аднак жа як цікава і ярка паказаны ў гэтым паданні асілак Іван, яго красуня жонка, балгарка Соф'я, якую ён выратаваў з турэцкай няволі, калі вызваляў Балгарыю, і за якую дома, у роднай вёсцы, люта адпомсціў пану-прыгонніку Друцкаму.

Дзіцячы свет, вясёлы і чысты, з яго гульнямі і трывогамі, раскрываецца ў апавяданнях «Кірык» і «Мэры Кэт». На пераходзе ад маленства да маладосці нараджаюцца светлыя пачуцці, як у Васіля і Веры з апавядання «На плытах» і ў трохі старэйшых герояў «Першага кахання».

Гімнам жыццю, радасцю разумнага, чалавечнага існавання свеціцца апавяданне «Бычок»...

Зрэшты, такою радасцю, чалавечнасцю, сонечнай і шматфарбнай паэзіяй напоўнена амаль усё, што нам пакінуў у сваім натхнёным, сакавітым слове Мікола Лупсякоў — мужны салдат і сумленны пісьменнік.

*1973*

# ПІСЬМО Ў РЭДАКЦЫЮ [1]

На беларускую мову перакладаю з польскай, рускай і ўкраінскай. Толькі прозу. Прафесійным перакладчыкам ніколі не быў, рабіў гэта час ад часу, з сімпатыі або з патрэбы, сяды-тады па заказу рэдакцый або выдавецтва, аднак заўсёды да працы гэтай ставіўся з усёй сур'ёзнасцю.

З польскай літаратуры першай кнігай, якую я пераклаў, была адна з любімых кніжак майго маленства — «Пра гномаў і сіротку Марысю» Марыі Канапніцкай. Я паходжу з Навагрудчыны, вучыўся ў польскай школе — адгэтуль, перш за ўсё ідзе маё адноснае веданне польскай літаратуры і любоў да яе.

Разам з Максімам Танкам падрыхтаваў у 1955 годзе выданне «Выбранага» Адама Міцкевіча, а з Уладзімірам Калеснікам, у 1966-м, альбом «Між тых палёў».

Дарэчы кажучы, дапамогай блізкіх людзей у працы над перакладамі я карыстаўся даволі часта. «Паўлінава пер'е» Леана Кручкоўскага, напрыклад, мы перакладалі ўдвух з сябрам, журналістам Якубам Міско, а разам з жонкай, Нінай Брыль, перакладалі мы «Прыгоды ў Цюцюрлістане» Войцеха Жукроўскага і «Тумба з мыса Добрай Надзеі» Аліны і Чэслава Цанткевічаў.

Найахвотней перакладаю апавяданні. Можа, таму, што і пішу іх найбольш ахвотна.

Перакладаў Я. Івашкевіча, Л. Кручкоўскага, Т. Ружэвіча, Ю. Кавальца, Э. Брыля... З прыемнасцю вазьмуся калі-небудзь за навелы Пруса і Сянкевіча, а

---

[1] Напісана для польскага часопіса «Literatura na świecie».

неўзабаве прыму ўдзел у перакладах апавяданняў Ажэшкі — па абавязку ўдзячнасці за хваляванне ў малалецтве.

Апошнім часам прыкметна ажывілася супрацоўніцтва паміж літаратарамі Мінска і Лодзі. Лодзінцы — Я. Гушча, М. Ю. Кананові̇ч, Т. Хрусцялеўскі, І. Сікірыцкі, Я. Капроўскі — выдалі анталогію «Вершэ бялоруске», «Выбраныя вершы» нашага класіка Максіма Багдановіча. У гэтым годзе мае з'явіцца анталогія беларускай навелы, салідны том паэзіі Максіма Танка, «Хатынская аповесць» Алеся Адамовіча.

У 1971 годзе мне быў зроблены гонар выданнем кнігі маіх апавяданняў «Глядзіце на траву» ў добрым перакладзе М. Ю. Канановіча. У сваю чаргу і я стараўся прыняць удзел у гэтым высакародным супрацоўніцтве. У 1972 годзе выйшла ў нас, складзеная і адрэдагаваная мною, анталогія паэзіі чырвонай Лодзі «Горад мільённы і мы». Я пераклаў таксама «Рэпартаж з пустога поля» Веслава Яжджынськага і аповесць М. Ю. Канановіча «Імёны любові».

Польшча — яе народ, літаратура — з'яўляецца, так сказаць, састаўною часткай маёй біяграфіі і творчасці. Пра гэта я пісаў даволі многа, назаву толькі тое, што перакладзена на польскую мову: некалькі апавяданняў з дзён верасня 1939 года ў названай кнізе «Глядзіце на траву», нарыс «Рэха заўсёды са мной» у калектыўнай кнізе «Хоць ты і бачыў агністую Этну» (Лодзь, 1973), аповесць «Сірочы хлеб» у маёй апошняй польскай кнізе «Свет далекі і блізкі» (Варшава, 1974).

Што ж датычыцца «слова крытыкі» пра польскую літаратуру, пра што просіць шаноўная рэдакцыя «Literatura na swiecie», дык я дазволю сабе паўтарыць тое, што ўжо было напісана мною і надрукавана папольску: «Цяжка сказаць, наколькі я ведаю польскую літаратуру, куды прасцей прызнацца, што я люблю яе, што яна дала мне нямала ўзнёслай радасці і многаму навучыла». Без польскай кнігі, польскай прэсы, без дружбы з польскімі пісьменнікамі — мне цяжка ўявіць сабе сваё жыццё, самога сябе. А польская музыка, жывапіс, кіно! Сумую таксама і па польскай прыродзе, і па людзях Народнай Польшчы, хоць і бываю ў вас даволі часта.

Хачу звярнуць увагу рэдакцыі на некалькі празвішчаў у беларускай літаратуры. Дазволю сабе такі «суб'ектывізм», што пачну ад навелістаў, як сучасных, так і класікаў. Класікі — Якуб Колас, Максім Гарэцкі, Кузьма Чорны. Сучасныя — Янка Скрыган, Вячаслаў Адамчык, Уладзімір Караткевіч, Анатоль Кудравец, Алесь Жук (наймалодшы)... Творчасць гэтых апавядальнікаў даволі добра ведаюць Гушча, Кананові́ч, крытык Флёрыян Няўважны. Ежы Енджаевіч яшчэ ў 1956 годзе захапіўся быў творчасцю Кузьмы Чорнага. Ну, а шаноўны Эўгеніюш Кабац, якому прашу перадаць маё шчырае прывітанне?.. Усіх гэтых таварышаў варта было б запрасіць да ўдзелу ў перакладах нашай навелы.

З паэтаў, апроч даволі добра вядомага ў Польшчы Максіма Танка, я назваў бы Пімена Панчанку, Аркадзя Куляшова, Аляксея Пысіна, Анатоля Вярцінскага, Рыгора Барадуліна...

З крытыкаў, якія творчасцю сваёю звязаны з польскай літаратурай, хачу назваць Уладзіміра Калесніка і Адама Мальдзіса, супрацоўніцтва з якімі пайшло б на карысць нашай творчай дружбе.

*1974*

# НЕДЗЕ НА ВІННІЧЫНЕ[1]

Аповесць Яўгена Гуцалы «Школьны хлеб» з першых сваіх старонак выклікае павагу да слова гэтага пісьменніка, слова талковага, сур'ёзнага, патрэбнага. Гэта бачыцца ў нетаропкім, дабротным расказе пра пасляваеннае ўкраінскае сяло Медзвінец, калі ж канкрэтней — пра сям'ю вясковых настаўнікаў Нікана і Алены Шкарубаў, а яшчэ больш канкрэтна — пра цудоўнага чалавека Алену Леўкаўну, настаўніцу і маці.

Хочацца жыць, ведаючы, што ёсць яны, такія людзі, што іх у нас шмат, і іменна на іх і трымаецца гадоўнае ў нашым жыцці. Такіх людзей сустракаў і сустракае кожны з нас, а вось прыйшла і яшчэ адна, увайшла ў мой свет, і я, удзячны чытач, ні на секунду не ўсумніўся, чытаючы, што гэтая Алена Леўкаўна — жывая, сапраўдная, якую відушчы і ўдумлівы пісьменнік так добра ўбачыў, так шчыра любіць яе, што і мяне палоніць гэтым адчуваннем.

Няма ў «Школьным хлебе» ніякіх асаблівых падзей, ёсць проста жыццё ва ўсёй яго будзённай складанасці. Жыве сям'я Шкарубаў — слабы, хваравіты бацька, Нікан Іванавіч, нястомная, светлая руплівіца Алена Леўкаўна, падрастаюць дачка Таіса і сын Міхайла, падлетак, які яшчэ не расстаўся з маленствам. Жывуць і суседзі: мнагадзетная ўдава Варка, шчабятуха Яўдошка з састарэлымі бацькамі, салдатка-гаротніца Фіёна, дамарослы філосаф Сцяпан Кушта, «спекулянтка» Кацярына Пекур... Жывуць настаўнікі: нядаўні франтавік Віталь Рыгоравіч, дырэктар, які ў найбольш адказныя дні прыходзіць у школу ў

[1] Напісана для часопіса «Литературное обозрение».

сваім афіцэрскім кіцелі і сініх галіфэ; малады, энергічны недавучка, вясёлы настаўнік фізкультуры Сак; загадчык навучальнай часткі Рэнта, географ Павел Паўлавіч, захопленая піянерважатая Валя Нэіжхліб... Лёсам роднага сяла, клопатамі калгаса жыве яго «старшыніха», Гарпіна Цітаўна, адзінокая жанчына з цяжкім лёсам, натура моцная, пад знешняй суровасцю, часамі непрыемнай сухасцю якое глыбока затоена дзейсная дабрата. Жыве пры людзях, паразітуючы на адсталасці бабулек, і вясковы «бацюшка», айцец Алісей Ануфрыевіч Кушнірук, які пайшоў ад свае сям'і і зусім «по-мирскому» прыжыўся каля шчодрай на ласку «ні салдаткі, ні ўдавы» Ярыны. Добра паказаны ў аповесці і дзеці-школьнікі: побач з Таісай Шкаруба — яе сяброўка Марыйка Мельнік, у якую чыста, узварушліва закахаўся паэтычны Міхайла, на гора педкалектыву актыўнічае безнадзейны свавольнік, пераростак Іван Гунька.

У гэты жывы, непрыдуманы свет вінніцкага сяла аднойчы прыходзіць далёкая госця. Трыццаць кіламетраў пехатою, «на плячах торба, на грудзях кошык, прывязаны да торбы вяроўкай». Бабка Каліна, маці Алены Леўкаўны. Выдатна напісаны гэтыя старонкі. Старая прыйшла сюды, у Медзвінец, не проста са свае Новай Грэблі — ад усяго народа, ад усёй мудрай ды песеннай Украіны прыйшла да чытача гэтая векавечная сіла і дабрата. На вялікім і свабодным дыханні падыходзіць лірык Гуцала да гэтага эпічна абагульненага вобраза. І ясна робіцца, што не сама па сабе такой харошай вырасла, увайшла ў жыццё і радасна, нястомна нясе ў яго святло свайго маральнага здароўя сціплая вясковая настаўніца Алена Леўкаўна — гэта ў яе ад лепшага ў родным народзе, ад лепшага ў чалавеку.

Я паўтараю: у «Школьным хлебе» няма ніякіх асаблівых, выключных падзей. Тое, што многія мужчыны не вярнуліся з вайны, што вельмі нялёгка жылося, працавалася ў пасляваенным калгасе,— гэта вядома многім, пераджыта і ўжо апісана многімі. Нярэдка здараліся і такія трагедыі, як у Медзвінцы, дзе некалькі цікаўных хлапчукоў падарваліся на мінах. Падпіска на пазыку, кража з-за беднасці, самагон, браканьерства, праца дзяцей — дапамога дарослым, што самі не спраў-

ляюцца з калгаснаю работай. Усё гэта ў Яўгена Гуцалы паказана дакладна, жыва і ярка, адно весяліць, другое хвалюе, іншае засмучае, аднак усё напісана ўсюды арыгінальна, па-свойму. І вось іменна ад гэтага *пасвойму* простыя падзеі, агульнае для многіх людзей, тое, што як быццам ужо было шмат у каго, тут, у яшчэ адной таленавітай кнізе, чытаецца з неаслабнай цікавасцю, з поўным даверам да аўтара.

Але ёсць яшчэ і адна такая падзея, якую хочацца назваць незвычайнай.

Гэта спроба няшчаснай Фіёны падпаліць хату Алены Леўкаўны. Ад горкай зайздрасці да таго, што так ладна жывецца ў яе сям'і, што ўсе так любяць Алену Леўкаўну, настаўніцу, суседку, ва ўсім добрага чалавека, шчырага і сумленнага. Падпал не ўдаўся. Шкарубы проста-такі не ведаюць, каго падазраваць. Нікуды не скардзяцца: удалося патушыць, ну і чаго там. Па-ранейшаму, па прывычцы добрая Алена Леўкаўна памагае няшчаснай суседцы Фіёне. Старэйшага сына нядаўна дапамагла ўладзіць у ФЗН, меншаму, Васілю, прыносіць на пачатак школьнага года чаравікі. Тут дадзены толькі далёкі намёк: прымаючы падарунак, Фіёна паводзіць сябе дзіўна, ледзь не праганяе Алену Леўкаўну з хаты. Потым Васіль, разам з іншымі хлапчукамі, гіне ад выбуху мін і снарадаў, пакінутых гітлераўцамі ў яры. Фіёна прыносіць Алене Леўкаўне непатрэбныя чаравікі і прызнаецца ва ўсім. Гэтую сцэну — пра сілу дабраты — трэба прачытаць. У поўным кантэксце аповесці. Не рызыкую пераконваць чытача ў мастацкай яркасці гэтых старонак нават самай вялікай цытатай.

А недахопы? Гэта ж у крытыцы прынята, нават і абавязкова.

Я адзначу адзін.

Муж мнагадзетнай Варкі быў паліцаем. Сказана пра гэта вельмі скупа. А гэта ж было не так проста — што ён рабіў у гады акупацыі, як адносіцца да гэтага сама Варка, што гаворыць пра гэта сяло... Успаміны зусім яшчэ свежыя — і ў Варкі, і ва ўсіх у Медзвінцы...

Пра гэта не сказана амаль нічога, і гэта зусім не ў стылі грунтоўнага, «глыбіннага» расказу, характэрнага для кнігі Гуцалы.

Маленькая аповесць «Падарожныя», другая ў кнізе,

па часе дзеяння павінна была б стаяць першай. Гэта, вядома, справа аўтара, але ў мяне, прызнаюся, ёсць падазрэнне, што другую аповесць ён нібы схаваў за першую, прыкметна лепшую.

...Мясцовасць толькі што вызвалена ад фашыстаў. Асенняя хмарная бездараж. З сяла ў свой горад вяртаюцца маці і сын, хлопчык Юрко (дарэчы, падобны на Міхайлу з першай аповесці, і гэта таксама падказвае меркаванне пра аўтабіяграфічнасць вобраза). Усё, што бачаць на сваім, яшчэ небяспечным, шляху горкія бежанцы, добра відаць і чытачу. Папаленыя хаты, трупы ворагаў, іх разбітая, пакінутая тэхніка. Выдатна напісаны агідны карантыш-марадзёр. Запамінаецца бабуля ў чорным (так бачыць яе Юрко), мужная і мудрая ў бязмежным горы ваенных дзён. Сцішнаваты ў сваёй праўдзівасці вобраз дзяўчынкі Ніны, якая ў бамбёжку страціла і родных і памяць. Па-свойму цікавы і маладзенькі лейтэнант, якога з поля бою адпусцілі на дзеньдва да маці. Страшна і ярка ў сваёй абагульненасці бачыцца сяло Лясны Майдан, спаленае гітлераўцамі разам з людзьмі. Добра напісаны ацалелыя — дзед Галапац і малы Юзік, якія знайшлі прытулак пад зямлёю, у нары, а самі дзень у дзень заняты жудаснай працай на адной ацалелай каняжыне: хаваюць недагарэлыя рэшткі аднавяскоўцаў. А ўвечары, у нары, каля газніцы стары Галапац расказвае пра іх, як пра жывых, Юрку і Юркавай маці...

Так, напісана ўсё гэта добра, арыгінальна і ярка. Ды вось наступае фінал кароткай аповесці, і іменна ён, мне думаецца, і псуе ўсю справу.

Адпускніку-лейтэнанту ўдалося ажыццявіць свой намер, што ўзнік у святым абурэнні, але і пад чаркай. Ён узняў сяло, усіх дзядоў і бабуль, ноччу прыйшоў з усім гэтым «войскам» у Лясны Майдан, знайшоў там здрадніка старасту і на досвітку пачаў чыніць над ім суд... Тут вось і пачалася «рамантыка», знаёмая па тых кінакарцінах, на праглядзе якіх адчуваеш сябе няёмка за яе стваральнікаў.

Ёсць абураныя маналогі, хор разгневаных галасоў, а тады прыходзіць заведама недарэчна трагічная смерць героя... Лейтэнант, франтавік, ён вядзе здрадніка далей ад натоўпу, каб там расстраляць. Цытую: «Лейтэнант ужо не трымаў пісталет у руцэ, схаваў яго

у кішэню...» Навошта гэта? Ды для таго, каб стараста... ударыў лейтэнанта, выхапіў у яго пісталет і застрэліў самога. Так яно, бачыце, куды больш трагічна дый сімвалічна: барацьбу яшчэ трэба працягваць, вораг яшчэ не дабіты. Праўда, старасту дабіваюць. Бяззбройны бабскі натоўп. Так сказаць, суд народа. Нават і хлопчыкаў, Юрка і Юзіка, аўтар пасадзіў удвух на адну тую ацалелую каняжыну, прымусіў іх прыняць удзел у атацы. Нават і таго агіднага карантыша-марадзёра прыцягнуў да агульнай справы; яго нават параніў стараста...

Фальшыва ўсё гэта. І як мне ні непрыемна гаварыць усё гэта «пад заслону», я не магу крывіць душою, паважаючы талент Яўгена Гуцалы, дзякуючы за ўсё пасапраўднаму добрае ў яго кнізе.

*1974*

# ШЧАСЛІВАЙ ДАРОГІ [1]

Самотная, нямоглая бабуля Антосіха, абодва сыны якое загінулі ў вайну, прыходзіць у хату да жанчыны, якую адзін з іх кахаў, але яна не стала яго жонкай, маткаю яе ўнукаў — па той самай прычыне: з-за вайны. Прыходзіць на чужое сямейнае свята, радзіны хлопчыкаў-блізнюкоў і провады ў армію старэйшага сына.

«— А я ўжэ і паміраць была сабралася, ды пачула, што вы ўсе разам сышліся, на мяне не забыліся, дзякуй вам! І баялася, што не дайду, але пайшла, каб і малых блаславіць, і большанькаму шчасця пажадаць, і ўсю бяседу не ўкрыўдаваць».

Нямала сілы трэба, каб узняцца над сваім горам, радавацца шчасцю іншых, так любіць жыццё, людзей. Каб пісаць гэта па-сапраўднаму, патрэбен не толькі талент, але і любоў да таго, што пішаш, сіла пранікнення ў чужыя душы, у тайнікі чалавечай псіхалогіі. Так, і талент, і любоў, і яшчэ адно — сталасць позірку на жыццё, веданне жыцця ва ўсіх яго праявах.

Цяпер, чытаючы Алеся Жука ў рускім перакладзе, я ўспомніў і першую сустрэчу з яго апавяданнем «Асеннія халады», і тое, што было трохі раней. А была — радасць адкрыцця Валянціна Распуціна, яго аповесць «Апошні час», зайздроснае здзіўленне, што вось жа — такі малады, толькі трыццацігадовы з нечым, а здолеў так пранікнуць у душу старэнькай, што памірае, у пачатку жыцця спасцігнуць тую найвышэйшую мудрасць, што даецца нам так не адразу і так нялёгка.

---

[1] Пасляслоўе да кнігі Алеся Жука «Снег под солнцем». «Молодая гвардия», 1976.

Студэнту Алесю Жуку, калі ён пісаў сваё апавяданне, пісаў жывы, хвалюючы вобраз старое маці, што блаславляе чужых дзяцей, чужое шчасце, было крыху за дваццаць гадоў. Ранняя сталасць яго таленту была заўважана адразу, па першых часопісных публікацыях, потым, у канцы 1972 года, выйшла першая кніга, якая многіх усцешыла сваёй мастацкай спеласцю, веданнем жыцця і тым, што так своеасабліва выказаў Ван Гог: «Няма нічога больш мастацкага, як любіць людзей».

Гэтай любоўю, на дзіва стрыманай, без фальшу і сентыментальнасці, пранізана амаль усё, напісанае А. Жуком. Светлы вобраз бабулі Антосіхі з апавядання «Асеннія халады» пераклікаецца з жывымі вобразамі іншых нашых маці і бацькоў — калгаснага пенсіянера Вінцэся (апавяданне «Вінцэсеў дзень»), сумленнага рабацягі, які сваё, асабістае зусім натуральна бачыць у агульным; няшчаснай маці з апавядання «Белы месяц»; пажылога, вопытнага дырэктара сельскай школы Васіля Аляксеевіча з аповесці «Такая восень»; добрага мудраца Анціпа з «Гаркавага дыму»; былога камбайнера, які з-за хваробы стаў лесніком, а па сумяшчальніцтву і пчол даглядае (апавяданне «Паляванне на старых азёрах»), чалавека, пра якога аўтар гаворыць: «Акуратны, чысты, ён прыходзіў у вёску, слухаў, як гаманілі мужчыны, добра і спакойна ўсміхаўся, бо нешта ведаў такое, чаго ўсе не ведаюць яшчэ...»

Веданне галоўнага дапамагае Алесю Жуку пісаць людзей самых розных па ўзросту.

Вось безыменны малы з апавядання «Балада». Малы любіць бацьку, хоча ва ўсім быць падобным да яго, быць мужчынам. А потым яго дзіцячая чысціня сутыкаецца з жорсткай прозай дарослых — ідучы на працу, бацька кажа малому быць гаспадаром, прыняць мужчыну, які прыйдзе застрэліць іх Пушка, старога, ужо непатрэбнага ў гаспадарцы сабаку. Малы сябруе з Пушком. Пра тое, якая яна безабаронная ў сваёй чароўнай наіўнасці, гэтая дзіцячая чысціня, аўтар гаворыць так: «Малому хочацца ведаць, што будзе з Пушком, калі яго застрэляць. Ён, відаць, уткнецца носам у снег, выцягне лапы і будзе ляжаць, аж пакуль не стане холадна ў нос, а потым усхопіцца, коратка віскне і памчыцца па гурбах. Ён, малы, гэтак жа сама ляжыць

на снезе, калі яго «застрэляць», гуляючы «ў вайну», ляжыць, пакуль не пачнуць мерзнуць рукі або твар, потым з вясёлым крыкам даганяе сяброў...» З сабакам такое не здарылася, ён быў забіты па-сапраўднаму. Мужчына зрабіў сваю справу і пайшоў. Пушок, абмяклы, у лужыне крыві, застаўся на снезе, а малы «безда-паможна азірнуўся па баках, потым кінуўся бегчы прэч, спатыкнуўся, упаў тварам у снег, усхапіўся і зноў пабег... Назаўтра ён не ўстаў разам з бацькам, не захацеў мыцца, як мужчына...»

Харошыя яны ў Жука, гэтыя хлопчыкі, дзеці. Малы Юрка, які застаўся без бацькоў («Гаркавы дым»), бадзяецца з падлеткам Лесіным па захопленай роднай зямлі жахлівым летам 1941 года і гіне ад кулі тых, што гналіся за імі,— першая ахвяра фашысцкай улады ў вёсцы, што дала часовы прытулак бяздомнікам. Алёшка, сынок актывіста, які хаваецца ад ворагаў, вясковы хлопчык, якога то бабуля, то добрыя людзі-суседзі хаваюць, абы хто пастукаў у дзверы, абы з'явіўся ў вёсцы незнаёмы чужаніца, ужо не кажучы пра гітлераўскіх прыслужнікаў ці саміх акупантаў. Сённяшні равеснік тых ваенных хлопчыкаў, сын армейскага старшыны з апавядання «Існі доўга...», дапытлівы Сярожа, які любіць свайго тату і бянтэжыцца ад незразумелай для яго халоднасці ў адносінах бацькоў...

Паміж старэчай мудрасцю, стомленасцю пражытым, вечным клопатам пра дзяцей і дзіцячай чысцінёй, наіўнасцю і відушчасцю ў апавяданнях і аповесцях Жука ёсць, вядома, і маладосць з яе хваляваннем, і людзі ўзросту сямейнага, бацькі маленькіх і большых, той асноўны чалавечы ўзрост, на якім і трымаецца жыццё з усімі яго цяжкасцямі і абавязкамі.

Мілая Людка-Люда ў апавяданні «Сок манга», дзяўчынка, у якой абуджаецца жанчына, яе першае пачуццё да Віцькі, а потым да Шуры, і страх бацькоў, што гэта так заўчасна, і нашае ёй, Людзе, пажаданне шчасця, вялікага, сапраўднага кахання. Студэнтка Валя («Завулак»), яе любоў да аспіранта Валодзі, хлопца старэйшага, вопытнейшага за ўчарашнюю вясковую школьніцу, хлопца харошага, які не пакарыстаўся яе наіўнасцю. Вадзіцель таксі Праташчык, які толькі знешне падобны на піжона. Ляснічы Голуб з яго няўдалым каханнем да «пястункі лёсу» Ліды. Геолаг Па-

вел, «шалапутны сын», які прывёз з далёкай поўначы ў родную беларускую вёсачку подых вялікай краіны, вялікіх спраў, вялікага часу. Калгасны аграном Васілюк, паказаны ў яго сутыкненні з маладымі марнатраўнымі мяшчанамі, сумленны работнік з яго глыбокім адчуваннем сапраўднай красы жыцця... Гэта ўсё моладзь, жыццё якое Жук ведае і адчувае глыбока.

Сярод вобразаў людзей старэйшых, але не старых, асабліва добра напісаны (апавяданне «Замеценыя дарогі») бульдазерыст Павел, чалавек знешне суровы, нават грубы, але вельмі добры, сумленны і сціплы.

Асобна, нібы наводшыбе, стаіць у кнізе дзед Ігнат, па мянушцы Чыгун (так называецца і аповесць). Іменна любоў да сапраўдных людзей і дала маладому пісьменніку сілы і сродкі напісаць гэтага вылюдка — асколак былога свету, мярзотны ў сваім, пакуль служыла здароўе, актыўным чалавеканенавісніцтве.

Рысунак у Жука дакладны, кожны рух у думках, пачуццях, паводзінах яго герояў — праўдзівы.

Любіць ён і прыроду. Не тую, што больш экзатычная, а тую, што свая, родная назаўсёды. У яго гэта хлебная Случчына, з яе густым туманам напрадвесні, летняй травой пад бярозамі і высокім небам, з яе залатой або дажджлівай восенню, з радасным сонечным снегам.

Мова Жука дакладная, празрыстая, ядраная, з лёгкай прымессю мясцовай гаворкі, беларуская краса і сіла гэтай мовы добра, з любоўю і веданнем перадаецца ў перакладзе Іны Сяргеевай.

Нарадзіўся аўтар у 1947 годзе, у вёсцы Клешаў каля старадаўняга Слуцка, у сям'і рабочага-меліяратара і медыцынскай сястры. Вучыўся ў вясковай школе, закончыў філалагічны факультэт БДУ, два гады служыў у арміі, камандзірам мотастралковага ўзвода, цяпер працуе рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура». І галоўнае — піша. Нетаропка, але ўпэўнена. У арыгінале выдадзены дзве кнігі апавяданняў і аповесцей, з якіх і складзена гэтая кніга.

Прыемна пажадаць ёй шчаслівай дарогі.

*1975*

# НА РАЗДАРОЖЖЫ

Напярэдадні было хмарна, ноччу ішоў дождж, а познім ранкам распагодзілася вельмі светла. З акна машыны я любаваўся спелай жнівеньскай радасцю родных мясцін, потым спыніўся на ўзгорку і выйшаў, каб нават ціха не ехаць, а пастаяць.

З узгорка, дзе я стаю, відаць тры вёскі, у розных напрамках, бліжэй і далей. У той вунь, далейшай, я ніколі не быў. Бывае так: ездзіш паблізу, нават і думаеш, каб заехаць, а ўсё не збярэшся. І цяпер не заеду. І не толькі таму, што я не сам еду, а мяне вязуць, што дарога наша не туды,— з гэтай вёскай звязаны ў мяне ўспамін, ужо тым часам і даўні, а яшчэ ўсё сумны...

Семнаццаць год таму назад мы ехалі аўтобусам з Мінска ў родную вёску. Мы — гэта я з сястрой, старэнькай вясковай бабуляй, што пагасціла ў мяне, пахадзіла па дактарах і сказала: «Ат, паеду дахаты, усе яны пра адно...» У апошнім аўтобусе было ўжо цемнавата, мы з сястрою сядзелі на розных месцах, яна спераду, а я далей, стары аўтобус дрыгацеў, і я больш бачыў, чым чуў, што сястра, жанчына даволі-такі гаваркая, прыязная да людзей, разгаманілася са сваёю выпадковай суседкай. Спачатку яны разоў колькі азірнуліся ў мой бок, а потым сястра кіўнула мне, паклікала туды, да іх. Я такога не вельмі люблю, ды што ты зробіш — яна настолькі старэйшая за мяне, што я прывык з маленства слухацца яе, амаль як маці. І цяпер вось, я здагадаўся: яна не вытрывала — пахвалілася незнаёмай жанчыне, што той вунь высокі, што ззаду сядзіць — яе найменшы брат і ён у Мінску пісацель. «Ты сабе, калі ўжо такі далікатны, злуй, а мне прыемна» — такое адчуў я ў голасе сястры, калі нездаволена падыходзіў да іх.

Тая жанчына ехала дахаты з хлопцам, якога зноў дарма прывозіла да мінскіх дактароў. У хлопца яшчэ на дзесятым годзе адняліся ногі, не служаць зусім, і колькі дзе з ім не былі — нічога не памагае. Ужо ў восьмым класе, і вучыцца добра, а ў школу носіць яго то старэйшы брат, то сама яна — што год, што месяц то цяжэйшы крыж яе бясконцай Галгофы... Старэйшы брат — трактарыст, хлопец з рукамі, і ён зрабіў меншаму адмысловае сядзенне каля стала, і той сядзіць там, бедны, цэлымі днямі, чытае і піша. І вершыкі розныя састаўляе, сам, са свае галавы. З-за гэтых вершыкаў сястра і пахвалілася мною, паклікала.

У аўтобусе было ўжо ўключана святло. Не яркае. І я ў ім не вельмі разгледзеў хлопца, які сядзеў далей і цераз праход, займаючы наўпоперак два месцы. Я пастаяў над ім, пагаварылі, а нешта праз месяц атрымаў пісьмо.

«...Вы мяне, мабыць, успомніце, гэта пішу я, каторы ехаў разам з Вамі з Мінска на аўтобусе. Гэта ў мяне Вы па вачах пазналі, што я пішу вершы. Хоць трохі са спазненнем сваё абяцанне выконваю. Пасылаю Вам свае вершы і буду прасіць, каб Вы мне растлумачылі, дзе, што нядобра, чаму нядобра і як палепшыць...»

Пісьмо цытую цяпер не па памяці: я яго захаваў. А тады, на дарозе, калі я ўбачыў здалёк яго вёску, пісьмо мне толькі прыгадалася сваім нясмелым алоўкам і словамі: «Вы па вачах пазналі...»

Не трэба было так маніць: пра вершы я толькі ад маці пачуў, з вачэй іх не ўбачыў. Але спадзяваўся, хацеў, каб яны былі добрыя. Ён іх прыслаў. Яны былі зусім выразна дрэнныя, адчулася, што безнадзейныя. Аднак жа за імі стаяў не халтуршчык які, а бедны хлопец, з рук якога мне трэба было... няхай сабе не вырваць, дык асцярожна выцягнуць апошні матузок ягонай сувязі з жыццём, з надзеяй мець у ім сваё месца. Страшна было памыліцца, не адгадаць у ім гэтай здольнасці, але ж брыдка і маніць, упэўніваць у тым, чаго няма. Я паслаў хлопцу кнігу, напісаў яму, як толькі змог асцярожна, што ўсё яшчэ наперадзе, што трэба верыць, вучыцца, працаваць... Штосьці такое, балюча банальнае. І хлопец мне не адказаў. Ён такое пацехі наслухаўся ўжо — пра здароўе сваё...

Той, з кім я ехаў і з кім стаяў на дарозе, любуючы-

ся роднымі мясцінамі, расказаў мне, што бедны хлопец жыве і нічога ў яго не змянілася. Толькі ўжо маці зусім пастарэла, не можа яго насіць, а брат па-ранейшаму дружны, добры, уважлівы, хоць ужо і жанаты, і дзеці ў яго свае. Можа, нават і вершы ён, той былы падлетак, піша ўсё яшчэ, нікуды іх не пасылаючы, нават у раённую газету.

Дык што ж мне заходзіць да яго? Па-свойму, чым мог бы, не дапаможаш, а іншай дапамогі ад цябе не патрабуюць: беднасці і ў той хаце няма, а на здароўе ты не медык...

А можа, усе гэтыя разважанні — такая, больш-менш зручная, форма ўмывання рук?

Застаюся на раздарожжы. Як і тады, на сонечным узгорку.

...Інакш бывае тады, калі, прачытаўшы чужое, можна сказаць зусім па шчырасці, што нешта ёсць, што нешта будзе!..

*1976*

# ПРАЦАВАЦЬ, СУМАВАЦЬ, СМЯЯЦЦА

У снежні 1945 года адбыўся першы пасляваенны пленум беларускіх пісьменнікаў. З дакладам выступіў Міхась Лынькоў. Даклад быў потым надрукаваны. Цытую з газетнай, ужо тым часам і пажоўклай, паласы:

«Ствараецца ўражанне, што аўтар проста сабраў розныя падзеі, факты, дэталі, дзесяткі падзей і, без усякага адбору, нядоўга думаючы, ссыпаў усё гэта ў адзін кош, страсянуў разы са два гэты кош за вушы, і ў выніку такога «творчага метаду» і з'явіўся твор, не твор, а нейкая цьмяная куча, дзе нешта варушыцца, нешта спрабуе гаварыць, нешта спрабуе займацца батальнай піратэхнікай. Урэшце, усё трашчыць, усё развальваецца, распаўзаецца ў гэтай бясформеннай, эклектычнай кучы».

Тады пісьменнікаў, членаў Саюза, было каля пяцідзесяці. Пераважна паэты. Яшчэ быў свежы адзін з апошніх, глыбока балючых ударaў вайны — памёр Кузьма Чорны, пасля чаго празаічнае поле амаль зусім апусцела. Яшчэ далёка і вельмі далёка было да значнага атрада тых, хто сёння піша яе, нашу адносна багатую і ўжо даволі далёка вядомую прозу. Тады мы, першае пасляваеннае пакаленне празаікаў, толькі яшчэ настройваліся, зробленага было небагата, аднак у галоўным разбіраліся мы ўжо няблага. У нас была маладая, чыстая, свежая чуткасць да фальшу, кан'юнктуры, мяшчанскага зарабляння, панылай і ваяўнічай графаманіі. Прыведзеная цытата — пра адну, даўно і грунтоўна забытую аповесць, што вырасла была, з'явілася, як дзьмухавец на лядзе, і па беднасці лічылася

ў афіцыйным актыве. Чалавека, што напісаў яе, тую аповесць, мы, маладзейшыя, паважалі, і яшчэ больш паважалі б яго, калі б ён не пісаў або хоць друкаваў трохі менш. І вось другі наш старэйшы таварыш, якога мы паважалі ўжо без усякіх агаворак, Міхась Лынькоў, сказаў пра жалю варты твор іменна тое, што адпавядала і нашым, кожнага паасобку, думкам, і нашым гутаркам з іх смехам і абурэннем. І мы былі не проста рады гэтаму, але і для сябе ўзялі ад тое сумленнасці кожны па-свойму больш ці менш, кожны па-свойму збярогшы або растраціўшы яе за свае дзесяцігоддзі практыкі.

Лынькоў не растраціў, і вельмі шкада, што ён зарана стаміўся. Яму было трохі за шэсцьдзесят, калі я аднойчы прысутнічаў пры гутарцы, дзе Міхасю Ціханавічу прапанавалася зрабіць даклад на чарговым пісьменніцкім пленуме, а ён адмовіўся — матывуючы гэта яшчэ не столькі недамаганнем, як занятасцю іншымі, не менш важнымі, чым пленум, справамі. А потым, калі мы ўтрох, з яшчэ адным са старэйшых, выйшлі на вуліцу, Лынькоў, у працяг той самай гутаркі, дадаў: «Я ім сказаў бы, халтуршчыкам, да чаго ўжо яны дайшлі, я ім даў бы...»

І не сказаў, не даў... На жаль, ён заўчасна пачаў старэць, стамляцца, многа хварэў. Аднак і ў маўчанні яго было тое, на што — цяпер гэта відаць нам выразней — можна было і добра было абаперціся, як на надзейны аўтарытэт сумленнасці. Адыход яго — вялікая страта, падобная да той, якую мы адчулі ў смерці Коласа і, зусім нядаўна, у смерці Мележа... Чэсць ім і слава, і няхай жа яны жывуць сярод нас напамінкам пра тое галоўнае, на чым павінны трымацца і мы, старэйшыя, сталыя і маладыя. Бо не залішне шмат у нас ахвотнікаў і смела сказаць слова праўды публічна і яшчэ, мусіць, менш тых, хто хацеў бы яго пачуць. Нават, як гэта ні дзіўна, і сярод тых нашых сяброў, што і на пятым дзесятку настойліва лічаць сябе маладымі, і сярод сапраўды маладых, якім якраз і трэба, хутчэй чым каму, больш смеласці, самакрытыкі — для сапраўднага росту.

Людзі, лёс якіх у цяжкі для іх час залежаў у нейкай ступені і ад Лынькова, успамінаюць Міхася Ціханавіча добрым, ціхім словам. І наша першае пасляваен-

нае пакаленне, і маладзейшыя за нас могуць засведчыць, што да яго можна было смела звярнуцца па заступніцтва аўтарытэтным словам. А то і сам ён, не чакаючы тваё просьбы, ішоў насустрач са спагадаю і дапамогай. Гэта і я ■ глыбокай ды трывалай удзячнасцю адчуў на сабе — двойчы і іменна тады, калі дапамога мацнейшага была асабліва патрэбная.

Не магу сказаць, што на самым пачатку свайго творчага шляху, у нашай тады нешматлікай літаратурнай сям'і, я адчуваў сябе абыдзеным, адзінокім. Былі сябры ■ равеснікаў, былі спагадлівыя людзі са старэйшых, пра кожнага з іх я мог бы ■ удзячнасцю штосьці сказаць, але цяпер я павінен сказаць пра аднаго — Лынькова, і не проста таму, што пішу пра яго, а не пра каго-небудзь іншага, а таму, што ў ліку старэйшых ён быў вельмі прыкметна добрым, чалавечным.

Яшчэ ішла вайна, у разбураным Мінску жылося нялёгка. Думалася не пра кватэру, а хоць бы пра нейкі куток, мелася — марны заробак і скупыя карткі літсупрацоўніка, які яшчэ толькі марыў пра першую кнігу. А ўжо і сям'я, а ў сям'і і хвароба. І вось ён, такі паважаны пісьменнік, сам старшыня Саюза, выбраў момант, каб з вока на вока, у сваёй хаце, дзе ён жыў адзін, асірацеўшы за вайну, і дзе размяшчаўся тады Саюз пісьменнікаў, ціха спытацца:

— Уюнаш, ёсць чуткі, што, грэшным дзелам, цяжкавата жывецца?..

І просіць (іменна — просіць) па-сяброўску падзяліць з ім (іменна — падзяліць) тое, што ён мае з яды. Мы былі з жонкай ужо людзьмі з пэўным мінулым, перажытым, людзьмі маладымі, ды сталымі, аднак тады, у той вечар, у нашым часовым закутку мы ўдзячна адчулі сябе калі не дзецьмі, дык значна маладзейшымі пры значна старэйшым, нібы па-дзіцячы адчулі бацькоўскую ласку.

Другую дапамогу прыняў я ад яго тады, калі ў мяне раптам былі ўзніклі цяжкасці ■ друкаваннем. Да першай кнігі, у часопісах. І сёння яшчэ сяды-тады сустрэнеш на рынку ці ў магазіне зусім пажылую бабулю, калісьці магутную цётку, якой найбольш да твару клопаты з авоськай. А тады ёй не падабаўся мой стыль, тэмы, мова, наогул «нізкі мастацкі ўзровень». Не зусім, не да канца суцяшала і тое, што ёй не падабаўся

таксама і... Чорны. Іменна, іменна Чорны — «Млечны Шлях», «Заўтрашні дзень» і іншае...

Міхась Ціханавіч зноў жа не пачакаў, пакуль той «уюнаш» прыйдзе ды паскардзіцца,— сам, «дачуўся», што яму «цяжкавата», пайшоў, пагаварыў, і справядлівасць перамагла.

Такое не забываецца.

Мы, маладзейшыя, сталелі на яго вачах, з нашымі дзецьмі, з нашымі творамі, і ласка яго да нашых дзяцей і твораў дапамагала жыць, заражала нас жаданнем і самому быць лепшым, больш уважлівым да тых, каму гэта трэба.

У сталасці мы спакваля ўсё больш ды больш разумеем смак мудрай аб'ектыўнасці. Часамі ён, шчыра сказаўшы, бывае і гаркаваты. Пакуль не пераможаш пачуцці розумам. Усе мы выходзілі ў свет з маршальскім жазлом у ранцы. А потым пачалі патроху заўважаць, што тое самае, пра што ты марыў і чаго не здзейсніў,— тое робіць, зрабіў хтосьці іншы, маладзейшы, а то і зусім малады. І што ж, не ўсе абгоненыя радуюцца гэтаму, часамі нават скочваюцца ў гніль актыўнай зайздрасці...

Лынькоў умеў радавацца чужому шчасцю, поспеху другога, росту літаратурнай змены. Гэта мы чулі ў яго гутарках і выступленнях, чыталі ў артыкулах. Здаралася бачыць, як гэты сівы, нямоглы таварыш сваёю цяжкай хадой, з накульгваннем заходзіў у кнігарню і браў з паліц усё новае ў роднай літаратуры, кніжкі і кніжыцы маладых, і прозу, і паэзію. За год-два-тры да яго смерці ў рэдакцыях, на сяброўскіх сустрэчах, у групавых паездках хадзіла гутарка пра тое, як Лынькоў сказаў, каб выдавалі больш маладых, а ён з чарговым зборам твораў можа трохі і пачакаць...

Аўтар славутага ў дзіцячым свеце «Міколкі-паравоза» сам быў жорстка абдзелены шчасцем бацькоўства. І вось у многіх сямейных альбомах яго сяброў і блізкіх знаёмых удзячна захоўваюцца фотаздымкі малечы, у свой час нібы зусім непрыкметна знятай вясёлым «дзядзем Міхасём». Недзе ў сонечным лесе каля пісьменніцкага дома адпачынку, а то над Нараччу, дзе ён праводзіў летнія месяцы больш як дваццаць сваіх апошніх гадоў. І пасылаліся або перадаваліся тыя фотаздымкі

ў акуратных канверцiках на iмя якой-небудзь трохгадовай паважанай Святланы Мiкалаеўны або двухгадовага паважанага Аляксандра Iванавiча, i за ўсiм гэтым свяцiлася цiхая ўсмешка самотнае дабраты.

Яшчэ раз згадваецца Шаўчэнка: нядрэнны той чалавек, каго любяць дзецi. (Не даслоўна гэта, але светла i даўно ўжо помнiцца.)

Аднойчы мне давялося мiжволi падглядзець, як ён сядзеў у нерухомым сасновым цяньку, курыў, а да яго, блытаючыся ў траве, прытэпала адна з такiх «паважаных», пастаяла, падумала i спыталася, па праву маленства на «ты»:

— Дзядзя Мiкась, ты буську хочаш?

Усмешкi ягонай мне не было вiдно, яна пачулася ў голасе:

— А што ты думаеш, грэшным дзелам, i пацалуемся.

Малое падышло i цмокнула. I зноў спыталася:

— Яшчэ хочаш?..

Дзяўчынка тая, цяпер ужо мацi, наўрад цi памятае гэта сама, без падказкi старэйшых. Я памятаю.

З адчуваннем пэўнай няёмкасцi дазволю сабе яшчэ адзiн асабiсты ўспамiн. Справа не толькi ў тым, што i гэта, пра што раскажу, было маёй радасцю,— я, перш за ўсё, хачу дадаць яшчэ адну рысачку да ягонага вобраза.

У маiм апавяданнi «Зялёная школа» малую яўрэйскую дзяўчынку бацька-партызан зусiм нечакана знаходзiць у сямейным лагеры iншай, далёкай брыгады. Для гэтай сустрэчы мне спатрэбiўся мiмалётны, сонечны дождж — спачатку для таго, каб ён прагнаў малых з iх «зялёнага класа» на пушчанскай палянцы, а потым, калi праезджы партызан з каня ўбачыў у чародцы iмклiвай, звонкагалосай малечы сваю найменшую, забiтую, як яму думалася два гады, разам з усёю яго сям'ёй, дождж, як аказалася, спатрэбiўся i для таго, каб так схаваць бацькавы слёзы. Аўтарскi страх перад лiшняй сентыментальнасцю.

— Уюнаш, я прачытаў,— сказаў мне Цiханавiч, выбраўшы момант i месца ў нейкiм шумным перапынку.— Дожджык — харошы...

Больш нiчога. I гэтага хапiла мне для патаемнай радасцi, удзячнасцi за ўвагу. А разам з тым i падума-

лася горка, балюча пра тое, што ў гэтым дожджыку паўтарыўся яшчэ адзін боль: не адбылася ў Ціханавіча такая сустрэча з яго малым, адзіным Марыкам, замардаваным фашыстамі... А добрае слова праз свой боль — гэта высакародна і гэта вельмі збліжае...

Лынькоў любіў прыроду. Дзве стыхіі хвалявалі яго найбольш: агонь і вада. Як «вогнепаклонніка» я ўведаў яго раней. На зялёнай паляне перад драўляным двухпавярховым домам у падмінскім лесе — перад Домам творчасці імя Якуба Коласа — і сёння часта шугае высокае полымя. Леснікі даўно ўжо прызвычаены да таго, што гэта не лес гарыць, а зноў пісьменнікі грэюцца. Традыцыя, якую ў канцы саракавых гадоў пачаў Лынькоў. Усё рабілася з уласцівай яму спраўнасцю. Знойдзеныя ў адзінокіх праходках карчы і сухастой транспартаваліся на паляну волакам або на двухколцы. Мабілізацыя рабочай сілы праводзілася з захаваннем поўнай дэмакратыі, без асаблівых скідак на гады і рангі.

— Уюнашы, грэшным дзелам, падумаем пра цяпельца.

Пад вечар цяпельца пачынала дыміць, ён свяшчэннадзейнічаў каля яго, то ў пэўнай цішыні, то ў гутарках, а то і смех выбухаў, а полымя даставала ледзь не да самых яловых вяршалін.

Ды неўзабаве адзін з найвесялейшых «лесарубаў», Максім Танк, перамануў Лынькова, Крапіву, Куляшова, Лужаніна, а потым і мяне да свае роднай Нарачы, дзе «ўюнашы» са сваімі «атракавіцамі» і «чадамі» (слоўнік Лынькова) жылі спачатку ў сялянскіх хатах, а потым некаторыя пабудавалі дачы над возерам, воддаль ад вёскі. Цяпельца з падмінскага лесу перакачавала на нарачанскі бераг, ад пошуму вечназялёнай ігліцы да ціхенькага плёскату вады, таксама вечнага. У гэтай любові Ціханавіча да агню была паслядоўнасць: хто мог прыйсці — не прыйсці да цяпельца, а ён быў там заўсёды, няхай сабе і адзін. Руская пісьменніца Марыя Прыляжаева, едучы з мужам у Літву, гасцявала ў маёй хаце, а потым, з Масквы, пісала: «З якою радасцю ўспамінаем мы нашу сустрэчу на возеры Нарач. У мяне дагэтуль стаяць перад вачыма берагі, пакрытыя соснамі, неабсяжныя далі і тое задумлівае і чамусьці трохі сумнае вогнішча, самотны чала-

век каля яго...» Божа мой, колькі нас сёння прыйшло б і пастала ці прысела на пясочку, побач з гэтым, няхай часамі і самотным, але ж заўсёды таварыскім чалавекам, побач з цяпельцам яго вясёлай душы!..

Любоў да вялікай вады, калі яна і жыла раней у гэтай душы, дык заўважацца па-сапраўднаму стала іменна там, на Нарачы. Праўда, перад гэтым былі ў Міхася Ціханавіча дыпламатычныя падарожжы цераз акіян, на сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, былі бывальшчыны пра казачна агромністыя цеплаходы «Куін Мэры» ды «Куін Элізабэт», былі іншыя моры і рэкі, хоць бы, скажам, той рагачоўскі Дняпро ці бабруйская Бяроза, аднак спартсменам-воднікам ён стаў не там. Калі такое спартсменства можа выклікаць у кагосьці і ўсмешку, дык сам Ціханавіч гаварыў пра яго зусім сур'ёзна. Не прама, а ўскосна, скажам, так: «У яго таксама маторац «Чайка», ён таксама спартсмен». І націск быў тут на слове «таксама».

Перш чым апынуцца ў яго маторцы, мне давялося перажыць канфуз. З вёскі Купа, дзе я ўпершыню атабарыўся з сям'ёю ў чэрвені 1955 года, першы візіт да новых дачаў я нанёс у белым часучовым гарнітуры. А тут Міхась Ціханавіч падышоў ледзь не са змоўніцкай прапановай:

— Давай, уюнаш, пракоцімся, грэшным дзелам, на маёй караўеле.

Лодка стаяла на прывязі ў канцы доўгіх падмосткаў. Толькі матор прынесці з гаража — пра гэта я ўжо ведаў па расказах. Не глядзець жа мне, як ён, сам капітан, будзе несці гэты матор. А тут мая новая часуча... І я пачаў няёмка дзякаваць.

— Што ж, уюнаш, мы не напрошваемся...

Занепакоены такім тонам, я выбраў момант і папшаптаўся з Танкам.

— Ну ўліп! — засмяяўся Максім.— Вядома ж, Лынь пакрыўдзіўся!..

Назаўтра я спецыяльна прыйшоў, ужо не белы, а шэры, і папрасіўся на ваду. Настрой у Ціханавіча быў выдатны. Мы вынеслі матор, перад гэтым даволі ўдумліва агледзеўшы перапоўнены ўсялякім струмантам гараж, прымацавалі «Чайку», я адапхнуўся ад падмосткаў — пайшлі!.. Сонца, празрыстая глыбіня, сустрэчны вецер ад лёту і сівы капітан у шэрым берэце,

з усмешкай марацкага шчасця, з рукой на ручцы кіравання.

Хто яго ведаў бліжэй, усе памятаюць той беларуска-царкоўнаславянскі жаргон, што падмацоўваўся цытатамі старажытна-літаратурнага і біблейскага паходжання, якім Лынькоў карыстаўся з пацешным пастаянствам і свабодай, нібы закончыў ён не настаўніцкую, а духоўную семінарыю.

Пакуль нам сігануць аж пад Гатаўскі бор, кіламетраў за дваццаць на поўдзень, або, на першы раз, хоць бы да наносаўскай касы, шэсць кіламетраў, мы абляцелі наш бераг, спачатку да вёсак з «экзатычнымі» назвамі Урлікі і Сцепянёва, а потым павярнулі да рыбгаса, паміж якім і пісьменніцкімі дачамі былі яшчэ блакітныя фінскія домікі друкарскага дома адпачынку. Адпачывалі там не толькі друкары ды наборшчыкі — пуцёўкі траплялiся і іншым прабіўным мінчанам. Адзін з такіх «адпачываючых», спакусіўшыся ціхай вадой, выйшаў у лодцы далёка ад берага. Поўны, у цёмных акулярах, капронавым капелюшы, ажурнай тэнісцы, ён важна чэрпаў вёсламі, у поўнай «отрешенности» ад усяго, што ўверсе, унізе, спераду, ззаду і па баках. Мы абмінулі яго, і неўзабаве мой капітан прыглушыў матор і спытаўся:

— А што, уюнаш, мо, грэшным дзелам, зробім сему мужу праведну, яко рэчэ Міхайла Васільевіч Ламаносаў?

— Што ён рэчэ?

— «Брэга далёкі і бугрысты волны».

І засмяяўся, ледзь не зусім па-юнацку. Калі ўжо так яно, што капітану пяцьдзесят шэсць, дык мне ж на васемнаццаць менш — давайце!.. Мы толькі два кругі зрабілі вакол той лодачкі, кругі вялікія, а ўсё ж з прасторнай роўнядзі і сапраўды зрабіліся «бугрысты волны». Мяркуючы па спалоханым, нават здалёк выразна спалоханым твары «мужа праведна», які то асядаў, то падымаўся на раскалыханай хвалі, брэга ці хутчэй, адзін толькі рыбгасаўскі выратавальны брэг бачыўся яму цяпер зело далеча...

Нямала было ў нас раніц і вечароў на цудоўнай вялікай вадзе. Часамі вясёлых, як той адвячорак, калі мы ўчатырох з Максімам і Паўлам Кавалёвым вярнуліся з вялізнымі шчупакамі і не сказалі, няўдалыя на

той раз спінінгісты, не прызналіся ўражаным сямейнікам, што гэты незвычайны ўлоў... з рыбгасаўскага невада, які мы памаглі цягнуць на дальнім беразе. Нямала было паходаў ды высадак паэтычна спакойных, скажам, у Гатаўскі бор, дзе так добра маўчыцца пад меднастволымі мачтавымі соснамі, або на касу, дзе за рыбацкай вёсачкай Наносы кірмашуюць на зялёнай ды мокра пясчанай водмелі незлічоныя красуні чайкі... Хвалі, сосны і чайкі і наша спакойнае, добрае сонца! Колькі гэтай роднай красы і мне давялося ўдзячна спажыць разам з нашым старэйшым другам, які так ведаў усё гэта, так разумеў і любіў!..

Апроч сустрэч, рабочых і ў летняй свабодзе, былі за трыццаць год і меншыя ці большыя разлукі, тэлефонныя званкі і пісьмы.

Сярод ягоных пісьмаў да мяне найбольш святочных паштовак, запоўненых характэрным, дробненькім і энергічным почыркам. Цяпер, сабраныя за шмат гадоў, яны вельмі падобныя адна да адной, але ж так добра ўспамінаецца, што кожная з іх прыходзіла ў тваю сям'ю паасобку, з рознай нагоды, і, як кожны новы «добры дзень», новая шчырая ўсмешка пры сустрэчы, новы сігнал: я побач, я памятаю і пра вас, успрымалася з прыемнасцю і адпаведным водгукам.

У сувязі з гэтым хочацца сказаць пра яшчэ адну адзнаку ўнутранай культуры — акуратнасць, якой вызначаўся Міхась Ціханавіч. Яшчэ адна сімпатычная рыса яго характару, што хораша вылучалася на фоне той «нехарактэрнай» неахайнасці, якую мы часта не заўважаем у сваіх паводзінах. Спазніцца туды, дзе цябе чакаюць, не выканаць у пару таго, што ты павінен быў і абяцаў зрабіць, вярнуць чыюсьці кнігу забруджанай, не адказаць на чыёсьці шчырае пісьмо — усё гэта тыя «дробязі», якіх у нашых паводзінах значна больш, чым спраў вялікіх, тыя «дробязі», з якіх утвараецца цэлае — чалавек, яго характар, яго ўздзеянне на асяроддзе, тая асабістая атмасфера, што можа быць больш ці менш чыстай і светлай у залежнасці і ад яго самога.

Калі святочныя паштоўкі, не многа кажучы камусьці старонняму, нагадваюць прыемнае толькі табе, тваім найбліжэйшым, дык некаторыя пісьмы маюць

ужо і цікавасць шырэйшую. Яны і выклічуць усмешку ў тых, хто ведаў іх аўтара, і будуць таксама прыхільна сустрэты тымі, каму да твораў паважанага, любімага пісьменніка, да фактаў яго біяграфіі дададуцца новыя жывыя штрыхі.

Адно з падобных пісьмаў Міхася Ціханавіча да мяне хачу прывесці поўнасцю, некаторыя імёны замяніўшы ініцыяламі. Пісьмо гэтае ўлетку 1968 года я атрымаў у адноснай лясной глухамані, з адноснай далечыні — у калгасным доме адпачынку «Рэчанька» над Шчарай, куды яно прыйшло з Нарачы. Падвойная адноснасць, глухамані і адлегласці, узмацняла ўражанне ад пісьма тады, а цяпер, перачытанае праз восем год пасля напісання, праз год пасля таго, як Міхась Ціханавіч пакінуў нас, свежа дыхнула на мяне аптымізмам, які не пакідаў яго да канца.

Вось яно, тое пісьмо:

«...Вялікі дзякуй за тваё «пасланіе» нарачлянам. Аднак і мясцінку ты абраў, адна назва настройвае на паэтычны лад. Сапраўды, той, хто даў такую назву дому адпачынку, належыць да паэтычнага племені.

У нас на Нарачы справы ў гэтым годзе не зусім добрыя. І Максім, і я аскудзелі зело целясамі і заместа добрых піцій глытаем розныя мікстуры і таблецці. Максім разы са два акунуў свае целясы ў нарачанскія воды і на гэтым завяршыў сезон амавеній. А мне эскулапы рэкоша: ашчэ хошчэшы прадліць леты свае, не суйся ў воды і пад промнем сонечным не загаляйся, ібо сіе табе на згубу. І яшчэ рэкоша мне: не пажалай ні жаны бліжняга свайго, ні асляці яго, ну і г. д. і г. д. Наконт «жаны бліжняга» блюду заветы эскулапаў, бо ашчэ і васхацеў бы прэступіць іх запаведзі, нічэгожэ не сатварыў бы, паеліку замацерэх во днях сваіх. А на кожнага бліжняга взіраю яко на асляці — онае можа маторые маё восцягнуці на брэг і вадрузіці на маю каравелу, дабы васседоша, акі капітану і адміралу, дзерзаць на Гатавічы, на Наносы, Чараўкі і іншыя селішчы нарачанскія.

Мінулым днём спакусіў я едзінага з малых сіл — С. і яго супружніцу (каму ж, як не ім цягнуць на брэг маторые?) і, даша кожнаму па спінінгу, адплыша ў мора. І пачашася веліе смяценіе на водах і на ваздусех. Вазгрымелі грамы веліі, і пякоша маланкі, а хлябі ня-

бесныя разверзліся і амачыху нас, акі цюцей. І бысць нам веліе пасрамленіе, і ўсякае рыбіе насмеяхусе з нас — і шчупацы, і акуніе, і калючыя ершыя. На прычале узрэў нас Максім і, яко скімен, обіжаяй у тайных, ізрэк: «Ну што, налавіў?..» На сіе маўчаніем адказаша, ізышэд я пад кроў свой, дабы асушыць адзежды свае і мысліе да парадку прывесці.

Так вось і жывём. У Максіма са здароўем вельмі кепска — крывяны ціск 160 на 120. Занядужала і мая дружына, у нядзелю паехала ў Мінск, давядзецца, відаць, класці ў бальніцу. Мяне даглядаюць Надзя і малая Ірынка, якая лепш за ўсіх нас карыстаецца нарачанскімі шчадротамі і верхаводзіць сваімі «калегамі» — малым Максімкам і яго аднагодкам Кокам — унукам Аркадзія.

Яшчэ раз дзякую за тваё мілае пасланіе і жадаю добрага адпачынку на «Рэчаньцы». Сардэчнае прывітанне Ніне Міхайлаўне і вашым слаўным нашчадкам.

У пажаданні лепшага надвор'я

*твой Міхась Лынькоў*».

* * *

Гэтае слова пра блізкага чалавека пішу ў бальніцы. Больш як за месяц сумоты было тут нямала прыемных сустрэч, чаканых і нечаканых, калі «з волі» раптам прыходзіў яшчэ хто-небудзь з сяброў. Да радасці амаль заўсёды прымешвалася і думка: а як жа мала сам ты бываў уважлівы да іншых, калі не ты, а яны патрабавалі такое ўвагі... Гэта — думка адна. І другая, у блізкай сувязі. Што мы ніколі не ведаем, якая з нашых сустрэч будзе потым лічыцца апошняй.

Напрадвесні мінулага года мы з Алесем Адамовічам прыйшлі наведаць Лынькова і Мележа, сюды ж, дзе я пішу пра гэта. І здарылася так, што абодвух мы засталі ў адной палаце: Іван таксама зайшоў да Ціханавіча.

Стары наш бачыўся зусім трывожна. Не надта добра выглядаў і маладзейшы. Па натуры сваёй больш маўклівы (мы яго ведалі і вясёлым!..), Іван маўчаў і толькі зрэдку ўсміхаўся. А Ціханавіч быў сам сабой — жартаваў і смяяўся. І мы смяяліся, здаецца, зусім непрыкметна намагаючыся як найдалей адганяць свой

неспакой, сваю трывогу. І зноў жа — не думалі мы, наведвальнікі, кожны сабе, і не гаварылі, выйшаўшы, пра тое, што з адным з нашых блізкіх гэта была апошняя сустрэча, а з другім — адна з нямногіх перадапошніх...

Я не пабачыў Міхася Ціханавіча і на жалобным развітанні: быў за мяжой.

...Трэба нам кожны дзень адчуваць прысутнасць сяброў, не спазняцца са шчырай спагадай да іх — памятаючы тых, з кім так добра было працаваць, сумаваць, смяяцца.

*1976*

# АЛЕСЬ АДАМОВІЧ

Вясной цудоўнага 1956 года мы разам ездзілі па Югаславіі — аўтобусам з Бялграда на Сараева, Дуброўнік, Цэцінье, Спліт, Заграб, зноў у Бялград, а на дадатак, па дарозе, былі яшчэ Будапешт і Кіеў. Цудоўным той год я назваў не толькі таму, што гэта быў іменна ён, год XX з'езда КПСС, але і таму яшчэ, што мы былі тады маладымі... прынамсі, на сённяшні позірк. Старэйшым між нас, літаратараў у мінскай турысцкай групе, Танку і Краўчанку, было па сорак з гачкамі, Панчанку і мне яшчэ не па сорак, Адамовічу — нават не трыццаць. Яму было мала песень і смеху, дасціпных экспромтаў і лёгкага заляцання: для поўнай паўнаты хацелася яшчэ і сілаю памерацца. І паваліць якраз найбольшага ва ўсёй групе — мяне. Ні Дынарскае нагор'е, ні, тым больш, Чарнагорыя па мулкасці для барацьбы не падыходзілі, траву на мяккай роўнядзі знайшлі мы ў Харватыі, на нечаканым прыпынку. Вясёлы Віта, выдатны шафёр, што мы праверылі на шматлікіх паднебных серпанцінах, вядомы партызан, пра што нам неяк, у яго адсутнасць, расказала чарнявая Даніца, наш ненастырлівы гід,— Віта Крсціч энергічна і доўга корпаўся то ў маторы, то пад аўтобусам, які ён, нібыта знарок, спыніў на ўзлеску, каля лугу ў квецені. Час і ўмовы нарэшце ёсць — спаборніцтва пачалося...

Забягаючы наперад, скажу, што гэтае юнацкае жаданне ў Алеся — ці ў Сашы, як я прывык называць яго, як яго клічуць дома,— жыло яшчэ з дзесятак гадоў, і тады, калі ўжо ён стаў з кандыдата доктарам, з аўтара свежых і вострых артыкулаў амаль адразу сталым празаікам. У іншым нашым падарожжы, калі

мы вярталіся з Закарпацця, недзе на залатой пшанічнай Віннічыне зноў жа знайшлася, не першы і не другі раз, адпаведная траўка. Там ужо ў нас было менш сведкаў, але быў аб'ектыўны фотасуддзя, Валодзя Каленік, які суцешыў потым абодвух аднолькава: аднаму прыслаў здымак, дзе наверсе той, другому ж — наадварот. А ў падтэксце была філасофская ўсмешка: цешцеся, хлопцы, пакуль вам гэта да твару, спяшацца не трэба, старасць прыйдзе сама...

І вось яно — я, тым часам ужо і шасцідзесяцігадовы, пішу пра Адамовіча, якому — пяцьдзесят. Як гэта часта бывае, зноў не верыцца, асабліва ў гэтым выпадку. Ён быў заўсёды малады і ранні. На шаснаццатым годзе жыцця партызан, у дваццаць пяць кандыдат філалагічных навук, у трыццаць пяць доктар, выкладчык Маскоўскага і Мінскага універсітэтаў.

Мінулай зімой, у бальнічнай аддаленасці і самоце, я выпадкова ўбачыў яго на тэлеэкране. Тэлевізар хтосьці з хворых уключыў у палавіне невядомай перадачы, і, калі я ўвайшоў на знаёмы голас з пустога калідора ў хол, на экране быў Саша. Я вельмі хутка зразумеў, што ён гаворыць пра наша агульнае, тады яшчэ так свежа балючае. Гаварыў ён, і не з паперкі, вядома, пасвойму разумна, скандэнсавана, шчыра, і я, увайшоўшы ў ягоны настрой, убачыў і адчуў *таго* і *тое*, што называецца словамі *Мележ* і *літаратура*, як ён служыў ёй і як мы, тыя, што засталіся, хочам і самі быць на належным узроўні. А разам з тым, слухаючы Адамовіча, бачачы яго ў пэўнай меры свежым вокам, і блізка, і ўсё ж здалёк, я падумаў: так, ён яшчэ малады. І шануючы аб'ектыўнасць арыфметыкі, і ўлічваючы ёмкасць і цяжар пражытага.

Ёмкасць і цяжар... Бывае і так, што ты паехаў кудысьці надоўга і вельмі далёка, убачыў, пачуў, перажыў там вельмі многа, свет для цябе небывала пабольшаў, а час, здаецца, велічна расцягнуўся. А дома сустрэнеш нават як быццам блізкага чалавека, і ён, як нічога ніякага, скажа: «Нешта я цябе з тыдзень не бачыў...» Ты здзіўлены, а ён, хоць і раскажаш збольшага, дзе быў, што ўведаў, так і не ўцяміць зместу перажытага табой. І горш бывае: ты доўга хварэў, быў ужо недзе на ўзмежку, а то і на самай мяжы найважнейшага, ну, а выплыў — і хтосьці добры або нядрэнны, як быццам

блізкі або не надта далёкі скажа: «Здароў! Нешта ты трохі звастрыўся, пабялеў...» І хоць яму неўзабаве стане больш ці менш няёмка ад гэтай невінаватай ці не вельмі вінаватай няўважлівасці да блізкага чалавека, яму не адразу, не проста ўдасца пранікнуць у перажытае тым чалавекам, хто ў свой нялёгкі час, як і ўсе мы, быў у асноўным адзін.

Так, у асноўным адзін. Нават і пры шчаслівай наяўнасці найбліжэйшых і блізкіх. Тое, што нам даводзіцца перажыць — і бачнае іншымі і не бачнае — не ўсё ўдаецца выказаць другому, яно ў значнейшай меры застаецца ў табе. Ад гэтага ты і мацнееш, і, адначасна, зношваешся.

Сказаўшы, што Адамовіч быў заўсёды малады і ранні, я меў на думцы яго натуру і ўдачлівасць. Аднак жа трэба пры гэтым не забывацца і пра іншае — а ці лёгка бывае сталець з апярэджаннем свайго ўзросту? Дазволю сабе для прыкладу сказаць, што ў агонь мінулай вайны я, у верасні 1939 года, уваходзіў толькі што закончыўшы дваццаць другі год жыцця. У той час я бачыў сам сябе куды сталейшым, чым бачу цяпер, з дыстанцыі перажытага. Цяпер я часамі як быццам зусім з бацькоўскай трывогай гляджу на сябе таго, дваццацідвухгадовага, у гразкім акопе, пад шквалам варожай артпадрыхтоўкі або ў перабежках праз кулі, назад ці наперад. Зусім, зусім юнакамі, ледзь не дзецьмі бачацца сёння тыя сябры, якім улетку 1941-га было васемнаццаць — салдацкая ранняя сталасць. Адамовіч уведаў вайну падлеткам, спачатку пры маці-падпольшчыцы, а потым з вінтоўкай. Яму было, вядома ж, не лягчэй, чым старэйшым на пяць ці на дзесяць гадоў. Такое сталенне каштавала больш, давалася цяжэй.

У літаратуру ён уступаў не так ужо і маладым па гадах — тут можна гаварыць пра маладосць яго парыванняў. Крытыкаваў ён смела і трапна, а гэта, калі ты ад платанічных заклікаў і дэкларацый пераходзіш да пэўнай канкрэтнасці, бывае ох як нявыгадна ды нялёгка... Калі ж ты пераможаш многае, як перамог яго ён, Адамовіч, калі даможашся сумленнай працай таго, чаго дамогся ён, тады нават і тыя, хто найбольш руплівa, яўна і тайна перашкаджаў табе, пачнуць раптам прыязна ўсміхацца, ахвотна ды падкрэслена згадваць

сумленнасць ды аб'ектыўнасць, а раўнадушныя скажуць: «Во як шанцуе!..» Сябры сапраўдныя ведаюць, колькі ты перажыў, аднак жа і пры гэтым многае застаецца толькі з табою. І добра таму, хто ад гэтага не стамляецца, не старэе.

Адамовіч з такіх.

Праўда, у прозе пачаў ён адразу з добрага поспеху. Калі першы раман яго дылогіі «Партызаны» — «Вайна пад стрэхамі» — свежы і светлы твор з жывымі вобразамі чыстага падлетка і мужнай, высакароднай маці камусьці можна, з нейкай скідкай у падтэксце, назваць проста аўтабіяграфічным творам, які пішацца нібыта лягчэй, амаль як мемуары, дык другі раман, «Сыны ідуць у бой», ужо зусім прыкметна адзначаны дзе больш, дзе менш удалымі пошукамі таго, уласцівага для Адамовіча спалучэння глыбокай думкі і шчырага пачуцця, чым вызначаецца яго проза. Стыль гэты, праз трохі стрыманы поспех другога рамана дылогіі, праз недалёт з «Вікторыяй», праз яўна недаацэнены «Апошні адпачынак» па-сапраўднаму выявіўся, сцвердзіў сябе ў «Хатынскай аповесці».

Шчырыя душы пераносяць няўдачы асабліва балюча — тут ужо справа не толькі ў параненым самалюбстве, тут раны значна глыбейшыя. Нялёгка перажываецца і недаацэнка, замоўчванне — як планавая мера ўздзеяння ці проста помслівасць тых, у каго ёсць на гэта пэўныя прывілеі. Пра тое, колькі «Хатынская аповесць» каштавала яе аўтару, гаворка будзе крыху ніжэй. Спачатку трэба сказаць, што да крытыкі, літаратуразнаўства і прозы ў Адамовіча неўзабаве пасля дэбюту далучылася і кінадраматургія. Натура страсная і паслядоўная, ён, каб і ў гэтай галіне свайго служэння не быць верхаглядам, пайшоў вучыцца: доктар філалогіі — на двухгадовыя кінасцэнарныя курсы. Ад гэтага прыйшлі пасля новыя цяжкасці. Двухсерыйную экранізацыю «Партызанаў» нават збоку балюча называць няўдачай: тут Адамовіч як сцэнарыст, а тым больш як аўтар дылогіі вінаваты найменш. Не ўся віна ляжыцца і на здольнага рэжысёра В. Турава. Экранізацыю з правінцыяльнай руплівасцю занянчылі сезонныя апекуны культуры. Не менш недарэчна і крыўдна атрымалася з дакументальнай стужкай «Хатынь, 5 км»... Адно суцяшэнне — адтуль пайшла «Хатынская

аповесць», а потым — ініцыятыва стварэння кнігі «Я з вогненнай вёскі...».

Калі мы ў чэрвені 1970 года, у бывалым «Масквічыку» Уладзіміра Калесніка, узброеныя яго, не менш бывалай, фотатэхнікай і пазычаным магнітафонам, выехалі з Брэста на Пружаншчыну, мы з Валодзем не былі пры Сашы навічкамі ў пачатай справе. Трагедыі беларускіх Хатыняў ведалі ў пэўнай меры і мы як партызаны самі і па расказах людзей, што выйшлі з агню жывымі. Дый пісалі ўжо трохі на гэтую тэму і мы. Аднак у Адамовіча, апроч партызанскага і пісьменніцкага вопыту, быў ужо і вопыт такога іменна збірання, такіх сустрэч, горкі вопыт перажывання мінулага разам з тымі, хто нам расказваў. За чатыры леты такіх вандраванняў па Беларусі — з раёна ў раён, ад вёскі да вёскі, ад слёз да слёз — я неаднойчы думаў пра тое, з чаго нараджаліся «Хатыні» Сашавы — перш дакументальная кінакарціна, потым аповесць, колькі яны каштавалі яго неспакойнай душы партызана і мастака, якой незаслужанай была горыч несправядлівай «няўдачы» з кінакарцінай і як справядліва заслужаны, выпакутаваны поспех аповесці.

* * *

Выслоўе «хто хоча зразумець паэта, той павінен пайсці ў яго край» уключае ў паняцце край самае дарагое: тваю зямлю, тваю справу, тваіх найбліжэйшых.

Улетку 1961 года Саша аднойчы пазваніў мне з такой прапановай: разам з начальнікам штаба іхняй брыгады імя Пархоменкі махнуць на Глушчыну, праехацца, пахадзіць па іх партызанскіх мясцінах. Былы начштаба, С. В. Сыраквашын, працаваў тады старшынёй Уздзенскага райвыканкома, прыехаў на службовым «газіку» ў Мінск, і дома ў Адамовіча іх наведала добрая думка. Кругам — цераз Узду, Капыль і Слуцк — мы ў той жа дзень і маханулі.

Сяргей Васільевіч — у мінулым кадравы камандзір, кавалерыст, які са сваім эскадронам, трапіўшы ў акружэнне, прызямліўся, замаскіраваўся да часу ў некалькіх палескіх вёсках, у верасні 1941-га зноў сабраў эскадрон і пачаў партызаніць. На ўсю змогу аддаўшы свой уклад у справу ўсенароднага змагання, ён з-за

характару свайго, з-за сціпласці застаўся потым трохі ў цяньку, як і большасць былых партызанаў. Салдат, работнік на кожным пасту. Харошая была наша паездка. І на котлішчах атрадных лагераў, дзе пад зялёным пошумам спакваля зарасталі ямы зямлянак, і на месцах колішніх баёў, і ў адноўленых вёсках, дзе мы сустракаліся з людзьмі і Сыраквашын з Адамовічам пазнавалі даўніх знаёмых, а знаёмыя іх, Сяргей Васільевіч усюды быў просты, змястоўны і людскі, а Саша пры ім — тады ўжо выкладчык, крытык і аўтар першага рамана — здаваўся мне ледзь не зусім юнцом, якім ён блізу два дзесяцігоддзі перад гэтым і быў, і адчуваў сябе побач з начальнікам штаба вялікай брыгады. І наогул, не толькі пры Сыраквашыне, а ў сустрэчах з людзьмі, са сваім мінулым ён выглядаў тады значна памаладзелым.

У аўтабіяграфіі, змешчанай у калектыўным зборніку «Пяцьдзесят чатыры дарогі», Адамовіч з цёплай самаіроніяй успамінае, што і ў дальніх ад роднай Глушы вёсках бабкі пазнавалі яго, партызана-падлетка, як сына «доктара са шклозавода». А ў нашай вандроўцы бабкі ды цёткі пазнавалі яго і так: «Авой, дык гэта ж вы, мусіць, доктарчын меншы? Як жа хоць мама жывая-здаровая?..» Бацька, вясковы лекар, з першага дня вайны быў на фронце, а маці, фармацэўт па адукацыі, у партызанах заслужыла права называцца «доктаркай». З былымі цёткамі ды дзяўчатамі, што сталі тым часам хто бабуляй, а хто цёткай, былога падлетка я здымаў каля светлых вокнаў новых хат, на лаўках перад уквечанымі агародчыкамі, і Саша хораша адчуваў сябе між людзей, якім не сорамна глядзець у вочы, на той зямлі, абараняючы якую і ён мог калісьці, як многа іншых, аддаць маладое жыццё.

Потым у нас была Глуша (у «Партызанах» Лясная Сяліба) — утульны дом у буйнай зелянiне, сцюдзёны калодзеж са сцежкай у нетаптанай траве, салодкая чырвань клубніц на градках, а перад домам — Сашава мама, Ганна Мітрафанаўна (Міхайлаўна — у рамане).

З надрукаваных у «Полымі» ўспамінаў С. Шамардзіной пра яе мужа Язэпа Адамовіча, партыйнага, дзяржаўнага і ваеннага дзеяча маладой Беларускай рэспублікі (Саша — толькі аднафамілец яго), з таго эпізоду, дзе гаворыцца, як у хату да іх высокім госцем

прыйшоў на дамашні абед сябар гаспадара — М. М. Тухачэўскі, вось ужо больш за дзесяць год мне помняцца простыя, мімаходзь сказаныя аўтаркай успамінаў словы: «Міхаіл Мікалаевіч з павагай нізка схіліўся да рукі маёй маці...» Нашых маці, калі яны пакінулі нас назаўсёды, мы пачынаем любіць з новай сілай, з новым сумам і патаемнай пяшчотнасцю, што зноў і зноў ажывае ў душы ў тыя хвіліны, калі мы вітаемся з маткамі сяброў. Тым больш сардэчна, што з кожным годам іх усё менш.

У той жа аўтабіяграфіі Алесь Адамовіч піша, што да вайны ён маці сваёй «па-сапраўднаму не ведаў. Любіў — і толькі. А як чалавека ўбачыў і зразумеў, калі пачалося страшнае жыццё». І з разумнай самакрытычнасцю дадае: «Калі мне што і ўдалося ў рамане «Вайна пад стрэхамі», дык гэта таму, што раней гэтую кнігу маці напісала ўласным жыццём». Аўтабіяграфія была напісана ў 1962 годзе, калі другі раман дылогіі яшчэ ўсё пакутаваў у бясконцых чарнавіках. Вобраз маці паўтараецца і ў другім рамане, аднак раскрыўся ён у рамане першым. Гэты раман я адразу, прачытаўшы яго ў рукапісе, назваў для сябе «рамэн-раланаўскім», на ўвазе маючы «Зачараваную душу»; уражанне гэтае паўтарылася і потым, пры перачытванні дылогіі ў найбольш закончаным выглядзе. Не буду залішне арыгінальным, сказаўшы, што гераіня «Партызанаў», Ганна Міхайлаўна Корзун,— найбольш народны вобраз беларускай маці, падпольшчыцы і партызанкі, найзначнейшае ў гэтым сэнсе дасягненне нашай эпічнай прозы. Не думаю, што, пішучы дылогію, асабліва яе першую кнігу, тады яшчэ толькі крытык Адамовіч меў свядомы, так сказаць, тэарэтычны намер стварыць станоўчы вобраз,— вобраз гэты народжаны талентам, гэта бясспрэчна, аднак талентам тут кіравала перш і больш за ўсё сыноўняе пачуццё — захапленне, павага і ўдзячнасць.

Вось ужо больш за дваццаць гадоў я назіраю, з якой увагай гэты сын клапоціцца пра маці, з пашанай і зайздрасцю разумею яго. А наша знаёмства з Ганнай Мітрафанаўнай, што адбылося раней, да 1961 года, і ў Мінску, чамусьці асацыіруецца ў мяне з тою паездкай, з першым маім наведаннем Глушы. Больш таго — падобных сустрэч у светлым доме ў маладых бярозах бы-

ло потым некалькі, заўсёды летняй парой, аднак уражанні ад іх чамусьці так перапляліся ў часе, так спляліся ў адно, што, скажам, ужо дарослыя сёння ўнучкі колішняй «доктаркі» — адна Сашава, дзве старэйшага сына, Жэні — яшчэ ўсё бачацца мне загарэлымі, цыбаценькімі дзяўчаткамі. Гуляюць з ручной ваверкай, бегаюць па траве або, па загаду бабулі, што ведае толк у пытаннях здароўя, хрумстаюць моркву, талерка якое, старанна аскрэбенай і памытай, чырванеецца на прымітыўным століку ў бела-чорна-зялёнай стракатасці бярозавага акружэння. А сама бабуля, цяпер такая нямоглая, а калісьці, у той далёкі, гістарычны для дзяўчатак час, энергічная, мужная ўдзельніца ўсенароднага змагання, частуе нас халодным і гарачым багаццем вясковага лета, пытаецца, як мы здаровы і як у нас дома ўсё, і ў гэтых пытаннях не проста адпаведная выпадку ветлівасць, а шчырае жаданне, каб яно і праўда лепш было ўсім нашым людзям.

Яшчэ для ілюстрацыі — дарожны накід у блакноце, з лета 1972 года, калі мы, апрацоўваючы для кнігі «Я з вогненнай вёскі...» заходнія раёны Магілёўшчыны, заехалі ў Глушу.

«...Мілая Ганна Мітрафанаўна, вітаючы нас, кажа, што «сніла чамусьці таварыша Сталіна. Ды такі ж ён са мною ветлівы быў! І вось — дзякуй богу, госці...»

На наша позняе снеданне нагадзіўся, таксама праездам, іхні даўні знаёмы. «З мужам маім яны выпіць любілі». У вайну — сувязны. Цяпер стары ўжо, глухаваты.

— Раней,— смяецца гаспадыня,— ён вельмі ўдала прыкідваўся глухім, і добра было яго, талковага ды хітрага, пасылаць у Бабруйск у разведку. А цяпер, бедны, і праўда аглух...

Дзед спакойна закусвае і расказвае пра кагосьці:

— Немцы яго ўжо хацелі павесіць, ужо і вешалку былі паставілі, але яму памаглі, і чалавек уцёк...

Гаспадыня глядзіць на госця, слухае і зусім натуральна, са шчырай спагадай гаворыць:

— І ручкі твае ўжо дрыжаць...

Дзед не здаецца:

— Рабіць — яшчэ ўсё раблю, а вот з'есці або выпіць, дык яны і дрыжаць.

І так гэта па-народнаму хораша: і яе дабрата, і ягоная ўдзячнасць, прыкрытая гумарам».

Сюды ж успамінаюцца і два міжгароднія званкі з Глушы ў Мінск, цераз чужыя вушы.

— Саша, што гэта, мне гаварылі, у газеце было пра цябе, што ты — іржавы нігіліст? Чаму ж іржавы — як там тваё, сынок, здароўе?

І другі:

— Саша, а мне яшчэ адзін медаль далі. Таксама «За отвагу». Няўжо гэта, не дай бог, зноў будзе вайна?..

У першым выпадку, у сярэдзіне пяцідзесятых гадоў, справа датычылася газетнага артыкула, дзе верны, заслужаны падхалім аднаго з даўно непрызвычаеных да крытыкі таварышаў забіў трывогу, што вось яно — іржавы нігіліст Адамовіч закрэслівае ўсю нашу літаратуру!.. Пажару не было — проста культурна сказалася, што ў таварыша Непрызвычаенага не ўсё ў творчасці роўнае — у аднаго яго і то не ўсё, ніякім чынам не ва ўсёй нашай літаратуры. А для маці што галоўнае? Будзь ты, сыне, перш за ўсё здаровы. І ў гэтым, калі чалавек пажыве на свеце, наглядзіцца на многае, сэнсу вельмі няма́ла.

Другі выпадак, з другім медалём, быў юбілейны, калі накацілася яшчэ адна хваля ўзнагароджання партызанскай працоўнай масы — праз дваццаць гадоў, калі ўжо многія і чакаць даўно перасталі.

Справа не ў медалях, асабліва для тых, хто пра іх не задумваўся. Муж вярнуўся жывы-здаровы з вайны, абодва сыны таксама — вось яно, мацярынскае шчасце, найбольшая ўзнагарода. Праўда, муж неўзабаве памёр, а сыны ў іх, грашыць няма чаго, удаліся: старэйшы пайшоў па бацькавым шляху — лекар, добры хірург, а меншы вунь ужо і прафесар, і кніжак колькі напісаў. Але для маці — і той, і гэты — яе хлопцы, і вось старая глядзіць на прафесара, усміхаецца:

— Нейкі ты, Саша, як блатны ў мяне. Ні ў цябе цёплай зімовай адзежы, ні ў цябе летняй харошай...

Пра тыя міжгароднія званкі мне ў розны час расказваў Саша, а пра «блатнога» чуў я сам, тут мы смяяліся разам. І мне тады ўспомнілася маці другога сябра, старэйшага. Нешта хутка пасля вайны мы з ім былі ў яго вёсцы на Слонімшчыне. Начавалі, снедалі, пасля развіталіся, выйшлі на вуліцу. Былы актыўны дзеяч

заходнебеларускага рэвалюцыйнага падполля, шматгадовы вязень санацыйных турмаў, у вайну — ад званка да званка, маёр-разведчык з мноствам узнагарод,— з такім і госцю прыемна прайсціся па сонечнай святочнай вуліцы. А што ж ужо маме, якая столькі паплакала па ім, і да вайны, і ў вайну!.. А ён прыехаў на дзянёк ды зноў... І вось яна гукае ад варот: «Яша! Яшачка! А піражкі, сынок?!» Пакуль яна, старэнькая, але яшчэ наўздзіў рухавая, ішла да нас уподбежку — у памяці маёй паўтарыўся яе вячэрні вясёлы ўспамін: як яна жаць даўней са сваім чалавекам пайшла, ды з сыночкам малым, і чалавек нагнуў дзве маладзенькія бярозкі ды прывязаў у тым цяньку палатняную калысачку. А потым, мае дарагія, «гляджу я, а бярозкі тыя выпрасталіся — вісіць мой Яшачка аж пад небам!..»

Хай сабе цяпер хто з нас і не зусім «пад небам», а трохі ніжэй — ад піражкоў адмаўляцца не трэба. І крытыку матчыну можна паслухаць — як з найвышэйшай інстанцыі.

І праўда ж, цяжка, проста-такі немагчыма прыпомніць Адамовіча (прафесара, лаўрэата) — пад гальштукам, тым больш у паліто з якімі-небудзь адпаведна важнымі бабрамі. Берэты, куртачкі, шорты... Утрох з нашым, цяпер ужо агульным, сябрам, журналістам Якубам Міско (тым самым, што забыўся піражкі), адпачывалі мы неяк нядаўняй зімой у Друскеніках. Убачылі на праходцы, што ў кіёску ляжаць на вітрыне мужчынскія світры, даволі-такі легкадумныя. І ў галаву нам, Якубу і мне, не прыйшло, якія юныя намеры абудзілі яны ў Сашавай душы. А ён, праз нейкі час, радасна ўварваўся ў наш пакой у ярка-чырвоным, вельмі абціслым на здаровай паўнаце світры з тое вітрыны і, ушчэнт расхваляваны ўдачай, спытаўся: «Як?» — «Гіль!» — засмяяліся мы. І ён засмяяўся. А яшчэ праз гадзіну прыйшоў спакайней, у пяшчотна блакітнай абцісласці — з тое ж вітрыны. «Платон мой друг...», аднак і зноў быў смех, таксама калектыўны. Праз два тыдні, ужо ў Мінску, калі мы ўдвух з Сашам сядзелі прыцемкам у яго рабочым пакоі, прыйшла з працы гаспадыня, Вера Сямёнаўна, і сказала, што побач, у «Сінтэтыцы», ёсць добрыя світры, усіх памераў і, можа, пойдзем паглядзім. Пайшлі. Чорны закрыты світэр і сапраўды быў выдатны, і сам па сабе, і на пакупцы.

Калі мы вярталіся з набыткам, Вера Сямёнаўна ўсцешана прапанавала: «Давай мы, Саша, заўсёды будзем усё табе разам купляць». Ён ахвотна згадзіўся і тут жа стаў уголас думаць, каму ж тут падараваць тыя дзве яркіх абцісласці — маладзейшаму, меншаму па аб'ёму?..

У гэтых «дробязях», у гэтай «проста непрактычнасці» мне бачыцца яшчэ адна маладая ды паэтычная рыса характару. Грошы ёсць — грошай няма — мы самі золата — так жа ў народзе гаворыцца. Дый маме нечага лішне смяяцца: гэтая рыса ў сынавай натуры, бадай што, спадчынная, ад бацькоў. Пра бацьку Саша ў аўтабіяграфіі ўспамінае так: «Які ён дома гаспадар быў, паказвае такі выпадак: едзе ён да хворага, калгаснік бачыць статак кароў і кажа: «Добрая ў вас кароўка, доктар».— «А якая тут наша?» — вельмі зацікавіўся той». У апраўданне бацьку сын па-сталаму дадае «Ноччу ў доме заўсёды сядзелі людзі, чакалі, пакуль доктар прыедзе ад хворага, каб зноў забраць і везці яго». Ён разумее бацьку і, праз усмешку, ганарыцца ім. Бо ў сваёй справе сын таксама думае перш за ўсё пра галоўнае. Маці — па-свойму — таксама. Пасля вайны яе хлопцы, нядаўнія партызаны, студэнцікі, купілі трафейны матацыкл і неўзабаве так ужо добра, радасна авалодалі ім, што ўбіліся ў нейкі калючы дрот, і, на шчасце, абышлося гэта толькі вопраткай. Праз дзень ці два яны кудысьці адлучыліся з Глушы на спадарожнай машыне, а ўвечары, вярнуўшыся, матацыкла свайго не знайшлі. «Мы самі золата» — маці збыла яго камусьці за 150 пасляваенных рублёў, калі на дробы, дык за $^1/_{20}$ цаны. Не ведаю, што яна тады ім сказала, напэўна, штосьці накшталт таго, што вельмі ж ёй трэба яшчэ і цяпер хваляваца за іх. А ўжо ніяк не магу ўявіць сабе, што хлопцы маглі быць з ёю тады непачцівымі. Больш уважлівых да маці сыноў і дружных паміж сабой братоў мне сустракалася нямнога.

Нехта сказаў бы, што ў Сашы, у параўнанні з Жэнем, ёсць адзін «недахоп», на думку некаторых — дзіўны, «несучасны». З медыкам, дабрадушным, барытоністым здаравяком, нельга не выпіць пры сустрэчы, ну, а філолага мне пры ўсіх нагодах ды на ўсіх шыротах — ад Брэста да Краснаярска, ад Ужгарада да Нарыль-

ска — спакусіць на чарку не ўдалося. Праўда, і не стараўся я лішне, у душы паважаючы гэты, і сапраўды даволі рэдкі ў наш час, «недахоп». А частаваць іншых ён любіць, у добрай кампаніі весялеючы ў нагу з усімі, хто ўмее прыстойна хмялець. Гэтай рысай ён, Адамовіч, падобны да Танка, таксама заўсёды весела цвярозага ў любой кампаніі. Ахвотай пагуляць у «дурня» — таксама, нават з вясёлым азартам, у Сашы ці партызанскім яшчэ, ці так сабе маладым. Гэтая «слабасць», дарэчы, добра дапамагае ў дарозе. З Максімам я ў адной каюце аплаваў Еўропу, бываў і ў сухапутных паездках, ну, а з Сашам — яшчэ больш. Апроч падарожжаў успомненых, па Югаславіі і Украіне, былі ў нас Карэлія з Кіжамі, Салаўкі, Енісей і Таймыр, Магнітагорск з невялікім узмежкам горнай Башкірыі... У гэтых няблізкіх паездках мы бывалі не ўдвух, а з сябрамі, кожны з якіх ахвотна паехаў бы з такім спадарожнікам і яшчэ куды-небудзь. Ён слушна кажа ў той жа аўтабіяграфіі: «Нідзе так не жывеш, як у дарозе, і добра, калі ўсё жыццё дарога». Апошнім часам для нас, на трох з Валодзем Калеснікам, шчодрай была Беларусь, яе дарогі і сцежкі, пра што хацелася б расказаць асобна, што ў нейкай меры, наколькі можна і трэба было, прасвечвае ў кнізе «Я з вогненнай вёскі...». Адно скажу цяпер у гэтай сувязі — пра характэрную для Сашы стрыманасць, тактоўнасць у адносінах з людзьмі, поўную засяроджанасць на справе, нястомнасць у пошуках, абаяльную чалавечую прастату, грунтоўны аптымізм і пастаянную работу творчай думкі.

Неяк ён згадваў пра свайго бацьку, яго заўчасную смерць і тую ўдзячнасць, якую ён заслужыў у наваколлі самаадданай працай таленавітага лекара. Сын — у гутарках пра сябе, у самаацэнках — заўсёды натуральна стрыманы, узброены пільнай самаіроніяй, сказаў тады ціха і шчыра:

— Мне б заслужыць такое ў людзей!..

* * *

Яшчэ трохі пра тое, завошта дзень яго нараджэння адзначаецца сёлета не толькі дома, у сям'і.

У лістападзе 1971 года я працаваў у падмаскоўным Доме творчасці Перадзелкіна. Неяк у нерабочы дзень

захацелася праехацца электрычкай у незнаёмым кірунку, ды так, каб сыходзіць на кожным прыпынку, пахадзіць у кожным пасёлку ці гарадку. І вось у адным з іх я выпадкова купіў у кіёску свежы нумар «Вопросов литературы», а ў ім з асаблівай прыемнасцю ўбачыў вялікі артыкул Адамовіча «Маштабнасць прозы». Я ўжо ведаў гэтую працу пра Чорнага ў арыгінале, па трох публікацыях у «Полымі». Нават як член рэдкалегіі дапамагаў пасля аўтару адбівацца ад нападак нядошлых ды ўсё яшчэ скрыпучых вульгарызатараў, і таму з'яўленне гэтай працы ва ўсесаюзным аўтарытэтным часопісе сустрэў з тым большым задавальненнем. І яшчэ адно — воддаль ад нашага літаратурнага асяроддзя, спачатку ў вагоне электрычкі, сярод незнаёмых людзей, а потым у адзіноце лясной дарогі і свайго пакойчыка зусім па-новаму адчуў тую маштабнасць прозы Кузьмы Чорнага, яе не толькі наша, беларускае значэнне, якое лепш за многіх з нас убачыў і лепш за ўсіх, хто займаўся дагэтуль Чорным, выказаў Адамовіч,— з найбольшай доказнасцю, жывасцю і культурай.

Летась выйшла ў пэўнай ступені «ітогавая» кніга Алеся Адамовіча «Здалёк і зблізку». Там я з цікавасцю перачытаў яго, ужо даўні, падпісаны 1957 годам, артыкул пра «Новую зямлю», яшчэ раз, з дыстанцыі часу убачыў тое, што характэрна для Адамовіча-літаратуразнаўцы, тое, з чаго ён пачынаў і з чым плённа працягвае даследаванне нашай класікі і сучаснай літаратуры. Яму мы, хочацца сказаць, абавязаны новым, сапраўды маштабным прачытаннем і коласавай эпапеі, якую ён слушна лічыць першым беларускім раманам, і новым прачытаннем прозы Чорнага, ён нам як быццам занава адкрыў Максіма Гарэцкага, грунтоўна давёў-шы, што значыць і гэты, яшчэ адзін вялікі талент беларускай савецкай прозы.

Тут хочацца і мне адзначыць словам падзякі той мудры клопат, з якім захавалі і аддалі народу спадчыну Чорнага і Гарэцкага іх найбліжэйшыя. У выпадку з Максімам Гарэцкім гэта было асабліва складана, і гэта мы адчулі з удзячнасцю асаблівай.

Сваё даследаванне спадчыны Гарэцкага Адамовіч пачаў з апублікавання ў «Маладосці» (верасень 1974) і ў « Юности» (красавік 1975) пісьмаў з фронту сына пісьменніка Леаніда. Адрасаваныя маці, сястры і

дзядзьку, гэтыя сямейныя, прыватныя пісьмы юнака, які загінуў на дваццаць другім годзе жыцця, адкрытыя чытачу толькі праз трыццаць год пасля Перамогі, многімі чыталіся і будуць чытацца з тым хваляваннем, з якім чытаюцца рэпартажы Юліуса Фучыка, вершы Мусы Джаліля. З асаблівай вымовай гэтыя пісьмы пераклікаюцца з кнігай Гарэцкага-бацькі «На імперыялістычнай вайне», залішне сціпла названай «запісказамі». Нядаўна стала вядома, што адно з выдавецтваў Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі ўзялося перакласці і апублікаваць «запіскі» бацькі і пісьмы сына Гарэцкіх у адной кнізе. Факт гэты бачыцца не толькі як дакор нашай недастатковай аператыўнасці, але — перад усім — як яшчэ адно сведчанне маштабнасці беларускай прозы, яе агульналюдское значэнне. Пераканаўча гаворыць пра гэта і грунтоўная, бліскуча напісаная Адамовічам манаграфія «Браму скарбаў сваіх адчыняю...», дзе спелая, арыгінальная думка і маладое, гарачае сэрца даследчыка шчодра падмацаваны дапамогай цудоўнай сям'і Гарэцкіх: несмяротнымі пісьмамі Лёні, таленавітымі ўспамінамі Галі, дачкі пісьменніка, расказамі высакароднай пакутніцы Леанілы Усцінаўны Чарняўскай, педагога і пісьменніцы, вернай сяброўкі Максіма Гарэцкага, важкім словам ягонага брата, Гаўрылы Іванавіча, геолага, імем якога ганарыцца беларуская навука. Трэба сказаць, што скарб сям'і Гарэцкіх у скарбніцу народа перададзены цераз надзейныя рукі.

Колас, Чорны, Гарэцкі... Тады і сучаснікі — Мележ і Быкаў. Зноў жа — і тут усё тая ж маштабнасць бачання: ніхто дагэтуль так поўна і зацікаўлена, так жыва і пераканаўча не расказаў пра творчасць двух нашых выдатных сучасных празаікаў, творчасць якіх хораша выйшла за межы Беларусі і ўсёй Савецкай краіны.

У імяніннym слове пра сябра няхай мне будзе дазволена публічна падзякаваць яму за разуменне і падтрымку маёй працы, што ён неаднойчы выказваў у друку, з трыбуны і асабіста. Калі цябе хваляць, гэта, вядома ж, прыемна, аднак яшчэ больш прыемна, больш таго — вельмі карысна, калі цябе разумеюць,— такое не прыядаецца. Ён разумее мяне ў маім найдаражэйшым, самым запаветным, яно ў нас у галоўным адно,

з гэтага разумення пачалася, на ім трымаецца дружба. Па яго заўвагах я многае правіў у рукапісах, такой канструктыўнай крытыкі чытач звычайна не бачыць. Заўвагі яго часцей за ўсё добра дапамагаюць аўтару самому ўбачыць промах і самому знайсці належнае вырашэнне.

У гэтым і павага да творчай індывідуальнасці, і самая дзейсная дапамога.

Па праву сяброўскай свабоды ўзаемаадносін заўвагі яго бываюць часамі калючыя. Адзін толькі прыклад, з апошніх.

Баючыся залішняй «лірычнай аголенасці», у адным з трох варыянтаў аповесці «Ніжнія Байдуны» расказ ад першай асобы — найбольш адпаведны для нібы ўспамінаў пра нібы родную вёску — я перадаў прыдуманаму земляку. «Ну, як мой географ?» — спытаўся я ў Сашы, калі ён прынёс мне прачытаны рукапіс. «Пудзіла ў Брылевым пінжаку»,— адказаў ён, хоць многае перад гэтым, па тэлефоне, хваліў. Прыйшлося пудзіла прымаць, самому надзяваць свой пінжак, не баючыся зноў «налгаць»,— з Байдуноў, дык і сам будзь байдун, дзеля праўды мастацтва.

Трэба сказаць, што «правам помсты» і я карыстаўся за дваццаць год неаднойчы, бадай, усё напісанае Адамовічам чытаючы спачатку ў рукапісах. Крытыку ён успрымае дастойна, як і належыць байцу.

На першай сваёй крытычнай кнізе «Шлях да майстэрства» (1958) у аўтографе, адрасаваным мне, ён пісаў: «Хто ўмее — робіць, хто не ўмее, той вучыць...» На апошняй, «Здалёк і зблізку», аўтограф значна сталейшы, нават як быццам са стомай: «Усё, аддаю сціло маладым, хопіць з мяне крытычных опусаў...»

Не верыцца! Кнігу «Здалёк і зблізку», няхай яна сабе і ў нейкай меры «ітогавая», апошняй я назваў толькі па часе публікацыі. Не толькі добрая моладзь ідзе ў нашу прозу — яшчэ і са спадчынай далёка не ўсё ў парадку. Гэта адчулася нядаўна, што перачытваючы, а што ўпершыню чытаючы ў старанна выдадзеным томіку Ядвігіна Ш. І ёсць пра што, і будзе пра што гаварыць!..

Зноў прыгадаўшы ўражанне, якое я адчуў, перачытваючы па-руску працу Адамовіча пра Чорнага,— свежы позірк на тое, што мы, беларусы, нясём у скарб-

ніцу агульналюдской духоўнай культуры,— прыемна прадбачыць і тую радасць, з якой мы сустрэнем выхад кнігі «Браму скарбаў сваіх адчыняю...» у серыі «Жизнь замечательных людей»,— гэта павінна здзейсніцца.

Будуць і іншыя радасці не толькі ў літаратуразнаўстве, але і ў другой (ці ў першай?) галіне дзейнасці Алеся Адамовіча — у прозе, дзе ён арыгінальна і плённа прычыняецца да ўзмацнення маштабнасці нашай мастацкай літаратуры. «Хатынскую аповесць» мне давялося чытаць тройчы — па-беларуску, па-руску і папольску. На ўсіх гэтых мовах, радасна адчуваў я, чытаючы, аповесць па сваёй сутнасці і беларуская, і, разам з тым, агульналюдская. Бачыў я ўжо выданні ўкраінскае, чэшскае, славацкае, нямецкае... Буду бачыць выданні на мовах далейшых краін. Разам з усімі шчырымі прыхільнікамі таленту Адамовіча і я быў двойчы ўсцешаны высокім айчынным прызнаннем яго «Хатынскай аповесці» — прэміямі Міністэрства абароны СССР і Дзяржаўнай прэміяй Беларусі. І ў гэтым не нейкі там збег выпадковасцей, не свой ці нечы арганізатарскі спрыт, ціск службовага аўтарытэту — гэта поспех сапраўдны, заслужаны.

Сёння Алесь Адамовіч у новых клопатах, у новых пошуках вырашэння свае запаветнае тэмы. Удвух з Даніілам Граніным ён ужо трэці год запісвае расказы людзей, якія перажылі блакаду Ленінграда; удвух з «масфільмаўскім» рэжысёрам Э. Клімавым працуе над мастацкай кінакарцінай «Забіце Гітлера»; а сам, ужо адзін, піша тым часам новы празаічны твор, і радасці, і пакуты гэтай працы носячы толькі ў сабе.

* * *

Успамінаюцца словы старога, вясёлага медыка: «Нішто так не ўплывае на ўзрост, як гады́».

І Сашу — пяцьдзесят... Мы ўжо не дужаемся, хоць і на самай прывабнай траве. Часу як быццам няма...

Ды гэта не настройвае на лад зусім мінорны. Маладзеем у працы, якое наперадзе многа.

*1977*

# ТАЯ СУСТРЭЧА

На партызанскі парад, у якім прымалі ўдзел брыгады сталічнай вобласці, мы з таварышам трапілі выпадкова, дзякуючы аднаму з нашых камандзіраў, які нам, нядаўнім лясным журналістам, не тое што дазволіў, але сам параіў паехаць паглядзець, бо гэта ж,— сказаў ён,— гісторыя.

У тыя першыя дні ліпеня 1944 года жылі мы, можна сказаць, «аки птицы небесные». Лясное жыццё тольки што закончылася ўсенародным трыумфам вызвалення, а пачынаць наладжваць працу ў нашых, ужо не падпольных раённых рэдакцыях мы і не вельмі ўмелі, і не было пакуль што чым і з кім. Той з камандзіраў, да якога мы звярнуліся з практычнымі пытаннямі, таксама не многа мог дапамагчы, а паўзу выкарыстаць параіў разумна.

І мы паехалі — на чым здарылася, не думаючы, дзе там, у Мінску, будзем жыць, што есці. А дабраўшыся ў страшэнна зруйнаваны горад, на дадатак даведаліся, што парад адкладаецца на цэлых тры дні. Дзе мы, «птицы небесные», начавалі, чым харчаваліся — цяпер успамінаецца весела. Дый тады мы не нылі. У таварыша былі знаёмыя, але ён не хацеў ім дакучаць. Аднак калі паўза ў нашым харчаванні нарэшце так зацягнулася, што не хапала ўжо ніякай вытрымкі, мы зайшлі да аднаго са знаёмых, і мой бывалы старэйшы таварыш, даваенны падпольшчык і баявы партызан не вытрываў і, чырванеючы, як хлапчук, папрасіў... Помніцца, як той сябар майго таварыша спачатку аблаяў яго за далікацтва, а потым частаваў нас са сваіх небагатых запасаў часовага халасцяка,— удзячна помніцца, як добрата, што прыходзіць у час найбольш адпаведны.

Помніцца, вядома ж, гучыць у памяці незабыўнымі залататрубымі маршамі, калышацца мноствам калонаў, паблісквае айчыннай і трафейнай зброяй, прамаўляе радасна ваяўнічымі тварамі гістарычнае свята парада.

Аднак жа тая наша паездка са Стоўбцаў у Мінск, тая радасць мая найярчэй чамусьці спалучаецца ў памяці з сінім, сонечным колерам дзікага лубіну, што пышна расцвіў абапал лясное дарогі, калі мы трэсліся ў кузаве спадарожнай вайсковай машыны. Светлае адчуванне поўнай свабоды на роднай зямлі!..

У першы наш перадпарадны дзень нам з таварышам пашанцавала сустрэць на вуліцы маскоўскага журналіста, які вясной прылятаў у наша злучэнне, і ён сказаў нам, дзе можна пабачыць «адразу многа братоў-пісьменнікаў». Мой таварыш рушыў туды, прадчуваючы радасць сустрэч са знаёмымі і сябрамі, а ў мяне была радасць свая, сваё хваляванне... На жаль, Якуба Коласа не было, помняцца Танк, Лынькоў, Крапіва, Куляшоў, Машара — тыя, каго я ў той ці іншай меры ведаў па вершах ды апавяданнях. Было пісьменнікаў больш, ды за імёнамі іх для мяне яшчэ не стаялі творы.

І яшчэ адно помніцца добра... З-за таго і пішу гэты сціплы ўспамін.

Мой таварыш застаўся тады яшчэ на дзень-два ў сталіцы, а я адзін паплёўся на нашу заходнюю ўскраіну Мінска, дзе пачаў чакаць пічасця — пакуль што адзінага ў тыя дні транспарту — спадарожнай вайсковай машыны.

Чакала некалькі чалавек, і аднаго з іх я ведаў — гэта быў Гурскі, якога я бачыў на той сустрэчы з пісьменнікамі. Да таго ж яшчэ гэтае прозвішча я з лесу памятаў па сатырычным лістку «Партызанская дубінка» і на першым выпуску альманаха «Беларусь» — подпіс галоўнага рэдактара. Мы паздароўкаліся, можна сказаць, зноў пазнаёміліся і да прозвішча яго я ўведаў яшчэ імя і імя па бацьку.

Ілья Данілавіч... Што робіць час! Ужо на маёй памяці чалавеку было і пяцьдзесят, і шэсцьдзесят, і семдзесят, пяты ўжо год яго няма, тады ж было — на сённяшні мой падрахунак — *толькі* сорак пяць... Маладжавы, падцягнуты, у нешыкоўным гарнітурчыку, з вайсковым «сідарам» за плячыма, свабодна,

нетаропка цягавіты на хаду. Мне ён здаваўся калі не старым, дык намнога старэйшым, аднак выручыць яго, паднесці цяжкі рэчавы мяшок — не ўдалося. «Свая сярмяжка не цяжка». І ўсмешка да гэтага, добрая ўсмешка бывалага чалавека.

Ішоў Ілья Данілавіч у родную вёску на Уздзеншчыне, дзе ў сорак першым прыпыніліся і тры даўжэзныя гады пражылі яго жонка і сын. Сёння ўжо даўнавата доктар тэхнічных навук, сын быў тады васьмігадовым хлопчыкам, які прагна чакаў недзе бацьку, дзелячы з мамай трывогу па ім, бязлітасна, беспрасветна цягучую невядомасць у горкай глушы акупацыі.

Як рад быў чалавек, бацька і муж, з якім хваляваннем чакаў ён сустрэчы — тады пра гэта я толькі здагадваўся. А ўсё ж і мне было, «за кампанію», прыкра, што на шляху да гэтай, у марах выпакутаванай сустрэчы, як на злосць, як знарок, аніводнай машыны, трэба і гэта яшчэ — у давяршэнне ўсякіх ды ўсялякіх цяжкасцей ліхалецця — перамагаць цярплівасцю, тупаць пад «сідарам», тупаць у спёку абочынай раўнадушнай дарогі... А ён, Ілья Данілавіч, толькі ўсміхаўся, усмешкай гэтаю выдаючы сваё хваляванне, глыбока схаванае за працоўным спакоем.

Такім вось іменна — простым, спакойным, усмешлівым — ён мне і помніцца з таго першага нашага дня. І часта бывала пасля, што, едучы з Мінска ў родныя мясціны, мінаючы каля лесу паваротку на Узду, я цёпла ўспамінаў тыя нашы бясконцыя кіламетры, нашу гутарку — яго роспыты пра партызанскія дні і ночы, яго расказы пра жыццё на фронце і ў Маскве, сёе-тое з жыцця літаратурнага, яго цікавасць да маіх пачынанняў. Цікавасць яго не была толькі ветлівасцю. Тады я гэта адчуваў, а з гадамі і ўведаў, не раз і не два разы маючы магчымасць пераканацца, як шчыра ён быў зацікаўлены ў росце роднай літаратурнай змены, які быў спагадлівы да яе.

Я адчуў гэта і на самім сабе, на працягу многіх гадоў ахвотна несучы свае апавяданні ў «Беларусь», якую ён клапатліва і ўмела рэдагаваў.

Мы, маладыя, любілі яго. Весела помніцца той красавіцкі адвячорак 1949 года, калі нядаўнія франтавікі і партызаны, маладосць якіх законна зацягнулася так, што і ў трыццаць, і ў трошкі за трыццаць можна было

пабыць ледзь што не дваццацігадовым, якім ты ў свой час поўнасцю, з-за вайны, не пабыў, помніцца, як мы пайшлі да яго на Лагойскую вуліцу, нечакана пастукаліся з букетамі шампанскага і шумнай весялосцю, шчыра прыязнай да яго шаноўнага пяцідзесяцігоддзя!.. І ён быў з намі маладым, і ў тую застольную ноч, вельмі ж кароткую, і на світанку, калі нам — ужо над Свіслаччу — так не хацелася разыходзіцца...

Самі сталеючы спакваля, мы да яго, увесь час старэйшага, заўсёды адносіліся з павагай — да чалавека сумленнага, добрага, простага мудрай народнай прастатой.

Маю павагу да Ільі Данілавіча ўвесь час прасвечвала, вось і цяпер прасвечвае тая наша сустрэча, калі ён вяртаўся з вайны да сваіх найбліжэйшых...

*1977*

# «ЁН — СТРОГІ ДА ПРАЎДЫ» [1]

Кадры ваеннай кінахронікі:

Прадвясняны панылы туман. Мокры снег, раскоўганы мноствам ног. Голыя, марныя дрэўцы і хмызняк абапал ці то занадта шырокага гасцінца, ці то проста свабоднай белай прасторы паміж лесам і пералескам. І людзі, людзі, людзі... Несамавіта апранутыя — у лахмоцці. І ледзь брыдуць — жанчыны, старыя, дзеці. Нібы сюды спецыяльна сагналі ўсіх жабракоў старой Беларусі.

Больш за ўсё дзяцей... Ці гэта толькі так здаецца?..

Голас дыктара малады, сучасны, усхваляваны:

— Азарыцкі лагер смерці ў Гомельскай вобласці. Вызвалены ў сакавіку сорак чацвёртага года. Жывых засталося каля трыццаці тысяч зняволеных, у тым ліку шаснаццаць тысяч дзяцей...

Вось яны:

Маленькія ідуць разам з мамамі, бабулямі, крыху старэйшымі сёстрамі і братамі, усе аднолькава бездапаможныя, хваравіта журботныя — нават і ў шчасці толькі што атрыманай свабоды.

Вось яны:

Хворых, параненых, зусім знямоганых дзяцей з вагонаў-цяплушак прымаюць пажылыя салдаты ў нейкіх зусім будзённых шынялях і жанчыны ў белых халатах. Нясуць на насілках, нясуць на руках...

Вось яны нарэшце:

Адмытыя, пастрыжаныя галоўкі на чыстых, невераготна для гэтых пакутнікаў белых падушках. З болем глядзіш, як тырчаць іх малечыя вушы, насы, вы-

---

[1] Напісана для часопіса «Новый мир».

піраюць ключыцы, плечыкі з адных касцей. А — перш за ўсё — бачыш вочы. Такія ва ўсіх вялікія, так па-старэчы стомленыя і мудрыя, так яны пазіраюць у вечнасць з бездані неверагодных пакут, так многа гавораць — вочы зганьбаванай нявіннасці...

Недалёка ад сумна вядомых Азарыч, на ціхай чыгуначнай станцыі Калінкавічы, у сям'і памочніка машыніста паравоза Апанаса Казько за год да пачатку Вялікай Айчыннай вайны нарадзіўся хлопчык. Да таго прадвесня, што прынесла волю гэтаму кутку ўсходняга Палесся, чатырохгадовы Віця застаўся сіратой: ад выбуху варожай бомбы загінула маці, бацька з партызанскага атрада пайшоў у Савецкую Армію, на захад.

Сірата пры нямоглай, самотнай бабулі, затым, яшчэ раз асірацеўшы, беспрытульнік, дзетдомавец, фабзаяц... І ніхто з аднагодкаў і дарослых, што акружалі яго ў той час, не мог, вядома, і падумаць, што якраз гэтаму непрыкметнаму, хіба што крыху няўрымсліваму хлапчуку суджана ў будучыні так многа расказаць мільёнам людзей пра тое, што такое фашызм, найбольшы, заклятый вораг маленства.

У 1972 годзе на старонках «Нового мира» з'явілася першая аповесць Віктара Казько, «Вісакосны год», адразу заўважаная чытачом. Потым у часопісе «Неман» была надрукавана аповесць трохі меншая, «Цёмны лес — тайга густая».

Рэкамендуючы маладога празаіка ў члены Саюза пісьменнікаў, Алесь Адамовіч спытаўся ў пачатку свайго выступлення: «Дзве аповесці — мала гэта ці многа?» І адказаў, за шмат каго з прысутных: «У гэтым выпадку — зусім дастаткова, каб назваць іх аўтара таленавітым, самабытным пісьменнікам».

За чатыры наступныя гады Казько апублікаваў яшчэ тры аповесці: «Добры дзень і бывай», «Аповесць пра беспрытульнае каханне», «Суд у Слабадзе», а таксама некалькі апавяданняў.

Рыхтуючыся да гэтага слова, адзін з пяці названых твораў я прачытаў упершыню, другі пагартаў, асвяжаючы ў памяці прачытанае раней, а апошнюю аповесць, «Суд у Слабадзе», прачытаў двойчы, у часопісах «Полымя» і «Дружба народов», на беларускай мове і ў аўтаравым перакладзе на рускую. І тое пытанне

Алеся Адамовіча прыгадалася мне цяпер трохі па-іншаму: «Пяць аповесцей — ці многа гэта?» І я адказаў сам сабе задаволена: «Многа!» Не па колькасці старонак, а таму, што тут цэлы свет, багаты, шматфарбны, хвалюючы свет чалавека, які больш за многіх бачыць, глыбей думае, адчувае, любіць жыццё і ўмее пра гэта расказаць.

Віктар Казько ўжо даўно не дзіця і не юнак, бацька сям'і, пісьменнік з імем, аднак над старонкамі яго кніг, асабліва апошняй аповесці, мне ўспаміналіся слёзы старэнькага Льва Талстога, які гаварыў свайму маладому сабрату Максіму Горкаму:

«А пісаць усё трэба, пра ўсё, інакш светленькі хлопчык пакрыўдзіцца, папракне,— няпраўда, не ўся праўда, скажа. Ён — строгі да праўды!»

Нялёгка было на душы ў санітараў і медсёстраў, што ў вызваленых гарадах і сёлах ратавалі дзяцей, якія цудам ацалелі ад знішчэння. Гэты востры, шчымлівы боль і яшчэ ўсё, час ад часу, паўтараецца ў памяці ветэранаў вайны. А тыя хлопчыкі і дзяўчаткі, якіх вярталі да жыцця, яны ж не толькі пакутавалі,— яны яшчэ і бачылі: і тое, што было, і тое, што прыйшло. Адны — каб запомніць на ўсё жыццё, іншыя — каб яшчэ і расказаць тую жахлівую праўду ўсім, хто не бачыў, не перажыў такога сам.

У трох з пяці сваіх аповесцей Віктар Казько піша на тэму: фашызм і дзеці. І ў аповесцях гэтых, асабліва ў першай па часу напісання, «Вісакосны год», і апошняй, «Суд у Слабадзе», выразна выступае чысціня і сіла іменна дзіцячага позірку на ўсю нялюдскую сутнасць фашызму, чысціня і сіла, якую пісьменнік пранёс цераз нягоды і цяжкасці сваіх ваенных і пасляваенных гадоў, захаваўшы гэты позірк, гэтае бачанне са здзіўляючай свежасцю.

Калі ў аповесці «Вісакосны год» хлопчык Дзіма Прыгода бачыць пакуты і смерць усіх людзей, і малых, і дарослых, дык Колька Лецечка, герой «Суду ў Слабадзе», бачыць раней і больш за ўсё трагедыю дзяцей, якіх не толькі расстрэльвалі і жывых палілі разам з дарослымі, але, пакуль знішчыць — спачатку абяскроўлівалі.

Кажуць, што тыраны здаўна любілі амаладжвацца крывёю сваіх нявольнікаў. Будаўнікі «тысячагадовага

рэйха», у адрозненне ад тых легендарных тыранаў, рабілі гэта не прымітыўна, а «на навуковай аснове», узброеныя сучаснай ім медыцынскай тэхнікай.

Увосень 1942 года так яны зрабілі з выхаванцамі Дамачоўскага дзіцячага дома на Брэстчыне — спачатку вампіры ў белых халатах высмакталі кроў у найбольш здаровых хлопчыкаў і дзяўчынак, каб уліваць яе сваім параненым салдатам, а тады ўжо ўвесь дом прызвычаена знішчылі.

Выпадак гэты — не адзінкавы на тэрыторыі часова акупаванай Беларусі...

Колька Лецечка не памёр адразу пасля таго, як яго абяскровілі — ён дажыў да семнаццаці год. Умудроны пакутамі, значна старэйшы за сваіх аднагодкаў па развіццю, ён бясконца доўга згасаў, пакутаваў паволі, на ўсю трагічную глыбіню ўсведамляючы сваю асуджанасць. Праўдзіва, хвалююча, крывёю сэрца напісаны Віктарам Казько перажыванні яго героя,— горкая, без адказу, закаханасць, недзіцячы страх смерці, любоў да прыроды, да добрых людзей, палкая і неспатольная нянавісць да ворагаў... З асаблівай сілай, да глыбіні душы хвалююча напісаны перадапошні раздзел аповесці, дзе Лецечка, на судзе над былымі памагатымі гітлераўскіх катаў, як быццам азораны маланкай, пранозліва ярка прыгадвае, як яго вырвалі з матчыных рук, як у яго маленькае безабароннае цела ўпіваўся шпрыц фашысцкага «доктара»...

Амаль заўсёды нетаропкі, свабодна грунтоўны, відушчы на ўсю глыбіню пранікнення ў сутнасць таго, што паказвае, Казько бачыць, адчувае сам і зайздроснай сілай заражае сваімі пачуццямі чытача, прымушаючы яго разам з сабой хваляваццa, думаць, любіць, ненавідзець, смяяцца і сумаваць. Чытаючы Казько, час ад часу падумаеш радасна: гэта сапраўднае, гэта зусім сур'ёзна! Ёсць яно і ў яго таёжных, геалагічных аповесцях,— «Добры дзень і бывай» і «Цёмны лес — тайга густая»,— тэматычна звязаных з сібірскім перыядам біяграфіі пісьменніка, у той час шахцёра, геолага і журналіста. У яшчэ большай меры ёсць такое ў аповесцях, тэмы якіх ідуць з яго беларускага шматпакутнага маленства. Піша Віктар Казько не проста пра перажытае, а з асабіста перажытага мудра выходзіць у вялікае жыццё, пазнаваючы яго не павярхоўна, не пры-

блізна, чаго сяму-таму хапае для «цікавай» белетрыстыкі, а па-сапраўднаму творча, як гэта трэба для справы вялікай і трывалай. Ён піша не пра ўсё, а толькі пра тое, што ведае, што любіць на ўсю сілу. Для яго няма людзей, якія не могуць стаць паўнакроўнымі вобразамі. І людзі гэтыя, што называецца, простыя, звычайныя нашы сучаснікі. Тут і начальнік міліцыі, і начны вартаўнік, і шпітальная нянечка, і выхавацельніца дзіцячага прыёмніка, і дзетдомаўскія падлеткі, што ўступаюць у жыццё з усімі яго радасцямі і трывогамі, і бесклапотныя, вясёлыя салдаты вайсковага эшалона,— усе людзі жывыя, са сваёй мовай, пісьменнік ведае іх з усімі драбніцамі і таямніцамі біяграфій, усе яны дзейнічаюць натуральна, як гэта трэба ім самім, без аўтарскага самавольства ў кіраванні іх паводзінамі.

У асноўным добрая мова Казько — і родная, і руская,— сакавітая і вобразная, з лёгкай, неабходнай для каларыту, дамешкай мясцовай гаворкі, дынамічная ў дыялогах, усхваляваная ў лірычных адступленнях, амаль заўсёды простая і дакладная.

Усё станоўчае, што з поўным правам можна сказаць пра прозу Віктара Казько, не засланяе сабой і некаторых недахопаў, асабліва прыкметных пры паўторным чытанні, як гэта было ў мяне з яго апошняй аповесцю. Часамі ён трохі залішне гаваркі, а то і мітуслівы, у спакойным, глыбінным расказе часамі заўважаюцца таропкія пошукі патрэбнага штрыха, здараюцца сюжэтныя няўвязкі, моўныя хібы... Ды гэта — дробязі ў параўнанні з тым сапраўдным багаццем пачуццяў, думак, чалавечай цеплыні і святла, якія нясе чытачу творчасць яшчэ аднаго беларускага пісьменніка.

*1978*

# ЦІКАВАЯ, ДОБРАЯ ПРОЗА [1]

Член Саюза польскіх пісьменнікаў, беларускі празаік Сакрат Яновіч нарадзіўся 4 верасня 1936 года ў мястэчку Крынкі на Беласточчыне. Бацька яго шавец, маці краўчыха.

«Чытаць і пісаць,— успамінае сёння Яновіч,— навучыў мяне савецкі настаўнік, які, пасля ўз'яднання Беларусі, кватараваў у нашай хаце зімой саракавога года.

На ўсё жыццё запомніў я з тых дзён Купалаў верш «Хлопчык і лётчык».

У апошнюю зіму пад гітлераўскай акупацыяй сямігадовы Сакрат пачаў хадзіць у тайную школу, наладжаную падпольшчыкамі. Аднак неўзабаве абодва яго настаўнікі — «адзін надта хлапечы, а другі надзвычай строгі, засяроджаны» — пасля ўзрыву крынкаўскай электрастанцыі «некуды зніклі», а потым іх бачылі ў адным з атрадаў брыгады імя Каліноўскага.

«Мая маці,— успамінае далей, у пісьме да мяне, Сакрат,— яшчэ з дзявочых часоў мела дзве тоўстыя кніжкі, вельмі даўнія. Гэта былі зборы твораў Пушкіна і Лермантава, якія маці атрымала ад удавы лесніка, адзінага, як яна кажа, адукаванага чалавека ў тагачаснай лясной ваколіцы, у яе малой айчыне — Барсуковіне, вёсачцы з чатырох хат. Я паціху выкрадаў гэтыя кнігі з матчынага куфра на гарышчы і чытаў: «Белеет парус одинокий», «Погиб поэт, невольник чести...». Чамусьці найбольш упадабаўся мне «Евгений Онегин» — васьмігадоваму хлапчуку...»

---

[1] «Замест пасляслоўя» да кнігі Сакрата Яновіча «Сярэбраны яздок».

Цёпла ўспамінае пісьменнік людзей, што першыя навучылі яго любіць беларускае паэтычнае слова — аднаго з арганізатараў Савецкай улады ў Крынках у верасні 1939 года, работніка раённай міліцыі Клімовіча і беластоцкага гадзіннікавага майстра Клімука, ва ўласнай бібліятэцы якога былі кнігі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Міхася Васілька...

У тыя дні Яновіч ужо вучыўся ў электратэхнікуме, які закончыў у 1955 годзе. Праз два гады ён паступіў у «завочную настаўніцкую студыю», на аддзяленне беларускай філалогіі, дзе «з асалодай слухаў» лекцыі вядомых мінскіх выкладчыкаў. У канцы 1973 года пісьменнік Яновіч, зноў жа завочнік, абараніў дыплом на філалагічным факультэце Варшаўскага універсітэта.

Як і ў кожнага культурнага літаратара, вучоба ў яго не гэтым пачалася і не на гэтым закончылася. Галоўным была і назаўсёды засталася кніга, вучоба ў любімых папярэднікаў. Сярод іх Сакрат называе Талстога, Дастаеўскага, Хемінгуэя, Паўстоўскага, Маравію, Бабеля, Купалу, Гарэцкага, Чорнага, Мележа, Быкава... Пра Мележа згадвае так: «Самай вялікай кнігі Ён, мабыць, не напісаў... У студзені 1970 года Ён пісаў мне: «...Усіх слухай, але сваім розумам жыві». Можна дадаць, што так Яновіч і стараецца жыць, працаваць, у гэтым «сакрэт» яго поспехаў.

Дэбют маладога пісьменніка, калі не лічыць падлеткавых практыкаванняў на рускай і беларускай мовах, звязаны з арганізацыяй беларускай газеты «Ніва», якая пачала выходзіць у Беластоку ў 1956 годзе. Сам Яновіч пачаткам яго сапраўднай творчасці называе 1962 год, час напісання мініяцюр «Фэст», «Сыну», «Валошка», якіх ён, як прызнаецца ў вышэй згаданым пісьме, не саромеецца і сёння.

У 1969 годзе ў Беластоку выйшла першая кніга Сакрата Яновіча «Загоны», даволі аб'ёмны зборнік апавяданняў і мініяцюр.

У замалёўцы «Загоны», якой адкрываецца кніга, першая фраза гучыць амаль праграмна: «На загонах, як у жыцці — усяго пакрысе». І сапраўды, Яновіч піша пра ўсё, што бачыць у акаляючым яго жыцці, ён углядаецца ў гэтае жыццё пільным і назіральным вокам чалавека нестаронняга, шчыра закаханага ва ўсё

добрае, у сённяшні дзень свае народнае дзяржавы, у светлую будучыню працоўных. І, разам з тым, ён бачыць і не без поспеху намагаецца выкрываць усё тое, што запаскуджвае жыццё сваёй дурнотай і мярзотнасцю.

Таленавітае слова маладога беларускага сабрата неўзабаве было заўважана польскай літаратурнай грамадскасцю. У 1970 годзе яго прынялі ў Саюз пісьменнікаў ПНР, а на трэцім годзе пасля гэтага варшаўскае выдавецтва «Іскры» выпусціла кнігу навел Яновіча ў перакладзе на польскую мову. Зборнік гэты, пад назвай «Wielkie miasto Białystok», перакладала цэлая група сяброў беларускага слова, сярод якіх такія вядомыя перакладчыкі нашай паэзіі і прозы як Ян Гушча, Мацей Юзаф Канановіч, Віктар Варашыльскі, Ежы Літвінюк, які, дарэчы, склаў зборнік, адрэдагаваў пераклады і напісаў прадмову.

У прадмове гэтай Е. Літвінюк слушна гаворыць:

«Яновіч — няхай сабе гэта і здасца камусьці парадаксальным — народны паэт, які карыстаецца прозай. Паэт ён таму, што ў яго не знойдзеш апісання дзеля апісання, не знойдзеш нават і сказа, не пранізанага хваляваннем. А народны ён згодна з акрэсленнем Брэхта: «Народны гэта не тое, што пра народ, але тое, што народ цікавіць».

У кнізе «Сярэбраны яздок» беларускі савецкі чытач знойдзе нямала цікавага.

Гэта і аповесць, назва якое вынесена ў загаловак кнігі,— яшчэ адно свежае слова пра паўстанне, адным з чырвоных правадыроў якога быў легендарны рэвалюцыянер-дэмакрат, мысліцель і публіцыст Кастусь Каліноўскі,— гэта і паэтычныя навелы, замалёўкі, мініяцюры, даволі ўдала падабраныя з усяго, што напісана таленавітым празаікам у гэтым, трэба сказаць, нялёгкім жанры.

Для прозы Сакрата Яновіча, я паўтараю, характэрны добрае веданне жыцця, удумлівае пранікание ў яго глыбінны змест, шчырыя пошукі сацыяльнай справядлівасці, любоў да чалавека працы, адчуванне красы прыроды і роднага слова.

Праўда, сям-там у яго зашмат надзеі на падтэкст, крыху залішняя для прозы, а то і выразна знарокавая, ледзь не штучная паэтычнасць, мнагавата часамі стам-

ляючай інверсійнасці, заўважаецца не заўсёды карысны ўплыў польскай мовы на граматычны лад і слоўнік Яновіча, у цэлым у яго свабодны і сакавіты.

Аднак усё гэта — толькі «недахопы росту», і яны, у чым я ўпэўнены, не перашкодзяць нашаму чытачу прыхільна ацаніць цікавую, добрую прозу Сакрата Яновіча ў яе першым савецкім кніжным выданні.

*1978*

# «А Я — НА ПАЛЕССЕ...»

Барвовае і жоўтае ці залатое лісце восені ніколі не здавалася мне сумным, не нагадвала сівізну, не трывожыла напамінам пра старасць. Тым больш калі асенні лес — ды ў сонцы.

Так было летась, на пачатку кастрычніка, у маёй, з двума сябрамі, паездцы на Петрыкаўшчыну. Успомніўшы, ледзь не ўздыхнецца радасна: «Ах, якія там лясы, якая восень была,— сапраўды залатая!..»

Недзе за Жыткавічамі, на ўсход, адзін з нас, як за ўсіх трох, сказаў:

— А тут вось зараз, налева, будуць і Верыны Бабунічы.

Што ж, лес — як лес, поле — як поле, вёска — як вёска, аднак пагаварыць нам было прыемна. Кожны трохі свайго, а з гэтага ўжо і агульнае,— прыблізна тое, што я хачу цяпер напісаць.

Калі ў рэдакцыі «Маладосці» мяне папрасілі «сказаць добрае слова» пра Веру Палтаран, у сувязі з яе круглым днём нараджэння, мне, перш за ўсё, прыгадаліся тая паездка, сонечны асенні лес, наша гутарка пра сяброўку. А потым я, ужо дома, зняў з паліцы дзве яе кнігі, «Ключы ад сезама» і «Дзівасіл», і ў адной з іх, пакуль пачаў перачытваць, нібы знарок, не проста так сабе наткнуўся на словы: «Хто куды, а я — на Палессе...» — і адразу адчуў свой зыходны пункт.

Палессе... У маім асабістым успрыняцці гэтай, спачатку толькі загадкава-экзатычнай, зямлі, перш за ўсё было слова — Коласава, хрэстаматыйнае, пра Палессе заходняе. Потым туды, ужо на ўсходняе, павёў і многае адкрыў мне, як і многім, Мележ.

Сваімі нарысамі Вера Палтаран, няхай сабе сціп-

лей, але ж таксама па-свойму і добра дапаўняе тое маштабнае, грунтоўнае, што сказана пра гэты куток Беларусі, пра тую частку нашага народа, мінулае і сучаснасць якое арыгінальна і красамоўна гавораць пра сусветна-гістарычнае значэнне Кастрычніка.

Злабадзённая рэпарцёрская хапатлівасць, нявольнае, а то і вольнае, з ляноты ці з карыслівай асцярожнасці, коўзанне па паверхні жыццёвых з'яў добра-такі прынізілі ды апашлілі ў нашай літаратурнай справе жанравае азначэнне — *нарыс*. «Ат, гэта ж нарыс!..» — так і чуецца або ў падтэксце адчуваецца пагарда зверхагляда: гэта ж не апавяданне, тым больш не аповесць, а ўжо ж, смяхоцце адно, ніяк не раман ці эпапея... Сваёю працай Вера Палтаран вельмі нябла̀га прычынілася да рэабілітацыі мастацкага нарыса; сур'ёзная гаворка пра яго — калі пачаць ад абаяльнай Цёткі і высакароднага Гарэцкага — ніяк не абыдзецца без таго, што зрабіла наша таленавітая сучасніца.

У сваіх крытычных артыкулах, дарэчы, не менш патрэбных і яркіх, чым нарысы, Вера гаворыць пра некаторых нашых літаратараў такое, што ў поўнай меры можна аднесці і да яе самой. Цытую з напісанага ёю ў розны час і пра розных людзей:

«...Прыйшоў у літаратуру з журналістыкі і таму адчуваў прыхільнасць да гарачага матэрыялу жыцця».

«Што ў яго ад чаго ішло: дабрата — ад глыбокага разумення чалавека ці разуменне — ад вялікай дабраты, сказаць не бяруся».

«Гэта... высокая прастата чалавека інтэлігентнага, далікатнага, за якою — ...разумная шчырасць натуры багатай, што заўсёды тоіць у сабе неспадзяванку».

Вера Палтаран таксама прыйшла ў літаратуру з журналістыкі. Праўда, спачатку было маленства ў родных палескіх Бабунічах, вучоба ў вясковай дзесяцігодцы, потым у Мінскім педінстытуце. Была суровая паўза — вайна, эвакуацыя, праца на адным з тылавых заводаў у Горкаўскай вобласці, а тады зноў вучоба, ужо ў БДУ імя Леніна, спачатку на Стрэльні ў Маскве, а потым у вызваленым Мінску. Заканчэнне вучобы яна сумяшчала ўжо з журналісцкай працай у «Чырвонай змене».

Нядаўна, у адным з артыкулаў, Вера прыгадвала той, памятны нашаму пакаленню, час нават з вясёлай

усмешкай, як гэта лёгка ды прыемна робіцца здалёк: «Заняткі... з дзевяці раніцы да трох дня, работа ў рэдакцыі — з сямі гадзін вечара да дзвюх-трох ночы. Гадзіны тры — на сон, паўтары — на пешае падарожжа з Нямігі да Дома друку і назад па ўшчэнт зруйнаваным горадзе, нейкая скупая гадзіна на падрыхтоўку да заняткаў у перапынку паміж сеансамі радыёперадач...» Вясёлую, прыязную Верачку, рэдакцыйную радыстку, тады і падмацоўвала, і трымала ў высокім настроі «гаючая музыка перамогі» — начныя зводкі Саўінфармбюро. Потым у акуратнай радыстцы было разумна заўважана большае — добрая мова, і вось Вера Сямёнаўна «села на стыль». Так можна ўсміхацца самой ды з сябе,— мы скажам інакш. І ў «Чырвонай змене»,», і ў «Літаратуры і мастацтве», і, найдаўжэй, у «Маладосці», дзе яна і непасрэдна, і па сумяшчальніцтву, на працягу амаль трыццаці гадоў была і стыльрэдактарам, работу яе было відно. Выдатнае веданне роднай мовы, высокая культура слова, глыбіннае адчуванне яго — спецыяльнасць, калі па шчырасці, даволі-такі рэдкая, прыкметная.

Сказаўшы пра «сумяшчальніцтва» ў працы стылістам, я меў на ўвазе, што ў «Маладосці» Вера Палтаран загадвала аддзелам крытыкі, а стыль быў яе другім абавязкам, таму што такая адзінка ў штаце рэдакцыі была ў свой час не прадбачана. Добрага слова заслугоўвае яе загадванне аддзелам, уменне заўважаць у штодзённасці літаратурнага працэсу найбольш цікавае і значнае, што трэба ў свой час разумна падтрымаць, прыўзняць на агульны агляд, спакойная, упэўненая смеласць у ацэнках — гэта было і гэта ўдзячна памятаецца. Добра зрабіла выдавецтва «Мастацкая літаратура», запрасіўшы Веру Сямёнаўну на пасаду загадчыка рэдакцыі крытыкі і літаратуразнаўства, пасаду адказную, нялёгкую, на якой яна зноў жа, нягледзячы на розныя цяжкасці,— і на працы, і са здароўем,— спраўляецца паспяхова, па-свойму культурна, прыязна, прынцыпова, весела.

І, разам з гэтым, піша сваё. Нарысы, артыкулы, успаміны.

Увага да людзей, душэўная добразычлівасць, светлая шчырасць добра дапамагаюць ёй і ў творчасці,— ад гэтага яна выразна бачыць, тонка чуе, глыбока

асэнсоўвае заўважанае ў народным жыцці, ніколі не трацячы сувязі з галоўным. У нарысах яе разоў са два, неназойліва, бо дарэчы, паўтараецца, як для самакантролю, акрэсленне: «прычасціцца найвялікшай чалавечай чысцінёю». Гэтую чысціню пісьменніца нясе перад сабой жывым агеньчыкам, каб не збівацца са сцежкі да запаветнага. І гэтая чысціня, яснасць позірку на жыццё, на ўчарашні — сённяшні — заўтрашні дзень свайго роднага краю радуюць чытача над старонкамі яе цікавай, свежай прозы і разумнай, смелай, дзейснай крытыкі.

Не выпадкова гэта, што, перачытваючы зборнік «Дзівасіл», зноў любуючыся жывымі характарамі людзей, іх непрыдуманым жыццём, мовай іхняй і мовай аўтара, думалася, што вельмі патрэбна так вось бачыць і так запісваць жыццё, што так дакладна не запісаў бы яго, не запомніў бы, каб не любіў усёй душой. І сапраўды — «хто куды, а я — на Палессе...» І яшчэ раз — не выпадкова гэта, што над старонкамі Палтаран мне цёпла, сумна, радасна ўспамінаўся Мележ, яго паслядоўнасць імкненняў і почырк. Я не вытрываў: ведаючы, што ў Веры ёсць ужо і ўспаміны пра яе выдатнага земляка, нашага незабыўнага друга, я папрасіў той рукапіс. Прачытаў яго з такою ж цікавасцю, пашанай і, месцамі, хваляваннем, з якім чыталася ў розны час і пра іншых, каго разам з намі любіла і любіць наша нястомная, светлавокая, чыста вясёлая імянінніца.

Няхай жа ёй добра жывецца і спорна, плённа працуецца!

*1979*

# ХОЦЬ І НЕ ЎСЁ...

Пасля зацяжных ды заўчасна халодных дажджоў другі дзень пагодзіла, быў светлы жнівеньскі адвячорак. Вярнуўшыся з родных мясцін, ад лесу, ракі і лугоў, я нібы нанава бачыў Мінск, за месяц нашай разлукі таксама весела пасвяжэлы, ішоў па горадзе з адчуваннем чагосьці неакрэслена харошага, што мае адбыцца — можа, заўтра, а то і сёння яшчэ, здаецца, нават вось-вось...

На скрыжаванні нашых з *ім* найбліжэйшых вуліц, за тры дзесяткі год найбольш абходжаных,— і ўдвух, і кожным з нас па сабе, і моўчкі, і ў сяброўскай гутарцы,— я найзвычайнейшым чынам спыніўся, каб прапусціць машыну.

Ды тут яна спынілася, даўно знаёмы журналіст, вечна вясёлы інвалід вайны выглянуў з апушчанага акна, чамусьці сумна кіўнуў у адказ на маё бесклапотнае прывітанне і зусім незвычайна, ціха спытаўся:

— Дык што ж гэта Іван зрабіў?..

Яшчэ слоў некалькі — і ўсё стала ясна, і цёмна, і горка, хоць не ідзі далей па светлай вуліцы, а недзе сядзь, знайдзі куток, перачакай...

Мележ. Калі Іван, калі і Паўлавіч, а найчасцей проста Ваня. І для мяне ён быў не першы з блізкіх, якія адышлі так без пары, ударыўшы па сэрцы так знячэўку. Хоць і я, разам з многімі, ведаў пра яго няспыннае недамаганне. За шмат гадоў ён прызвычаіў нас да сваіх скаргаў на гэта, прывыклі мы пацяшаць яго, сур'ёзна і жартуючы, а ў душы часамі нават апускаючыся ў недавер. Такое было, калі мы з ім былі на адной службе і мне сяды-тады здавалася, што так ён стараецца, хітравата ці мудра, выкраіць больш часу

для творчай працы. Каяцца — позна, як ні горка адчуваць сваю частку віны, як ні балюча, што ўжо не станеш з ім болей уважлівым ды тактоўным.

У той момант, калі я пачуў пра нечаканае, Іван мне адразу ўбачыўся іменна так: з ціхай скаргай на вуснах, з просьбай пабыць з ім, можа, хоць разам памаўчаць.

Так было ў апошнія дні чэрвеня 1976 года, у Маскве, на ўсесаюзным пісьменніцкім з'ездзе. У вялікім вестыбюлі аднаго з крамлёўскіх палацаў канчаўся перапынак, тлумная мітусня ішла на спад, дэлегаты і госці праз некалькі дзвярэй зноў уліваліся ў залу пасяджэнняў. Нават ці не апошняга пасяджэння, бо гэта быў заключны дзень з'езда. І вось тады мы з Ванем сутыкнуліся каля сцяны — ён там сядзеў, я падышоў,— адтуль, з таго месца ў людскім гаманлівым мурашніку і сёння мне горка чуецца яго просьба прысесці. Гэта нам не ўдалося: меўся выступаць хтосьці з найшаноўнейшых, і ўсіх рашуча папрасілі ў залу; аднак жа, думаецца цяпер, можна было калі ўжо не застацца ў вестыбюлі, дык хоць у зале сесці разам. Нас закружыла і разлучыла, і гэта... гэта былі апошнія нашы хвіліны — наогул.

«Хто ж гэта ве́даў?!» — гаворыцца ў спозненым шкадаванні, але ж нікому ад гэтага не бывае лягчэй.

* * *

Калі яшчэ жылі мае браты, на нашых не вельмі частых сустрэчах, у мяне ці ў іх, у роднай вёсцы, здаралася і так, што адзін з іх цішком паскардзіцца мне на другога, а потым і наадварот, у той самы прыезд ці пасля. Даводзілася іх мірыць, а потым і смяяцца: «Ох, і апрыкрала ж мне быць у вас за старэйшага брата!» А быў наймалодшым. І добра было — так смяяцца.

У нашым траістым сяброўстве з Дзмітрыем Кавалёвым і Іванам Мележам я быў сярэдні па ўзросту, і мне таксама здаралася быць паміж імі арбітрам. Гэта тады, калі Дзіма перакладаў «Подых навальніцы», і на такім вялікім, нялёгкім полі дастойна сышліся два сапраўдныя мастакі, абодва да болю патрабавальныя, разумна ўпартыя на сваім, з той розніцай у ха-

рактарах, што перакладчык, ён жа таленавіты паэт, быў запальны, нервовы, а аўтар, ён жа вельмі нядрэнны знаўца і рускага слова, быў знешне стрыманы, але ж і лёгка ранімы. Яны мне разоў колькі паасобку скардзіліся адзін на аднаго, я і тады шчасліва пасмейваўся кожнаму з іх, казаў, што дай бог толькі так сварыцца, у пошуках як найбольшай карысці для чытача, я і цяпер, калі ўжо хлопцаў абодвух няма, успамінаю тыя іх спрэчкі ды скаргі — няхай сабе і сумнай, але ж і з цёплай усмешкай.

Дзіма перакладаў і мяне. Машынапіс у яго, як і сам перакладчык, мог быць «нервовы», паэтычна лахматы, яго адразу, сёе-тое паправіўшы, нельга было здаваць у рэдакцыю. Аднак было і значна важнейшае — нястомны пошук найбольш адпаведнага: у паасобных выпадках па два, па тры варыянты слова, сказа, ідыёмы — аўтару на суд, на выбар.

Мне давялося быць рэдактарам адной Іванавай кнігі, а да рэдактарства — рэцэнзентам яе. Ішоў 1954 год, Мележ быў ужо аўтарам некалькіх кніг, з «Мінскім напрамкам» уключна, і раптам — чаго не бывала ў нашай мілай гісторыі! — цэлых два «закрытыя» рэцэнзенты забракавалі не проста чарговы Мележаў зборнік, а кнігу «Блізкае і далёкае», том выбраных апавяданняў і аповесцей, дзе былі і тыя творы, па якіх сам Чорны з мудрай пранікнёнасцю вітаў прыход у нашу літаратуру празаіка і самабытнага і немалога. Мая рэцэнзія была адкрытая, аднак у ганарарнай ведамасці заработак усім тром рэцэнзентам бухгалтар вывеў з абыякавай пайменнасцю. Ды я, на радасць тым былым заканадаўцам мод, не рассакрэчу гэтага, тым больш што сёння яны як быццам ужо разумеюць тую сваю «памылку»... Іван быў удзячны мне, папрасіў быць рэдактарам кнігі, аднак ад гэтага не перастаў быць самім сабою; у рэдагаванні тым я непасрэдна адчуў цвёрдасць яго характару. «Тут, браце Ваня, коска, па-мойму, зусім непатрэбна». Здаецца, ясна абодвум, а ён: «Я падумаю. Добра. Падумаю». І гэта не анекдот,— я весела ўспамінаю такую драбніцу, як яшчэ адзін прыклад пісьменніцкай патрабавальнасці да слова і, разам з тым, поўнага права на яго свабоду, да коскі ўключна.

У мяне было лёгкае рэдагаванне не раз ужо рэда-

гаваных тэкстаў, а што ж ужо казаць пра іхнія з Дзмітрыем Міхайлавічам сутычкі на свежым полі перакладу. Значэнне Кавалёва-перакладчыка, як і ранг яго як паэта, Іван Паўлавіч разумеў, любіў і паважаў нашага шчырага сябра, аднак жа ведаў ён і тое, што пераклад, кажучы найпрасцей, павінен быць сапраўдным перакладам. Гэтага яму ў іншых выпадках, калі перакладаў не Кавалёў, на жаль, дамагчыся належным чынам не ўдалося, нягледзячы на так званую «аўтарызацыю» — сарака, пяцідзесяці, а то і дзевяностапрацэнтную дапрацоўку перакладу самім аўтарам. Тут і заплачаш са злосці, як гэта і было ў яго над рукапісам — не тут кажучы — «перакладу» «Людзей на балоце»...

«Завеі. Снежань» меўся перакладаць Кавалёў. Ды штосьці ў іх зноў не ладзілася: Іван мне скардзіўся, што Дзіма так яму ясна і не сказаў, будзе ён ці не будзе, і Дзіма... таксама на штосьці паскардзіўся. Іна Сяргеева, загадчык рэдакцыі прозы ў часопісе «Дружба народов», папрасіла мяне дапамагчы ёй высвятліць гэтую справу, што без патрэбы зацягнулася. Было гэта на тым жа пісьменніцкім з'ездзе. Сышліся мы ў кулуарах чацвёркай, амаль адразу ясна стала, што анічога няяснага не было, хлопцы дамовіліся паміж сабою і з Інай Андрэеўнай, а мне... А мне і ў галаву, вядома ж, не прыйшло, што Дзіму і Ваню разам я больш ніколі не ўбачу. Адзін пайшоў неўзабаве, не дапісаўшы раман, другі — праз сем месяцаў, не закончыўшы пераклад таго, што мы ведаем як пачатак трэцяй кнігі «Палескай хронікі».

Пачуўшы страшнае «Дык што ж гэта Іван зрабіў?», я, між іншым балючым, успомніў і тую, так сказаць, дзелавую сустрэчу, і ясна стала з усёй бязлітаснай яснасцю, што нашы цудоўныя хлопцы, абодва былыя франтавікі, абодва і ў нездароўі руплівыя работнікі, у той мітуслівы з'ездаўскі дзень былі ўжо на апошняй стоме, а наймалодшы з нас траіх — як я толькі не бачыў гэтага тады?! — у сваім ракавым напярэдадні...

* * *

Як і з Таўлаем, з Мележам пазнаёміў мяне Лынькоў. Гэтаму светламу чалавеку як быццам наканавана было зводзіць людзей на дружбу.

Канчаўся сорак чацвёрты год. Мележ быў у старым цывільным палітончыку, прыкметна сутуліўся ў адзін бок, на параненае плячо, і ўжо тады найахвотней, найбольш гаварыў пра адно,— што пішам, што будзем пісаць... Ад тае першае нашай гутаркі ў адзіным тады пакоі Саюза пісьменнікаў да апошняга развітання з Іванам у рэдкім сонечным сасонніку — больш за трыццаць гадоў адчування ўзаемнай прысутнасці, то частых, то рэдкіх сустрэч, гутарак у сяброўскай кампаніі і толькі ўдвух, па-мележаўску доўгіх размоў па тэлефоне, сумесная праца ў секцыі прозы, у кіраўніцтве пісьменніцкай арганізацыі, даволі доўгае суседства па кватэрах, паездкі па Беларусі, у Маскву, у Крым, у Ерэван... Адно з перажытага і перагаворанага стала ў нейкай меры вядома і іншым, а пра другое, што ведаеш ты адзін, трэба добра падумаць, як расказаць.

Каб гаварыць перш за ўсё, больш за ўсё *пра яго*, пра галоўнае ў ім і для ўсіх нас галоўнае. Без маладога, наіўнага пазіравання на ягоным фоне, без прыкрывання... часамі і ўяўнай дружбай з аўтарытэтным таварышам няроўнасцей ва ўласным жыццёпісе, без пажылога, ужо далёка не наіўнага жадання пры яшчэ адной нагодзе і на самога сябе навесці дадатковы глянец, падрумяніць свой штучны німб,— усё гэта з сытай, самазадаволенай ды бяскарнай свабодай асмяянага Мележам «Парсючка»...

* * *

І ў Мележа, як і ў кожнага з жывых, тым больш — у актыўна, разумна жывых, былі свае чалавечыя недахопы. Зрэшты, не ведаю, што тут можна лічыць недахопам, а што прыроднай асаблівасцю характару.

Скажам, тое ў Івана, не ўсімі правільна зразуметае, жаданне «зашмат» гаварыць пра сваё. Але ж пра што гаварыць! Не пра кватэру, дачу, машыну, не пра званні ды ўзнагароды, не пра высокія знаёмствы ды прыхільнасці ён гаварыў, а пра *галоўнае сваё*, тое,

што ўжо і нам, як чытачам яго, належала, належыцца і застанецца нашым,— як што напісана, як пішацца, як не пішацца, як хацелася б напісаць...

Пакуль ён дайшоў да свайго эпіцэнтра, пакуль для многіх выйшла на-гара тое, што доўга таілася ў гэтай шчырай, глыбокай і неспакойнай душы, і ў Мележа былі няўдачы,— і на старонках, і на сцэне,— і мы іх бачылі, да часу не заўважаючы, не ведаючы таго, што выспявала ў ім, да чаго ён імкнуўся з усёй сваёй цярплівасцю і паслядоўнасцю. Сталасць салдата і літаратара прыйшлі значна раней за сапраўдны пісьменніцкі поспех,— да запаветнага, імя якога «Людзі на балоце», было аж дваццаць год летуцення, сумненняў, вынашвання, пошукаў, працы і працы. Выступаючы на першым абмеркаванні першай кнігі «Палескай хронікі», Алесь Адамовіч слушна сказаў пра тое, як ён ствараўся, гэты раман: «Мележ сам гліны накапаў, сам замясіў яе, сам зрабіў цэглу і сам, цагліна за цаглінай, пабудаваў гэты дабротны дом». Не з буйнаблочнай хапатлівасцю некаторых, распешчаных павярхоўным поспехам сучаснікаў, а па даўняму добраму прыкладу вялікіх папярэднікаў, што будавалі нараз дзейна, надоўга. Слава ішла да Мележа паволі, прыйшла законна і ўпэўнена; сам ён заўчасна спыніўся на гістарычнай даце, а слава, абагнаўшы работніка, пайшла далей, і мы ўжо без яго глядзім, як яна пашыраецца, нібы святло з ліхтара,— чым далей, тым шырэй, па закону свячэння сапраўдных талентаў, не блякнучы ад шырыні, а набіраючы глыбіннай сілы.

Прыемна помніцца, як мы з Максімам Танкам увосені 1965 года, у Варшаве, горача сваталі «Людзей на балоце» таму выдавецтву, што потым выпусціла раман у добрым перакладзе Эўгеніюша Кабатца. На такую ж высакародную справу мне давялося настроіць нашага друга ў Эстоніі, Олева Йыгі, які ў той час толькі што пачынаў перакладаць беларускую прозу, як і Кабатц, з арыгінала. (Пра гэта Йыгі пісаў у «Немане», № 2 за 1970 год.) І яшчэ адно, што прыемна прыгадалася цяпер,— як у прэзідыуме нашага рэспубліканскага з'езда пісьменнікаў, вясной 1976 года, з сяброўскіх рук аднаго з далёкіх гасцей з'явілася і пайшла па радах тоўстая кніга — абодва раманы Мележавай эпапеі ў перакладзе на армянскую мову. Помніцца, адчу-

ваецца жыва — нібы і за сябе, і за Ваню адразу — шчаслівы цяжар таго тома, як вага немаўляці ў бацькоўскіх руках, бачыцца дзіўная вязь старадаўняга, непераможна жывучага шрыфта, які замацаваў у першародным выглядзе і класічна сонечную паэзію Аванеса Туманяна, і вясёлую, мудрую прозу нашага маладога калегі Гранта Матэвасяна, а цяпер вось і наша слова прыняў у скарбніцу сваёй векавечнай культуры.

У радасці такой — за сябра, за родную літаратуру — ёсць, вядома, і элемент асабісты: бывае зайздросна. Аднак у зайздрасці такой, калі яна без шкодных прымесей, ёсць і карысная, канструктыўная сіла.

Мне, напрыклад, з'яўленне «Людзей на балоце», спалучаная з радасцю зайздрасць да сябравага поспеху добра дапамагла ў працы над кнігай «Птушкі і гнёзды», дакладней кажучы, была адным з узбуджальных штуршкоў перад самым пачаткам работы.

* * *

Другі яго «недахоп», другая асаблівасць — і сапраўды ён быў лёгка, залішне лёгка ранімы.

Згадаю ясны май, наш беларускі з'езд пісьменнікаў, для Мележа — апошнія.

Я выйшаў з дому значна раней, каб пахадзіць па зелена-свежым ды шматгалосым сонечным парку, аднак у жаданні сваім аказаўся не першым,— Ваня сядзеў ужо там, журботна адзін у гэтым кутку, на доўгай зялёнай лаве, каля роснага газона. Як для важнай размовы, тонам такім, ён запрасіў мяне прысесці.

Што ж хвалявала яго, што засмуціла?

На чахленька-вясёлым поплаве апошняй старонкі «ЛіМа» рэшткамі маладосці пабрыкаў сатырычны агнец, на гэты раз патаптаўшыся бліскучымі капыцікамі рыфмаў па прыёмнай камісіі нашага Саюза, якую шмат гадоў талкова ўзначальваў Мележ.

Ну і што? Няўжо і гэта трэба ажно так браць да сэрца?

Супакоіць Івана мне не ўдалося. За што ён браўся, тое рабіў з усёй аддачай сіл, і не цярпеў пустога здзеку з дарагое справы.

У лютаўскім нумары «Маладосці за 1977 год, пад загалоўкам «Гаварыць ад імя народа...», надрукавана

з'ездаўскае выступленне Івана Паўлавіча, якое мы слухалі назаўтра пасля маёй з ім сустрэчы ў парку. Гэта было апошняе ў яго жыцці публічнае выступленне, што з асаблівай сілай адчуваецца цяпер, калі яшчэ раз успрымаеш яго, замацаванае на паперы. І вось там, побач з Мележавым завяшчальным словам пра пісьменніцкі абавязак перад народам, ідзе зусім сур'ёзная ў вуснах цяжкахворага, тады нябачна для нас гатовага да хуткага адыходу таварыша справаздача і з гэтай работы жыцця, з працы яго ў прыёмнай камісіі, і такога служэння роднай літаратуры.

Можна было б нагадаць і іншыя прыклады такой яго лёгкай ранімасці, у некаторых успамінах яны і прыводзяцца, ды я хачу яшчэ раз сказаць пра тое, што Мележ, у прыклад многім з нас, умеў таксама не быць дробязна помслівым, стаяць вышэй за асабістыя крыўды і крыўдачкі, умеў памятаць перш за ўсё галоўнае — справу сумленнага служэння народу словам.

Я быў калі не першым, дык адным з самых першых чытачоў пачатку рамана «Подых навальніцы». Калі ж мы потым, дома ў Івана, сядзелі над яго рукапісам, гаворка, як найчасцей у нас, была зусім адкрытая, і я, вядома, цяпер не шкадую, што гаварыў тады шчыра. Права на гэта давала павага да сябра і захапленне, з якім я вітаў «Людзей на балоце» — твор, на мастацкую сілу і свежасць якога можна было прымяраць і работу кагосьці іншага, і новае ў самога аўтара. Пасля той нашай гутаркі прайшло больш за пятнаццаць год, яе не адновіш па памяці, і я дазволю сабе спаслацца на тое, што гаварыў амаль на пяць гадоў пазней, у сваім дакладзе на пленуме Саюза пісьменнікаў, надрукаваным у маёй кнізе «Трохі пра вечнае»:

«У «Людзях на балоце» трохкутнік Ганна — Васіль — Яўхім, іх пачуцці, іх лёс хвалявалі мяне папраўднаму. У «Подыху навальніцы» гэтая лінія пайшла на спад, вычарпалася, перастала быць цікавай...»

Справа не ў тым, меў я рацыю ці не меў, маю яе ці не маю,— шчырасць мая ў той нашай гутарцы, як ні асцерагайся, магла быць і рэзкаватай, Івану яна, трэба думаць, не надта каб падабалася, аднак — і ў гэтым *аднак* уся справа — ён не пакрыўдзіўся на мяне настолькі, каб гэта нейкім чынам паўплывала на нашы

адносіны. Сцвярджаючы такое, зноў жа спашлюся на друкаванае слова. У «Жыццёвых клопатах» ёсць артыкул «Раман і яго праблемы», падрыхтаваны, што значыцца ў каментарыях, як выступленне на пленуме Саюза пісьменнікаў у 1967 годзе, чамусьці не прачытанае там, а надрукаванае ажно праз восем год. Здарылася так, што на гэтым артыкуле я спыніўся тады ўжо, калі Івана з намі не было, і тое, што ён пісаў пра мае «Птушкі і гнёзды», успрынялося мною з асаблівым хваляваннем, непаўторна сказала пра тое, як ён, наш Мележ, умеў быць чалавечна ўважлівым да другіх.

Ён браў належнае яму, не быў да гэтага абыякавы, аднак жа браў сваё сумленна, не адпіхваючы іншых, тым больш не паскудзячы ім спадцішка.

* * *

Было і такое ў нядаўняй гісторыі нашай літаратуры, што адзін пладавіты шарачок з абаяльна падвешаным языком раптам усплыў наверх, пачаў займацца пытаннямі яўна вышэйшымі за яго кампетэнцыю і маральнае права на гэта. На хаду чалавек мармуравеў халоднай абыякавасцю да агульнай справы, увачавідкі бранзавеў пустою пыхай, употай саліў сваім «ворагам», разам з тым вельмі старанна, «явно и тайно образующе» выкарыстоўваючы сваё становішча на выдавецкіх прасторах некалькіх сталіц.

Помніцца, як у адной гутарцы, дзе ўжо таварышы не ўпершыню абураліся такой перашкодай на літаратурнай дарозе, Мележ сказаў: «Ды гэта ж чалавек без будучыні». Сказаў — спакойна ўпэўнены, што тую заваду вернуць-такі з дарогі на абочыну. Так яно неўзабаве і адбылося.

Гэта не значыць, на жаль, што падобнае больш не паўторыцца. Я тут хачу сказаць, што словы тыя, пра чалавека без будучыні, жыва помняцца мне сваёй змястоўнай прастатой, добра гавораць пра Мележава грамадзянскае мышленне, пра вострае адчуванне ім галоўнага ў яго заканамерным развіцці, уменне выразна бачыць часовае, выпадковае ў супастаўленні з галоўным, быць мудра спакойным, што галоўнае пераможа.

Толькі ж, вядома, не само па сабе. Гэта ён таксама добра разумеў.

* * *

Ці ўсе мы робім якраз тое, што нам належыцца рабіць, ці самае найважнейшае робім? Як жа нялёгка разабрацца ў гэтым, быць паслядоўным у найважнейшым напрамку!..

І я схілен думаць, што замест бясконцага дапрацоўвання «Мінскага напрамку» Івану куды лепш было б канчаць «Палескую хроніку»... Думалася так пры яго жыцці, ■ асаблівым шкадаваннем думалася і тады, калі мы, камісія па Мележавай спадчыне, знаёміліся з накідамі да новых частак і кніг яго эпапеі, тых накідаў, якія поўнасцю, улічваючы і публікацыю ў «Полымі», яшчэ не вядомыя чытачу. Думаецца так і цяпер, і воддаль ад старонак яго кніг, і перачытваючы іх, дзе з хваляваннем, а дзе і без яго...

Аднак і такое на думку прыходзіць, на гэтым, урэшце, спыняешся.

Гэта ж яго была справа, яго гаспадарка, яго свабода выбару.

Не вельмі мы заўважалі ў яго апошнія гады і месяцы, што друг наш спакваля рыхтаваўся да адыходу, думаў пра тое, што пакідае людзям. Ён спяшаўся — і ў сваёй звычайна непаспешлівай, працавітай грунтоўнасці. Тут і «Жыццёвыя клопаты», дзе сёе-тое мы лічылі неабавязковым, а яму зусім так не здавалася — перад воблікам канчатковай справаздачы. Тут і «Першая кніга», падрыхтоўку якое ён не пакінуў іншым, зрабіў сам. Тут і дзве рэчы, пасмяротна апублікаваныя ў «Маладосці» — згаданая вышэй «Гаварыць ад імя народа...» і «Гісторыя парсючка» (№ 7 за 1978 год), якія добра дапасоўваюцца ў дуэт — сур'ёзнае выступленне з высокай трыбуны і «лёгкі» памфлет, «сатырычная спроба».

«Парсючка» я таксама згадваў вышэй, толькі ў дачыненні да аўтараў некаторых успамінаў. А вобраз гэты трэба браць і шырэй, і глыбей. Ён жыве сярод нас, парсючок, і ён — як з'ява — вельмі жывучы. Не кожнаму хочацца зазірнуць у такое люстэрка, сёй-той хацеў бы сказаць, нават і рагатнуўшы ■ сытай хрыпін-

кай: «А гэта не я!..» І павярнуўся б іншым бачком, а то і задам, спадзеючыся, што профіль ці патыліца пры ярка выяўленым парсюковым анфасе могуць не быць парсюковымі...

Беззапаветна закаханы ў святую справу народнай літаратуры, Мележ іх ненавідзеў, парсюкоў ды парсючкоў, менш ды больш удачлівых кар'ерыстаў і тарбахватаў, і ён нас вучыць іх распазнаваць.

* * *

«Хоць і не ўсё...»

Гэтыя словы для загалоўка здаюцца мне адпаведнымі таму, што я тут не сказаў пра Мележа ўсяго, што мне трэба, што маю права і абавязаны сказаць.

Адно ўжо сказалася раней, пры іншых нагодах, другое яшчэ скажацца.

Бо ён будзе часта вяртацца і я буду часта выходзіць насустрач яму.

*1979*

# БЫЎ І ЗАСТАЎСЯ

Нас пазнаёмілі ў ліпені сорак чацвёртага года, у дзень партызанскага парада, пасля якога Беларускі ансамбль песні і танца даваў канцэрт — па-франтавому, на паляне над Свіслаччу, сярод яшчэ гарачых, як здавалася, руінаў Мінска.

А перад гэтым Шырма доўга быў для мяне толькі адной з паэтычных легендаў шэрай заходнебеларускай сапраўднасці, у суровай бядоце якой радасна думалася пра тое, што ёсць у нашым свеце чалавек, светлы воблік якога немагчыма аддзяліць ад роднай песні, ад родных дарог у бярозах, ад баравога шуму паэзіі Міхася Васілька, ад першай бунтарна-вясёлкавай кнігі Максіма Танка.

І вось яна, тая легенда, калісьці далёкая, цяпер з адкрытай усмешкай паціскае тваю руку, са сваім характэрным палескім вымаўленнем гаворыць пра самае блізкае і табе. І ты ўжо адчуваеш сябе побач з ім вельмі ж неяк па-свойску, свабодна і добра, як быццам ты не цяпер пазнаёміўся з чалавекам, а сустрэўся з ім пасля доўгай разлукі, у час якое вы тужылі адзін па адным.

Прыгожы чалавек — Рыгор Раманавіч!

І на той міжруіннай паляне, у партызанскім натоўпе, і ў канцэртнай зале імя Чайкоўскага — усюды, дзе мне прыходзілася заціхаць у насцярожаным, хвалюючым чаканні, я з нейкай асаблівай гордасцю ўспрымаў і ўспрымаю тэатральна-прыўзняты голас канферансье, што аб'яўляе Шырмаў выхад...

Я ўжо аднойчы пісаў, але яшчэ раз дазволю сабе сказаць, што словы «народны артыст СССР» у дачы-

ненні да Рыгора Шырмы маюць для мяне... непаўторны сэнс і смак.

За імі шуміць калоссе абапал тых бясконцых і, з ласкі пілсудчыкаў, цярністых сцежак, якімі доўгія гады хадзіў па «ўсходніх крэсах» збіральнік роднай беларускай песні; за імі — сотні звонкіх і стомленых ліхалеццем галасоў, якія перадавалі ў закаханую душу мастака-падзвіжніка эстафету народнай неўміручасці; за словамі тымі — і гэта ўжо гісторыя! — безліч канцэртаў Акадэмічнай капэлы, творчага калектыву, якім ахвотна паганарыўся б не адзін народ; за імі — пераможна паблісківаюць залатым цісненнем тамы — ужо тамы! — фальклорнай шырмаўскай біблiятэкі.

І вось ён, народны артыст неабсяжнай Савецкай краіны, шчыры і сціплы чалавек, разам з тым абаяльна арыстакратычны з выгляду, у серабры сваёй сівізны з'яўляецца на бела-чорным фоне капэлы. Пасля прыбою апладысментаў — яшчэ нейкі момант той самай, здаецца, зусім ужо невыноснай цішыні. Ён, годна пакланіўшыся, павярнуўся да спевакоў, штосьці ім, неабходна і так таямніча, паведамляе. Магічны ўзмах прыўзнятых рук чараўніка, і пачынаецца якое-небудзь дзіва-дзіўнае — з самых глыбінь народнай мудрасці і красы...

А ты — заслуханы ды заварожаны,— як адкрыццё, перажываеш і такую радасць: «А я ж яго ведаю блізка, я з ім не раз сустракаўся і буду яшчэ сустракацца!..»

І сапраўды — вазьму вось заўтра... ну, пэўна ж, з асцярогай, з пашанай зноў падніму тэлефонную трубку, набяру звычайны пяцізначны нумар і прывітаюся звычайным, абдуманым ды вынашаным за стагоддзі словам:

— Добры вечар у вашу хату!

І трубка адкажа мне:

— А, дарожэнькі, дык што ж гэто вы не заходзіце?

— Дык вось і хочам, Рыгор Раманавіч. Бо я тут, ведаеце, не адзін..

— О, так гэто ж яшчэ лепш!

Было аднойчы, ціхай і духмянай чэрвеньскай ноччу, што мы, даволі вялікая група маладых літаратараў, пасля гарачых спрэчак на высокія тэмы, узялі ды

цэлай ардою ўваліліся ў Шырмаў ціхі рабочы пакой. Брыдка было б не прызнацца, што мы былі тады ў тым лёгкім сутыкненні са святочным, кучарава-песенным хмелем, калі яшчэ поўнасцю захаваны ўсе нормы, а ты ўжо і вясёлы, і герой, і хочацца не адкладаць, а сёння ж, тут жа аддаваць, каму належыцца, сардэчнае слова пашаны і любасці. І мы прынеслі гэтае слова «нашаму старому», перамагаючы няёмкасць позняга прыходу даволі-такі шумнай шчырасцю пачуццяў.

Ён яшчэ працаваў, прыгожа і важна, як летапісец, схіліўшыся над сталом. А потым спяваў і смяяўся, гаварыў і слухаў — такі разумны, мілы і малады, такі нястомны і зацікаўлены...

Рыгор Раманавіч, голубе Вы наш сівы, чалавеча Вы наш дарагі! Ну што тут многа гаварыць!.. Жывіце, працуйце — у добрым здароўі і ў плённым натхненні, і нікому не верце, што Вам, як быццам, семдзесят гадоў! Не верце, як не верым у гэта ўсе мы, Вашы шчырыя сябры.

* * *

Гэта было напісана васемнаццаць гадоў таму назад. Пасля таго юбілея нашай любові і славе было семдзесят пяць, восемдзесят, восемдзесят пяць... На яго апошнім годзе мы сталі жыць у адным доме. З акна свайго рабочага пакоя я сяды-тады бачыў Рыгора Раманавіча на праходцы. Абапал шэра-чысценькай панелі пяшчотна зелянела маладзенькая трава, стаялі вясёлыя дрэўцы, свяціла сонца, і ў гэтай светласці і цішыні ён, апіраючыся на руку каго-небудзь з найбліжэйшых, ішоў памаленьку, таксама сівенькі, як і даўно ўжо, аднак далёка не такі энергічны і заклапочаны, якім усе мы прывыклі яго бачыць.

Нялёгка бывала рашацца: пазваніць — не пазваніць, патурбаваць ці лепш не турбаваць нямоглага сваім званком? Часамі ўсё-такі пазвоніш. Апошнім часам не было ўжо ранейшай раскошы ў абмене думкамі, каб паўгадзіны і значна больш з тэлефоннаю трубкай, але ж у голасе яго, абмежаваным слабасцю, была тая самая дабрата разумнага, высакароднага чалавека, тая самая заклапочанасць роднаю справай. І прось-

ба — званіць і наведваць часцей. Цяпер відно, што і трэба было так рабіць, менш думаць, што тут проста ветлівасць у яго, а не законнае жаданне старасці пагрэцца каля прыязнай душы.

Дачка Рыгора Раманавіча, паважаны медык Алена Рыгораўна, а для сяброў іх дома — Лена, Леначка, расказвала нам, журналісту Якубу Міско і мне, калі мы прыйшлі да іх, толькі-толькі пачуўшы сумную вестку, як ён, наш дзядзька Рыгор, ужо аслабелы, далёкі ад усіх умоўнасцей жыцця, усё-такі весела адказаў на пяшчоту дачкі. У адзін з тых момантаў, калі слоў ужо аніякіх, здаецца, няма, каб хоць прыблізна выказаць тое, што адчуваеш, а хочацца шчырасць сваю перадаць, Лена сядзела побач з ім моўчкі і, можа, згадаўшы маленства на татавых каленях, ціха пагладзіла яго сівенькія вусы. Бацька, які ўжо як быццам зусім нічога не бачыў, не чуў, таксама вярнуўся душою ў самы пачатак іх дружбы і так, як з дзіцем робяць, памкнуўся хапнуць губамі руку дачкі. І ледзь-ледзь усміхнуўся.

Вось ужо два гады прайшло ад жалобнага развітання. Ужо ўспаміны пішуцца, хоць так гэта няпроста і нялёгка з блізкімі — пераходзіць ад *ёсць* да *было*. Славутае акрэсленне: «усё перавярнулася і толькі ўкладваецца» — падыходзіць і тут.

На дапамогу памяці, яшчэ ўсё разгубленай, не перастроенай на новы лад, прыходзяць газеты і часопісы далёкага заходнебеларускага «жыцця-быцця-гараванейка», прыходзяць кнігі, да выхаду якіх Рыгор Раманавіч меў дачыненне, прыйшлі кнігі ягоныя — ва ўсіх адносінах важкі чатырохтомнік сабраных ім «Беларускіх народных песень» і апошняя — «Песня — душа народа».

Многае мне нагадалі старонкі гэтай кнігі.

Скажам,— пагодлівы жнівеньскі ранак 1937 года, веласіпедную сцежку ў прыдарожнай траве, гладкі метал руля ў маладых, мазолістых руках і адчуванне не проста хуткай язды, а імкнення, прасторы, волі!.. Цяпер, з далечыні гадоў, добра паездзіўшы, палятаўшы і па сваёй краіне, і па белым свеце, міла наіўнай бачыцца тая юнацкая радасць. Пасля штодзённай працы ў полі і каля дому, калі выхадам у вялікі свет была паездка ў млын, у кузню, на кірмаш, а транспартным

сродкам — уласныя ногі ці конь, вельмі няпростая гэта падзея — ехаць веласіпедам ажно за шэсцьдзесят кіламетраў, быць свабодным на цэлыя два дні, прадчуваючы радасць сустрэчы, асабістага знаёмства з чалавекам, амаль ужо сябрам, з якім ты пачаў перапісвацца на найбліжэйшыя тэмы...

Гэта быў Янка Патаповіч, былы адказны рэдактар часопіса «Літаратурная старонка», забароненага санацыйнымі ўладамі на першым нумары, нядаўні вязень «славутых» Лукішак, светлы, шчыры, прыязны таварыш. Ён узяўся дапамагчы мне з выданнем першага зборніка, але тут я хачу гаварыць не пра тыя мае хваляванні. У Патаповіча, у яго роднай вёсцы Рачка́ны на Ляхавіччыне, я ўпершыню ўбачыў першую кнігу Максіма Танка «На этапах», упершыню пачуў, што аўтар прадмовы да яе, Р. Баравы — гэта ўсё ж той жа Шырма.

Да з'яўлення той кнігі, што была канфіскавана адразу ж пасля надрукавання і з усяго тыража ўратаваць ўдалося — нібы спецыяльна для гісторыі — вельмі нязначную колькасць экземпляраў, вершы Танка былі мне вядомыя па газетах і часопісах. Мала сказаць — вядомыя: яны глыбока хвалявалі сваёй дзёрзкасцю («Прыйдзем яшчэ, вёска, твае песняры, не з торбаю песень жабрачых...»), сваёй жыццёвай праўдзівасцю, дзе самае наша звычайнае, штодзённае, будзённае было так свежа, так незвычайна, так даўночакана ператворана ў паэзію («Пахне дзёгцем, потам, рыжаю аўчынай, цішыня у хаце згорбленай, старой...»), у паэзію, што і пяшчотнай была, сама прасілася на музыку ў тваёй уражанай душы («Дзень залаты, ясным сонцам заліты, лётаў матыль сінякрылы над жытам...»), у паэзію, якой часамі не хапала слоў і яна — так многа — гаварыла намёкамі, вонкавай «недарэчнасцю», як сказаў бы неадпаведны сваёй пасадзе рэдактар, а тыя «намёкі» («Капае з неба зялёная радасць, з месяца ціха на сонныя грады...») так растрывожылі прагную да хараства маладосць. Старонкі народнафронтаўскай газеты «Наша воля» часта бывалі загадкава «ўпрыгожаныя» белымі плямамі на месцы матэрыялаў, канфіскаваных цэнзурай, іх, без двукосся, упрыгожвалі і вершы Танка, і з тых далёкіх дзён юнацтва старонкі тыя бялеюць і шамацяць, і зві-

няць у руках маіх чамусьці не за сталом, а ў сонцы летняй раніцы, на поплаве паміж разнаколернай даспяваючай збажыны, дзе я прыпасваю ў нейкае свята кабылу. Адтуль я чую і цяпер шчасліваe пафыркванне цёплай храпы ў буйнай, церпкай расе, чую нябачных над намі жаваранкаў, чую таксама і «горний полет» — не анёлаў, а роднага слова, якое радасна знайшло свой выхад праз яшчэ адну, так па-новаму зачараваную, так патрэбна няўрымслівую душу.

Пройдзе многа гадоў пасля той сустрэчы з першай Танкавай кнігай, і адзін з блізкіх яму людзей раскажа мне, што ў тыя дні, калі над гонямі пакутніцы Заходняй Беларусі ўпершыню зазвінела Максімава песня, было, як хлеб надзённы, і такое. Паліцыя зноў прыйшла па яго, гэтым разам у родную хату на самотным лясным хутары. Юнака павялі, рукі яго, што добра ведалі і пяро ды кнігу, і сякеру ды цэп, скавалі культурна лёгкімі кайданамі. А маці, што мыла ў той дзень бялізну і ў новай роспачы сваёй не паспела распараных рук ні выцерці, ні прыкрыць рукавамі,— маці ішла за сынам па снезе свайго двара, свайго загумення і безнадзейна прасіла: «Паночкі, толькі ж не біце яго!..» Гэта ёй прыгадалася значна пазней, калі начамі нічым не суняць было болю ў спрацаваных руках, пра той зімовы хмарны дзень яна расказала роднаму чалавеку, ён — мне, і вось ніяк не аддзяліць цяпер пазнейшага ад ранейшага, усё пераплялося ў памяці, сыходзіцца ў адно... Я зноў — у памяці — гартаю тую крамольную кнігу, больш, чым праз сорак гадоў, як у зорцы далёкай, бачу так многа сабранага ў жывое, светлае, непераможнае адно.

Што ж, паглыбляючыся ў сваё мінулае, шукаючы там чагосьці патрэбнага на гэты раз, зноў пераконваешся, што памяці зусім чыстай, свабоднай ад пазнейшых напластаванняў — няма. Яе, як быццам, трэба вызваляць ад неканкрэтнага... Іменна — толькі «як быццам», бо гэта вельмі няпроста, а то і зусім немагчыма.

Вось я пішу пра Шырму, а зачапіўся за Танка, за Патаповіча, за сваю маладосць... І гэта ж не ўсё яшчэ,— памяць вяртае мне воблікі сяброў, якіх даўно няма, бачу жывыя вочы, чую вясёлыя галасы Міхася Васілька, Валянціна Таўлая, паэтаў, рэвалюцыйная маладосць якіх была сагрэта дружбай з Рыгорам Ра-

манавічам; яны мне нямала расказвалі пра яго бацькоўскую чуласць,— адзін за дратамі фашысцкага лагера, другі ў зруйнаваным Мінску. Успамінаю тыя іх расказы, а побач з Міхасём і Валянцінам стаіць багаты сведка, захоплены, шчыры, актыўны ўдзельнік многіх падзей заходнебеларускага ліхалецця — Якуб Міско. Вось толькі працягну руку да тэлефоннай трубкі і, у адказ на яшчэ адно маё пытанне, пачнецца працяг нашай жывой гісторыі, старонкі віленскія, мінскія, даўнейшае і свежае, нібы толькі ўчарашняе...

Ды я цяпер хачу ў найранейшае — у тыя дні, калі дзядзьку Рыгора не ведаў яшчэ ніхто з вышэйназваных таварышаў і ён іх нікога не ведаў, калі ён сам быў малады, шукаў, знаходзіў і ўжо тады таксама, як да апошніх дзён, аддаў усю сваю шчырасць служэнню дабру.

Жыве ў Варонежы рускі пісьменнік, які прыйшоў да шырокага чытача са старонак «Нового мира» блізу трыццаць год таму назад; цяпер яму семдзесят пяць, ён не спраўляецца з адказамі на пісьмы суайчыннікаў і людзей з многіх краін свету, удзячных яму за сціплую гісторыю дружбы аднаго чалавека з адным сабакам — за невялікую памерам кнігу, што, як ціхая, чыстая студня крынічнай вадой, глыбока напоўнена так патрэбнай цяпер чалавечнасцю. Гэта — аповесць «Белы Бім Чорнае вуха», аўтар якое, былы аграном Гаўрыіл Мікалаевіч Траяпольскі, і да «Біма» напісаў нямала добрых кніг, і цяпер мацуецца з новаю кнігай, якая, у марах яго, у законным жаданні бачыцца яму галоўнай.

Рыхтуючыся да гэтага слова пра Рыгора Раманавіча, сардэчная павага да якога пазнаёміла і зблізіла мяне і з Траяпольскім, я думаў: што ж мне працытаваць з выказванняў Гаўрылы Мікалаевіча пра Шырму? Можна было б узяць і з нашых гутарак на рэдкіх, на жаль, сустрэчах, можна і з ягоных пісьмаў да мяне, і з напісанага іншымі пра яго, Траяпольскага. Ды вось днямі ён сам дапамог мне. 30 студзеня «Литературная газета» надрукавала справаздачу з выступлення Гаўрылы Мікалаевіча перад чытачамі ў маскоўскай бібліятэцы імя Леніна, дзе на пытанне, якая кніга зрабіла на яго ў юнацтве найбольшае ўражанне, пісьменнік адказаў:

«Мая чытацкая адукацыя праходзіла абсалютна бязладна. Так што кнігу назваць я не магу. Затое назаву імя чалавека, які ў пару майго юнацтва зрабіў на мяне незабыўнае ўражанне. Гэта Рыгор Раманавіч Шырма, мой першы настаўнік літаратуры. Памёр ён два гады таму назад, народны артыст СССР, мастацкі кіраўнік Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы Беларускай ССР. Вось гэты чалавек у той далёкі час быў для мяне даражэйшы за ўсякую кнігу».

«Той далёкі час» — першыя паслякастрычніцкія гады, калі сын бежанскай сям'і з Пружаншчыны, пачынаючы настаўнік Шырма працаваў у Варонежскай губерні, у Навагольскай школе другой ступені. Адзін з даследчыкаў творчасці Траяпольскага [1] так піша пра таго настаўніка: «Шырока адукаваны, музычна адораны, энергічны і малады, ён прыйшоўся да душы шумнай дзіцячай аўдыторыі рэвалюцыйных гадоў». Гэта, вядома ж, са слоў самога Гаўрылы Мікалаевіча, які ў той самай кніжцы гаворыць: «Я наўрад ці стаў бы пісьменнікам, калі б не сустрэў у жыцці Рыгора Раманавіча».

Дзіўная гэта справа — перапляценне чалавечых сувязей, шляхі чалавечай дружбы!.. Найлепшая кніга Траяпольскага, славуты Бім, прысвечана памяці Аляксандра Твардоўскага, творчы і грамадзянскі аўтарытэт якога з кожным годам расце, згодна з крылатым акрэсленнем: «вялікае бачыцца з адлегласці». Пра трагічную і таксама заўчасную смерць другога свайго, агульнага з Твардоўскім, друга — нястомнага ў зоркай сумленнасці Валянціна Авечкіна, Гаўрыла Мікалаевіч пісаў мне ў лютым 1968 года:

«Прайшло ўжо каля двух тыдняў пасля гэтага, а я ўсё ніяк не магу працаваць. Не абвінавачвайце мяне за тое, што я пішу свой смутак. «Каму павем?» Пакуль што я не магу саўладаць з самім сабою, са сваёю слабасцю духа і абсалютным бязволлем». І ў смутку гэтым ён чула аберагаў свае сыноўнія пачуцці да нашай любові: «Рыгору Раманавічу не буду пра гэта пісаць. Не трэба яго трывожыць». А ў канцы пісьма, ужо зусім «адкрытым тэкстам»: «Пазваніце паклон да зям-

[1] В. П. Скобелев. Гавриил Троепольский. Издательство «Советская Россия», Москва, 1969.

лі Рыгору Раманавічу. Я ўсё таксама люблю яго, як і сорак сем гадоў таму назад».

Пасля бурнай і радаснай рэвалюцыйнай рэчаіснасці прыйшла рэчаіснасць іншая,— і Шырма, як і многія, вярнуўся з бежанства на родную Пружаншчыну, з якое неўзабаве перакачаваў у Вільню, нашу культурную Мекку тых дзён, і ўсюды была ў яго беднасць і праца, упартая праца, што трымалася на цвёрдай веры ў перамогу святла над цемрай і прыгнётам. Нястомны збіральнік народнай песні, час той на схіле дзён успамінаў ён так:

«Мне прыходзілася многа жыць у народзе і з народам, хадзіць ад сяла да сяла. Тыя песні, якія я запісваў, я сам вывучаў на памяць, мне не трэба было ні фанографа, ні магнітафона, мне лёгка было іх захоўваць. І калі пасля такой экспедыцыі я прыходзіў у Вільню, мы збіраліся там — студэнцтва універсітэта,— і я рабіў справаздачу. А жылі мы да таго бедна тады, што ў нас за сталом была толькі шклянка гарбаты. Але гэтыя вечары, гэтыя справаздачы ва ўсіх нас засталіся на ўсё жыццё».

І яшчэ да таго ж, пра людзей, ад якіх ён запісваў песні, у самых розных кутках Заходняй Беларусі:

«Сутыкаючыся з гэтымі талентамі, я заглянуў у бяздонныя крыніцы народнай песнятворчасці, ад якой, як зачараваны, не маю сілы ўжо адарвацца. Я бязмежна шчаслівы, што яны памаглі мне зберагчы найвялікшыя каштоўнасці музычнай культуры нашага народа».

У душы яго музыка была заўсёды неразлучная са словам. Пакуль дажыць да найвялікшай сваёй радасці — да з'яўлення Максіма Танка, ён прывітаў сваім сяброўскім клопатам бунтарна-вясёлую, пяшчотна-журботную паэзію Міхася Васілька,— як выдавец яго першага зборніка «Шум баравы»,— часта і востра выступаў у друку як публіцыст, пад рознымі псеўданімамі ды крыптанімамі, расшыфраванымі толькі ў наш час.

У той незабыўны жнівеньскі дзень 1937 года, калі Патаповіч расшыфраваў мне псеўданім «Р. Баравы», я не падумаў пра блізкасць псеўданіма да назвы Васільковай кнігі, не заўважыў у гэтым нейкай повязі, падтэксту, які мне бачыцца цяпер. Сваёй яснасцю, сва-

ім пафасам прадмова была настолькі сугучная кнізе, што толькі з-за яе той санацыйны шашаль, што цэнзарам скрыпеў у дрэве нашага жыцця, мог кнігу Танка, нават і не чытаючы яе, забараніць. Ды гэта, зноў жа, так я думаю цяпер. Тады я быў проста захоплены гэтай з'явай. Крамольная кніга, у якой было сабрана многае з таго, чым пачынаўся Танк, рассыпаны па старонках прэсы. Праўда, была ўжо выдадзена другая кніга, «Журавінавы цвет» (паметка: «Выданне Р. Шырмы»), аднак, у адрозненне ад гэтай, не канфіскаванай кнігі, «На этапах» прыцягвала яшчэ і як плод забаронены, у ёй было яшчэ і штосьці ад таго, за што мы, тагачасная моладзь, паважалі тых, хто вярнуўся з турмы за народную справу,— і кніга бачылася нам пакутніцай і гераіняй.

Вядома ж, не па памяці, а па кнізе «Песня — душа народа» працытую адно прыгожа здзейсненае прароцтва. Назваўшы талент аўтара «На этапах» «зоркай першай велічыні», што загарэлася «на нашым заходнім небасхіле», Р. Баравы пісаў: «Думаем, што нам яшчэ прыйдзецца быць сведкамі, калі ягоны талент падымецца да вялікага сузор'я Купалы — Коласа».

Сам багата заслужаны перад родным народам, перад усёй Савецкай краінай, Шырма ад сілы сваёй быў і шчодры душой да іншых, да тых, у кім заўважаў і прадбачыў у развіцці народны скарб — талент. Мала гаворана пра той факт, што канфіскацыя «На этапах» была ўдарам двайным — па Танку і па Шырму. Выданне зборніка каштавала дзевяцьсот злотых,— па тагачасных цэнах шэсцьсот пудоў жыта, калі ў вясновую галодніцу, дык хлеба вёсак на дзве-тры, каб хоць якнебудзь дацягнуць да новага,— а ў суме гэтай семсот злотых належала аўтару прадмовы. «Васіль Андрэевіч Труцько, былы настаўнік, інвалід першай сусветнай вайны, ахвяраваў мне семсот злотых на выданне сабраных мною песень. У мяне з'явілася думка павярнуць гэтую ахвяру на выданне паэзіі Танка». Так вось проста ды сціпла прызнаўся ў гэтым Рыгор Раманавіч толькі ў глыбокай старасці, у сваёй апошняй кнізе, так сапраўдныя таленты могуць, умеюць радавацца з'яўленню другіх талентаў. Боль быў іх агульным болем; пасля канфіскацыі кнігі, як успамінае колішні Р. Баравы: «Мы доўга хадзілі, як пахаваўшы дараго-

га чалавека. З нас многа смяяліся, нас многа «крытыкавалі»...» Аднак жа прароцтва пра зорку збылося,— старэйшаму сябру на працягу многіх наступных гадоў нямала радасці прыносіла творчасць сябра малодшага.

Нехта, магчыма, сказаў бы, што заўважыць такую з'яву, як паэзія Танка, радавацца такому поспеху — справа вельмі няцяжкая. Тут можна было б адказаць, што і радасць бывае розная — па глыбіні, па праву на яе. Уменне бачыць шырэй і глыбей, значна больш прадчуваць і народныя страты перажываць, як свае кроўныя.

Кніга «Песня — душа народа» канчаецца двума артыкуламі: «Сяргей Крывец» і «Максім Танк». Гэта бачыцца мне сімвалічным.

Сяргей Крывец — заходнебеларускі юнак, спачатку вандроўны цясляр на Мастоўшчыне, пасля беластоцкі рабочы, паэт-самавук, які ўвайшоў у гісторыю нашай літаратуры кніжкай «Дубок». На адвароце тытульнай старонкі гэтай кнігі значыцца: «Укладальнік Рыгор Шырма. Пад рэдакцыяй Максіма Танка». Крывец загінуў на фронце, у самым канцы вайны. Усё, што ацалела з яго літаратурнай спадчыны і трапіла ў рукі Рыгора Раманавіча, доўга, настойліва не давала старому спакою. Пакуль не з'явілася ў 1972 годзе ў выглядзе сціплага зборнічка з Шырмавай прадмовай, у падзагалоўку якое словы: «Замест вянка на далёкую магілу ў ратным полі». А ў тэксце прадмовы — зноў жа змястоўная прастата:

«Бывала, цэлымі начамі мы хадзілі па ўскраінах Беластока і ў бяседах пра Горкага і Чэхава, пра Пушкіна і Міцкевіча, пра Купалу і Коласа, пра савецкую і заходнееўрапейскую літаратуры не заўважалі, калі «ўсход разгараўся пурпурнай палоскай». Гэты рабочы з асветай за два класы пачатковай школы меў багатую літаратурную эрудыцыю. Гэты незвычайны цесля ў дасканаласці вывучае рускую і польскую мовы. А калі пачаў вывучаць нямецкую, то на пытанне брата, нашто яму здалася гэтая мова, ён адказаў: «хачу ў арыгінале прачытаць Гётэ і Шылера». Але ён не толькі чытаў, у яго рукапісах захаваліся вершы, напісаныя на рускай, польскай і нямецкай мовах».

Шырмава захапленне, усё жыццё маладое па шчы-

расці, заўсёды было і цвярозым па-сталаму. «Сабраная пасля яго смерці спадчына,— піша ён пра Крыўца,— дае *пэўнае паняцце* аб тым, які гэта быў цудоўны, востры і моцны талент». Словы «пэўнае паняцце» мне захацелася падкрэсліць, бо ў іх праглядвае яго разуменне *часовай* недасканаласці вершаў зборніка,— «часовай» у тым сэнсе, што самародку гэтаму горкі лёс не даў часу развіцца.

Сумна ўспамінаецца славутае: «Колькі талентаў звялося!..» Ужо не гаворачы пра ўсю нашу гісторыю, а пра адно заходнебеларускае дваццацігоддзе. З пашанай думаецца пра таго, хто ў сваіх нястомных вандроўках пільна шукаў і радаваўся, знайшоўшы. Калі гаварыць толькі пра паэтаў, дык цясляр Крывец быў у яго, вядома ж, не адзін. У 1933 годзе, друкуючы ў часопісе Таварыства беларускай школы «Летапіс ТБШ» вершы рабочага-тэкстыльшчыка Васіля Юраўца, Рыгор Раманавіч, засакрэчаны ініцыялам «Г. Ш.», пісаў:

«Мы вітаем першае літаратурнае выступленне маладога паэта з добрымі задаткамі здаровага гумару, бадзёрасці і адвагі, якія так патрэбны нашаму народу. Пад той час, калі амаль усе нашы пачынаючыя паэты бываюць ахоплены сімвалічнай цягай ад зямлі ў бязмежныя прасторы, да сонца, Юравец, наадварот, не хоча адарвацца ад зямлі і фабрыкі, ён хоча прыблізіць сонца да зямлі, каб асвяціць ім сялянскую ніву і работніцкі пасёлак».

У гэтым невялікім рэкамендацыйным артыкуле было не адно, можа, залішне шчодрае спадзяванне, былі і крытычныя заўвагі да слабых яшчэ вершаў маладога таварыша, падыктаваныя не толькі большым веданнем справы, але і сардэчнай прыязнасцю, так уласцівай Шырму ў яго адносінах да сумленных работнікаў культуры. Ужо нядаўна, чытаючы яго словы і пра старэйшых (М. Чуркін, А. Туранкоў), і пра маладзейшых (Г. Цітовіч, І. Жыновіч) таварышаў па прызванню, я жыва адчуваў яго пашану да іх шчырага служэння — высакароднасць гэтай пашаны. І многа сэрца, як кажуць палякі,— спагаду, зацікаўленасць, гатоўнасць памагчы. Так было ў гэтага Чалавека заўсёды, і да вялікіх, і да найменшых.

Скажам, як сімвалічна пераклікаецца, як многа гаворыць у падтэксце тое: «бывала, цэлымі начамі мы

хадзілі» — з Сяргеем Крыўцом, а з Максімам Танкам — «мы доўга хадзілі, як пахаваўшы роднага чалавека». Пра Танка думаецца гэта з сённяшняй гордасцю за ягоны росквіт, а пра Крыўца — з балючым адсумам. Той сум і боль па нязздзейсненым таленце, адным и многіх, Рыгор Раманавіч насіў у душы па-бацькоўску. Мы гэта ведалі задоўга да з'яўлення кніжыцы «Дубок»...

* * *

Яго ўжо больш за цэлы год не было, калі я аднойчы ў вёсцы трапіў пад дождж, прамок і змёрз, а ў хаце, адагрэўшыся, раптам, ужо пры сонцы за акном, не тое што нечакана ўспомніў, а ў адзіноце нібы знутры асвяціўся магутнай песняй «Варяг»,— тым момантам у ёй, калі над сцішнавата глыбокай нізінай басоў урачыста ўзлятае тэнар, недасягальны ў сваім захапленні той вышынёй. І захацелася сказаць: «Быў, быў у нас такі цуд — Рыгор Раманавіч!..»

Штосьці падобнае паўтарылася яшчэ праз паўгода, дома, ужо зусім празаічна. Зайшоўшы на кухню перакусіць, я проста так сабе ўключыў прыёмнік і — апынуўся ў песні «Люблю наш край», у яе, з маленства любімым, шчырым і маляўнічым поўнагалоссі: «За-ло-ча-ны-я збожжам нівы...», «Ма-лан-ка зіхаціць агнём...»

І цяпер, калі я пішу гэта, а за акном «мороз и солнце, день чудесный»... Не, я пакуль што не пішу, а слухаю, я ўвесь у свеце Шырмавай песні. Кволы дыск чорна кружыцца,— песня за песняй: наша «Зорка Венера», украінская «Чом шуміли смереки», татарская «Вячэрняю зарой», руская «Глухой, неведомой тайгою»...

Які агромністы свет музыкі насіў ён у душы!..

Успамінаюцца словы,— не літары, не радкі ў яго кнізе, а іменна жывыя словы, з усёй пацешнай прывабнасцю яго, ніякай адукацыяй ды бываласцю не знятага, паляшуцкага акцэнта: «Мне не трэбо було ні фонографа, ні магнітофона...» Гэта тады, даўно, калі ён хадзіў па дарогах і сцежках Заходняй, ад вёскі да вёскі, бедна апрануты гараджанін, з ядой, з прытулкам на ласцы добрых людзей, якой яму плацілі за святло

роднага слова. Яна блукала ў той час, у маім маладлецтве, чароўная легенда Шырмы, поблізу і ад майго цэнтра свету: бывала ў песенных Ярэмічах над Нёманам, у старажытным замкавым Міры, у прапахлым торфам Кожаве — шэсць, дзевяць, дванаццаць кіламетраў ад нашага Загора, для малога — вельмі няблізка.

«Новую зямлю» я пачаў пазнаваць ад самага яе пачатку, ад «Лесніковай пасады» і «Раніцы ў нядзельку»,— гэта мы вывучалі са школьнай чытанкі на памяць. Яна жыве яшчэ, драўляная стагадовая школа ў мястэчку Турэц; прытаілася каля крутога ўзгорка з высокімі дрэвамі і красуняй-царквой, пратрывала і столькі часу, і ваенны агонь. Летась я пастаяў каля яе, згадаўшы, што многія, з кім я вучыўся, даўно і па-рознаму пайшлі з жыцця, а многіх, з кім я сябрую цяпер, яшчэ на свеце не было тады, калі я ў гэтай школцы, што не здавалася нам такой сціплай, зімою 1927 года ўпершыню сутыкнуўся з другой Коласавай паэмай, ужо не з пачаткам яе, а з сярэдзінай. Як гэта, бог мой, было нечакана і хораша! З Ярэміч да нас, на некалькіх санях, прыехаў нейкі хор,— «нейкі» таму, што ў ім былі і вучні старэйшых класаў, і настаўнікі, прыезджыя палякі, і мясцовыя беларусы, і ярэміцкая моладзь. Песні былі, па таму часу, пераважна польскія, а вось адна з іх, наша — «О, край родны, край прыгожы», пачатак трэцяй часткі «Сымона-музыкі»,— нібы нейкі выбух роднай красы, хвалюе мяне як адзін з найбольш яркіх успамінаў маленства...

Я люблю чытаць добра складзены каментарый да твораў таго ці іншага найдаражэйшага пісьменніка: гэта вельмі нядрэнны спосаб вывучэння гісторыі літаратуры. З прыемнасцю чытаў я і гісторыю Шырмавых вандровак, з якіх нарадзіўся чатырохтомнік «Беларускіх народных песень»,— заўвагі да гэтага выдання, дзе, калі, ад каго што запісана. Нямала запісаў з нашых Ярэмічаў, ад некалькіх чалавек, і гэта, як кажуць даследчыкі, дае падставы меркаваць, што песня «О, край родны, край прыгожы» спявалася там не без яго натхняючага ды кіруючага ўдзелу.

Якая цудоўная геаграфія, якія вобразы людзей бачацца ў скупых радках каментарыя!.. «Песня з-пад Галубіцкай пушчы на Дзісненшчыне». «Запісана ад

Чартавічанкі на хутары Мель на Вілейшчыне». «Ад бацькі яе, дзеда Чартовіча, 80 гадоў». «Ад Ядвісі Вашкевіч, 16 гадоў, у в. Капцёўка на Гродзеншчыне». «Ад Івана Ярошкі, 17 гадоў, у в. Вялікае Сяло, Пружанскага павета». «Ад Алёны Канецкай, 70 гадоў, у в. Рудаўляны, Галынскай воласці»... Якія старонкі гісторыі закранаюцца ў гэтых кароткіх заўвагах! Як беларускія плытнікі заносілі нашы рэкруцкія песні па Дняпры на Украіну; як удзельнік паўстання Кастуся Каліноўскага на Смаргоншчыне Супрон Процька прынёс пад Смалявічы, дзе ён батрачыў да старасці, паўстанцкую песню «Ой, закурэла, ой, ды задымела ды сырымі дрывамі»... Якія гістарычныя імёны прахо-дзяць у нашай памяці над скупымі старонкамі каментарыя, хто не спяваў яму, Рыгору Раманавічу, сваіх любімых песень! Герой «стотысячнай Грамады», змагар і асветнік, аўтар першай беларускай граматыкі Браніслаў Тарашкевіч. Адзін з незабыўных прадстаўнікоў слаўнай першай плеяды «купалаўцаў», народны артыст СССР Павел Малчанаў. Мастак Язэп Драздовіч, які свае таленавітыя малюнкі «выходжваў» па Заходняй Беларусі, як Шырма песні. Шматгадовы вязень санацыйных турмаў, паэт Піліп Пестрак... Пасля імён — і красамоўна безымяннае: «Запісана ў 1929 годзе ад незнаёмага ў Вільні, на Вастрабрамскай вуліцы. Песня з-пад Бабруйска», «Запісана ад дзяўчат у в. Вялікія Грынкі, Ваўкавыскага павета». «Запісана на Навагрудчыне ў 1935 годзе. Народная мелодыя на словы М. Багдановіча. Песня бытуе на ўсёй Беларусі»...

Гэта — пра «Зорку Венеру», якая сёння,— апрацаваная кампазітарам А. Багатыровым, узнятая капэлай Шырмы,— бытуе ва ўсёй Савецкай краіне і за межамі яе.

Пасля незабыўнага Верасня Рыгору Шырму спатрэбілася вельмі няшмат часу, каб выступіць з ансамблем песні і танца, арганізаваным у студзені 1940 года,— у маі ансамбль ужо выехаў на гастролі ў Маскву. Было з чым і было з кім,— кіраўнік маладога калектыву, яго душа, доўга і грунтоўна рыхтаваўся да выхаду ў вялікі свет, ведаў, адкуль запрасіць да сябе галасістую моладзь. Потым — вайна, семдзесят тысяч кіламетраў на калёсах, больш за тысячу канцэртаў, больш за мільён слухачоў, пераважна франтавікоў.

У рэпертуары ансамбля беларускія, рускія, украінскія, польскія, літоўскія, яўрэйскія песні. Пасля Перамогі рэпертуар раскошна пашырыўся. «У кожную паездку,— пісаў Рыгор Раманавіч у 1969 годзе,— мы бяром з сабой творы народаў брацкіх рэспублік, якія выконваем часта ў арыгінале». Пасля колішняга, ужо даўно гістарычнага, легендарнага хаджэння ў народзе, прыйшлі гастрольныя паездкі па ўсіх бяскрайніх прасторах Савецкай зямлі, у краіны замежныя,— шырокі свет удзячна адкрыўся для беларускай песні. З крынічак-ручаёў, якія ён знаходзіў, пачынаючы з 1927 года (першая дата ў каментарыі чатырохтомніка) да 1972 года (узрост усё-такі не для паездак-пошукаў), нарадзіўся спачатку ансамбль, з ансамбля — акадэмічная харавая капэла. Расла яе слава, прыйшло багатае прызнанне і да Шырмы. А ён застаўся самім сабою: глыбока зацікаўленым, на дзіва нястомным. Свой — дзе сапраўдная музыка, дзе сапраўднае слова.

Вось як пісаў ён у розны пасляваенны час, у розных сваіх выступленнях:

«Чароўнымі, сардэчнымі песнямі спавіта наша звонкагалосая беларуская зямля.

...З дзіцячых гадоў назаўсёды звязаў я сваё жыццё з роднай песняй, і мой жыццёвы вопыт умацаваў мяне ў глыбокім перакананні, што толькі на ніве народнай вырастае цудоўны плён, імя катораму народная музыка, народнае мастацтва і культура.

...Высокія думкі, глыбокія пачуцці — вось тыя крылы, якія нясуць песню ад сэрца да сэрца. Калі песня дрэнная, перш за ўсё трэба лаяць паэта. Зусім ясна, што... крылы махаюць дарэмна, калі ім няма чаго несці.

...Я глыбока перакананы, што чалавек, які ўсёй душой імкнецца да песні, глыбока разумее непаўторную прыгажосць народнай песні, ніколі не пакрыўдзіць таварыша.

...Сакрэт песні ў тым, што яна прымушае нас супольна адчуваць. Сакрэт мастацтва харавога спеву, паводле слоў К. Ушынскага, у тым, што хор яднае многа сэрцаў у адно вялікае чалавечае сэрца...»

Чорны дыск — і кволы, і магутны — паволі кружыцца, нясе мне песні — адну за адной. І праз гэтае свята вялікага чалавечага сэрца бачу я тое, не бача-

нае мной калісьці,— як ён хадзіў па сцяжынах роднай зямлі, зачараваны яе спрадвечным спевам, бачу і тое, што бачыў і чуў у свой час і сам. Я і з тымі, сярод якіх, на жаль, не быў,— у тым захопленым натоўпе нашай, польскай, літоўскай і яўрэйскай студэнцкай і рабочай моладзі, якая ў сакавіку 1936 года, на «Вечары беларускай паэзіі і песні» ў Віленскім універсітэце, з небывалым энтузіязмам вітала маладога Танка і яго старэйшага друга — Шырму. Я і з тымі, што столькі разоў, у стольніх залах Мінска, Кіева, Масквы, Варшавы, стоячы, апладзіравалі Шырмавай капэле. Бачу і чую ўсё тое, і весела мне, што ў гэтым агульным ёсць у мяне таксама і штосьці сваё. Тое простае ды «нязначнае», што ўпрыгожвае, ажыўляе сабою вобраз любімага чалавека.

У 1954 годзе Рыгору Раманавічу было ўжо за пэсцьдзесят. Слухачы вячэрняга універсітэта марксізма-ленінізма, мы здавалі экзамен па палітэканоміі. Няхай сабе, скажам, справа сур'ёзная, аднак жа і рукам, Шырмавым песенным рукам, трэсціся зусім не абавязкова. А яны, я бачыў зблізку, трэсліся, калі ён выцягваў свой білет. Потым сказаў: «А ўсё-такі, дарожанькі, я яшчэ молад — хвалююся!..»

Праз добры дзесятак гадоў, калі яму было за семдзесят, на адным гасцявым канцэрце, дзе і Шырма сядзеў у зале слухачом, на сцэну выйшла маладзенькая красуня-салістка. Употай, а то і прыкметна бліжэйшым суседзям, я любаваўся ёю, а потым, нібы з асцярогай, зірнуў на суседа злева. Рыгор Раманавіч з усмешкай падміргнуў мне серабром брыва і вуса і, нахіліўшыся, шапнуў па-польску: «Варта гжэху»...

Калі ён жыў яшчэ з хорам у Гродне, мы з Уладзімірам Калеснікам наведалі яго асеннім вечарам 1951 года, пагрэліся ў гэтай мілай сям'і. Там, за гасцінным сталом, мы ўпершыню ўбачылі — і неналітую, і ў дзеянні — яго паходную сярэбраную чарачку. І так маленькая, тоненькая, а яшчэ ж і хітра мелкая, як для трох кропель расы. Чалавек, якому ўласціва было высокае адчуванне меры не толькі ў мастацтве, Рыгор Раманавіч карыстаўся гэтай чарачкай на многіх абавязковых банкетах, выняўшы сваю мініяцюрную змоўшчыцу з нагруднай кішэнькі канцэртнага фрака.

Нямала выдатных дырыжораў бачыў і я на пра-

слаўленых сцэнах, аднак ніводзін з іх не здаваўся мне такім прыгожым ды салідным, як наш. На ўрачыстым фоне капэлы, калі ён кланяўся зале са сціпласцю і годнасцю належна выкананага абавязку. І так мне часамі бывала ўпотай пацешна бачыць тое, чаго не бачыць ніхто,— сярэбраную чарачку ў кішэньцы любага і суровага «дзеда», як называлі яго ў капэле.

...Дыск ціха кружыцца, яшчэ адна песня гучыць у сваёй чароўнай несмяротнасці. І ўспамінаецца востра адчутае ў адзін з маіх будняў:

«Быў, быў у нас такі цуд — Рыгор Раманавіч!..»

Быў і застаўся.

*1980*

# А ДУМАЎ Я...

Пад крылом самалёта спачатку былі адны белыя воблакі, неабсяжнасць, залітая сонцам. Цяпер гэта не хвалявала так, як у першых палётах, гадоў трыццаць назад, а ўсё ж незвычайна было, нават радасна,— і ад надхмарнай красы, і ад успаміну пра першыя такія хваляванні, і ад думкі, куды я лячу. Пасля мы зверху ўвайшлі ў тую бель, што ўкрывала зямлю, дрыготка прабілі вільготную мутнасць, зноў пайшлі роўна, ужо над зялёна-шэрай зямлёй, спакваля ўсё бліжэй ды бліжэй да яе.

І тут над лугам, яшчэ нясмела зялёным, сям-там яшчэ пад вадой, паказаўся мой першы сёлета бусел. Над лёгкай зелянінай і люстранасцю паводкавай вады, аднак пад намі, ён шыбаваў-планіраваў, таксама, мусіць, заміраючы ў надземным адчуванні волі, у шчасці яшчэ адной роднай вясны.

У мностве маіх вёснаў, пераважна вясковых, дагэтуль першы бусел з'яўляўся то ў палёце, то бродзячы па лузе, то стоячы ў гняздзе, а такога, каб зверху ўбачыць яго,— яшчэ не бывала.

І першым з маіх найбліжэйшых, каму захацелася молада крыкнуць пра гэтую радасць, быў той, каго ўжо тры гады няма, на чыю радзіму я нарэшце выбраўся...

Праз некалькі дзён, ужо за сваім рабочым сталом, я пазнаёміўся з тэкстам колішняга выступлення паэта Дзмітрыя Кавалёва па раённым радыё перад землякамі, нечай рукой запісанае Дзімава прызнанне роднаму кутку:

«Кожны раз, падыходзячы да Веткі Сожам, на ракеце, я вельмі хвалююся. Асабліва хвалююся там, дзе

наш прычал, таму што якраз насупраць яго стаяў дом майго дзядулі, Міхаіла Кузьміча, дом, у якім я нарадзіўся, дзе ўбачыў белы свет».

І яшчэ раз пра тое, што ўсе мы лепш адчуваем, чым можам, умеем выказаць:

«Радзіма бывае ў тым сэнсе, дзе нарадзіўся, той куток, і Радзіма вялізная. Яны вельмі злітныя, адзіныя. І тым не менш у кожнага чалавека ёсць тое месца, куды яго заўсёды цягне, без якога ён не можа ўявіць сябе на зямлі, пакуль ён жывы. Калі ж ён сапраўды чалавек, дык і пасля смерці пакіне па сабе добрую памяць. Гэта значыць, што ён любіў Радзіму».

Гомельскі аэрапорт даволі далёка за горадам, і я быў рад такому адкрыццю, бо хацелася адразу ў Ветку. Спачатку, праўда, пайшла дарога, абапал якое — роўнядзь палёў, развяснелых пад новы хлеб, доўгачаканае сёлета сонца і жаўранкі, звон якіх то згадваўся, а то і даходзіў праз роўны, лёгкі гул аўтамашыны. Потым быў велічна спакойны, яшчэ праз меру паўнаводны Сож,— не з акна той ракеты, а з высокага доўгага моста. Тая краса, па якой ён, мой незабыўны, тужыў і ў Маскве, дзе жыў апошнія дваццаць гадоў, і ў зруйнаваным ды адноўленым пасляваенным Мінску, і ў Запаляр'і, дзе ваяваў, і ўсюды, куды яго, ахвочага вандроўніка, заносілі то цягнікі, то самалёты.

У згаданым вышэй выступленні па веткаўскім радыё Дзіма сам сабе напрарочыў,— у родным кутку, які ён шчыра любіў, па ім жыве добрая памяць.

У Ветцы я дагэтуль ніколі не быў, ведаў тут толькі аднаго чалавека, дый то па пісьмах; мой спадарожнік, Віктар Карамазаў, ведаў яшчэ аднаго, нават апісваў яго ў адной са сваіх кніг. Мы пачалі з майго завочнага знаёмага. Нядаўні настаўнік, інтэлігентны і энергічны партыйны работнік Іван Рыгоравіч Анікеіч павёў нас да таго, з кім знаёмы Віктар, з кім сябраваў Дзіма,— да народнага ўмельца, мастака і збіральніка даўніны Фёдара Шклярава.

Фёдар Рыгоравіч жыве на вуліцы Дзмітрыя Кавалёва, названай так нядаўна; ён, таксама нядаўна, прызначаны дырэктарам нарэшце арганізаванага тут музея народнай творчасці. У музеі будзе і гістарычна-краязнаўчы аддзел, а ў ім экспазіцыя, прысвечаная

жыццю і творчасці чалавека, якога ўсе мы, сабраўшыся дзеля яго, успамінаем як шчырага сябра.

Прасторная, роўная і шырокая вуліца Кавалёва раней называлася Сялянскай; як і большасць вуліц у раённых гарадках, няхай сабе і са слаўным гістарычным мінулым, яна сваімі домікамі, брамамі і садамі за светла пафарбаваным штыкетнікам нагадвае заможную, культурную вёску. Незвычайнае тут — разьба, якой, па спрадвечнай традыцыі, упрыгожаны франтоны дамоў, ліштвы вокан, карнізы, ганачкі, брамы. А ўжо ў тым незвычайным — самае незвычайнае, нават для Веткі,— дом Фёдара Шклярава, які называюць шкатулкай. Калі франтон і брама побач з ім здзіўляюць майстэрствам разьбы, дык і дом усярэдзіне, і прыбудоўку да яго можна назваць сапраўдным музеем. У ім — наўздзіў багатая калекцыя старадаўніх кніг, першадрукаў і рукапісных фаліянтаў, старых іконаў асаблівай веткаўскай школы, рознагалосых, рознакаліберных званоў, дзівосных лампадак, плеценых шкатулачак, самавараў, прасніц, каўшоў... Усё гэта сабрана энтузіястам роднай даўніны за многія гады яго не проста настойлівых ды нястомных, але ж натхнёных і талковых пошукаў. Вялікая светлая прыбудоўка — яшчэ і майстэрня, дзе гаспадар займаецца разьбой, чаканкай, жывапісам. Апошнім часам Фёдар Рыгоравіч пачаў і пісаць, проста апісваць свае найцікавейшыя сустрэчы, звязаныя з пошукамі даўніны. Паказаўшы нам сёе-тое са сваіх шматлікіх скарбаў, ён трохі і пачытаў.

Дагэтуль я ведаў толькі ўспаміны Шклярава пра Дзіму — гэтую выразку з раённай газеты Анікеіч прыслаў мне яшчэ тады, калі тут адзначалі... не першыя ўгодкі смерці паэта-земляка, а шэсцьдзесят трэці дзень яго нараджэння. З той выразкі мне помніліся словы, калісьці звычайныя, а сёння з глыбейшым сэнсам:

«Фёдар, нам з табой нагаварыцца трэба, ой як трэба!..»

Шкляраў зноў згадаў мне тыя Дзімавы словы, тую сустрэчу ў верасні семдзесят шостага, якая праз паўгода аказалася апошняй. Тады яны ездзілі ў грыбы, і грыбоў было шмат, але госцю, хоць і заядламу грыбніку, гэтага аднаго — не хапала. У нас жа заўсёды бывае

многа такіх ці іншых «грыбоў», неадкладна надзённых і важных, а гутарку — тую, што вельмі патрэбная,— мы лішне часта адкладаем надалей, як быццам жыць нам, па меншай меры, гадоў па трыста. Вось і гэтае, яшчэ адно сяброўскае жаданне нагаварыцца пра запаветнае, не здзейснілася. Калі прыйшла тэлеграма пра Дзімаву смерць, Шкляраў — каля сцяны, укрытай старадаўнімі іконамі,— запаліў усе свае, розныя па веку і адмысловасці, лампадкі. Яны гарэлі некалькі дзён, а ён увесь той час маўчаў, і гэта было так незвычайна, што Ізіду Андрэеўну, жонку, узяў неспакой. І цяпер, расказваючы пра тыя дні, вясёлы, дасціпны, падкрэслена праставаты Фёдар Рыгоравіч хораша, сумна пацішэў...

Мы пайшлі пастаяць каля месца спачыну Дзімавай маці. На запусцелых стараверскіх могілках, куды яе, Кацярыну Іванаўну Худаяраву-Кавалёву, па яе апошнім жаданні, прывезлі з Гомеля, дзе яна жыла ў меншага сына, над сціплым жалезным крыжам магутна ўзвышаецца старая, яшчэ не зялёная ліпа, змрочна накрытая апусцелай буслянкай. Гаспадары яе чамусьці не вярнуліся.

Тут мне, па свежай памяці, зноў забялелі над сонечнай зелянінай лугавой вады шчасліва распасцёртыя ў палёце крылы спрадвеку святой у народзе і такой ужо ў нашы хімічныя дні нешматлікай птушкі. І прыйшоў найранейшы, звязаны з Дзімам успамін.

Мы пазнаёміліся ўвосень сорак пятага года. Руіны Мінска і сёння бачацца мне ўсё яшчэ не астылымі ад выбухаў і пажараў, а Дзіма — маладым, прывычна спраўным марачком. Пазней, амаль праз дваццаць год, ён напісаў мне на зборніку «Рожь»: «...Ёсць нешта светлае, блізкае, сваё ў тым, што я думаю, успамінаючы нас, тагачасных, адразу пасля вайны...» А для мяне тое *светлае, блізкае, сваё* назаўсёды спалучана з вершам, які ён у той наш самы першы дзень па памяці прачытаў у маім незайздросным закутку на ўскраіне зруйнаванай сталіцы. Верш быў напісаны ў Запаляр'і, пасля трох год балючага няведання пра лёс найраднейшай і найраднейшых, пасля першай пабыўкі матроса ў родным, толькі што вызваленым кутку.

А думал я,
Что как увижу мать,
Так упаду к ногам ее.
Но вот,
Где жгла роса,
В ботве стою опять.
Вязанку хвороста межой она несет,
Такая старая, невзрачная на вид.
Меня еще не замечая,
Вслух
Сама с собой о чем-то говорит.
Окликнуть?
Нет.
Так испугаю вдруг.
...Но вот сама заметила.
Уже,
Забыв и ношу бросить на меже,
Не видя ничего перед собой,
Летит ко мне:
— Ах, боже, гость какой!
А я,
Как сердце чуяло,
В лесу
Еще с утра спешила все домой...
— Давай, мамуся, хворост понесу.
И мать заплакала, шепча:
— Сыночек мой.
С охапкой невесомою в руках,
Близ почерневших пятнами бобов,
Расспрашиваю я
О пустяках:
— Есть ли орехи?
Много ли грибов?
А думал —
Там,
В пристрелянных снегах,
Что, если жив останусь и приду,
Слез не стыдясь,
При людях,
На виду,
На улице пред нею упаду.

Цалкам прывёў я гэты верш не толькі з разлікам на тых, хто яго не ведае, але і па той — і інтымнай, і простай — прычыне, што ён мне гаворыць многа. Ці ж толькі мне? Знаёмячыся з рукапіснымі тэкстамі выступленняў на згаданым вышэй святкаванні веткаўцамі гадавіны іх паважанага земляка, я рад быў сустрэцца з яшчэ адным хваляваннем і роздумам, якія выклікалі працытаваныя радкі. Яшчэ адзін і мясцо-

вых Дзімавых сяброў, гомельскі настаўнік Цярэнь Кажамякін, пачаў урачыстае выступленне так:

«Свой паэтычны дар ён хутчэй за ўсё, атрымаў у спадчыну ад маці. Кацярына Іванаўна шмат у чым была цікавай жанчынай. Калі яна расказвала пра штонебудзь, можна было заслухацца. І станавілася паэтам, гаворачы пра лекавыя зёлкі, якія збірала ў нашым навабеліцкім лесе, уздоўж чыгуначнага насыпу. Заўсёды ўражала яе глыбокае веданне пісьменніцкіх і выдавецкіх спраў любімага сына. Дзмітрый Міхайлавіч адказваў ёй узаемнай адданай любоўю».

Назваўшы верш «А думал я...» жамчужынай усёй савецкай паэзіі, Цярэнь Пракопавіч заключае, у адзіноце прадумана і адчута: «Падтэкст тут глыбокі, як неба, адлюстраванае ў калодзежы...»

У драўляным гушчары веткаўскіх домікаў-хат захавалася тая, куды Кацярына Іванаўна — у вершы — несла вязанку галля. Пра гэта казаў Анікеіч. А Дзіма ў сваёй, пакуль што неапублікаванай і, на жаль, па прыкладу многіх, незакончанай мастацкай аўтабіяграфіі піша пра гэта так, што тую хату можна памясціць і ў Ветцы і ў Прудку, роднай вёсцы ягонага бацькі, Міхаіла Цімафеевіча, патомнага каваля. Мы ездзілі туды. Прудка фактычна ўжо няма: вёска прырасла да Гомеля, стала яго ўскраіннай вуліцай. Каля асфальту гэтай шумнай вуліцы-шашы ціха ўрастае ў зямлю ржава-чырвоная ад фарбы хата, якой ужо не стаць тут гарадскім домікам, не дацягнуцца да мітуслівай урбанізацыі.

Што дажывае, а што жыве і будзе жыць.

За два дні гасцявання ў Ветцы я разоў некалькі чуў, як землякі чытаюць з памяці Дзімавы радкі. Сярод іх, зразумела, перш за ўсё тыя, што найбольш тут свае. Скажам, такія, з «Деревенской почты»:

> Весна начинается — вот что...
> Моя деревенская почта.
> Вот-вот и река уже тронется...
> А как вам там ищется, строится?..
> На ветках пернатые селятся...
> А как вам там пашется, сеется?..
> Грачи — не от вас ли разведка,
> Прудок, Покалюбичи, Ветка?..

Або з «Весеннего наваждения»:

На мой восьмой этаж весною в полночь
Приходит Сож под самое окно,
Посвечивает весь в разливе полном,
Летучей быстриной зовет давно...

I гэта, і многае яшчэ, усё ў свой час, я і чытаў, і чуў ад Дзімы. А ўжо зусім як новае я не пачуў, а прачытаў з рукапісных лісткоў: той самы запіс, дзе Сож, і ракета, і родны прычал, насупраць якога даўно не стаіць блакітнавокны дом славутага капітана рачнікоў, дзядулеў дом, у якім нарадзіўся паэт. Празаічнае слова яго, як і вершы, мне хочацца падаць без перакладу.

«...Я приехал сейчас к маме. Она у меня здесь похоронена, уже скоро два года... Теперь я, видимо, чаще, чем при жизни, буду навещать ее, потому что память о ней с годами становится все острее в душе, все светлее и заветнее...»

* * *

За тры дзесяцігоддзі дружбы ў Ветку мы збіраліся неаднойчы. На блізкіх подступах да мэты быў у нас неяк Гомель. Увосень шэсцьдзесят дзевятага, у дні рускай літаратуры на Беларусі. Позна ўвечары мы з Дзімам адкалоліся ад стомленай паездкай у раён брыгады і завіталі ў сям'ю яго наймалодшага брата, рабочага Міхаіла Міхайлавіча, пра якога Дзіма ў нататках «О моей жизни» згадвае так: «Калі я адыходзіў на флот, ён стаяў на падаконніку і рыпаў пальчыкамі па шыбе». Два сярэднія браты, Георгій і Віктар, загінулі на франтах Вялікай Айчыннай, што час ад часу болем адгукаецца ў Дзімавым слове.

Тая адзіная сустрэча з Кацярынай Іванаўнай здавалася мне тады толькі першай, пасля якой напэўна ж будуць новыя, калі я буду ўсё бліжэй пазнаваць яе, з цёплай і сумнай зайздрасцю ўсё лепш разумець сябравы пачуцці, успамінаць яго расказы пра яе. Дарагое гэта адчуванне, высокі стан душы — павага да маці блізкага чалавека. А пра зайздрасць сказалася таму, што маёй ужо вельмі даўно не было. З маёй Дзіма пазнаёміўся не дома ў яе, не ў нашым Загоры, а ў мяне, у мінскай шчаслівай пасляваеннай беднасці.

У родны мой кут, як і ў Ветку, збіраліся мы таксама доўга. Толькі вясной семдзесят шостага года за-

дума тая здзейснілася, дый то не так, як нам хацелася: няхай сабе ў невялікім гурце сяброў і знаёмых, а ўсё ж не ўдвух, не так спакойна, ціха, інтымна, як меркавалася. З гасцямі нашага пісьменніцкага з'езда, на дзвюх машынах, быў зроблены круг на Мір, Навагрудак, Нясвіж; цвіў сонечны май, былі апяяныя Міцкевічам і Коласам краявіды, з чароўнай Свіцяззю ў запаведным лесе, з трыма гістарычнымі замкамі, у вясёлай кампаніі, аднак... Аднак мы з Дзімам прынялі гэта як уступ да таго, што яшчэ будзе...

Можна сказаць, што наша дружба дзеліцца на два перыяды: мінскі, першыя дзесяць гадоў, і потым, калі ён, закончыўшы Вышэйшыя літаратурныя курсы, пераехаў з сям'ёю ў Маскву, яшчэ дваццаць. З разлукай, што паказала нам — і чым далей, то ўсё жывей паказвала,— як мы патрэбны адзін аднаму; з нячастымі сустрэчамі, то ў Мінску, то ў Маскве, то «на нейтральнай лініі»; з даволі частай перапіскай, абменам кнігамі, міжгароднімі гутаркамі па тэлефоне.

«Нейтральная лінія» — гэта нашы сумесныя паездкі. Былі і людныя, у групах літаратараў, былі і толькі ўдвух, бывала і так, што ў шумным гурце мы знаходзілі час і месца пабыць адным, а то і разыходзіліся на часовую самоту.

Так было, напрыклад, у Спаскім-Лутавінаве, у тургенеўскім залаталістым, шапатліва сонечным парку, дзе мы разышліся, каб да шчаслівай стомы наблукаўшыся кожны па сабе, зноў сысціся на гутарку і дружнае маўчанне.

«Вельмі хацелася б пагаварыць з табой, паглядзець адзін аднаму ў вочы, проста нават памаўчаць разам...» — пісаў ён мне ў чэрвені шэсцьдзесят чацвёртага, перад прыездам у Мінск і нашай паездкай на Нарач. Такія жаданні выказваліся не раз, і рэдка калі гэта здавалася мне трохі сентыментальным, а цяпер — і зусім не здаецца. Як і тое, што ў Шклярава: «Фёдар, нам з табой нагаварыцца трэба, ой як трэба!..»

Дзіма быў лёгкі на пад'ём, вельмі любіў падарожнічаць.

Вось еду я ў Арол, на юбілей Тургенева. Цераз Маскву, а там свабодны дзень і вечар, які, вядома, у Кавалёвых. Багацце кніжнае на паліцах, на падаконні, паэтычны безлад рукапісаў на стале. Неўзабаве мы

зноў паспытаем любімага ў гэтым доме шампанскага, потым пачнецца культ чаю, які гаспадар заварвае сам. Пакуль што мы гутарым, мякка седзячы на канапе, а перад намі, на сцяне,— Рэпінава «Л. Н. Толстой на пашне», што мы абодва любім. Гаворым зноў пра многае і пра сваё. І раптам нібы здзіўляемся: а чаму ж гэта нам не пасхаць разам? Тут яго Антаніна Андрэеўна, можна сказаць, выбухае — таксама здзіўленнем і справядлівай злосцю: куды ты зноў са сваім дыябетам?! Ды ўсё вельмі хутка канчаецца смехам і згодай. Назаўтра мы ў купэ вагона, а там і Арол, з яго літаратурнай раскошай (апроч Тургенева — Фет, Ляскоў, Андрэеў, Бунін, Прышвін), там і паездка ў родныя мясціны Івана Сяргеевіча.

У нашых планах была і ўсё адкладалася Куршчына, Льгоў, Тоніны Ніжнія Дзеравенькі, куды яны, Кавалёвы, усё ездзілі, і ўлетку і зімой, адкуль выйшла многа Дзімавых вершаў, дзе пачалася яго дружба з Валянцінам Авечкіным. Думалі мы і пра Поўнач — пра ягоную, дзе ваяваў, і пра Якуцію, якую трохі ведаў...

Апошняй была ў нас Кубань.

Тры з палавінай гады пасля гэтай паездкі, гледзячы праз цьмянаватае вагоннае акно на панылы, прысмажаны новай зімой кубанскі трыснёг, я з болем і радасцю ўспомніў, як ён, гэты трыснёг, зялёна, высока, песенна ўзвышаўся над намі абапал вузкай вады. Мы ішлі на маторцы, стараючыся ісці як найцішэй, а ўсё ж перад намі, над сонечнымі плаўнямі, на фоне сакавітага блакіту, раз-поразу ўздымаліся ў нездаволеным, цяжкім палёце гарбатыя хітрункі чаплі і экзатычныя ненажэры пеліканы. У адпаведных мясцінах мы спыняліся, цягалі буйных акунёў і плотак, сабе на хлапечы ўздзіў, а матарысту на паблажлівую ўсмешку: новыя госці ў старым заказніку... Успомніў я, пад мерны перастук на рэйках, нашы позна-вячэрнія і ранім-раннія праходкі па азоўскім узбярэжжы, у Прыморска-Ахтарску, заліўныя прасторы рысавых палёў пад Краснадарам, бухту, горы і паркі Новарасійска, сціхотна гордую роўнядзь Малой зямлі...

А дома, у перадкастрычніцкай пошце, мяне чакала паштоўка, якая зноў нагадала нашу Кубань у Дзімавым апошнім маі...

У паштоўцы, пасля святочнага віншавання і па-

жаданняў, паведамлялася, што Танечцы заўтра споўніцца шэсць месяцаў, што малая ўжо добра сядзіць, ёсць два зубікі, а цяпер вось яна перашкаджае сваёй маме пісаць пра ўсе гэтыя незвычайныя справы.

«Незвычайныя» — слова маё. А хто ж тая мама?

Калісьці Танеччына прабабка, Ганна Кіпрыянаўна Гразнова, дваюрадная сястра Максіма Багдановіча, паведаміла мне з Горкага, што ўнучка яе, сямікласніца Наташа, піша вершы. «Можа, дай бог, Максімавы гены!..» — зазначала бабуля, відаць, не без ускоснага ўплыву Наташынай мамы, Таццяны Пятроўны, доктара медыцынскіх навук. Прысланыя сямікласніцай вершы наша «Зорька» надрукавала ахвотна, а ўсё ж аўтарка іх пайшла неўзабаве маміным следам.

У адзін з нашых краснадарскіх вечароў мы з Дзімам наведалі Гразновых. Ганны Кіпрыянаўны ўжо не было, а яе дачка і ўнучка пераехалі з Горкага сюды. Студэнтка краснадарскага медінстытута Наташа, бегучы ўранні на чарговы залік, завітала да нас у гасцініцу, развітацца. Яна ледзь не спазнілася, застала нас ужо на ганку, з чамаданамі, а мы, наадварот, выйсці з нумара паспяшаліся трохі, былі тут адны. Так звычайна і незвычайна гэта было — яна стаяла перад намі з раскошным букетам белага бэзу, сама такая ж чыстая, і так яшчэ свежа было навокал, і так ужо сонечна. Памятаеце ў «Вераніцы»:

> І прад высокаю красою,
> Увесь зачараваны ёй,
> Скланіўся я душой маёй,
> Натхнёнай, радаснай такою,
> А ў сэрцы хораша было,
> Там запалілася цяпло...

І Дзіма мой не вытрымаў, ледзь не праз слёзы спытаўся:

— Наташанька, можна мне вас пацалаваць?..

Яго сардэчная дабрыня і чуйнасць на ўсё прыгожае таму-сяму, хто менай ведаў Дзіму, маглі — я паўтараюся — здавацца сентыментальнасцю. Прызнаюся, і мне спачатку часамі так здавалася. Варта, аднак, згадаць і такое здарэнне. На адным высокім прыёме, у перапынку, я пазнаёміў Дзіму са значна старэйшай за Наташу, па-свойму сімпатычнай дзяўчынай, маёй знаёмай, з якой мы за сталом сядзелі побач. Ветліва па-

вітаўшыся з ёю, ён нават і мяне здзівіў сваёй рэзкай праўдзівасцю: «Выступаць з вашым тостам, мая дарагая, вам не трэба было, нават па службе. Ці ж вам вучыць пісьменнікаў, як ім пісаць?..» Такое цяпер часта называюць па-вучонаму — максімалізмам, а ён бываў такім не раз, пра што некаторыя потым доўга не забываліся... А як ён молада, як прагна, заразліва і разумна смяяўся! Па Дастаеўскаму: «Добра смяецца — добры чалавек». І смяяўся часамі таксама нягледзячы на асобы і акалічнасці.

Што ж да Наташы, дык тут, для поўнай яснасці, трэба сказаць, што ў той вечар, калі мы гасцявалі ў іх, яна мне цішком прызналася пра сваю дружбу, пашкадавала — Жэня яе ў ад'ездзе і я не пабачу яго, не ўведаю, які ён і праўда харошы. Вяртаючыся ад іх у гасцініцу, я Дзіме гэта расказаў. І яшчэ адно тут было: няхай сабе і не родная, а ўсё ж дзяўчына — унучка таго, каго мы і любілі кожны па сабе, і ўспаміналі часта. Два гады перад тым развітаннем з Наташай Дзіма пісаў мне і жонцы ў Ялту:

«Пакланіцеся там ад мяне Багдановічу».

Гэта было напісана не так сабе — пачуццяў ён і не саромеўся, і не выдумваў.

* * *

> Перед рубиновым огромным солнцем ранним
> песчано-дымные кряжи в бору...
> С тобой — ни забытья, ни умиранья.
> Все предвещания твои к добру.
> Русь,
> нареченная когда-то Белой,
> с Великой Русью ты слилась во мне,
> как две любви во ржи заголубелой
> с одною правдой в мире и в войне...

Так пісаў ён у шэсцьдзесят пятым годзе. У вершах яго такое, па-рознаму, але заўсёды шчыра, паўтараецца даволі часта. Возьмем яшчэ пра тое ж і з прозы. У Дзімавым ваенным дзённіку, які павінен дачакацца чытача, ёсць завяшчальны запіс, зроблены 19 лютага 1944 года, перад чарговым падводным паходам, з базы ў Палярным — да берагоў Нарвегіі.

«...Радзіма мая, родная Беларусь, Расія — вы адно, і мне неяк нават прыемна, калі падумаю, што маці ў

мяне руская, а бацька беларус. Мне прыемна, калі мяне называюць рускім, аднак калі мне скажуць штонебудзь дрэннае пра беларусаў, мяне гэта абурае і абражае, як асабіста мая крыўда. Як я хацеў пабачыць родныя палі, лугі і лясы, роднае неба! Так, а ўсё-такі ўсякае балбатанне пра патрыятызм агіднае — я заўважыў, што патрыёты ніколі не балбочуць пра патрыятызм.

Прасіў бы я маіх добразычліўцаў, *калі што*, адаслаць усе мае рэчы маме і грошы, што на кніжцы, а вершы ў беларускі Саюз пісьменнікаў.

У канцы маіх запісаў — паставіць *шматкроп'е*, на знак таго, што яны незакончаны».

Падкрэсленыя мною «калі што» і «шматкроп'е», па волі ласкавага лёсу, былі аднесены на трыццаць тры гады далей, і гэты час даў нам яго паэзію, натхнёна актыўную ў сваёй чалавечнасці, пранізаную святлом і цяплом руска-беларускай дружбы. Калі гаварыць пра яе канкрэтна-літаратурнае праяўленне не толькі ў Дзімавай творчасці, дык у сучаснай рускай паэзіі найпрыгажэй і найбліжэй для нашай душы падыходзяць, удзячна бачацца два слаўныя імені, два абаяльныя вобразы — Твардоўскі і Ісакоўскі. Аляксандр Трыфанавіч і пісаў пра гэта, і гаварыў, і асабістымі прыхільнасцямі засведчыў, а Міхаіл Васільевіч, да таго ж, яшчэ і многа, таленавіта пераклаў нашай паэзіі. Да іх заслужана далучаецца і Кавалёў, дарэчы, друг Ісакоўскага,— далучаецца і сваім арыгінальным словам і перакладамі. У выдавецтва «Мастацкая літаратура» нядаўна здадзена, на выхад у 1982 годзе, кніга Дзімавых вершаў, звязаных з Беларуссю, і яго перакладаў — ад Уладзіміра Жылкі і Аркадзя Куляшова да наймалодшых, Анатоля Грачанікава і Рыгора Семашкевіча, з асабліва сардэчным цэнтрам — спадчынай яго даваенных сяброў, што не вярнуліся з вайны: Леанід Гаўрылаў, Аляксей Коршак, Мікола Сурначоў.

Перакладаў ён і прозу. Мне прыемна ўспомніць пра сваё пасрэдніцтва ў справе перакладу Мележавага «Подыху навальніцы», апавяданняў Анатоля Кудраўца, Віктара Карамазава, Леаніда Калодзежнага, а пра тое ўжо, колькі ён зрабіў для мяне асабіста,— думаецца і з глыбокай удзячнасцю і са шчымлівым дакорам сумлення. Апошнім часам яму цяжка і часта нездаровіла-

ся, а ўсё ж адмаўляцца не ўмеў, не хацеў, а рабіць абы-як — не мог. Дакор і ўдзячнасць я дзялю часткова з Алесем Адамовічам і Уладзімірам Калеснікам: наша кніга «Я з вогненнай вёскі...» давалася яму найцяжэй. Ён і не пабачыў яе — свой сапраўдны перакладчыцкі подзвіг...

Перакладаючы, Дзіма быў і паэтам, з тонкім адчуваннем абедзвюх моў, сілы і меры патрэбнага, і вострым, уважлівым крытыкам. «Можа, я тут і не зусім маю рацыю, але не сказаць таго, што бачу, што адчуваю — не магу»,— пісаў ён аднойчы, прыслаўшы на аўтарызацыю чарговую порцыю перакладу, і, трэба сказаць, такая тактоўнасць і прынцыповасць сапраўднага літаратара паўтараліся ў пісьмах яго часта, а заўвагі нярэдка бывалі слушнымі, дзелавымі. Так было і з нашай калектыўнай кнігай, і, пачынаючы з шэсцьдзесят чацвёртага года, з маімі лірычнымі запісамі, апавяданнямі і «Ніжнімі Байдунамі».

«Я вельмі прагны на ўсё, што звязана з мовамі, рускай і беларускай,— пісаў ён у студзені семдзесят чацвёртага, калі працаваў над перакладам «Я з вогненнай вёскі...». І дадаваў з поўным правам любові і ведання: «Беларуска-рускі слоўнік вельмі бедны, ён капіруе дрэнныя рускія слоўнікі нашага часу, у якіх знойдзеш усё замежнае, не трэба і ў замежныя слоўнікі лезці, затое сваіх, народных слоў, нават самых звычайных, штодзенных,— няма, а калі і ёсць, дык абавязкова з папераджальнымі ды асцерагальнымі заўвагамі... Судзіце мяне, сябры, і сурова, але ж і літасціва, а што трэба передумаць — я заўсёды гатоў, абы на карысць нашай агульнай справе. Перад маці-літаратурай мы ўсе роўныя ў тым сэнсе, што ад усіх нас яна патрабуе поўнай аддачы самога сябе. І не заўсёды яна даецца — нават пры самай поўнай аддачы».

Трохі вышэй, у тым самым пісьме:

«Цяпер у мяне застаецца адзін, найбольшы раздзел, «Хатынь і Хатыні», 95 старонак. Дзён на дзесяць, калі добра (у арыгінале: *плотно*) працаваць. Думаю ў аўторак ехаць у Льгоў, дзе ў мяне таксама ёсць машынка. Што ж, прыйдзецца і там,— а там цішыня, дзякуй богу,— не адпачываць, пакуль не перакладзём, хоць я ўжо на апошняй грані. Тут, у гэтым растузван-

ні нерваў, бадай, не змагу закончыць. Тоня падчытвае, дый то хвалюецца, не менш за мяне, плача над многімі старонкамі. А я ўжо таксама здаю, не магу стрымаць слёз. Ці старасць гэта расслабіла, ці, можа...»

Так абарваны абзац. Я ведаю: гэта — пра ўздзеянне таго, што расказваюць людзі беларускіх Хатыняў; а ведаю таму, што і Дзіма мне гаварыў пра гэта, і таму яшчэ, што жыва памятаю хваляванне наша, аўтараў, збіральнікаў, калі мы слухалі такое непасрэдна.

Значна пазней мы даведаліся, што ў адзін з тых напружаных дзён Дзіма самлеў на вуліцы, быў падабраны «хуткай дапамогай»...

* * *

Даўно і неаднойчы сказана, што кожны пісьменнік, якія ён ні ствараў бы эпапеі, паэмы, драмы, апавяданні, вершы,— усё жыццё піша адну-адзіную кнігу, у якой гаворыць чытачу сваё, толькі сваё запаветнае слова. Слова Талстога, Байрана, Гётэ, Міцкевіча, Шаўчэнкі, Купалы... Зрэшты, слова не толькі геніяў, не толькі тых, каго і пры жыцці і потым называюць і лічаць вялікімі, выдатнымі, вядомымі... Любой сілы талент мае права на сваё слова, абавязаны, паклікаць сказаць яго, наяўнасцю гэтага слова — толькі аднаму яму належнага — акрэсліваецца значэнне кожнага сапраўднага пісьменніка.

У вялікім хоры рускай савецкай паэзіі слова Дзмітрыя Кавалёва чуваць — яно ў яго *сваё*, яно ўражае шчырасцю, глыбінёю думкі, некрыклівай і непадкупнай грамадзянскасцю, добраю мовай, часамі блізкай да народнай, песеннай. Паасобныя вершы паэта, чытаючы іх вачыма, раптам, бывае, захочацца прачытаць самому сабе ўголас — з тым самым адчуваннем, з якім мы спяваем любімыя песні толькі сабе, у адзіноце. Суровая і трывожная памяць салдата. Памяць добрага сына. Краса прыроды, якую ён і ў сталасці бачыў ледзь не дзіцячымі па чысціні вачыма. Высокае хваляванне любові. Пачуцці бацькі і мужа. Пачуццё дружбы — мужчынскай, бескарыслівай, вернай. І вечны клопат пра Радзіму, пра сілу і чысціню нашага ладу.

Раскрыўся ён не адразу, мацнеў ад кнігі да кнігі.

У спадчыне яго засталіся вершы і паэтычныя накіды, часткова ўжо апублікаваныя пасмяротна; летась выйшла кніга «Наедине с жизнью», няпоўны падбор разваг пра паэзію і любімых паэтаў, рускіх і беларускіх; ляжаць пакуль што ў рукапісах і артыкулы і ярка напісаны нататкі «О моей жизни», і дзённікі за шмат гадоў...

Гаворачы пра паэта, звычайна цытуюць яго вершы. А мне тут хочацца працытаваць і сёе-тое з яго прозы, тым больш што гэта з невядомага. Некалькі паасобных запісаў з ваенных дзён:

«Я нёс яе сонную, гэты мой скарб, смуглявую, гнуткую, трапяткую дзяўчыну. Нёс па дрыгве, па росных кветках, нёс асцярожна, каб не прачнулася. Мне было так лёгка, як быццам я на крылах ляцеў з Сібіры ў сваю бедную хату да несамавіта старэнькай матулі, у марнае ды цяжкае жыццё.

А як прачнуўся, дык мне сказалі, што каля самага борта нашай падлодкі прайшла міна. Яе заўважылі тады, калі яна дайшла ўжо да рубкі.

Сакрэт абыякавасці чытача да сённяшняй газетнай паэзіі ў тым, што паэты гавораць у вершах не пра тое, як на вайне стукае сэрца салдата, а пра тое, як стукае кулямёт.

Часамі да мяне ў паўсне, упершыню ў нейкім здранцвенні прыходзяць кашмарныя думкі: як гэта, ніяк не магу зразумець, уся культура, усе дасягненні навукі і мастацтва накіраваны на тое, каб забіваць...

Асабліва ўражвалі такія думкі ў пачатку вайны.

Апаэтызаваць звычайнае — вось у чым сэнс творчасці. І чым болей будзённае тое, што ты паказваеш, тым болей розуму і таленту трэба для належнага паказу.

Ноч была яркая і ўрачыстая. Снег не рыпеў, а звінеў пад чаравікамі. А ў душы было так свежа, як у садах Беларусі. Калі пасля спёкі ў лістоце прашуміць навальнічны дождж.

Кажуць: сам ад сябе не ўцячэш. А я ўсё баюся, каб як не ўцячы ад самога сябе, бо цяжка ў наш час, у нашых абставінах быць самім сабою і так лёгка стаць нікім, без свайго вобліку, без характару — як усе і як ніхто.

Я не веру, што ёсць людзі без слабасцей (гэта былі б манекены), аднак нецярпіма быць на повадзе ў гэтых слабасцей, таптаць сваю прыгожую чалавечую гордасць, сваю годнасць.

Ёсць жа стварэнні: дай яму ўдосталь нажэрціся — і ён, нават нічога не робячы, ніколі не пашкадуе, што нарадзіўся на свет.

Любіць сваю мару — не цяжка, а вось любіць чалавека, які ён ёсць,— справа іншая.

Навокал на чыгунна-ржавых схілах сопак бялеюць і растаюць шкілеты снегавых сумётаў. І разам з імі растае мая дзіўная абыякавасць і выспявае ў душы жаданне назіраць і запісваць.

Поўны месяц, аббрэханы вясковымі сабакамі і недаступна спакойны, зіхотны, ідзе ўздоўж сяла за агародамі, ярка асвятляючы знаёмую, непазнавальную, мокрую ад расы зямлю.

Спі, матрос, старайся добранька адпачыць, а пакрытая мохам страха прагніла, правалілася. І на зіму яшчэ не прызапашаны дровы...»

Гэта ўсё толькі запісы *для самога сябе*, амаль праз сорак год расшыфраваныя са сшыткаў, густа запоўненых цяжкім для прачытання почыркам. Знаёмячыся з імі, ужо расшыфраванымі,— каля трохсот старонак машынапісу,— я з новай жывасцю ўбачыў Дзіму тых пасляваенных дзён, калі мы з ім убачыліся ўпершыню, і нейк дзіўна пашкадаваў, што я тады не ведаў гэтых запісаў, не ведаў, што адчуваў, што думаў гэты маленькі у дні вайны, з якім запасам перажытага ён з яе выйшаў. Аднак і не ведаючы гэтага поўнасцю, без яго дзённіка, толькі па вершах, па чалавечай шчырасці, амаль зусім не абмежаванай асцярожнасцю ды ўмоўнасцямі таго часу, я адчуваў, прадчуваў у ім родную душу, і добра думаць цяпер — праз трыццаць пяць гадоў, праз боль і сум апошняй разлукі,— што ў прадчуванні я не ашукаўся.

Нямала творчых задум і Дзіма не здзейсніў — усё тое, што ўжо ніхто за яго не зробіць.

На адной з маіх кніжных паліц стаяць усе яго зборнікі, цэлая паэтычная бібліятэчка. Яна мне часта бачыцца адной кнігай, кнігай яго жыцця, у якую я для сябе ўключаю і тое, што ведаю па яго рукапісах, па пісьмах да мяне, больш таго — уключаю і тыя сяброўскія ды сямейныя святы паэзіі, якіх у нас было нямала.

У адрозненне ад бацькі — паэта і маці — спачатку настаўніцы літаратуры, а потым бацькавай памочніцы, абодва сыны Кавалёвых, Жэня і Міша, па ўласным выбары не філолагі, інжынер-механік і матэматык. Аднак у сям'і гэтай паэзію любілі і любяць усе. Мне асабліва помніцца адзін, здаецца, зімовы вечар, калі мы слухалі з магнітафона любімыя вершы кожнага з іх, пажылых бацькоў і дарослых дзяцей,— цэлая, сказаў бы, сямейная гукавая анталогія паэзіі. Хораша гэта — у слуханні пераходзіць ад голасу да голасу, адпаведна глядзець спадцішка на таго, чый голас цяпер гучыць сам па сабе, адлучаны тэхнікай ад асобы, цяпер маўклівай, задуманай ці трохі нават у пэўнай няёмкасці.

Сваяцкай расчуленасці татавымі вершамі я ніколі ў іх хаце не заўважаў. Недзе ў падтэксце або маўчання, або і ў злёгку іранічнай, дабрадушнай крытыцы зайздросна адчувалася сталая дружба найбліжэйшых,

павага да бацькавай працы, да яго служэння справе, у пэўнай меры блізкай ім усім, хоць кожнаму і па-свойму. Так бывала тады, калі Дзіма чытаў свае новыя вершы. Мне чытаў, бо ўсе іншыя іх ужо ведалі.

Памятаю не больш двух-трох выпадкаў, калі ён не праводзіў мяне да самага вагона. А перад гэтым кожны раз, амаль заўсёды някоратка, мы хадзілі па доўгім крытым пероне Беларускага вакзала, вельмі часта паўзы маўчання на змену парушаючы вершамі — чым-небудзь і найбольш любімага, што памятаецца без завучвання, то цалкам, то фрагментамі, як і любімая музыка.

Якраз апошняе наша пероннае развітанне не адбылося: у чэрвені семдзесят шостага года, калі мы, мінчане, вярталіся з Усесаюзнага пісьменніцкага з'езда, Дзіма не спраўдзіў абяцанага мне, не прыйшоў. Пасля, у пісьме, прызнаўся, што проста прылёг адпачыць і заспаў. Што ж, драбніца, бывае, паспеем яшчэ направодзіцца — падумалася з усмешкай...

У Парыжы я быў на Пер-Лашэз, у Варшаве мне паказвалі Павонзкі, у Львове — Лычакоўскія могілкі, у Ленінградзе — некропаль Аляксандра-Неўскай лаўры... Усюды, і ў гэтых і ў іншых месцах вечнага супакаення, было перад кім, перад чыёю светлай памяццю схіліць галаву, задумацца пра галоўнае. Аднак жа могілак я... ну, не вельмі люблю. Як быццам з дзяцінства застаўся ў душы непераможна дзікаваты малечы страх, панесены ў жыццё з нашых запушчаных вясковых «могліцаў», са сціхотным на змярканні пугачовым рогатам у старэнькай драўлянай капліцы, з забабонным прастарэканнем пра той жахлівы «імпат», што ўстае апоўначы над свежымі магіламі, нібы нябожчыкі ў белых доўгіх кашулях...

А Дзіма могілкі любіў, ахвотна наведваў там некаторыя помнікі.

Асвяжаючы ў памяці нашы сустрэчы, спыняюся на запісе ў блакноце за сакавік семдзесят чацвёртага года: «Мілы Дзіма, з кім мы пойдзем сёння да Чэхава і Твардоўскага і да іншых, што таксама жывуць». Тады ідзе пра іншае, а потым зноў: «Былі пад вечар на Навадзевічых. Зябка было пасля яснага і сухога дня,— зябка і сумна ад такога мноства *былых*, няхай сабе і вялікіх...»

А ён, у новы мой прыезд, зноў прапануе — цяпер па-суседству з ягоным домам на Бегавой — схадзіць, не першы раз, на Ваганькаўскія.

З тых наведванняў успамінаецца наша раўніва балючае раздражненне ад мадэрнізаванага хамства каля непомніка гордасці рускай паэзіі — Ясеніну, помніка небагатага, знізу аблітага «чарнілам», танным чырвоным віном некаторых «энтузіястаў»: «Сережа, тебе!..» Помняцца хораша, хвалюючы сціплыя помнікі Далю, Мерзлякову, Саўрасаву, імёны якіх удзячна выклікалі ў памяці то бездань народнай мудрасці слова ў чатырох неўміручых тамах, то адну з найбольш любімых песень — «Среди долины ровныя», то вечна светлую ўсмешку вясны — карціну «Грачи прилетели».

І ніколі, вядома ж, нават і блізка не ўзыходзіла на думку, што я прыйду сюды без нястомнага Дзімы — прыйду да яго...

Хварэў ён доўга, больш за ўсё на нагах, на хаду, і дома, і ў дарозе. У семдзесят другім годзе я наведаў яго ў сумных нетрах маскоўскай Градскай бальніцы. Калі ж ён злёг апошні раз, я таксама хварэў, то ў бальніцы, то дома. На апошняе развітанне паехаць не змог. І толькі ў канцы семдзесят сёмага прыйшоў на Ваганькава.

У металічным, то ржавым, то пафарбаваным частаколлі старых і навейшых аград Тоня падвяла нас, мяне і жонку, да яго магілы. Успомнілася з яе пісьма, што ён хацеў бы легчы ў Ветцы, але дзе там ёй было справіцца з гэтым у прадвясняную непагадзь. На першы снежаньскі снег мы паклалі жывыя кветкі, і я глыбока ў душы задрыжаў, што ім — забалела. Часовая, нізка асаджаная ў галавах магілы металічная таблічка з надпісам — і пра яго! — да палавіны хавалася ў снезе...

Неўзабаве, у яго асірацелым рабочым пакоі, мы гарталі свежыя старонкі кнігі «Мечты і память», падрыхтаванай ім самім, з аўтографам — ужо не ягоным. У кароткай прадмове я прачытаў, вельмі здалёк і ўсё яшчэ зблізку пачуў яго глухавата сардэчны голас:

«Чаму бывае так неспакойна, што сілы адышлі, а ненатоленасць засталася, як неаплочаны доўг перад табой, дарагі мой чытач...»

Зноў нагадалася балюча і шчасліва незабыўнае.

Я гляджу на перон праз акно вагона, які вось-вось кранецца і пойдзе ў доўгую глухую ноч, а Дзіма стаіць на пероне, і ён не думае, што мне відно, як з-пад яго прасцецкай кепкі па худой шчацэ паўзе... мая сляза...

Паўтарылася і жаданне, каб нашы хлопцы дружылі, яго малодшы, а мой адзіны. Пра гэта мы, два бацькі, таксама неяк гаварылі.

*1980*

# ЗМЕСТ


## СВЕТ ДАЛЁКІ І БЛІЗКІ

Польскі дзённік . . . . . . . . . . . . . . 7
На тым баку планеты . . . . . . . . . . . 80
Душа — не падарожніца . . . . . . . . . . 96
Рэха заўсёды са мной . . . . . . . . . . . 148

## ПРА ЗАПАВЕТНАЕ

Двойчы пра тое самае . . . . . . . . . . . 173
    Проста ўдзячнасць . . . . . . . . . 173
    Хоць бы самым маленькім . . . . . . 178
Крытык павінен быць другам . . . . . . . . 184
Вечна жывы . . . . . . . . . . . . . . . . 190
Слова пра дружбу . . . . . . . . . . . . . 192
    ...З кнігай . . . . . . . . . . . . . 192
    ...З прыродай . . . . . . . . . . . . 194
    ...З працай . . . . . . . . . . . . . 196
Памяці Валянціна Таўлая . . . . . . . . . 199
Родны кут . . . . . . . . . . . . . . . . 204
Прэтэнзіі да спажыўца . . . . . . . . . . 214
Проза 1959 года . . . . . . . . . . . . . 218
З чужой падваротні . . . . . . . . . . . . 236
Запаветная песня . . . . . . . . . . . . . 240
Думы ў дарозе . . . . . . . . . . . . . . 245
Пасля першых старонак . . . . . . . . . . 262
Разумна, сардэчна, весела . . . . . . . . 265
Ранне і вечар . . . . . . . . . . . . . . 269
З ім добра . . . . . . . . . . . . . . . . 271
З юбілейнай трыбуны . . . . . . . . . . . 273
Непарадны агляд . . . . . . . . . . . . . 275
Не вельмі многа . . . . . . . . . . . . . 290
Крыху зацягнуты тост . . . . . . . . . . . 292
Яшчэ адно слова прызнання . . . . . . . . 296
Заўвагі на палях . . . . . . . . . . . . . 300
Я не самотны . . . . . . . . . . . . . . . 303
Быць чалавекам . . . . . . . . . . . . . . 305
Сосны і сонца . . . . . . . . . . . . . . 311

Перш за ўсё . . . . . . . . . . . . . . 314
Зусім упэўнена . . . . . . . . . . . . 316
З добрай, сумнай усмешкай . . . . . . . . 318
Як птушка для палёту . . . . . . . . . . 322
Слава . . . . . . . . . . . . . . . . 326
Цана солі . . . . . . . . . . . . . . 328
Успамін . . . . . . . . . . . . . . . 330
Жыццё і літаратура . . . . . . . . . . 334
Пра здзіўленне і зайздрасць . . . . . . . 360
На тры пытанні . . . . . . . . . . . . 370
З новай сілай . . . . . . . . . . . . 373
Па падрадкоўніках і без іх . . . . . . . . 375
Добра так . . . . . . . . . . . . . . 380
Гледзячы ў чыстыя вочы . . . . . . . . 384
Герой і «пункцірны» персанаж . . . . . . . 393
Першы прыпынак . . . . . . . . . . . 397
Ааду Хінт. «Апошні пірат» . . . . . . . . 401
Паэт і чалавек . . . . . . . . . . . . 404
Чытаючы апавяданні Чорнага . . . . . . . 409
Ад магілы Чачота * . . . . . . . . . . . 419
Культура і душа * . . . . . . . . . . . 425
Радасць жыцця * . . . . . . . . . . . 428
Пісьмо ў рэдакцыю * . . . . . . . . . . 431
Недзе на Вінні́чыне * . . . . . . . . . . 434
Шчаслівай дарогі * . . . . . . . . . . 439
На раздарожжы * . . . . . . . . . . . 443
Працаваць, сумаваць, смяяцца * . . . . . . 446
Алесь Адамовіч * . . . . . . . . . . . 458
Тая сустрэча * . . . . . . . . . . . . 474
«Ён — строгі да праўды» * . . . . . . . . 478
Цікавая, добрая проза * . . . . . . . . . 483
«А я — на Палессе...» * . . . . . . . . . 487
Хоць і не ўсё... * . . . . . . . . . . . 491
Выў і застаўся * . . . . . . . . . . . 502
А думаў я... * . . . . . . . . . . . . 520

Брыль Я.

Б 89 Збор твораў. У 5-ці т. Т. 4. Свет далёкі і блізкі: Дарожныя нататкі; Пра запаветнае: Артыкулы, эсэ, партрэты.— Мн.: Маст. літ., 1981.— 541 с., 4 л. іл.

У пер.: 2 р.

Чацвёрты том складаюць дарожныя нататкі, артыкулы, эсэ, партрэты.

Б $\frac{70303-100}{М 302(05)-81}$ падпіснoе

ББК 84 Бел 7

Бел 2

*Иван Антонович Брыль*
*Собрание сочинений в пяти томах*
ТОМ ЧЕТВЕРТЫЙ
Мир далекий и близкий
Путевые заметки

О заветном
Статьи, эссе, портреты

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар А. А. Сляпцова. Мастак Л. Я. Прагін. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічныя рэдактары М. Ц. Папкова, Л. М. Шлапо. Карэктар А. Т. Глушчанка.

ІБ № 937

Здадзена ў набор 12.09.80. Падп. да друку 23.06.81. АТ 06181. Фармат 84×108$^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 28,56+0,42 укл. Ул.-выд. арк. 27,04. Тыраж 13 000 экз. Зак. 978. Цана 2 р.
Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.
Паліграфкамбінат імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.